**Васіль Быкаў**

# *Поўны збор твораў*

## Том 10. Кніга 1

## *Артыкулы, эсэ, прадмовы, інтэрв’ю, гутаркі, аўтабіяграфіі, выступленні (1957–1980)*

# Маладыя гады:
# аўтабіяграфічныя дыялогі з Алесем Адамовічам

*Маладыя гады, маладыя жаданні...*
**Максім Багдановіч**

Гэтыя гутаркі пад магнітафон адбываліся даўно, з таго часу шмат што змянілася ў свеце, у тым ліку і ў асабістых лёсах двух суразмоўцаў. Памёр незабыўны Алесь Адамовіч, апынуўся на чужыне Васіль Быкаў. Я не думаў друкаваць усё тое, нават забыўся на яго, але... Калі ўжо яно выйшла ў «Полымі» (нумары 5–6, 2001 г.), дык мусіў вярнуцца да знаёмага тэксту і што-нішто паправіць, удакладніць — галоўным чынам у стылі апавядальніка. Апроч таго, некаторыя мясціны пашырыць і патлумачыць. Пытанні Алеся Адамовіча засталіся некранутыя, бо гэтыя пытанні, на мой пагляд, нясуць у сабе няменшы сэнс, чым адказы на іх. Яны — частка духоўнага свету Алеся Адамовіча, мастака, няўрымслівага дзейніка дэмакратычнай культуры XX ст.

Тэкст зняты з магнітафона і падрыхтаваны да друку Верай Сямёнаўнай Адамовіч, і я ўдзячны ёй за яе немалы клопат.

***Васіль Быкаў***, *жнівень 2001, Франкфурт-М.*

*Алесь Адамовіч:* Раскажы, калі ласка, пра сваё дзяцінства, сям’ю.

*Васіль Быкаў:* Думаеш, гэта вельмі прыемна — успамінаць мінулае? Прыемна ўспамінаць добрае. Я ўжо згадваў некалі: Твардоўскі казаў, што ён не любіць успамінаць сваё юнацтва...

***А. А.:*** Твардоўскі не любіў успамінаць юнацтва, а ты — дзяцінства? Мабыць, ты ў гэткім выпадку рэдкі чалавек.

***В. Б.:*** Ну, ведаеш, такое было дзяцінства. Што ж ты хочаш? Такі быў час...

***А. А.:*** Калі ты ўпершыню сябе помніш? З якой хвіліны?

***В. Б.:*** Я пачаў сябе помніць, відаць, позна, можа, гадоў з пяці. Мае самыя першыя ўражанні аб свеце звязаныя з возерам. Возера было там у нас недалёка, але ўсё-такі на чужым полі.

***А. А.:*** Што значыць — на чужым полі?

***В. Б.:*** Гэта значыць, не на тэрыторыі нашай вясковай абшчыны.

***А. А.:*** Як называлася ваша абшчына?

***В. Б.:*** Вёска Бычкі, Ушацкага раёна. Вось там трэба было прайсці поле, потым яшчэ суседнюю вёску Саўчонкі, і на яе землях мясцілася гэтае возера. У мяне быў сябра Валодзя Галавач, старэйшы за мяне на тры ці чатыры гады… Сталася так, што равеснікаў у мяне не было, а былі толькі равесніцы, хлопцы ж усе былі старэй за мяне на гады два-чатыры. І вось аднойчы Валодзя кажа: пойдзем на возера. Для мяне, канешне, гэта было дужа цікава, але ж далёка, можа, кіламетры два…

***А. А.:*** Так, можна ўбачыць цэлы свет.

***В. Б.:*** Для пяцігадовага сапраўды цэлы свет. Прычым усё самавольна, без дазволу бацькоў. І вось мы пайшлі. Трэба было прайсці поле, ільняную ніву, пералезці цераз аўражыну, узлезці на гару, а ўжо з яе ўбачыць нарэшце возера. Возера лясное, унізе ляжыць той бераг — таксама гарысты, круты, парослы ельнікам ды дубамі; а на гэтым беразе — драбналессе. Перад самым возерам такі спрытны беражок з пясчанай водмеллю, а збоч вялізная крутая гара з дубамі, казалі, там некалі было паганскае капішча. І вось я ўпершыню ўбачыў гэткі цуд, надвор'е было ціхае, летняе, дык там той бераг вісіць уніз галавой — і елкі, і дубы. Усё тое захапляла. Самае паэтычнае ў маім дзяцінстве звязана менавіта з тым возерам. Пасля там купаліся, вудзілі рыбу, лавілі ракаў — тыя яшчэ там вадзіліся. Калі трохі падрос, памятаю, хадзілі ноччу са смаляком. Смаляк запаліш…

***А. А.:*** А яны выпаўзаюць…

***В. Б.:*** А яны выпаўзаюць, нават страшнавата робіцца. А то засунеш руку ў падмытае карнявішча на беразе, а ён — за палец і цягнеш яго. Трохі далей у балоцістым беражку жылі бабры, ладзілі сабе хаткі, і часам можна было бачыць (асабліва ўвечары), як яны плывуць, што-небудзь цягнуць да свайго жытла. Ну вось, гэта адно возера…

(Цікава будзе зазначыць, што за час, які мінуўся з моманту маіх першых уражанняў ад возера, шмат што — калі не ўсё — у наваколлі змянілася. Не стала прыазёрных вёсак, пабурыліся ў вайну, ды так і не аднавіліся мястэчкі, паадыходзілі ў іншы свет людзі. А возера ніколькі не змянілася. Усё той жа бераг, тыя ж яго абрысы, водмель і лапіклы трыснёгу побач. І нават тры старыя алешыны на беразе як раслі на пачатку мінулага стагоддзя, так растуць і цяпер. І той бераг такі ж круты і лясісты, недаступны ні зімой, ні улетку. Сапраўды, неўміручае і нават нязменнае наша мілае азярко, якое я буду любіць да скону дзён.)

***А. А.:*** Быў дваццаць дзявяты год, калі лічыць…

***В. Б.:*** Так, прыкладна так. Ва ўсякім разе, яшчэ да калгасаў.

І зноў жа іншае ўражанне таксама ад возера, але ад іншага.

Яшчэ там трохі далей праходзіць дарога з Кубліч, мястэчка, да якога кіламетры тры.

***А. А.:*** Прабач, дык у вас азёры, мабыць, нейк называлі — лясное, такое, такое. У нас, як казалі, што ідуць на рэчку, дык гэта проста рэчка, у горад — гэта Бабруйск, горад без усякай назвы. А ў вас назвы…

***В. Б.:*** Возера, пра якое кажу, называецца Белякоўскае — па назову бліжняй, дарэчы, уцалелай за вайну вёскі. Але гістарычны назоў ягоны — Гарадзень, паводле памянёнага мной капішча. А другое, пра якое я зараз раскажу, — Камароўскае. Вялікае, з астраўком і побач, бы спарыш, меншае. А паміж імі па мастку праходзіць дарога. І вось памятаю, гэта таксама яшчэ ў дваццатыя гады, калі аднаасобна жылі, прыйшло нейкае свята, магчыма, Сёмуха, паехалі мы сям’ёй у Стайкі на нейкае набажэнства. Казалі, архірэй прыехаў. І вось ехалі з Кубліч па гэтай дарозе, а з гары конь панёс, і мне, малому, здалося, што якраз той кіруе ў самае возера. Дужа спалохаўся. А возера таксама прыгожае, на астраўку менскія археолагі раскапалі стаянку неалітычнага чалавека…

***А. А.:*** А можа, пра сям’ю раскажаш?

***В. Б.:*** Зараз…Трэба б чагось выпіць, прамачыць горла.

***А. А.:*** Прамачыў? Каб дакладна. Бацька, маці, браты, сёстры… А можа, дзед і бабка?

***В. Б.:*** Дзед і бабка?

***А. А.:*** Што, не памятаеш?

***В. Б.:*** Няшмат, але што памятаю. Так, адзін дзед быў патомны рыбак, усё жыццё лавіў рыбу. Тую справу перадаў сыну, брату маёй маці Лявону, які таксама лавіў рыбу. Другі дзед быў селянін-адыходнік, сезонна рабіў на прамысловых прадпрыемствах у Курляндыі, там жа пад канец жыцця выбіўся ва ўпраўляючыя цагельнага завода. Баба жыла ў вёсцы, але рана памерла, вялікіх уражанняў па сабе не пакінула. Бацькі ў мяне…

***А. А.:*** Усё назаві. Імя бацькі, імя па бацьку.

***В. Б.:*** Уладзімір Хведаравіч. Гэта, можа быць, самае нешчаслівае пакаленне, як я цяпер разумею, якое за ўсё сваё жыццё шчасця не знала. Адно бязладдзе, рэвалюцыі, войны. Ды калектывізацыя. Ды барацьба з ворагамі народа… Голад, кроў і пакуты.

***А. А.:*** Бацька патомны селянін?

***В. Б.:*** Так, селянін, але таксама хадзіў на сезонныя заробкі ў Латвію.

***А. А.:*** Зямлі было мала?

***В. Б.:*** Зямлі было мала, казалі тады — два надзелы. У маладосці бацька служыў чатыры гады ў царскай арміі, у Гародні, дарэчы, дзе пасля і мне давялося жыць. Толькі прыйшоў са службы, пачалася Першая сусветная вайна, быў змабілізаваны ў самсонаўскую армію, недзе ў Аўгустоўскіх лясах трапіў у палон і апынуўся ў Нямеччыне. Працаваў у баўэра. У палоне, казалі, было па-рознаму, як дзе і каму. На заводах і ў шахтах дык дужа кепска, а ў прыватных гаспадароў дык, здаралася, і нішто. Канешне, трэба было рабіць, але немцы кармілі, апраналі, неяк клапаціліся аб працаўніках, не тое, што пасля на радзіме, у калгасах. Бацька пасля часта ўспамінаў свой палон добрым словам, што у мяне, вечна галоднага падлетка, выклікала непаразуменне і зайздрасць. Зразумеў надта пасля. Ну, і яшчэ бацька быў на Грамадзянскай вайне, наступаў на Варшаву. А маці паходзіла з вёскі, якая апынулася па той бок мяжы.

***А. А.:*** Засталася пад Польшчай?

***В. Б.:*** Засталася пад Польшчай. Там праз паўтара кіламетра ад мяжы яе родная вёска Завулак…

***А. А.:*** Маму тваю як звалі?

***В. Б.:*** Ганна Рыгораўна. За мяжой застаўся яе брат, той, што лавіў рыбу, яна ўвесь час па ім гаравала, як агітатары распавядалі, што працоўныя ў Польшчы гібеюць без правоў і без хлеба. Для нас, дзяцей, гэта таксама была нейкая драма, спасцігнутая ў надта раннім узросце. Я быў старэйшы. Праўда, была яшчэ старэйшая за мяне сястра Антуніна, але яна памерла ў пятнаццаць гадоў… Пасля мяне нарадзілася сястра Валя, а ў 30-м годзе — брат Мікола (памёр у 2000 г.).

Ну, калі яшчэ казаць пра бацькоў… Бацька быў даволі строгі да нас, дзяцей, увогуле мы яго пабойваліся. Маці ж наадварот — дужа мяккая і жаллівая, я ніколі не чуў ад яе гучнага слова — усё з ласкай і дабрасцю. І я лічу, што гэта кепска.

***А. А.:*** Чаму?

***В. Б.:*** Ну, ведаеш, жыццё ўсё ж бязлітасная штука, і да яго патрэбна загартавацца характарам. Я ж засвоіў ад маці занадта мяккага, што мне пасля і перашкаджала — на вайне і пасля вайны. Асабліва ў арміі, дзе найперш цэніцца звераватасць характару. Мабыць, трэба яшчэ зазначыць, што вёска наша была за якіх-небудзь два кіламетры ад мяжы з Польшчай. Канешне, гэтая абставіна накладвала свой адбітак на шмат што — побыт, палітыку, самаадчуванне людзей.

***А. А.:*** Вы лавілі шпіёнаў і вас лавілі як шпіёнаў?

***В. Б.:*** Так. Абсалютна правільна. Вельмі часта, дарэчы. І ў мяне шмат рамантычнага па маладосці, а таксама драматычнага звязана з мяжой. У Кублічах побач са школай была пагранічная камендатура. А каля нашага школьнага двара — канюшня і цір ці стрэльбішча, дзе пагранічнае начальства страляла з рэвальвераў. Апроч таго… Круціцца?

***А. А.:*** Гавары, гавары…

***В. Б.:*** Апроч таго, па дарозе ў школу і са школы можна было бачыць памежнікаў, якія ўсё кудысь ехалі — конна, групамі па два, з вінтоўкамі і шашкамі, у прыгожых скрыпучых сёдлах. Камандзіры жылі ў мястэчку.

***А. А.:*** З сем'ямі ці?..

***В. Б.:*** З сем'ямі, канешне. Далей, памежнікі часам паказвалі кіно — у мястэчку і ў вёсках, ну як бы шэфы. На нейкае свята на местачковай плошчы наладжвалі, памятаю, джыгітоўку на конях, шашкамі seклі лазу. Усё тое было цікава. А ўлетку купалі коней на Камароўскім возеры, мы памагалі. Не абыходзілася, канешне, без сумных падзей. Часам, памятаю, неяк узімку прымчалася пагранічнае начальства і ўсіх мужыкоў выгналі ў засады — пільнаваць парушальнікаў мяжы.

***А. А.:*** А ўзбройвалі мужыкоў ці не?

***В. Б.:*** Не, проста яны сядзелі ў кустоўі і падавалі сігнал, калі заўважаць каго. У канцы 20–х — пачатку 30-х з Польшчы па гэты бок ішло нямала народу, у асноўным моладзь. Як цяпер разумею, пасля разгрому кампартыі і камсамола, хлопцы ішлі вясёлыя, нават з гармонікамі — як жа, яны вырваліся з-пад панскага гнёту ў новы свет.

***А. А.:*** У новы свет?

***В. Б.:*** Так ім здавалася. Мы бачылі, як іх вядуць ранкам з застаў у камендатуру, і яны пасміхаліся. А пасля, як ужо мы ішлі са школы, іх на аўтамашынах везлі далей, і рукі іх былі закладзены назад ці, можа, звязаныя, яны не пасміхаліся. Аднойчы на мяжы нехта забіў пагранічніка, і яго хавалі ўсім раёнам на кірмашовай плошчы ў Кублічах. (Як цяпер разумею, забілі таго не абавязкова палякі ці парушальнікі, а зусім магчыма пасля разгрому кампартыі і камсамола свае ў мэтах прафілактыкі, як гэта яны здаўна рабілі ў нас.) Усё тое афарбоўвала маё дзяцінства ў часам ненатуральныя, звыродлівыя колеры. Асабліва, калі мець на ўвазе некаторыя наступныя падзеі… Школа ў вёсцы арганізавалася на мяжы 30-х гадоў, гэта была пачатковая школка ў сялянскай хаце.

Хата тая і дасюль стаіць, пасля вайны ў ёй жыў мой брат Мікола. А тады гаспадары проста перасяліліся ў трысцен, а большы пакой аддалі пад школу. Там паставілі два даўгія сталы і сабралі чалавек пятнаццаць…

***А. А.:*** Падшыванцаў?

***В. Б.:*** Ну, якія падшыванцы, драбната. Настаўнікам быў Антон Васільевіч Аўласенка з вёскі Дарошкавічы. (Дарэчы, ягоная дачка жыве ў Менску, замужам за старэйшым Машэравым.) Я ўжо казаў, што ўсе мае сябры былі старэйшыя за мяне і пайшлі ў школу раней, а мне толькі шэсць год. Сяджу адзін дома. А ў школе штосьць адбываецца цікавае, і я таксама хачу туды. Тады аднойчы бацька ўзяў мяне за руку і павёў да настаўніка. Пагаварыў там з ім, і Антон Васільевіч кажа: хай ходзіць. Даў мне сшытак, пяро, а Валодзя Галавач, якога я ўжо згадваў, павёў на замерзлае балота, акуратна зрэзаў ножыкам чарацінку, уставіў туды пяро…

***А. А.:*** Зрабіў ручку.

***В. Б.:*** Так. І пачаў я вучыцца. Відаць, да гэтага часу, а можа, трошкі раней і адносіцца маё знаёмства з мастацкай літаратурай.

***А. А.:*** Пачакай, ты згадваеш Валодзю Галавача, але ты пра яго не гаварыў да гэтага.

***В. Б.:*** Ён мяне на возера вадзіў.

***А. А.:*** А, гэта той хлопец…

***В. Б.:*** Той самы. Дарэчы, цяпер ён жыве ў суседніх Селішчах. (Памёр у 1999 г.) Пачаў я тады вучыцца. Яшчэ чытаць не умеў, і першы мастацкі твор мне прачытаў бацька. Гэта быў знакаміты «Гой» Міхася Лынькова — і плакала Рыва… А ў школе… Прынёс неяк настаўнік некалькі кніжак дзіцячых, пачаў раздаваць для чытання — на табе, на табе… Мне дасталася тоненькая кніжачка, казка «Царэўна-лягушка», а Валодзю — «Канёк-гарбунок». Гэта была мая першая школьная крыўда — не хацеў я чытаць пра «лягушку» — хацеў пра каня-гарбунка, абдзяліў лёс на першым этапе. У другі клас пайшоў ужо ў другую вёску — у Двор Слабодку, гэта трошкі далей, але школа там была лепшая, у былой панскай сядзібе. Пад школу адвялі палову панскага дома з верандай, кафельнымі грубкамі і вялікімі вокнамі. Вучыў нас, малых, малады настаўнік Сцяпан Рыгоравіч Троцкі, а таксама ягоны калега Крацёнак. Першы цяпер на пенсіі, доўга працаваў у Браславе. Быў вясёлы, нязлы, мы яго любілі. Ён вучыў, здаецца, адну зіму. Пасля прыйшоў другі — Сяргей Сцяпанавіч Новікаў, паходжаннем з нашае вёскі. Гэта ўжо быў супрацьлегласць ранейшаму, даволі строгі чалавек, парцеец, ён арганізоўваў калгасы ў нашай акрузе і загінуў у партызанах, у час знакамітага іх разгрому, названага пасля «прарывам». У яго была свая, партыйная сістэма навучання, вельмі ён напіраў не на мову ці арыфметыку, а на грамадазнаўства, ну, на гісторыю таксама. У пакоі, дзе мы вучыліся, было два класы — два рады партаў. Калі ў адным класе

вусны ўрок, дык у іншым пісьмовы, значыць, самастойны. Ды бывала так, што я свае задачы хуценька парашаю і сяджу слухаю, пра што ідзе гаворка ў старэйшым класе. Неяк так сталася, што некалькі разоў, калі там ніхто не можа адказаць на нейкае пытанне настаўніка (памятаю, нешта пра Парыжскую камуну), дык я паднімаю руку, і Сяргей Сцяпанавіч мяне выклікае, а пасля сарамаціць старэйшых за тое, што яны не ведаюць. Вось так я паактыўнічаў пару разоў, і настаўнік кажа: няма чаго там табе сядзець, перабірайся сюды. Так сярод зімы ён перавёў мяне ў чацвёрты клас…

***А. А.:*** А хіба так можна было рабіць без райана?

***В. Б.:*** Мабыць, можна, калі ён так зрабіў. Хаця тое мне не пайшло на карысць. Бо скончыў я чатыры класы ў дзесяць год, што далей? Сярэдняя школа ў Кублічах, за тры кіламетры, дык бацька і кажа: «Куды табе, малому, далёка хадзіць? Хадзі ў Слабодку».

***А. А.:*** Ты малога росту быў?

***В. Б.:*** Малога, канешне. Зноў жа — абутак, адзенне… І пайшоў я зноў у чацвёрты клас, абы вучыцца. Значыць, у трэці клас я хадзіў паўгода, а ў чацвёрты два гады. Пасля пайшоў у Кублічы, дзе была сярэдняя школа і куды хадзілі хлопцы і дзяўчаты з усяе акругі. У Кублічах, як у кожным беларускім мястэчку, тады было шмат яўрэйскіх дзяцей, з якімі мы разам і вучыліся, і сябравалі. У нашым класе палова вучняў былі яўрэйскія рабяты. Я сябраваў з братамі Свярдловымі — Мэерам і Лейбам. Мэер быў старэйшы, ішоў на два класы наперадзе, а з Лейбам мы хадзілі ў адзін клас. Загінуў мой Лейба-Лёва ў 41 годзе, расстраляны разам з усімі кубліцкімі яўрэямі ў Вушачы, а Мэер жыве ў Маскве, працаваў на нейкай паштовай скрынцы. Неяк прыязджаў у Менск, і мы разам ездзілі ў мястэчка нашага маленства, дзе не засталося і следу ад хаты Свярдловых. Ды і наогул мала што засталося ад Кубліч — усё пабамбілі, папалілі, панішчылі ў вайну… А калісь гэта было слаўнае старажытнае мястэчка, пазначанае на картах з XVI стагоддзя, з праваслаўнай царквой (былой уніяцкай), у якой мяне хрысцілі і дзе я пазнаў першае прычасце. Была таксама сінагога, школа і нават пажарная побач з царквой, аптэка, кузня. Галоўнае месца, аднак, ля кірмашовай плошчы займаў чырвоны цагляны будынак межавой камендатуры. Спярша ён проста прымыкаў да плошчы, а пасля яго абнеслі высокім дашчатым заборам з колам на рагу — у выглядзе турэлі, на якой мясціўся ручны кулямёт. У 30-я гады пабудавалі новую, неблагую школу, але садралі крыжы з царкоўных купалоў, каб тыя нельга было зглядзець з-за мяжы, бо ж — арыенціры для «міравой буржуазіі», якая толькі і марыць, каб разбурыць Кублічы. Але бурыць іх пачалі самі. Усё царкоўнае

майно сканфіскавалі або проста расцягалі ваяўнічыя атэісты, якімі абавязаны былі быць усе піянеры, камсамольцы, бальшавікі, настаўнікі і актывісты. І мы, піянеры-актывісты, цягалі з царквы і дралі старажытныя фаліянты, клеілі з царкоўных рукапісных пергаментаў ветраных змеяў, якія запускалі ў ветраныя дні. З царкоўных жа рызаў раённы быткамбінат пашыў цюбецейкі, у якіх шмат год хадзілі ўлетку нашыя хлопцы. У першы год вайны ўсё яўрэйскае насельніцтва акупанты выгналі ў Вушачу і расстралялі ля могілак. Перад вызваленнем Кублічы былі ўшчэнт разбамбаваны і спалены, цяпер гэта захудалая вёска з некалькімі сілікатнымі будынінамі.

А за лесам (параснікамі) знаходзілася яшчэ адно мястэчка Селішчы, то ўжо быў каталіцкі цэнтр рэгіёна з вялікім касцёлам, кляштарам, крытым бліскучай белай бляхай, якая была відаць аж з нашага поля. Там былі каталіцкія могілкі з дужа файнымі мармуровымі помнікамі і надпісамі лацінкай. А ў сярэдзіне могілак між хвояў высілася белая мармуровая скульптура ангела-дзяўчыны — вядома ж, на магіле памерлай. Мы дужа баяліся таго помніка, не ведаю чаму. Цяпер Селішчы — таксама захудалая вёска з пабураным касцёлам і бязладнымі могілкамі.

Кублічы да вайны былі сельсавецкім цэнтрам, а Вушача раённым. У маім тагачасным уяўленні то была ўжо горадам, далёкім і нават зманлівым — з клубам, сталоўкамі і нават кнігарняй. У кнігарні вісела знакамітая карціна Зайцава (рэпрадукцыя, вядома) — «Чапаеў на кані» — у бурцы, з апушчанай бліскучай шабляй. Захаплялі натуральна выпісанае неба (тады яшчэ гэтак умелі) з прыгожымі аблокамі, і я, часам бываючы ў Вушачы, заўсёды заходзіў у кнігарню палюбавацца на Чапаева.

Але Кублічы... Як я ўжо сказаў, тут была новая, драўляная школа са светлымі класамі, фізкультурнай пляцоўкай побач.

І канешне, з новымі настаўнікамі. Рускую мову і літаратуру выкладала Клаўдзя Якаўлеўна Пашута, маладзенькая дзяўчына, толькі што з Полацкага педтэхнікума. Мы любілі яе проста за маладосць, хоць і настаўніца яна была неблагая. І ўсё ж беларускім дзецям руская мова давалася няпроста, асабліва дыктанты, усялякія сачыненні. Я ж пад той час дужа захапляўся кніжкамі, абы-якімі — рускімі ці беларускімі, — таму і руская мова ў мяне ішла без асаблівых праблемаў.

***А. А.:*** Што чытаў?

***В. Б.:*** Зараз скажу. Але спярша пра настаўнікаў. Беларускую мову выкладаў Андрэй Дзям'янавіч Курчанка, гэта быў змрачнаваты чалавек, даволі строгі настаўнік. Трэба сказаць, выдатна ведаў сваю справу, і, паколькі быў строгі, усе мусілі сур'ёзна вучыць беларускую мову. Ну, а мне яна давалася проста,

можа, таксама дзякуючы таму, што і я пабойваўся Андрэя Дзям'янавіча. Хаця ён выклікаў мяне рэдка і ніколі не даваў адказаць да канца. Толькі я пачынаў, як ён казаў: сядай! І ставіў пяць. Ці — «выдатна», я ўжо і забыўся, якія адзнакі тады былі. Сістэма ж адукацыі перманентна рэфармуецца.

***А. А.:*** Мянялі некалькі разоў. Па-рознаму было.

***В. Б.:*** Як бы там ні было, беларускую граматыку я надоўга засвоіў (ведама ж, наркамаўку) і, можа, толькі цяпер пачынаю забываць. А яшчэ быў настаўнік Красінцаў, які выкладаў фізіку, гісторык і географ Жырноў. Гэта таксама былі слаўныя настаўнікі, светлая ім памяць. Дык вось у тыя гады я ўжо захапіўся чытаннем. Але дзе браць кнігі? Канешне, найперш у школьнай бібліятэцы, якая была не дужа багатая, ды ўсё ж класіка ў ёй знаходзілася, і беларуская, і руская, і што-ніщто з сусветнай. Найперш прыгодніцкая літаратура — ад Жуля Верна да нашага Янкі Маўра, кнігі якога я вельмі любіў. Дужа папулярную на той час «Як гартавалася сталь» чыталі па чарзе ўсёй школай. Аднойчы я захварэў і доўга не хадзіў у школу, затое чытаў. Перачытаў усё, што было ў Слабодскай школе, а гэта пераважна руская класіка. Тады я адолеў «Вайну і мір», тры тамы «Ціхага Дону», шмат што з Ганчарова, Тургенева, а таксама Зарэцкага, Гартнага, Галавача. Доўга нідзе не мог дастаць коласаўскую «Дрыгву», пра якую дазнаўся са школьнай граматыкі. Дык падпільнаваў, як яна паявілася ў нарыхтоўчай краме ў Селішчах. Але ж дзе было ўзяць грошы? Звычайна летняй парой дзеці дралі лыка лазы, крушыны, усё тое сушылася на сонцы, і здавалі ў нарыхтоўчыя канторы. Чарговы раз занёсшы ладны бярэмак лазы у Гушчынскую Слабодку, я займеў магчымасць купіць «Дрыгву». Як усё тое было прачытана, ішло паляванне на кніжкі па сябрах і знаёмых. Скажам, дачуўся, што ў кагосьці ёсць якія незнаёмыя кніжкі, я прасіў даць пачытаць. На два дні, на адну ноч. Памятаю, з намі ў школе вучыўся Казлоўскі, здаецца, з вёскі Чамярычына. Ягоны бацька ці дзед былі настаўнікамі яшчэ за царскім часам, і пасля іх застаўся сундук з кніжкамі. Во гэта быў скарб! Казлоўскі прыносіў мне кніжкі ў школу, я да яго бегаў па кніжкі і ўлетку. Чытаў пераважна выданні XIX стагоддзя — МамінаСібірака, Караленку, Станюковіча, Памялоўскага, некалькі раманаў Шэлер-Міхайлава ды іншых. У яго ж неяк знайшоў рэдкую па тым часе кнігу Жуля Верна «Из пушки на Луну», якая мне дужа спадабалася. Дазнаўшыся, што на беларускай мове яе няма, я сам пераклаў яе з расейскай, паслаў у Менск у газету «Піянер Беларусі», каб там надрукавалі і пазнаёмілі беларускіх дзяцей з гэтым творам. Канешне, тое было наіўна, але кніжны свет ужо звыкла стаў для мяне не меней значны за рэальны. У дзіцячыя гады там

адбывалася нейкае душэўнае фармаванне, можа, болей важнае за ўплывы рэальнага свету…

***А. А.:*** А паэзію любіў, чытаў?

***В. Б.:*** Не надта. Апроч хіба «Новай зямлі» Я. Коласа, якую часам перачытваў, калі не было чаго іншага.

***А. А.:*** Што, ні Пушкін, ні Лермантаў не ўвайшлі ў цябе?

***В. Б.:*** Мала краналі. Трохі пазней, у юнацтве, пачаў падабацца Лермантаў, і я зразумеў, чаму, калі пасля вайны ўжо прачытаў у Буніна, што Лермантаў, а зусім не Пушкін — першы паэт Расеі.

***А. А.:*** Значыць, і сам не пісаў вершаў?

***В. Б.:*** Можна сказаць, не пісаў. Хаця было некалькі спробаў, але яны не запомніліся. Некалькі год у школе я сядзеў за адной партай з Шуркам Андрэйчыкам. То быў ціхманы, задуменны хлапец, добра вучыўся па матэматыцы. Лепш за мяне. Але я лепей пісаў дыктоўкі і сачыненні. Тады мы стварылі пэўную кааперацыю і памагалі адзін аднаму: ён мне па матэматыцы, а я яму па мовах. З цягам часу я зусім знахабнічаў і на ўроках матэматыкі чытаў пад партаю кніжкі. Так доўжылася аж пакуль дырэктар Слімборскі, ён жа выкладчык матэматыкі, мяне не злавіў і не паставіў двойку. Мусіў выпраўляцца. Было сорамна, бо па астатніх прадметах меў адны пяцёркі.

Тут, можа, трэба сказаць яшчэ пра адно школьнае захапленне — маляванне. Маляваць пачаў рана, можа, з трэцяга ці чацвёртага класа — як звычайна, алоўкам ці акварэльнымі фарбамі для насценнай газеты, розныя школьныя дапаможнікі — карты, схемы…Але якое выяўленчае мастацтва ў вёсцы? Ды ўсё ж знайшлося. У суседняй вёсцы жыў селянін Бобрык, бедны — бяднейшы, можа, за ўсіх. Але ў часы Грамадзянскай вайны ён быў слугою ў якогась заможнага двараніна недзе ў Сібіры, казалі, нават у губернатара. Дык ён прывёз на радзіму некалькі карцін алеем, маленькіх такіх эцюдзікаў. Яшчэ ён прывёз гадавыя пераплёты часопісаў «Нивы», «Огонька» за некалькі год. А «Огонька» нават з пачатку стагоддзя аж да 1916 года. Там было шмат рэпрадукцый — чорна-белых і каляровых таксама. Я браў у яго тыя пераплёты-падшыўкі, чытаў, разглядаў малюнкі тагачасных мастакоў. Ну, і, канешне, сам маляваў. Пасылаў некуды на конкурс свае малюнкі, перапісваўся, здаецца, з Менскім ці Віцебскім домам піянераў. Там былі метадычныя кабінеты, адкуль мне прысылалі заданні…

***А. А.:*** Табе было 13 ці 14 гадоў?

***В. Б.:*** Недзе, відаць, пачынаючы з пятага класа. Ну вось, гэта так прадаўжалася, я скончыў сёмы і восьмы клас, пачаў вучыцца ў дзявятым. Летняй парой — праца ў калгасе. Адно лета

пасвіў коней, другое — пільнаваў калгасны сад. Там ужо пачытаў кніжак уволю, быў час, ды мала было кніжок. Памятаю, змушаны быў чытаць Салтыкова-Шчадрына, які мне зусім не падабаўся. Мусіць, рана я за яго ўзяўся. Зрэшты, кніжкі таксама маюць сваю пару, кожную трэба чытаць у пэўным узросце. Цяпер дык шкадую, што рана перачытаў якраз самыя значныя кнігі, з якіх у дзіцячым узросце ўзяў далёка не ўсё, што трэба было ўзяць. Але, можа, і памыляюся. Можа, менавіта ў раннім узросце яны і маглі закрануць штосьці ў душы, а пасля ўжо было позна. Пасля кранала-камячыла жыццё, а не літаратура.

На нейкім часе ў школе паявіўся новы піянерважаты, малады хлопец Віктар Кандрацкі, які ажаніўся з нашай Клаўдзяй Якаўлеўнай. Працаваў ён не шмат і раптам знік, аказваецца, паступіў у Віцебскае мастацкае вучылішча. Аднойчы ўлетку мы сустрэліся ў Кублічах, і ён мне расказаў пра вучобу, паказаў свае студэнцкія малюнкі. Сказаў, што даюць інтэрнат і нават плоцяць стыпендыю — аж 60 рублёў. Заахвочаны ім, я пайшоў да дырэктара па свой класны табель. Дырэктар спярша не пагаджаўся, усё ж я быў выдатнікам у школе. Але мусіў аддаць табель.

***А. А.:*** З якога класа?

***В. Б.:*** З дзявятага. Паслаў табель у Віцебск.

***А. А.:*** Гэта які год ужо быў?

***В. Б.:*** Трыццаць дзявяты.

***А. А.:*** Трыццаць дзявяты. Пачакай, пакуль ісці далей… Твой тэзіс не спраўджваецца, што ты не любіш успамінаць дзяцінства, бо яно было цяжкое.

***В. Б.:*** Не спраўджваецца. Ну, ведаеш… Мабыць, во такая ўласцівасць чалавечай памяці. Найперш разумовай, калі праз час шмат што з мінулага здаецца прыгожым ці нават забаўным. Але яшчэ ёсць памяць эмацыянальная, дзе даўжэй захоўваюцца даўнія боль і скруха. Паспрабуем патрывожыць яе.

***А. А.:*** А што ты маеш на ўвазе?

***В. Б.:*** Дагэтуль, распавядаючы, я ішоў, так бы мовіць, па дзіцячай лініі. Але ж паралельна ішло дарослае жыццё, якое не магло не кранаць і маё, падлеткавае адчуванне. Вось, памятаю, ці не ў 32-м годзе тое было, вясной. Па краіне ішла калектывізацыя, па сутнасці гвалтоўная ліквідацыя сялянства як класа. У сялянскай краіне ліквідоўваўся сялянскі клас — той самы генацыд хіба паводле класавай прыналежнасці. Сялян агітавалі, што ў калгасе будзе лепш, а яны, «дурні», не верылі і тым стваралі канфлікт з дзяржавай. Але тое ў сферы палітыкі, а як было ў жыцці? Быў малы, але ж памятаю, як у вёсцы ішоў сход — некалькі дзён запар сялянаў усё ўламвалі ўступаць у калгас. Тыя ўпіраліся, думалі

нешта залежыць ад іхняе волі. Ды марна. Неяк я прачынаюся дужа рана, устрывожаны тым, што плача маці. Я ўжо казаў, што ў дзяцінстве я дужа адчуваў мамін настрой і звычайна адпаведна рэагаваў на яго. Я ніколі не бачыў, каб мама плакала. А тут проста галосіць, бы па нябожчыку. Побач, у куце, унурыўшыся, сядзіць бацька. Я падскочыў да маці і пытаюся: чаго яна? А бацька кажа: не чапай яе — арганізаваўся калгас. Ну, хай бы арганізоўваўся, але чаму плача маці? Аказваецца, таму, што прыехала брыгада на золаку і выграбла ўсё з кублаў, з мяхоў і засекаў.

***А. А.:*** Насенне?

***В. Б.:*** Так, насенне. Для веснавой сяўбы на калгасных палетках.

***А. А.:*** І жыві…

***В. Б.:*** І кармі дзяцей. Во маці і плача. Бацька маўчыць, што ён можа сказаць? Вось з тае пары і пачалося. Вядома ж, як у калгасах было — голад, прыгонная праца, рэпрэсіі…

***А. А.:*** Так, з гэтага і пачалося…. Вось ты гаварыў пра калектывізацыю, а пра раскулачванне? За што аднаго раскулачылі, бо ў яго было дзве цялушкі?

***В. Б.:*** Ва ўсіх было па адной карове, а ў таго яшчэ і цялушка гадавалася. Значыць, ён і падпадаў пад раскулачванне. Далей. Яшчэ адна сям’я была раскулачана за тое, што ўлетку пляменніца памагала жаць жыта. Значыць — наёмная сіла. І трэцяя сям’я… Ведаеш, ужо забыўся, за што. Зараз успомню…

***А. А.:*** А ў цябе ў «Знаку бяды» адтуль сітуацыя?

***В. Б.:*** Так, амаль тая ж. Трошкі папраўленая. Яшчэ быў адзін чалавек, які не хацеў ісці ў калгас. Дык яго, як сабатажніка…

***А. А.:*** Вывезлі з сям’ёй? Так?

***В. Б.:*** Так. Гэткіх вывозілі сем’ямі. Памятаю хлопца, з якім вучыўся. Раскулачванне было ўвосень, хаця не памятаю ці да арганізацыі калгаса, ці пасля… І вось ён не пайшоў у школу, і я пабег яго праведаць. Гляджу, там ужо грузяць скарб на фурманкі, а мой сябра хваліцца: мы цягніком паедзем, ага! І мне стала зайздросна…

***А. А.:*** Зайздросна?

***В. Б.:*** Ну. Бо чаму майго бацьку не раскулачылі, і я б таксама цягніком паехаў. А так цягніка і не бачыў… Ну дык вось, арганізавалі калгас, прыйшла вясна, даелі бульбачку, што засталася ад абагульнення. Есці не стала чаго. Елі мякіну з травой, крапіву. І так доўжылася шмат гадоў.

***А. А.:*** Многа гадоў?

***В. Б.:*** Так, усе гады, бо з калгасаў жа нічога не давалі.

***А. А.:*** У вас і да вайны нічога не атрымлівалі?

***В. Б.:*** Нічога.

***А. А.:*** А ў нас дык нешта яшчэ давалі.

***В. Б.:*** У нас амаль нічога, Ураджаі кожны год дрэнныя, усё, што вырасце, ішло на дзяржхлебаздачу ды насенне. Памятаю такія моманты… Бацька пойдзе ўвосень на канчатковае размеркаванне і прынясе гадавы заробак — паўторбы жыта. Вось і усё, што мы зарабілі за год.

***А. А.:*** Разам з маці?

***В. Б.:*** Так, разам з маці. Ды яшчэ мае летнія працадні. Паўторбы азаддзя, як у нас казалі. Такі заробак. Але ж яшчэ з нас — і пастаўкі…

***А. А.:*** З прысядзібнага ўчастка?

***В. Б.:*** З агарода. Мяса, воўну, яйкі, малако, масла, грашовы падатак, страхоўка, яшчэ пазыка і рознае іншае, не пералічыць.

Дзе ўзяць грошы? Што прадаць, каб сплаціць? Не кажучы ўжо, каб нешта купіць. Хоць бы штаны хлопцам хадзіць у школу. Пры аднаасобніцтве выручаў лён, які сеялі, апрацоўвалі і апраналіся. А цяпер наконт лёну стала дужа строга — таксама наклалі падатак.

***А. А.:*** Сеяў, не сеяў — здавай.

***В. Б.:*** Так, спаганялі страшэнна. Памятаю (але гэта яшчэ да калгасаў было), бацька ўвечары развівае конскія путы, раскручвае, каб здаць за лён. А то ходзяць сельсавецкія актывісты, робяць вобыскі, каб знайсці, калі хто схаваў якую-небудзь кудзелю.

***А. А.:*** Якую кудзелю?

***В. Б.:*** Ну, апрацаваны лён. Памятаю, у вёсцы ва ўсіх рабілі суцэльны вобыск, прыйшлі і да нас. А ў нас была істопка старая, з прадранай столлю, трохі затуленай саломай. Шукалі, шукалі, нічога не знайшлі і ў мяне пытаюцца: мальчык, где отец прячет лён? А я кажу: на істопцы. Ну, гэтыя: Іваноў, давай туда! А я… ну, чаму я гэтак сказаў?

***А. А.:*** Не ведаеш нават, чаму?

***В. Б.:*** Мабыць, з непрыязні. У мяне папыталіся, ну, я і сказаў, маючы на ўвазе тую замаскаваную дзіру ў столі. І праўда, гэты Іваноў такі ўваліўся туды, пачаў лаяцца. А я ўцёк у роў. Пасля бацька лаяў мяне: ну дзе ты бачыў там лён? Лён у нас у другім месцы схаваны, век не знойдуць… Так, лён. Але ж трэба было яшчэ здаць і збожжа.

***А. А.:*** Гэта да калгасаў?

***В. Б.:*** Гэта да калгасаў яшчэ. Каб збожжа не малолі на муку, а везлі на млын, дзе яго маглі спалавініць, зрэквізаваць, а то і проста абрабаваць. Але ж у сялян былі свае млыны — жорны. Амаль у кожнага стаялі у сенцах ці у варыўні-істопцы гэтыя несамавітыя прылады з двух плоскіх камянёў. Ды, мабыць, ты ведаеш?

***А. А.:*** А як жа! У вайну мы на гэтым толькі і жылі.

***В. Б.:*** Ну дык вось. Але што там было куды везці, якіх пару мяшкоў жыта. Бацька малоў сам. Дык вось аднойчы прыйшлі гэтыя камбедаўцы, сельсавецкія актывісты і знялі верхні камень. На рагу ў падмурку ляжаў вялікі камень, дык яны гэты кокнулі аб яго і разбілі на тры кавалкі. Ну і вось жывём са збожжам, але без хлеба. А гэтыя ходзяць, рэгулярна правяраюць, ці ляжаць у крапіве тыя камяні. Тады бацька неяк уначы ўзяў тыя камяні і змацаваў іх у адно...

***А. А.:*** Скрапіў іх жалезам?

***В. Б.:*** Не жалезам — драўляным абручом такім. Набіў, падраўняў і неяк пацiху малоў. Ноччу змеле, а потым абруч зніме і зноў гэтыя камяні — у крапіву, бы і не чапаў. А пасля ўжо, за калгасам, ніякага збожжа не было, не сталі патрэбны і жорны. Настала поўная галеча. З вясны галадуха, есці няма чаго. Чакаем бульбы. А бульба... Гэта цяпер скараспелка ды іншыя гатункі, дзякуючы інстытуту бульбаводства. А тады была бульба толькі аднаго гатунку, які выспяваў аж пад восень. А так усё лета напаўгалодныя. Канешне, ратавала малако, але ж моладзі і мужчынам хацелася хлеба. Апроч таго, вечныя праблемы з вопраткай і абуткам. Па гразі, па снезе кожны дзень за тры кіламетры ў школу. Тры туды, тры назад. У магазінах жа нічога не купіш, дый за што купіць? Памятаю, калі ў сельпо прывязуць мануфактуру, дык за ёй душыліся чорт ведае як. Кірасіну давалі па літру ці паўлітра на месяц і толькі па пайскіх кніжках. Прыйдзеш зімой са школы, у хаце цёмна, перад печчу лучына, так вось трэба рыхтаваць урокі. Праўда, сярод гэтай нэндзы выпадалі светлыя хвіліны. Неяк увосень кліча мяне дырэктар, паглядзеў на мае растаптаныя ў гразі башмакі і кажа: ідзі ў сельмаг, памерай гамашы. Скажы, дырэктар прыслаў. Пайшоў я, памераў, а пасля дырэктар мне іх купіў. Усё ж я быў выдатнік, і, мабыць, тое штосьці значыла. Ужо я бярог-ашчаджаў тыя гамашкі...

Вось цяпер я ўспамінаю і хачу сказаць, што ўсё ж такі дзеці — дужа жорсткі народ. І нават у нечым па-жывёльнаму люты. Ну, натуральна, тое залежыць ад сацыяльнага размежавання, гэта само сабой. Як і ў дарослых. Але дарослы чалавек мае нейкае права на годнасць, хоць бы на асабістую. А малы? Ён жа не мае ніякіх правоў, а то і ўяўлення пра тыя правы. Ён прывык думаць, што ўсё вырашае сіла — улады, дарослых, старэйшых сяброў...

***А. А.:*** Дзіцячы фашызм.

***В. Б.:*** Можа быць. І заўсёды знойдзецца нехта старэйшы ці дужэйшы, а то і з садысцкімі схільнасцямі, які дыктуе свае законы. І часта меншы не зразумее, што тое няправільна, што павінна быць іначай. І не паскардзіцца, бо ведае, што яго не абароняць. І

ведае таксама, што скардзіцца кепска — тое яму унушылі рана, асяроддзе, а то і бацькі. Настаўнікі таксама.

***А. А.:*** Ты ростам быў маленькі, мабыць?

***В. Б.:*** Не надта і маленькі. Але худы і слабы, і з тае прычыны не мог адчуваць свае перавагі. Перавага была за іншымі — болей дужымі, а галоўнае — болей нахабнымі. У мяне не было нахабства. Во тут я і прыпамінаў мяккі матчын характар, які я ўнаследаваў і які мне нямала шкодзіў. Асабліва пасля, у войску. Зноў жа і ў дзяцінстве я дужа перажываў свае ды і чужыя няшчасці. Асабліва, як пачасціліся рэпрэсіі, сялянскі хапун...

***А. А.:*** Мала таго, дык яшчэ...

***В. Б.:*** Мала таго... Уяві сабе. У нас вёска двароў дванаццаць, праўда, хутары яшчэ пасля падсялілі, трошкі павялічылася.

Дык вось з гэтай вёскі шасцярых мужыкоў узялі.

***А. А.:*** Глядзі ты! А я думаў, што мужыкоў мала бралі. Аказваецца, таксама моцна бралі.

***В. Б.:*** Бралі звычайных цёмных калгаснікаў. Узялі гэтага Бобрыка. Мабыць, яму тая «Нива» з царамі ды графінямі бокам вылезла. Быў яшчэ Дзям’ян Азевіч, інвалід Першай сусветнай вайны з сухой паралізаванай рукой. Дарэчы, правай, якую ён насіў у чорнай пальчатцы. Дык ён зарабляў на хлеб рамонтам гадзіннікаў, якія неслі яму з усёй акругі. І ён усе іх рамантаваў — насценныя, кішэнныя, будзільнікі і г. д.

***А. А.:*** Адной левай рукой?

***В. Б.:*** Адной левай. І болей за тое — шкло ставіў. А шкло дзе возьмеш? Дык ён купляў шкло для лямпы, з выпуклай часткі выразаў самы пятачок і ставіў. Я, калі вучыўся, колькі год насіў яму гадзіннікі з мястэчка, пераважна ад настаўнікаў. Пакладу ў карабок ад запалак і прынясу. Ён шкельца ўставіць, аднясу назад. А тады нясу рубель за працу. І ён заўсёды дасць 20 капеек.

***А. А.:*** Пасярэднікам быў?

***В. Б.:*** Так. Вось і гэтага інваліда ўзялі. А ягоны сын у гэты час, таксама Дзёмка, служыў на Далёкім Усходзе, а пасля, у вайну, пайшоў у партызаны і ваяваў да канца. Ваяваў за савецкую уладу, якая панішчыла ягонага бацьку. Але — не пакрыўдзіўся, за што, як ведаеш, дужа хвалілі бальшавікі. Вёска наша ў асноўным была праваслаўная, але з хутароў падсялілі некаторых каталікоў. Прозвішчы такія — Лявіцкі, Блажэвіч, іх у першую чаргу пабралі.

***А. А.:*** Канешне, як агентаў дэфензівы?

***В. Б.:*** Забралі таксама нашага суседа Барыса. Браў звычайна раённы ўпаўнаважаны НКВД Перацяцькін. Ён потым прыязджаў пасля вайны — мабыць, пацягнула на месца злачынства. Ну і пamежнікі стараліся — не так пільнавалі мяжу, як

хапалі сонных мужыкоў з гэтага боку. Хоць і вартавыя мяжы, але ж адна сістэма НКВД. Ніхто з рэпрэсаваных не вярнуўся, хоць і ўсе рэабілітаваныя. Узялі тады таксама некалькі настаўнікаў, у тым ліку і нашага дырэктара Карчэўскага, які мне гамашы купіў. Але і саміх памежнікаў, камандзіраў, таксама арыштоўвалі. Напрыклад, капітана Акулава, мужа нашай настаўніцы. Цікава, што замест сексотаў-стукачоў выкарыстоўвалі старэйшых вучняў. Як судзілі дырэктара, дык наша адна вучаніца была на судзе сведкай супраць яго. Гэта гадоў у 15. Мабыць, як і ўсюды. А пры мяжы асабліва.

***А. А.:*** Пры мяжы асабліва.

***В. Б.:*** І ў кожнай вёсцы былі ў іх сексоты. Дзе лепшыя, дзе горшыя, актыўныя і не вельмі. Нам у гэтым сэнсе, мабыць, не пашэнціла. У вясковую абшчыну зацясаўся чужынец, прышлы чалавек — пасля Грамадзянскай прыстаў да мясцовай кабеты. Не ведаю, адкуль ён быў родам, але НКВД наладзіў з ім вельмі цесны кантакт. І ён нават не надта таіўся, яшчэ пахваляўся, што ён памагае чэкістам. Недзе ў пяцідзесятых гадах, як я прыязджаў да бацькі, ён прыходзіў таксама і за чаркай гаварыў, што хацеў пасадзіць бацьку, была прычына, ды пашкадаваў. І бацька яму быў удзячны. Не ведаю, што ён меў на ўвазе. Можа, мамін кантрабандны пераход?

(Важна ўспомніць гэты «крымінальна-палітычны выпадак». Як я ўжо казаў, мама паходзіла з таго боку мяжы, і ўсе тыя гады не мела ніякай сувязі з братам. Нават не ведала, ці жывы ён. У трыццаць дзявятым годзе пасля ўз’яднання паявілася нейкая надзея хоць атрымаць вестку. Новую мяжу адсунулі за Беласток, але старую не ліквідоўвалі. Ахоўвалі ўсё так пільна, каб ніхто ні адтуль, ні туды. Мы чакалі. Але неяк галоднай парой маці наважылася і пайшла — цераз лес, балота, каля возера, ужо дарогу яна памятала з дзяцінства. І прайшла. І вярнулася. І прынесла галодным гасцінцы — мяшэчак мукі і баранову лытку. Аказалася, што брат пад панскім прыгнётам усё ж жыве лепей, чым сястра-калгасніца. У якой на стале даўно няма хлеба. Пасля мама баялася, што хтось данясе і яе пасадзяць.)

***А. А.:*** Але вернемся… Ты, значыць, узяў дакументы і паехаў у Віцебск?

***В. Б.:*** Мабыць, дарэчы будзе зазначыць, што тое маё рашэнне не было спантанным, па ўсёй верагоднасці, так вымагаў лёс. Жыць у калгасе рабілася неяк, голад і рэпрэсіі гналі людзей прэч. Але дарослыя ўцячы з калгаса нікуды не маглі, хіба што моладзь, падлеткі. Калі каторы паступіць вучыцца. Во бацька і

кажа: едзь куды-небудзь, бо тут ад галадухі зачахнеш. А там, у Віцебску, будзеш хоць стыпендыю мець. 60 рублёў — гэта ж грошы. Праўда, бацька меў розум сялянскі, і яму не дужа падабаўся мой мастакоўскі выбар. Ён усё казаў: лепей бы вывучыўся на настаўніка ды паступіў у партыю, як наш Новікаў. Начальнікам стаў. На бацькаў жаль, таго мне не было суджана… Зрэшты, як і стаць мастаком…

***А. А.:*** А якое у Віцебску было вучылішча?

***В. Б.:*** Мастацкае.

***А. А.:*** Там яно адно было?

***В. Б.:*** Так, адно.

***А. А.:*** У ім мой сусед вучыўся. Віктар Сушчэня.

***В. Б.:*** Ну, я там мала вучыўся. Не памятаю.

***А. А.:*** Ну і ты паступіў?

***В. Б.:*** Так паступіў. Здаў усе экзамены і па жывапісу таксама.

***А. А.:*** На якое аддзяленне? Былі там аддзяленні?

***В. Б.:*** Спярша на жывапісным вучыўся, а пасля на скульптурнае перавялі.

***А. А.:*** Перавялі ці сам?

***В. Б.:*** Прапанавалі, і я пагадзіўся. Была наша групка невялічкая, можа, чалавек дванаццаць. Вучылішча месцілася ў добрым старым дамку, цяпер там музычная школа. Будынак захаваўся, не пабурылі ў вайну.

***А. А.:*** Стыпендыю плацілі?

***В. Б.:*** Так, 60 рублёў. На яе і жыў. Сцюдзёнай парой часам бацькі прысылалі якую скароміну. Жылі мы нейкі час у інтэрнаце на Магілёўскай плошчы, цяпер яе няма — перайменавалі ў Савецкую. Ці, можа, Цэнтральную. А потым, забыўся з якой прычыны, нас чатырох пасялілі ў прыватным доме на Смаленскім базары. Здаецца, раней тая плошча называлася Краснаю. Скульптурныя класы мясціліся ў бакавым перавулку перад былой ратушай і мастацкім музеем. Вучыла нас скульптар Бяляева, родам, здаецца, з Кіева. Пасля вайны нідзе не чуў пра яе, мабыць, прапала. Жывапіс выкладаў стары Лейтман, а дырэктарам быў Ахрэмчык. Там жа знаходзілася ягоная майстэрня, на першым паверсе з вокнамі, якія выходзілі на вуліцу.

***А. А.:*** Гэта наш Ахрэмчык?

***В. Б.:*** Так. Іван Восіпавіч. І ён там працаваў. А вокны вялізныя, як пачынае цямнець, уключае святло, а шторы не зашморгвае, і мы глядзім, што ён робіць. Помніцца, вялікая, на ўсю сцяну, халсціна, на якой недамаляваныя Ленін і Сталін на нейкім з’ездзе. Тады гэтая тэма была неабходная. А маёй курсавой работай стала фігура пагранічніка ў шынялі, з вінтоўкай і біноклем

каля вачэй. Выкладчыца хваліла…

(Віцебск тады, канешне, быў дужа мастацкі горад, меў музей, на вуліцы Гогаля, недалёка ад плошчы, быў музей славутага Пэна, якога незадоўга перад тым загадкава забілі. У невялікім пакоі і на драўлянай лесвіцы віселі яго карціны, выкананыя ў стылі добротнага рэалізму — шаўцы, старыя яўрэі, коні, выявы маляўнічага Віцебска. Пра ягонага славутага вучня Марка Шагала, які тады жыў у Парыжы, у яго родным горадзе нічога не было вядома. Бы ён і не меў ніякага дачынення да гэтага горада. Але час мяняецца, і праз шмат год я ўжо быў у ліку тых, хто на Пескаваціку адкрываў скульптурны помнік славутаму земляку.)

***В. Б.:*** Ну во, я там правучыўся год, Прыехаў пасля на другі, павучыўся, відаць, месяцы два, і тут аб’явілі «радасную» навіну: пастановай урада стыпендыі адмяняюцца.

***А. А.:*** Наадварот. Плаціць трэба было.

***В. Б.:*** Гэта быў, канешне, магутны ўдар, таму што…

***А. А.:*** Гэта ў саракавым годзе?

***В. Б.:*** У саракавым. Грошай мне з дому ніколі не прысылалі, ды я і не прасіў. Аднойчы бацька, як ехаў у горад, заехаў да дзядзькі, пазычыў тры чырвонцы, якія я расцягваў, як мог. Найбольш — на хлеб, якім звычайна мы харчаваліся. Устанеш раненька, гадзін у 6, і да хлебнай крамы ў чаргу. Чарга вялізная, усе чакаюць. Гадзін у восем прывозяць хлеб, пачынаецца штурханіна. Карткі пад гэты час ужо адмянілі, дык па хлеб рынуліся з навакольных вёсак, з іншых раёнаў. На хлеб выдаткоўваўся не больш за рубель, бо трэба ж было яшчэ купіць фарбы. Ды і з брызентавых гамашаў вылезлі пальцы… Спрабавалі мы з хлопцамі прабівацца такімі-сякімі работамі — на грузавой станцыі, шчотачнай фабрыцы. А ў Віцебску, як ні дзіўна, да самай вайны захаваўся дробны прыватны сектар, Недзе на вуліцы, што вяла да аэрапорта, убачылі маленькую такую крамку, над дзвярыма было няўмела напісана «Головные уборы шью» — стары Абрам шыў там шапкі. І вось, памятаю, мы удвух з хлопцам з Палесся пайшлі туды. (Хлопец той пасля таксама кінуў вучобу — не было як вучыцца. Не меў абутку, дык ён асенняй парой, па гразі хадзіў у растаптаных бурках.) Дамовіліся з гаспадаром зрабіць яму прыгожую шыльду, ён паабяцаў за тое 15 рублёў. Знайшлі нейкую здатную…

***А. А.:*** Бляху…

***В. Б.:*** Не, фанерыну. Загрунтавалі, напісалі «Галаўныя ўборы», і на адным канцы дошкі намалявалі кепку, а на другім капялюш. Прынеслі заказ. Гаспадар паглядзеў, паглядзеў і кажа: а

чаму капялюш? Што, я капелюшы раблю для буржуяў? І не ўзяў шыльду, спалохаўся. Відаць, быў напалоханы з часоў нэпа. Ці яшчэ што.

***А. А.:*** Першы заробак ляснуў?

***В. Б.:*** Так, ляснуў наш заробак. Ну вось. Яшчэ пашвэндаўшыся па горадзе і нічога нідзе не здабыўшы, я зразумеў, што болей не ўтрымаюся, з мастацтвам прыйдзецца канчаць. Пайшоў у канцылярыю па дакументы. Там наш выкладчык беларускай мовы Леванёнак кажа: шкада, Быкаў, — мог бы вучыцца...

Мне таксама было шкада, але як вучыцца? Аднёс у камісіёнку апошнюю сарочку, атрымаў грошы — якраз на білет да Полацка і яшчэ на дзве булкі, якія тут жа і з’еў. Прыехаў у вёску, пайшоў у сваю школу, у дзясяты клас. Але з вучобай тут здорава адстаў. Ды і новыя парадкі і ў школе. Падручнікі цяпер аказаліся платныя, трэба купіць. Але і купіць няма дзе, не хапае падручнікаў. Дома ранейшая галеча, калгаснае бязладдзе. Ні хлеба, ні дроваў. Якраз у гэты час пачынаецца набор у новаарганізаваныя школы прафесійнага навучання (ФЗН), і я хутка зноў апынуўся у Віцебску. Што ў Віцебску — мяне радавала. Знаёмы горад, любыя музеі. І ўспаміны. Невясёлыя, аднак, успаміны... У школе вучылі на будаўнікоў: муляры, бетоншчыкі, арматуршчыкі — усё дужа далёкае ад мастацтва. Мастацтва рабілася ўсё больш недаступным. Трэба было працаваць — на сцюжы, з растворамі. Але тут кармілі, давалі прытулак у інтэрнаце, а пасля яшчэ пачалі і апранаць. У вучылішча я не хадзіў, хіба калі ўвечары падыходзіў пад вокны, бачыў паверх фіранак захінутыя анучамі скульптуры на станках. Было сорамна і балюча...

На пачатку чэрвеня — выпуск, нам аб’явілі, што паедзем працаваць ва Украіну, у горад Шостку. Пакуль былі зборы, я адпрасіўся з’ездіць на радзіму. Справа ў тым, што якраз у Шостцы жыў мой дзядзька... Гэта таксама гісторыя, гісторыя лёсу. Дзядзька калісь быў актывістам, зрабіў нейкую партыйную кар’еру, працаваў нават рэдактарам газеты дзесь на Палессі. Але, пакуль ён служыў Савецкай уладзе, тая раскулачыла дома бацьку, брата — саслала ў Сібір. Мабыць, нясоладка стала сыну, і ён дзеля паратунку апынуўся ва Украіне, у Шостцы. Гэта быў такі непрыкметны гарадок на Чарнігаўшчыне, але там працавала аж тры вайсковыя заводы і фабрыка кінаплёнкі, якая і цяпер існуе.

***А. А.:*** Шосткінская фабрыка.

***В. Б.:*** Так. Ну дык вось, прыехаў я дамоў і пайшоў да дырэктара школы, распавёў пра сваё становішча. Дырэктар Слімборскі паспачуваў не надта ўдалай кар’еры свайго колішняга выдатніка і даў мне не атэстат, а табель за дзясяты клас, дзе сам

праставіў патрэбныя адзнакі. Мой план быў такі: у Шостцы я здам экстэрнам экзамены за дзясяты клас і паступлю ў тамашні індустрыяльны інстытут, да якога мае нейкае дачыненне мой дзядзька, з якім ён і Слімборскі былі знаёмыя… І вось пагодным чэрвеньскім ранкам мы прыязджаем ва Украіну. Белыя мазанкі, таполі, нечуваная мова на станцыях, гогалеўскія асацыяцыі пераносяць нас у іншы свет, рамантычны і казачны. Не думалася тады, што гэтак шмат для мяне драматычнага і трагічнага будзе звязана з гэтай краінай.

Не паспеў я агледзецца, як след пазнаць горад і нават адшукаць дзядзьку, як выбухнула вайна. Прызнацца, тое мяне спярша і не надта спалохала, была ж толькі нядаўна Фінская вайна, перад тым — вызвольны паход у Заходнюю Беларусь, усё скончалася бліскучымі перамогамі. Пераможам і тут. Тым болей, калі намі кіруе ўсеперáможны таварыш Сталін. Але пакрысе рабілася сумна, а затым і страшнавата. Хацелася дамоў, бліжэй да родных мясцін. Ды не было як. Як нямецкі вермахт захапіў Менск і Гомель, падступіў пад Кіеў, нас змабілізавалі цераз ваенкамат. Спярша на абаронныя работы. Можа, месяц мы капалі даўжэзны і глыбокі супрацьтанкавы роў, здаецца пад Пірагоўкай, які затым кінулі, бо немцы ўжо замыкалі сваё акружэнне Кіеўскага катла…

***А. А.:*** Так, адразалі Кіеўскі раён.

***В. Б.:*** І вось пачынаецца эвакуацыя. Усё рушыць на ўсход.

Мы калонай пад камандай запасных падпалкоўнікаў колькі дзён тупаем у бок Харкава. У небе вісяць нямецкія самалёты, бамбяць станцыі і чыгунку. Харчуемся чым дзе прыйдзецца. Болей самапасам. Быў вялікі ўраджай яблыкаў, гародніны. Забягаем у прыдарожныя крамы, у якіх, аднак, амаль пуста. Усё расхапалі. У Белгарадзе я спрабаваў купіць фруктовага чаю, які можна было есці, ды не мог прабіцца праз натоўп да прылаўка. Затое адстаў ад калоны, а затым і згубіў яе.

Пакуль бегаў па забітых войскамі вуліцах, настала ноч, стомлены зайшоў у паўразбураную хаціну і заснуў. Пабудзілі каменданцкія патрулі. Адвялі ў камендатуру. Там уранку допыт — хто такі, чаму адстаў, з якой мэтай? Абшукалі і знайшлі у маёй валізцы карту — выдраны з падручніка аркушык, на якім я, грамацей, адзначаў як рухаецца фронт. Той аркушык мяне ледзь не пагубіў. Хацелі расстраляць. Іншых, што сядзелі са мной у склепе, пастралялі. А мяне пашкадаваў нейкі дзядзька з вінтоўкай. Сказаў на гародзе пад плотам, куды мяне вывеў: бяжы! І я пабег, а ён стрэліў у паветра…

Адзін чыгуначнік паказаў, куды ідуць цяпер войскі, і я пайшоў па пуцях. Маёй мэтаю быў Валчанск, гарадок пад Харкавам, дзе фарміраваліся запасныя часці. Увогуле мне

пашэнціла: як я прыйшоў і знайшоў сваю каманду, тая ўжо строілася для фарміроўкі. Але ж у мяне не было ніводнага дакумента, усё засталося ў Белгарадскай камендатуры. Добра, што камандзіры не надта прыдзіраліся, не было часу, ды й хлопцы пацвердзілі: то наш. І я ці не ўпершыню адчуў радасную еднасць калектыву, ягоную шчаслівую перавагу перад адзінкай. Добра быць у грамадзе! Так нас сфармавалі ў новую каманду, далі нейкую (БУ) абмундзіроўку, але замест зброі — рыдлёўкі. Абвясцілі, што з гэтага дня мы — у складзе армейскага інжынернага батальёна. Прыбыло нейкае начальства, і зноў павялі нас капаць траншэі на поўнач ад Харкава. Праз колькі дзён выдалі вінтоўкі — адну на дзесяць чалавек, і мы адчулі сябе байцамі непераможнай Чырвонай Арміі. Неўзабаве пачалася катавасія. Падышоў фронт, пачаліся бамбёжкі. Прарывы нямецкіх групаў, паветраныя дэсанты, якія належала адбіваць. Аднойчы нас кінулі на прыкрыццё нашай кавалерыйскай контратакі. Там я упершыню адчуў увесь жах гэтай вайны. Што там немцы зрабілі з будзёнаўскай кавалерыяй!..

***А. А.:*** Што, корпус цэлы паклалі?

***В. Б.:*** Можа, і корпус, не ведаю. На ўскрайку кукурузнага поля мы выкапалі акопчыкі, наперадзе бураковая ніва, а далей сяло вялікае. Ноччу мы адтуль прыйшлі. А затым ішла кавалерыя, шмат кавалерыі, дагэтуль бачу запыленыя, стомленыя коні і людзі, вакол пыл, пыл… Ты ж ведаеш, які ўлетку на Украіне пыл на дарогах. Яны, відаць, ішлі здалёку, удзень вісела нямецкая авіяцыя, увесь час іх бамбіла. Наваколле ўсё гарыць… А яны ўзброеныя так: вінтоўка за спіной, шашка, процівагаз, перакідныя сумкі ля сёдлаў…

***А. А.:*** А пік не было?

***В. Б.:*** Пік не было. Мне запомніліся конскія процівагазы. На сядле такая сумка вялікая і ад яе ідзе тоўстая гафрыраваная трубка, бы кішка, і маска — надзяваецца каню, калі газавая атака, якіх, дарэчы, нідзе не было. Дык вось на світанні яны кінуліся на сяло ў атаку, на нямецкія танкі. Немцы падпусцілі іх даволі блізка, пасля… З кулямётаў яны наладзілі ім такое, што Божа мой! Праз якіх дзесяць хвілін усе адхлынулі назад. І вось бяжыць конь у пене, без седака, а то сядок вісіць уніз галавой у стрэмі. Конь падае, б’ецца, з ягонага бруха вывальваюцца вантробы, ды яшчэ кішка гэтая процівагазная цягнецца. Усё навакол пашкуматана кулямётнымі чэргамі. Карацей кажучы, хуценька мы адтуль драпанулі — усе, пешыя і коннікі, — у лясок, атака захліпнулася і болей яе не паўтаралі. Танкі пайшлі далей. Потым яшчэ было нямала такога ж бязладнага і дурнога. Мы будавалі для камандуючага маршала Будзённага камандны пункт, на якім

Сямён Міхайлавіч ледзьве не трапіў у палон. Адыходзілі на Стары і Новы Аскол… Недзе ўвосень, здаецца, у кастрычніку, армію вывелі пад Варонеж, яна ўжо была небаяздольная, так, адны рэшткі.

Апынуліся на станцыі Гразі, там усчалася перафарміроўка. І тут аказалася, што па тылавых законах 23 год нараджэння прызываецца, а 24 — яшчэ не. І вось нас усіх, хто быў з 24 года, сабралі разам. А трэба сказаць, што такіх набралася няшмат, бо ўкраінцы не дурні, яны далёка ад дому не адыходзілі, звычайна вярталіся. Ну, а мне куды было вяртацца? Беларусь засталася за тысячу кіламетраў, не дойдзеш. І я змушаны быў цягнуцца з усімі. Дык, значыць, сфармавалі з маіх аднагодкаў калону, выдалі па тры буханкі хлеба і, як былі, у зашмальцаваных ватоўках, пілотках выправілі ў тыл. Але зноў пад камандай падпалкоўнікаў — каб не разбегліся. Ішлі ў Саратаўскую вобласць…

***А. А.:*** Пехатой перлі?

***В. Б.:*** Пехатой усю дарогу.

***А. А.:*** Нічога сабе — пехатой! А карміліся самапасам?

***В. Б.:*** Ведама ж. Ну, сяляне часам кармілі, усё ж то быў тыл, і шмат у каго мужчыны былі на фронце, людзі спачувалі ваенным. Тым больш такім жаўтаротым, як мы. Хаця гледзячы дзе. На станцыях, дзе ўсё было ababрана, нічога нам не надаралася, а ў сёлах трохі інакш. Пакуль дайшлі да Саратаўшчыны, абнасіліся і абязножылі. Чаравікі мае сталі такія, што і парцянкі вылезлі. А тут пачаліся халады. Цёплага ж на нас не было нічога. Памятаю, нейкая цётка дала мне вязаны шалік і ўсё. Нарэшце дабрылі да станцыі Салтыкоўкі, гэта ў самым канцы 41-га года. Там нас размеркавалі па калгасах. Мы з адным хлопцам Лёшкам Арловым (дарэчы, таксама ўшацкім) трапілі ў недалёкі калгас, здаецца, імя Камінтэрна. Там мы праседзелі ў калгаснікаў амаль усю зіму 42 года.

***А. А.:*** А што рабілі? Як калгаснікі працавалі?

***В. Б.:*** У калгасе нічога не рабілі, бо што мы маглі рабіць босыя? Усё ж там маразы, дай Божа!

***А. А.:*** А хто карміў?

***В. Б.:*** Калгас выдзяляў проса па кілаграму на тыдзень. Гэтае проса трэба было абадраць на цёрцы. Атрымаць пшано. У сям'і, дзе я жыў, былі гаспадар-камбайнер, які меў бронь, гаспадыня, малая дзяўчынка і бабка. Бабуля гэтая, светлая ёй памяць, і варыла для мяне кашу. Сям'я, натуральна, харчавалася асобна.

***А. А.:*** А ты — адным просам?

***В. Б.:*** Не просам — пшаном. Харчаваўся пшоннаю кашай, што па тым часе зусім няблага. У нас да вайны то быў амаль далікатэс. Памятаю, у Віцебску талерачка такой кашы з чайнай

лыжачкай масла зверху каштавала 60 капеек. Тут масла не было… Увогуле было галаднавата, заўсёды хацелася есці… Малады ж быў. Трудная была тая зіма, сцюдзёная, а галоўнае — даймала адзінота, адарванасць ад звыклых мясцін, ад радзімы, што апынуліся пад акупацыяй. Бывала… Нашаю з Лёшкам задачай было забяспечыць гаспадароў палівам — бадыллём сланечніку, што застаўся пад снегам у стэпе. Для таго мелася пара гаспадарскіх бурак на двух. І вось часцяком (разы два-тры на тыдні) едзеш з санкамі ў стэп, пералазіш яр і наломваеш там мёрзлага бадылля, вязеш яго ў сяло. З цяжкім возам перабрацца цераз крутыя схілы было няпроста, добра нарвеш кішкі. А як вылезеш мокры ад поту, успомніш свой роў ля роднае вёскі, паглядзіш на чырвоны марозны захад, дзе далёка-далёка засталася радзімая старонка, і ўжо не стрымаеш слёз. Тым болей, што вакол расхінуўся марозны стэп, ніхто тут цябе не бачыць, можна не саромецца. Адзінота, закінутасць, адчуванне поўнага сіроцтва — балючыя самотныя пачуцці, якіх да таго перажываць не даводзілася. Першы, але не апошні раз было тое…

***А. А.:*** Так, цікава, цікава…

***В. Б.:*** Не сказаць, што да нас там адносіліся кепска — як і да ўсіх. Але на нейкім часе стала нам нязмогла, і мы з Лёшкам вырашылі рушыць на захад. Беларусь была пад акупацыяй, але ж там былі партызаны. Зноў жа фронт, жахі якога памалу сталі забывацца, і захацелася туды. Аднойчы і рванулі. Ды недалёка. Наіўных уцекачоў на захад затрымалі на першым жа чыгуначным мосце, вярнулі ў раённы НКВД у Рцішчаве. Як мы выбавіліся адтуль — асобная гісторыя, можа, раскажу калі-небудзь. Не цяпер…

Дажылі там да вясны, а затым, здаецца ў красавіку, у калгас прыйшла разнарадка на моладзь — зноў у ФЗН. Вядома ж, мясцовым сваіх шкада, прызначылі нас, а нам толькі таго і трэба. І вось мы з Лёшкам зноў апынуліся у ФЗН, на гэты раз недалёка, у Аткарску… Дарэчы, нялішне зазначыць, што шмат каму з перадпрызыўнай моладзі тыя ФЗН далі часовы, але неабходны хлеб і прытулак, сталіся, так бы мовіць, прафесійнай акадэміяй, нярэдка апошняй у жыцці. Бо хутка затым — прызыў, фронт і канец усяму. Толькі і ўспамін з цывільнага жыцця — невялічкая група равеснікаў, самотных фэзэушнікаў…

***А. А.:*** Ну, дык паехалі далей…

***В. Б.:*** То была чыгуначная школа, вучыўся я там на пуцейца: рамонт пуці, падбіўка шпалаў, разводка… І гэта першую палову лета 42-га года. Надта спякотнага, дарэчы, здаецца ў нас такой гарачыні не бывала. Было трудна, мазалі на далонях ад кувалды і рыдлёўкі. Затое кармілі, тое тады было важна. Ну, а ў жніўні 42-га прызыў хлопцаў 24-га года нараджэння і адразу — у

запасны полк пад Тацішчавам. Тое паселішча вядома шмат каму, многія там спасцігалі вайсковую навуку, якую памятаць будуць доўга. Той полк дзейнічаў, відаць, ці не да канца вайны — рыхтаваў кадры, салдацкія і сяржанцкія — для перамогі. Праўда, мне давялося прабыць там нядоўга, на пачатку верасня мяне накіравалі ў Саратаўскае пяхотнае вучылішча. Пачаліся вучэбныя будні. Ужо там дасталося, як не даставалася нідзе і ніколі. Кожны дзень 10 гадзін заняткаў — рэдка ў класах, болей на плацы і ў полі — у спёку, дождж і мароз у нашых класічных шыняльках на «рыбіным мяху». Апроч таго абаронныя работы пад горадам — немцы ж ужо падышлі да Саратава і бамбяць яго кожную ноч. У асноўным цалялі ў камбайнавы завод, які на той час рабіў самалёты, і ў нафтаперагонныя крэкінгі. Нас на ноч кідалі на дзяжурства — ліквідоўваць пажары, як загарыцца завод, бо выпуск прадукцыі працягваўся і пад бамбёжкай. Гэта выглядала так: як толькі сцямнее, аб'яўляецца трывога. Паяўляюцца самалёты, вешаюць у небе свае САБЫ — асвятляльныя бомбы. На зямлі ад іх, бы ад сонца, а ў небе не відаць нічога. І пачынаюць сыпаць бомбы. Усё вакол хадуном ходзіць. І вось нам яшчэ трываць можна, мы сядзім у шчылінах, ну, калі загарыцца — тушым, выкочваем на двор самалёты. Хаця былі і ў нас ахвяры. Але гэта нішто ў параўнанні з тым, як даставалася нашым курсантам на крэкінгах з іх вялізнымі ёмкасцямі нафты. Там усё палыхае, не сціхаючы ні ўдзень, ні ўначы. І хлопцы гараць, няма чаго і хаваць. Цэлыя аддзяленні, узводы не вярталіся з гэтага мора агню. І так амаль да зімы. Зімой толькі тое спынілася, як немцаў акружылі пад Сталінградам. Аднойчы, зноў жа ўвосень 42-га, батальён кінулі пад Сталінград. Пешым маршам мы дайшлі да Камышына, у Камышыне нас ператрэслі, палову з кожнае роты пакінулі, а палову паслалі на падмацаванне Сталінграда. Рэшта вярнулася ў Саратаў. У тым ліку і я. А мой таварыш з Беларусі Іваноў пайшоў у Сталінград і, вядома, адразу ж загінуў там. Пасля вайны спрабаваў знайсці ягоных родзічаў. Але ж... Івановых у нас дужа многа. Пасля яшчэ было нямала выпадкаў, калі ноччу па трывозе паднімаюць роту, выстрайваюць і зачытваюць спісы тых, хто зараз жа адпраўляецца на станцыю, у маршавую роту, на фронт.

***А. А.:*** А вучылі вас на каго?

***В. Б.:*** На камандзіраў узводаў. Пяхотнае ж вучылішча. Пра камандзіраў я мог бы расказаць — розныя былі. Камандзірам нашай роты быў старшы лейтэнант Грыб, немалады ўжо чалавек, беларус, аднекуль з Гомельшчыны. Можа, менавіта дзякуючы яму я скончыў гэта вучылішча, дайшоў да выпуску. Неяк па-зямляцку ён мяне прытрымліваў. Можа, як земляка, якіх там было дужа

няшмат, а можа, таму, што вучыўся я і вучылішча скончыў на «выдатна». Як бы цяпер сказалі, з чырвоным дыпломам. Але тады толькі павесілі маё фота на ганаровую дошку выпускнікоў… Запомніўся інтэлігентны выкладчык тапаграфіі, якому я часам маляваў карты-схемы, — Рамесцвенскі, на той час ужо інвалід вайны. Камандзірам батальёна быў маёр Анціпас, грэк. Вядома, на фронт грэкаў не пасылалі, скарыстоўвалі ў тыле, але гэта быў ладны камандзір, з традыцыямі старога царскага афіцэра. Чаго не скажаш пра цэлую плойму маладзейшых гарладзёраў, выхаванцаў Варашылава і Цімашэнкі. Ды Бог ім суддзя. Яны пасылалі на пагібель іншых, але трэба зазначыць, пасля і самі гінулі, што трохі іх выбачае…

***А. А.:*** А ты ў якасці выкладчыка не быў там, у вучылішчы?

***В. Б.:*** Ды не. Як жа я мог…

***А. А.:*** Проста вучыўся, так?

***В. Б.:*** Так. Увосень 43-га прысвоілі званне малодшага лейтэнанта і паслалі на фронт. Даволі доўга ехалі па чыгунцы, у цяплушках і прыбылі на Дняпро, на ўжо адбітыя пад той час плацдармы. Так што фарсіраваць Дняпро мне не давялося. Але і за Дняпром хапала пекла, у якое мы трапілі. Найперш няўдалае наступленне на Крывы Рог, адкуль нас турнулі немцы. Кіламетраў 60 наша пяхота і танкі адступалі на поўнач. Пасля, трохі перадыхнуўшы, завязалі баі за Александрыю і Знаменку…

***А. А.:*** Ты ў якасці пяхотнага лейтэнанта, так?

***В. Б.:*** Так, у якасці камандзіра стралковага ўзвода. Пачалася зіма, сцюжа, хоць і не такая, як на Волзе. Сёлы ўсе разбітыя, баі за кожны пагорак, за кожную балку… Ахвяры страшэнныя. Пяхоту выбівалі спрэс. Танкам таксама хапала, гарэлі, бы свечкі.

***А. А.:*** А колькі пад тваім камандаваннем змянілася пехацінцаў-салдацікаў, пакуль ты камандаваў?

***В. Б.:*** Цяжка сказаць. Але мы кожны тыдзень атрымлівалі папаўненні.

***А. А.:*** Гэта значыць колькі чалавек?

***В. Б.:*** Можа, чалавек 60. Ведаеш, сістэма была такая.

Скажам, удзень мы вядзем бой за сяло, а сёлы ж ва Украіне вялікія. Пад вечар выбілі, немцы пайшлі. А мы прыйшлі…

***А. А.:*** І пабралі мужычкоў?

***В. Б.:*** Так. Але ж мы ў сяле не спынімся, трэба ж гнаць немцаў, пакуль яны адступаюць. Хіба забяжыш, схопіш дзе кавалак хлеба, калі ён ёсць, якая цётка дасць цёплага бурака, і — зноў у поле. Зноў бой і агонь — выбухі мін, танкавыя стрэлы з абодвух бакоў. І крыкі начальства, мат-перамат асабіста і па тэлефоне. Аж пакуль немцы не спыняцца ў суседнім сяле. Тады і

мы спыняемся ў полі. А ў гэты час ззаду, у занятым сяле дзейнічаюць тылавыя службы, штабы і палявыя ваенкаматы. Гэтыя збіраюць усіх, хто тут сядзеў з 41-га года. Аказваецца, такіх нават зашмат, партызанаў жа там не было, усе дома. Найперш збяруць у стэпе вінтоўкі, што засталіся каля забітыхпараненых. Забітых яшчэ не пахавалі, а іхнімі вінтоўкамі ўжо ўзбройваюць прызыўнікоў. Абмундзіроўкі няма, і яны так, у хатнім, з сідарамі за спіной ідуць ужо ў ланцуг — атакаваць суседняе сяло. Няшмат, аднак, даходзіць да таго сяла. Тады пачынаецца ўсё спачатку.

З камандзірамі тое ж самае, кадравых мала. Памятаю, у нас у роце былі толькі два афіцэры — я і камандзір роты. Тады людзей на ўзводы нават не дзялілі, не было каго. Добра, калі пісар паспее перапісаць прозвішчы, а то ідуць безыменнымі. І гінуць. Таму столькі ў нас цяпер «неизвестных солдат», «пропавших без вести». Такі быў улік. Не было ніякага ўліку. Во кулямёты ўлічвалі, гарматы, танкі. Нават снарады начальства лічыла, бо за іх адказнасць мелі. А за людзей адказваў Гасподзь Бог…

Звычайна немцы не любілі бліжняга, як ён называецца, бою і нішчылі агнём здаля. Наконт агню яны былі майстры, нічога не скажаш. Гэта ў нас вучылі салдатаў з іхніх састарэлых «драгунак», якімі мы дужа ганарыліся, рабіць 6–8 стрэлаў у хвіліну, што было абсалютным глупствам. Немцы сеялі з аўтаматаў, колькі маглі, а іхні кулямёт МГ-42 рабіў 1000 стрэлаў у хвіліну. Іхнія мінамётчыкі ўмудраліся навешваць па 12 мінаў у паветра. Гэта значыць, першая яшчэ не ўзарвалася, а ўжо вылецела дванаццатая. Натуральна, што ў такім шквале агню доўга не выжывеш. Праз дзень-другі або ў земаддзел, або ў здраўаддзел, як жартавалі салдаты. У нас з агнём было куды горш. Славутыя «кацюшы» ўжывалі рэдка, для транспарціроўкі іхняга боезапаса патрэбны былі дзясяткі аўтамабіляў, а гаручага заўжды не хапала. Таму пяхоту падтрымлівала толькі малакаліберная артылерыя — саракапяткі ды 76-міліметровыя гарматы на коннай цязе. Але коні на полі бою жылі меней, чым жылі салдаты.

Аднойчы, пад новы год, я зрабіў першую спробу асвоіць артылерыю. На полі бою каля сціртны саломы наткнуўся на кінутую саракапятку. Перад тым тут стралялі танкі, і гэтыя артылерысты ці, можа, уцяклі, ці іх пабіла — за сціртай ляжала некалькі трупаў. А снарады былі — некалькі скрынак. Як страляць з такога роду гармат, нас у вучылішчы трохі вучылі. І я паспрабаваў. Не па танках — па пяхоце у недалёкім сяле. Расстраляў усе снарады, мой салдацік мне памагаў. Шкада, гармату мы не маглі ўзяць з сабой, пакінулі ля сціртны.

Пасля невялікага перадыху пачалася Кіравагpадская аперацыя, за якую маршал Конеў атрымаў ордэн Леніна, як ён

пісаў, палемізуючы з аўтарам «Мёртвым не баліць». На ягоную думку і думку Сталіна, то была вельмі паспяховая аперацыя. Можа быць, з гледзішча Крамля так яно і было. Але было іншае гледзішча — салдата з заснежанага поля, залітага крывёй і здратаванага гусеніцамі танкаў, на якім быў амаль цалкам разгромлены наш полк, загінуў камандзір маёй роты лейтэнант Міргарад, камандзір батальёна капітан Смірноў, камандзір палка маёр Казар'ян, дзясяткі салдат ды іншых афіцэраў. Пачалося ўсё, як нашу дывізію ўвялі ў прарыў. Наступалі мы ў асноўным ноччу. Дзень звычайна вялі агнявы бой, а ноччу калонай — у стэп, лезлі як мага ўглыб, дзе можна пралезці. Дзе пускаюць немцы. Спаць няма ніякай магчымасці, нельга ніводнай гадзіны. Гэта таксама феномен, вынаходства савецкай ваеннай навукі — прымусіць салдатаў абыходзіцца без сну, думаецца, ні ў адной арміі так не ўмеюць. І вось ідзём сонныя па стэпе, заснежанай дарогай, шмат хто спіць на хаду, спатыкаецца, падае. Тады іншыя лаюцца. Аднойчы, памятаю, я ледзьве не зайшоў да немцаў.

***А. А.:*** Сонны?

***В. Б.:*** Ішлі, ішлі, і я выключыўся.

***А. А.:*** Я ведаю. Хадзіў таксама.

***В. Б.:*** Дарога замеценая, але снег не глыбокі. І вось бачу вакол сябе лета, нейкія дрэвы, быццам алея. А наперадзе сцяна, бы замак, і ў ёй вароты чорныя. Трохі трывожна, але я туды іду, у гэтыя вароты. І раптам чую: Куды прэш? Лажысь! Я прачынаюся. Побач ля дарогі ляжаць нашыя разведчыкі, а наперадзе пасадка, тонкія дрэўцы. Аказваецца, там немцы, і яны ўжо пачалі джгаць трасіруючымі ў наш бок. А я...

***А. А.:*** А ты ідзеш і не чуеш?

***В. Б.:*** Я выйшаў з калоны і іду сабе па дарозе. Калі б не гэтыя разведчыкі, дык і зайшоў бы ў іхнія рукі. А тады сказалі б: перайшоў да немцаў.

***А. А.:*** А колькі ты, сонны, адышоў ад сваіх?

***В. Б.:*** Ну, адышоў недалёка. Можа, метраў дзвесце.

***А. А.:*** І так тупаў гэтыя дзвесце метраў?

***В. Б.:*** Звычайна наперадзе камандзіры і разведчыкі. Гэтым разам яны, відаць, згледзелі небяспеку і пачалі разгортванне.

***А. А.:*** А ты па дарозе шпарыш?

***В. Б.:*** А я пайшоў, як ішоў — па дарозе.

Потым зноў ішлі паначы, помню — шэрань, мароз. Зноў розныя прыгоды былі. Начальнік штаба палка завёў нас не туды, спыніліся Пачалі арыентавацца. А паспрабуй ноччу ў стэпе зарыентавацца па карце. Вакол паўзмрок, ніводнага арыенціра, толькі няўбраная кукуруза ды сланечнік шархацяць на ветры. Стаялі, стаялі, раптам на «вілісе» даганяе генерал, не ведаю, можа,

камандзір дывізіі, сарваў з капітана пагоны, давай біць яго. Але пакуль тое адбывалася, мы хоць трохі драманулі на снезе. Пасля зноў пайшлі. Пад ранак выйшлі да сяла пад гарой, аказалася то Вялікая Севярынка — сяло, якое стала брутальным знакам у маім лёсе. Там каля крайніх хат нейкія ямы, з якіх, відаць улетку бралі пясок, і мой узвод адразу ў іх зашыўся. Як развіднела, здаля ўбачылі будынкі ды трубы вялікага горада Кіраваграда. Але, пэўна, згледзелі нас і немцы.

Нам весці агонь было далёка, а немцы з цяжкіх мінамётаў пачалі шпурляць па сяле, не давалі нікому высунуцца ў поле.

У нас страт не было, а там, ззаду, некаторых пабіла, у тым ліку і афіцэраў з нашага палка. Увечары, як пацямнела, мінамётны агонь спыніўся, і камандзір батальёна капітан Смірноў загадаў выстройвацца ў паходную калону, павёў яе кудысьці ў стэп.

Пасля агнявога напружання трохі адпусціла, стала на душы спакайней. І вось мы ідзём, у стэпе даволі светла, хоць месяца не было. Нейкая дарожка палявая, трошкі наезджаная. Я іду побач з нашым другім узводным, які нядаўна прыбыў у роту.

Ён старшы лейтэнант, артылерыст, але з акружэнцаў і таму яго паслалі ў пяхоту — на перавыхаванне. Наперадзе ідуць камандзір батальёна, далей разведка, а мы ў сярэдзіне калоны.

Можна расслабіцца. Бой грыміць, але дзесь зводдаль і збоку, а тут быццам ціха. Раптам гляджу — побач у зарасніку кукурузы нейкія людзі. Толькі я іх згледзеў і нават не паспеў яшчэ што падумаць, як адтуль густа паласнулі чэргі — трасіруючымі па ўсёй калоне. Чорт ведае, што вакол пачалося, такі ўраганны кінжальны агонь. А паводле загаду камбата ў выпадку нападу нашая рота разгортваецца злева ад дарогі, іншыя справа.

***А. А.:*** І тут давялося ісці насустрач стральбе?

***В. Б.:*** Насустрач не насустрач, а з дарогі давялося збегчы.

Можа, крокаў дзесяць прабег і ўпаў на снег. У мяне быў аўтамат, але пры ім толькі адзін магазін. Раскажу, чаму адзін. Перад наступленнем кінулі нам невялікае папаўненне з тылавых падраздзяленняў. У нашу роту далі адзін ручны кулямёт і прыслалі батальённага пісара. У пісара быў аўтамат, але без патронаў…

***А. А.:*** Падзяліўся патронамі?

***В. Б.:*** Трошкі не так. Спярша пра кулямёт. Вось пачынаюць ужо выцягваць калону, а ў мяне ніхто не хоча браць кулямёт.

Шмат людзей з Сярэдняй Азіі — мая ні бельмеса, мая ні бельмеса. І астатнія адмаўляюцца: я не служыў, не ведаю, як з яго страляць. Каб не кідаць кулямёт, аддаў я яго нейкаму дужаму дзядзьку, каб ён хоць нёс. Нельга ж губляць кулямёт… А тут стаіць пісар без патронаў, мармыча: што мне рабіць, толькі блытацца пад

нагамі? Хітраван, мабыць, хацеў, каб яго адправілі з роты. Тады камандзір роты лейтэнант Міргарад, яшчэ даваенны афіцэр, але таксама акружэнец, кажа: Быкаў, аддай ты яму дыск, каб ён не ныў. Ну, я і аддаў, бо болей аўтаматаў ва ўзводзе не было, усе толькі з вінтоўкамі. А сам застаўся з апошнім, што пры аўтамаце. Тое было, канешне, памылкай. А можа, і паратункам, як пасля выявілася.

А тут, упаўшы, бачу, што справы нашыя — швах. Па-першае, з кукурузы ідуць танкі. Колькі іх там, не зразумець, можа, чатыры ці пяць. Ці яшчэ болей. Узраўлі рухавікі, і яны рушылі, загрукацелі іх кулямёты. А між танкамі — аўтаматчыкі і крычаць: рус, здавайся! Так яны заўсёды крычалі, калі спадзяваліся на сваю перамогу. Ну, я пачаў біць з аўтамата, здалося, задаў ім агню. Але во аўтамат змоўк, значыць патроны ўсе. Азірнуўся назад, а нашы далёка ўжо бягуць у полі. Тут засталіся толькі тыя, што ўжо не кратаюцца. І я ліхаманкава рашаю для сябе праблему: ляжаць ці ўскокваць? Калі праляжу яшчэ хвіліну, дык яны мяне возьмуць. Калі ўскочу, дык буду расшкуматаны кулямётнай чаргой. Што лепей?

Але немцы ў той час перанеслі агонь па тых, што адбегліся далей, мусіць, блізка ля сябе яны цэляў не бачылі. Агняны напор нібы павальнеў. Я ўскочыў і кінуўся перабежкамі. Нават не перабежкамі, а рыўкамі. Ускокваю, а праз тры-пяць крокаў зноў падаю. Затым зноў ускокваю і зноў падаю. І так трошкі адарваўся ад немцаў. Прытым я навучыўся пазнаваць, калі яны страляюць па мне. Як чэргі пачынаюць мільгаць вакол, падаю. А як перамяшчаюцца па іншых, ускокваю. І ў які момант, як бег, па лытцы моцна ўдарыла, бы палкай. І я ўпаў. У боце адразу стала горача, гэта палілася кроў. Я думаю: відаць, перабіла нагу. Калі так, дык усё, скончыўся Быкаў…

Але ўсё ж праз колькі секунд ускочыў, чакаю, падломіцца нага ці не? Не, быццам не падломваецца. Толькі баліць і ў боце ўжо хлюпае. Аўтамат тады я кінуў, без патронаў нашто ён мне. У мяне і так навешана: палявая сумка, дзве гранаты, адна супрацьтанкавая, кумулятыўная. Ці ведаеш ты, Саша, што такое кумулятыўная, у партызан жа, мабыць, такіх не было? А гэта даволі несуразная штуковіна. Па-першае, даволі цяжкая, па-другое, трэба каб яна ўдарыла аб браню сваім донцам, з якога толькі і можа тую браню праламіць. А каб граната так ударыла, у яе рукаятцы зроблены стабілізатар — проста такая стужка мацерчатая.

***А. А.:*** Яна выцягваецца?

***В. Б.:*** Рукаятка аддзяляецца і стужка выцягваецца. Увогуле кідаць яе вельмі нязручна. І тармозіць яна сама сябе, ды яшчэ гэты

палёт… Кідануў я гэтую гранату няўдала. Відаць, не дакінуў, і яна не ўзарвалася. Або я не трапіў, і цяпер не разумею, што атрымалася.

***А. А.:*** Яна не ўзарвалася, калі не ўдарылася?

***В. Б.:*** Магчыма. Але з танка мяне заўважылі, і ён рашуча павярнуў на мяне… Ну тое расказваць доўга, а так гэта секунды… І вось я закруціўся, бы вуж, на снезе і ледзьве паспеў выхапіць з-пад танка свае ногі, як той гусеніцай — па полах майго шыняля і пайшоў далей. Здалося, я ўжо развітаўся з жыццём. Але гляджу, там, дзе танк, хтось ускоквае і шырока размахваецца гранатай, аж адлятае ўбок палявая сумка. З палявой сумкай у нас быў толькі ротны, лейтэнант Міргарад. Выбух, танк засмылеў і неўзабаве запалыхаў на снезе. Там усчалася страляніна, але гэта ўжо нашы забахалі, мабыць, па танкістах. А я з гэтага месца ўсяляк — то бокам, то на каленях пачаў пад дымам прабірацца далей. І тут якраз побач надарыўся мне санінструктар нашае роты, аказваецца, ён бачыў, як мяне параніла.

Санінструктар і кажа: не трэба нам туды, за ўсімі, немцы якраз туды і цаляюць. Давай ў гэты бок, дзе кукуруза, там быццам лагчынка. І праўда, мы ўзялі ўбок, дзе тырчэла нейкае бадыллё, і выйшлі з-пад удару, які кіраваў на сцірту.

Пасля патрапілі на нейкую дарожку. Там ён сцягнуў мой бот, перавязаў нагу. Рана была скразная, прабіла галёнку, як пасля аказалася, адшчапіла частку косці. Нага ад таго не падламілася, але боль быў страшэнны, я потым праваляўся ў шпіталі, значыцца, студзень, люты, сакавік — амаль тры месяцы. Усё не зажывала…

Яшчэ забыўся сказаць, што, як бег, яны абстрэльвалі нас і з танкавых гарматаў. І вось адзін снарад разарваўся якраз перада мной, мяне моцна выцяла ў жывот, і ў гарачцы той мне здалося, што атрымаў яшчэ і асколак. Асколак у жывот — то вельмі кепска. Хаця спярша боль невялікі, гэтыя параненыя доўга не жывуць. Я ўжо бачыў такіх. Цела ўсё мокрае — не зразумець, ці ад поту, ці ад крыві. Ну, перавязаў мяне санінструктар і пакінуў на дарозе, яму трэба было ў роту. У нашай жа арміі быў такі загад, што байцам забаранялася пакідаць поле бою дзеля суправаджэння параненых. Ля сціртаў грымеў бой, туды пайшлі танкі, і мой санінструктар быў там патрэбны. Дарэчы, ён там і загінуў. Там жа загінуў і камандзір роты Міргарад, ды і шмат іншых. Сцірты гарэлі ярка ўначы, і адтуль на дарозе паявілася фурманка з параненымі. Але то была фурманка не нашай — суседняй часці, і ў ёй сядзела дзяўчына-санінструктарка.

Мяне пасадзілі таксама. Праз нейкі час мы спусціліся з пагорачка, наперадзе ляжала вялікае сяло з царквой. Там дзяўчына кагось папытала, дзе санчастка, куды параненых? Далей

было тое, што апісана ў аповесці «Мёртвым не баліць». З абсалютна дакладнасцю.

(Мне цяжка ўспамінаць не толькі дзяцінства, але і сваё юнацтва таксама, так мала там радаснага. Не думаў я і пісаць пра тое. Але пасля, як ужо заняўся літаратурай, неяк за рэстаранным сталом расказаў пра гэты свой выпадак і раненне былому рэдактару «ЛіМа» Нічыпару Пашкевічу. І той, можа, з ветлівасці, гэтак кажа: во, амаль гатовая аповесць. Тыя словы я неяк запомніў і праз невялікі час напісаў «Мёртвым не баліць», ад якіх той надта партыйны крытык зусім не парадаваўся. Ну, але гэта між іншым.)

***А. А.:*** І Сахно які-небудзь прыходзіў?

***В. Б.:*** І Сахно там быў, і іншыя. І сябра я там сустрэў, аднакашніка з вучылішча. І выбірацца мы хацелі разам, як раніцай сяло атакавалі нямецкія танкі. І прыгод увогуле было больш, чым там напісана, але я ўжо не хацеў перагружаць імі тэкст. Дзён пяць мы, параненыя, бедствавалі ў нямецкім тыле, можна сказаць, гінулі па некалькі разоў. Ну, але гэта асобная гаворка.

***А. А.:*** А гэты выпадак, калі пахавалі цябе?

***В. Б.:*** Ну, вось, значыць, трэба вярнуцца... Як прывезлі мяне ў санчасць. Там ужо сабралася некалькі параненых, пасля падышло болей. Прыйшоў знаёмы малодшы лейтэнант, мой аднакашнік па Саратаўскім вучылішчы. Была і адна санінструктарка, баявітая дзеўка накшталт маёй Каці. Мы нават выпілі трохі — знайшлося ў некага. Потым знайшлі ў гаспадара ў падпечку трусоў, давай трусоў гэтых рэзаць. Хоць і параненыя, а есці хочацца. Бліжэй да ночы разбалелася мая нага, і я прылёг на лаўцы. Прылёг і задрамаў. І тут нехта мяне будзіць, расплюшчыў вочы. А гэта наш камандзір батальёна капітан Смірноў пытаецца: ты паранены? Хадзіць не можаш? Кажу: не, не магу. Крыху наступаць мог, але сказаў, што не. І ён кажа: во збіраю батальён... Закурыў ён, пагрэўся і пайшоў. Я зноў задрамаў і прачнуўся ад таго, што ўсё хадуном ходзіць, страшэнны абстрэл. Па сяле б'юць мінамёты, чутно, што і танкавыя гарматы таксама страляюць, — гук такі, ведаеш, асаблівы, кароткі. Прыкрыцця ж ніякага, мы ж у сваім тыле. Параненыя затрывожыліся і пачынаюць па адным выпаўзаць на вуліцу. А па вуліцы ўжо мчацца фурманкі, ратуюцца. Гэты самы мой аднакашнік, малодшы лейтэнант кажа: давай пойдзем да царквы, там цераз поле — нашы.

Неяк мы з ім выйшлі з нашай хаціны, але да царквы не дайшлі, нас абстралялі. Я вярнуўся, кажу: там мы не пройдзем. Але ён пайшоў адзін. Ды праз нейкі час расчыняюцца дзверы, і ён

ляжыць на парозе.

***А. А.:*** Параненыя?

***В. Б.:*** Дзвюма кулямі ў горла. Крывавая пена з рота і з ранаў.

Нешта хацеў мне сказаць, ды толькі хрыпеў. Памёр ён на маіх руках. Вось... Яшчэ праз гадзіну ў хаце засталіся толькі тыя, што не маглі хадзіць, астатнія паразбягаліся. Танкі ўжо ўвайшлі ў сяло. Бачу, што тут мне не адсядзецца. Нага распухла за ноч і баліць горш, чым напачатку. Ступіць я ўжо не магу. Тады і я выпаўз. У двары нейкі дзядзька з пограба дае мне пачак аўтаматных патронаў і зноў кумулятыўную гранату. Патронаў я не ўзяў — у пісталеце ў мяне былі патроны. А гранату ўзяў. Адкруціў ручку, паглядзеў, ці ёсць запал. Запал быў на месцы.

***А. А.:*** Мужык цябе ўзброіў?

***В. Б.:*** Гэта ўсё нехта пакідаў, а ён прыбраў і аддаў мне.

Значыць, я ўзброіўся. Вось тут, думаю, і будзе мой фінал.

Фініта ля камедыя...

І я папоўз на дарогу.

***А. А.:*** Як Іваноўскі?

***В. Б.:*** А на вуліцы ўжо, мабыць, нашыя схлынулі, нікога няма. Танкі ўсё страляюць, блізка страляюць, асабліва на тым канцы. І тут паяўляецца параконная фурманка, на ёй чалавек пяць салдат. Ага, думаю, стой! Крычу ім і махаю гранатай. Калі не спыняцца, думаю запушчу ў іх гранатай. Але чорта два яны спыніліся, пранесліся міма. Рашучасці кінуць гранату ў мяне не хапіла. Ды ўсё ж там знайшлася добрая душа, фурманка спынілася. Саскоквае адзін у паўшубку, падбягае да мяне, хапае пад пахі. Так я апынаюся ў фурманцы. І як урэзалі мы з гэтага сяла ў поле, вырваліся, можна сказаць, з-пад танкаў. А тыя не спяшаюцца нас даганяць, але страляюць з гарматаў — болей цераз нашыя галовы па тых, што далёка наперадзе. І, можа, ужо лічаць, што ўратаваліся. У паветры толькі фыркаюць танкавыя балванкі. Я аберуч трымаюся за нешта ў фурманцы і гляджу назад, на сяло. Ля царквы бачу нашу санчасць у нехуцавай мазанцы. Адзін танк там раптам спыняцца і з вуліцы двума стрэламі б'е па хаціне, тая знікае у воблаку пылу. І ўсё. Мабыць, тыя, хто там заставаліся, абстралялі яго ці кінулі гранату, во танк і расправіўся з імі. Па ўсёй верагоднасці тое ж назіраў аднекуль і мой камбат.

***А. А.:*** Які ноччу туды заходзіў?

***В. Б.:*** Які заходзіў і пайшоў збіраць батальён. Дык ён, канешне, рашыў, што там застаўся і Быкаў. Так мяне спісалі з ліку жывых, бо ў той полк я болей не вярнуўся. Пасля ў мяне было яшчэ некалькі дзён прыгод, прыкладна так, як апісана ў «Мёртвым не баліць». (Дарэчы, гэта ці не адзіная аўтабіяграфічная аповесць, дзе

ўсё ці амаль усё — праўда. Але тое, што праўда, і стала непрымальным для часу сацрэалізму. Можна сказаць, што галоўным ворагам гэтага славутага метаду была менавіта праўда. Праўду адсочваў увесь дзяржаўнапартыйны інстытут выдаўцоў, рэдактараў, рэцэнзентаў і крытыкаў. У той час, як валадары нашых думак не пераставалі правакацыйна агітаваць: пішыце праўду! Колькі нашага брата, пісьменнікаў, пагарэла менавіта на праўдзе… А на хлусні, наадварот, — рабілі кар’еру.)

Далей параненых везлі кудысь на брані нашых танкаў. Была ноч, светлая, зімовая. І нас раз за разам бамбілі нямецкія самалёты. У часе бамбёжак танкі спыняліся, і танкісты хаваліся пад імі. Каб, калі загарыцца, паспець адбегчыся. А я ні злезці, ні адбегчыся не мог і ляжаў пад бамбёжкамі зверху. Толькі моцна трымаўся, каб не скінула выбухам бомбы. Але пасля адной асабліва лютай бамбёжкі, калі на сельскай вуліцы згарэлі дзве машыны, не вытрываў і скаціўся долу. Узлезці назад не ўдалося, і я запоўз у нейкую хату. Танкі пайшлі далей. Куды? — я не ведаў, ды і танкісты самі не ведалі. Даведаліся пасля. Ну, дык запоўз я ў хату, хтосьці з танкістаў памог, узабраўся на ложак. Цёмна, ноч. На стале нешта стаіць, гаршчок нейкі. Запусціў я туды руку, намацаў яшчэ цёплы бурак і пачаў яго есці. Ля мяне побач хтосьці ўжо ляжаў, мая рука ўсё трапляла ў штось мокрае на саломе, ды мне было не да таго. Я адразу заснуў. А як прачнуўся, пачало світаць, гляджу на суседа, а гэта немец, обер-лейтэнант. Але ўжо нежывы, ужо сцюдзёны і нават задубянеў. А быццам быў жывы, як я ля яго клаўся.

Ранкам пачаўся бой, ужо за гэтае сяло. Помню, узышло сонца, усё ярка высвеціла. На вуліцы нейкія выкрыкі, хтосьці кудысь бяжыць, а ў мяне, відаць, тэмпература паднялася, і я перастаў разумець, што адбываецца. І ад гэтай калатнечы, і ад недасыпання. Ва ўсякім разе, я ўжо не ведаю, хто ў сяле — нашы ці немцы? Бо страляніна чулася ў адным канцы, пасля ў другім, раздаваліся незразумелыя крыкі, затым усё прыціхла. Думаю, што ж я тут буду ляжаць, чаго дачакаюся? Выпаўз у сені. Каля дзвярэй адгароджаны дошкамі засек з бульбай, такой дробненькай, мабыць, на корм. Я прылёг на гэтую бульбу, дастаў пісталет і ляжу. Чую, бягуць па вуліцы, па дварах, але быццам гаворка не наша, значыць, немцы. Дзверы зачынены, але калі іх расчыніць, дык я тут жа, насупраць дзвярэй, можа, трошкі збоку. І вось туп-туп па двары. Адчыняюцца дзверы — немец! Адной рукой дзверы трымае, а ў другой — аўтамат. А я з пісталетам гляджу на яго. Канешне, я магу стрэліць у кожную секунду, а яму для таго трэба перахапіць аўтамат у правую руку. І вось я не стрэліў, а ён кінуў дзверы і павярнуўся назад.

***А. А.:*** Ты думаеш, ён цябе заўважыў?

***В. Б.:*** Ён мог мяне не заўважыць, бо ў сенях было цёмна, а на вуліцы…

***А. А.:*** Сонца.

***В. Б.:*** Сонца сляпіла. Пасля я ўсё ўспамінаў пра яго, калі быў у Нямеччыне. Атрымалася так, што мы падарылі адзін аднаму жыццё.

***А. А.:*** Ён цябе не заўважыў, а так бы адскочыў і лупануў здаля.

***В. Б.:*** Вельмі магчыма. Я там праляжаў яшчэ нейкі час. Пасля, як відаць, немцы адсюль вымеліся. Нашы машыны пайшлі ўжо ў іншым кірунку. Але рэч у тым, што… Забыў табе расказаць пра папярэднія падзеі. Перад тым, як танкі завезлі нас сюды, у гэта сяло, мы абараняліся ў полі, у стралковым ланцугу. І я ляжаў з вінтоўкай і страляў. Танкі з таго сяла, адкуль нас выбілі, далей не пайшлі, яны выбівалі нас у полі. А нейкія камандзіры арганізавалі абарону і хацелі тыя танкі стрымаць. Увогуле гэта ім удалося, аж пакуль не падышлі нашы танкі. Во яны і ўзялі нас на браню, каб выхапіць з-пад удару. Але ж танкі ведама куды ідуць — не ў тыл жа. Танкі прарываюцца ў глыб абароны ворага, а мы на іхняй брані ратуемся ад немцаў. Сітуацыя самая дзікая, але ж іншая немагчыма. Бо танкі не пашлюць жа ў тыл з параненымі. Не такая гэта каштоўнасць — паўтузіна скрываўленых недабіткаў… Па вуліцы пайшлі нашы машыны. Праўда, адкуль і куды, не зразумець. Але я ўжо выпаўз з падворка і стаў ля паркана. Ідзе бензазапраўшчык, і я пачаў махаць яму рукой, ды ён не спыніўся. Стаю, гляджу яму ўслед. Той выехаў з сяла, едзе палявой дарогай, а там раздарожжа. Ён скіраваў ўлева, а там ярок невялікі і з таго ярка па дарозе — трасы. Запраўшчык і пыхнуў, бы факел.

Ну, а пасля мяне ўсё ж падабрала адна машына і давезла да чыгуначнага пераезду. Там былі нашы матацыклісты з нейкага разведбата і яшчэ нейкія байцы. Мы сунуліся ў будку чыгуначную — можа, аднак, гэта былі чыгуначныя казармы. Рабочыя ў іх жылі. І там жах адзін. Ляжыць на падлозе чалавек пятнаццаць нашых забітых… Аказваецца, танкісты ўчора пасцягвалі сюды сваіх параненых, а па чыгунцы ходзіць нямецкі бронецягнік — гэта ж яшчэ у іхнім тыле. На досвітку ў тую казарму зайшлі немцы з цягніка і ўсіх параненых пастралялі. Дзядзька-рабочы кажа: ратуйцеся, хлопчыкі, яны хутка зноў вернуцца! Ну, мы і пайшлі. Але куды? Ззаду чыгунка з бронецягнікам, злева відаць, як за аўражынай немцы штосьці капаюць, далей шаша, па якой гужом ідуць нямецкія машыны, пэўна выязджаюць з Кіраваграда. А наперадзе — міннае поле, яшчэ ўказальнікаў не прыбралі, на дарозе таблiцы з «Minen». Але іншае дарогі ў нас няма, а за полем

хоць сціпрты, нейкае сховішча. І старшы лейтэнант, які быў сярод нас, кажа: ану, упярод! Хто першы? У яго некалькі падначаленых у белых маскхалатах. Але іх ён не пасылае, ён хоча паслаць кагосьці з чужых. І паслаў аднаго, пераненага у галаву пехацінца. Той падарваўся першы. Затым другі пехацінец пайшоў, але падарваўся якраз не ён, а «свой» у белым халаце, які ішоў, здаецца ці не чацвёртым. Хоць і ішлі ж па слядах першага. Я стыргікаў ці не пятым. Урэшце дабрылі да сціртаў…

***А. А.:*** Скажы, вось ты пісаў, а Каця там была?

***В. Б.:*** Не, Каця — гэта ўжо прыдумка.

***А. А.:*** А Сахно таксама не было? Таксама прыдумка?

***В. Б.:*** А старшы лейтэнант чым не Сахно? Аднае пароды гэтыя людзі. Сам жа ён першым не пайшоў, другіх пасылаў.

***А. А.:*** Ён учыніў з вамі тое, што вы з тымі мужычкамі.

У сяле з тымі хахламі.

***В. Б.:*** Закапаліся мы ў сціпрты і сядзім. Назіраем. Сапраўды, праз нейкі час прыходзіць бронецягнік, спыняецца на пераездзе. З яго выходзяць чалавек пяць немцаў і ідуць у наш бок. А там у полі стаялі дзве пакінутыя машыны, мы думалі, яны таксама падарваліся на мінах. Аж не. Тыя немцы дайшлі да машын, там нешта парабілі (можа, замініравалі), павярнулі назад, да чыгункі. Час ідзе, мы чакаем. Баі ідуць вакол нас, на ўсім далягллядзе. Скрозь нешта гарыць, бухае. Тут жа, дзе мы, цішыня, апроч нас, няма нікога. Немцы нас не бачаць. І раптам проста над сціртамі планіруе нямецкая «рама», трохі прабягае па снезе і спыняецца. Вылазіць лётчык, адчыняе капот, пачынае штосьці там калупацца. І адзін з разведчыкаў кажа старшаму лейтэнанту: а давайце захопім «раму». Я авіямеханік, магу ўзляцець.

***А. А.:*** Як Дзевятаеў?

***В. Б.:*** Увогуле дзіўнаваты намер, але што рабіць? Улезлі мы добра, невядома ці выседзім хоць бы да ночы. Карацей кажучы, пайшлі трое да самалёта. Ну ў белых халатах, не адразу зразумееш, хто. Не дайшлі, можа, метраў пяцьдзесят. Нешта немцы закрычалі, і нашы нерашуча спыніліся, нехта схапіўся за аўтамат. І ў той момант разварочваецца кулямётная турэль, і з буйнакалібернага як паласнуць па разведчыках… Самалёт завёўся, зрабіў невялікую разбежку і падняўся ў неба.

Выходзілі адтуль ноччу, свяціла поўня, таксама натрываліся пакутаў. На гэты раз старшы лейтэнант першым паслаў мяне, і я стыргікаў, абапіраючыся на чыюсь вінтоўку. Але ўрэшце перайшлі шашу і ў нейкія сяле выйшлі да сваіх. Але сяло бамбяць «юнкерсы», сыплюць касетнымі бомбамі. У хаце, дзе ляжаць параненыя, чакаюць вывазу, гаспадарыць дзяўчына ў пагонах, выпісвае карткі пярэдняга краю і кіруе пагрузкай. Але транспарту няма, а

параненыя нервуюцца. Даходзіць чарга да мяне, пытаецца: з якой часці? Называю сваю дывізію, а яна кажа: то не наша часць, я не дам картку. Што рабіць — без гэтай карткі мяне не прыме шпіталь. Я чакаю. Тады налятае чарговая партыя пікіроўшчыкаў, выбухі, вылятаюць прэч вокны. І дзяўчына, страсянуўшы з сябе тынкоўку, таропка падпісвае мне картку. Можна ў тыл. Але на чым? Яшчэ з адным параненым у руку сяржантам мы выбіраемся на вуліцу. Бамбёжка скончылася, ды на вуліцы пуста. І раптам аднекуль «віліс» з афіцэрам, і мой сяржант крычыць: Коля! Шафёр — ягоны знаёмы. На тым «вілісе» пад вечар я быў ужо ў армейскім шпіталі ў Александрыі. Во як пашэнціла ўрэшце.

***А. А.:*** І колькі ты ляжаў у шпіталі?

***В. Б.:*** Тры месяцы.

***А. А.:*** Дзе?

***В. Б.:*** Спярша ў Александрыі, пасля пад Знаменкай, яшчэ пад нейкаю станцыяй. Шпіталь перамяшчаўся…

***А. А.:*** Па-мойму, пра шпітальнае жыццё ты яшчэ нічога не пісаў.

***В. Б.:*** Можа, напішу калі. Разумееш, вайна — скрозь чалавечае няшчасце, а шчасце, як вядома, дужа адносная рэч. У параўнанні з перадавой кожны шпіталь можа здацца курортам. Мяне прывезлі ў Александрыю, шпіталь там у цэнтры горада, здаецца, у будынку школы. Памылі ў лазні, пражарылі вашывую вопратку, далі чыстую бялізну. Параненых шмат, месцаў, як усюды, не хапае. Нават афіцэры ляжаць па два ў ложку. Памятаю, маім суседам быў лейтэнант-танкіст са знакамітым прозвішчам Варашылаў. (З Варашылавым ляжаў, казаў пасля.) Той шпіталь належаў пятай танкавай арміі, таму пераважна тут былі танкісты — параненыя, абгарэлыя, розныя. Абгарэлыя асабліва страшныя. Абпалы дужа балючыя і доўга не гояцца. Людзі пакутуюць, часта нервуюцца і лаюцца. З сёстрамі, між сабой, з начальствам. А начальства тут — дактары ці не спрэс жанчыны рознага ўзросту. Мужчыны — толькі палітрукі, якія і тут ведаюць адно і тое ж — сваю надаедную прапаганду, прывіваць нянавісць да нямецка-фашыстоўскіх захопнікаў. Тае нянавісці ў нас саміх звыш меры — і не толькі да фашыстоўскіх захопнікаў. Некаторыя параненыя, не стрываўшы, са злосці пасылаюць іх на тры літары, тады ў палаце скандал, паяўляецца СМЕРШ, недысцыплінаванага кудысь пераводзяць. На перадавую, аднак, ніхто не ірвецца. Усё ж тут як-ніяк цёпла, ціха і не забіваюць. Праўда, галаднавата, але да голаду за жыццё мы прывыклі. Часта узнікаюць размовы, успаміны пра нядаўнія баі. Там я шмат што пачуў наконт славутага «порядка в танковых войсках», пра якасць хвалёных танкаў. Пра саракапяткі танкісты і слухаць не хацелі, для іх гэта

быў не супрацьтанкавы сродак, а «хлапушы», як яны казалі. Гаворка часцей ішла пра «тыгры» і «фердынанды», якія са зручных пазіцый выбівалі нашы танкавыя батальёны. А іх паспрабуй дастаць. Пастаўленая на трыццацьчацвёрцы 76-міліметровая гармата іх не брала, а яны са сваёй 88-міліметроўкі наскрозь прабівалі браню нашых танкаў. А мы, дурні, былі засвоілі, што наша трыццацьчацвёрка — лепшы танк у свеце. Паслухалі б прыхільнікі яе, што пра яе кажуць тыя, хто ў іх гарэў і гінуў. Але ж наша, рускае, усё лепшае — і састарэлая «драгунка» ўзору мінулага стагоддзя, і ППШ, аўтамат фінскага ўзору, што выпускаўся там з 1934 года, і, вядома ж, наш суконны шынелак на «рыбьем меху». Што ўжо казаць пра франтавыя шпіталі, пра якія не раз з бляскам пісаў Віктар Астаф’еў. Галоўнае наша лякарства — іхтыёлавая мазь, чорная смярдзючая мазюка, якой мазалі усе раны. Добра, калі рана чыстая, а калі ў ёй зямля, часткі бруднай апраткі... Пеніцыліну ж тады не было. Найбольшая надзея была на хірургаў, якія рэзалі няшчадна, тым, можа, і найбольш ратуючы. Кармёжка ўсё тая ж, вайсковая, хіба што гарачая — хлеб, каша пярловая, радзей пшонная, суп вермішэлевы ці зноў жа пярловы. І традыцыйны чай. (На фронце мы дзівіліся, што немцы п’юць каву, напой, які мы ў сялянстве ніколі не спытвалі і які здаваўся нам агідным, бы з сажы. Але яны пілі яго з малаком.)

Афіцэраў усё ж імкнуліся размеркаваць па якіх-небудзь будынках, салдат жа клалі звычайна ў апусцелых за вайну калгасных аборах, кароўніках ці свінарніках. Трохі вычышчалі гной, слалі салому, якую накрывалі зверху ўніверсальнай салдацкай апраткай — плашч-палаткамі. Укрываліся кожны сваім шынялём ці ватоўкай, спалі нераспранутыя. Зімой на праходзе ставілі жалезную грубку-бочку, якую палілі круглыя суткі. Вакол месцілася 2–3 сотні параненых.

Як пачала паджываць нага, стаў я выходзіць у горад. Недалёка быў рынак, дзе прадавалі семкі, махорку, малако, гарачую бульбачку, яшчэ нешта. Але тут аказалася, што ў мяне няма разліковай кніжкі, таму мне нельга плаціць зарплату. Увогуле зразумела, бо тую кніжку я ніколі не атрымліваў, на перадавой навошта мне былі грошы? Затое ў мяне, апроч шынелка, была аўчынная камізэлька, якую я і загнаў, купіў бутлю бураковай самагонкі. Пасля на той жа рынак аднёс цёплыя ватныя штаны — блізілася вясна, таяў снег. Рана мая то гаілася, то давала рэцыдыў, разы два на тыдзень рабілі перавязкі. Са сваёй дывізіяй не меў ніякай сувязі, нікога адтуль не паступала, і не дзіва: то быў шпіталь іншай арміі. Але за тым, што рабілася на фронце, увогуле сачылі, кожны дзень прывозілі параненых, тыя расказвалі. Асаблівы наплыў быў, як пачаўся наступ на поўдзень, як

фарсіравалі Буг. Неўзабаве шпіталь перамясцілі трохі на поўнач, пад Знаменку. Зноў — у калгасную абору, афіцэраў — у будынак сельскае школкі. Там пачалі выдаваць лёгкі духмяны табак, і я прывучыўся курыць. Мне ішоў дваццаты год, а я яшчэ не пачынаў курыць — ганьба для савецкага афіцэра, як пасміхаліся старыя курцы.

Нарэшце пад чарговае перамяшчэнне шпіталя выпісалі. З яшчэ адным выздаравелым-параненым, танкістам, малодшым лейтэнантам Тавакіным атрымалі прадпісанне ў аддзел кадраў 5-й танкавай арміі. Ішлі пехатой за фронтам, які пачаў наступ. Ад сяла да сяла, кожны раз начуючы, дзе заставала ноч, там жа і кормячыся. Тагачасныя ўкраінскія сёлы, двойчы абрабаваныя — калектывізацыяй і вайной — былі не багацейшыя за беларускія. Праўда, можа, не так пабураныя — там не было «партызанкі». Звычайна, як мы паяўляліся на парозе, цётка пачынала бедаваць: ай, чым жа я вас нагадую, у мяне ж фасоля ды бараболя. Нам добра была і фасоля з бараболяй. Калі-нікалі, праўда, перападала і шклянка самагонкі — смярдзючай і мутнай буракоўкі. Але і таму мы былі радыя. Усюды па дарогах і сёлах пыталіся мы з Тавакіным пра свае часці, і аднойчы мой танкіст нешта надыбаў, напаў на след свайго танкавага корпуса. Але мне туды было неяк, я ж не танкіст, і я прадаўжаў пошукі адзін. Вясна ўжо была ў разгары, снег на Украіне той год растаяў яшчэ ў лютым. Дарогі былі жахлівыя, суцэльная гразь. Клейкі ўкраінскі чарназём адрываў падэшвы, і мае кірзачы ашчэрылі зубы. Скрозь войскі, войскі... Адны калоны ішлі на поўнач, іншыя на захад ці на поўдзень — не зразумець. Аднойчы сеў на ўзбочыну перадыхнуць, гляджу, як брыдзе пяхота, за ёй пайшлі передкі з гарматамі. І раптам бачу на адным знаёмы вусаты твар — то ж старшы лейтэнант, узводны, з якім я расстаўся ў ноч свайго ранення. Я да яго — куды і адкуль, як тут апынуўся? Як апынуўся? — кажа: а я нікуды і не выбываў, толькі перайшоў у батарэю. Але ж дзе наша дывізія? — пытаюся я. А во яна, кажа, перакідваюць на іншы участак. Я падзівіўся: перада мной прайшоў мой полк і — ніводнага знаёмага твару? А старшы лейтэнант кажа: і не ўбачыш знаёмых, нікога няма. А наогул навошта табе вяртацца ў гэтую дывізію, якая надта ж невязучая, заўжды яе б'юць. Пашукай чаго іншага. (Наіўны чалавек — ён меркаваў, што дзесьці ёсць дывізіі «вязучыя».) Але тады я яму паверыў і зрабіў так, як ён раіў.

Праз дзень у нейкім ацалелым маёнтку напаткаў штаб 4-й гвардзейскай арміі, прад'явіў свае дакументы, запоўніў патрэбныя анкеты і атрымаў накіраванне ў 252-ю СД. Амаль шчаслівы выйшаў на вуліцу. Вакол было ціха, на фронце ішла перадыслакацыя, толькі ў адным баку нешта надта падазрона

грукоча, бы таўкачамі б'юць у зямную ступу. Пытаюся ў сустрэтага афіцэра: можа, ведае, дзе шукаць 252-ю СД? Той уважліва паглядзеў на мяне і паказвае рукой туды, дзе грукоча. Кіруй, кажа, на тыя грымоты, не заблудзішся. І я трохі пашкадаваў тады пра сустрэчу на дарозе з дывізіяй, якая пайшла ў тыл. Ды было позна.

Праз дзень я ўжо трываў бязлітасную агнявую калатнечу, ад якой грунтоўна адвык за тры шпітальныя месяцы. Трудна было зноў прывыкаць, асабліва як неўзабаве на нас наваліліся нямецкія танкі.

Аднойчы, пры перамене пазіцый, наляцела шасцёра «юнкерсаў», якія канчаткова дабілі батарэю, і мы засталіся без гармат.

***А. А.:*** Давай расказвай.

***В. Б.:*** Дык вось засталіся без гармат, дванаццаць салдатаў, я і камандзір батарэі — капітан. Салдатаў аддалі ў батальёны на папаўненне, а мы сядзім на КП за узгоркам. У мяне настрой горш не прыдумаеш — толькі прыйшоў у «вязучую» дывізію, і на табе — зноў разгром. Але капітан не сумуе: ён атрымаў новае прызначэнне — начальнікам артылерыі суседняга палка. Трэба сказаць, што начальнік артылерыі — гэта не камандзір батарэі, гэта бяры вышэй, і рызыка мінімальная — жыць будзеш. Вось ён дастаў фляжку са спіртам, мы трохі выпілі. Капітан чакае канавода з канём, якіх ужо паслалі па яго з новае службы. А во і канавод, вядзе на повадзе ладнага коніка для новага начарта. Мы развітваемся: ну, Быкаў, жадаю табе дажыць да пабеды. Ты дык, можа, і дажывеш, думаю я, а мне... З ціхай зайздрасцю я праводзіў яго. Наш КП, можа, за кіламетр ад пярэдняга краю, але за пагорачкам. А яму трэба ехаць у тыл, але таксама цераз пагорачак, дарэчы ўвесь раскапаны міннымі выбухамі. Але ёсць і другая дарожка — у аб'езд, па лагчынцы. Вось, гляджу, мой капітан даскакаў да гэтай развілкі, трохі прымарудзіў, мабыць, рашаючы, куды скіравацць. І скіраваў напрасткі, цераз пагорак. Дужа порстка паехаў. І вось ён выскоквае на пагорак, і тут міны — бах, бах! Ён хутчэй. А міны зноў бах, бах, бах! І ўсё там завалакло дымам ды пылам. А як тое воблака здзьмула ветрам, гляджу, конь бяжыць з пагорка, повад цягнецца, а седака няма. Канавод вярнуўся адзін. А ўвечары выцягнулі забітага капітана. Во такі ён, вайсковы лёс: парадаваўся перад сваёй пагібеллю.

***А. А.:*** А як цябе ў палон ледзь не ўзялі?

***В. Б.:*** Ну, гэта на тым самым месцы. Дзе мы сталі ў абарону. Пад Унгенамі — ёсць такая памежная станцыя перад Румыніяй, дзе цяпер мытнікі шмон робяць. Калісьці мы яе бралі. Здавалі таксама. Гэта перад якой — «Праклятая вышыня». Ну дык паколькі я без гармат, паслалі мяне на ПНП (перадавы назіральны

пункт) камандзіра палка дзяжурыць ноччу. Камандзір палка на сваім КП спіць ноччу (отдыхает, на уставном языке), а мы павінны не спаць, глядзець і слухаць. У маім распараджэнні разведчык і тэлефаніст. Увогуле ПНП — гэта земляная шчыліна, трохі прыкрытая жэрдкамі з плашч-палаткай наверсе. А на перадавой усталявалася некаторае зацішша, асабліва ўначы. Перад намі трошкі ўбаку на нейтралцы месціцца невялічкае малдаўскае сяльцо, хат, можа, 10–15. Людзі адтуль, канешне, уцяклі ў тыл, хто ж уседзіць там пад абстрэлам. Некалькі хат там згарэла, а рэшта пакуль стаіць. І вось мой разведчык надыбаў там ноччу нейкага дзядзьку, які застаўся пільнаваць хату. Ну і, канешне, у яго ёсць некалькі курыц і віно. І вось мы з ім аднойчы... Камандзір палка калі пазвоніць ноччу гадзін у дванаццаць, а так спіць. За гэты час мы...

***А. А.:*** Курэй памацаць рашылі?

***В. Б.:*** Пачалі наведвацца туды. Тэлефаніст застаецца, а мы ідзем, тым болей блізка, можа, якіх метраў сто ўніз па схіле.

Дзядзька зловіць нам курачку, абскубе, зварыць (уначы дыму не відно), ну віна прынясе гарлачык. Мы самі паямо ў цяпле і тэлефаністу прыхопім у кацялочку. У полі халадзіна, а ў хаце добра. Вырашылі, што можна і кімарнуць з гадзіну ў цяпле. Так мы там пасвіліся. Не сказаць, што часта, але разы чатыры хадзілі. І вось аднойчы яшчэ курачка не зварылася, што такое?.. Стралянiна, выбухі гранат, нейкія крыкі... Ну мы, канешне, кулём на гароды... Побач нехта яшчэ бяжыць, страляюць з аўтаматаў, нічога не разабраць у цемры. Прыбеглі на ПНП, а там тэлефаніст ужо адбіваецца, камандзір палка крычыць у трубку: што адбываецца, дзе Быкаў? У сяле ўжо гараць хаты, стралянiна, праўда, сціхла. Я пачаў апраўдвацца: хадзіў высвятляць, што там здарылася. А здарылася тое, як пасля высветлілася, што туды хадзілі не толькі мы з разведчыкам, але хадзіў і камандзір батальёна з начальнікам штаба, да таго ж хадзілі і немцы таксама.

***А. А.:*** Пажывіцца.

***В. Б.:*** Мабыць. Дык вось тыя самыя пехацінцы...

***А. А.:*** Не падзялілі курачку з немцамі?

***В. Б.:*** Сутыкнуліся з немцамі, якія наладзілі там засаду.

Пабілі нашых, начальніка штаба ўзялі ў палон. А нам усё ж пашчасціла. Пасля пачалося расследаванне. СМЕРШ займаўся, але неяк абышлося. Ні я, ні разведчык, ні тэлефаніст не выдалі нашыя паходы па начах, а так ведаеш, што магло быць?

***А. А.:*** І не столькі за ваша жыццё, колькі за тое, што кантакт мог быць.

***В. Б.:*** Хадзілі, сустракаліся з немцамі...

***А. А.:*** Гэта ж мы ўжо наступаем, 44-ы год. І ўсё роўна

баяліся кантакту? Думалі, што вы пабяжыце туды. Дарэчы, вось у «Мёртвым не баліць» ёсць Каця на мінным полі. Таксама ты…

***В. Б.:*** Такіх я ведаў.

***А. А.:*** Вельмі рэальны вобраз.

***В. Б.:*** Санінструктаркі такія былі. Бабы, дзеўкі. Былі розныя, канешне. На перадавой звычайна сустракаліся тыя, што непатрэбныя былі ў тылах. А прыгажэйшыя, маладзейшыя, канешне, заставаліся ў штабах, на розных пасадах. Хоць па штату і лічыліся санінструктарамі, сувязісткамі, снайперамі, але жылі пры начальстве. Кожны маёр, палкоўнік, само сабой — генерал меў сабе ППЖ, і тое было як бы ўзаконена. Рэдка якая маладая і прыгожая апыналася ў батальёне, не кажучы ўжо пра роту. І яны не былі дурніцамі, не дужа ірваліся на перадавую. Па дарозе ў дывізію я спаткаў дзяўчыну, старшыну ці сяржанта па званні, якую таксама накіроўвалі ў нашу часць. Прыгожая дзяўчына, маладая, здаецца, вострая на язык. Яна ішла ў дывізійны батальён сувязі, але я падумаў, што наўрад ці затрымаецца ў тым батальёне. Якраз пра тое мы тады і гаварылі, і яна так калюча адказвала. Потым я пайшоў далей, у полк, батальён, а дзяўчына засталася ў штабе дывізіі. Праз нейкі час я сустракаю яе ўжо ў нашым палку, пытаюся: чаго гэта вы тут? А яна кажа: перавялі.

***А. А.:*** Ніжэй, значыць?

***В. Б.:*** Ніжэй. Ну перавялі, дык перавялі. А пасля ўжо, калі я быў камандзірам узвода аўтаматчыкаў і бегаў пад агнём з аднаго фланга на другі, якраз пачуў знаёмы голас. Ля КП батальёна. Трохі мне стала цікава, зазірнуў у ровік, а там ля тэлефона — тая дзяўчына. Я пытаюся: што, зноў перавялі? Так, кажа, не ўжылася з ротным у палкавой роце сувязі… Значыць, не захацела спаць з ім, во ён і спісаў яе ў батальён, на самы перадок.

***А. А.:*** Ну так. Гэта і сродак ціску быў таксама.

***В. Б.:*** Ну вось. Яе характар і прывёў яе на самую перадавую.

А так бы яна ў тыле, пры ўзнагародах вайну скончыла. А тут ці жывая засталася, не ведаю.

Вясной баі прыціхлі, фронт стаў у абарону. Пасля таго, як мы не надта ўдала падзяжурылі на ПНП, мяне выклікаюць у штаб палка і ставяць новую задачу. З групай салдат у 15 чалавек паехаць у прыфрантавую вёску Барсучэнь і заўтра ж выселіць усё насельніцтва. Сяляне могуць з сабой узяць тое, што улезе на воз. Другі раз нельга. Зразумела? Не? Іспалняйце…

Пайшоў з салдатамі шукаць тыя Барсучэні. Аказалася, кіламетры за тры ад перадавой, знайшоў старшыню сельсавета, растлумачыў задачу. Памочнікам у мяне быў старшыня Ганчарэнка, былы бухгалтар з-пад Вінніцы. Сяляне асабліва не

пярэчылі — трэба дык трэба: вайна ж. Хто ведае, што тут задумалі гэтыя рускія разам з немцамі, якія за бугром? Пагрузілі на свае куруцы дзяцей, пасцелі, паклалі колькі мяхоў кукурузы і паехалі, як было загадана, — на пятнаццаць кіламетраў у тыл. Мы таксама, як было загадана, у абодвух канцах вуліцы збудавалі з жэрдак шлагбаўмы, паставілі вартавых. Выбраўшы лепшую хату, я вугалем напісаў на белай сцяне «камендатура». Пачалася новая, тылавая служба ў да часу абязлюдзелай вёсцы. Галоўны сэнс тае службы, як пасля зразумеў, палягаў у тым, каб не даць сялянам карыстацца ўласным харчам, бо той харч канфіскоўваўся дзеля фронту. Неўзабаве ў сяло прыехалі нейкія тылавыя часці, штаб армейскага інжынернага батальёна, яшчэ нехта, пачалі гаспадарыць — выгружаць на машыны ўсё, што засталося з прадуктаў, галоўным чынам кукурузу, збожжа, муку. А трэба сказаць, у Малдавіі на гэты конт — не тое што ва Украіне, правізіі было. У кожнай гаспадарцы быў хлеб, нават белы, быў сыр, сушаныя фрукты, алей, малако. Калгасы малдаван абрабаваць не паспелі. Цяпер законна рабавалі войскі, якім з тылу перасталі вазіць правізію, бо ўвесь транспарт быў заняты падвозам боепрыпасаў — рыхтаваўся «брасок на Балканы». Высялялася даўжэзная 15-кіламетровая паласа па ўсёй Малдавіі. Але ж заставалася яшчэ і віно, якога таксама было ў кожнага гаспадара і якое нельга было ўзяць на адну фурманку. Віно закапвалі. Але наіўныя былі тыя малдаване — хіба ад савецкага салдата можна схаваць віно? У кожнага салдата пры вінтоўцы быў шомпал, які выдатна выконваў ролю вінашукальніка. Праз якіх дзён дзесяць раскапалі і выпілі ўсё. Часам між п'янымі салдатамі ўзнікалі бойкі і нават перастрэлкі, за віно і за хаты таксама. Гэта калі адны часці яшчэ не з'ехалі, а іншыя прыехалі і патрабуюць жытла. Часта прыязджала палкавое начальства — пракантраляваць і выпіць таксама, пакуль яшчэ было што.

***А. А.:*** І доўга ты быў камендантам?

***В. Б.:*** З месяц ці болей. Жыў у хаце псаломшчыка, у якога засталося шмат старых рускіх кніжак, і я чытаў там «Так сказал Заратустра» і яшчэ нешта з антычных аўтараў, вядома, у перакладзе на рускую. Хоць і вайна, але цягнула да ведаў, да культуры, якія не дабраліся за мірным часам. Было пагоднае лета, стаялі цёплыя паўднёвыя ночы. І да мяне прыходзіла адна сястрычка з інжынернага, якую я частаваў грэцкімі арэхамі і малдаўскім віном. І мы падоўгу гутарылі пра літаратуру, мастацтва. Яна распавядала пра сваё даваеннае жыццё ў зялёнай Звенігарадцы, адкуль была родам.

Гэтай парой мне споўнілася дваццаць гадоў, яшчэ я не ведаў жанчыны і дужа ашчадна адносіўся да нечаканага пяшчотнага

пачуцця. Тым болей першага і гэткага нечаканага. Але неяк прыйшоў незнаёмы лейтэнант, з выгляду старэйшы за мяне, і прадставіўся: уполномоченный контрразведки СМЕРШ. Слышали, что такое СМЕРШ? Так, я што-нішто чуў пра той яго СМЕРШ, але што яму трэба? А яму трэба ведаць пра нашыя адносіны з чырвонаармейцам Насценкай. Бо гэта справа бяспекі. А я, дурань, думаў, што гэта асабістая справа... Але ўсё ж нарэшце аказалася, што асабістая, бо, як пасля паведаміла мне чырвонаармеец Насценка, той смершавец меў на мэце яе перш за ўсё як дзяўчыну. Праз якіх-небудзь дзён дзесяць той інжынерны батальён з’ехаў на іншы ўчастак, і пачалося ў мяне пакутнае, ледзьве не штодзённае ліставанне. Здавалася, увесь сэнс жыцця залежаў ад таго, як хутка будзе ад яе ліст. Але, як правільна зазначана кімсьці, каханне — казачка з заўсёды сумным канцом.

Там жа крыху пазней і ў іншай вёсцы мяне хацелі судзіць. Ужо завялі справу, прыязджаў следчы з вайсковай пракуратуры. А здарылася тое, што мае салдаты ўлезлі ў царкву. З рэлігіяй жа, вядома, як у нас абыходзіліся: то з ёй змагаліся на знішчэнне, то часам адпускалі пятлю на царкоўнай шыі. У вайну якраз адпусцілі, а салдаты таго не ўлічылі, і я разам з імі. Салдаты зламалі замок і ўлезлі паглядзець на святых, а болей — за паперай. Там былі царкоўныя кнігі і ў іх чыстыя старонкі, якія павыдзіралі на пісьмы да бацькоў і жонак; ніякай жа паперы нам не давалі. Курцоў выручалі франтавыя газеты, якія надта цаніліся з тае прычыны, але ж на газетах пісьма не напішаш. Дык вось папы паскардзіліся палітрукам, а тыя — у пракуратуру, і мяне абвінавацілі, што не ўпільнаваў царкву. Але неяк абышлося. Пачаўся вялікі наступ, стала не да царквы, бурыліся гарады і сёлы.

Якраз перад наступам атрымаў першы ліст ад бацькоў — гэта пасля трох год абсалютнага бязвесця. Парадаваўся, што ўсе жывыя, хата не спаленая. Сястру Валю вывозілі ў Нямеччыну, але яна была вёрткаю, сястрыца, і ўцякла з-пад канвою. Яны таксама нічога не ведалі пра мяне і парадаваліся майму лісту, — што жывы. А так за тыдзень да майго ліста атрымалі «пахаронку», гэта праз тыя баі, пад Кіраваградам. Зрэшты, тая «пахаронка» яшчэ мела малапрыемны працяг праз шмат год пасля вайны.

***А. А.:*** Вось у мяне кніга. Пермское книжное издательство: «Ветераны дивизии вспоминают», 1983 год. І там успаміны падпалкоўніка Піліпенкі, так? Ну дык вось з гэтай кніжкі: «17-летним он, т. е. Быков, добровольно уходит в армию. В 43-м году после окончания Саратовского артиллерийского училища Быков воевал на 2-м Украинском фронте. Был командиром взвода противотанковых орудий. В конце декабря в бою под Кировоградом тяжело ранен. После излечения в начале

апреля 44-го года Быков прибыл в нашу дивизию, был назначен на должность командира взвода противотанковой батареи 924-го полка. Лейтенант Быков участвовал в боях по освобождению советской Молдавии, Румынии, Венгрии. 23 августа в ходе Ясско-Кишиневской операции противник оказал сильное сопротивление его полку, наступавшему в южном направлении вдоль берега реки Прут. Боевые порядки стрелкового батальона капитана Савченко, которому был придан взвод лейтенанта Быкова, атаковала вражеская пехота, поддержанная сильным огнем артиллерии, минометов. Около трех часов шел напряженный бой. Гитлеровцы несколько раз бросались в психическую атаку, но это им не помогло. Расчеты орудий Быкова, ведя огонь прямой наводкой, посылали снаряд за снарядом в цепи фашистов, заставляя их откатиться назад. Измотав противника, подразделения полка утром 24 августа перешли в наступление. На рассвете следующего дня гитлеровское командование бросило в бой несколько танков. На участке стрелкового батальона, который поддерживал артогнем лейтенант Быков, появились 3 вражеские машины. Быков подал команду „огонь!“. Два снаряда разорвались рядом с передним танком, но тот продолжал двигаться. Грянул третий выстрел, и немецкая машина остановилась. Другие вражеские танки стали обходить горящую машину, ведя на ходу огонь по нашим орудиям. Осколками вражеского снаряда было повреждено орудие, убит старший лейтенант Лукьянченко, ранен наводчик и заряжающий. В эту трудную минуту к орудию встал Быков. Через канал ствола он навел орудие, затем зарядил и выстрелил в приближающийся танк противника. Фашистская машина развернулась на одной гусенице и остановилась. Противотанковая батарея полка понесла значительные потери в личном составе и боевой технике, поэтому лейтенант Быков был назначен командиром взвода роты автоматчиков этого же полка. Не раз ему приходилось со своим взводом ходить в атаку и отбивать контратаки противника». I так далей… Давай, расказвай да канца, як ты памятаеш, на нейкіх мясцінах спыняйся больш, на нейкіх менш, але цягні да канца. Можа, пра тое, што гэты Піліпенка расказаў…

***В. Б.:*** Мабыць, гэта з наградного ліста…

***А. А.:*** Ну, ясна, усё было складаней, як ты лупіў…

***В. Б.:*** Як я лупіў… Рэч у тым, што там немцы прарываліся з Кішынёўскага катла, таму ўпартасці ў іх хапала. Таксама справа ішла пра жыццё і смерць… У маёй гармаце не толькі разбіла прыцэл, яе самую амаль разбіла снарадам з танка. Снарад ударыў амаль пад левае кола, выбухам нас заваліла зямлёй. Калі я падняў галаву, бачу, мае не паднімаюцца, наводчык зусім у зямлі. А танк

— во ён, стаіць і скіроўвае гармату далей, на кагось у наш тыл, з намі ён ужо скончыў. А нашая гармата зараджаная, наводчык не паспеў стрэліць. Я дацягнуўся рукой і, лежачы, ціскануў на кнопку спуску. Узняўся пыл, штосьці там сталася. Гляджу, танк паварочваецца, паварочваецца, — ну, думаю, зараз дасць мне тут. Аж не — не дасць, бо ззаду сцелецца гусеніца, усё ж я яе збіў. Куды дзеліся танкісты, я так і не зразумеў. Бой тым часам трохі перамясціўся збоч, на пераправу, куды яны прарваліся. Каля агнявой прайшла нашая самаходка, прыбег нехта з другога разліку. Але ў мяне дужа баліць вуха, пайшла кроў. Сяржант штось да мяне кажа, а я не чую. Аглух. Аказалася, не толькі не чую, але і нічога не магу сказаць. Адняло мову. І ўвесь я калачуся. Ужо ці не адваяваўся, думаю.

На нейкай грузавой машыне паехаў у санбат. Там шмат параненых, дактары ўсе на аперацыях. Я сеў у цяньку на прызбе, прасядзеў да вечара. Нават падрамаў трохі. Вуха баліць, але кроў больш не ідзе. На змярканні пайшоў у палатку, дзе дактары. Ды зачапіўся за вяроўку расцяжкі і — вылаяўся. Паявілася мова. Тое ўзрадавала неверагодна, і я яшчэ некалькі разоў вылаяўся — усё грамчэй і грамчэй. З заткнутым ватаю вухам пайшоў на дарогу. Позна ўвечары дагнаў свой батальён.

Адчуваю, Саша, ты хочаш задаць сакраментальнае пытанне пра страх: ці баяўся я? Канешне, баяўся, а можа, калі і трусіў. Але трэба ўлічыць, што страхаў на вайне шмат і яны ўвогуле розныя. Страх перад немцамі — што могуць узяць у палон, застрэліць, страх ад агню, асабліва артылерыйскага ці бамбёжкі, калі побач выбухне, дык, здаецца, цела само без удзелу розуму гатова разарвацца на кавалкі ад пакутаў. Але ж быў і страх, што ішоў ззаду, ад начальства, усіх тых карных органаў, якіх у вайну было не менш, чым у мірны час. Нават болей. Калі цябе камандзір абяцае расстраляць пад ранак, калі ты не возьмеш страчаны хутар ці вышыню, ці траншэю (што па тым часе зусім верагодна), дык яшчэ невядома, каго ты пачынаеш баяцца болей — немцаў ці камандзіра. Немцы яшчэ могуць не пацэліць, і табе ўсё абыдзецца. А свае камандзіры ці калі ўвяжацца трыбунал, ужо прамашкі не дадуць. Тут ўжо ўсё дужа пэўна і канкрэтна.

Пасля яшчэ былі баі, але ў Румыніі па танках мы не стралялі. Маю падбітую гармату выцягнулі з агнявой, замянілі кола, а прыцэла не знайшлі. Так мы яе вазілі — на фарміроўку пад Луцк, пасля ў Венгрыі. І да майго новага ранення яна заставалася без прыцэла.

А наконт танка. На фарміроўцы ўвосень пачалі афармляць узнагароды, напісалі і на мяне: «К орудию встал Быков, через канал ствола навел орудие, затем зарядил и выстрелил» і г. д. Але

аказалася, што за той танк ужо ўзнагародзілі кагось з дывізійнай артылерыі, якая там таксама страляла. Выходзіць, Быкаў падбіў падбіты танк? Можа, і так, я спрачацца не стаў. З начальствам тое бескарысна. Тым болей, што на тым часе я ўжо стаў аўтаматчыкам. Не захацеў стаць ад'ютантам у камандзіра палка, крыклівага маёра Коваля, і той са злосці паслаў мяне ў аўтаматчыкі.

***А. А.:*** Слухай, давай пункцірам пойдзем. Аж да Курылаў.

***В. Б.:*** Да Курылаў, мусіць, будзе далёка. Гэта ўсё ў Малдавіі. Але трэба вярнуцца назад… Расказаць пра франтавое братанне з немцамі.

***А. А.:*** Гэта «Праклятая вышыня»?

***В. Б.:*** Было, як і ў «Праклятай вышыні», хаця, можа, трошкі і не так. Можа, страшней нават. Сапраўды, усё здарылася ў роце аўтаматчыкаў. Вясна, а неяк сталася кепскае надвор'е, завея, снегу навалiла гурбы. А пасля раптам — сонца, снег адразу растаў, вясна. Во якраз у тую ноч перад вясной немцы збілі роту з вышыні і асталяваліся на ёй. А нашы замест таго, каб зноў атакаваць, рашылі замірыцца, пакуль начальства далёка, штабы адсталі. Ініцыяваў усё старшына роты. Унізе працякала рачулка, за якой тая вышыня, а нашыя заселі на гэтым схіле. І во старшына выйшаў да рэчкі, паклікаў нямецкага оберлейтэнанта, і яны заключылі перамір'е. Наладзілі сувязь…

***А. А.:*** Сталі хадзіць туды па ваду?

***В. Б.:*** Сталі хадзіць і нашы, і немцы. Памыць парцянкі, перакінуцца махоркай і атрымаць замест цыгарэты. Ну і размовы. Словам — братанне, самае што ні ёсць. І доўжылася яно два дні. Камандзір роты якраз адсутнічаў, яго замяшчаў узводны, малады хлопец. Справа ў тым, што… Чаму я ўсё гэта напісаў? Таму што сам змушаны быў што-нішто бачыць. А выкрылася як? Праз два дні, як параненых адпраўлялі ў тыл, тамашні Цвяткоў і «стукнуў». Натуральна, начальства ўзвілося…

Неяк аднаго разу ноччу дзве мае саракапяткі перакідваюць на чужы ўчастак. Ну, трошкі мне дзіўнавата, але што ж, бывае, чаго начальства не выдумае. Да ранку збольшага акапаліся, сядзім. Пяхота крышку наперадзе і ўнізе, даўно не спакойная, варушыцца нешта. Нешта чуем краем вуха, а не разумеем. Ззаду падвезлі мінамёты, артылерыю. Я — на прамой наводцы. І во толькі развіднела, гляджу: ідуць немцы да рэчкі. Ідуць так свабодна, са зброяй, але адкрыта зусім. Падыходзяць, значыць, да рэчкі і крычаць: эй, Іван! І яшчэ нешта.

***А. А.:*** І колькі немцаў?

***В. Б.:*** Чалавек шэсць. Эй, Іван і яшчэ нешта крычаць. У нас усё замерла. Яны пастаялі, між сабой пагутарылі, пасля нешта,

відаць, западозрылі, і двое бягом назад. Астатнія таксама пачалі ад рэчкі адступаць. І вось тады…

***А. А.:*** Вы ўрэзалі?

***В. Б.:*** Урэзалі. Спярша артылерыя, затым падняўся батальён — цераз рэчку на вышыню. А яны маўчаць. Вось ужо ззаду рэчка і лужок, пасля пайшла размяклая ралля на схіле, а за ім надта крутое месца з невялічкімі кусцікамі, там ужо самая вышыня. Як да гэтых кусцікаў дайшлі, тут ужо яны ўрэзалі. Толькі некалькі чалавек параненых выпаўзлі да рэчкі.

***А. А.:*** З батальёна?

***В. Б.:*** Так.

***А. А.:*** З цэлага батальёна?

***В. Б.:*** Так. Хаця, канешне, батальён быў няпоўнага складу, але… Пасля месяц цэлы бралі гэтую вышыню. І ў маі яшчэ атакоўвалі і ўсё без выніку. Так да Яска-Кішынёўскай аперацыі, да 20 жніўня яна заставалася ў немцаў. А людзей колькі паклалі! Во гэта я там пасля ледзьве не трапіў у палон. Замест мяне трапіў начштаба батальёна.

Частку жніўня і верасень дывізія наступала па Румыніі, дайшла амаль да ніжняга цячэння Дуная. Баёў хапала, але немцы дужа не супраціўляліся, румыны па загаду караля Міхая (пасля ўзнагароджанага Сталіным ордэнам Перамогі) дружна капітулявалі. Ці разбягаліся дадому. У іх было шмат коней, і мы часцяком мяняліся імі — проста на дарозе сваіх здыхлякоў на іхніх ці нямецкіх біцюгоў. Мелі нават і запасных. Бо на фронце коней гінула не менш, чым людзей, і артылерыя заўжды адчувала праблему з цяглавай сілай. Але вось аднойчы дывізію ды і ўсю армію вяртаюць з фронту на нейкую тылавую станцыю, пачынаецца пагрузка на чыгунку, кудысь перакідваюць. Вагонаў не хапае. Пяхотай набіваюць цяплушкі, артылерыю закочваюць на адкрытыя платформы. Там жа і артылерысты. Ад дажджу і ветру — усё тыя ж палаткі.

Тут я захварэў — зусім недарэчы па дарозе на фарміроўку, як казаў мой сябра ўзводны Ягораў, бо хто ж хварэе па дарозе ў тыл? Але так, менавіта па дарозе ў тыл. Спярша была малярыя, трэсла ад прырэчных малярыйных паплавоў, пасля падключылася яшчэ нешта. На платформе пад палаткай стала невыносна, тым болей, што пайшлі дажджы, і мяне перанеслі ў цяплушку санчасці. Але, здаецца, нашыя дактары навучыліся за вайну толькі рэзаць, а на якія там хваробы спрэс забыліся. Праляжаў я ў халодным вагоне ўсю дарогу да ўкраінскага Луцка, лепей не стала. Выгрузіліся ў лесе, пачалі абладжвацца — зямлянкі, шалашы, канавязі… І тут я зусім зваліўся. Зноў паклалі ў санчасць — закінуты дом без вокан, без дзвярэй. Ляжу адзін у кутку, дрыжу, тэмпература расце, даюць

нейкія таблеткі, якія памагаюць слаба. Аднойчы адчуў, што калі я зараз жа не ўстану і не пайду адсюль, дык тут і сканаю. І я сабраў у сабе ўсю волю, усе слабыя сілы і, хапаючыся рукамі за хваіны, дабрыў да сваіх хлопцаў. Там мне далі паўкварты самагону, ад якога я адразу заснуў. А пасля неяк пакрысе ачомаўся.

Адразу ж пачаліся заняткі — палявыя і страявыя, з песняй (а як жа, жалезная традыцыя з часоў прускай арміі), нарады, палітзаняткі (таксама традыцыя, хіба савецкая). Праз нейкі час пасля вячэры прыходзіць да будана наш палкавы смершавец, пачынае размову: колькі ў апошніх баях забітых, колькі параненых... А Мокіш, пытаецца, таксама забіты? Так, кажу, таксама. Ля Серата. А вы бачылі сваімі вачыма? Тут я трошкі затрывожыўся, бо гэты Мокіш у часе бамбёжкі дзесь знік, можа, разарвала бомбай. Надта напружаны быў бой, і ніхто не згледзеў, куды ён дзеўся. Каб не рабіць сабе лішняга клопату, калі пачалі пісаць звесткі пра страты беззваротныя (забітых) і зваротныя (параненых), я і запісаў Мокіша ў лік забітых. Дык вось, кажа смершавец, вы пакрываеце дэзерціра. Ваш Мокіш затрыманы камендацкім патрулём у Бельцах. З якой мэтай вы далі фальшывыя звесткі?

Во бяда, ліха на яе і на гэтага Мокіша, каб яму ні дна, ні накрыўкі. Ды і я — варона! Але хто думаў, што ён дасць драла дадому? Давялося мне зноў пісаць, апраўдвацца, смершавец яшчэ разы два прыходзіў. Пасля адстаў.

Атрымалі папаўненне ў жывой сіле, і мяне перавялі з батарэі ў ПТА 2-га батальёна. Камандзір батальёна капітан Смірноў адразу зрабіў мне вымову, як я прыйшоў прадстаўляцца, за дрэнны парадак на канавязі, нячышчаных коней. (Божа, колькі крыві псавалі гэтыя коні! У вайну і пасля. Чысціня іх і збруі, бясконцыя вывадкі — жывучыя рэцыдывы старой кавалерыйскай традыцыі, якая не хацела аджываць і ў новы час. Сапраўды, кожная армія рыхтуецца да мінулай вайны, а будучая прыходзіць нечакана.) Тым не менш строгі быў наш камбат Ігар Смірноў, былы школьны настаўнік. Ён таксама папсаваў мне нямала крыві ўжо ў баях на венгерскай зямлі. Але я на яго не крыўдую, бо шмат што было заслужана.

Здаецца, у канцы кастрычніка пачалі рыхтавацца на пагрузку — зноў па чыгунцы кудысь на фронт. На які — ніхто не ведаў. Пагрузіліся і паехалі, на гэты раз у цяплушках — з печкамі і нарамі. У асобным вагоне — коні, конскі састаў, паводле вайсковай тэрміналогіі. У мяне ва ўзводзе чатыры вялізныя нямецкія біцюгі, якія добра цягнуць гармату з перадком, але заўжды крокам. Рыссю яны не ўмеюць. І шмат корму ім трэба. Але сена ў нас няма, аўса не даюць. Калі звярнуцца да начальства,

атрымаеш адзін адказ: знайсці. Знайсці і накарміць. Панятна? Іспалняйце! Мае салдаты «іспоўнілі» — дзесь на станцыі нацягалі з платформы буракоў і накармілі, адна кабыла праз дзень здохла. Што рабіць? Хутка выгрузка, як цягнуць гармату? Дайшло да начальства, палітапарата, тыя паднялі хай — страта баяздольнасці, вінаватага да адказу. Хто вінаваты? Канешне, камандзір, лейтэнант Быкаў. Зноў завялі справу…

А ў мяне на тым часе быў камандзірам гарматы (той самай, што без прыцэла) старшы сяржант Закіраў, башкір па нацыянальнасці, вялікі спец па конях. Ён і кажа: не дрэйф, лейтэнант, выгрузімся — каня дастанем. Яшчэ лепшага. І праўда, дастаў. Ды не аднаго. Нават і мне дастаў пад сядло — выдатнага дрыганта, ездзіць на якім было адно задавальненне. Кепска хіба, што дужа высокі, каб узлезці, трэба якая падстава ці плот, ці пень. З зямлі дастаць нагой стрэмя было немагчыма. Затое на дарозе — не конь, насалода. Маршам праз партызанскую Ваяводзіну, Нові Сад…

***А. А.:*** Быў я ў Нові Садзе, ведаю…

***В. Б.:*** Немцы там слаба абараняліся, болей адступалі, і мы хутка ўвайшлі ў Венгрыю. Гэта была першая, сапраўды еўрапейская краіна на нашым шляху, не пабураная вайной, са шматлікімі адзнакамі дабрабыту. Позняй восенню ў дождж і слоту ідзем, бывала, праз венгерскія гарадкі і паселішчы ды прагна пазіраем на іх ладныя, пад чарапіцай дамоўкі, акуратныя брамкі, драцяныя агароджы. Белыя сцены вясковых хат скрозь ззяюць чырванню ад развешанага перцу, знакамітай венгерскай папрыкі… Сустракала насельніцтва ўвогуле прыязна, нават гасцінна, хоць венгерская армія тады яшчэ ваявала з намі, хіба без нямецкага імпэту. У кожным доме белы хлеб, вяндліна, каўбасы, слоікі варэння з розных фруктаў. Уся садавіна перапрацавана, нарыхтавана на зіму, састаўлена ў скляпах. Па скляпах, канешне, мы заўсёды лазім. Бо ці баі, ці бамбёжкі — надзейнае сховішча, калі ў вёсцы, склеп. Там жа і выдатнае венгерскае віно. Аж не хочацца вылазіць — пад агонь, на кроў і смерць. Войска там перайшло на самазабеспячэнне, тое, што варылася ў палявых кухнях, перасталі браць. Ідзём, бывала, калонай праз якое сяло, і салдаты, бы мышы, шмыг-шмыг па падворках. Пасля даганяюць свой строй — пад пахай вэнджаны кумпяк, procівагазная сумка, поўная слоікаў з варэннем, на штыху белы бохан, а ў руках вядзёрка ці каністра з віном. Камандзіры глядзелі на тое паблажліва, самім перападала. Зноў жа Венгрыя была саюзніцай Гітлера, таму шмат што дазвалялася.

Позняй восенню фарсіравалі Дунай. Помню, тры дні там біліся, і ўсё няўдала. А Дунай там шырачэзны, можа, як Волга. З

аднаго берага другі ледзьве відаць. Мы фарсіруем ноччу. Вядома, спярша артпадрыхтоўка — даволі слабая, сродкамі штатнай артылерыі. З берага я пастраляю крыху на крайнім прыцэле, бяжыць хтось ад камбата: спыніць стральбу, — чым будзеш страляць на тым беразе? У сэнсе, калі на гэтым расстраляеш свой боезапас. То правільна, стральбу спыняем. Праз нейкі час прыбягае начальнік артылерыі — пачаму спынілі артпадрыхтоўку? Немедленна агонь! Ну, канешне, гэты адказвае за артпадрыхтоўку, а той бераг яго пакуль што не хвалюе. Так дзве ці тры ночы. Перадавыя роты на плытах і лодках адплываюць па начным Дунаі, і ніхто не вяртаецца. Хіба назаўтра прыбрыдзе знізу па цячэнні мокры салдат, дрыжучы раскажа, як іх там сустрэлі немцы. Так доўжылася да таго часу, пакуль па Дунаі не прыйшлі бронекатэры з танкавымі вежамі на палубах, у некаторых былі нават «кацюшы». Яны ўзялі нас на свой борт і высадзілі на тым беразе. Коней пакінулі на гэтым, а там у першым жа венгерскім сяле мой Закіраў раздабыў коней у поўным складзе. Мне пад сядло даў маладую кабылку, дужа слаўную і разумную, яна мне не раз ратавала жыццё. Так ад Дуная мы пачалі наступленне… Ты, Саша, у Венгрыі быў?

***А. А.:*** Быў.

***В. Б.:*** Мы наступалі з поўдня, напрамкам на Балатон. Гэта былі жахлівыя баі кожны дзень і кожную ноч.

***А. А.:*** І венгерская армія там была?

***В. Б.:*** Так. Памятаю, калі камбат аддаваў загад, мы заўсёды цікавіліся, хто перад намі: немцы ці венгры? Калі венгры, дык яны надта не супраціўляліся, пад націскам адыходзілі. А немцы, канешне, як заўсёды: колькі хацелі, столькі і абараняліся. Лёгка збіць іх з занятых пазіцый было немагчыма, пакуль яны самі не пакідалі іх. А восень позняя, сцюжа, слота, дажджы… Спярша ад Дуная ішлі лясістыя пагоркі, а пасля раскінуліся балоцістыя поймы, меліярацыйныя каналы. Акапацца там не было як, поле бою наскрозь прастрэльвалася. Так доўжылася, прыкладна, месяц.

***А. А.:*** Якая дывізія была ў цябе, не памятаеш?

***В. Б.:*** Усё тая ж, 252-я, чацвёртай гвардзейскай арміі… Цяжкія былі дзень і ноч, няспынная агнявая калатнеча, пра што там расказваць…

***А. А.:*** З табою што там было?

***В. Б.:*** Ну што са мной было? Аднойчы мяне хацелі расстраляць, напрыклад.

***А. А.:*** Гэта за што?

***В. Б.:*** Зрэшты, гэта ўжо другі раз. Першы раз Балатон ва Украіне, як апісана ў апавяданні «Ранак-світанак»…

***А. А.:*** А я не помню. Ну, а рэальна, як было ва Украіне?

***В. Б.:*** Там хутар здалі салдацікі.

***А. А.:*** Твае? Узвода твайго?

***В. Б.:*** Так.

***А. А.:*** А дзе ты быў?

***В. Б.:*** Ну, і я разам з імі здаваў. Спярша мы хутар узялі, а потым здалі. Ну, як у апавяданні, прачытай калі. Ноччу прыбег камандзір палка і сказаў: взять к утру! Не возьмешь, вот на этом месте из этого пистолета я тебя расстреляю. Аказалася, пра той узяты хутар ён ужо данёс у дывізію і атрымаў падзяку адтуль. А я яго здаў. Ну, што рабіць, пайшлі мы браць. А немцы нас адтуль здорава турнулі назад, да самай дарогі. Ну і ўсё.

У аднаго сяржанта быў там гадзіннік, пачаў я глядзець за часам: тры гадзіны засталося, дзве, паўгадзіны…

***А. А.:*** А ты быў упэўнены, што кокне?

***В. Б.:*** А чаму б і не? Тое проста рабілася, спісалі б на «баявыя пацеры». І вось перад світаннем ззаду нейкая шалёная страляніна, прыбягае адтуль аўтаматчык, крычыць, што на КП напалі немцы.

***А. А.:*** Там, дзе твой камандзір?

***В. Б.:*** Ну. І начальнік штаба загадаў, каб мы — туды…

***А. А.:*** Ратаваць іх?

***В. Б.:*** Але, пакуль мы беглі, немцы сваю справу зрабілі. Карацей кажучы, раніцай каля школы мы капалі магілу для нашага маёра.

***А. А.:*** Так вось… Гульня выпадку. У гэтым выпадку праклятыя немцы нам Быкава выратавалі.

***В. Б.:*** Ну, мажа, і занадта — выратавалі… Але вернемся ў Венгрыю. Значыць, мы наступаем. Увесь дзень ішоў дождж, позна ўвечары занялі нейкую вёску, батальён разышоўся па хатах, начальства таксама. Стомленасць страшная, халадэча. Спаць жа ніколі не дазвалялася, калі можна было, хвіліну якую ўрывалі дзе і хто мог. Галоўным чынам, як знікалі куды камандзіры.

***А. А.:*** І вы — артылерысты?

***В. Б.:*** І мы. Закацілі ў нейкі падворак гарматы, і тут жа ў хаце прылеглі. Толькі я прыдрамаў, здаецца, а ўжо світае, і за вёскай у лесе ідзе бой. Батальён туды на світанні рушыў, а нас не гукнулі. Ну вось бачу: справы мае кепскія…

***А. А.:*** Ты абавязаны быў…

***В. Б.:*** Я абавязаны быць там, дзе батальён, а я праспаў. І салдаты мае праспалі. І вось мы рванулі туды цераз поле пад абстрэлам што было сілы ў коней. Даскакалі да лесу, а тут якраз камандзір батальёна, адразу да мяне з пісталетам: за уклонение от боя… Падобна, ён тут жа хацеў са мной расправіцца, бо батальён ляжыць, а немцы сякуць разрыўнымі, ліха працуюць іхнія

хуткастрэльныя МГ. Але тут жа астыў і загадвае: збіць кулямёты! 20 мінут часу. Мы хутчэй гармату ўстанаўліваем, і тут высвятляецца: няма снарадаў.

***А. А.:*** Чаму?

***В. Б.:*** Таму што, як заўжды, для гатоўнасці снарады клалі на станіны, а як гналі пад агнём цераз поле, тыя пападалі, парассыпаліся. Дзе цяпер іх шукаць?

***А. А.:*** Ну ўсё. Тут ужо і расстраляць можна.

***В. Б.:*** Кулямёты сякуць, толькі вецце сыплецца. Камбат крычыць: Быкаў, агонь! А чым агонь? Ну, гэта было, канешне, жахліва, я тады хацеў, каб мяне як найхутчэй забіла. Усё ж паслаў перадок на поле, знайшлі ў быльнягу снарады, пачалі мы страляць. Словам, у гэтым лесе яны калашмацілі нас добра, а што мы зрабілі ім нашым агнём, тое невядома. Можа, збілі, а можа, тыя пад вечар самі адышлі.

Як я ўжо казаў, другая гармата ў мяне была без прыцэла, а без прыцэла якая ж стральба? Такім чынам ў запасе заставалася, апроч гарматы, яшчэ пара коней, шэсць чалавек салдат. Я іх трымаю ў тыле — што ім рабіць на перадавой? На перадавой у нас ладныя хлопцы Свінцоў і Пронін, камандзір і наводчык — харошы наводчык. А старшы сяржант Закіраў, спец па конях, у нас за інтэнданта. Пакуль мы гібеем пад агнём, цягаем сюды-туды нашу гармату, вядома ж у холадзе і голадзе, яны там, дзесь у бліжняй вёсцы, для нас стараюцца.

І во як пацішэе пад вечар, пацямнее, глядзім: Закіраў з салдатам паўзуць. Цягнуць нам у вядры мяса ці кураціну, белага хлеба пару боханаў у рэчмяшку і віна ў тэрмасе ці каністры. Во тады мы раскашуем між станін, за гарматным шчытом.

***А. А.:*** А ты не мяняў разлік? Гэтых туды…

***В. Б.:*** Не. Усё ж гэты, са мной, быў лепшы. Маладыя хлопцы.

***А. А.:*** Так што ў цябе быў свой рэзерв галоўнага камандавання.

***В. Б.:*** Нешта накшталт. Я ўжо казаў, што гэты Закіраў пасля высачэзнага дрыганта дастаў мне маладую кабылку, якая двойчы ўратавала маё жыццё. Аднаго разу, як наступленне трохі прыпынілася, выклікае мяне камандзір батальёна. Быў вечар, туман, дробны дожджык сыпле. Месца незнаёмае, мы толькі надвячоркам тут апынуліся, але мне чамусьці здалося, што КП блізка, за пагоркам. І я паехаў. Страляніны блізка няма, і я еду, еду, ды раптам не ведаю, куды ехаць. Чую нейкія галасы, я павярнуў да іх, гляджу, на касагорчыку вінаграднік і на ягоным краі нешта капаюць. Паціху пад'язджаю бліжэй, прыслухаўся — немцы! Завярнуў у іншы бок, еду, еду, узбіўся на нейкую дарогу,

а там нямецкія машыны ідуць…

***А. А.:*** Ты з аўтаматам?

***В. Б.:*** Не, у мяне два пісталеты было. Свой штатны і трафейны «вальтэр».

***А. А.:*** А чаго не браў аўтамат?

***В. Б.:*** Навошта? Аўтаматы былі ў салдатаў. А мне ён у пяхоце абрыдзеў. Дый нязручны быў з гэтым барабанным магазінам.

Лепш што лягчэйшае. Нямецкі «шмайсар», напрыклад. Але да нямецкага патрэбны патроны, якіх не заўсёды хапала. Здавалася мне тады, што во за пагорак заедзеш, і там КП. А тут нешта ні пагорка, ні КП. І я ўжо не ведаю, як быць? І тое натуральна, бо я заехаў да немцаў. Але адчуваю, што мая кабылка ўсё некуды бярэ ўбок, і я думаю: хай сама ідзе. Повад адпусціў, і яна пайшла. Рухава гэтак пайшла. Цераз пагорачак перайшла, пасля ўзлескам, сюды-туды і прывяла мяне да лагчынкі. А там пасвяцца коні нашага каменданцкага ўзвода.

***А. А.:*** Вось іх яна і пачула.

***В. Б.:*** Там блізка быў і КП камандзіра батальёна. А потым яе забілі, пада мной, хоць мяне яна ўратавала. Гэта пазней.

Помню, пяхота ўзяла нейкае вялікае мадзьярскае сяло ці гарадок нават, мы спяшаемся на ўскраіну, дзе ідзе бой, ды тут паяўляюцца нейкія два маёры, крычаць: срочно вон туда, направо! Нямецкія танкі там паявіліся, іх трэба спыніць. І ўжо там такая страляніна ідзе. Паскакаў я направа, але аказалася, што тыя звесткі пра танкі былі спазнелыя, танкі ўжо ўвайшлі ў вуліцы. І вось на адным павароце (вуліца літарай Г загіналася) я і падляцеў пад чаргу, з танка сцебанулі па маёй кабылцы, і яна з усіх ног рухнула пад плот.

***А. А.:*** Вось ты ўбачыш фільм наш. Там Клімаў карову прашывае кулямётам, прытым кулямі трасіруючымі.

***В. Б.:*** Так, толькі крывавае шмаццё паляцела, мяне крывёй запырскала, але кабылка ўратавала. Тым, што, падаючы, далёка шпурлянула мяне — за агароджу, у гарод…

***А. А.:*** Катапульціравала цябе.

***В. Б.:*** Так. Прыняла агонь на сябе. Яны яшчэ…

***А. А.:*** Па ёй лупілі?

***В. Б.:*** Пасеклі ўсю. Як пасля праз дзень салдаты знялі сядло, дык яно скрозь было пасечанае кулямі. А я адтуль выпаўзаў агародамі, гармату завярнулі ў другую вуліцу, добра, што гармата за мной не паспела… Дарэчы, пасля ўжо ў мяне каня не было, не стала як ездзіць. Наступ наш замарудзіўся — ад сяла да сяла і то па-пластунску.

***А. А.:*** Гэта па Венгрыі?

***В. Б.:*** Па Венгрыі. Скрозь у полі каналы, канавы, а баі кожны дзень і кожную ноч. Вымотвалі так, што і есці не хочацца, толькі б упасці і ляжаць. Але дзе ўпадзеш? Трэба акапацца, а неяк. Капнеш на штых лапатай, а там вада. Во ў гэтую гразь кладзешся і ляжыш пад агнём — жыць жа ўсё роўна хочацца. А тут надвор'е паскуднае, кожны дзень макрата, дождж. Ну калі танкі паяўляюцца, тут ужо ў нас гарачка, тут ужо потам абліваешся. Памятаю, мае саракапятчыкі адзін танк падбілі — якраз перад фальваркам, з якога, дарэчы, нас толькі што выбілі. І нас, і пяхоту. Ну, як і належала ў такім выпадку, трэба, каб пісьмовае пацверджанне было…

***А. А.:*** Што?

***В. Б.:*** Пацверджанне ад камандзіра батальёна, што падбілі танк.

***А. А.:*** А, во як…

***В. Б.:*** Тут бой ідзе, а я павінны бегчы кудысь, шукаць КП.

***А. А.:*** А заўтра не можаш падпісаць?

***В. Б.:*** Дык вось я і думаю: дажывём да вечара, там і аформім.

А пад вечар наляцелі «месершміты», пачалі пікіраваць з равунамі, выбілі нас і адсюль. І мы драпалі следам за пяхотай, каціілі па полі нашу саракапятку. Пакуль не ўпёрліся ў каналы. Вось так: наперадзе канал і збоку канал. Каналы не шырокія, пяхота перабегла на той бок і на ўзлеску заняла пазіцыі. А нам як перабрацца? Нам цераз каналы перабрацца немагчыма. І вось мы гармату паставілі на броўцы і ляжым, чакаем. Калі танкі пойдуць, дык нам будзе хана. Але якраз сцямнела, і яны не пайшлі. Толькі аднойчы ўлупілі балванкай у броўку, заляпіла нас гразёй. Уначы танкі ўсё ж сышлі, пяхота вярнулася на гэты бок, раніцай, атрымліваючы ў камбата задачу, я сказаў пра падбіты танк. А ён кажа: хо! Ужо трэці за сёння дакладвае пра падбіты танк. Учора я маім мінамётчыкам падпісаў. Мае саракапятчыкі засталіся мной незадаволеныя — празяваў, узнагароды дастануцца іншым. Спрытнейшым. Што ж, правільна! Трэба ўмець не толькі падбіваць, а і падпісваць.

Тым часам надвор'е змянілася, ноччу добра падмарозіла. Той фальварак пяхота ўсё ж узяла, выйшла на яго другі бок. Роты пайшлі абапал прасёлка, абсаджанага дрэвамі і кустамі. Ды нядоўга ішлі, зноў — танкі. Кулямётным агнём паклалі пяхоту ў чыстым полі. Трэба акапацца, а як? Мёрзлую зямлю не надта бярэ лапатка. Так і ляжаць, не страляючы нават. (Гэта ў кіно прыгожа паказваюць, як з гранатамі паўзуць пад танкі, шпурляюць, узрываюць.) А тут танкі падышлі метраў на 400 і спыніліся. Далей не ідуць.

***А. А.:*** Сталі расстрэльваць?

***В. Б.:*** У тым і справа! Яны працуюць агнём.

***А. А.:*** А вы лежыцё тут?

***В. Б.:*** А батальёны ляжаць. Усё бы на далоні, і яны снарад за снарадам ў кожнага байца. Выбіваюць батальён. Мы развярнулі саракапятку акрай дарогі. Але для саракапяткі ўсё ж далекавата. Хоць мы і ў баявых парадках пяхоты, мне нават здавалася, што метраў на паўсотню наперадзе ад яе. Мабыць, яна трохі адбеглася ад танкаў, а мы не паспелі. Але танкі нас не так добра бачылі за дарожнымі прысадамі. Кусцікі рэдзенькія, ды ўсё ж трохі нас прыкрывалі. Мой наводчык распачаў агонь. Памятаю, я ляжаў збоч ад гарматы. (Каб бачыць свой выбух, належала ляжаць збоку. Калі стрэліць гармата, узнімаецца воблака пылу і дыму, і тады нельга згледзець, куды пайшоў снарад. А збоку відаць.) Вось так я ляжу, можа, метраў праз дзесяць збоку і ззаду. Гляджу, стрэл і — міма. Другі раз — таксама міма. Трэці раз стрэліў… Раніца была хмарная, таму траса добра відаць, асабліва бранябойнага-трасіруючага снарада. На гэты раз ён ударыўся аб браню і зрыкашэціў — траса пайшла ў неба. Добра, калі пацэліць у борт або ў гусеніцу. Але паспрабуй за паўкіламетра патрапіць у гусеніцу — тут бы ў танк пацэліць. Не памятаю, колькі мы так зрабілі стрэлаў, дзе ў той гарачцы будзеш што помніць, але нас заўважылі. І калі я, лежачы, махаў рукой, патрабуючы «агонь!», непадалёк выбухнуў першы снарад з танка. І мне якраз у руку асколак. Такі вузкі і востры, засеў між фалангамі пальцаў, з рукі палілася кроў. (Пасля ў санчасці доктар спрабаваў выдзерці яго, ды тое не ўдалося, выдзіралі ў шпіталі.) Я ўзяўся перавязваць сябе і трохі страціў увагу да танкаў, якія, аднак, патроху рухаліся, куды хацелі. Стала патрэбным давярнуць гармату на танк, які нас абстраляў, і калі наводчык зрабіў тое, аказалася, што замінае недалёкі куст… Трэба было камусь яго ссекчы. А тое ўжо пад агнём і зусім без прыкрыцця. Каго паслаць? Наводчык крычыць, трэба прыняць рашэнне. І я прыняў… Тое, можа, дасюль на маім сумленні, але я паслаў таго, з кім у мяне нядаўна здарыўся канфлікт, прыкрая сутычка, калі я хацеў нават застрэліць яго. Бо на вуліцы, дзе ішлі немцы, ён дэмаскіраваў нашу гармату, стрэльнуў у немца. На шчасце, тады неяк абышлося, і цяпер я скамандаваў: Лазук (прозвішча зменена), ссячы куст! Хутка! Ён не адразу і не хутка пайшоў з сякерай і толькі ўзяўся лежачы секчы, як зноў выбухнула — на гэты раз ля таго куста, наперадзе нашай гарматы. Салдат там і застаўся. Наступны снарад яны ўсадзілі пад самы ствол… Я дагэтуль блытаю, разумееш… Іх было двое, маладзенькіх, дужа падобных адзін на аднаго — Сінцоў і Пронін, абодва малодшыя сяржанты, дык цяпер я блытаю — хто з іх быў

камандзірам гарматы, а хто наводчыкам. Наводчыка там жа забіла, а камандзіра параніла ў плячо і яшчэ некуды. Яшчэ зараджаючы ацалеў. Гармата перакулілася, завалілася ў варонку, а мы, усе параненыя, па канаве, за кусцікамі падаліся да нашага передка, на якім ірванулі ў тыл, у санчасць. Там, помніцца, пераначавалі, а назаўтра на аўтамабілі нас адвезлі ў тылавы шпіталь у Сексардзе. Гарадок такі кіламетраў за 60 ад перадавой. Яго мы бралі месяц таму.

Шпіталь месціўся ў тутэйшым гатэлі ў цэнтры гарадка. Здаецца, двухці трохпавярховы будынак. Нумары, як і ўсюды ў гатэлях, маленькія, цесненькія. І набіта ў іх так, што ляжалі па два і па тры чалавекі на ложку. І ў салдацкіх, і ў афіцэрскіх палатах. На гэты раз маім напарнікам аказаўся камандзір стралковай роты, паранены ў твар. Пазіраў на свет ён толькі адным вокам, кармілі яго чайнай лыжачкай, не разнімаючы ягонага рота. Канешне, ужо тут было іншае шпітальнае жыццё, чым ва Украіне. Галоўнае, у мяне былі ногі, і я часта выходзіў у горад. А ў горадзе ішло цікавае жыццё. Увечары працаваў рэстаранчык, дзе вяртлявыя цыганскага выгляду гарсоны налівалі віно — за грошы і так, пад абяцанне заплаціць заўтра. Усюды былі развешаны ружовыя абвесткі з прапановай запісвацца ў Венгерскую кампартыю. За гарадской ускраінай у вінаградніках былі вінныя скляпы, каторыя, канешне ж, разрабавалі нашыя вызваліцелі, і адтуль у горад некалькі дзён цякло па канавах віно. Бы кроў. Мы хадзілі туды з бутлямі і каністрамі і прыносілі ў шпіталь пачастунак. Але на ўваходзе стаяў нампаліт, які адбіраў увесь унёсак, скіроўваў яго ў сталоўку. У сталоўцы выдавалі па шклянцы за абедам. Такая была смешная норма, якую мы ўсё ж мелі магчымасць перакрыць у шматкроць.

Добрае было жыццё ў шпіталі, але, як і ўсё добрае, хутка скончылася. Якраз пад новы год немцы прарвалі наш фронт, і іх танкавы авангард апынуўся на ўскраінах горада. Ноччу ўсіх нас паднялі, і хто мог хадзіць — пехатой, за паўсотню кіламетраў на пераправу ў Баю.

***А. А.:*** Гэта студзень сорак пятага?

***В. Б.:*** Так. Была завея, валіў снег. Я, яшчэ два лейтэнанты і шпітальная сястрычка Галя адмахалі за ноч тыя кіламетры, выйшлі на бераг Дуная, дзе месціўся гарадок Бая. Там была пераправа. Але на пераправу нас не пусцілі, заградатрад хацеў усіх заарыштаваць найперш за тое, што мы былі без зброі. Як дэзерціры ці тыя, што хочуць здацца ў палон. Але свой штатны «ТТ» пасля ранення я змушаны быў здаць у полк, а «вальтэр» у мяне адабралі ў шпіталі — з аружыем не паложана. Ад заградатрада выбавіла нас Галя, мы пайшлі ніжэй па Дунаю і пераправіліся цераз яго па лёдзе, між

шугі і палонак.

***А. А.:*** Гэта не тая Галя, пра якую ты ў «Літаратурцы» пісаў? Як Новы год сустракалі?

***В. Б.:*** Не, гэтая не тая. Тая была параненая, медычка з фронту. А гэта шпітальная сястра, забыўся яе прозвішча. Перайшлі Дунай, пераначавалі ў нейкай хаце — усе ўтраіх на адным ложку. Назаўтра дабрылі да новага шпіталя. Рана мая была лёгкая, там мне выцягнулі асколак, застаўся толькі невялічкі абломак, які ў мяне дагэтуль. Нашу ў руцэ як памяць.

***А. А.:*** Ты чуеш яго?

***В. Б.:*** Закрануты нерв. Дагэтуль не магу гэтай рукой ні ўзяць што мацней, ні сціснуць.

***А. А.:*** Гэта правая рука?

***В. Б.:*** Так.

***А. А.:*** Не можаш сціснуць нічога?

***В. Б.:*** Калі што не цвярдое — магу. А ўжо тронак рыдлёўкі, якую жалязяку сціснуць мне трудна. У тым тылавым шпіталі ў Сегедзе я быў нядоўга, пад канец месяца выпісаўся. На спадарожных машынах скіраваў у аддзел кадраў арміі, дзе атрымаў накіраванне — на гэты раз вышэй, у армейскую супрацьтанкавую брыгаду (ІПТАБР). Там былі 76-міліметровыя гарматы, што мне здаваліся асілкамі пасля мае саракапяткі. Помню, ішлі ў Дунапатай, дзе фарміравалася брыгада, з двума лейтэнантамі — Івановым і Рыжковым. Гэтыя па вайсковай адукацыі (яшчэ даваеннай) належалі да карпусной артылерыі і дужа бедавалі, што іх заслалі цяпер у супрацьтанкавую, дзе ствол доўгі, а жыццё кароткае. Але іх заслалі туды пасля штурмбата, дзе яны адбылі свой тэрмін, бо з'яўляліся акружэнцамі і праседзелі да вызвалення ў Адэсе. Яны, апануранья, бедавалі, а я радаваўся, бо для мяне тое было падвышэннем. Я вырываўся з пакутніцы-пяхоты.

У лютым полк наш (ІПТАП) сваім ходам выехаў на фронт і заняў пазіцыі — ззаду за пяхотай. То быў супрацьтанкавы абарончы раён (ПТОР) на напрамку верагоднага прарыву нямецкіх танкаў. Тут гэты полк дашчэнту разграмілі за адзін ранак. Амаль нічога не засталося, ні гармат, ні нашых цягачоў — «студэбекераў».

***А. А.:*** Зноў танкі? Адкуль у іх столькі танкаў?

***В. Б.:*** А вось трэба пачытаць успаміны рэйхсміністра па ўзбраенні, былога галоўнага нямецкага архітэктара Альберта Шпеера. Ён там распавядае, як перабудаваў нямецкую вытворчасць на вайсковы лад. У тым ліку і на выпуск танкаў. І танкаў, і самалётаў, і ўсяго іншага ў іх хапала да канца вайны. Што ж да Венгрыі, дык немцы ўсю зіму грамілі там два ўкраінскія франты — Маліноўскага і Талбухіна. Калатнеча была страшэнная,

але яна засталася амаль невядомай для шырокай публікі. Толькі цяпер апублікаваныя мемуары нашых маршалаў, і вось нядаўна я прачытаў у Маліноўскага, што абстаноўка ў Венгрыі склалася тады катастрафічная. Немцы разграмілі некалькі нашых армій (асабліва дасталося 3-му Украінскаму фронту Талбухіна), выйшлі да Дуная.

Мяркуючы па ўсім, і Сталін не ведаў, як ратаваць фронт, і даў права Маліноўскаму і Талбухіну вырашыць, пакідаць фронт на правым беразе ці эвакуіраваць яго на левы бераг. А ведаеш, што такое — эвакуіраваць фронт? Гэта ж маса войска, тэхнікі, зноў жа тылы. А пераправы былі ўсяго дзве — пантонныя цераз Дунай. І Маліноўскі піша, што мы прынялі рашэнне эвакуіраваць, каб выратаваць фронт. Але ў тыя дні якраз пайшоў лёд па Дунаі, шуга, якія і знеслі абедзве наплаўныя пераправы. Такім чынам фронт павінны быў ратаваць сябе сам. Там шмат загінула, а мы ўратаваліся. З ранейшай маёй дывізіі мала каго засталося. Зараз наладжваюць сустрэчы франтавікоў, і я кожны раз пытаюся, хто ёсць з 924-га палка? Некалькі тылавікоў, доктар з санчасці ды тыя, хто, як я, выбыў па раненні ў снежні.

І вось я ваюю ў артылерыйскім, супрацьтанкавым палку. Але тут аказваецца, што нашыя 76-міліметровыя гарматы супраць танкаў малаэфектыўныя.

***А. А.:*** Супраць «тыграў» ці звычайных?

***В. Б.:*** Не толькі супраць «тыграў». Увогуле тая гармата — не супрацьтанкавая, проста яе выкарыстоўваюць у гэтай якасці. Бо іншых няма. Адлегласць прамога стрэлу ў яе малая, прабойная сіла снарада таксама. Прыцэльныя магчымасці кепскія — горшыя, чым у саракапятці. Наогул якасць зброі — заўсёды наша самае злабадзённае пытанне. У шпіталі ці дзе ў зацішку мы болей за ўсё пра тое гаворым, якая гэта дрэнь нашы аўтаматы, кулямёты, гарматы ды і танкі. Але на палітзанятках пра гэта сказаць немагчыма, бо ва ўсіх газетах напісана, што наша зброя лепшая за нямецкую, што ў немцаў усё дрэнь ды эрзацы. І хлеб, і мыла, і кава. Ды яшчэ смярдзючы дуст, якім яны перасыпаюць усё ў бліндажах. Куды лепей, як мы, вошы смажыць у бочках. Часам нам чытаюць загады пра выпадкі, калі некаторыя афіцэры асуджаны вайсковым трыбуналам за пахвалу нямецкай зброі. Тым болей нямецкай тактыкі. Нашая тактыка таксама лепшая за нямецкую, чуем мы, і толькі некаторыя з нас прытым крыва ўсміхаюцца. Але маўчаць.

Тады мы займалі ПТОР (супрацьтанкавы абарончы раён). Гэта значыць, размяшчаемся на танканебяспечным напрамку, на прамой наводцы. Да пярэдняга краю, можа, кіламетры два. Стаім, відаць, з тыдзень. Увогуле спакойна, хіба толькі даймае нямецкая авіяцыя. Але дзе яна не даймае? Цераз дарогу ад маіх гармат

размяшчаюцца агнявыя пазіцыі майго сябра лейтэнанта Бяражнога, які дужа любіць кніжкі, заўсёды нешта чытае. Я таксама люблю пачытаць. Неяк я ўзяў у яго «Сястру Керы» Драйзера, але прачытаць не паспеў, і ўвечары ён прыйшоў да мяне па кніжку. Я папрасіў адтэрміноўкі, і Бяражны пайшоў на свае пазіцыі.

А ранкам я прачынаюся ў зямлянцы. Зямляначкі ў нас былі сапліваенькія такія… Прачынаюся ад прадчування таго, што нешта здарылася. Спярша не магу зразумець, што? Роў стаіць, дым і агонь. Выскокваю з зямлянкі і зноў не магу зразумець нічога. Нічога не відаць, дым есць вочы. Зверху нешта абрушваецца, падае, вые. Быццам сірэны. Аказваецца, пікіруюць «месершміты». А ў нас на агнявой была скрынка ракет — звычайных для ракетніц, на выпадак начной стральбы.

***А. А.:*** І яны падпалілі?

***В. Б.:*** Самалёты абстралялі і падпалілі ракеты. Тыя гараць і ўзрываюцца. Асколкаў няма, але… Ракеты там асвятляльныя, каляровыя, букетныя, усё гэта гарыць, пыхае, ірвецца, і роў гэты абрынаецца зверху. Адзін самалёт адыдзе, за ім — другі, і з кулямётаў лупяць. Я ўжо не памятаю, ці яны адляцелі, ці пікіравалі, але мы пачалі тушыць пажар. І вось тады да нашага слыху данеслася, што насоўваецца і горшае. Зямля хадуном захадзіла, дрыжыць і, канешне, — знаёмы гул. Калі ветрам трохі аднесла дым ад гарэлых ракет, зірнуў я на дарогу, што была збоч. А трэба сказаць: полк размяшчаўся так: дзве батарэі з гэтага боку, тры з таго. Тое называецца — асядлаць дарогу. Дык вось па той бок дарогі за пасадкай прэ натоўп танкаў.

***А. А.:*** Натоўп?

***В. Б.:*** Менавіта натоўп, ідуць суцэльным гуртом, бы каровы на вадапой. Ніякага там баявога парадку, толькі пярэднія страляюць з гармат. Ну вось так, не спыняючыся, прайшлі і палову нашага палка бы злізалі. Бы яго і не было — ні гармат, ні машын, ні людзей. Тут да мяне прыбягае камбат, старшы лейтэнант Ахрын (жыве ў Нікалаеве, зрэдчасу мы перапісваемся): вытаскивай пушку, подогнать машины!.. Мотаем отсюда! Падагналі «студэбекеры», выцягнулі гарматы і некуды ўбок, — канешне ж, як па рацыі загадаў камандзір палка — наперарэз танкам. Але тут трапілі ў нейкае забалочанае кустоўе, машыны пачалі грузнуць, пасля прабіраліся па зарослых дубняком пагорках. Вядома ж, спазніліся, куды трэба было, і трапілі пад абстрэл танкаў. Якраз палявы касагор, які трэба праскочыць, але яго выдатна прастрэльваюць танкі з сяла. У нас было машын з дваццаць, гармат меней, дзве батарэі. І мы рашылі, што трэба прарывацца па адной машыне. Машына разганяецца і як мага шпарыць па

касагоры, а танкі страляюць. І так адна пройдзе, а другую спаляць. Я праскочыў, не пацэлілі. Іншых пападбівалі і папалілі шмат.

Яшчэ праз дзень засталася ў нас адна мая гармата з машынай, радыёстанцыя і штабная машына. Іншыя ўцалелыя пайшлі іншым кірункам, бо ўсім разам прайсці было нельга. Але з намі камандзір палка палкоўнік Парамонаў, штаб, некалькі тылавікоў і аўтаматчыкаў. Прыпыніліся мы ноччу ў нейкім венгерскім фальварку — вялікі дом пад чарапіцай, стайні, аборы. Наперадзе шырокі магістральны канал, там пантонная пераправа, і нам трэба на той бок. Але пераправа ўжо захоплена немцамі, нам далей ходу няма. Пад кустоўем у канцы падворка паставілі гармату. Перад намі шырокі роў, а за ім дарога на пераправу. І на гэтую дарогу ўранку хлынуў усё той жа танкавы натоўп. У паветры — гул, гром, лязгат гусеніц, нават зблізку нічога нельга пачуць. І тут прыбягае да мяне парторг: командир полка приказал открыть огонь. Ну што ж, агонь, дык агонь. Але ці доўга тут пастраляеш? Наводчык прыцэліўся і стрэліў. Я побач сачу — ці пацэліў? Ды, бачу, снарад пайшоў высока ў неба. Што такое? — крычу наводчыку, той удакладніў на панараме прыцэл. Зноў стрэліў. Я ў бінокль сачу, чакаю, каторы танк спыніцца, ды дзе там! Снарад б’е ў зямлю побач. Тады кідаюся да гарматы… А ў ёй ёсць такі механізм — паралелаграм з цягай, якая злучае панараму са ствалом. Куды ствол, туды і прыцэл — паводле ідэі. Але як мы цягалі гармату па лясах і пагорках, збілі тую цягу, і цяпер панарама і ствол глядзяць у розныя бакі.

***А. А.:*** На ваша шчасце.

***В. Б.:*** Так. Далажыў парторгу, той пабег дакладваць камандзіру палка. Разумны чалавек быў наш палкоўнік Парамонаў, вылаяўся і махнуў рукой. Бо што тут можна зрабіць? І хто вінаваты? Пакуль мы мітусіліся, танкі прайшлі на пераправу і за пераправу. А нас тым часам з вышынь за каналам пачалі абстрэльваць свае цяжкія мінамёты. Мабыць, бачаць, што споўдаюць нейкія людзі, во яны і б’юць, толькі чарапіца з дахаў разлятаецца. Тут мяне кліча камандзір палка і, паколькі я праштрафіўся, дае заданне перабрацца за канал і наладзіць сувязь з тымі мінамётчыкамі. Для таго выдзяляе мне чалавек пяць артылерыстаў, нейкіх прыблудных сапёраў і нашага батарэйнага старшыну Жарава. Што ж, сабралася група чалавек дванаццаць, прыгнуўшыся, пабеглі па полі. Але далёка не адбегліся, гляджу — нічога не выйдзе, тыя, з-за канала, адразу накрылі нас агнём. Залеглі, што рабіць? Двух ужо параніла, некага забіла. Старшыне асколак у задняе месца ўпіўся. А да канала яшчэ ісці ды ісці…

***А. А.:*** Яны рашылі, што вы наступаеце.

***В. Б.:*** Яны, канешне, падумалі, што гэта немцы. Ну, і

вырашыў я вярнуцца. Забралі двух параненых, забітых пакінулі і ўсё пад агнём, між разрываў прыйшлі на фальварак. Камандзір палка нават не лаяўся, сам усё бачыў. Праўда, мінамёты неўзабаве перанеслі агонь далей, рашылі, мабыць, што з фальваркам скончана. А мы тут неяк даседзелі да ночы. Ноччу рашылі прарывацца, бо іншага выйсця няма. Паслалі лейтэнанта Борматава (цяпер палкоўнік, жыве ў Крывым Розе) разведаць пераправу — ці цэлая. Ці, можа, мінамётчыкі яе ўжо расстралялі. Аказалася, пераправа цэлая, канешне, пад аховай (побач стаяць два бронетранспарцёры), і пад'езд да яе нават перагароджаны шлагбаўмам. У нас адна гармата, машына з радыёстанцыяй, яшчэ машын штук пяць было на хаду. Першым пусцілі мой «студэбекер», затым астатнія. Задача — збіць шлагбаўм і праскочыць на той бок канала. Але і на тым беразе таксама немцы, ужо паспелі заняць плацдарм. Чуваць, там ідзе бой, усё грукоча і грыміць. Мы з камбатам стаім на падножках абапал кабіны, у кузаве салдаты са зброяй напагатове. У прыцемках пад'ехалі да шлагбаўма, насустрач выскачыў немец з кружком чырвоным, бліснуў нам, штось крыкнуў. Ну а мы… «Студэбекер» усё ж магутная машына, як урэзаў ён у гэты шлагбаўм, той і адляцеў. Мы праскочылі…

***А. А.:*** Не страляючы?

***В. Б.:*** Мы праскочылі без стрэлаў, цераз пантоны на той бок, а там адразу каменны дом і паваротка на вуліцу. А ззаду пачалася страляніна, але мы па гэтай вуліцы рванулі, як толькі можна было ўпрыцемках. Здаецца, усе праскочылі, толькі самую заднюю падбілі. Адразу за паселішчам прыпыніліся, бо нас абстралялі ўжо свае, паранілі двух салдат у кузаве і прабілі кола ў маім «студэбекеры». Тут жа паявілася начальства, і мы занялі абарону пад вышынямі. У пяхотным ланцугу паставілі гармату. Мабыць, з тыдзень ішлі баі за тыя вышыні, але танкі далей не пайшлі. Мабыць, сваю задачу яны выканалі, паехалі на іншы ўчастак. А тут калашмаціла адна адну пяхота, вышыні па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі. Я з гарматай акапаўся пад самай вышынёй, тое нас, мабыць, і ўратавала. Бо тых, што былі ззаду, немцы расстрэльвалі з вышынь, а нас пад носам не бачылі. Там у нас загінуў падпалкоўнік Аўчароў, капітан Кавалёў, двое ўзводных і шмат салдат. Аднойчы пяхота ўцякла, пакінула маю гармату, якую мы не маглі выкаціць. Але абышлося — уратаваў туман. А ўвогуле маю гармату ратавала нашая самаходка, што згарэла ў першы дзень і прыкрыла сабой нас з боку канала, адкуль наш плацдарм прастрэльвалі нямецкія танкі. Яшчэ нас бамбілі свае «кукурузнікі» — жаночы авіяполк. Кожную ноч вешалі ў небе свае ліхтары і пачыналі кідаць бомбы. Добра, што яны не цалялі, проста разгружаліся… У перапынках паміж бамбёжкамі прыходзіў

нампаліт маёр Цквітарыя, тлумачыў нам загады Вярхоўнага галоўнакамандуючага, каб ні кроку назад. Як пачыналася бамбардзіроўка, ён кідаўся да ровіка, але быў тоўсты, няспрытны, месца ў цесным ровіку яму не хапала. Тады ён крычаў: я намеснік камандыра палка, прыказываю асвабадыть места… Як ён хутка сыходзіў, на вышыні пачалі працаваць нямецкія «гукаўкі». Праіграўшы «Сценьку Разіна» або «Ямшчыка», яны абрыналі на нас шквал уласаўскай прапаганды накшталт таго, што пад кіраўніцтвам Гітлера пачаўся пералом у вайне, што не сёння-заўтра мы будзем тут канчаткова дабіты, таму трэба ратаваць сваё жыццё, а не паміраць за Сталіна і ягоных жыдоў-камісараў. Але тая прапаганда ўжо ні на каго не дзейнічала, мы ўжо выдатна разумелі, што час Гітлера мінаўся.

Дзесьці ў гэты час мы атрымалі новыя 57-міліметровыя гарматы. Гэта былі добрыя супрацьтанкавыя гарматы — з доўгім ствалом і вялікай прабіўной сілай снарада. Яны нам адразу спадабаліся. Я сам прастраляў іх паводле ўласнага спосабу — з дапамогай бінокля. Трапнасць іх таксама была выключная, і мы шкадавалі толькі, што паявіліся яны ў нас гэтак позна. Але і тое добра. У хуткім часе яны нам паслужылі, як за ўсю вайну не служылі іншыя гарматы.

16 сакавіка магутным выбухам на світанні (гэта немцы ўзарвалі ўсё тую ж пераправу пад Шыманторніяй) пачаўся іхні адыход і нашае наступленне. Наступалі па тых жа мясцінах, дзе месяц таму абараняліся, дзе наш полк разграмілі нямецкія танкі. Як праязджалі каля маёй агнявой пазіцыі, дзе гарэлі ракеты, спыніліся, і камандзір палка загадаў завярнуць убок, на старыя пазіцыі разгромленых батарэй, забраць уцалелыя снарады. Мы адчапілі гармату і на «студэбекеры» паехалі недалёка ад дарогі ў поле. На падножку машыны да нас ўскочыў капітан-смершавец, і я з пэўнай трывогай падумаў: навошта? Пазіцыі ўзвода Беражнога былі крайнія, мы адразу ўбачылі яго разбітую гармату, разварочаны гусеніцамі ровік, некалькі трупаў салдат і яго самога — на броўцы ровіка з раскінутымі рукамі. Дзяга з яго была знята, пісталета не было ўжо, з гімнасцёркі хтосьці звінціў ордэн «Чырвонага Сцяга». Залітая крывёй гімнасцёрка ссохлася. Скрынкі са снарадамі былі ўсе побач, але гармата… Увогуле яна была цэлая, толькі яе ствол — пялёсткамі ўбакі.

***А. А.:*** Разарваная?

***В. Б.:*** Так, разарваная…

***А. А.:*** Значыць, пяску насыпалі і яе разарвала?

***В. Б.:*** Насыпалі ў ствол і стрэльнулі. Гэта было вельмі кепска. Гляджу на капітана, а той падышоў, пруцікам пастукаў па ствале і кажа, пазіраючы нам у вочы: глядзі, гэта ж трэба было так

трапіць.

***А. А.:*** Трапіць?

***В. Б.:*** Трапіць у самы ствол, кажа так, каб усе пачулі. І салдаты, каб учулі, і я таксама. Я паглядзеў на яго і крыху здзівіўся, а пасля зразумеў, што капітан гэта — знарок. Бо сам ён артылерыст, ва ўсякім разе, такія эмблемы насіў і гэткіх справах павінны быў разбірацца.

***А. А.:*** А што, артылерысты не мелі права, калі нявыкрутка, разарваць ствол гарматы?

***В. Б.:*** Канешне, не. Мы павінны былі страляць, пакуль цэлыя гарматы.

***А. А.:*** Ну, а каб не дасталася ворагу — узарваць?

***В. Б.:*** Пакуль былі жывыя і былі боепрыпасы, павінны былі змагацца. А пакінуць — то трыбунальная справа.

***А. А.:*** Узрывалі.

***В. Б.:*** Пры адыходзе. Але для таго патрэбны быў загад старэйшага начальніка. Не сваволнічаць… А тут выходзіць, гармата спраўная, снарадаў даволі, а ён яе падарваў? Канешне, не ён падарваў…

***А. А.:*** Ён ужо забіты.

***В. Б.:*** Відаць, з ягонага разліку падарвалі. Але ўсё роўна тое — справа падсудная, і СМЕРШ мог усё раскруціць. А ён даў нам знак, што лічыць гармату разбітай з нямецкага танка.

І праўда, болей размоў на гэтую тэму не ўзнікала. Забралі некалькі скрынак снарадаў, забітых не ўзялі, іх павінны былі пахаваць тылавікі, мы спяшаліся, бо немцы адступалі.

…Ноч некуды ехалі, ехалі — па нейкіх мокрых і гразкіх прасёлках, па полі, пад ранак прыехалі на ўскраіну сяла, сталі абапал сцірты. Чутно, як непадалёк адбываўся якійсьці рух — гырчэлі маторы, штосьці гуло, шархацела, часам чуліся прыглушаныя галасы. Ішлі калоны. Немцы ад Будапешта прарываліся на захад.

Як стала трошкі світаць, убачылі зводдаль тое, што чулі ў цемры. Ішоў суцэльны паток войска: аўтамабілі, танкі, пяхота. Зараз жа адкрылі агонь. Страляць было проста, бо блізка. Адразу там запалала некалькі аўтамабіляў, з танкаў па нашай ускраіне зрабілі некалькі непрыцэльных стрэлаў.

А мой наводчык Расцалуеў меў вострае вока і трапна ўзяў іх на прыцэл. З другога стрэлу загарэўся танк. Калона амаль спынілася, заднія пачалі напіраць на пярэдніх, пярэднія гарэлі. Пяхота ў паніцы кінулася ў поле, і мы расстрэльвалі яе асколачнымі. Пасля, як усё скончылася, нешматлікія машыны ўцяклі, а пяхота разбеглася, мы пайшлі паглядзець, што нарабілі. Жудасна было тое бачыць… Такога разгрому я не бачыў з вясны

сорак чацвёртага года, як на дарозе пад Уманню нашыя танкісты разграмілі нямецкую штабную калону. Гэта быў ці не апошні бой на венгерскай зямлі, за восень, зіму і вясну багата палітай нашай крывёю...

Да аўстрыйскай мяжы рухаліся ўвогуле ўдала, з нядоўгімі сутычкамі. А на мяжы ўсё спынілася, немцы сталі ў абарону. У перадгор'і Альпаў — шырачэзная даліна, якую немцы перакрылі агнём і нас туды не пускаюць. Нямецкія танкі здаля б'юць па адзінай на схіле дарозе. Пяхота, артылерыя — усё ў нас спынілася. Ды хутка з'явіўся нейкі генерал у камбінезоне, але з генеральскай фуражкай на галаве і якраз налез на нашую батарэю. А вы чаго тут тарчыце? Ану вперад! І пагнаў батарэю па адхоне ўніз, туды, дзе немцы. «Студэбекеры» з гарматамі неяк праскочылі, і мы хуценька за кусцікамі пачалі акопвацца. Іншых, што ехалі за намі, немцы не пусцілі, спалілі некалькі машын, і болей ніхто праз іх агонь не праскочыў. Пра тое, што мы адкрытыя для сваіх, мы не клапаціліся. А ведаеш, як на вайне бывае? Розных часцей зашмат, нашыя ў палку, скажам, ведаюць, дзе іхнія астатнія, а іншыя могуць і не ведаць. І нейкія мінамётчыкі, якіх спрытны генерал змусіў хутчэй адкрыць агонь, агонь і адкрылі. Па нас, канешне. Толькі я з салдатам выкапалі ровік па калена, як тыя пачалі смаліць. Міны кучна кладзіся якраз абапал. І, відаць, накрылі б, калі б не найшла вясновая хмарка і не паліў дождж. (Зрэшты, у вайну, калі пачыналася арткалатнеча, заўсёды пачынаўся і дождж. Іншы раз ён і не спыняўся, бо не спынялася арткалатнеча.) Як толькі дождж хлынуў, я выскачыў з ровіка — давайце за машынай і хутчэй адсюль. Але куды, наперадзе ж немцы? А хоць да чорта ў зубы... Трохі некуды ад'ехалі, за нейкія кусцікі, ад якіх было бліжэй да немцаў, чым да сваіх, і тым ураталіся. Пад носам у немцаў стала спакайней.

Ну, а пасля падцягнулася болей войска, пачалося планамернае наступленне і баі. Баі за кожны пагорак і кожнае паселішча. Ды ўжо ў горнай мясцовасці. Адчувалася хуткае сканчэнне вайны, дух быў бадзёры. Помню, дзень біліся за нейкую вёску, не маглі ўзяць, тады аднекуль з іншага ўчастка перакінулі самаходны полк. Гэта 76-міліметровыя самаходкі, якіх на вайне таксама звалі «бывай, радзіма». Во яны праходзяць міма, у адной ззаду (зад у іх адкрыты) стаіць бравага выгляду камандзір, вусаты, у танкавым шлеме, і гойкае нам: упярод, пушкары, годзе пузам зямлю пахаць! Што ж, давай упярод, калі ты гэткі спрытны. Вёску ўзялі, пяхота прайшла на той бок, мы следам, і каля мастка, гляджу, стаіць абгарэлая самаходка і з яе звісае на гусеніцы абгарэлы чалавек. Па недагарэлых вусах мы пазналі таго аптыміста.

Помняцца і яшчэ прыкрыя, а то і камічныя выпадкі. Як я ўжо казаў, у Румыніі я першы раз захварэў на малярыю. Даволі паскудная хвароба, тым болей, што шпітальнага лячэння не вымагае. Зімой была перадышка, а вясной пачаліся прыступы. З пэўнай рэгулярнасцю — пад вечар або калі ўбачу ваду…

***А. А.:*** Проста ўбачыш?

***В. Б.:*** Убачу ставок, возера, рэчку.

***А. А.:*** Здалёк убачыш?

***В. Б.:*** Хоць здалёк, хоць зблізку. Раптоўна здрыгануўся, і пачынаецца ліхаманка на некалькі гадзін. Аднойчы мы займалі пазіцыю на прамой наводцы ў полі. Трошкі далей і збоч ад агнявой раслі дрэўцы, нейкія кусцікі. Агонь не вялі, але немцы былі блізка. Мяне раптам затрэсла, і я адышоўся да тых дрэўцаў. Было цёпла, ужо зялёная траўка прабівалася.

Як лёг, салдат наваліў на мяне нейкіх трафейных коўдраў, нямецкіх шынялёў — каб сагрэцца. Пасля, як крыху адпусціла, заснуў. А як прачнуўся, дык здзівіўся, што вакол дужа ціха.

Высунуў галаву з-пад таго варахоб’я — ужо сцямнела. Але дзе гармата? На агнявой няма маёй гарматы, Але стаяць нейкія людзі і пазіраюць чамусьці не туды, куды заўжды пазіраюць на фронце — у бок праціўніка. Гэтыя пазіраюць назад. Я яшчэ прыгледзеўся і прыслухаўся — то ж немцы.

***А. А.:*** Колькі метраў ад цябе?

***В. Б.:*** Метраў? Во правільна ты пытаешся, колькі метраў — заўсёды, як кажуць, ключавое на вайне пытанне. Ну, тут, можа, метраў дваццаць.

***А. А.:*** Ну, ты цікавы чалавек. Любы іншы аўтар даўно ўжо з такіх сваіх эмоцый пачаў бы пісаць.

***В. Б.:*** Тут нічога дзіўнага. На фронце ў пяхоце ці там у супрацьтанкавай артылерыі такіх выпадкаў процьма. Але справа ў тым, што з пяхоты, апроч хіба В. Кандрацьева, у літаратуру ніхто не прыйшоў. Мабыць, не засталося. Усё лепшае, што напісана пра вайну з ліку яе ўдзельнікаў, канешне, належыць усё ж артылерыі. Мабыць, паводле традыцыі, распачатай артылерыстам Л. Талстым. А тут, пакуль я дрыжаў пад варахоб’ем, нашы драпанулі, гармату камбат загадаў адцягнуць ніжэй у сяло, а пра мяне забыліся. Таго салдата, што там мяне накрываў, паслалі па аўтамабіль, а іншыя не ўгледзелі… І я ўстаў…

***А. А.:*** Як устаў? Яны ж глядзяць у твой бок.

***В. Б.:*** Не, яны глядзяць на сяло, дзе ўжо нашы. І цёмна. Я бачу іх толькі на фоне неба.

***А. А.:*** Сілуэты?

***В. Б.:*** Іхнія сілуэты. Адзін у касцы, а другі, помню, у казыркастай шапцы. Вось… І я паўзком, на кукішках даў адтуль

дзёру. Знайшоў сваіх, камбат пытаецца: дзе быў? У немцаў, кажу, быў. Пасмяяліся…

Усё ж ішоў сорак пяты, да перамогі заставаўся апошні месяц. А здарылася б тое раней на год ці паўгода, было б не да смеху. Як з тым нашым камандзірам узвода кіравання, які паранены пабратаўся з немцам. У Венгрыі, у час бою за нейкае сяло, надта бамбілі нямецкія самалёты, і гэты лейтэнант, паранены ў нагу, сунуўся ў нейкі скляпок на двары сялянскага падворка. Якраз змяркалася, і ў той скляпок сунуўся і яшчэ нехта, таксама паранены. Тады скончылася бамбёжка і наогул скончыўся бой. І во яны сядзяць удвух, але ў цемры не бачаць адзін аднаго і не ведаюць, хто побач — свой ці чужы. Для таго маўчаць. А галоўнае — не ведаюць, хто заняў сяло — нашы ці немцы. Ніхто першы не хоча адкрыцца, так мінула ноч. І толькі як пачало світаць, лейтэнант убачыў, што перад ім немец, обер-лейтэнант медыцынскай службы. І ніхто з іх за пісталет не схапіўся, бо зноў жа — невядома, хто наверсе. Першы не стрываў немец, таксама паранены, неяк выбраўся, а лейтэнант сам выбрацца не можа. Сядзіць і чакае, калі прыйдуць немцы і возьмуць яго ў палон. Або прыстрэляць у яме. Немцы і прыйшлі. Але на ламанай рускай мове растлумачылі, што страляць не будуць, будуць рабіць арцліхер беістанд (медыцынскую дапамогу). І выцягнулі лейтэнанта, занеслі яго ў медпункт, дзе той жа ягоны начлежнік перавязаў яго нагу і папытаўся, што ён хоча: да сваіх ці ў палон? Канешне, лейтэнант захацеў да сваіх, тады яго ўначы два немцы паклалі на палатку і падцягнулі да нашых акопаў на краі сяла. Праз паўгадзіны ён туды і зваліўся. Ну, адвезлі ў санбат, ляжыць там лейтэнант, яго перавязваюць, але ж дужа яму цікава з сваіх прыгодаў. І ноччу ціхенька ён расказаў пра тое суседу — што з ім тры дні таму здарылася. Падзівіліся трохі абодва. А яшчэ праз дзень прыйшоў незнаёмы афіцэр і сказаў, каб гэтага лейтэнанта тэрмінова падрыхтавалі да эвакуацыі. Аднаго. Болей яго ніхто ў палку не бачыў. І чутак нават ніякіх не дайшло.

Пасля той выпадак нейкім чынам паслужыў мне, калі я пісаў «Адну ноч». Хаця там іншы фон ды інакшы час. Але грамадства, а найперш нашая рэдактура не былі гатовыя прыняць падобныя тэмы, ад якіх патыхала непрымальным для іх пацыфізмам. Тагачасны рэдактар «Полымя» Максім Танк адмовіў аўтару ў публікацыі таго апавядання з прычыны «невыразнасці», як ён напісаў, ідэі. Думаецца, ідэя была выразная, як надта выразнымі былі і партыйныя адносіны да яе.

Во ўжо гэтыя партыйна-кадэбоўскія адносіны!

Аднойчы дайшлі мы да нейкага невялічкага гарадка і сталі. Ноч мінулася спакойна, спакойны быў ранак. Гарадок заняла

пяхота. Мы — за ёй. А блізенька за раўком — манастыр. Я троху падрамаў ноччу, а на золаку прачнуўся і пайшоў праз браму ў манастырскія будынкі — цікава было паглядзець, у нас жа манастыроў даўно не было. Манастыр быў пакінуты, па ягоных калідорах блукалі ўжо нейкія салдаты. Усюды валяліся богаслужбовыя кнігі, нейкае майно…

І тут раптам пачалося — танкі выйшлі на ўскраіну гарадка і турнулі нашу пяхоту. Калі мы усе, хто быў у манастыры, выскачылі адтуль, пабачылі, як тая бяжыць, рассыпаўшыся па ўсім полі, аднекуль, з-за сценаў і платоў гарадскіх будынін страляюць танкі. Мы з нашых пазіцый страляць па іх не маглі, перашкаджалі прыдарожныя пасадкі, дый той участак быў не наш. І, каб уратавацца без прыкрыцця пяхоты, мае хлопцы прычапілі гарматы да «студэбекераў» і рванулі да дарогі. Можа, тое тады было і правільна, але чаму пабегла пяхота? І дзе ўрэшце пяхотныя камандзіры? І дзе нашы слаўныя палітработнікі, якія натхняюць байцоў на перамогу над злейшым ворагам? Няўжо таксама разбрыліся па цікавых месцах?

Прыкладна пра ўсё тое я і крычаў, бегучы пад кулямі па голым полі. А слухаў мяне адзін капітан, які таксама апынуўся ў гэткім жа становішчы пакінутага пад агнём. Капітан гэты быў упаўнаважаны контрразведкі СМЕРШ, і ён адно — маўчаў. Крычаў я са злосці, бо нашыя шансы адолець шырокае, забаранаванае поле пад ураганным агнём з танкаў былі невялікія. А дужа крыўдна было праз нейчую дурноту гінуць перад канцом вайны. А можа, і праз сваю дурасць таксама.

Але і добра, што я адышоўся з перадавой (бо наўрад ці я адважыўся б у гэткай сітуацыі з'язджаць з поля бою), без мяне хлопцы ўратавалі гарматы, а галоўнае — уратаваліся самі. Неяк і нам пашэнціла жывымі дабегчыся да ўкрыцця, а танкі далей не пайшлі. Пасля неяк разабраліся. Але я доўга прыглядаўся, калі бачыў, што нехта старонні ідзе на агнявую: ці не той капітан. Ён не прыйшоў. Здаецца, у нейкім сэнсе ён быў неблагі смершнік, пра што сведчыў той ранейшы выпадак з гарматамі лейтэнанта Бережнога. Я ўжо гатовы быў у тым упэўніцца.

Тады ж у нейкім аўстрыйскім гарадку я спаткаў праваобраз сваёй будучай Джуліі. У гарадку тым, як, зрэшты, і ў шмат якіх аўстрыйскіх гарадках, было шмат прыгнаных з усходу (ды і з захаду таксама) рабочых, што працавалі на аўстрыйскіх вайсковых заводах. Жылі яны ў вялізных даўгіх бараках, а як горад займала Чырвоная Армія, разбрыдаліся хто куды. Вядома ж, кіруючы найперш на радзіму, калі тое было магчыма. Неяк мы сталі калонай машын з гарматамі на гарадской вуліцы, чакалі, пакуль начальства наперадзе штосьці вырашыць. І тады ля машын

паявілася спрытненькая чарнавалосая дзяўчынка ў паласатым убранні, якая нешта пыталася ў салдат, што сядзелі ў кузавах. Аказваецца, пыталася нейкага Івана. Канешне, амаль з кожнага кузава ёй адгукаўся які-небудзь Іван, але дзяўчына ківала галавой — не. Так яна абышла калону, не знайшоўшы таго, хто быў ёй патрэбны. Тады я падышоў да яе і папытаўся, каго яна шукае. На кангламераце немецка-руска-італьянскіх слоў яна распавяла, што яе імя Джулія, яна італьянка і шукае рускага палоннага Івана, з якім летась разам уцякала з канцлагера. У гарах іх схапіла паліцыя, яе зноў кінулі ў канцлагер, а што сталася з Іванам, яна не ведае. Цяпер яна мае надзею знайсці яго сярод чырвонаармейцаў. Канешне, то была марная надзея. Але невялічкая тая гісторыя запомнілася мне, каб гадоў пра 20 зрабіцца «Альпійскай баладай».

А ў другім месцы, заняўшы агнявыя пазіцыі на гарадской ускраіне, мы пастукаліся ў дзверы бліжняга катэджа. Нам адчынілі адразу, на парозе стаяла маладая дзяўчына ў белым фартушку, якая спытала па-руску, што нам трэба? Тое нас дужа здзівіла, і мы ў сваю чаргу спыталі яе, ці яна руская? Так, быў адказ, яна руская. Але тут жыве гаспадзін прафесар, ён стары і просіць яго не турбаваць. Але хто такая яна і чаму тут? А яна з Днепрапятроўска і служыць ў гаспадзіна прафесара, які зусім цывільны чалавек і вельмі добра адносіцца да яе. Тое нас здзівіла яшчэ болей: гэтая зямлячка абараняе немца? І падобна, не збіраецца пускаць нас у гэты заможны катэдж. Тое ўжо абурала. Нехта з нас падвысіў голас, нехта схапіўся за пісталет. Тады мой сябра, таксама ўзводны Валька Бахцігозін рашуча мовіў: стойце, адставіць! Пайшлі назад… Мы пайшлі адтуль, знайшлі іншае прыстанішча, дзе нас ніхто не спыняў. Не запрашаў, але і не спыняў. Пасля я папытаўся ў Валькі, чаму ён стаў у абарону тае землячкі, і Валька сказаў, што ў Еўропе трэба паводзіць сябе цывілізаванымі людзьмі, а не хцівымі азіятамі. Тое мне запомнілася. Як і сам Валька, самы малады з нашых узводных, далёкі нашчадак польскіх ссыльных у Сібіры, родам з горада Ачынска, адзіны сын у матулі, якая ці не кожны дзень слала яму на фронт пранумараваныя лісты і прасіла яго рабіць таксама — яна працавала бухгалтаркай. Валя так не рабіў, хоць меў добрую натуру і любіў сваю маму. Начальства не любіла надта маладога і нейкага не характэрнага для ўзводных хлопца. А я любіў Валю. Пасля вайны з усіх нашых ветэранаў я найбольш хацеў адшукаць Валю Бахцігозіна, ды марна: малодшы лейтэнант Бахцігозін прапаў без следу.

Быў ужо май, цвіў бэз. Стаялі каля невялічкага горнага гарадка ці, можа, пасёлачка, праз які праходзіла асфальтаваная шаша. Пазіцыі займалі за лесапільняй, месца было зацішнае. Немцы з-за пасёлка зрэдчасу пастрэльвалі з мінамётаў, разбіваючы

апошнія ўцалелыя дамоўкі. Я на лесапільні раздабыў веласіпед і вучыўся ездзіць на ім — у дзяцінстве ж не давялося. Аднойчы разагнаўся з горкі і на павароце нечакана збіў нашага смершаўца. Абодва паляцелі на асфальт, я разадраў капітану штаны. Падняўшыся, ён пачаў бэсціць мяне і напомніў пра мае размовы пад агнём на полі, якія ён не забыўся. Я тады нават струхнуў, бо думаў, што капітан усё ж забыўся на іх. Але неяк абышлося. Капітана хутка перавялі некуды, на яго месца прыехаў іншы — на гэты раз з танкавых войск. Хаця эмблемы яны насілі на выбар. Якія ім падабаліся.

Так настала сёмае мая. Мы ўсё ў тым пасёлку, пяхота таксама на ягонай заходняй ускраіне. Амерыканцы яшчэ далёка. І вось уначы нашыя радысты дачуліся, што заўтра падпісанне капітуляцыі Германіі. А мы атрымліваем загад: у 19.00 атака на нямецкія пазіцыі. Падрыхтавацца да атакі. Загадана ставіць гарматы на прамую наводку, суправаджаць пяхоту агнём і коламі. Ну, мы найперш напісалі лісты дадому, маўляў — ідзём у апошні бой. Калі што, дык…

***А. А.:*** Ну, і які стан у гэты момант?

***В. Б.:*** Болей чым паршывы.

***А. А.:*** Мабыць, думаеце: ну, на храна гэтая атака?

***В. Б.:*** Бо ўжо перанааладзіліся на мір, ужо паявілася надзея, што выжылі. А тут… Праўда, яшчэ прамарудзілі з гадзіну, а тады пасля кароткага артналёту паднялася пяхота. Але немцы не страляюць, во дзіва! Калі яна дабрыла да варожых траншэй, тыя аказаліся пустыя. Немцы змыліся. І нам загадалі чапляць за машыны гарматы і даганяць немцаў. Але без пяхоты. Калі што, самім быць за пяхоту. І за артылерыю таксама. Што ж, мы паехалі. Ехалі ўсю ноч і ранак. Немцаў дагналі. Далей усе дарогі былі запруджаны нямецкімі калонамі…

***А. А.:*** Якімі? Палоннымі ўжо?

***В. Б.:*** Ды не палоннымі — нямецкімі часцямі. Пяхота, артылерыя — усе кіруюць на захад, здавацца амерыканцам.

Нам яны здавацца не хочуць. А мы і не бярэм. Мы атрымалі новую задачу — як мага хутчэй злучыцца з саюзнікамі. А гэтых мы проста мінаем.

***А. А.:*** Дарогу саступаюць вам?

***В. Б.:*** Пяхота саступае, ідзе па ўзбочынах. А танкі дзенебудзь спыняюцца і з засады робяць колькі апошніх стрэлаў.

***А. А.:*** А пяхота саступае і вы не чапаеце яе? І яна вітае вас?

***В. Б.:*** Некаторыя мовяць: Гітлер капут, — і ўскідваюць рукі. У каторых на руках гадзіннікі, нашыя іх знімаюць. Гадзіннікі — самы папулярны трафей. Некаторых раззбройваем. Я там

разжыўся новенькім пісталетам і афіцэрскім плашчом…

***А. А.:*** Так. Ну, а якая сустрэча была з амерыканцамі?

***В. Б.:*** Дамчалі да ракі Энс, у цэнтральнай Аўстрыі. Гэта быў мой апошні рубеж той вайны. За ракой амерыканцы. Пакідалі на лужку абы-як пастаўленыя машыны, пачалі «сустрэчу». Нас на той бок не пускалі, затое амерыканцы свабодна прыйшлі на гэты бок. Некаторыя з амерыканцаў мелі славянскае паходжанне (пераважна з палякаў), а ў нас былі хлопцы з Заходняй Беларусі, якія разумелі па-польску, такім чынам устанавіліся зносіны. Яны нам дарылі свае гадзіннікі, запальнічкі, розную драбязу — на памяць. Мы ім што маглі падарыць — зорку з пілоткі. Але знайшлося віно, і мы добра ўпіліся разам — пераможцы розных армій і нацыянальнасцяў. І ўсе паснулі проста ў кузавах нашых «студэбекераў». Начальства некуды знікла, можа, да іншага начальства, у кожнага знайшлася свая кампанія. Уначы я прачнуўся і пабрыў у горад. Маленькі такі гарадок, але спрытны, як і ўсе іхнія гарады. І не разбураны, цэлы.

Бачу ў адным месцы святло з фараў, і нашыя хлопцы штосьці робяць. Аказваецца, тут харчовы склад гэтага горада. Хлопцы, прынеслі супрацьтанкавую гранату і бабахнулі ёй па замку, дзверы і правалiліся. А там процьма скрынак, мяхоў — спіртное, кансервы, мука, шакалад… Пачалі выгрузку. Я таксама збегаў да сваіх, прыгнаў «студэбекер». І мы нагрузіліся. Але не абдзялялі і аўстрыйцаў, якія прыйшлі да пераможцаў.

***А. А.:*** Жыхары?

***В. Б.:*** Так. Аўстрыякі жылі галаднавата, харч быў па картках.

Падышоў адзін дзядуля з місачкай, просіць дазволу набраць мукі. Кажу, што табе місачка — бяры мех. Кажа — цяжка. Але падстаўляе згорбленую спіну, салдаты навальваюць яму мех мукі, пайшоў дзед, хістаючыся. Мы былі добрыя. Чужога дабра не шкадавалі… Можа, і добра рабілі, то была наша ноч, ноч пераможцаў. Наступны за ёй дзень ужо належаў не нам.

Удзень з’явілася вялікае начальства, усіх чужынцаў выгналі з гэтага берага на той, на мосце паставілі трайную варту. Нікога — ні туды, ні адтуль. А мы толькі марылі пачаставаць нарабаваным нашых саюзнікаў. Не ўдалося. Полк хутка адвялі ў тыл, пад горад Леабэн, дзе ў лесе найперш загадалі здаць усё здабытае тою ноччу. Калі не дачакаліся добраахвотнай здачы, начальства пайшло само і выгрузіла з аўтамабіляў нашыя запасы — бутэлькі, сыр, шакалад. Сказалі, будзеце атрымліваць у парадку харчавання. Нічога не атрымалі. Тыя скрынкі паехалі ў тыл. А нас праз пару дзён пастроілі на лужку з нагоды Перамогі. Палічылі, хто самы старэйшы (не па ўзросту, а па часу прабывання ў палку), хто

найболей заслужаны (лічы — узнагароджаны). Даўжэй за ўсіх праслужыў у палку начфін, а самы ўзнагароджаны — камандзір маёй гарматы старшына Лук’янчанка. Але заслужана ўзнагароджаны гэты немалады ўжо сялянскі сын аднекуль з Кубані. Камандзіры батарэй узнагароджаны не надта, узводныя яшчэ меней. Ордэн Чырвонай Зоркі — звычайная наша ўзнагарода за вайну. У мяне таксама. А Вальку Бахцігозіна так і не ўзнагародзілі нічым. Раней усё казалі — малады, паспее яшчэ. А тут і вайна скончылася.

Праз дзень-другі новы загад: падрыхтавацца да маршу. Куды? Кажуць, быццам аж у Сафію. Праз Венгрыю, Югаславію, Румынію. Па слядах нядаўніх баёў. Выцягнулі на дарозе калону, але перад тым, як рушыць, — начальства пайшло трэсці машыны. Камбрыг сказаў: я вас, барахольшчыкаў, цераз Еўропу не павязу. Зноў загад: здаць усё майно, прадукты, нічога, апроч боепрыпасаў, у кузавах не павінна быць. Пачалі адбіраць. Пажылыя ветэраны, што праваявалі ўсю вайну, у каго панішчана ўсё на радзіме, голыя дзеці і галодныя жонкі, ледзьве не плачучы, прасілі: ну, дазвольце хоць гэтыя гамашы адвесці. Ну, хоць гэтыя падэшвы на боты. Нічога не дазвалялася. Тады з машын пачалі кідаць усё у раку, што цякла побач з дарогай, і на яе хвалях паплылі ўсялякія шмоткі, акардэоны, гітары, скрынкі з правізіяй, а то і бутэлькі. Хай прападзе, але не здамо. Хаця хапіла і здадзенага. Толькі начальнік палітаддзела ўжо з Балгарыі адправіў тры «студэбекеры» ў Адэсу, дзе жыла яго сям’я. Не адсталі ад яго і іншыя начальнікі, у тым ліку і новы начальнік аддзела контрразведкі СМЕРШ.

Па наплаўным мосце цераз прыгажун Дунай пераехалі ў сонечную Балгарыю, дзе нам суджана было пражыць год. Балгары спатыкалі нас, бы родных, бы вызваліцеляў, якіх вечна любілі. Варта было сысці з машыны, як цябе тут жа абкружалі сяляне: братушкі, братушкі, добра дошлі! Тут жа паяўлялася чарка або кварта, пілі за Расею, за Балгарыю, за вечную дружбу. Здавалася, той дружбе не скончыцца век. (Як я праз 20 год зноў прыехаў у Сафію, пачуў ад балгараў такі анекдот: да дзеда Тодара ў вінаграднік прыбягаюць дзеці, радасна кажуць: дзед Тодар, дзед Тодар, рускія на месяц паляцелі! Дзед выпрастаўся.

Што — усе? Слава табе, Гасподзь!) Дваццаці гадоў хапіла, каб ад векавой дружбы нічога не засталося. Апроч хіба абдымкаў Брэжнева з Жыўкавым.

Пачалося нуднае, рэгулярнае гарнізоннае жыццё ў вайсковым гарадку на Плоўдзіўскай шашы ў Сафіі. Як звычайна — пад’ём, зарадка, развод на заняткі, гарнізонная служба, нарады. У горад да восені нікога не пускалі, усе — салдаты і афіцэры, маладыя і старыя — таміліся на спякоце за калючым дротам

вайсковага гарадка. Бальшыня афіцэраў, асабліва маладых, пасля вайны служыць не хацела, хацела дадому, дзе заставаліся родныя, якіх не бачылі ўсю вайну. Уся наша радасць было купіць пару бутэлек вермуту, што з таго боку прыносілі да дроту, і выпіць. Таму пілі і афіцэры, і салдаты. Да восені нікога не дэмабілізоўвалі, таму ўсе разам — маладыя, 18-гадовыя і старыя да 50 год — вучылі вайсковыя статуты, будову матчасці і палітыку на рэгулярных палітзанятках. Спярша нашыя адносіны да англа-амерыканскіх саюзнікаў былі лаяльныя, усё ж мы памяталі, хто нам памагаў у вайну, чыю мы елі тушонку, на чыіх аўтамабілях ездзілі. Але затым раптам, бы па камандзе (канешне, па камандзе, як у нас усё робіцца), тыя адносіны змяніліся, і мы пачулі ад нашых палітрукоў-выхавацеляў, што найпершыя цяпер нашыя ворагі гэта Амерыка з Англіяй. Таму трэба пільнасць і пільнасць! Не паддавацца на правакацыі і захоўваць боегатоўнасць.

Увосень салдат некалькіх ўзростаў (да 1924 года нараджэння ўключна) дэмабілізавалі, афіцэраў пакінулі. Я напісаў некалькі рапартаў аб дэмабілізацыі, ніводнаму з іх не далі хады. Служы, прафесія афіцэра ў нас прэстыжная, быў адказ. Я не хацеў служыць нават у благаславеннай краіне Балгарыі, я хацеў дамоў, у бедную маю Беларусь, хацеў вучыцца. У партыю на фронце я не ўступіў, хапіла з мяне камсамола, які мне нямала дапёк. Ці не заўсёды я быў камсоргам батарэі, дзе клопату было не шмат, але цеганіна даволі апрыкрая. Найперш сходы, паперы, баявыя лісткі... А галоўнае на кожны тыдзень, месяц, квартал — планы мерапрыемстваў, дзеля блізіру, бо ніхто іх выконваць і не збіраўся. Але за тым сачыў камсорг палка, у якога іншых абавязкаў і не было. Надакучыў мне камсамол. Але неяк паклікаў нампаліт камандзіра палка, кажа: Быкаў, а калі мы выберам цябе камсоргам палка? Пасада вызваленая, пойдзеш на самастойную работу, на заняткі хадзіць не трэба. Ты афіцэр граматны, вучылішча скончыў, думаю, справішся... Камсамол мне абрыдзеў, але і заняткі штодзень у спёку і непагадзь таксама не мёд, і я пагадзіўся. На чарговым сходзе быў аднагалосна абраны камсоргам. Яшчэ праз нейкі час той жа нампаліт кажа: камсорг палка павінны быць членам партыі, таму трэба табе ўступіць. Я дам рэкамендацыю. Тое ўжо было горш, я ведаў, што членства ў партыі — гэта рабства душы, што я ўжо перастану належаць сабе, а галоўнае — тады бывай дэмабілізацыя і ўсе мае мары. Але жыццё ці лёс распарадзіліся інакш. Не паводле нампаліта маёра Цквітарыя, ні паводле майго жадання.

Увосень нас пачалі пускаць у горад — у вольны ад службы час афіцэры, бы застаялыя ў загарадках коні, рынуліся на гарадскую волю. У слаўную, стаўшую ўжо мілай нашаму сэрцу Сафію. На

плошчы Народнага сходу, якраз насупроць помніка цару — вызваліцелю ўлады, зрабілі Дом афіцэраў, вядома ж, з рэстаранам, у якім можна было найперш выпіць і закусіць. Канешне, такі выпадак грэх было ўпусціць, і мы яго не ўпускалі. Абы былі грошы. З грашыма часам здаралася напруга. Заробак ўзводнага быў невялікі, да таго ж шмат у каго былі адасланыя грашовыя атэстаты родным і блізкім. Я таксама паслаў атэстат сваім на 600 рублёў, прыкладна столькі ж атрымліваў на рукі. Аднойчы, памятаю, у суботу добра выпілі ў рэстаране (кампанія чалавек шэсць), але не хапіла. І віна, і грошай. Тады Лёшка Рыжкоў і кажа: Быкаў, ты ж, здаецца, збіраў камсамольскія ўзносы, дзе яны? У сейфе, кажу. Дык што ж яны ляжаць у сейфе, марнуюцца. Грошы павінны працаваць. Давай, а ў панядзелак палучка, усё вернем. Эх, Лёшка, які ты разумны, мабыць, падумаў тады не адзін я. Паехаў, забраў з сейфа, што там было, і слаўна мы дагулялі той дзень у рэстаране насупроць цара-вызваліцеля.

Здарылася, аднак, што ў панядзелак палучка не адбылася — начфіну не далі грошы. Тое было горш, але я маўчаў. Трошкі здзівіўся, праўда, калі пасля заняткаў мяне паклікаў — і не абыхто, а сам начальнік палітаддзела брыгады, які наўрад ці калі мяне і бачыў. Зрэшты, як і я яго. Размова пачалася ветліва: ну, як працуецца, якія планы? А пасля, нібы між іншым — узносы сабраў? Сабраў, кажу. І што — здаў іх у фінаддзел? Не, яшчэ не, сказаў я, і ўнутры ў мяне нешта апала. А дзе яны, грошы? — пытаецца палкоўнік. У сейфе, кажу. Ану — прынясіце... Я ўстаў і сеў. Усё было зразумела. Хтось стукнуў, і я прапаў. Ну, не зусім, але халяўская мая паліткар’ера ляснулася ў самым пачатку. Праз два дні вярнуўся на батарэю, і мой франтавы камбат Ахрын пакпіў: ну што, не выйшаў з цябе палітрук! Я ж гаварыў... А мой нампаліт маёр Цквітарыя сказаў, што пасля такога ўчынку мне не месца не толькі ў партыі, але і ў камсамоле. Я са злосці напіўся і, вярнуўшыся з рэстарана, кінуў ў грубку свой камсамольскі білет. (З таго часу і на ўсё жыццё — беспартыйны.) А назаўтра раніцай напісаў новы рапарт аб дэмабілізацыі.

***А. А.:*** Слухай, вось я не вельмі ўяўляю цябе лейтэнантам. Ты ж, відаць, не быў замухрышкам — напэўна, такім порсткім хлопцам.

***В. Б.:*** Ну, якім порсткім...

***А. А.:*** Ну, трохі фарсіў сваім шынялём?

***В. Б.:*** А, ты пра той мой шынелак? Мабыць, чуў ад каго, я расказваў?.. Увогуле шынель быў салдацкі, без гузікаў, на апліках.

***А. А.:*** Салдацкі... Ну а партупея?

***В. Б.:*** Партупею недзе дастаў. На вайне ж не давалі.

***А. А.:*** Два пісталеты, абодва пры боку?

***В. Б.:*** На передавой, канешне. ТТ — справа ззаду, як і належала, а «вальтэр» — спераду злева, як у немцаў.

***А. А.:*** А ці страляў ты з тых пісталетаў?

***В. Б.:*** Не, не было выпадку. Гэта калі я быў камандзір узвода аўтаматчыкаў, тады з аўтамата ППШ страляў шмат, канешне.

Неяк адбіваліся ў траншэі ад немцаў, дык расстраляў усе дыскі і яшчэ з нямецкага аўтамата страляў. Гэтак прыпякло.

***А. А.:*** А боты ў цябе якія былі?

***В. Б.:*** Кірзовыя, звычайныя.

***А. А.:*** Так што ты быў замухрышка такі?

***В. Б.:*** Тыповы камандзір узвода. Дужа малады. Дваццацігадовы. Але ж і салдаты былі маладыя. У арміі наогул ваявала моладзь. Тыя, каторыя вярнуліся з вайны, тры працэнты. Астатнія — у зямлі.

***А. А.:*** Дык што ты той шынель і насіў увесь час?

***В. Б.:*** Шынель у арміі даваўся, здаецца, на два гады. Калі ты яго згубіш, ніхто табе новы не дасць. У мяне пад канец вайны сапрэла гімнасцёрка, неяк пачаў здзяваць і адарваўся каўнер.

***А. А.:*** Гімнасцёрка суконная?

***В. Б.:*** Не, звычайная, хабэ. Выдалі з падменнага фонду, чыстая, памытая, але не новая. А галоўнае — з лапіклам ззаду на левай лапатцы...

***А. А.:*** Прастрэленая?

***В. Б.:*** Ну, пэўне ж, знятая з забітага. А шарсцяное... Пад канец вайны атрымаў амерыканскае шарсцяное абмундзіраванне і, канешне, бярог яго — хутка ж канец вайны. Ляжала ў мяне ў рэчмяшку на «студэбекеры». А як прарываліся ў Венгрыі, той «студар» (гэта на салдацкім слэнгу) згарэў, салдаты паспелі выхапіць толькі мой падгарэлы шынелак. А ў рэчмяшку разам згарэлі і мае малюнкі ў альбоме. Маляваў жа... І во ў такім шынялі з падпалінамі прыехаў у Сафію. Улетку нічога, але ж пачалася восень, насталі халады. Ведаеш, мабыць, Арлоў мост у Сафіі? Неяк стаю на ім у сваёй гімнасцёрцы, чакаю аўтобус на Плоўдзіўскую шашу. А ўжо зімна, падае рэдкі сняжок. Побач ідуць балгары, чую, гамоняць: братушка — сібірак, сібірак... Я ўвесь азяблы, а яны думаюць, што загартаваны, мне цёпла, бо сібірак. Пасля купіў шынель у аднаго балгарскага генерала. Балгарскую ж армію разагналі, афіцэраў звольнілі. А форма ў іх была такая, як у Расеі царская, толькі з шасцю гузікамі — падобная на нашу. Шынелак быў харошы, хіба з адным немалым недахопам — чырвонай падкладкай.

***А. А.:*** Ты насіў яго?

***В. Б.:*** Не давялося. Відаць, нешчаслівы лёс меў.

***А. А.:*** Хто — ты ці шынелак?

***В. Б.:*** Мабыць, абодва…

***А. А.:*** Гэта чаму?

***В. Б.:*** Першы раз надзеў я той шынелак у выхадны, калі мы з сябрам і ягонай сяброўкай зрабілі паход на Віташу. Усё лета пазіралі на гэты цудоўную гару паблізу Сафіі, а ўзлезці на яе не даводзілася. Толькі дабраліся да яе зімой, па снезе. А там, добра стаміўшыся, заначавалі ў паляўнічай хіжыне. Мой сябра старшы лейтэнант Валодзя з сяброўкай засталіся, а я павінны быў паспець на развод. Таму на світанні мусіў рушыць з гары. На шашы спяшаюся, але адчуваю, што спазнюся, і тут якраз — «віліс» і ў ім камандзір брыгады. Ну, спыніўся — садзіцеся! Сеў, едзем. Пад’ехалі да прахадной, я хацеў неяк сашмыгнуць, каб паспець у свой строй, бо на плацы ўжо пастроена брыгада, чакаюць камбрыга. Але той мне — пастойце! І вядзе мяне на плац. Ну а там, як звычайна, дзяжурны камандуе строю смірна, аддае камбрыгу рапарт. А я стаю побач і ўжо адчуваю, што зараз будзе штосьці дурное. Так і здарылася. Падаўшы каманду вольна, камбрыг гучна так гаворыць дзяжурнаму: ну, а цяпер адрапартуйце во гэтаму гаспадзіну генералу! Яму, ці бачыце, не да спадобы савецкая форма, дык ён абрадзіўся ў балгарскую. І паднімае маю палу на чырвонай падкладцы. Во палюбуйцеся, «как попугай»!..

***А. А.:*** А строй як? Рагатаў?

***В. Б.:*** Пасміхаўся, канешне. Але не надта. Камбрыг быў у нас чалавек новы, прыехаў з акадэміі і дужа энергічна змагаўся за «парадак», ад якога мы за вайну адвыклі. Ну вось я і падвярнуўся яму пад руку. А камандзір палка палкоўнік Парамонаў тады мне сказаў: каб я цябе болей у гэтым шынялі не бачыў. Ну што мне было рабіць? Прадаў я гэты шынелак нашаму ўзводнаму лейтэнанту Крывавязу, які з яго пашыў сабе кіцель і брыджы.

***А. А.:*** Ну а ты так і застаўся без шыняля?

***В. Б.:*** Мне выдалі зноў нейкі падменны, англійскі — добры шынелак, але кароткі. Давялося падшываць унізе… Але з тым і Крывавязу не пашэнціла. Увогуле ён быў хлопец задзірысты і аднойчы, выпіўшы, пабіўся з маёрам, начальнікам сяржанцкай школы, які быў таксама на добрым падпітку. Лейтэнант быў маладзейшы і, мабыць, перамог у бойцы. Маёру стала крыўдна. І ўжо ноччу ён пайшоў у інтэрнат, дзе жыў Крывавяз, каб прадоўжыць бойку. Але той спаў, маёр яго не дабудзіўся. Затое тут жа на тумбачцы было складзена ягоная абмундзіроўка з таго шыняля. Тады маёр узяў са стала чарніліцу і добра паліў чарнілам — і кіцель, і брыджы. Гэта цяпер проста — здаў у хімчыстку і вычысцяць, а тады… Чым толькі не цёр яе Крывавяз — і мылам, і бензінам — нічога не памагло. Так і прапала абмундзіроўка з

шыкоўнага генеральскага шыняля.

***А. А.:*** Сапраўды, не на карысць пайшоў шынелак. Ну, а наконт сяброўства? Былі ж у цябе сябры?

***В. Б.:*** Сябраваў з многімі, былі адпаведныя майму статусу кампаніі. Займеў у іх пэўную рэпутацыю, асабліва пасля здарэння з камсамольскімі ўзносамі. Гэта начальства за тое на мяне ўз'елася, а сябры — зусім не. Неяк зблізіўся з лейтэнантам Дзібнерам, які служыў у штабе. Той быў родам з Ленінграда, у якім жыве і дагэтуль. (Мы зрэдку перапісваемся, перазваньваемся. Ён цяпер — доктар геалагічных навук, спецыяліст па геалогіі Арктыкі.) Тады мы зрэдчасу хадзілі разам у горад, Віталь любіў выпіць шклянку віна, а галоўнае — шмат расказваў пра свой Ленінград, які я ніколі не бачыў. Ён быў старэйшы за мяне, да вайны скончыў універсітэт і быў дужа адукаваны, што мне вельмі імпанавала. А другі мой сябра быў хлопец іншага складу. Не буду называць яго прозвішча, але гэта таксама быў наш узводны, старшы лейтэнант, якога я клікаў Валодзя. Родам ён быў з Уладзівастока, хаця не надта распавядаў пра свой горад. Ён быў захоплены іншым горадам — Соф'яй, як яго называлі балгары. І аднойчы захапіўся дзяўчынай, балгаркай. Канешне, на сваю бяду... Чаму на бяду? Справа ў тым, што тады ўсе і ўсялякія нашы кантакты з іншаземцамі не толькі не дазваляліся, а жорстка спыняліся. Нельга было і небяспечна пасябраваць з балгарынам, калі выпіць з ім ці нават некалькі разоў запар сустрэцца. Каб тое не рабілася вядомым нашаму міламу СМЕРШу, які за мяжой шчыраваў з падвоеным імпэтам. Валодзя не толькі пасябраваў, ён закахаўся ў студэнтачку Веру, дачку нейкага высокага балгарскага ўрадоўца, члена ЦК балгарскай кампартыі. Валодзя меркаваў, што тая акалічнасць — членства яе бацькі ў ЦК — яму штосьці дазволіць. Аказалася, нічога не дазволіла.

Амаль увесь вольны час, якога, зрэшты, было няшмат, мы бавілі ў горадзе, мілай нашай Сафіі. Там былі мастацкія музеі, дзе я з цікавасцю разглядаў некаторыя творы буржуазнага «салоннага» жывапісу, першы раз пабываў у оперы, вядома ж, на расейскіх спектаклях («Яўгеній Анегін», «Князь Ігар»). Балгары тады і пасля ставілі найболей расійскія творы. Неяк у вулічным натоўпе з цікавасцю назіраў, як адмыслова прывезеныя для таго з Расеі экскаватары і бульдозеры бурылі каменную агароджу царскага палаца ў цэнтры Сафіі. Які энтузіязм панаваў тады сярод люду — прагналі царакрывапіўцу! (Каб праз паўстагоддзя з не меншым энтузіязмам вітаць ягонае вяртанне.) Палітычны клімат у краіне ўсё болей вызначалі камуністы — мясцовыя з падтрымкай і пад кіраўніцтвам прыезджых дарадцаў. Неўзабаве пачалі выкрываць ворагаў балгарскага народа, здраднікаў кшталтам Васіла

Каларава, якіх патрабавалі расстраляць. Што і было зроблена. (Як не зрабіць, калі народ просіць.) На такім палітычным фоне пачалося і доўжылася Валодзева каханне: бацька ягонай каханкі, здаецца, трапіў у апалу. Валодзя пачаў таіцца, усяляк хаваць свае сустрэчы з Верай. На вуліцы тое было складана, на кватэры ў яе бацькоў немагчыма. У гарнізоне за ім, вядома ж, было наладжана сачэнне, СМЕРШ сачыў за яго кожным крокам. Некалькі разоў яго выклікалі і папярэджвалі. У парткаме пагражалі выключыць з партыі. Валодзя не хацеў быць выключаным, бо тады б яго адразу выслалі на радзіму, ён хацеў быць з Верай. У такі час ён даверыўся мне і прасіў памагчы. Гэта мы з ім хадзілі ў той выхадны на Віташу, дзе ён астаўся начаваць. Чамусьці той факт яму трэба было ўтаіць, і ён папярэдзіў мяне, каб я сказаў (калі паклічуць), што мы ўвечары разам вярнуліся ў горад, і я ўвесь час быў з імі. Розныя запіскі Веры, яе фотаздымкі ён хаваў спярша пад верхняй дошкай нашага стала ў інтэрнаце, пасля, як згледзеў, што іх там хтось апароў, перадаў мне. Я насіў іх у сваёй палявой сумцы — на заняткі, у поле, артпарк. Але аднойчы не знайшоў іх там — скралі, калі я абедаў у сталоўцы. Мяне паклікалі ў аддзел контрразведкі і пыталіся пра Валодзю. І пра тое, што было ў яго тых паперах. Я сказаў, што чужых папер не чытаю.

А калі б там былі шпіёнскія звесткі? — спыталіся ў мяне, — і вас залічылі ў шпіёнскія сувязнікі? Што я мог ім сказаць? Там былі лісты пра каханне, я ведаў гэта, хоць і не чытаў іх.

Валодзю арыштавалі, паклікаўшы ў палітаддзел. Ідучы туды, ён прадчуваў, мабыць, і толькі шапнуў мне: у шэсць нуль-нуль схадзіць на Арлоў мост і перадаць Веры, каб не чакала яго. Што я і зрабіў. Пра лёс Веры нічога не дазнаўся, бо хутка расфарміравалі брыгаду, і нас раскідалі па розных месцах Балгарыі. Адрасу яе я не ведаў. (Вось яшчэ адзін нерэалізаваны — «негатыўны» сюжэт з маёй літаратурнай біяграфіі.)

Нядоўгі час пасля я правёў у стралковай дывізіі пад Бургасам, але і тую расфарміравалі, вывеўшы на станцыю Кодыма Адэскай вобласці. Са станцыі Унгены мы ішлі пешым маршам — якраз па тых месцах, дзе два гады таму ваявалі. У тое лета на Поўдні панавала страшэнная засуха і яе звыклы спадарожнік — голад. Малдаўскія сёлы стаялі паніклыя, без людзей, людзі сышлі на поўнач — Украіну, Чарніўцы. Забег я ў сяльцо пад вышынёй, куды хадзілі ўначы і дзе нас ледзьве не захапілі ў палон. У тым сяльцы я не сустрэў ніводнага чалавека, яно зусім абязлюдзела. Не было і гаспадара, які частаваў нас курацінай. Адна лебяда ў дварах, поле чорнае, выпаленае спякотай. У вайну не было гэткага...

Улетку я быў ужо ў Нікалаеве, у тамашняй стралковай дывізіі. Дывізія стаяла ў летніх лагерах пад Цярноўкай за Бугам.

Упершыню тады давялося напоўніцу зведаць усе пяшчоты стэпавага поўдня. Найперш даўся ў знакі вецер, пыл і пясок. Страшэнная спёка, і нідзе ніводнага дрэўца. Усё ў пыле — пасцелі ў палатках, пыл на сталах у летняй сталоўцы, на посудзе, на апратцы людзей. Неаднойчы тады ўспамінаў я нашы мілыя лясы-пералескі, клёны і дубы прысадаў, іх паласатыя цені цераз вуліцу. Прыгажуны — лясныя азёры... Праўда, тут блізка была рака, але ля ракі патрулі — пільнуюць, каб ніхто не падышоў і блізка. Такі ўжо спрадвечны прынцып у войску: куды трэба, туды не пускаць. І гнаць, куды нікому не трэба. Усе заняткі на голай, без травы стэпавай роўнядзі, усё назіраецца са штабнога пагорка. Як заўсёды ў мірны (ды і ваенны) час, заняткі, страявая і палітпадрыхтоўка. Усё на спёцы, з ранку да вечара.

Там мяне ўпершыню пасадзілі на гаўптвахту — утапіўся салдат. Пасля заняткаў пайшоў самавольна на Буг, бухнуўся ў ваду і не вынырнуў. Можа, знарок, а можа, і не. Але хто вінават? Вядома ж, камандзір узвода. Хоць камандзір у той момант быў на інструктажы па палітзанятках. Ды ўсё роўна пасадзілі. На гаўптвахце парадкі катаржныя — ні сядзець, ні ляжаць. У пяць пад'ём, лежакі выносяць. Каб не садзіліся, а стаялі, на цэментную падлогу выліваюць пару вёдзер вады. Камендант звер. Мала банальных здзекаў, яшчэ ўносіць асабісты элемент — увесь дзень люта лаецца, абражае апошнімі словамі, бы уласных заклятых ворагаў. Пад восень я захварэў, паклалі ў шпіталь. На гэты раз у самы здатны для таго час — перад інспектарскай праверкай. Шпіталь вокнамі выходзіў на пляц фізгарадка. Інспекцыю прыехаў прымаць сам камандуючы Адэскай вайсковай акругай маршал Савецкага Саюза Г. К. Жукаў. Мы назіраем з другога паверха шпіталя, як ён тое робіць. Усіх афіцэраў — маладых і старых — пастроілі ў шэраг ля фізкультурнага снарада «кабылы». Камандзір палка камандуе: упярод! Да кабылы валюхаста бяжыць які-небудзь лысы, таўставаты, гадоў пад 50 маёр, камандзір батальёна, робіць спробу пераскочыць, ды дзе там, саступае ўбок. Наступны — тое ж самае. Ну, маладзейшыя, узводныя пераскокваюць і то не ўсе. Хто не пераскочыў — у асобны шэраг. Такіх апынулася бальшыня. І маршал пачынае мацюгацца: зажраліся, распанелі, не хочаце сумленна служыць савецкай радзіме, вялікаму таварышу Сталіну... Во як трэба — вучыцеся! Падтыкае полы шыняля пад дзягу, кароткая разбежка і — гоп! Пераскочыў. І загадвае камандзіру палка: трэніраваць! Як натрэніруюцца, далажыць. Сеў у свой «віліс» і паехаў. «Дурак, хоць і Жукаў», — кажа яму ўслед сівы начфін артпалка.

Увечары адзін хворы, капітан артылерыст, які ў вайну служыў на Першым Украінскім фронце, распавёў, як камандуючы

фронту Жукаў ліквідоўваў увосень 43-га года нямецкі прарыў пад Жытомірам. Ездзіў, як заўсёды, на «вілісе» з бронетранспарцёрам галаварэзаў-аўтаматчыкаў і бартавым аўтамабілем ваеннага трыбунала. Дзе якая няўстойка, хапаў першых жа, хто трапляў пад руку — салдат ці афіцэраў — загадваў аўтаматчыкам расстраляць. З кішэняў яшчэ не астылых трупаў трыбунальшчыкі даставалі дакументы і афармлялі прысуд. Маршал сам не забіваў і нічога не падпісваў, усё рабілі іншыя — па ўсіх правілах вайсковай юрыспрудэнцыі.

Позняй восенню перайшлі на зімовыя кватэры. Салдаты — у старыя мікалаеўскага часу казармы, афіцэры — хто куды, на прыватныя кватэры. Перад тым я спаткаў майго сябра Вальку Бахцігозіна, з якім разлучыўся ў Сафіі. Валька ўсё малодшы лейтэнант, але служыць у артпалку, дзе, канешне, болей прэстыжна і спакойна, чым у стралковым. Валя ўзяў мяне да сябе на кватэру, якую нядаўна наняў у старой адзінокай бабулі. Бабуля пусціла нас з умовай, што на зіму мы дастанем ёй дроў. Мы абяцалі, хаця дзе іх дастаць, не ведалі самі. Зрэшты, так і не дасталі і перажылі зіму ў няпаленай хаце, амаль не распранаючыся нанач. Харчаваліся ў сталоўцы, разам з салдатамі: суп вермішэлевы, каша пярловая, чай, часам кампот. І то добра. Гараджане і таго не мелі, жылі галадна, прадукты — па картках. У горадзе можна было купіць шклянку віна — сухога ці паўсухога. Звычайна вырашалі, колькі градусаў, што будзе мацней? Што мацней, тое і пілі. Але, як вядома, напой з віна слабы…

Вайна ў гэтым паўдзённым горадзе нібы і не спынялася. Стралялі на вуліцах, асабліва ўначы. Былі выпадкі нападу на нашыя каравулы, што ахоўвалі прадуктовыя склады. Нападалі на афіцэраў, рабавалі ўначы. Адзін камандзір роты, позна ідучы з казармы дадому (жыў далекавата, за паркам Пятроўскага), прыхапіў з сабой пісталет, што ўвогуле не дазвалялася. Якраз ля парку яго спаткалі двое: знімай шынель, давай сапагі… Ротны дастаў пісталет і стрэліў, забіў аднаго. Другі ўцёк. І во суд ваеннага трыбунала: за забойства грамадзяніна такога грамадзянін такі (наш капітан) прыгаворваецца да шасці гадоў лагераў. Пасля суда капітан кажа: які ж я дурань! Хай бы яны мяне да кальсонаў распранулі, голы б дабег дамоў. А так… Суддзі яму спачувалі, але — закон!

Я ўжо і тут падаў два рапарты на дэмабілізацыю, ды марна. І памалу страціў надзею вырвацца з войска. Шкада было Вальку, які сапраўды хацеў служыць, ды напрыканцы зімы яго дэмабілізавалі. На развітанне мы выпілі з ім ў забягалаўцы, і я праводзіў яго на вакзал. Валька ехаў у свой сібірскі Ачынск да маці. Для яго і вайна, і вайсковая служба скончыліся без радасці. Не выслужыў Валька ні

чарговага звання, ні ўзнагароды. Хоць ваяваў і служыў не горш за іншых. А можа, нават і лепш. Але быў надта малады, дужа сумленны. І наіўны. Хаця і я не надта прыдбаў за вайну і службу — адну зорку на грудзі ды адну на пагоны. І ўсё. Не тое што іншыя. Неяк спаткаў у кінатэатры Валерыя К., былога аднакашніка па Саратаўскім вучылішчы. Той ужо старшы лейтэнант і два ордэны на грудзях, служыць інструктарам палітаддзела па камсамолу. І тады мне ўспомнілася, як ён клапаціўся перад выпускам, збіраў рэкамендацыі ў партыю. Мы яшчэ кпілі: не ўсё роўна, кім цябе закапаюць — беспартыйным, камсамольцам ці бальшавіком? Ён бы не чуў нікога і перад ад’ездам на фронт усё ж паспеў атрымаць кандыдацкую картку. А на Дняпры ў аддзеле кадраў, як сталі размяркоўваць па дывізіях, яго пакінулі ў палітаддзеле. Тады мы і сцямілі — разумны ён чалавек, хоць і малады. Так і аказалася.

У лютым нечакана-неспадзявана далі водпуск, і я рынуўся на радзіму. Ехаць давялося праз Крывы Рог, Харкаў, Гомель. На вакзалах пры перасадках было жахліва — натоўпы людзей, вайскоўцаў і цывільных, старых, жанок і дзяцей, чэргі і штурханіна… Неяк дабраўся з чамаданам да Падсвілля, дзе, ведаў, працуе ў бухгалтэрыі сястра Валя, пабудзіў яе ўначы — вядома ж, на канцылярскім стале, дзе яна начавала з сяброўкай. Раніцай разам выправіліся па снегавой дарозе праз лес у Кублічы. Па дарозе сястра расказвала сваю крыўду, як, выбавіўшыся з нямецкага палону, яе паслалі ва Ўсходнюю Прусію па каровы для калгаса. Месяц ці болей гналі вялізны статак, даілі і пасвілі па дарозе, баранілі і даглядалі, самі заўсёды галодныя і халодныя. Але мусілі трываць, бо абяцалі, як прыгоняць, даць карову, — нашую Акулярку ў 43-м з’елі партызаны. І сястрычка трывала. Але як прыгналі, аказалася, што каровы патрэбны для развіцця калгаснай жывёлагадоўлі, і гоншчыцы засталіся з носам.

Дома радасна было, што ўсе жывыя, хата таксама цэлая, не спалілі. Але хлеба няма, ашчаджалі крышку насеннай бульбы, а болей ні малака, ні мяса. Не засталося нават курэй, якія некалі да вайны былі галоўнымі пастаўшчыкамі жабрацкага бюджэту. Увечары прыйшлі вяскоўцы, нядаўнія партызаны, распавядалі, як перажылі вайну. Колькі зведалі гора і крыўд! У тым ліку і ад некаторых мясцовых, асабліва з тых, якія да вайны актыўнічалі з Саветамі і ў вайну не прамінулі ўслужыць акупацыйнай уладзе. Але што ж, каму не хацелася жыць… З маіх сяброў-школьнікаў амаль не засталося нікога — хто прапаў у партызанах, хто ў паліцыі (змабілізавалі на пачатку акупацыі), хто быў забіты на фронце пасля вызвалення. Некаторыя з маладых, не трапіўшы пад дэмабілізацыю, прадаўжалі служыць. Некаторыя прайшлі ўсе колы пекла — мабілізацыю ў 41-м, палон і канцлагеры, пасля

вызваленне, фронт і зноў лагеры — на гэты раз у іншым баку, на поўначы і ў Сібіры.

З'ездзіў у раённы цэнтр Вушачу — трэба ж было стаць на ўлік у ваенкамаце. Туды трохі пад'ехаў, а назад ішоў пеша ўначы. Ледзьве дайшоў, не замёрз. Бо выпіў у колішняга сябра Мішы. Гэты, як і колішні мой саратавец, яшчэ ў войску пашчыраваў наконт пасляваеннай кар'еры і цяпер рабіў у райкаме партыі. Але ён быў старэйшы за мяне, болей вопытны, а галоўнае — абачлівы. Тое было відаць яшчэ змалку, калі, атрымаўшы раённую газету, ён пачынаў яе чытаць з перадавіцы. Я ж заўсёды чытаў з канца, з чацвёртай старонкі, дзе друкаваліся звесткі з-за рубяжа. Мой прыезд на радзіму праз сем год небыцця, вядома ж, не мог абысціся без увагі мясцовага НКВД. Пачалі наведвацца тутэйшыя сексоты, якіх дужа цікавіла, дзе быў у вайну? (Ці не быў у палону?) Адна дык сказала: а я цябе бачыла, як тут немцы былі. Дзе ты мяне бачыла? Не памятаю дзе, але, здаецца, бачыла. У такой пілотачцы… Мабыць, былі такія, якім трэба было нешта ўтойваць, і такія, каб іх выкрываць. Мая ж вайна хоць і была далёка адсюль, але ўся — пры сведках. У палоне я не быў, на акупаванай тэрыторыі таксама. Горш давялося майму сябру Колю, які ці не ўсю вайну прабыў у Саксенхаузе, працаваў на капальнях у Аўстрыі, а пасля яшчэ і паваяваў на фронце. Дэмабілізаваўшыся, ён не паехаў дамоў, а скіраваў у Рыгу, дзе жыве і дасюль. У спакоі, дабрабыце і без вялікіх праблем.

Бацька спытаўся пра мае планы — як далей? Сказаў, што хачу дэмабілізавацца і прыехаць дахаты, у Беларусь. А ён кажа: ці трэба? Усё ж там, у войску, хоць трудна, ды кормяць. А тут, даямо бульбачку і — голад. Як да вайны. Цяпер на сваёй палосцы не пасееш — не тое, што ў вайну. Ужо зааралі і межы…

Апанураны і збянтэжаны вярнуўся ў Нікалаеў.

Вясной, якраз перад Першым маем прыйшоў загад і на маё звальненне ў запас. Гэта ў той час, калі я ўжо трохі зміры́ўся са сваім вайсковым лёсам, вырашыў, што прыйдзецца служыць. Тады і далей усе змены майго жыцця адбываліся ў час, які меней за ўсё быў для таго прыдатны. Усё праз нечаканасць — раптоўна і неспадзявана. Найперш паўстала пытанне: куды ехаць? Канешне, у Беларусь, тут не было сумневу, але куды канкрэтна? Да бацькоў у калгас патыкацца не мела сэнсу, але куды яшчэ? Дзе знайсці прытулак, хаця б на першым часе? Зноў жа — трэба было вучыцца.

Паехаў у Мінск. Дагэтуль я ў сталіцы не быў, і тое, што там убачыў, збянтэжыла. Горад ляжаў у руінах. На нейкай вуліцы знайшоў Саюз мастакоў, старшынёй якога тады быў Ахрэмчык. Мне далі магчымасць яму патэлефанаваць. Расказаў, хто я, па што

прыехаў. Ён кажа, што пакуль ніякай вучобы няма, вучылішча не працуе, дзе яно будзе — у Віцебску ці Мінску, — яшчэ ўрадам не вырашана. Жыць тут цяжка. Вам, кажа, няма рацыі тут заставацца. У некаторых абласцях ёсць аддзяленні мастацкага фонду і неблагія калектывы мастакоў. Напрыклад, у Брэсце ці Гродне. Раю паехаць туды, там будзе работа, і пражыць там лягчэй, чым у Мінску. А пасля, можа, адчыніцца і мастацкае вучылішча. Падумаў я, што, відаць, так і трэба зрабіць. Якраз на Дзень Перамогі цягніком цераз Баранавічы паехаў у Гродна — горад, дзе ў мяне не было ніводнай блізкай ці знаёмай душы. І які гэтак грунтоўна і на шмат год прычыніўся да майго чалавечага лёсу.

З першага пагляду горад мне спадабаўся, не такі ўжо і пабураны (хоць у цэнтры і траплялі руіны некаторых будынкаў), але ў ім адчувалася пэўная «заходнасць», рысы сярэднявечча — у старых будынках, касцёлах, нават у брукоўцы вуліц. Зноў жа — два замкі і Нёман. Дужа гэта міла здалося майму сэрцу, знябытаму на чужыне. Паўдня хадзіў па вуліцах, прыглядаўся, але куды зайсці не наважыўся. Першую гродзенскую ноч правёў на вакзале. Ранкам пайшоў шукаць майстэрні мастацкага фонду.

Майстэрня была якраз у цэнтры на вуліцы Клары Цэткін — маленькі пакойчык у старым доме. За адзіным сталом сядзеў лысаваты чалавек у светлым гарнітуры з ордэнам Чырвонага Сцяга на грудзях. То быў старшыня гродзенскіх мастакоў Віктар Марозаў, нядаўні камандзір супрацьтанкавай батарэі, які, дэмабілізаваўшыся, застаўся ў Гродне. Пасля падышоў сівавалосы вальяжны Ігар Васільевіч Сямёнаў, чарнявы Ваня Пушкоў, таксама былы артылерыст, яшчэ нехта. Мы хутка з усімі паразумеліся, а каб замацаваць нашу шчаслівую сустрэчу, усе пайшлі ў рэстаран, які, вядома ж, называўся «Нёман». Грошай у мяне было не шмат (выхадное пасобіе), а пасля рэстарана амаль не засталося нічога. Затое я займеў сяброў, якія мяне ўладкавалі за Нёманам на кватэру да мілай Мар'і Іванаўны, што надоўга стала бы маёй другой маці.

Так, людзі і мастакі ў Гродне былі цудоўныя. Некаторыя з іх (Марозаў, Сямёнаў, Парахня) былі віртуозамі афармляльнае справы, так прыгожа, з адмысловым густам пісалі шрыфты. А ў той нашай справе галоўнае былі менавіта шрыфты. Я, вядома, так не ўмеў, таму глядзеў і вучыўся. Але рэч у тым, што глядзець і вучыцца асабліва не выпадала — было мала працы. Жывапісных заказаў не было зусім, і мастакі дужа мэнчыліся з тае прычыны. Ды іхнія пераэжыванкі звычайна доўга не трывалі, ад таго быў звыклы, мастакоўскі сродак.

Здабыць грошы на хлеб было цяжка, а то і немагчыма, затое

на гарэлку здабывалі заўжды. Тут таксама былі пэўныя віртуозы і найлепшы сярод іх, вядома ж, Віктар Марозаў. Рэдка які дзень абыходзіўся без выпіўкі — то, вядома ж, быў наш чорны дзень. Але надвячоркам усё ж нешта надорвалася, і я позненька вяртаўся на сваю кватэру у Занёманні. Тое для маёй Мар’і Іванаўны не было навіной, за шмат год гэта гаротная жанчына была ўжо добра загартаваная яе мужам, таксама дэмабілізаваным вайскоўцам. Горш, што кватарант паводзіў сябе не надта этычна — за некалькі месяцаў не плаціў за кватэру. Адно абяцаў, ды не меў чым.

Увесь той год я прабыў у майстэрні, разам з іншымі перабіваўся выпадковымі заказамі. Аднойчы разам з Андрэем Заспіцкім, скульптарам і будучым лаўрэатам, ладзілі вітрыну кінатэатра, увосень афармляў ярмарку на Скідальскім рынку. То быў мой апошні заробак, якога, аднак, хапіла толькі на тое, каб пасядзець у рэстаране і заплаціць за кватэру. А ў пітве я ўжо так напрактыкаваўся, што мог выпіць паўлітра за раз. Сябры лічылі, што тое нармальна, што я нарэшце прыдбаў агульную норму. Для мяне тое было ўсё ж цяжкавата, і я пачаў думаць, што рабіць далей. Тое, што трэба было нешта рабіць, было пэўнасцю. Толькі што? Што я ўмеў? Вучыцца? Але дзе і як? Ніякіх дакументаў аб адукацыі ў мяне не было — усё праглынула вайна, апошняе засталося ў палявой сумцы на заснежаным полі пад Севярынкай. Напісаў у Саратаў, каб выслалі хоць бы якую копію. Адказалі, што ўсе архівы за ваенны час адпраўлены ў Бугуруслан. Напісаў туды — атрымаў адказ, што з Саратаўскага ваеннага вучылішча ніякіх дакументаў не атрымлівалі. З’ездзіў пасля дамоў — у Кублічах ні школы, ні знаёмых настаўнікаў нікога не было.

У Гродне якраз непадалёк ад нашай майстэрні была рэдакцыя абласной газеты «Гродзенскай праўды». Часам у піўнушцы на рагу дзвюх вуліц мы сустракаліся з некаторымі яе газетчыкамі. Тады ў рэдакцыі працаваў бухгалтарам стары (год пад 70) палкоўнік былой царскай арміі, ён таксама заходзіў туды — выпіць з палучкі піва. Калі-нікалі мы размаўлялі, той распавядаў шмат цікавага з свае царскай службы. Аднойчы, у хвіліну п’янаватай добрасці, ён і сказаў мне, што не шкодзіла б падумаць пра сваю будучыню, і тым зачапіў нейкія чуллівыя струны ў маёй душы. Вы ведаеце беларускую мову, сказаў ён, а ў нас з новага года газету пачынаюць дубліраваць па-беларуску. Зайдзіце ў сакратарыят, можа, спатрэбіцеся. Дзён праз колькі я сапраўды зайшоў у сакратарыят, дзе мяне спаткала Ганна Ільінічна Цыпіна, старая газетчыца, прапанавала напісаць заяву па-беларуску. І, як мне здалося, паколькі не знайшла ў ёй памылак, прыняла мяне на працу карэктарам беларускага выдання. Трохі папрацаваўшы ў карэктарскай, перайшоў у сакратарыят. Пачыналася новая

старонка маёй біяграфіі.

Здавалася мне, што я выходзіў на нейкую прамую, але толькі здавалася. Наперадзе яшчэ былі выкруты лёсу, пякельныя рэцыдывы ўсё той жа ваеншчыны, якая ўпарта не хацела выпускаць мяне з сваіх жалезных абдымак.

А пакуль у рэдакцыі было спакойна, мне падабалася. Шмат часу адбіраў пераклад на беларускую мову расейскіх матэрыялаў, перададзеных па тэлетайпе агенцтвам БЕЛТА. Усе яны былі не малыя памерам — розныя пастановы, прамовы, канешне, з адзнакай «тэрмінова ў нумар», і мне даводзілася іх дыктаваць Станіславе Фадзееўне — ці не адзінай ў рэдакцыі машыністцы, што ведала беларускую мову. Часам пісаў штонебудзь з драбноты па раздзеле інфармацыі. Тады ж у выхадны накрэмзаў першае апавяданне «Цвілі акацыі» — пра апошні дзень вайны. Намеснік рэдактара А. Салаўёў прачытаў і сказаў: очэнь значыцельна! Скупая яго пахвала дала веру ва ўласныя сілы і здольнасці. Але наступнае апавяданне напісаў не хутка. Прычынай таму з'явілася немалаважная акалічнасць.

У тыя гады, як заўжды на пачатку лета, пачыналіся вайсковыя зборы запаснікоў, і я атрымаў павестку. Пайшоў да намесніка рэдактара — што рабіць? Той кажа: дамо паперку, ідзі да ваенкома, прасі, каб вызвалілі. Пайшоў да ваенкома, аддаў паперку. Той незадаволена бурчыць: усе прыходзяць, суюць паперкі — асвабадзіць. А каго я пашлю? Мне 140 чалавек трэба набраць, што — сам за вас пайду? І сядзіць з паперкай і ручкай, вагаецца, што напісаць? Я адчуваю, што вырашаецца мой лёс і кажу: калі не вызваліце, дык рэдактар сказаў, будзе званіць у абкам. (Вось гэтага не трэба было рабіць, але зробленага не вернеш.) Палкоўнік кідае ручку, паперку і крычыць: што — у абкам? Пляваць мне на ваш абкам, у мяне во — загад міністра абароны, я яго выконваю. Усё! Ідзі. Пойдзеш на зборы! Вось гэтыя некалькі секунд вызначылі сутнасць майго жыцця на некалькі год.

Назаўтра пайшоў на зборы — палатачны лагер у лесе непадалёк ад вёскі Грандзічы, на беразе Нёмана. Тыя зборы адабралі ў мяне тры летнія месяцы. Звычайныя вайсковыя парадкі, заняткі па артылерыі: падрыхтоўка дадзеных, артстралковая... На пачатку восені — экзамены, якія «шэнціла» мне здаць на пяцёркі. Прыйшоў у рэдакцыю, атрымаў водпуск. Аднойчы сустракаю на вуліцы знаёмага афіцэра, які камандаваў намі на зборах, той пытаецца: ну што, Быкаў, гуляеш? — Гуляю, кажу. — Павестку яшчэ не атрымаў? — Якую павестку? — Хутка атрымаеш, сказаў і пайшоў. І праўда, праз дзень выклікаюць у ваенкамат — распішыцеся. Выпіска з загаду міністра абароны аб зачысленні лейтэнанта Быкава В. У. у кадры СА. Праз тры дні яўка

ў часць. Ну, што рабіць? Пайшоў да адказнага рэдактара, той моўчкі развёў рукамі. Давялося збіраць «кружку, ложку, котелок». На гэты раз паехаў далей — у Слонім. Пачыналася шырокамаштабная халодная вайна з перспектывай перарасці ў гарачую, спатрэбілася болей войска. Слонімская брыгада разгортвалася ў дывізію, без лейтэнанта Быкава абысціся было немагчыма.

***А. А.:*** Гэта быў сорак сёмы год?

***В. Б.:*** Не. Ужо сорак дзявяты. Зіму прабыў у Слонімскай дывізіі, жыў зноў у бабкі ў Альбярціне. Кожны дзень — палявыя заняткі, у мароз, дождж і сцюжу, зіма выдалася сцюдзёная. Нарэшце — чаканая вясна, прыгрэла сонца, і Быкаў атрымлівае новы загад: адправіцца на Далёкі Усход. На тым усходзе — Курылах і Сахаліне — змарнаваў яшчэ шэсць гадоў уласнага жыцця.

***А. А.:*** Цяжкая была служба?

***В. Б.:*** Ды ўжо ж не лёгкая. Як пачалася Карэйская вайна, наш полк вывелі на Ціхаакіянскае ўзбярэжжа, тэрмінова збудавалі земляныя ўмацаванні, дзе і сядзелі ў зямлі гады тры — чакалі нападу амерыканцаў. Бы на фронце: тыя ж парадкі, тая ж строгасць і дысцыпліна. Ды яшчэ заняткі, каб сумна не было. Праўда, на год я з’ехаў на Сахалін — на вучобу.

***А. А.:*** І ў якім званні быў?

***В. Б.:*** Быў лейтэнантам, пасля старшага прысвоілі, капітана. На Сахаліне быў камандзірам батарэі 122 мм гаўбіц. Спецыялізаваўся па марскіх стрэльбах — самых складаных ва ўсёй артылерыі. Артылерысты ведаюць…

***А. А.:*** І калі вярнуўся?

***В. Б.:*** У пяцьдзесят пятым. У канцы года…

***А. А.:*** Дык дзе ты вучыўся? Якая ў цябе адукацыя?

***В. Б.:*** Адукацыя толькі вайсковая. Апроч вучылішча скончыў яшчэ артылерыйскую школу на Сахаліне, гэта спрэс матэматыка — алгебра і трыганаметрыя. Філалагічнай адукацыі не маю.

***А. А.:*** Ну, а пісаў там?

***В. Б.:*** Спрабаваў урыўкамі. Памятаю, тры апавяданні паслаў у Мінск Міхасю Лынькову, ён прыслаў мне падрабязны разбор.

Але болей там не пісаў. Там шмат часу і сілы патраціў на тое, каб дэмабілізавацца і вырвацца ў Беларусь. Што, аднак, там не ўдалося. Ну, але гэта асобная старонка маёй біяграфіі (можа, самая цяжкая старонка, апроч хіба ваеннай), пра яе я, можа, калі напішу.

***А. А.:*** Ну, а вярнуўшыся, куды ты паехаў?

***В. Б.:*** Куды ж ехаць? Паехаў у Гродна. Зноў пайшоў у рэдакцыю, дзе мяне памяталі. Прынялі ў сакратарыят на тое ж месца, якое пакінуў шэсць год таму. Каб скончыць вайсковую тэму, як яна скончылася для мяне, патрэбна расказаць пра яшчэ адзін выпадак. Недзе напачатку 60-х гадоў мяне зноў выклікалі ў ваенкамат і змусілі запоўніць тры вялізныя, на некалькі столак, анкеты. Там было шмат чаго, што звычайна не трапляла ў ранейшыя вайсковыя анкеты. Навошта тое, мне не сказалі, але праз чуткі я дазнаўся, што зноў рыхтуюцца прызваць афіцэраў-рэзервістаў дзеля перападрыхтоўкі на ракетчыкаў. Тое мне зусім не падабалася, але што можна было зрабіць? Адзін наш журналіст быў знаёмы з афіцэрам ваенкамата, якога мы неяк пасля работы запрасілі ў рэстаран. Аматар выпіць яшчэ з часоў мінулай вайны, ён добразычліва паставіўся да мяне і, дазнаўшыся пра маю праблему, спытаўся, ці няма ў мяне каго за мяжой? За мяжой, на жаль, у мяне не было нікога. Тады ён папытаў: можа, хто з родзічаў прапаў у вайну без вестак? Такіх, вядома, знайшлося, і я прыпамятаў стрыечнага брата Міколу. І вось у адпаведнай графе той анкеты я напісаў, што мой брат Мікола жыве ў Заходняй Нямеччыне. Таго хапіла, ад мяне адчапіліся. (Хай мне даруе мой няшчасны Мікола, які ў 19 год склаў сваю галаву на вайне. Ён мёртвы уратаваў калі не маё жыццё, дык свабоду.)

***А. А.:*** І ты пачаў пісаць сатыру?

***В. Б.:*** Пачаў пісаць і друкавацца ў «Вожыку». Галоўны рэдактар Павел Кавалёў мяне добра прывеціў — у канцы пяцідзясятых гадоў быў попыт на сатыру. Здаецца, у шасцідзясятым годзе ў бібліятэчцы гэтага часопіса выйшла кніжка сатырычных апавяданняў. У «Маладосці» друкаваўся на маладзёжныя тэмы. Таксама — у «ЛіМе», дзе намеснікам галоўнага рэдактара быў Раман Сабаленка. Адно апавяданне — пра каханне — паслаў у «Чырвоную змену», яго раскрытыкаваў Іван Калеснік. А тыя, што друкаваліся ў «ЛіМе» (пра вайну), Сабаленка пахваліў. Такім чынам я атрымаў наглядны ўрок, як трэба і як не трэба пісаць. Для пачаткоўца гэта заўсёды важна. Пасля ўзяўся за аповесці, напісаў «Трэцюю ракету», якую некалі пахваліў і малады доктар Адамовіч. Так прыбывала вопыту, а з ім і майстэрства. Ці болей правільна — рамяства.

***А. А.:*** А калі ты сам адчуў, што трэба вось так пісаць, а не гэтак?

***В. Б.:*** Ну, ведаеш, адчуванне гэтае вельмі адноснае. Яшчэ ёсць нейкае захапленне на стадыі задумы, калі твор бачыш у агульных рысах. А калі да канца напішацца — спрэс расчараванне. Нават здзіўленне ад таго, што атрымалася не так, як хацеў. І невядома чаму. Часам так і не зразумееш, чаму? Дзе недабраў ці

скрывіў.

***А. А.:*** Таму ты не чытаеш пры перавыданні карэктуру сваіх кніг?

***В. Б.:*** Не чытаю.

***А. А.:*** Якраз таму табе і здаецца, што ўсё — не тое?

***В. Б.:*** Можа быць. Нават тады, калі твор пахваляць. Праўда, гэтае пачуццё пакрысе асядае. Але ўсё роўна, калі я пасля пачытаю свой забыты тэкст, робіцца прыкра. Заўсёды здаецца (а можа, і сапраўды так), што гэта кепска.

***А. А.:*** І ты стараешся апраўдацца новай аповесцю?

***В. Б.:*** Ну, можа, не зусім апраўдацца... Але стараюся забыцца на тое, што напісаў. Не ўвогуле, не ў сэнсе ідэі — гэта якраз я памятаю і за гэта стаю...

***А. А.:*** А колькі разоў ты перапісваеш?

***В. Б.:*** Ведаеш, мабыць, перапісваю мала. Вядома, колькі перапісваў Талстой. Наш Аляксей Карпюк перапісваў свае аповесці дзясяткі разоў. Пішу звычайна ручкай на паперы. Пасля сам перадрукоўваю на чарнавік...

***А. А.:*** Вось гэтую частку?

***В. Б.:*** Так.

***А. А.:*** Гэта колькі старонак?

***В. Б.:*** Няшмат. Дзве-пяць старонак, не болей. Пасля грунтоўна праўлю машынапіс, і ўсё.

***А. А.:*** Яшчэ не ведаючы канца?

***В. Б.:*** Мае аповесці невялікія, і я звычайна ведаю, што будзе ў канцы.

***А. А.:*** Потым вяртаешся калі-небудзь назад?

***В. Б.:*** Ну, вяртаюся, натуральна. Калі ідзе якая пераробка або рыхтую ўвесь тэкст цалкам.

***А. А.:*** А чаму ты не любіш свае рукапісы? Чаго ты знішчаеш іх?

***В. Б.:*** Ну, ведаеш... Навошта іх любіць? Ці зберагаць для архіваў? Для таго трэба надта любіць сябе. Але ці варта? Ранейшыя неяк паводзілі сябе куды болей сціпла. Нават Мікеланджэла пісаў, як невысока ён сябе цэніць... А нам што ўжо сябе высока цаніць?

***А. А.:*** А вось мастак эскізы не толькі захоўвае, але і развешвае...

***В. Б.:*** Мабыць, у мастацтве тое разумна. Бо нярэдка эскізы, эцюды па выяўленчых якасцях цікавейшыя за карціну, для якой робяцца. Мастакі гэта добра ведаюць. Зноў жа яны ведаюць, што калі не зараз, дык некалі іх можа напаткаць удача. Нават сусветная слава. Таму зберагаюць усё, што можа калісь спатрэбіцца. Я ж не маю такой спадзяванкі. І не меў ніколі. У вайну прывык разлічваць на жыццё да вечара, пра іншае не

клапаціцца…

***А. А.:*** І нічога лішняга не мець з сабой?

***В. Б.:*** Ніколі не зарыўся на трафеі. Ну, гадзіннік які прыдбаў, зброю. Кулямёты ў нас звычайна былі трафейныя, бо нашыя — цяжкое ламачча. Зноў жа пісталет — пісталеты ў немцаў таксама былі выдатныя. А некаторыя ў нас, асабліва старэйшыя, ды напрыканцы вайны, валакуць, бывала, усё, што можа спатрэбіцца ў гаспадарцы. Яно зразумела — беднякамі ж былі. Таму і цягнулі…

***А. А.:*** У рэчмяшок свой.

***В. Б.:*** Ды не пакарысталіся, я ўжо расказваў: усё паадбіралі.

А яны клапаціліся пра будучыню. Я ж не клапаціўся, бо рана зразумеў, што марна тое. Не ты жыццём камандуеш, а яно табой, і заўсёды зробіць так, як яму патрэбна. Усёмагутная сіла абставін! Яна, зрэшты, стварала на вайне і герояў, і трусаў, як калі і як каму выпадала. Генерал Уласаў — здраднік, бо трапіў у пэўныя акалічнасці, а калі б трапіў у іншыя, быў бы герой і маршал. У маім жыцці, бадай, ніколі не атрымлівалася так, як мне хацелася. Я пасля вайны не хацеў служыць у войску ніводнага дня, а праслужыў каля 15 год. Толькі ў літаратуры я ўбачыў магчымасць стаць гаспадаром сваіх памкненняў, магчымасць ажыццявіць уласныя ідэі, уладарыць над сабой і над сваімі героямі — персанажамі твора. Але па вялікім рахунку і тут аўтарскія магчымасці ў большыні сталіся ілюзіямі. Пытаешся — прычыны? Пра першую я ўжо сказаў: неадпаведнасць ідэйнага і сапраўднага, практычнага. Але гэты разрыў суб’ектыўны, тут наракаць няма на каго. Другая ж прычына сацыяльна-палітычнага парадку, калі абагульнена, дык гэта славуты наш метад сацрэалізму, пра які навукоўцы ад філалогіі кажуць, што не ведаюць, што гэта такое. Затое — вельмі добра ведаюць аўтары, а яшчэ лепш рэдактары і крытыкі. На мой дылетанцкі погляд, сутнасць таго метаду чыста паліцэйская — гнаць і не пушчаць. Гнаць туды, куды літаратуры не трэба, і не пушчаць — куды трэба. Куды яна хацела б памкнуцца.

***А. А.:*** Ты вылучаеш нейкія свае творы з ліку астатніх? Ну, скажам, хоць і не абсалютна табе падабаюцца, але ўсё ж менш за іх сорамна? Табе здаецца, што яны адпавядаюць таму, што хацелася напісаць. Якія з іх ты вылучаеш?

***В. Б.:*** Ведаеш, скажу табе, што ў мяне няма пэўных адносін у гэтым сэнсе. Можа, я ведаю, якія творы слабейшыя…

***А. А.:*** Якія?

***В. Б.:*** Ну вось аповесці «Альпійская балада», «Здрада»… У адной занадта ад рамантыкі, у другой перабольшана палемічнасць. Некаторыя апавяданні напісаны ў спрошчанай манеры, як гэта

патрабавалася ў свой час. Зноў жа ацэнкі розных людзей могуць быць розныя.

***А. А.:*** Не, я якраз пытаюся, як табе здаецца?

***В. Б.:*** Мне featureрознае ў розны час здаецца. Магу толькі сказаць, што розныя творы даліся мне з рознай затратай эмацыянальнай энергіі. Хаця ўвогуле я лічу, што пішу хутка.

***А. А.:*** Ну, а колькі актыўнай працы за сталом на кожную ты траціш?

***В. Б.:*** Цяпер, можа, больш. А «Трэцюю ракету» напісаў за тры месяцы. Пісаў зноў жа на вайсковых зборах, пераважна ў курылцы, у вайсковым гарадку пад Навагрудкам.

***А. А.:*** Ага. А «Сотнікава»?

***В. Б.:*** «Сотнікава» пісаў больш, але таксама нядоўга. (Зрэшты, гэта зусім не мая назва, у мяне аповесць называлася «Ліквідацыя», што вынікала з сюжэта ды і з самой ідэі твора. Але ў «Новом мире» пабаяліся яе пакінуць і назвалі паводле імя аднаго героя. Вядома ж, станоўчага, што цалкам адпавядала канонам сацрэалізму.) Фінал я ўжо ўяўляў, таму пісаў паслядоўна, не спяшаючыся.

***А. А.:*** Ну, а што ты яшчэ не сказаў? Што б табе хацелася яшчэ сказаць у аповесці? Не якія аповесці напісаць, а вось менавіта, што сказаць?

***В. Б.:*** Хацелася б сказаць шмат што, але як? Тут, бачыш, узнікае важная для мастацтва праблема (ці двуадзінства праблемы) — што і як. Калі выразна бачыш — што, дык ніяк не знаходзіцца — як. Добра, калі тое ды іншае гарманічна спалучаюцца, толькі тады і атрымліваецца высокамастацкі твор. Мабыць, гэта вядома кожнаму літаратару, і тады на дапамогу прыходзіць уяўленне. Проста кажучы, метад сачыніцельства. Можа быць, я — больш сачыніцель, але не саромеюся ў тым прызнацца, бо раней за мяне ў тым прызнаўся Хемінгуэй. Дый Горкага Талстой называў сачыніцелям. Цікава, у якой меры ім быў і сам Талстой, які столькі напісаў на аснове ведаў.

***А. А.:*** Тое ж гаварыў і Хемінгуэй.

***В. Б.:*** Але мой франтавы вопыт усё ж кепска адпавядае маім літаратурным мэтам.

***А. А.:*** Чаму?

***В. Б.:*** Ведаеш, гэта ўсё ж мала цікава — баі, скажам. Ну што там? Агонь, смерць. Ты не бачыш, хто цябе забівае, завошта? Так сказаць, ананімная смерць. Літаратуры патрэбны псіхалагізм, а тут які псіхалагізм, калі няма выбару? У нашым грамадстве наогул кепска з выбарам, мабыць, таму і не знайшоў у ёй месца папулярны на Захадзе экзістэнцыялізм. Іншая справа — партызанская рэчаіснасць, калі ў ёй не шукаць вялікую праўду.

Сумніўная гэта справа — шукаць праўду на вайне. Ты ж сам пісаў, што, як пачынаецца вайна, першаю яе ахвярай падае праўда. Але ў іншых адносінах партызанка дае большыя магчымасці…

***А. А.:*** Бо дае прастор для сачыніцельства.

***В. Б.:*** Хоць бы і так.

***А. А.:*** А што б табе хацелася яшчэ сказаць, бо пакуль не ўдалося ці не паспеў? Наступнымі рэчамі сказаць? Не канкрэтна, а так, у філасофскім плане.

***В. Б.:*** Хацелася б на нейкім матэрыяле (не абавязкова на матэрыяле вайны) крануць агульначалавечую праблему жыцця і смерці. Не толькі на ўзроўні ўзаемаадносін, а ў нейкім больш абагульненым, абстрактным сэнсе. Канешне, тут шмат напісана ўсімі літаратурамі свету, але разумныя людзі пішуць, што недзе, перад нейкім рубяжом літаратура спынілася і баіцца зазірнуць далей. Відаць, ёсць мяжа пазнання чалавека, перад якой пасуе нават вялікая культура Захаду. Можа, тут быў бы плённы культурасофскі вопыт Усходу? Вядома, не камуністычны Мао Цзэдуна, а хутчэй старажытнага Канфуцыя. А калі з заходнікаў, дык хоць бы Германа Гесэ ці Эрнеста Фенелодза.

***А. А.:*** Ясна, ясна…

***В. Б.:*** Ёсць у мяне розныя нарыхтоўкі, пражэкты, некаторыя намеры. Хаця вядома, куды вядуць добрыя намеры…

***А. А.:*** Ну, вось я ведаю, каго што мучыць. Напрыклад, Чарнічэнку мучыць наша сельская гаспадарка. Казько зараз мучыць экалогія. Мяне мучыць: выжывем ці не выжывем. А што цябе мучыць?

***В. Б.:*** Мяне цяпер і заўжды мучыла, калі можна так сказаць, праблема свабоды. Найперш свабоды асобы. Яе залежнасць ад соцыума, ад палітыкі, ад праклятых акалічнасцяў жыцця. Чалавек заўжды сціснуты з двух, а то і з чатырох бакоў самымі празнымі абставінамі, як знешняга, так і ўнутранага кшталту. У тым ліку і маральнага. Вядома, што за мараль нярэдка падаецца падфарбаваны амаралізм, толькі бальшыня людзей не ведае таго. І нават не здагадваецца. Людзі думаюць, што калі гэта ідзе ад навукі, асветы, тым болей улады, дык тое і добра, тое і маральна. Ніколі, я думаю, у нашым свеце ці нашай гісторыі не было гэткіх таталітарных абставін, як тыя, што мы перажываем у дваццатым стагоддзі…

***А. А.:*** Чалавецтва ці?…

***В. Б.:*** Мы асабліва. Пад цяжарам гэтых абставін гнуцца цэлыя класы, саслоўі, а то і нацыі. Рэдка які чалавек, прайшоўшы такі жорсткі працэс скрыўлення, захоўвае сваё боскае Я, не ламаецца. Усё тое вельмі драматычна і, мабыць, важна для мастацтва.

***А. А.:*** І ў чым ты хочаш пераканаць чалавека і чалавецтва?

***В. Б.:*** Ці бачыш якая справа… Пераконваць чалавека, тым больш чалавецтва — марная справа. Я не збіраюся даказваць, што чалавек — гэта гучыць горда, што ён усё можа і створаны для шчасця, як птушка для палёту…

***А. А.:*** Так. Што чалавек гучыць горда — гэта не твой дэвіз?

***В. Б.:*** Я думаю, болей правільна сказаць, што чалавек гучыць кожны па-рознаму. Чалавек гэты… Увесь сусвет у чалавеку. Але, як ужо сказана, пад грузам знешніх абставін ён можа быць і такім, і гэткім. А ідэал чалавека, як сказаў Дастаеўскі, заўсёды супрацьлеглы ягонай натуры, во ў чым праблема.

***А. А.:*** Дык вось, што ты хочаш сказаць людзям? Тое, што ў іх закладзены магчымасці перамагчы ўсе свае заганы? Якую ты ставіш сабе мэту? Пасароміць іх? Што вы такія слабакі? Вось ты камандзірам быў, па-рознаму да байцоў сваіх звяртаўся…

***В. Б.:*** Не, у мяне не можа быць гэткіх грандыёзных задач. Тым болей, што я не прапаведнік і не авантурыст, я і сам не ведаю, як трэба. Хібы як не трэба — тое я трохі ведаю. Хоць бы з уласнага вопыту. Паказаць чалавеку, які ён ёсць.

***А. А.:*** І які ж ён ёсць?

***В. Б.:*** Такі, які ёсць. Паказаць без усякіх заклікаў і дыдактыкі.

***А. А.:*** Правільна.

***В. Б.:*** Каб ён сябе ўбачыў і што-нішто зразумеў. Хоць кропельку, хоць нейкую рысу — найбольш з сябе непрыгожага.

Тое, магчыма, дало б надзею.

***А. А.:*** А веданне ў цябе ёсць ці ты ў працэсе самой працы пазнаеш чалавека? Ёсць у цябе канчатковае веданне? Ці ты пішаш аповесць і гэтым самым пазнаеш?

***В. Б.:*** Ёсць пэўнае разуменне, можа быць, суб'ектыўнае. А канчатковае веданне — у каго яно ёсць? Хіба ў Госпада Бога?

***А. А.:*** Ах, вось як! Тады я лаўлю цябе на гэтым. Скажы, што ты загадзя ведаеш пра чалавека? Калі б цябе паклікаў Гасподзь Бог і сказаў: вось я ўжо не магу разабрацца ў гэтым сваім стварэнні, хай яно праваліцца, растлумач ты мне, што такое чалавек?

***В. Б.:*** Дык вось зноў паўтараю, я б сказаў яму: о, Госпадзі, у чалавеку, як і ў тваім свеце, такое багацце ўсяго, добрага і кепскага, што калі ты не можаш разабрацца ў ім, дык не разбярэцца ніхто.

***А. А.:*** Чаго больш, чаго менш?

***В. Б.:*** Як у каго — у залежнасці таксама ад класавай, партыйнай, сацыяльнай прыналежнасці. Адзін чалавек замешаны на дабры, другі пераважна на зле. Потым у кожнага чалавека ёсць пэўная доля таго ды іншага. Канешне, хацелася б, каб добрага

было болей, каб яно перамагала зло. На працягу стагоддзяў, мабыць, усе рэлігіі толькі тым і займаліся, але вынік стаўся мізэрны. Стагоддзе таму людзей забівалі тысячамі, а пасля мільёнамі… Напэўна, усё ж самае дзейснае — прымусіць чалавека зазірнуць у сябе, убачыць, які ён ёсць на справе — з усім агідным і добрым, можа, тады ён зробіць які-небудзь выбар. Але ўся бяда ў тым, што чалавек — надта сарамлівая істота і не любіць заглядваць у сябе, тое непрыемна яму і малацікава…

***А. А.:*** Лепей у чужую каструлю зазірне…

***В. Б.:*** Менавіта так. Свая каструля для яго — прадмет найбольшага клопату, але не ён сам. Ён сам для кожнага — абсалют, цалкам аўтаномны суб’ект. Дык вось, на маю думку, мастацтва яшчэ можа нешта давесці чалавеку пра яго, чалавечую сутнасць. Калі тое здарыцца, можна чакаць, што чалавек паразумнее. Бо што яшчэ можа прымусіць яго паразумнець? Масавая свядомасць? Партыйныя ідэалы? Чаго дамаглася масавая свядомасць у гісторыі, мы ўжо ведаем, самі былі сведкамі. Партыі надта эгаістычныя стварэнні, кожнай з іх найперш трэба ўлада, як сродак дзеля даволі сумніўных спраў. Толькі мастацтва і літаратура імкнуцца (можа імкнуцца) не да ўлады — да ісціны. Але тут з’яўляецца новая і спрадвечная праблема: што ёсць ісціна? Мабыць, гэта зноў надта індывідуальная рэч — розная на кожным гістарычным этапе, для кожнае нацыі і асобы.

***А. А.:*** Ясна…

***В. Б.:*** Лепей бы грамадства слухала і шанавала сваіх мастакоў, гуманістаў, чым апантаных палітыкаў. Ужо хоць бы таму, што першыя не дамагаюцца для сябе карысці (хіба скарынку хлеба), у той час як апошнія дамагаюцца ўлады, у якой для іх няма меры. Некаторыя ў сваёй уладарнай прагнасці даходзяць да знішчэння падуладных, а то і да самазнішчэння. У літаратуры такое здараецца рэдка.

***А. А.:*** А вось хто ў гэтым сэнсе для цябе мог бы быць прыкладам? Неабавязкова прыклад літаратуры, але тыя, якія трымаюць люстэрка перад чалавекам і кажуць: «Вось глядзі, гэта ты».

***В. Б.:*** Найперш, аднак, з літаратуры. На мой пагляд, самыя дакладныя люстэркі — усё ж Талстой і Дастаеўскі. Калі з пазнейшых, дык я назваў бы аўтараў так званага «магічнага рэалізму», хоць бы Маркеса. Вялікі гуманіст Альберт Швейцар.

***А. А.:*** А з нашых, савецкіх? Як ты на «Майстра і Маргарыту» глядзіш?

***В. Б.:*** Разумееш, можа, гэта і добры твор (напэўна ж, выдатны), але, на мой пагляд, занадта інтэлігентны і мудрагелісты. Філасофскі, вядома ж, але і сумніўны, як і кожная філасофія.

***А. А.:*** А «Ціхі Дон»?

***В. Б.:*** Ну гэта іншая справа. «Ціхі Дон» у сэнсе ўсяленскай разні — унікальная кніга. Дакладнае люстэрка дабра і зла ў чалавеку, знявечаным рэвалюцыйным гвалтам.

***А. А.:*** Ну, а паэты табе што-небудзь гавораць?

***В. Б.:*** Паэты, чаму ж не… Якіх ты маеш на ўвазе паэтаў?

***А. А.:*** Наогул паэзія. Я, скажам, ведаю, што такое для цябе тэатр. Ну, а паэзія?

***В. Б.:*** Паэзія, канешне, выдатны літаратурны жанр. Але, як пісаў разумны Артэга-і-Гасэт, — я аддаю перавагу прозе, якая ёсць стадыя сталасці, што чалавецтва дасягае пасля доўгіх паэтычных гульняў. Зноў жа памятаю, як вызначаў пісанне вершаў Талстой — як танцы за бараной у полі. Канешне, гэта іранічная метафара, я паважаю паэзію. Нават некаторых паэтаў… Напрыклад, маіх сяброў і выдатных маэстра слова Акуджаву, Еўтушэнку, з беларускіх — Барадуліна, Бураўкіна, Гілевіча… Не кажучы ўжо пра класікаў.

***А. А.:*** Вось мы і да нашага часу дайшлі. У цябе колькі аповесцяў?

***В. Б.:*** Пятнаццаць, напэўна.

***А. А.:*** Ты пішаш і будзеш яшчэ пісаць, і дай табе Бог і нам дай Бог. Значыць, у цябе такое адчуванне, што ты яшчэ з нейкага боку чалавеку чалавека не здолеў паказаць, не паспеў?

***В. Б.:*** Мабыць, так.

***А. А.:*** А з якога боку табе хацелася б паказаць чалавека?

***В. Б.:*** Я збольшага браў экстрэмальную сітуацыю — чалавек на вайне. Не таму, што гэта самае цікавае, а можа, таму, што тут я што-нішто ведаў. Бо тут мой жыццёвы вопыт. А яшчэ немалаважна — у нас тады пра гэта можна было надрукаваць. Пра іншае нельга, а пра вайну — трохі можна. Тады цэнзурную ўдаўку трохі адпусцілі. І не ў апошнюю чаргу з прычыны гераічных паводзінаў савецкага чалавека на той вайне, як пісалася ва ўсіх газетах. Тут наша ўлада, калі можна так сказаць, зрабілася ахвярай уласнай прапаганды. Але ж ёсць яшчэ мірнае жыццё.

***А. А.:*** А ты думаеш у гэтым накірунку?

***В. Б.:*** Ведаеш, яшчэ мала…

***А. А.:*** А ў спалучэнні такім, як «Знак бяды»?

***В. Б.:*** У такім можа быць. Часткова ёсць трошкі ў маёй новай аповесці, нейкія моманты, фон. Вядома, я надта заглыбіўся на вайне, але і дасюль бачу там шмат магчымасцяў, не распрацаваных літаратурай момантаў. Мабыць, на маё жыццё хопіць і яшчэ застанецца іншым. Вольныя ад нашага крывавага вопыту, яны, можа, напішуць лепш. Бо вопыт не заўсёды на карысць, ён, можа, і скоўваць, і прызямляць.

***А. А.:*** А вось калі б трэба было запоўніць анкету, і там... Да пачатку вайны засталося... Што б ты сказаў? Я ведаю, як усе адказвалі. Я сам сабе таксама задаю пытанне. Мы ўсе, збоку гледзячы, усё разумеем. Як людзі павінны жыць. Шэсць тысяч гадоў гісторыі. Рэлігія сябе выпрабоўвала, мастацтва выпрабоўвала, палітыка выпрабоўвала. Чалавек выпрабоўваў сябе ў гэтых галінах і з іх дапамогаю хацеў жыццё сваё ўладкаваць. І так далей. А нейкі канцэнтрат ад усяго гэтага ёсць? Канцэнтрат з гэтых ісцін, разуменняў, адносін, нешта галоўнае з усяго. Якія ісціны ў сусветнай гісторыі здаюцца табе абсалютнымі?

***В. Б.:*** Некаторыя з маральных ісцін. Ну, напрыклад, адкрыты не ім, але ім дакладна сфармуляваны катэгарычны імператыў Канта (ён жа і хрысціянскі пастулат): адносіцца да іншых так, як бы ты хацеў, каб іншыя адносіліся да цябе. Проста і сапраўды імператыўна. Універсалізм гэтага пастулата распаўсюджваецца на адносіны паміж асобамі, грамадствамі, дзяржавамі і кантынентамі. Хіба кепска?

***А. А.:*** Усё ўкладваецца ў гэтую формулу?

***В. Б.:*** Усё. Побытавая наша мараль склалася даўно і дзякуючы рэлігіі шырока вядома. Дзесяць запаведзяў Майсея прайшлі праз хрысціянства і, як ні дзіўна, нават трапілі ў Кодэкс камунізму, хіба ж гэта не сведчыць пра іх універсалізм?

А вось у адносінах паміж грамадствамі або дзяржавамі чалавецтва яшчэ стаіць на ўзроўні дамайсеевага часу. Чалавеку здавён вядома, што нельга забіваць бліжняга, а вынішчаць іншы народ цалкам магчыма, калі гэта палітычна апраўдана. Дык што ж гэта за пачвара такая — палітыка? Ці яна вышэй за мараль?

***А. А.:*** Дарэчы, у Маркса ёсць выказванне, што прынцыпы адносін паміж прыватнымі людзьмі трэба было б перанесці на адносіны паміж грамадствамі і дзяржавамі.

***В. Б.:*** Слушная думка для Маркса. І ў філосафаў-кніжнікаў ёсць слушныя думкі, нават і ў негуманістаў. Але бяда ў тым, што іхнія паслядоўнікі выбіраюць з творчасці куміраў не самае лепшае. А нібы з меню ў рэстаране — самае смачнае для іх крыважэрных апетытаў. Як той Гітлер — з Ніцшэ.

***А. А.:*** Ну вось ты, ваенны пісьменнік, чалавек вайны і так далей. Як для цябе сёння гучыць гэтая запаведзь «Не забі!»?

***В. Б.:*** Цудоўная запаведзь, як і шмат якія запаведзі хрысціянства. Шкада толькі, што ў наш час яны гучаць пустым гукам. Забіваюць і будуць забіваць, бо ўрэшце чалавечыя і грамадскія паводзіны вызначаюць не запаведзі, а палітычная ды матэрыяльная мэтазгоднасць. Апроч рэлігіі, хіба што мастацтва з літаратурай у наш час сталі апалагетамі тых запаведзяў, аб якіх забывае нават царква. Цудоўная запаведзь.

***А. А.:*** Як ідэал яна павінна быць?

***В. Б.:*** Безумоўна.

***А. А.:*** Каб хоць абмежаваць нястрымнае забойства, хоць бы ў чымсь абмежаваць.

***В. Б.:*** Мабыць, справа ў тым, ці даспела чалавецтва да высокіх запаведзяў. Калі не, дык і няма надзей на іх выкананне. Вось хоць бы старая праблема сучаснага права — смяротнае пакаранне. На першы погляд — чалавек, які забіў другога чалавека, безумоўна заслугоўвае, каб і яго пакаралі смерцю…

***А. А.:*** А той, хто задумвае забойства, хто ў думках забівае чалавека, заслугоўвае таго?

***В. Б.:*** Думаю, што не. А хто забіў, мабыць, так. Калі гэтага не рабіць, дык забойствы нічым не спыніць.

***А. А.:*** А ты думаеш, што забойства забойцаў калі-небудзь абмяжоўвала ці дапамагала пераадолець гэтае зло? Гісторыя ўся даказвае, што і гэта не ратуе.

***В. Б.:*** Ну, добра. Але што ж тады? Што абмяжуе забойствы?

***А. А.:*** Разумееш, вось у індусаў, у іхняй рэлігіі з іхнімі паглядамі, мараллю існуе велізарнае передполле перад забойствам чалавека. Скажам — не забі камара, не забі кошку, не забі карову, не забі ваўка. Усіх не забі. Тады ўжо забіць чалавека наогул немагчыма. Глыбока эшаланаваная мараль антызабойства.

***В. Б.:*** Мудрая мараль…

***А. А.:*** Так, гарантаваць ад забойства чалавека. У маралі астатняга свету, у большасці народаў, рэлігій, ідэалогій гэтага перадполля няма. Там пытанне стаіць так: забіць чалавека ці не забіць? Таму і пытанне пра смяротнае пакаранне забойцаў ужо стаіць, як ты яго ставіш.

***В. Б.:*** Значыць, трэба ствараць гэтае перадполле.

***А. А.:*** У індусаў яно тысячагоддзямі стваралася.

***В. Б.:*** Але якімі сродкамі? У скандынаўскіх краінах, напрыклад, няма крадзяжу. Злодзеяў вынішчалі драконаўскімі метадамі.

***А. А.:*** Баюся, што не драконаўскімі. У Скандынавіі нейкіх асабліва драконаўскіх метадаў не было. Крадзеж выкараняўся пурытанскім працалюбівым жыццём. Жыццём на вачах у суседзяў.

***В. Б.:*** Працай на сябе, пратэстанцкай этыкай, гэта вядома. Але мы далёка адышлі ад нашых бараноў, Саша. Мо трэба заканчваць?

***А. А.:*** Давай чокнемся напаследак, хай наша праца завершыцца чаркай. Вось… Хачу яшчэ сказаць, што вынік у тых, хто не мае вышэйшай літаратурнай адукацыі, аказваецца не горшы, а нават лепшы, чым у тых, хто яе мае.

***В. Б.:*** У нечым гэта зразумела, хоць і даволі складана. Я

вось па сабе бачу. Шмат якія рэчы мне трэба было спасцігаць з уласнага вопыту, а не атрымліваць у гатовым выглядзе. Бо ў гатовым выглядзе вядома, што нам давалі, — тое, што так ці інакш ішло на карысць дзяржаве, пэўнай ідэалогіі. Што ў літаратуры працавала на сацрэалізм. Мне гэта было непатрэбна.

Кепска тое, што я не мог дапяцца да сапраўдных ведаў, тым болей да некаторых ізмаў, за якія дужа балюча білі. І не толькі па пальцах. Ты ж сам колькі цярпеў хоць бы за свой сапраўдны ці ўяўны пацыфізм… Таму ў пэўнай сітуацыі «няведанне» бывае болей пазітыўна за пэўнае «веданне», асабліва калі апошняе фальшывае і служыць сродкам не асветы, а ачмурэння. Я пісаў і «Праклятую вышыню» і «Мёртвым не баліць» без жаднай надзеі іх надрукаваць. Калі б я ведаў, што будзе пасля, можа, і не пісаў бы. Але па наіўнасці не ведаў.

***А. А.:*** Але ж гэта быў які год? Шасцідзясяты?

***В. Б.:*** У шасцідзясятым было лягчэй, яшчэ ліпела адліга, друкавалі Салжаніцына. Пасля стала горш, рэанімавалі сталіншчыну. Але быў «Новый мир», быў Твардоўскі — вялікі маральны аўтарытэт часу. Хоць і яго аўтарытэту было замала, каб абараніцца і абараніць нас ад сеўрукаў, што і згубіла яго. А наконт мяне тады вырашалі — што рабіць? Пасадзіць ці пачакаць? Выключыць не было адкуль — беспартыйны. (Карпюка дык адразу выключылі і знялі з работы ды яшчэ збіраліся аддаць пад суд.) Тады вырашылі — пакараць ласкай. То была, як цяпер паглядзець, самая дзейсная мера. Пляма на жыццё. Некаторыя нават з маіх сяброў, наракалі: Твардоўскі падставіў, не трэба было друкаваць, ніхто б цябе не чапаў. А я так лічу, што Твардоўскі — для нас з табой, Саша, быў як паратунак. Але паратунак у іншым — маральным сэнсе. Мы выканалі стары запавет: не забі! Не забілі ў сабе сумленне і засталіся вернымі праўдзе. Хоць і маленькай, прыватнай праўдзе пра наша страшнае крывавае мінулае.

Гэта таксама штосьці ды значыць…

[Сакавік 1985, жнівень 2001]

## 1957

### «Юнацтва ў дарозе»

Вядомы беларускі паэт Раман Сабаленка напісаў першы свой празаічны твор — аповесць «Юнацтва ў дарозе». Невялічкая гэтая аповесць займае крыху болей за 50 старонак, але яе вартасць як літаратурнай з'явы намнога пераўзыходзіць яе памер.

Дзея твора адбываецца ў далёкія ўжо часы імперыялістычнай вайны, Кастрычніцкай рэвалюцыі і першых год Савецкай улады. Вялікі Кастрычнік ускалыхнуў народы былой царскай Расіі, даў ім перамогу над спрадвечнымі сіламі эксплуатацыі і заняволення і павёў да новага жыцця. Разам з іншымі народамі Савецкага Саюза на барацьбу за сваё шчасце ўзняліся і людзі глухіх закуткаў Беларусі, яе самыя занядбаныя грамадзяне — гаротныя палешукі.

Глухая палеская вёска Рагазін таксама зазнала вялікую пераўтваральную сілу рэвалюцыі. Па-рознаму аднесліся да яе бednякі і вясковыя кулакі, класавыя супярэчнасці абвастрыліся ў незмерымай барацьбе, але новыя, абуджаныя рэвалюцыяй сілы рашуча бралі верх.

Знешні свет, яго поўныя глыбокага сэнсу з'явы, бурныя рэвалюцыйныя змены спрадвечнага сельскага ўкладу паказвае аўтар праз адчуванні вясковага хлопчыка Макаркі Шыянка.

З ранняга дзяцінства не песціла жыццё Макарку. Ужо змалку ён быў і за гаспадыню ў хаце, і за няньку, пасвіў кароў і вазіў соль гандляру, часта перападала яму і «мочаных лейцаў» ад бацькі. Свежыя дзіцячыя ўражанні зыходзяць ад дарослых людзей, іх спраў і ўзаемаадносін. Тут і селянін-бядняк, бацька Макаркі, ласкавая маці, а затым злосная нялюбая мачыха, дзед Яўстрат, што зімой і ўлетку ляжыць на печы і павучае хлопца гаспадарыць, сквапны крамнік Зусь, дзед Трыфан і Лукаш — вясковыя кулакі-міраеды і нарэшце дзядзька Пракоп, калека вайны, які страціў на фронце нагу і першым чалавекам у вёсцы пазнаёміўся з вялікай праўдай ленінскіх ідэй. Гэты дзядзька Пракоп ідзе побач з Макаркам амаль праз усю аповесць, і шмат яе старонак з незвычайнай цеплынёй апавядаюць аб іх адносінах. Гэтыя адносіны пажылога чалавека і вясковага падлетка — самая, бадай, паэтычная лінія твора, з якой па сваёй глыбіні і прыгажосці не можа зраўняцца нават нявыспелае яшчэ юнацкае каханне Макаркі да Марылькі.

Аповесць ахоплівае даволі вялікі адрэзак часу, але развіццё чалавечых характараў аўтар здолеў паказаць лагічна і паслядоўна. На вачах чытача ў сялянскай працы, сірочым смутку і рэдкіх вясковых радасцях вырастае Макарка з «бэйбуса» і «вісуса» ў сельскага камсамольца — змагара з кулаччом за лепшае жыццё.

Жыццёвы шлях перадавога сялянскага хлопца таго часу непазбежна і лагічна вядзе ў навуку, і на апошніх старонках аповесці мы бачым Макарку ў рабфаку.

Нялёгкі гэты шлях тоіць у сабе шмат гора і перажыванняў, але пад уплывам пераўтваральных сіл рэвалюцыі ўзбуджаюцца ў вясковым хлопцу новыя сацыяльныя якасці. Макарка падрастае, мяняюцца, сталеюць яго чалавечыя вартасці, гартуецца характар. Увесь гэты працэс станаўлення Макаркі, як перадавога чалавека таго часу, нясе на сабе паўсядзённы ўплыў камуніста — Пракопа. Гэта тыповы тагачасны сялянскі барацьбіт за новае жыццё. У час Грамадзянскай вайны і белапольскай акупацыі дзядзька Пракоп, хоць і калека, але ідзе ў лес да партызан, змагаецца з ворагам. Тады другі раз варожая куля прастрэліла яго, праўда, ужо драўляную нагу. Потым дзядзька Пракоп змагаецца з кулакамі, арганізоўвае таварыства на супольнай апрацоўцы зямлі. Ён, як і Макарка, паказаны ва ўсёй няспыннай дыялектыцы развіцця, але яго светапогляд сфармаваўся за межамі аповесці, недзе ў акопах Першай сусветнай вайны. Калі іншыя героі твора толькі яшчэ прыглядаюцца да падзей ды вагаюцца у сваіх адносінах да іх, то Пракоп ужо цвёрда ведае, што трэба рабіць. Пасля выгнання паноў і белапалякаў, сяляне ўзрадаваліся, вядома, але ў іх яшчэ панавала нерашучасць і боязь звароту старых гаспадароў ці якой іншай навалы. А дзядзька Пракоп не збаяўся нічога. Ён змайстраваў сажань і, гукнуўшы сялян, пайшоў дзяліць Кербічаву зямлю. З вялікім веданнем справы і гістарычнай праўдзівасцю паказвае пісьменнік падзеі тых дзён.

А як трапна і праўдзіва намалявана сцэна сялянскай радасці, калі дзядзька Пракоп прызначае Васілёвай сям'і адбітую ў белапалякаў карову!

«У нашай хаце было весела. Бацька непрыкметна міргнуў вачыма мачысе, і яна на момант знікла, але хутка вярнулася, штосьці прынёсшы пад фартухом. У момант на лучыне перад цяліснікамі была падсмажана яешня. Пачалася рэдкая ў нашай хаце гутарка. Дзядзька Пракоп кульнуў чарак са тры і перавярнуў дагары дном пасудзіну.

— Я ж не піток, як ты ведаеш… Дык і не прыганяй ты мяне. Усё адно не вазьму больш, — казаў ён бацьку, калі той да яго прыставаў:

— Ды выпі бо, Пракопка… Яна ж як свянцоная вадзіца.

Нават дзеду Яўстрату паднеслі на печ невялікую чарку. Ён крактануў, разгладзіў белую ўжо ад сівізны, радкаватую бараду і каўтануў, аж вочы заплюшчыў»…

Наогул у аповесці безліч цудоўных мясцін, паэтычных малюнкаў сялянскага побыту, змястоўных праяў чалавечых

характараў. Так, поўная трапнай назіральнасці і душэўнага гумару сцэна, калі дзядзька Пракоп прапануе Васілю, Макаркаваму бацьку, «пашукаць ужо якое жанчыны», каб узяць сабе ў жонкі, іх сватаўство і жаніцьба, сцэна Макаркавай помсты настаўніку-дзячку ці першыя крокі Макаркі ў горадзе. Нават апісанне хаты Шыянкоў зроблена з надзвычайным паэтычным майстэрствам. Такое вельмі трапнае і дарэчнае ўжыванне мастацкай дэталі і майстэрства ў паказе вясковага побыту можна знайсці хіба толькі ў лепшых творах Я. Коласа. Вельмі многа кранаючай душу цеплыні і глыбокага сэнсу ў Макаркавым паведамленні сям'і аб сваім ад'ездзе на рабфак.

«Я бачыў, як павесялела мачыха, бачыў, як засмуцілася Насцечка, як разгубіўся бацька, нібы яму трэба было от зараз жа адсекчы свой палец і выкінуць. Бацька пачаў распытваць, як і што.

— Толькі ж от у мяне няма ў чым ехаць, — выказаў я сваю крыўду. — Не паеду ж я ў гэтым шарачку ды ў лапцях у горад.

Бацька задумаўся на момант, а потым, як бы прыняўшы рашэнне, сказаў:

— Там у куфры ляжаць чаравікі тваёй нябожчыцы-маці. Яны табе цяпер будуць якраз па назе. Ды бурнос матчын перашыем»...

Вялікая канцэнтрацыя жыццёвага матэрыялу і скупая трапная мова робяць вельмі змястоўным кожны радок «Юнацтва ў дарозе». Рэдка, бадай, можна напаткаць у беларускай літаратуры твор з такім багатым падтэкстам, як у гэтай аповесці. Тут кожная фраза нясе вялікую сэнсавую нагрузку, поўная глыбокай думкі і вобразнасці. Надзвычай сакавітая мова лёгка і выразна даносіць да чытача падзеі і вобразы твора.

Але, на нашу думку, аўтар некалькі не прытрымаўся меры ў выкарыстанні мясцовых слоў і правінцыялізмаў. У беларускай мове склаліся і існуюць шмат год агульнабеларускія і агульнаўжывальныя словы, замяняць якія мясцовымі, хоць можа гучнейшымі і «лепшымі», няма патрэбы. Усе ж нягледзячы на некаторую гэтую празмернасць мова аповесці добрая і паэтычная. Трэба асобна адзначыць сінтаксіс гэтай мовы, які пад пяром аўтара аповесці набыў асаблівую нацыянальную выразнасць і чысціню. Нам здаецца, што ў гэтай справе Раман Сабаленка намнога больш за іншых беларускіх аўтараў наблізіўся да мовы К. Чорнага.

Добрую, вельмі цікавую і карысную аповесць напісаў Раман Сабаленка. Беларускі чытач з асаблівай прыемнасцю прачытае яе яшчэ, калі гэты твор выйдзе асобным выданнем.

[1957]

## 1958

## Кніга аб бессмяротным подзвігу

Аб геpaічным подзвігу савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны напісана многа добрых кніг. Кожная з іх у меру сваіх літаратурных вартасцей, у сілу таленту аўтара парознаму займае чытача, уваскрашае ў памяці нялёгкія справы мінулых дзён.

Гэтая ж кніга асаблівая[1]. У ёй няма літаратурнага прыгоства, адсутнічае ўсякая знарочыстасць сюжэта — яна натуральная, як само жыццё. І ў той жа час ні адна, бадай, кніга аб мінулай вайне не здольна так усхваляваць чытача, так захапіць яго ўвагу і выклікаць столькі думак і пачуццяў, як гэты тонкі зборнік апавяданняў аб ашаламляльных падзеях мінулага.

Доўгі час аб удзельніках геpaічнай абароны Брэсцкай крэпасці мала што ведалі людзі. Вельмі ўжо нямнога засталося герояў, сотні іх загінулі пад руінамі фартоў і равелінаў, у фашысцкім палоне, куды яны, параненыя і знясіленыя, былі захоплены ворагам.

Так ішлі гады, зарасталі травой і кустамі руіны крапасных збудаванняў. Народ ведаў толькі, што там у першыя тыдні вайны ішлі жорсткія баі. Пасля вядомы сталі нямногія імёны загінуўшых абаронцаў, аб жывых невядома было нічога.

Але вось пісьменнік, Сяргей Сяргеевіч Смірноў, які напісаў шэраг кніг аб памятных баях Савецкай Арміі, зацікавіўся гэтай малавядомай старонкай гісторыі Айчыннай вайны. Глыбока разумеючы свой пісьменніцкі і грамадзянскі абавязак, ён не стаў карыстацца лёгкім спосабам вывучэння брэсцкай абароны па газетна-часопісных крыніцах, а пачаў упарта шукаць відавочцаў і ўдзельнікаў баёў. Пісьменнік шукаў фактычны матэрыял падзей, а знайшоў, перш за ўсе, герояў. Лёс і справы іх не маглі не хваляваць аўтара, і Сяргей Смірноў паведаміў аб іх людзям. Так, упершыню з радыёапавяданняў пісьменніка стала вядома пра храбрага нампалітрука Самвела Матэвасяна, які ўзначаліў першую контратаку асаджаных, пра хлопчыка Пецю Клыпу, які здзівіў ўдзельнікаў абароны сваім недзіцячым геpaізмам, аб подзвігу камандзіра 44-га асаджанага ў крэпасці палка маёра Гаўрылава, аб мужнасці расстралянага немцамі палкавога камісара Фаміна.

Гэта была цяжкая, смяротная барацьба, але абаранялі крэпасць савецкія людзі, якія стаялі насмерць. «У самую суровую, цяжкую для Радзімы гадзіну, — расказвае С. Смірноў, — калі сэрца кожнага савецкага чалавека было поўна глухой трывогі за лёс усяго народа, за лёс сваіх родных і блізкіх, — у гэты самы час

[1] Смирнов С. Поиски героев Брестской крепости. М., 1957.

крэпасць аказалася наглуха адрэзана, як сцяной, адгароджана ад знешняга свету… Ім не скідвалі з самалётаў боепрыпасаў і харчоў. Аб іх не пісалі ў газетах, не гаварылі па радыё. Радзіма нават не ведала аб тым, што яны вядуць сваю гераічную барацьбу… Так невядомымі героямі, „не дзеля славы, дзеля жыцця на зямлі“, гінулі абаронцы Брэсцкай крэпасці. Іменна так, не захаваўшы для нас ні сваіх подзвігаў, ні нават сваіх імёнаў, безыменнымі радавымі байцамі Радзімы амаль усе яны палеглі на крапасных каменнях»…

Без глыбокага хвалявання немагчыма чытаць многія раздзелы гэтай выдатнай кнігі. Гартаецца старонка за старонкай, і чытач разам з аўтарам становіцца сведкам гераічных подзвігаў абаронцаў крэпасці — байцоў і камандзіраў, пехацінцаў, артылерыстаў, пагранічнікаў. Не менш хвалюючыя і сцэны сустрэч герояў абароны, якія адбыліся ў гонар 15-годдзя баёў у крэпасці. Радзіма, увесь савецкі народ шырока адзначалі слаўную гадавіну. Міністэрства абароны Саюза ССР арганізавала ў Маскве сход грамадскасці сталіцы з удзелам прыбыўшых туды герояў Брэста. Сустрэчы з імі таксама адбыліся ў Мінску і Брэсце. Былыя абаронцы крэпасці наведалі памятныя руіны і раскідалі кветкі на месцах, дзе змагаліся самі і дзе загінулі іх баявыя таварышы. Подзвіг герояў быў высока ацэнены Савецкім урадам. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР маёру запасу Гаўрылаву ў 1957 г. было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Ордэны і медалі атрымалі і многія іншыя ўдзельнікі баёў за крэпасць.

Пісьменнік С. С. Смірноў напісаў выдатную кнігу. Аднак заслуга аўтара не вычэрпваецца стварэннем гэтай кнігі і выяўленнем герояў Брэсцкай крэпасці. Чытачы, радыёслухачы і ўсе савецкія людзі разам з героямі славутай абароны ўдзячныя пісьменніку за тыя яго сапраўды самаадданыя клопаты, якія ён праявіў да лёсу несправядліва зняслаўленых людзей. Намаганнямі аўтара кнігі быў рэабілітаваны і вернуты з далёкай Якуціі ўдзельнік баёў у крэпасці А. І. Філь, датэрмінова вызвалены са зняволення Пётр Клыпа, адноўлены ў радах КПСС Самвел Матэвасян і маёр Гаўрылаў. Гэта была нялёгкая і клапатлівая справа. Пісьменніку давялося вывучыць многія архіўныя матэрыялы, сабраць дзясяткі паказанняў сведак, пісаць, хадайнічаць, выязджаць у розныя раёны краіны. Але, будучы да канца верным справе пісьменніка-камуніста, С. С. Смірноў не шкадаваў сіл і часу, патрачаных на рэабілітацыю людзей, якія не шкадавалі жыцця ў баях за Радзіму.

Савецкі народ у гераічнай барацьбе за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы панёс велізарныя ахвяры. Гэтага нельга забываць дзеля нашай упартай барацьбы за мір, якая немагчыма без горкай памяці аб бедствах мінулай вайны.

[1958]

## Аўтабіяграфія

Я, Быкаў Васіль Уладзіміравіч, нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 г. у в. Чарапоўшчына Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. У 1939 г. пасля сканчэння 8 класаў Кубліцкай сярэдняй школы паступіў у Віцебскае мастацкае вучылішча. Восенню 1940 г. у сувязі з пагаршэннем матэрыяльнага становішча бацькоў і адменай дзяржаўных стыпендый пакінуў вучобу, вярнуўся дадому і пайшоў у дзясяты клас Кубліцкай с[ярэдняй] ш[колы]. Вясной 1941 г. зноў паехаў у Віцебск і ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў мабілізаваны на абаронныя работы. У складзе інжынернага батальёна будаваў розныя інжынерныя збудаванні і адступаў ад Гомеля да Варонежа. Зіму 1941/42 г. жыў на ст[анцыі] Салтыкоўка і г. Аткарску Саратаўскай вобласці, дзе вучыўся ў чыгуначнай школе. Улетку 1942 г. быў прызваны у Савецкую армію, скончыў Саратаўскае артвучылішча і з 1943 г. удзельнічаў у баях на 2-м і 3-м Украінскіх франтах. Пасля сканчэння вайны дэмабілізаваўся ў 1947 годзе, прыехаў у Гродна і працаваў у рэдакцыі «Гродненской правды». У 1949 г. зноў быў прызваны ў Савецкую армію, у розных часцях якой праслужыў да апошняй дэмабілізацыі ў 1955 г. З 1956 г. зноў працую ў рэдакцыі «Гродненской правды» на пасадзе стылькарэктара.

7 ліпеня 1958 г.

## Новые высоты мастерства

Государственное издательство БССР в серии библиотечки белорусского рассказа и очерка выпустило новую книжку известного белорусского писателя Янки Брыля «Надпись на срубе».

Отличительной чертой последних рассказов Яшки Брыля, как, впрочем, и всего творчества писателя, является поистине горьковский гуманизм — неистощимая любовь к человеку, создателю прекрасного на земле. Какой бы темы ни коснулось перо писателя, всюду силой его таланта создаются обаятельные образы людей труда. Таков поднявшийся до великого символа образ матери из одноименного рассказа, образ скромного и незаметного советского работника, в глубокой тайне, наедине переживающего трагедию первой большой любви, наконец, поземному могучий, как старый дуб, образ пожилого рыбака деда Вечеры — этого олицетворения светлой, как небо, крестьянской правды жизни. Как гимн дружбе народов, их трудовой солидарности, звучит поэтический рассказ «Двадцать», напечатанный недавно в

«Правде», чудесным блеском радуги сияет небольшая детская новелла «Асколачак вясёлкі».

В сборнике нет звучных описаний, громких историй, необыкновенных дел — очень простую и честную жизнь ведут герои рассказов Брыля. Но именно в этой будничности находит писатель поистине великое движение человеческих душ, поступки, обычность которых значительнее всяких подвигов. Даже необычная, героическая смерть матери, казненной фашистами, подана скромно, выразительно и точно. Без излишних нажимов, ровно, подчас скупо, но неизменно ярко и зримо рисует автор этот незабываемый образ.

Пожилая, надломленная жизнью крестьянская мать, подавленная горем утраты своих сыновей, снедаемая постоянными тревогами за последнего, непослушного и непоседливого младшего, Василя, ни минуты не колеблясь, под угрозой смерти оказывает помощь бежавшим из плена красноармейцам. И вот, схваченная врагами, она идет к вырытой в бурьяне яме. «Свои худые, так мало в жизни целованные руки она держала мозолями к мозолям. Шептала свои совсем новые слова молитвы. В утреннем свете родного солнца ясным было ее родное лицо, хотя по морщинам невольно катились слезы. Она и тут не думала о себе... И она делала одно: еще как мать учила, — молилась. И за своих сыновей, и за чужих, и за себя...» Она не знала, что совершает в тот час, не думала, что «образ ее западет в сердца многих мужчин горьким, неумолимым упреком, что глаза и руки ее вспоминать будут даже сильные люди, изгоняя из души последний страх перед ночной партизанской атакой...»

Небольшой этот рассказ, написанный в очень сдержанной, лаконичной манере, огромнейшим эмоциональным накалом действует на читателя: множество глубоких мыслей несет его богатый подтекст.

Прекрасное гуманистическое начало объединяет образ матери с образом деда Вечеры, несмотря на внешнее несходство сюжетов и тем этих рассказов. Проживший долгих девяносто, «более каторжных, чем радостных, лет», дед на склоне жизни не утратил светлого трудового оптимизма и полон забот о ближнем. Ему, как живого, до боли жаль старого Переймовского бора, истребляемого подсочкой, он возмущен дачной бездеятельностью академика Василия Романовича, который обещал пресечь истребление леса, но так и не выполнил своего обещания. Умудренный многими годами рыбачьего опыта, он помогает рыбакам, по-отцовски заботится об овдовевшей с войны пожилой своей дочери — помогает «пересыпать хату». Созданный свободными живописными мазками на фоне озерной природы,

этот образ высится как гранитный символ народного труда, его мудрости и простоты. Большое литературное мастерство писателя проявилось в этом рассказе также и в виртуозности слова. Подкупающий лиризм повествования, близость к человеку, так характерные для пера Янки Брыля, здесь удивительно сочетаются с глубиной и совершенством характеристик.

Такая же взволнованность и живописание словом характерны и для рассказа «Двадцать». Этот весьма безыскусный в своей фабуле путевой очерк поднялся у Брыля до большой значимости благодаря хорошей лирической настроенности, великолепному языку и той многозначительности, которую несет полная большого смысла концовка.

Среди чудесной южной природы Капри, на лазурных волнах Неаполитанского залива приходят к советскому человеку неотвратимые мысли о том, как в таком богатстве цветов и звуков, как на такой роскошной, прекрасной земле могла зародиться такая до ужаса и смеха дикая гниль — фашизм?! И тут же суровая, полная внутреннего пафоса история — пример из недавней войны, как 20 итальянцев, заброшенных фашизмом в Россию, отказались убивать советских женщин и детей и были сами расстреляны гитлеровцами. И эти двадцать веселых южан навеки остались там, на далеком зеленом Севере. «Сейчас над той могилой шумят и играют в солнце листвой белорусские пальмы — березы; возле памятника из вечного камня надозерных полей цветут наши цветы… А в серых деревнях… простые люди говорят о тех безымянных двадцати, что не смогли стрелять… не захотели ценой невинной крови возвращаться даже сюда, в свою неповторимо прекрасную страну…»

Рассказ «Двадцать» — это замечательный вклад литераторагуманиста в святое дело народов — борьбу за упрочение мира, это протест против несправедливой войны.

Приятно сознавать, что замечательный талант художника слова, талант, вышедший из гущи народной жизни, так щедро питается ею и создает новые, все более совершенные произведения, свидетельством чего является новый сборник писателя «Надпись на срубе».

[1958]

**Рэцэнзія ў газеце**

Кніга з кожным годам усё мацней уваходзіць у жыццё народа. Творы палітычнай, спецыяльнай і асабліва мастацкай літаратуры цяпер чытаюць усе: вучні і дарослыя, даяркі і пастухі, рабочыя і служачыя. Варта паглядзець, колькі людзей прыходзіць штодня ў гарадскую або сельскую бібліятэку, і будзе зразумела папулярнасць кнігі ў нашым жыцці. І калі яшчэ вялікія залежы тавараў у кнігарнях, дык тут вінаваты тыя, хто няўмела і без аніякай павагі да сваёй справы прадае кнігі. Павагу, любоў да кнігі, патрэбнасць паглыбляцца ў сэнс жыцця трэба прапагандаваць і выхоўваць, і ў гэтым сэнсе немалаважную ролю можа адыграць мясцовая газета — раённая і абласная.

У сілу свайго глыбокага пранікнення ў масы і высокага аўтарытэту друкаванага органа газета саслужыць вялікую і карысную службу, папулярызуючы і па-належнаму ацэньваючы усё вартае ўвагі, што выходзіць з нашых выдавецтваў. Для таго існуюць розныя формы, якія ўжываюць газеты. Тут і маленькае абвяшчэнне пад назвай «Кніжная паліца» з пералікам выпушчаных у апошні час кніг, і невялічкія анатацыі з беглым пераказам зместу твора, і змешчаныя на газетных старонках водгукі чытачоў аб ужо выдадзенай кнізе, і нарэшце, рэцэнзія кваліфікаванага ў літаратурных справах аўтара. Гэтая апошняя форма выступлення газеты аб кнізе мае самае абгрунтаванае ўздзеянне на чытача, бо яна ўжо не толькі прапагандуе той ці іншы твор, але і дае пэўную ацэнку яму, дапамагае глыбей асэнсаваць яго ідэйныя і эстэтычныя якасці.

Усе нашы абласныя газеты ў поўнай меры ўжываюць гэтыя формы прапаганды і ацэнкі літаратурнага твора. Некаторыя з іх гэта робяць сістэматычна, пільна сочачы за выхадам у свет кожнай колькі-небудзь карыснай для іх кола чытачоў кнігі. Так, добра пастаўлена гэтая справа на старонках маладзечанскай і магілёўскай абласных газет, якія за апошнія 8 месяцаў (ліпень — люты) змясцілі па 17 рэцэнзій, разгорнутых анатацый або водгукаў чытачоў на кнігі. Змястоўныя і цікавыя рэцэнзіі напісалі ў мінулым годзе В. Крышталь на серыю кніжак беларускага нарыса і апавядання («Мінская праўда», 9 кастрычніка), В. Праскураў — на зборнік вершаў Максіма Танка («Зара», 22 кастрычніка), П. Ахрыменка — на зборнік беларускіх прыказак і прымавак («Гомельская праўда», 7 верасня), С. Дрозд — на аповесць А. Карпюка «Дзяўчына з Ваўкавыска» («Гродзенская праўда», 4 снежня). Адзначаныя вышэй рэцэнзіі цікавыя тым, што побач з пэўнага роду прапагандай новай кнігі яны змяшчаюць і аналіз яе ідэйнага зместу, вобразаў, мастацкіх сродкаў. Правільна,

прынцыпова ставячыся да таго ці іншага твора, аўтары гэтых рэцэнзій не абмінаюць і недахопаў, калі яны маюць месца, і адкрыта тлумачаць тое чытачу, некаторыя з іх не згаджаюцца з выступленнем іншых газет аб гэтым творы (напрыклад, рэцэнзія П. Ахрыменкі ў «Гомельскай праўдзе»), іншыя, не зважаючы на масцітасць аўтара, прынцыпова разбіраюць яго творчасць.

Трэба, аднак, зазначыць, што справа рэцэнзавання твораў мастацкай літаратуры на старонках абласных газет патрабуе значнага паляпшэння. Гэтыя газеты яшчэ недастаткова ўдзяляюць увагі мастацкай, асабліва беларускай літаратуры. Літаратурныя рэцэнзіі за апошні час займаюць невялікі працэнт у агульным ліку надрукаваных газетамі рэцэнзій. Так, з 86 такога роду выступленняў абласных газет рэспублікі за 6 месяцаў мінулага і 2 месяцы гэтага года толькі каля палавіны рэцэнзій, водгукаў і анатацый прыпадае на творы мастацкай літаратуры. Нават тыя газеты, у якіх справа рэцэнзавання наогул пастаўлена лепш, чым у іншых (магілёўская, маладзечанская, віцебская), надрукавалі за ўказаны час па 4–10 рэцэнзій на творы мастацкай літаратуры. А ў гомельскай, брэсцкай, мінскай абласных газетах лік такіх рэцэнзій не перавышае чатырох. Колькасць выступленняў на беларускія мастацкія творы яшчэ меншая.

Як правіла, газеты чуйна адклікаюцца на выхад удалай кніжкі вядомага пісьменніка. Так, у мінулым годзе многія абласныя газеты рэспублікі надрукавалі рэцэнзіі на зборнік вершаў Максіма Танка «След бліскавіцы». Цікава ў гэтым выпадку параўнаць два выступленні раённых газет на аднайменны твор. Вось В. Праскураў у брэсцкай «Зары» ў невялічкай, але змястоўнай рэцэнзіі шмат што здолеў сказаць чытачу, раскрыць яму асаблівасці і «сакрэты» выдатнай паэзіі Максіма Танка, хоць скупа, але прааналізаваць мастацкія сродкі аўтара. Іншым шляхам пайшоў другі аўтар рэцэнзіі — В. Тарабураў («Віцебскі рабочы», 3 снежня). Ён бегла пераказвае змест, дарэчы і недарэчы перасыпаючы свой тэкст цытатамі са зборніка і бяздоказна захапляючыся вершамі паэта. У гэтай жа сувязі характэрны многія рэцэнзіі на творы вядомых пісьменнікаў. Аўтары іх больш-менш сумленна перадаюць змест усяго твора ці яго асобных частак, хваляць пісьменніка і стандартна заўважаюць у канцы, што ён напісаў цікавы твор.

Не вылучаюцца высокім крытычным узроўнем многія рэцэнзіі А. Тарабурава і А. Позняка ў «Віцебскім рабочым», Н. Пужэвіча ў «Чырвоным сцягу». Хоць яны і займаюць добры кавалак газетнай плошчы, але ў сілу іх слабай аргументацыі не перарастаюць значэння расшыраных анатацый.

А вось «Гомельская праўда» ў лютым г. г. змясціла два

невялічкія, але неблагія артыкулы пад рубрыкай «Чытачы аб кнігах». У першым з іх настаўнік Ц. Кажамякін лаканічна выклаў змест і тое характэрнае, што ўласціва Івану Грамовічу. У гэтай рэцэнзіі нямнога ўзрушаных пахвал, няма разважанняў аб «вялікім значэнні» твора, ёсць толькі ўдумлівая, трапная назіральнасць, якая лепш за гучныя словы пераконвае чытача. Газеты, відаць, павінны часцей даваць магчымасць выказваць свае меркаванні аб кнігах радавым чытачам — інтэлігентам, рабочым, калгаснікам.

Значна больш крытычна і па-дзелавому аб'ектыўна ставяцца многія газеты і рэцэнзенты да творчасці пачынаючых літаратараў, сваіх землякоў. У мінулым годзе выйшла некалькі абласных літаратурных альманахаў. Як правіла, газеты, пры рэдакцыях якіх рыхтаваліся альманахі, прысвяцілі гэтай падзеі шырокія крытычныя артыкулы. Падрабязны агляд твораў, змешчаных у маладзечанскім альманаху «Нарач», зрабіў В. Красноў («Чырвоны сцяг», 30 кастрычніка). Можа, не ўсё правільна ацэнена ў яго артыкуле, не ўсе сцверджанні бясспрэчныя і глыбокія, але там відаць спроба рэцэнзента пранікнуць у творчасць пачаткоўцаў, разабрацца ў вартасцях і недахопах кожнага значнага твора. Іншага, больш інфармацыйнага плана артыкул В. Тарасава ў «Магілёўскай праўдзе» на мясцовы альманах «Дняпро». Аўтар і газета проста ўхіліліся ад крытычнага разбору альманаха, пераклаўшы гэтую справу на іншыя выданні. Наўрад ці былі за гэта ўдзячны ім чытачы і літаратары вобласці.

Некаторыя газеты занадта ўжо спадзяюцца на не заўсёды аб'ектыўную ацэнку аўтара, глыбока не ўнікаюць у сутнасць твора і рэцэнзіі. Гэта пераканаўча відаць, напрыклад, з рэцэнзіі Ф. Аднаочкі на зборнік вершаў маладога паэта Б. Спрынчана «Над кручамі Сожа» («Гомельская праўда», 2 жніўня). У пачатку свайго артыкула Ф. Аднаочка заяўляе, што «лепшыя вершы зборніка — тыя, у якіх аўтар выказвае свае адносіны да працы, да завода... Узяць, напрыклад, такія радкі:

И когда металл всплывет над лёткой,
От жары расплавясь на ходу,
Не спеша, уверенной походкой
Я к вагранке с пикой подойду.
С пол-удара лётку проломаю,
Пусть живым ключом бурлит литье!
И подарком лучшим Первомаю
Будет вдохновение мое.

У гэтых радках відаць багатырская хватка вопытнага майстра, горача ўлюбёнага ў сваю прафесію», — паэтычна

абвяшчае рэцэнзент. Але ўсякаму, нават неразборліваму чытачу відно, што не вельмі тут «багатырская» хватка, не шмат і натхнення, а болей зарыфмаванай апісальніцкай прозы на вытворча-тэхналагічную тэму. Рэцэнзент узяў гэтую цытату, відаць, не даючы сабе клопату шукаць лепшае, сапраўды мастацкае, што несумненна ёсць у зборніку маладога паэта. Становіцца дзіўна ад паэтычнай эрудыцыі рэцэнзента, які ў якасці найлепшых прыводзіць наступныя цытаты:

*…И на переднем плане,*
*От суппорта правей,*
Ты вся, *как на экране,*
В косынке до бровей.

Або:

…И пар, отработав в машине,
В кювете *прилег отдохнуть.*

І далей Аднаочка сцвярджае: «Вельмі добра, што Б. Спрынчан за апошнія гады стаў глыбей унікаць у сутнасць жыццёвых з'яў. У вершах паэта *пачала знікаць знешняя эфектнасць».* Дзіўнае сцверджанне пасля такіх цытат! Вядома, што рэцэнзія з гэткімі няўвязкамі не зробіць добрай паслугі паэту і дэзінфармуе, калі не збянтэжыць чытача.

Трэба асобна зазначыць агляды літаратурнай творчасці маладых, што робяць некаторыя абласныя газеты. У гэтай добрай і патрэбнай справе вылучаюцца з ліку іншых маладзечанская газета «Чырвоны сцяг» і «Магілёўская праўда». На старонках гэтых газет рэгулярна друкуюцца змястоўныя агляды апавяданняў і вершаў пачынаючых літаратараў. Дарэчы, «Чырвоны сцяг» — адзіная ў рэспубліцы газета, якая не абышла ўвагай і творчасць літаратараў, прадстаўленых у раённых газетах. Вельмі добры артыкул М. Карпенкі быў надрукаваны на яе старонках 18 студзеня, і трэба толькі пашкадаваць, што ён адзіны ў сваім родзе. Агляды П. Шасцерыкова, В. Васільева, Ф. Конышава, М. Карпенкі несумненна адкрылі пачаткоўцам шмат чаго слушнага ў іх творчасці, паказалі недахопы твораў і шляхі да ўдасканалення — шляхі цяжкой працы, немінучай на літаратурнай дарозе, і гэтая карысць пачэрпнута з тых аглядаў не толькі аўтарамі твораў, якія былі разгледжаны, — пэўна, многія з тых пачаткоўцаў, што яшчэ і не даслалі сваіх твораў у рэдакцыі, пазналі там і свае хібы і, вядома, зрабілі вывады. Шкада толькі, што за апошні час няма такіх аглядаў на старонках іншых пяці абласных газет.

Прапаганда савецкай кнігі, твораў мастацкай літаратуры, своечасовая і прынцыповая ацэнка іх — важная ўсенародная справа. Выканаць свой абавязак у гэтай справе абласныя газеты здолеюць, толькі значна палепшыўшы свой крытычна-бібліяграфічны аддзел.

[1958]

## 1961

### Недачытаная кніга

Было гэта амаль чвэрць стагоддзя назад.

На раўнінных румынскіх прасторах пачыналася спякотнае паўднёвае лета. У зялёным ад травы і быльнягу наваколлі згодным хорам стракаталі цыкады, а ў ветраным небе пад вечар з'яўляліся буслы. Яны прыляталі аднекуль з Карпат і высока кружыліся, пэўна, выглядаючы дзе якую балацявіну, старыцу, лужок, каб там палавіць спажывы і па буслінім звычаі самотна пастаяць на адной назе. Але яны ніколі не спускаліся з вышыні, бо скрозь на зямлі былі людзі — на ўсіх лужках, ля ўсіх старыц і балацявін, на ўсіх дарогах, а ў паветры ляталі нябачаныя імклівыя чмялі, і буслы баяліся іх.

На зямлі грымела вайна.

Мы сядзелі на Пашканскім плацдарме за Сератам, сядзелі, закапаўшыся ў зямлю, закідаўшы маладой кукурузай нізенькія шчыты нашых процітанкавых гармат. Спачатку, у красавіку, тут ішлі лютыя баі — немцы хацелі прагнаць нас з-за Серата і ліквідаваць плацдарм, але гэта ім не ўдалося, і яны прыціхлі. Яны закапалі ў зямлю свае танкі, паставілі на прамую наводку гарматы, нацэлілі ў нас буйнакаліберныя кулямёты і чагосьці чакалі.

Пачалася вайна адзіночак.

Нямецкія снайперы сачылі за кожным рухам у нашых траншэях, кожнай неасцярожнай каскай, чым-небудзь падазроным лапікам зямлі. Варта было каму вытыркнуць з акопа тронак рыдлёўкі, як побач на брустверы, разбіваючы глыжы, дзёўбала куля. І мы сядзелі ў сваіх ровіках доўгія вясновыя дні, а дзяжурныя назіральнікі, высунуўшы тоненькія трубкі разведчыцкіх перыскопаў, сачылі, што робіцца вакол.

Толькі ўвечары, калі цямнела, мы вылазілі з ровікаў і, як дзеці, качаліся па сухой, не роснай яшчэ траве, дурэлі і чакалі старшыну, які прыносіў кукурузны суп у тэрмасе і тытунь.

Аднойчы старшына не прыйшоў, і мы, галодныя і злыя, прачакалі так да паловы ночы, а пасля камандзір гарматы старшы сяржант Лук'янчанка — пажылы ўжо, саракапяцігадовы буркатлівы вусач — папрасіў дазволу схадзіць у тыл і набіць у каршэнь старшыну. Пасылаць камандзіра гарматы па харчы было не па правілах, але ў Лук'янчанкі ў палкавым тыле былі і яшчэ патрэбы (першая — палаяцца з артузбраенцамі за дрэнна адрамантаваны пад'ёмны механізм), і я адпусціў яго.

Лук'янчанка вярнуўся ўранку, калі пачынала ўжо світаць. Салдаты да гэтага часу паўлазілі ў свае цесныя, пыльныя акопчыкі і, не дачакаўшыся ежы, задрамалі. Я трохі паляжаў, непакоячыся, чаго гэта так доўга не ідзе старшы сяржант, і пачаў засынаць, як недзе непадалёк на брустверы гулка шчоўкнула разрыўная куля, і гэты яе пошчак імгненна разбудзіў мяне.

— Пакуль аббегаў усіх... Спяць, як суслікі... А старшыну гэта... забіла. Дарма лаялі, — саскочыўшы ў акоп і адсопваючыся, паведаміў Лук'янчанка.

Пачуўшы камандзіра, заварушыліся, паўставалі салдаты. Старшы сяржант тым часам развязаў рэчавы мяшок і выкладваў адтуль на снарадную скрынку тое, што прынёс нам: два боханы кукурузнага хлеба, банку свіной тушонкі, некалькі драбкоў цукру, загорнутых у насоўку, і нізку жоўтага, трошкі абвільгатнелага за ноч малдаўскага тытуню. Напаследак Лук'янчанка выцягнуў з торбіны нейкую таўшчэзную кнігу, абдзёртую, без вокладкі і вельмі растрапаную. Пакуль Рудак (так звалі нашага, таксама ў гадах ужо, гарматнага нумара) дзяліў харч на восем роўных паек, Лук'янчанка адрываў ад кнігі першыя лісты і раздаваў іх разліку.

Ён падзяліў па аркушу ўсім, а астатняе схаваў у свой апусцелы рэчавы мяшок і старанна завязаў лямкі.

Не дачакаўшыся кукурузнага наедку і добра згаладаўшыся, салдаты дружна ўзяліся выскрабаць з банкі тлустую тушонку. Я таксама паеў і неўзабаве заснуў.

Праз нейкі час я, аднак, абудзіўся — хацелася піць, было душна, і недзе побач праз сон яшчэ чулася дакучная гамонка. Аказалася, што гэта Цімафееў, наш наводчык і батарэйны грамацей (да вайны вучыўся ў інстытуце), некага ўпрошваў:

— Ну дайце... Ну што вам... Ну, калі хочаце, палічым старонкі... Пад распіску, га?

— Ідзі ты... ведаеш куды? — санлівым голасам бурчаў Лук'янчанка. — Дай заснуць. Я ноч працягаўся...

— Дык і я ж тое кажу... Дайце — і спіце сабе. Ну, я сам дастану, толькі вы галаву крышачку падніміце. Га?.. Таварыш старшы сяржант!

— Чорт бы вам пяткі абгрыз! — лаяўся камандзір гарматы. —

Я за ёю на міннае поле лазіў, думаў, на месяц курыць будзе… А яны вось уздумалі. Чытаць ім конча, грамацеі праклятыя!..

Злосны і сонны, ён, пэўна, усё ж устаў: доўга шархацеў лубяным рэчмяшком — відаць, даставаў кнігу, бо Цімафееў болей не ўпрошваў — маўчаў, і я ўявіў сабе на яго твары ўсмешку чалавека, які дамогся свайго.

— На і адчапіся! Толькі ведай, калі хоць адзін ліст без мяне скурыце — на нейтралку паганю, каб паперы прынёс.

— Згода! Ёсць, таварыш камандзір. І дзякуй!

Цімафееў, затупаўшы ботамі, пабег па траншэі ў шырэйшы акоп па той бок гарматы, дзе ляжалі нашы боепрыпасы і дзе звычайна размяшчаўся ўвесь разлік — пяць чалавек.

Так да нас трапіла гэтая кніжка, лёс якой склаўся далей крыху інакш, чым яго вызначыў старшы сяржант Лук'янчанка. Прыслухаўшыся да гаманы за гарматай, я таксама адчуў цікавасць да тае кнігі, што так прывабіла нечым наводчыка.

Падумаўшы, што Лук'янчанка, мабыць, не спіць, я далікатна пакратаў ягоны бот.

— Як яна называецца, кніжка тая?

Старшы сяржант памаўчаў крыху, як бы думаючы, адказаць ці прытварыцца, што спіць, а пасля буркнуў:

— Назву мінай пашкодзіла. А папера нішто… не глянцаваная…

Ён засоп мацней, чым дагэтуль, і я зразумеў, што старшы сяржант не мае ахвоты размаўляць са мною.

Я болей не надакучаў Лук'янчанку, толькі павярнуўся на другі бок і тады пачуў з-за гарматы роўны, трошачкі разважнаглыбакадумны голас Цімафеева. Ён чытаў:

«Дед засек меня до потери сознання, и несколько дней я хворал, валяясь вверх спиною на широкой жаркой постели… Дни нездоровья были для меня большими днями жизни. В течение их я, должно быть, сильно вырос и почувствовал что-то особенное. С тех дней у меня явилось беспокойное внимание к людям, и, точно мне содрали кожу с сердца, оно стало невыносимо чутким ко всякой обиде и боли, своей и чужой…» Горкі! Каму не знаёмы з маленства гэтыя словы?! Хто ў свой час, у тыя даўнія паўзабытыя гады, калі быў навокал цябе бацькоўскі ўтулак, матчыны клопаты (каб не прастудзіўся, не згаладаў) — такія смешныя цяпер у гэтых акопах пад нацэленымі ствtotal буйнакаліберных кулямётаў — хто тады не адчуў, чытаючы гэта, вялікай радасці і вялікай удзячнасці чалавеку за яго сардэчную мудрасць! У той спякотны ранак гэтыя горкаўскія словы напомнілі нам пра нашу нацыянальную веліч, якая надавала нам сілы і будзіла ў нас адчуванне іншага жыцця, чым тое, якім мы жылі тры гады на вайне, і мы разумелі тады, што

хоць і цяжка, і марудна, і пакутна, але мы будзем ісці да яго праз усе выпрабаванні, пакуль не прыйдзем і не даможамся міру.

«Бабушка не плясала, а словно рассказывала что-то. Вот она идет тихонько, задумавшись, покачиваясь, поглядывая вокруг из-под руки, и все ее большое тело колеблется нерешительно, ноги щупают дорогу осторожно. Остановилась, вдруг испугавшись чего-то, лицо дрогнуло, нахмурилось и тотчас засияло доброй, приветливой улыбкой. Откачнулась в сторону, уступая кому-то дорогу, отводя рукой кого-то, опустив голову, замерла, прислушиваясь, улыбаясь все веселее, — н вдруг ее сорвало с места, закружило вихрем, вся она стала стройней, выше ростом, и уж нельзя было глаз отвести от нее — так буйно красива и мила становилась она в эти минуты чудесного возвращения к юности...» — ціха і складна ліліся ў акопе цудоўна маляўнічыя горкаўскія словы, і паўставалі ў вачах знаёмыя змалку вобразы бабулі, дзеда, Цыганка, Якава... І здаваліся тады яны нам гэткімі ж роднымі і дарагімі, як дарагія былі кожнаму з нас вобразы нашых родных — бацькоў, сясцёр, нашых першых настаўнікаў, землякоў...

З таго ранку гэтую кніжку Максіма Горкага сталі чытаць кожнага дня. Звычайна, як толькі разлік заканчваў сняданак, Цімафееў, таропка перакурваючы, усаджваўся на шынялі і пачынаў чытаць. Навокал яго ў траншэі сядзелі, ляжалі, курылі астатнія нашы хлопцы, усе слухалі, і кожны, вядома, знаходзіў у сваёй душы тую сардэчную струнку, якая чуйна адгукалася на шчырую, глыбокую споведзь чужога вялікага жыцця. Адзін толькі Лук'янчанка аставаўся абыякавы да гэтага чытання — ён сядзеў сабе ў сваім акопе, спаў, часам зашываў прадраныя, запэцканыя гарматнай змазкай штаны, чысціў, перабіраў аўтамат і курыў. Кожнага ранку ён правяраў, ці не пакурылі нашы чытачы старонкі, прыдзірліва перагортваў іх, але старонкі асталіся цэлыя нават тады, калі ва ўсіх ужо скончылася выдзеленая ім папяровая норма. Старшы сяржант здзівіўся, натапырыў вусы і выдраў адзін ліст.

— Стой! Не трэба! — схапіўся за кнігу Зось. — Не трэба! Мы от лепей «баявы лісток» (ён быў батарэйным камсоргам, і ў ягонай сумцы знайшлося два бланкі «баявых лісткоў»).

Лук'янчанка ўсё ж выдраў сабе пару лістоў, а астатняе вярнуў хлопцам. Мусіць, гэтая іх самаахвярнасць здзівіла і зацікавіла старшага сяржанта, бо ён неяк нетаропка згарнуў цыгарку і, відаць, не дужа спяшаўся ісці ў свой акоп, а сеў на прыступках ля хлопцаў і пачаў пстрыкаць запальнічкай.

Ён трошкі і паслухаў, але, відаць, не ўчуўшы таго, што чакаў, махнуў рукой:

— Ат, я думаў — пра вайну што!

Гэта чытанне працягвалася, мабыць, з тыдзень. Пасля ў канцы мая пачалося такое, што на нейкі час мы забылі пра кнігу.

Аднойчы на світанку ўсе мы прачнуліся ад грымоцця выбухаў, скавытання мін і знаёмага, але даўно ўжо не чутага танкавага гулу. Зямля дрыжала, камякі з бруствера сыпаліся на нашы галовы, над акопамі джгалі кулі.

Увесь той дзень была страшэнная калатнеча, немцы атакавалі нас з танкамі: пяхота два разы пакідала свае траншэі, а пасля трэцяга разу вымушаны былі пакінуць сваю пазіцыю і мы. Зашыўшыся ў маладой кукурузе, мы, мабыць, з кіламетр кацілі саматугам гармату і стралялі, і беглі, а калі спыніліся надвячоркам на ўскраіне невялічкага румынскага мястэчка, аказалася, што недзе знік Цімафееў. Раней яшчэ адправілі ў тыл цяжка параненага Рудака.

Мы чакалі Цімафеева да вечара. Немцы неяк абышлі нас, бой ішоў на поўдзень ад Пашкань, ішлі паветраныя баі (пасля мы даведаліся, што вядомы на нашым фронце лётчык Іван Кажадуб збіў у той дзень пяць нямецкіх самалётаў). Калі пацямнела, Болькін, ціхмяны, з вечнай усмешкай на твары масквіч, зняў з пляча аўтамат і пайшоў па нашым следзе туды, у кукурузу.

Мы ведалі, чаму ён пайшоў, і маўчалі, думалі, мо знойдзе і прывядзе параненага нашага грамацея і наводчыка Цімафеева. Аднак ён вярнуўся праз гадзіну адзін, моўчкі паклаў на казённік аўтамат наводчыка з вышчарбленым куляй прыкладам і выцяг з-за рэменя знаёмую нам кнігу. У ёй ляжалі загорнутыя ў нейкую цыратку дакументы Цімафеева і яго два медалі.

Ціхае франтавое жыццё на тым скончылася надоўга. Некалькі дзён мы стралялі з гарматы па танках і па пяхоце, капалі то тут, то там агнявыя пазіцыі, але ўсё ж выпадаў калі і спакойны час — некалькі хвілін за бясконца доўгі і трывожны дзень. І мы працягвалі чытаць. Некаторыя з нас некалі ўжо чыталі яе, другія чулі ўпершыню…

Чытаў цяпер Болькін. Рабіў ён гэта трохі не так, як Цімафееў, а нібы перад ім была п’еса з некалькімі персанажамі, і ён вымаўленнем стараўся перадаць характар кожнага. Ён любіў спыняцца і тлумачыць падзеі па-свойму або выказваць свае адносіны, калі яго што асабліва кранала. Лук’янчанка ў такі час ляжаў ля станіны або на тыльным брустверы і рабіў выгляд, што нічога таго не слухае, а толькі бавіць час.

Праз некалькі дзён хлопцы адолелі «Дзяцінства» і «У людзях», аставалася апошняя частка — «Мае ўніверсітэты». Болькін іх знарок не пачаў у той вечар, хоць і быў для таго зручны час. «Заўтра пачнём апошнюю частку, — сказаў ён. — А сёння памарым трохі».

Ён сказаў гэта, і ўсе змоўклі, у вушах кожнага незразумелай і ўладарнаю музыкай гучала заключная горкаўская фраза, поўная асаблівага сэнсу і значэння:

«Так я и решил. Осенью этого года я уехал в Казань, тайно надеясь, что, может быть, пристроюсь там учиться».

Толькі ні аўтару вучыцца ў Казанскім універсітэце, ні Болькіну дачытаць трэцюю частку трылогіі не давялося. Назаўтра зранку на нас navaліліся немцы, нас атакавалі танкі, некалькі іх прарвалася на дарогу ў Пашкані, і Болькін, зрэзаны кулямётнай чаргой, упаў на станіну, каб ніколі ўжо не падняцца.

Пасля смерці Болькіна кніжка некалькі дзён хадзіла па руках нашых хлопцаў, і сярод іх ужо не было каму прыгожа чытаць услых. А праз дзень ці два разадлаваны за нешта Лук'янчанка адабраў яе ў аднаго маладога салдата, што прыйшоў да нас з пяхоты і, павячэраўшы, адарваў старонку на курыва.

— Што рвеш! — вызверыўся на яго камандзір гарматы. — Што рвеш, блазнюк? Ты яе прачытаў? Бэкаць не ўмееш, а ўжо рваць! — Ён выхапіў кнігу з рук збянтэжанага хлопца і засунуў у сваю вузенькую сяржанцкую палявую сумку.

Пасля нам давялося перажыць рознае. Былі цяжкія дні, калі немцы спрабавалі саштурхнуць нас у Серат, былі і спакойныя. Неяк улетку пахавалі мы ў Пашканях у брацкай магіле нашага камсорга Зося, у разлік прыйшлі новыя людзі. Кніжку Лук'янчанка заўжды насіў пры сабе (гэта відно было па яго туга напятай кірзавай сумцы, а ў ціхі час, калі паблізу не было нікога або ўсе спалі ў ровіках, старшы сяржант даставаў яе, клаўся дзе-небудзь у цяньку на жывот і рудымі, заскарузлымі ад зямлі пальцамі задуменна гартаў пашкуматаныя старонкі. Невядома чаму — ці мо ён перачытваў яе другі раз, ці ўпачатку, калі чытаў Цімафееў, сапраўды не слухаў, ці, можа, не зразумеў чаго, але пажылы калгаснік з Сібіры пачаў усё перачытваць спачатку. Чытаў ён марудна, ледзьве складаючы з гукаў словы — пэўна, саромеўся сваёй малапісьменнасці і таму хаваўся.

Аднойчы ў спякотны чэрвеньскі поўдзень я ўбачыў, як утуліўся ён між станін, падсунуў голаў пад гарматны казённік і там у засені пачаў сабе бэкаць:

«Вспо-миная эти свин-цо-вые мер-зости дикой русской жизни, я ми-нутами спра-шиваю себя: да сто-ит ли говорить об этом? И с об-нов-лен-ной уверен-ностью отвечаю себе — стоит; ибо это — жи-ву-чая, подлая правда, она не из-дохла н по сей день…»

Ён то чытаў, то спыняўся, нібы абдумваючы напісанае ці, можа, дзівячыся з яго шчырага сэнсу, пасля чытаў зноў.

Я так і не ведаю, ці адолеў ён тую кніжку — неўзабаве пачалося вялікае наступленне, крывавая Яска-Кішынёўская бітва,

пасля доўгі нялёгкі шлях праз Югаславію і Венгрыю да таго майскага дня 1945 года, калі мы выцерлі потныя лбы і зачахлілі нарэшце гарматныя ствалы. Прызнацца, за гэты час я і забыўся на тую гісторыю з кніжкай — не да таго было. Пад Балатонам у Венгрыі Лук’янчанку параніла, месяцы два ён прабыў у шпіталі і толькі пад вясну вярнуўся ў свой полк. Пасля вайны мы нейкі час стаялі ў Аўстрыі, і вось нарэшце надышоў час, калі старэйшым з нас загадалі здаць зброю, пасады і з рэчамі пастроіцца на пляцы для адпраўкі дадому.

Сабраўшы старых у радасную мірную дарогу, наш батарэйны старшына спярша пастроіў усіх ля сваёй капцёркі і загадаў развязаць рэчмяшкі. Абходзячы з арматуркай строй, ён правяраў, ці ёсць ва ўсіх усё тое, што патрабавалася мець па мабілізацыі. І вялікае было маё здзіўленне, калі сярод іншых несамавітых вайсковых рэчаў у развязаным Лук’янчанкавым рэчмяшку я ўбачыў знаёмую, з рудымі плямамі, абдзёртую, без пачатку і канца, кнігу. Праўда, цяпер яна была акуратна падроўнена, падклеена і загорнута ў газету. Старшына падазрона абмацаў яе, пагартаў і мімаходзь кінуў:

— А гэта навошта вязеш?

Старшына быў малады хлопец, зухаваты і спрытны, да кніжак, відаць, ні асаблівай ахвоты, ні патрэбнай павагі не меў, і Лук’янчанка, натапырыўшы вус, абурана сказаў яму:

— А ты ведаеш, што гэта за кніжка?

Старшына не меў часу сварыцца, ён перайшоў да іншых у шарэнзе, а Лук’янчанка, завязваючы лямкі рэчавага мяшка, бурчаў:

— Ну і моладзь пайшла…

А ўбачыўшы непадалёк мяне і, відаць, зразумеўшы, што я ўсё чуў, ён даверліва паведаміў:

— От павязу. Хай сыны чытаюць.

Я хацеў сказаць старому франтавіку, што яго падлеткі-сыны, мабыць, даўно прачыталі ўжо гэтую кнігу, што спазніўся ён адкрыць яе і для сябе, і для іх, што кніга гэта ёсць у кожнай школьнай бібліятэцы, і ці варта везці яе праз усю Еўропу за тысячы кіламетраў у Сібір. Але я не сказаў нічога.

Лук’янчанка завязаў рэчмяшок, паставіў яго ля ног, бразгаючы паўтузінам медалёў на грудзях, расправіў пад дзягай гімнасцёрку і нялёгка ўздыхнуў. І мне здалося, што я зразумеў гэты яго ўздых і яго клопат.

І дай бог, каб тое разумелі і памяталі яго сыны, якім вёз гэты чалавек не дачытаную Цімафеевым, Болькіным, Зосем і яшчэ многа кім кнігу.

[1961]

## На ўсю сілу таленту

У пярэдадзень XXV з’езда Камуністычнай партыі Беларусі ў Мінску адкрываецца рэспубліканская мастацкая выстаўка, на якой выступілі са сваімі работамі і мастакі Гродна. Што яны прадставілі на ўсебеларускі агляд, з чым сустрэлі з’езд КПБ, якія поспехі і недахопы іх творчасці — аб гэтым і хацелася б пагаварыць у даным артыкуле.

Даўно і плённа працуе ў жывапісе выдатны гродзенскі мастак І. П. Пушкоў.

Вопытны і працавіты жывапісец, ён выпрабаваў свае здольнасці ў многіх жанрах выяўленчага мастацтва, але ў апошнія гады спыніў творчы выбар галоўным чынам на пейзажным жывапісе. Амаль усе яго работы гэтага жанру прыемна ўражваюць спелым прафесіяналізмам, карціннай завершанасцю, амаль у кожнай мастак праяўляе незвычайнае майстэрства кампазіцыі. Гарманічнасць колерных спалучэнняў — гэта галоўнае патрабаванне жывапіснага майстэрства — у яго заўсёды беззаганная. Выстаўлены ў Гродна і экспанаваны на рэспубліканскай выстаўцы пейзаж «Воблачны дзень» — гэта, бадай, лепшае з усяго створанага Пушковым за апошнія гады. Непатрабавальная па манеры выканання, вельмі сціплая ў сэнсе аб’екта адлюстравання (можна яшчэ дадаць: вольная ад некаторай прэтэнцыёзнасці, уласцівай, напрыклад, «Нёманскім далям») гэта работа ў той жа час вельмі паэтычная сваёй лірычнай настроенасцю, добрай усхваляванасцю, дынамічнасцю ветранага летняга дня.

Другая яго работа «Вячэрняя зара» па кампазіцыі падобная да першай — тая ж рэчка, тыя ж берагі, толькі асвятленне тут іншае, перадзмрочнае, і неба супакоенае, зацягнутае хмарамі з вузенькай пунсовай палоскай удалечыні. Ад танальнай лаканічнасці гэтага пейзажу вее паэтычным, амаль левітанаўскім смуткам, але смуткам добрым, поўным светлай веры, якую як бы сімвалізуе далёкая палоска зары. Яна, гэта палоска, якая знаходзіцца ў вельмі слушным кантрасце да ўсёй астатняй плошчы карціны, і заключае ў сабе сэнсавы і глядзельны цэнтр усёй кампазіцыі.

Амаль цалкам на света-колеравых кантрастах заснавана трэцяя карціна Пушкова «Летнія зоры». Вельмі маляўнічае чаргаванне ценяў і светавых палос у перадвячэрнім асвятленні позняга лета стварае поўную ілюзію перспектывы і паветранасці. Бадай, ні ў адной з іншых работ мастак не дасягае такой гарманічнасці колеравых спалучэнняў, як у гэтай. Увесь каларыт

аб’яднаны адным цёплым патокам святла ад праменняў заходзячага сонца. Асабліва добры далёкі план — поле, лес на ўзгорку, неба.

У адрозненне ад папярэдніх чацвёртая работа І. Пушкова «Рака Бяроза» — эцюд з усімі ўласцівымі яму годнасцямі і недахопамі. Тут няма той паслядоўнасці ў дасягненні арганічнага адзінства тонаў, няма завершанасці малюнка, затое тут — спрадвечная гучнасць фарбаў, правільнасць намёкаў, удачная рытмічнасць сілуэтаў. Гэта, несумненна, лепшы з эцюдаў, хоць, да слова сказаць, Пушкоў — майстар выкарыстання эцюда, які заўсёды для яго — не ўзор, а ступенька, падмога, лішняе назіранне для будучай карціны.

Лепшыя работы І. Пушкова — яшчэ адно сведчанне таго, як многа можа даць мастаку родная прырода. Агульнавядома, што радзіму ўвасабляюць не толькі тысячы кіламетраў яе працягласці, але і маленькія прыватнасці — бярозка ля ганка, вячэрняя зара, рэчка, лес на гарызонце і г. д.

Другі мастак нашага горада, прызнаны майстар жанравага сюжэта В. Савіцкі напісаў для выстаўкі два партрэты і пейзаж. Талент Савіцкага, па годнасці прызнаны і ацэнены ў рэспубліцы, у многім адрозніваецца ад талентаў іншых яго сучаснікаў. Савіцкі — мастак удумлівы, заўсёды ў пошуках, упарта, часам пакутліва дабіраецца да сутнасці прадметаў і з’яў — аб’ектаў яго адлюстравання. Наведнікі папярэдніх выставак памятаюць яго гісторыка-рэвалюцыйнае палатно «Фрунзе ў Мінску», паэтычную «Завочніцу» і інш. Цяперашнія работы мастака не менш цікавыя.

На першым партрэце — брыгадзір брыгады камуністычнай працы, будаўнік азотнатукавага завода Міхаіл Ярашэвіч.

З даволі вялікага палатна ўпэўненым позіркам гаспадара, будаўніка новага жыцця, глядзіць на гледача магутны, амаль волатаўскага складу чалавек, адзін выгляд якога адразу тлумачыць, чаму мастак спыніў на ім сваю ўвагу. Партрэт напісан у абагульнена-дэкаратыўнай манеры, з наўмысным агрубленнем сілуэта, у «акантураванай» лініі якога, бадай, галоўная выразнасць малюнка. Савіцкі далёкі ад ўсялякага натуралізму. Ён шукае свой колер, як правіла, заўсёды вельмі гучны, амаль «чысты» (напрыклад, ярка-ізумрудныя палосы на заднім плане партрэта), шукае самы выразны сілуэт, не баючыся іншы раз, можа быць, і занадта рызыкоўных ракурсаў. У гэтым сэнсе выдатны другі яго партрэт — «Брыгадзір Селіванаў» (з гэтай жа будоўлі азотнатукавага). Непрыкрыты загарэлы торс будаўніка ў ваеннай шапцы, з накінутай на плячо сіняй курткай, на фоне чырвонага цаглянага будынка, удумлівапільны позірк немаладых ужо вачэй стварае тыповы вобраз нашага чалавека нялёгкага лёсу, з вайной і

яе разбурэннямі і з пафасам стварэння пасляваенных год. Паўнагучнасцю характару, умелым спалучэннем колераў, пластычнасцю, а таксама самым моцным у выяўленчай манеры Савіцкага — гранічнай выразнасцю малюнка гэтыя два партрэты выгадна адрозніваюцца ад многіх іншых работ гродзенскіх мастакоў. Тая ж манера ў дастасаванні да новага жанру ўласцівая і трэцяй яго рабоце — пейзажу «Макі», цікаваму ўжо па кампазіцыі, аснову якой склалі блізкія да перпендыкуляра лініі. Але асаблівую прыгажосць гэтай рабоце прыдае колеравае спалучэнне макавыхградак, зеляніны пярэдняга плана і спакойнага неба над вячэрнім сілуэтам хат.

Несумненны поспех самых здольных гродзенцаў — Пушкова і Савіцкага, на жаль, не стаў прадметам творчага раўнення для другіх мастакоў Гродна. Не многія з іх праявілі колькі-небудзь значныя намаганні для падрыхтоўкі да выстаўкі. Гэта асабліва непрыемна таму, што сярод іх ёсць такія таленавітыя і кваліфікаваныя мастакі, як А. Кох, Д. Парахня, Д. Старалаўнікаў. Праўда, у апошнія напярэдадні выстаўкі дні яны сёе-тое зрабілі, аднак гэтыя іх спробы былі настолькі ж непераканальныя, як і малапрадуктыўныя. А. Кох, вельмі добры майстар партрэта, мастак, які найбольш плённа валодае традыцыйнай акадэмічнай манерай, у мінулым — аўтар шырока вядомых партрэтаў, на гэты раз выставіў толькі два эцюды. Партрэт Героя Сацыялістычнай Працы даяркі Марыі Занеўскай мастаку не ўдалося закончыць.

Эцюды Коха, прадстаўленыя выстаўкаму («Свежы вецер», «Сцірты», «Мосцік» і інш.), не выходзяць за рамкі жывапісных практыкаванняў, хоць выкананы лёгка і каларытна. Лепшы з іх, бадай, «Мосцік», насычаны колерам, смела скампанаваны і свабодна напісаны. Паэтычная сваёй лёгкай паветранай смугой і вячэрнім асвятленнем «Ускраіна».

Вядомы сваёй працавітасцю і любоўю да прыроды Гродзеншчыны М. Плужнік падрыхтаваў да гэтай выстаўкі два пейзажы, вельмі каларытны «Восень» і «Зіма» — лаканічны па колеры, пабудаваны на рэзкіх кантрастах асветленай сонцам абочыны і зацененай дарогі. Увесь пейзаж — амаль у дэкаратыўнай манеры, выразны і непатрабавальна просты. Думаецца, што ў гэтай прастаце і яго несумненная вартасць. Цалкам прафесіянальныя і месцамі цікавыя эцюды Д. Старалаўнікава, аднак яны амаль ніколі не перарастаюць гэтай сваёй эцюднасці, і такім чынам, з'яўляючыся прыватным, не могуць прэтэндаваць на колькі-небудзь значнае абагульненне, без якога немагчымы ні адзін з твораў мастацтва.

На жаль, нічога не падрыхтаваў для выстаўкі такі здольны жывапісец, як Парахня, а таксама А. Арнаутаў і К. Пятроў. К.

Вісловіч выставіў толькі эцюд і нацюрморт.

Вопыт гродзенскіх мастакоў, іх поспехі і промахі вучаць і наводзяць на думкі. Несумненна, што большасць з іх цалкам валодае пэндзлем, прафесійна пісьменная, бадай, нікому з іх нельга адмовіць у любві і разуменні прыроды, ва ўменні бачыць у ёй многае, адкрытае толькі востраму воку сапраўднага мастака. Гэта блізкасць да прыроды, багацце яе натуры, сканцэнтраванне самых разнастайных праяўленняў жыцця — добрая ўмова, якая дае магчымасць ствараць паўнакроўныя творы мастацтва. Аднак гэта магчымасць выкарыстоўваецца не ў поўную меру.

Галоўны недахоп многіх (выключаючы хіба Пушкова і Савіцкага) у няўменні адысці ад эцюда, узбагаціць яго, выкарыстаць яго як падмогу для стварэння паўназначнага — карціны. У многіх выпадках выдатна напісаны, звычайна маленькі па размерах эцюд так і застаецца вяршыняй дасягнутага. Калі ж мастак паспрабуе на яго аснове напісаць пейзаж, то ў лепшым выпадку ён паўторыць эцюд, а ў горшым (і гэта нярэдка) створыць горшы, хоць і павялічаны ў размерах яго варыянт.

Грэбаванне шматфігурнай кампазіцыяй не дазваляе гродзенцам стварыць значныя жанравыя палотны. Мы памятаем толькі некаторыя прыклады мінулых год, дзе ў гэтым нашы мастакі дабіваліся поспехаў (Савіцкі, Парахня); часцей яны пазбягаюць многафігурнасці, у радзе выпадкаў абмяжоўваючыся 1–2 чалавечымі сілуэтамі. Зразумела, што гэта істотная загана мастацкага метаду, таксама як і адсутнасць вялікай ахвоты ўрывацца ў эмацыянальныя сферы жыцця народа не дазволяць стварыць нічога колькі-небудзь значнага ў выяўленчым мастацтве, якія б ні былі вялікія жывапісныя здольнасці мастакоў. Ілюстрацыйнасць, вельмі прыкметная ў радзе цяперашніх і ранейшых работ, А. Арнаутава, М. Плужніка, Д. Старалаўнікава не можа стварыць поспеху мастакам, бо яна як метад, не хвалюючы аўтара, не здольная эмацыянальна ўздзейнічаць і на гледача. Калі да гэтага яшчэ дадаць адсутнасць пошукаў у форме, поўнае здавальненне трафарэтна-кананічнымі прыёмамі ў жывапісе, якія ў радзе выпадкаў перасталі каго-небудзь вабіць з прычыны сваёй збітасці, то стане зразумела, як многа яшчэ недахопаў трэба пераадолець гродзенцам, каб усёй сілай таленту выйсці на шырокую дарогу творчасці.

[1961]

## 1962

### [Ответы на анкету журнала «Вопросы литературы»]

*— Какой жизненный опыт предшествовал началу Вашей литературной работы? Когда и где были опубликованы Ваши первые произведения?*

— Четыре года войны. Десять лет послевоенной службы в армии — на Украине, в Белоруссии, на Дальнем Востоке.

*— Какие проблемы, характеры, конфликты современности Вы считаете актуальными? Как Вы изучаете жизнь, как собираете материал для своих произведений?*

— Как и во все времена — проблема правды художественного произведения и искренности автора. Поэтому действительно актуальными считаю правдивые характеры — не надуманные, не сочиненные, а «вырванные» из жизни со всей их человеческой сложностью.

*— Как Вы понимаете долг писателя в формировании в людях новых, коммунистических качеств?*

— Обличение зла во всех его формах и изображение добра, которое прежде всего проявляется в величии человеческого духа.

*— Какие традиции в классической и современной литературе близки Вам? Какие искания в области художественной формы представляются Вам наиболее перспективными?*

— Пожалуй, традиции критического реализма. (Вторая половина этого вопроса мне представляется не очень существенной: форма не имеет самостоятельного, решающего значения — было бы честно, правдиво и художественно).

*— Кто из писателей старшего поколения оказывал Вам творческую помощь, в какой форме она выражалась?*

— Лучшая творческая помощь писателей старшего поколения, кажется, это их книги. И тут мне хочется назвать «Разгром» А. Фадеева, «Тихий Дон» М. Шолохова, «В окопах Сталинграда» В. Некрасова, а также произведения авторов моего поколения — Г. Бакланова, Ю. Бондарева, Э. Казакевича, хотя писать я начал значительно позже.

*— Ваши ближайшие творческие планы?*

— Темы минувшей войны, ибо в ней видятся очень многие начала, входящие в наши дни и выходящие в будущее.

[1962]

## Жывыя — памяці мёртвых

Гады, якія мінулі пасля заканчэння вайны, многім даюць падставу лічыць ваенную тэму амаль гістарычнай. Мала хто рашаецца назваць яе ў шэрагу іншых тэм сучаснасці, справядліва лічачы, што людзі жывуць цяпер іншымі клопатамі, хочуць адвыкнуць ад цяжкіх уражанняў вайны. Зноў жа — колькі ўжо напісана аб ёй!..

Безумоўна, напісана нямала. Не так ужо многа — добра і праўдзіва, болей — пасрэдна і, вядома, нямала — дрэнна, або, як цяпер гавораць, несучасна. Але чым далей ад нас адсоўвае час гэтае велізарнае з народных выпрабаванняў, тым усё больш настойліва адчуваецца ў літаратуры імкненне многае асэнсаваць, зразумець і захаваць у чалавечай памяці. Урокі вайны, аказваецца, вучаць сёння вельмі і вельмі многаму, «указующий перст» іх працягнуты цераз галовы пакаленняў у будучыню. І з кожным годам, з кожнаю новай кнігай яно, гэтае асэнсаванне вайны, ідзе ўглыб і ўшыр, і тэма вайны часам гучыць вельмі сучасна. Поспех жа ці няўдача тут залежаць хутчэй ад пісьменніцкага метаду (зразумела, і ад таленту таксама), чым ад спецыфікі гэтай тэмы.

Цяпер ужо мы можам больш-менш выразна бачыць поспехі і тыповыя недахопы многіх твораў на ваенную тэму. Саракавыя гады далі нашай літаратуры шэраг выдатных вобразаў герояў. Прыняўшы іх як эталоны, мы прывыклі за шмат год да мужнага і вясёлага радавога Васілія Цёркіна, да дзейсных і высакародных герояў А. Ганчара, да нязломнага ў сваёй свяшчэннай упартасці стаць у строй байцоў Марэсьева, да мужных разведчыкаў Э. Казакевіча. Маральную сутнасць гэтых вобразаў нарадзілі тыя высокія і суровыя патрабаванні, якія вайна прад'явіла да грамадзян — абаронцаў Радзімы. Жыццёвымі прататыпамі іх з'явіліся героі з вялікай літары: Аляксандр Матросаў, Мікалай Гастэла, Юрый Смірноў, Алег Кашавы і тысячы іншых. Гераізм, высокая самаадданасць, любоў да Радзімы і нянавісць да ворага — вось якасці, у значнай меры ўласцівыя гэтым людзям.

І таму зразумела, што асноўным і галоўным матывам твораў тых год пра вайну быў гераізм ва ўсіх яго відавочных праявах.

Аднак праўда пра вайну і подзвіг народа была выказана далёка не ўся, далёка не поўнасцю. І гэта зразумела. У першы пасляваенны час пісьменнікі, ідучы па гарачых слядах падзей, не мелі парой ні часу, ні магчымасці для асэнсавання ўсіх праяў вайны, яе адлюстравання ў чалавечых лёсах. Мастацкі ўзровень шмат якіх твораў таксама прымушаў жадаць лепшага.

Напрыклад, даволі частымі былі сітуацыі, калі героі прыходзяць у сябе менавіта ў момант набліжэння танка (не

пазней!), трапна наводзяць (а як жа інакш!) і ўраз, з зайздроснай ліхасцю прабіваюць яго браню; калі лётчыкі падбітага самалёта з неймавернай вытрымкай адкідваюць парашуты і накіроўваюць палаючыя машыны на скапленне (абавязкова скапленне!) тэхнікі ворага; камісары для падняцця духу байцоў з'яўляюцца на флангах у самыя крытычныя моманты, і ні на хвіліну пазней, а якая-небудзь партызанская цётка, валодаючы аўтаматам не горш, чым чапялой ля печы, бярэ ў палон адразу чатырох эсэсаўцаў. Многія з такіх твораў былі створаны па метаду кабінетнага сачыніцельства, без дастатковых ведаў і разумення гісторыі і прыроды вайны, на аснове літаратурных (чытай: газетных) крыніц, таропкіх гутарак з удзельнікамі партызанскага руху, той або іншай бітвы і г. д. «Выхаванне подзвігам» нярэдкаператваралася ў ілюстратарства, у замалёўкі бесшабашнай ліхасці, лёгкай перамогі над ворагам. Скажалася само ўяўленне аб подзвігу як моманце надзвычайнай душэўнай мэтанакіраванасці, мабілізаванасці лепшых чалавечых сіл.

У выдадзенай, болей дакладна, перавыдадзенай у 1961 годзе кнізе Ц. Жураўлёва «Была вайна» (апавяданні, напісаныя ў гады вайны) выступаюць такія байцы-ўдальцы, якія «пархатага немца» абводзяць вакол пальца.

«Немца ашукаць — гэта справа няхітрая, — разважае сяржант з апавядання „Самі з вусамі". — А вось быў у нас, таварыш капітан, адзін яфрэйтар у батальёне, Ягор Іванавіч Каліна, дык ён, можна сказаць, ашукаў усю нямецкую дывізію... На што камандзір дывізіі быў у нас такі глазасты, а і той прызнаўся, што Каліна вочы яму раскрыў на ўсю аперацыю...»

У апавяданні расказваецца пра гэта «ашуканства», сутнасць якога няцяжка зразумець кожнаму камандзіру ўзвода, нават не франтавіку. І ўсё тут ёсць, у гэтым кароценькім апавяданні: кемлівасць, хітрасць, храбрасць, апроч аднаго — праўды.

Аднак, як гэта ні дзіўна, ствараецца такое ўражанне, што аўтарам большасці рэцэнзій, напісаных на падобныя творы, няма ніякай справы да відавочнай падмены праўды вымыслам, да спрошчанасці і шапказакідальніцкага бахвальства — відаць, меркаванні зладзённасці затуляюць ад вачэй рэцэнзентаў і алагічнасць сітуацый і фальш характараў. Вось так і паяўляюцца падробкі, якія выдаюцца непатрабавальнымі рэдактарамі і крытыкамі за «летапісы» народнай барацьбы.

Нямала кніг пра вайну стваралася пісьменнікамі або журналістамі, якія не мелі, у сілу іх абмежаванага ўдзелу ў баявых дзеяннях, ведаў і ўражанняў, неабходных для напісання добрага твора. Гэтым у значнай ступені тлумачацца многія з няўдач ваеннай літаратуры, бо вядома, што ні вывучэнне матэрыялаў, ні

апавяданні іншых асоб не могуць даць таго, што не адчута і не перажыта асабіста. Каб напісаць пра адчуванні чалавека ў баі, у атацы, трэба самому іх зведаць. Пры гэтым удзел у баі радавым не раўназначны ўдзелу ў ім у якасці камандзіра, на плячах якога агромністым цяжарам ляжыць асабістая адказнасць як за жыццё падначаленых, так і за выкананне баявой задачы. Маральны цяжар падобнай нагрузкі можа ўявіць сабе толькі той, хто яе перажыў.

Але вось прайшоў час, вярнуліся з вайны яе радавыя ўдзельнікі. Гэта былі людзі, якія многа пабачылі і многа перажылі. Версіфікатарства і літаратурныя рэмінісцэнцыі ўжо не маглі іх спакусіць. (Гэтыя людзі не маглі напісаць: «над галавой свісталі кулі», бо франтавік ведае, што палёт кулі з сучаснай зброі зусім не падобны на свіст.) І з’явіліся кнігі, якія ўнеслі нешта новае ў адлюстраванне вайны, паказалі яе ў іншых фарбах і вобразах. Я маю на ўвазе аповесці Ю. Бондарава, Р. Бакланава, невялічкую кніжачку М. Пархомава і некаторыя іншыя. Я не хачу тут сказаць, што цяпер трэба пісаць пра вайну *толькі так,* як піша Ю. Бондараў, або так, як піша Р. Бакланаў, і ніяк інакш! Але творчая манера, ды і сам матэрыял, напрыклад, Р. Бакланава, мне зразумелыя і блізкія, і таму хочацца падкрэсліць тое лепшае, што адкрыў ён і падобныя да яго па творчай манеры пісьменнікі. На мой погляд, у ягоных аповесцях чытач убачыў вайну, якую бачылі франтавікі, і цяпер сілай аўтарскага таленту яны нібыта пераносяцца на поле бою і зноў адчуваюць сябе ўдзельнікамі былой барацьбы. Мноства дакладна і жыва выхапленых дэталей, падрабязнасці бою і франтавога быту, эмацыянальная паўната і праўдзівасць перажыванняў — усё гэта стварала яркую праўду вайны.

Прызнаючы заслужаны поспех такіх твораў, як «На поўдзень ад галоўнага ўдару» Р. Бакланава, «Батальёны просяць агню» Ю. Бондарава і асабліва іх жа «Пядзі зямлі» і «Апошніх залпаў», крытыка спачатку апынулася ў недаўменні: дзе ж герой? Знік герой у звыклым яго разуменні. Новікаў пры ўсёй яго сабранасці і мужнасці гіне пад залпам сваіх жа «кацюш», лейтэнант Матавілаў схільны да рэфлексіі і адчувае вайну як салдат, пазбаўлены ў яе аналізе маштабаў, уласцівых па меншай меры начальніку штаба фронту. Аказалася таксама, што на вайне можа спалохацца і савецкі салдат, і што бывае яму вельмі цяжка, і, здараецца, гіне ён у самых недарэчных сітуацыях і нават без патрыятычных воклічаў (успомніце смерць камбата Бабіна), і што побач з доблесцю і мужнасцю на фронце ўжываюцца таксама і кар’ерызм (Яцэнка), трусасць і нізкасць (Мезенцаў, Ішчанка). Усё гэта не траплялася ў многіх ранейшых творах і таму выклікала розныя крыватолкі

нават пасля прызнання аўтарскіх удач у гэтых кнігах. Паявіліся разважанні аб вузкасці бакланаўскага плацдарма ў тым сэнсе, што цяжкасці баёў, якія Р. Бакланаў з геаграфічнай дакладнасцю «прывязаў» да днястроўскіх плацдармаў Трэцяга Украінскага фронту ў 1944 годзе, не былі ўласцівы для ўсіх франтоў у цэлым. Аўтара «Пядзі зямлі» папракалі ў згушчэнні фарбаў, у прыземленасці герояў. Але мне здаецца, што некаторая прыземленасць, якая сапраўды ўласціва аповесці Р. Бакланава і выклікала незадавальненне крытыкаў, не так ужо і пашкодзіла ёй, як гэта, на першы погляд, здаецца. Яна канкрэтызавала малюнкі баёў і вобразы салдат і афіцэраў, напоўніла іх плоццю і пачуццямі, не выдуманымі, а рэальнымі. За кожным з герояў аповесці стаіць сапраўды жывы чалавек, ва ўсёй ягонай складанасці, мы бачым яго і верым яму, бо ён пазбаўлены і намёку на позу, жэст, ён без фальшывага пафасу і ўвесь складзены з праўды, падмечанай мастаком-сведкам. І ад гэтага не стаў меншы яго патрыятызм, яго вернасць воінскаму абавязку, ён не замкнуўся ў сваю шкарлупіну, хаця і не вымаўляе напышлівых фраз пра абавязак і подзвіг, але ён разважае зусім не вузка. Галоўны герой аповесці Матавілаў так думае аб сабе і сваіх аднагодках: «Дзе-небудзь у той жа Аўстраліі вярнуўся зараз мой аднагодак з работы, мой аднагодак вячэрае ў сябе дома. Вайна там, у Расіі, за неагляднай далеччу, за снягамі. Аб ёй ён ведае па газетах, а свае клопаты блізка, непакояць кожны дзень. Можа, не такія вялікія гэтыя клопаты, але ж свае.

Ці разумееш ты, мой равеснік, што гэта і за цябе вайна ідзе, за будучых тваіх дзяцей? Бывалі і раней войны, канчаліся — і ўсё рабілася па-ранейшаму. Гэта вайна не паміж дзяржавамі. Гэта ідзе вайна з фашызмам за жыццё на зямлі, каб не быць тысячагадоваму рабству, названаму тысячагадовым рэйхам».

Здаецца, не адмовіш Матавілаву ў разуменні гістарычнай ролі яго і ягоных аднагодкаў у нашай вялікай барацьбе. Ды і вузкасць плацдарма — паняцце ўмоўнае. Хіба важна, з якога НП (батарэі або камандарма) глядзіць на вайну герой? Куды важней, як ён глядзіць, што бачыць і што адчувае пры гэтым. Мы ж памятаем, што плацдарм батарэі Тушына ў «Вайне і міры» — гэта ўся ваюючая Расія, плацдарм усенароднай гераізмі, мужнасці, стойкасці. Хіба справа, нарэшце, у тым, паказаны ў баі аддзяленне ці полк, баец ці камандзір — справа ж у асэнсаванні сябе і блізкіх, барацьбы народа. Мы ведаем нямала прыкладаў, калі ў адным герою-байцу (напрыклад, «Васіліі Цёркіне») увасабляецца вельмі многа, і ведаем прыклады іншага парадку, калі найшырэйшы размах у ахопе падзей вайны і тылу нічога не даў літаратуры з прычыны беглаасці, скорагаворкі, слізгання па паверхні жыцця. Напрыклад, у рамане І. Гурскага «У агні» дзеянне займае сапраўды

шырокі прастор, мноства людзей удзельнічаюць у ім, аднак у наяўнасці тыповая для такога роду літаратуры няўдача, выкліканая імкненнем не столькі пранікнуць у глыбіню, колькі ахапіць у шырыню. Аўтар узяў больш, чым ён здолеў творча асвоіць. У малым можа выдатна адлюстравацца вялікае, таксама як у вялікім, шырокім — нікчэмна малое; ды і вялікае можа адлюстравацца да крыўднага дробна.

Праўда вайны патрабавала пакончыць з сачыніцельскай прыгажосцю, эфектнасцю, бесканфліктнасцю. У літаратуры, як і ў чытачы, абудзілася прагная патрэба ў паказе шырокіх дыяпазонаў чалавечай душы, паказе без прыкрас, без пустога выхвалення, без лакіроўкі. Нам няма чаго саромецца, няма чаго ўтойваць, наша гісторыя і наша рэчаіснасць, як сказаў на XXII з’ездзе КПСС А. Твардоўскі, «дастаткова высокая і велічная з усімі сваімі цяжкасцямі і недасканаласцямі», а салдат «ганарыцца не толькі сваімі подзвігамі ў баі, але і тымі пакутамі, якія ён перанёс у паходзе». І таму галоўная вартасць кніг Ю. Бондарава, Р. Бакланава, аповесці В. Раслякова, апавядання У. Багамолава «Іван» — у іх сучаснасці, абумоўленай грамадзянскай сумленнасцю, праўдай і талентам іх аўтараў. Праўда, сказаная імі да канца, атмасфера баёў і настрой, перададзеныя праз мноства розных, часам вельмі шматзначных падрабязнасцей, робяць цяпер, як мне здаецца, проста немагчымым зварот да дурнога, хаця і эфектнага сачыніцельства, уласцівага нейкай частцы літаратуры пра вайну.

Вайна была часам небывала агаленых адчуванняў — рэзкіх кантрастаў ва ўзаемаадносінах людзей. Нідзе і ніколі не праяўлялася з такой відавочнасцю чалавечая сутнасць, як на вайне. Сотні тысяч людзей у мірны час пражылі б жыццё, так і не праявіўшы сябе з іншага боку, лічыліся б пасрэднымі работнікамі вытворчасці, калгаснікамі, членамі прафсаюза; мала хто адкрыў бы ў сабе смельчака ці баяку, тым больш праявіў бы сябе ворагам або нягоднікам.

Герой цудоўнага апавядання Э. Казакевіча «Пры святле дня» Віталій Мікалаевіч Нячаеў ціха жыў у Маскве, баяўся скразнякоў, прастуджваўся і сарамліва-добра ўсміхаўся людзям, быў трохі няўважлівы, ціхманы, пабойваўся інстытуцкага начальства. Ніхто з ягоных знаёмых, нават жонка, не маглі разгледзець у ім незвычайную асобу, чалавечнасць і мужнасць воіна, які выстаяў у самых жорсткіх абставінах перад тварам смерці. З глыбокім пранікненнем у псіхалогію людзей пісьменнік гаворыць аб тым, як недаравальна няўвага да бліжняга, і тонка, па-чэхаўску разумна засцерагае людзей ад самага згубнага — ад раўнадушша да чалавека.

Сапраўдны гуманізм, высакароднае пачуццё таварыскасці,

абвостраная чалавечнасць і самаадданасць ва ўсіх яе праяўленнях пакінулі вельмі прыкметны след у нашай ваеннай літаратуры, след, які будуць спасцігаць і на якім будуць выхоўвацца яшчэ многія наступныя пакаленні. Як гераічныя прыклады, так і прыклады чалавечай нізкасці, асветленыя сілай сапраўдных талентаў, не пакінуць чытача безуважным. Успомнім мітуслівую разгубленасць далёка не баязлівага лейтэнанта Аўчыннікава з «Апошніх залпаў», якая ў цяжкую хвіліну выклікае ў капітане Новікаве не жаль, а суровую цвёрдасць. Хоць Новікаў і малады, але ён многае спасціг на вайне, і — калі трэба — ён бязлітасны і да сябе, і да іншых. «Жыццё чалавека на вайне было для яго тады большай каштоўнасцю, калі гэтае жыццё не шукала выратаваныя за кошт іншых, не хітрыла, не ўвільвала». У гэтай фразе заключана маральная сутнасць калектывісцкага светапогляду Новікава — сутнасць чалавека глыбока прынцыповага, пазбаўленага «гуманізму наогул». Гэтая сутнасць праяўляецца ў многім — у адносінах да падначаленых (Аўчыннікаў, Калакольчыкаў, Рамяшкоў) у такой жа меры — да самога сябе. Паслаўшы ў агонь маладзенькага салдата Калакольчыкава, ён сам праз некаторы час на чале групы салдат ідзе той самай дарогай, каб выратаваць трох параненых.

Вельмі праўдзівы прыклад франтавога братэрства знаходзім у «Пядзі зямлі» Р. Бакланава. Лейтэнант Матавілаў у разгар бою выпадкова сустракаецца з незнаёмым сяржантам, разам з якім яны адбіваюць танкавую атаку ворага. І калі праз некалькі хвілін немцы знаходзяць іх і разбіваюць танк, Матавілаў, рызыкуючы сваім жыццём, выносіць параненага сяржанта і ратуе яму жыццё. Фармальна лейтэнант не адказваў за яго перад начальствам, у танку не было сведкаў, ён мог бы пакінуць параненага, апраўдваючы сябе тым, што ў яго былі свае нялёгкія абавязкі ў баі. Але Матавілаў выратоўвае таго, хто ў цяжкі час стаў для яго даражэй за яго самога. У гэтым зноў жа праяўляецца той самы высокі дух братэрства, калі жыццё таварыша даражэй за ўласнае, тое самае свяшчэннае братэрства, якое ў душы савецкага байца асабліва выразна бачыцца пад штохвіліннай пагрозай смерці і якое ў выніку мацней за смерць.

Пры гэтым зразумела, што дух братэрства, узаемадапамогі, выручкі, уласцівы савецкаму воінскаму калектыву, якасна іншы, чым дух славутага «акопнага братэрства», якое так любілі апяваць некаторыя пісьменнікі Захаду. Ім было выгадна зглаждваць з дапамогай прыкладаў гэтага братэрства, салдацкага зямляцтва супярэчнасці паміж людзьмі розных сацыяльных пластоў. Братэрства ж нашых салдат мацнела на *прынцыпова іншай аснове:* сапраўдным адзінстве іх палітычных і маральных пазіцый,

вернасці Радзіме, высокім ідэалам яе будучыні.

Агульнавядома, што ў мінулай вайне праявіўся масавы гераізм нашага народа на фронце, у акупіраваных абласцях, у тыле; тысячы воінаў атрымалі Залатыя Зоркі, сотні тысяч — ордэны. Але асноўная маса байцоў — мільёны і мільёны — не была «героямі» ў вузкаканкрэтным разуменні гэтага слова. Але ж перамога над нямецкім фашызмам здабыта ў значнай (а можа, большай) ступені менавіта іхнімі рукамі, іх вялікай крывёю, іх потам.

Гэта ён, радавы вялікай бітвы, нічым не прыкметны ў мінулым калгаснік або рабочы, сібірак ці разанец, доўгія месяцы мёрз пад Дзямянскам, перакапаў сотні кіламетраў зямлі пад Курскам і не толькі паліваў агнём немцаў, але і круціў баранку на разбітых франтавых дарогах, пракладваў і трымаў сувязь, будаваў дарогі, наводзіў пераправы. Ён многае перажыў, гэты баец, галадаў, пакутаваў ад спёкі, пабойваўся смерці, але сумленна рабіў сваю малапрыкметную салдацкую справу. І, прайшоўшы праз усе выпрабаванні, ён не страціў сваёй чалавечнасці, пазнаў і моцна засвоіў у вялікім калектыве грунтоўную праўду жыцця і многае іншае. Кінематограф, здаецца, ужо стаіць на шляху да стварэння такога абагульненага вобраза рускага салдата мінулай вайны (успомніце Ямшчыкова і Рукавіцына з «Міру ўваходзячаму»), літаратура ж нічога падобнага яшчэ не стварыла. Замусоліўшы да хадульнасці ўсіх родаў «гераізм», літаратары нерашуча падступаюць да вобраза такога вось салдата-працаўніка. А трэба б смялей. Не бяда, што ён, гэты радавы, прынёс з вайны толькі якія два-тры медалі, што баяўся пры страшнай бамбёжцы, што недзе азіраўся назад, стукаў зубамі і заікаўся ў часе танкавай нямецкай атакі, што цела яго, падпарадкуючыся інстынкту, імкнулася назад, у тыл, да бяспекі, а ён з намаганнем, але ўсё ж стрымаў сябе ў цесным акопчыку, сціскаючы ў руках цяжкую РПГ. Ці можна грэбаваць праўдай чалавечых паводзін перад тварам смерці? У такой жорсткай вайне, якую перажылі мы, вытрымка, вернасць свайму салдацкаму (часам надта сціпламу) абавязку былі не менш важныя, чым легендарная адвага асобных смельчакоў.

У гэтых адносінах мае выключную цікавасць раман А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі». Узяўшы папулярную тэму партызанскага руху ў Беларусі, аўтар знайшоў новы, зусім інакшы, чым у ранейшых творах, аспект гераічнага. Многія яго папярэднікі, захапіўшыся бяздумным гераізаваннем «лясных салдат», не заўважалі мноства «не герояў» — падлеткаў, дзяцей, жанчын, якія, застаючыся пад роднымі стрэхамі на акупіраванай тэрыторыі, аралі зямлю, кармілі шматтысячную партызанскую армію, давалі прытулак лясным гасцям, працавалі сувязнымі,

здабывалі медыкаменты. Часам яны рызыкавалі не менш за тых, хто граміў гарнізоны або хадзіў на жалезку, бо за падрыў цягніка і за дапамогу параненаму, за напад на гарнізон і за спробу ўкрасці ў паліцая гранату немцы прымянялі толькі адну кару — смерць. І на гэтую смерць ішлі і знайшлі яе тысячы безыменных герояў-падлеткаў, дзяўчат, жанчын. А. Адамовіч узняў і па-майстэрску паказаў чытачам цэлы пласт някранутай залежы там, дзе, здавалася б, усё ўжо апісана і распрацавана літаратурай. У гэтым свежасць і навізна рамана «Вайна пад стрэхамі».

Крытыка нярэдка схільная падштурхоўваць пісьменніка да шчаслівай развязкі ў творах на ваенную тэму. Аб творы, дзе ўсё ўладжваецца найлепшым чынам, дзе здзяйсняецца подзвіг, які, натуральна, выяўляе веліч духу савецкага чалавека, а герой застаецца жывы, аб такім творы кажуць, што яго фінал гучыць аптымістычна, што і адпавядае, маўляў, канонам сацыялістычнага рэалізму. Калі ж такая аптымістычная струна не гучыць у фінале, дык аўтара папракаюць у песімізме. Яшчэ лічаць колькасць забітых адносна да жывых, і не дай бог, калі забітых будзе больш, чым тых, што засталіся жыць. У гэтым бачаць дыспрапорцыю праўды, а галоўнае, зноў-такі падазраюць аўтара ў песімістычных тэндэнцыях. Так, пасля выхаду ў свет «Трэцяй ракеты» адзін з рэцэнзентаў скардзіўся на тое, што ў многіх маіх апавяданнях «смерць нібыта стаіць у цэнтры ўвагі аўтара». Гэта не падабалася крытыку, які, мабыць, хацеў, каб апавяданні аб вайне заканчваліся толькі перамогай над ворагам, — малой крывёй і магутным ударам.

Але, на жаль, на вайне смерць была пастаянным спадарожнікам усіх — і тых, хто перамог і выжыў, і хто загінуў у баях. Смерць і абавязак у сваім няспынным змаганні былі тым вызначальнікам, які непадзельна ўладарыў над душамі байцоў, незалежна ад іх інтэлекту, адукацыі, узросту, бо ўсе яны былі аднолькава смяротныя і як грамадзяне ўсе выконвалі аднолькавы абавязак абаронцаў Радзімы. Праўда, усё кепскае хутка забываецца. Мы выдатна памятаем нашы перамогі, але мы часам можам забываць нашыя няўдачы, «катлы», у якія траплялі не толькі нямецкія, але і нашы дывізіі. Вядома, цяпер ніхто ўжо не рве па сабе валасы, успамінаючы перажытае, але ў радасці мірнага жыцця зусім недарэчы бяспамятнасць, няўважлівыя адносіны да памяці тых, хто мог быць, але каго ўжо няма паміж намі. Нельга ніколі забыць тысячы магіл адзіночных і брацкіх (такіх, як у польскім горадзе Крэйцбургу, дзе на ваенных могілках пахавана разам 6300 савецкіх воінаў), магіл, якія густа ўсеялі ўсю Еўропу. Іх нельга забыць таму, што ў іх ляжаць тыя, хто сумленна заслужыў права на мірныя радасці, але аддаў людзям сваё найвялікшае

права — жыць.

І абсалютна справядліва пісаў Георгій Гулія, што ўпартая цяга некаторых чытачоў і крытыкаў да шчаслівых канцовак ёсць не што іншае, як рэцыдыў шматгадовай прывычкі, народжанай тэорыяй і практыкай бесканфліктнасці ў нашай літаратуры. Але ж кнігі на тэму мінулай вайны не «пацешнае чціва», тыя, у каго «пашальваюць нервішкі» і хто не трывае ўпамінанняў аб смерці, могуць выбраць сабе што-небудзь іншае.

Мы сказалі многае з вялікай праўды аб вялікай вайне, але сказалі яшчэ не ўсё. І перш за ўсё гэта адносіцца да так званай «горкай праўды», не пазнаўшы якую, немагчыма праўдзіва адлюстраваць для гісторыі гэтую найвялікшую з войнаў. Замоўчванне «горкай праўды» можа саслужыць кепскую службу народу. Усе памятаюць, якімі нечаканымі былі нашы першыя няўдачы на франтах у сорак першым годзе, якую траўму ў свядомасці нашых людзей пакінула часовая непераможнасць нямецкіх армій. І той факт, што нямецкія полчышчы наступалі на вялізным фронце ад Балтыкі да Чорнага мора, часам выклікаў збянтэжанасць і непаразуменне. Адсюль узнікаў празмерны страх здрады, якая ў той год мроілася нам на кожным кроку. Усяго гэтага можна было б пазбегнуць, калі б мы ведалі свае слабасці і слабасці сваёй арміі да 22 чэрвеня, а не пачулі пра іх толькі 7 лістапада з вядомага даклада Сталіна.

У апошні час сярод некаторай часткі рэдактараў з'явілася невыказная пагарда да тэмы вайны, тэндэнцыя адхрысціцца ад клопатаў і разнатолкаў, звязаных з ёю, забыць усё цяжкое, памылковае і задаволіцца толькі апісаннем гераічнага штурму рэйхстага або наступлення на Волзе. Пэўная прадузятасць доўгі час не давала магчымасці нашай літаратуры адлюстраваць самы цёмны і трагічны пачатковы перыяд вайны. Грамадзянскае сумленне былых ваеннапалонных доўга знаходзілася пад сумненнем, магчымасць іх гераічнай барацьбы ў палоне наогул не прызнавалася. І з гэтай прычыны памятнае выступленне С. С. Смірнова з нарысамі аб абаронцах Брэсцкай крэпасці прагучала адкрыццём у нашай літаратуры. Пазней выйшлі іншыя кнігі, мемуары, напісаныя былымі зняволенымі канцлагераў; падзеяй у літаратуры з'явілася выдатнае апавяданне М. Шолахава «Лёс чалавека». У 1958 годзе выйшла з друку аповесць кіеўскага пісьменніка М. Пархомава «Мы расстраляны ў сорак другім», зусім нядаўна надрукаваны ў «Новом мире» апавяданні С. Славіча «Ты і я — нас многа», аповесць М. Бірзе «І пад лёдам рака цячэ», апавяданні І. Навуменкі і М. Лупсякова. Гэтыя творы аб мінулай вайне прагучалі нова і сучасна, яны не заляжаліся на паліцах кніжных магазінаў, у бібліятэках яны самыя зачытаныя. Ці не

сведчыць гэта аб імкненні народа пазнаць пра вайну ўсю праўду — «горкую», «салодкую», — такой, якая яна ёсць на самой справе? Ці не ў гэтым даніна павагі да памяці забітых, вернасць іх запаветам?

Памяць пра іх жыве ў народзе. Маці ніколі не забудуць сваіх дзяцей, дзеці — сваіх бацькоў. Душэўныя раны баляць доўга і многім не зарубцавацца ніколі. І думаецца: якія з сучасных чалавечых эмоцый па сваёй глыбіні і сіле можна параўнаць з горам людзей, жорстка абпаленых вайной?

Беларуская зямля ў гады вайны стала тым агнявым плацдармам, дзе праходзіла выпрабаванне дружбы розных народаў. Людзі розных нацыянальнасцей доўгія гады змагаліся побач, радаваліся аднымі радасцямі, сумавалі адным сумам; жылі і паміралі разам. У цяжкі час нарадзілася баявое братэрства беларусаў і чэхаславакаў. Гэта на нашай зямлі нядоўга, але гераічна біўся з ворагам храбры чэх Ян Налепка, а наш сціплы зямляк, сельскі кінамеханік з-пад Віцебска, былы дэсантнік Аляксандр Грынеўскі стаў ганаровым грамадзянінам чэшскага горада Фрыштык. Як жа можна дазволіць завянуць гэтаму братэрству цяпер, у час новага ўздыму германскага рэваншызму, як можна лічыць пазбаўленымі сучаснага значэння народныя слёзы, калі злачынцы не пакараны і зноў абдумваюць сваю чорную справу.

У канцы лета 1960 года ў рэдакцыю абласной газеты «Віцебскі рабочы» прыйшло калектыўнае пісьмо жыхароў пасёлка Слаўнае. Неўзабаве газета надрукавала гэта пісьмо пад загалоўкам: «Хойзінгера — да адказнасці!» Здавалася б, якія адносіны маюць жыхары маленькага беларускага пасёлка да гэтага наваяўленага заправілы нямецкага фашызму? Аказваецца, іх пісьмо ў рэдакцыю — гэта страшнае абвінавачанне, прад’яўленае ад імя сотняў замучаных і забітых непакаранаму злачынцу.

28 жніўня 1942 года партызанская брыгада Героя Савецкага Саюза Жуніна разграміла нямецкі гарнізон на станцыі Слаўнае. У адказ на запытанне начальніка тылу групы арміі «Цэнтр» генерал Хойзінгер, які быў тады начальнікам аператыўнага ўпраўлення Генштаба сухапутных войск, загадаў:

«Фюрэр патрабуе прыняцця рэпрэсіўных мер з прымяненнем самых жорсткіх мер устрашэння ў сувязі са зробленым нападам партызан на станцыю Слаўнае. Аб намечаных мерах данесці».

Загад Хойзінгера быў неадкладна прыняты да выканання і праз некалькі дзён гітлераўскія карныя часці наладзілі нечуваную расправу над ні ў чым не вінаватымі жыхарамі Слаўнага. Вось як апісваюць гэту расправу ўцалелыя яе відавочцы:

«Свежавыкапаная магіла. Убаку стаяць сем крытых машын. З

іх выводзяць па пяць-шэсць чалавек... Хто лепш апрануты, прымушаюць распрануцца. Жывымі кідаюць у магілу. Пасля раздаюцца аўтаматныя стрэлы.

Вось з машыны выводзяць дзвюх дзяўчат. Яны моцна абняліся і так прайшлі свой апошні шлях. З першых жа крокаў ціха, але выразна заспявалі „Інтэрнацыянал“.

Маладая маці моцна прыціскае да сябе маленькае дзіця. Гітлераўцы вырываюць дзіця з рук маці і кідаюць жывым у магілу. Жанчына галосіць. З яе зрываюць вопратку і штурхаюць следам за дзіцем.

Старая гадоў шасцідзесяці прайшла моўчкі. Таксама моўчкі сама распранулася, перахрысцілася, кінула на катаў гняўлівы позірк і скокнула ў яму».

Так у той далёкі вераснёўскі дзень загінула сто жыхароў гэтай маленькай беларускай станцыі.

Цяпер Адольф Хойзінгер, генерал бундэсвера, адзін з галоўных кіраўнікоў НАТО. Гэта ён нядаўна дамогся расквартаравання нямецкіх салдат на Брытанскіх астравах і інспектуе ракетныя ўстаноўкі НАТО, нацэленыя на нашу зямлю. Другі недабіты фашыст Вільгельм Майнберг стварыў з былых эсэсаўцаў і маладых людзей ФРГ неафашысцкую імперскую партыю. Маладых немцаў такога ўзросту, як нашы дапрызыўнікі, фарміруюць у групы з красамоўнымі назвамі «Маладыя штурмавікі», «Маладыя вікінгі», яны носяць знаёмую рудую форму і кіруюцца ў сваёй дзейнасці «Апошнім пісьмом Германа Герынга». Як жа ў такіх умовах можа ўстарэць, стаць кніжна-гістарычнай вялікая тэма нашай нядаўняй барацьбы з нямецкім фашызмам?

Адразу ж пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ў савецкім і зарубежным друку адбылася цікавая размова аб тым, хто напіша новую «Вайну і мір». Выказваліся розныя меркаванні, называліся славутыя імёны. Нехта, нарэшце, напісаў, што новую «Вайну і мір» створыць дагэтуль невядомы аўтар, які ў мінулай вайне камандаваў ротай ці батарэяй. І час пераконвае, што ў гэтых словах закладзены глыбокі сэнс. Іменна камандзір роты — батарэі вынес на сваіх плячах галоўны цяжар вайны. Вайна выкавала яго як чалавека. Ён вырас на ёй як грамадзянін і ў поўнай меры спазнаў цану жыцця і смерці. І таму ўжо цяпер лепшыя кнігі пра вайну напісаны радавымі яе ўдзельнікамі, малодшымі афіцэрамі запасу, і хоць няма яшчэ новай «Вайны і міру», але яна будзе. Сведчанне таму — тое лепшае з нашай ваеннай літаратуры, што складае несумненныя подступы да грандыёзнай эпапеі.

Вельмі хацелася б, каб вечна жылі ў людзях вялікія пачуцці братэрства, любові і нянавісці, народжаныя мінулай вайной.

Няхай нашы сэрцы ніколі не чарсцвеюць да ахвяр і ранаў вайны. Нельга будаваць будучыню без памяці аб мінулым, нельга грэбаваць найвялікшым з чалавечых выпрабаванняў — усенародным подзвігам, які даў людзям векапомны ўрок свабоды і непадлегласці.

І ў гэтай сувязі хочацца ўспомніць тыя свяшчэнныя словы, якія ад імя расстраляных маракоў напісаў у сваёй аповесці Міхаіл Пархомаў: «Мы ведаем, за што ідзём на смерць. За тое, каб наша зямля была свабоднай. Але мы паміраем не толькі за гэта, але і за тое…

Каб людзі не забылі пра старэнькую адзінокую маці Пятра Харытонава, якая жыве недзе пад Курскам. Каб браты Барыса Бляхера ніколі не пачулі ганебнага слова „жыд“, каб, калі выжыве маёр Падлесны — такія людзі жывучыя! — ніхто не падаў яму рукі. І Валя, якую я сёння бачыў, — таксама. І каб ні адна дзяўчына не зрабіла хлопцу столькі гора, колькі ператрываў Сухараў.

Людзі вернуцца з вайны. Многія прыйдуць з ордэнамі. Другія — без. Вернуцца некаторыя з тых, хто быў з намі ў палоне. Дык вось — няхай іх ніхто не папракне за гэта. Хто ведае, быць можа, некаторыя з гэтых былых палонных ваявалі не горш за тых, у каго грудзі ў крыжах?

І яшчэ нам хочацца, каб нас не забылі. Мы стаім тварам да твару са смерцю. За намі — голы бульвар. Што ж, пасадзяць новыя таполі. Зямлю, на якой мы стаім, зальюць асфальтам. І па ім будуць хадзіць людзі. Дык няхай яны помняць, што гэта зямля густа паліта нашай жывой крывёю…

Магчыма, што калі-небудзь там, дзе мы стаім, паставяць помнік. Дык каб ля падножжа гэтага помніка ніколі не вянулі кветкі. І каб пад ім гулялі дзеці.

Мы бярэмся за рукі. Жыць застаецца менш за секунду. Я набіраю поўныя лёгкія паветра. І апошняе, пра што я яшчэ паспяваю падумаць, гэта пра тое, што…

Людзям патрэбна вось так моцна трымацца адзін за аднаго…»

Здаецца мне, гэтыя словы здольны ўзрушыць кожнага. Іх немагчыма забыць, бо ў іх — запавет мёртвых жывым, запавет вялікага, амаль сімвалічнага сэнсу. І таму, думаецца, мы, літаратары, ды і ўсе тыя, хто перажыў незабыўнае, хто мае што сказаць людзям і спазнаў цану чалавецтву ў самы цяжкі час ягонай гісторыі, усе тыя, колькасць якіх па няўмольных законах прыроды змяншаецца з кожным годам, — мы павінны сведчыць аб сваім вопыце больш таленавіта і настойліва.

[1962]

## 1963

### Права на праўду

Гэта вельмі зманліва і важна — вызначыць нейкія спецыфічныя рысы літаратуры нашага часу — веку кібернетыкі, тэрмаядзерных рэакцый і прарыву ў космас. Думаецца, аднак, што Міхась Стральцоў крыху перабольшвае, калі піша ў сваім артыкуле, што «наш час небывалы па размаху ўзаемапранікнення розных ведаў, навук і з’яў мастацтва». Відавочная справядлівасць гэтага вызначэння ў адносінах да навук не дужа дастасуецца да такіх розных у сваёй спецыфічнасці сфер чалавечае дзейнасці, як навука і мастацтва.

У найбольш развітых краінах свету навука і асабліва тэхніка, усё больш узаемаўплываючы ў сваім паступальным развіцці, узняліся бязмерна высока, аднак пры ўсім гэтым практычнае ўздзеянне іх сенсацыйных дасягненняў на жыццё народаў часта мізэрнае. Таксама як і тысячу год назад, чалавецтва б’ецца над вырашэннем усё тых жа праблем вайны і міру, хлеба, адносін паміж поламі, свабоды, сацыяльнай справядлівасці. Ды і людзі на зямлі за гэты фенаменальны ў развіцці тэхнікі перыяд наўрад ці сталі адзін да другога бліжэй. Мы знішчылі ў свеце найвялікшае зло ў самым яго пачварным праяўленні — нямецкі фашызм, але ці яно апошняе? Ці не нараджаюцца новыя яго ўвасабленні, узброеныя найноўшымі навукова-тэхнічнымі сродкамі знішчэння, і таму ці меншай стала небяспека для жыцця на зямлі? Наша літаратура і мастацтва з прагнасцю накідваюцца на чорны хлеб праўды, па якім зґаладнелі за шмат гадоў культу Сталіна, і ў той жа час сапраўды здзіўляюць і захапляюць заваёвы космасу, пазнанне мікра і макрасвету… Пэўна, апроч відавочнага ўсім апераджальнага развіцця навукі і тэхнікі, у гэтым тоіцца нейкі парадокс часу, які прымушае задумацца аб многім. Вось чаму нельга не пагадзіцца з многімі слушнымі наконт гэтага думкамі Івана Навуменкі, бо ці так ужо важна дбаць аб адлюстраванні ў літаратуры нейкага своеасаблівага рытму часу. Куды больш варта, здаецца, паклапаціцца аб праблемах старых, але затое больш важных, такіх, як наданне літаратуры яе законнага права на высокі інтэлектуалізм, філасафічнасць і нястомныя пошукі праўды жыцця, без чаго ні літаратура, ні адно з мастацтваў не могуць не толькі развівацца, але і колькі-небудзь працягла існаваць. У гэтай сувязі мне хацелася б выказаць некаторыя, можа, і не новыя, але, на мой погляд, не страціўшыя надзённасці думкі.

Самаю адметнай, самаю характэрнай і самаю важнай рысай

літаратуры нашых дзён вельмі хацелася б бачыць праўду.

«Жыццё — гэта праўда», — пісаў чэшскі літаратар Карэл Палачак незадоўга да сваёй гібелі ў крэматорыі Асвенціма. І, напэўна, з усіх жывых істот на зямлі праўда найбольш патрэбна чалавеку.

Думаецца, не зусім справядліва некалі класік нашай літаратуры падзяліў праўду на некалькі розных праўд, якія дастасоўваліся да патрэб розных класаў. Можа быць, той падзел і правамерны быў для мінулага, але ён зусім беспадстаўны для нашага сёння, у якім праўда толькі адна — гэта праўда жыцця народа, бо нашыя цяжкасці амаль заўжды — агульнанародныя, радасці таксама. Таму пісьменнік, маючы магчымасць схаваць сваю аўтарскую тэндэнцыю, не можа без шкоды для твора абысціся без праўды або абмежавацца паўпраўдай. Цяперашнія нашы чытачы (пра якіх мы пішам, што яны вельмі выраслі) — яны яшчэ і сведкі апісаных падзей, яшчэ і самі героі твораў. Яны проста не возьмуць на павер фальшу, не будуць чытаць выдумку або спекуляцыю, і кніга застанецца ў магазіне або на складзе, паліцы і стэлажы якіх заўжды з вялікаю красамоўнасцю сведчаць аб вартасці літаратуры.

За час культу Сталіна ў грамадскім жыцці краіны накапіліся вялізныя нераспрацаваныя літаратурай залежы праўды, гадамі ў своеасаблівых звалках няўвагі прэлі сапраўдныя жыццёвыя канфлікты і ўсенародныя праблемы, у той час, калі абавязак літаратуры бачылі ва ўслаўленні мудрасці сталінскае асобы і ўсяго, што па яго волі адбывалася ў краіне. Ілюстрацыйнасць стала адметным стылем мастацтва таго часу, пры поўнай пагардзе да жыцця народа сталінскія лозунгі ілюстравалі з усяе сілы, у поўную меру здольнасцей, у той час як не толькі парушаўся элементарна-чалавечы ўклад жыцця, але нават і характар вытворчых сіл шмат у чым перастаў адпавядаць патрабаванням далейшага прагрэсу. У такіх умовах, што і казаць, незайздросны быў лёс літаратуры, якую пазбаўлялі яе гуманістычнага пачатку, у якой адбіралі права даследаваць жыццё і адкрываць ідэі, першай заўважаць сімптомы значных канфліктаў. Пустаслоўе, апісальнасць, наіўна-рамантычная ўзнёсласць там, дзе ў жыцці адбывалася драматычнае і трагічнае, баязлівая нерашучасць у адлюстраванні адмоўнага, вядома, не маглі запаліць сэрцы чытачоў. У творах знікла шчырасць пісьменніка — гэтая нічым не кампенсаваная ўмова творчасці, а менавіта адсутнасць яе не дала магчымасці многім, нават тым, чый літаратурны талент быў агульнапрызнаны, стварыць паўнацэнныя творы. Наўрад ці можна сумнявацца ў тым, што аўтары тагачасных т. зв. лакіровачных кніг ведалі і разумелі сапраўднае становішча тагачаснага

калгаснага сялянства, але калі яны стваралі свае «феерыі» на калгасныя тэмы, дык толькі таму, што задушылі ў сабе і шчырасць, і грамадзянскую адказнасць. Але, відаць, у літаратуры мала аднае шчырасці, трэба яшчэ разумець жыццё, тэндэнцыі яго накіроўваючых сіл, трэба яшчэ мець сваё стаўленне да гэтага жыцця, карацей кажучы, трэба яшчэ высокая інтэлектуальнасць, якая заключаецца не толькі ў суме ведаў, але і ў асаблівым, высокім стаўленні да свету духоўнага ў чалавеку, у разуменні і павазе чалавечага, у гуманістычнай аснове творчасці. Вядома, і ў часы культу аб гэтых патрабаваннях было нямала напісана, аднак практыка літаратурнай творчасці ў адрозненне ад дэмагагічнага пустаслоўя ведала свае неадольныя, часта дыяметральна процілеглыя тэорыі, шляхі. Вось чаму так сталася, што шмат якія з твораў тагачаснай літаратуры, што выдаваліся за ўзоры, не толькі не задавальняюць нас зараз, але і з'яўляюцца як бы жывым напамінкам аб тым, што чакае творчасць пісьменніка ў выпадку ягонай няўвагі да народнай праўды жыцця. З гэтай прычыны мы, аддаючы належнае тэмам сучаснасці, павінны зрабіць усё, каб тыя змрочныя старонкі нашай гісторыі ва ўсёй іх суровай, часам трагічнай праўдзе былі засведчаны мастакамі. Пакуль яшчэ не позна, пакуль жывуць сведкі, праўду аб тым часе трэба сказаць, у гэтым я бачу самы першы наш абавязак.

Аднак гэта, відаць, будзе нялёгка, першы вопыт нашых літаратараў, іхнія няўдачы ўжо сведчаць аб тым. Мабыць, у гэтай справе трэба мець на ўвазе тую акалічнасць, што псіхалогія культу жывучая, што шматгадовае выхаванне людзей у яе духу пакінула свой плён. Яшчэ знаходзяцца чытачы (і ці ж толькі чытачы), якія, змалку ўвераваўшы ў разналікасць праўд, не хочуць ведаць, што праўда мае толькі адно значэнне, што яна не можа дзейнічаць супраць інтарэсаў перадавога грамадства, што няма другіх, якасна іншых гуманістычных стымулятараў для выхавання высокага ў чалавеку, апроч праўды. Ёсць яшчэ людзі, якія і сёння памылкова лічаць, што прыгожая мана можа быць болей карысная за горкую праўду, і таму, маўляў, навошта літаратуры поркацца ва ўсёй мярзотнасці, звязанай з часам культу Сталіна. Адсюль такая падазронасць да многіх спроб літаратараў разабрацца ў акалічнасцях таго часу, таму — пратэст супраць рэалістычнага адлюстравання жыцця, калі гэта адлюстраванне, у аснову якога пакладзена рэалістычнае *як ёсць* , а не *як павінна быць.* Здараецца яшчэ, што ўчынкі і думкі герояў атаясамліваюцца з пазіцыяй аўтара, і гэта дае падставу для гнеўнага разносу твораў. У гэтым сэнсе прыхільнікам рэалістычнага напрамку даводзіцца не салодка, і чым болей таленавіты твор, чым з большаю сілай у ім адлюстравана жыццёвая праўда, тым большую супраціўляльнасць

сустракае ён сярод гэтага кола чытачоў і крытыкаў. У нас часта забываюць, што *«вышэйшы крытэрый, асяродак сацыялістычнага рэалізму — мастацтва і жыццёвая праўда, якой бы суровай яна ні была»,* — як сказаў на сустрэчы з дзеячамі культуры сакратар ЦК КПСС Л. Ф. Ільічоў.

Сапраўды, гэта вельмі прыкра і крыўдна, калі шмат якія акалічнасці народнага жыцця, асабліва гадоў культу асобы, набыўшы ў літаратуры абагульненае значэнне, выклікаюць пярэчанні крытыкаў. Варта ўспомніць, што партыя не пабаялася выкрыць факты куды больш красамоўныя і непажаданыя ў жыцці, чым тыя, што трапляюць у некаторыя кнігі, што крытыка аджыўшага, старога не можа служыць нечаму іншаму, апроч як сцвярджэнню перадавога ў грамадстве. І тым не менш знаходзяцца беспрынцыпныя аглабельшчыкі з ліку лёгкіх на падхоп крытыкаў, якія сапраўды чорнымі фарбамі абмазваюць творы, у каторых, на іх думку, не вытрымліваюцца невядома кім устаноўленыя дозы дадатнага і адмоўнага, якія з ног на галаву ставяць усенародную праўду жыцця і вартасці твора не саромеюцца выдаць за хібы. Вядома, можна ашальмаваць кожны твор, можна яго замаўчаць, але ўсё ж, калі ён надрукаваны, нельга навязаць чытачу несправядлівую ацэнку яго, бо і сапраўды чытач наш вырас настолькі, каб самастойна адрозніць праўду ад паклёпу. Крытык жа, які адважваецца ва ўгоду кан'юнктуры выступіць супраць мастацкае праўды, мякка кажучы, проста страчвае ўсякі давер да сябе.

Праўда, я схільны дапусціць, што цяпер, ва ўмовах, калі многае змянілася, адстаялася і праяснілася, калі з'явіліся і атрымалі шырокае прызнанне таленавітыя і смелыя рэчы рускай літаратуры, цяпер многія з былых беспрынцыпных аматараў аглабельнай расправы над праўдзівымі творамі проста развядуць рукамі — маўляў, хто ж яго ведаў, што ўсё так абернецца? Што з'явіцца ў «Новом мире» адобраны Прэзідыумам ЦК КПСС «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» і многае іншае. Гэта так. Наватарскія і праўдзівыя творы задаюць шмат клопату, куды прасцей было з такімі рэчамі, як «Святло над зямлёй», «Шырокія гарызонты», але чаго ж варты тады людзі, якія выракліся свае шчырасці, страцілі прынцыповасць і ператварыліся ў прыказчыкаў кан'юнктуры.

Для таго, каб літаратура ў меру сваіх сіл дапамагала грамадству на яго шляху да прагрэсу, мала аднаго адлюстравання існуючага (хоць важнасць станоўчага ў літаратуры бясспрэчна), трэба яшчэ і адмаўленне ганебнага, рабскага, якое прыніжае чалавечую годнасць. Двуадзінасць гэтай канцэпцыі, відаць, ні ў каго не выклікае пярэчання, але меру аднаго перад другім у кожным канкрэтным выпадку павінен вырашыць толькі аўтар у

адпаведнасці са сваім эстэтычным густам, сваім характарам, стылем сваёй творчасці, урэшце ў адпаведнасці з тэмаю і матэрыялам. Тут вялікую важнасць набываюць магчымасці аўтарскага самавыражэння, якое толькі і можа ўдыхнуць у твор самабытнасць і без якога творы становяцца блізнятамі, асабліва калі мець на ўвазе аднолькавасць ідэйных поглядаў і метаду творчасці.

Менавіта з гэтай прычыны шматлікія творы культаўскага часу былі такія нівеліраваныя, як спіты чай, пазбаўленыя паху і смаку, і менавіта з прычыны найбольшага аўтарскага самавыражэння так свежа загучалі вобразы ў творах маладзейшых — І. Пташнікава, Б. Сачанкі, М. Стральцова, В. Адамчыка, У. Дамашэвіча. (Безумоўна, прычына таго не толькі ў самавыражэнні, але і ў таленце, таксама як і ў тым, што маладзейшыя ў найменшай меры зведалі на сабе многае, што поўнаю доляй дасталося за гады культу старэйшым.) Як бы там ні было, здавалася б, усім нам варта было б толькі радавацца гэтай светлай маладой з'яве ў літаратуры. Аднак жа і тут не абышлося без «праработкі», без вокрыкаў і недаверу. І няўцям гэтым праработчыкам, што «загнаныя», «неўладкаваныя», «рэфлекціруючыя» героі Б. Сачанкі, напрыклад (нават тая ж славутая брыгадзірша, што бегае да студэнта ў каноплі), з куды большым выклікам працуюць на выхаванне чалавечага ў чалавеку, чым цэлая кагорта зусім станоўчых, але і зусім нежывых, па сутнасці, надуманых і фальшывых персанажаў з шматлікіх кніг нарысаў, якія амаль што нечытаныя ўхваляюцца, па зялёнай вуліцы і ў дарагім афармленні выдаюцца, ахвотна рэцэнзуюцца і затым мёртвым грузам марнеюць на складах кнігагандлю. А колькі там абсалютна «правільных» герояў і колькі там станоўчага!

Дарэчы, хіба можна патрабаваць ад літаратуры, як і наогул ад кожнага з мастацтваў, неадкладных вынікаў яе ўздзеяння? Толькі людзі зусім далёкія ад разумення прыроды мастацтва могуць так утылітарна і вузка ставіцца да найскладанейшага з чалавечае дзейнасці і прынароўліваць яго творы да патрэб дня, моманту, кан'юнктуры. Гэта ж агульнапрызнаны, хоць на першы погляд і парадаксальны факт, што, напрыклад, «Ганна Карэніна», створаная, як вядома, па-за метадам сацрэалізму і да таго ж на тэму жыцця чужога нам класа, дапамагае ў выхаванні чалавека непамерна лепш, чым напісаныя з улікам усіх, але часам сумніцельных патрабаванняў сучаснасці шмат якія тоўстыя раманы нават і апошніх год.

У наш час трэба хіба што заплюшчыць вочы, каб перастаць бачыць няўтольную цягу да праўды ва ўсіх сферах інтэлектуальнай творчасці. Без праўды немагчыма мастацтва. І тут, вядома, не

абысціся без пошукаў новай формы, якая б з найбольшай ёмістасцю акумулявала і з найменшымі стратамі данесла б да мільёнаў гэтую праўду. У выяўленчым мастацтве нараджаецца новы, адметны ад шматгадовага стыль адлюстравання рэчаіснасці, асноўны характар якога можна характарызаваць як максімальна набліжаны да жыцця рэалізм. Агрубленасць сілуэтаў, своеасаблівы, пазбаўлены натуралістычнага «прыгоства» каларыт, знарочыстая імітацыя няўмеласці, нязграбнасці ў графіцы ёсць не што іншае, як імкненне да непасрэднасці, аб’ектыўнасці, да перадачы істотнага, унутранага ў чалавеку. У гэтым, вядома, шмат ідзе ад рэакцыі на пампезна-прылізаны стыль культу, калі не столькі чалавек, колькі яго палажэнне, «удобствы» яго дабрабыту былі прадметам мастацтва. Адзінства імкненняў да праўдзівага не можа не з’ядноўваць нас, літаратараў і мастакоў, і шкода, што мы ўсё ж дрэнна ведаем творчасць адзін аднаго, скупа ўзаемаўзбагачаемся, часта ўзаемаабыякавыя да нашых пошукаў. Крыўдна бачыць у кніжках і часопісах ілюстрацыі, якія не толькі не дапамагаюць уяўленню чытача, а скажаюць яго, бо здараецца, відаць, калі мастакі не чытаюць тое, што ілюструюць, дзе ўжо тут унікаць ва ўнутраную сутнасць вобразаў. Мы плацім ім тым жа.

Некалькі месяцаў ужо вісіць на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы карціна М. Данцыга «Навасельцы». Варта хоць крыху пастаяць перад гэтым творам нават чалавеку, недасведчанаму ў тонкасцях мастацтва, каб зразумець, што твор гэты — выдатны ў многіх адносінах, а галоўнае ў сваёй ціхай, сціплай і сардэчнай праўдзівасці. Толькі светлай душы, чуйнай да чалавечых боляў і радасцей, дадзена было падгледзець такую, на першы погляд, звычайную сцэнку жыцця і гэтак таленавіта і лаканічна пераўтварыць яе ў мастацкі твор. У гэтай карціне радуе яе дакладна і без прэтэнзій выражаная сучаснасць ва ўсім. Я не ведаю ў беларускім жанравым жывапісе нічога, дзе б з большым майстэрствам спалучалася сучаснае — і ў каларыце, кампазіцыі, лаканізме сродкаў, і ўрэшце ў глыбокай яе чалавечнасці, як бы сканцэнтраванай з асабліваю сілай у фігуры дзяўчыны. Навокал ёсць нямала добрых работ («Хлеб» М. Савіцкага, «Вясна» А. Малішэўскага і інш.), аднак «Навасельцы» М. Данцыга лепшая за ўсё. Але ці заўважыў гэта хто з нас, літаратараў, ці паспрабаваў хто напісаць пра гэты твор у друку (як гэта зрабіў у «ЛіМе» выкладчык А. Скір), ці напісаў хто аб ёй у «Советскую культуру», якая ў інфармацыі аб выстаўцы сярод пераліку шматлікіх твораў гэтай работы нават не ўпамінае.

Эстэтычная глухата да лепшых нашых здабыткаў, грамадзянская абыякавасць у пытаннях элементарнае справядлівасці не ўзбагачае наш інтэлект, калі не сказаць болей. У

гэтым сэнсе нельга не заўважыць пісьменніцкую і проста грамадзянскую інертнасць некаторых нашых старэйшых літаратараў да пытанняў сучаснай нацыянальнай літаратуры. Мякка кажучы, здзіўляе іх абыякавасць да хвалюючых і кардынальных літаратурных праблем, умяшанне ў якія іх, людзей з аўтарытэтам і вялікім вопытам, засцерагло б агульную справу ад шматлікіх хібаў. Сапраўды, хто і дзе з старэйшых надрукаваў артыкул аб надзённых пытаннях нашага мастацтва, хто з іх прывёў каго маладзейшага ў літаратуру, дапамог у пачатку шляху? За апошнія 10–12 год вядомы толькі адзін выпадак некаторай такой зацікаўленасці — гэта рэцэнзія Піліпа Пестрака на першы зборнік Рыгора Барадуліна. Яшчэ некалькі слоў аб маладых надрукаваў Міхась Лынькоў. Болей падобных прыкладаў, здаецца, няма. Некаторыя ў гэтых адносінах бачаць старую, як свет, праблему бацькоў і дзяцей, але, здаецца, у наш час і ў нашай краіне няма такой праблемы ў шырокім яе разуменні — ёсць другая, вузейшая — праблема некаторых беспрынцыпных, запалоханых за доўгія гады культу бацькоў, і хіба што здараецца — абыякавых да народнага лёсу дзяцей. Пры іншых сваіх якасцях і бацькі, і дзеці ідуць поплеч і разам змагаюцца за чалавечае ў чалавеку.

У гэтай сувязі хочацца выказаць, мабыць, і не дужа новае меркаванне — папрок, у прыватнасці, нашай паэзіі, захапленне якой поспехамі касмічных дасягненняў часам адрываецца ад рэальнага. Я не маю намеру пярэчыць супраць касмічнае тэмы наогул, але пры гэтым думаецца, што наўрад ці варта забывацца на тую старую ісціну, што найбольшая вартасць мастацтва — чалавек. Літаратура ўсё ж не касмагонія, а, як вядома, чалавеказнаўства. Што датычыць вызначэння духу часу, дык ён, відаць, у большай меры ўвасабляецца ў навіслай над светам ядзернай пагрозе. Нягледзячы на перыядычныя часовыя палёгкі, свет прадаўжае жыць пад задыякам вадароднае бомбы.

Літаратура — справа старая. Вопыт шматлікіх пакаленняў яе стваральнікаў усіх нацый шмат чаму вучыць, варта, мабыць, часцей азірацца назад, варушыць гістарычныя прыклады, і ў мінулым знойдзецца многа адказаў на праблемы сучаснага. Было б толькі жаданне праўды жыцця. Служыць народу можна пазнаму, з рознаю мерай аддачы, і калі ўжо казаць пра матыў пераадолення, закрануты ў сваім артыкуле Б. Бур'янам, дык, відаць, шмат каму з тых, хто становіцца літаратарам, перш за іншых трэба намагчыся, каб пераадолець у сабе і жабрака, і ўласніка, і раба. З гэтага і пачынаецца мастацтва.

Складаны наш век, складаныя часам да невырашальнасці яго праблемы. Ляскание зброі часта парушае спакой і цішыню вялікаю

крывёю заваяванага міру. І ў такі час, ясна ўсведамляючы сваю пісьменніцкую адказнасць перад чалавецтвам, вельмі хочацца творамі апраўдаць так цяжка здабытае права на праўду, без якой горкі смак жыцця і анемічна мастацтва.

За выключэннем некаторых прыватнасцей, варты падтрымкі багатыя слушнымі думкамі артыкулы М. Стральцова, Б. Бур’яна, І. Навуменкі, В. Тараса, А. Мальдзіса і іншых. Гэта радуе, калі пісьменнікі выразна разумеюць свой абавязак і поўны рашучасці яго выканаць. У гэтым добры грунт пад заўтрашні дзень нашай літаратуры.

[1963]

## 1964

### Таленавітая аповесць

На першы погляд, сітуацыі, раскрытыя ў гэтай аповесці[2], вельмі не новыя. За апошні час напісана нямала падобных кніжак, нямала было спроб разабрацца ў сутнасці праблемы вёскі і ўступлення ў жыццё падлеткаў. І ўсё ж я з вялікай радасцю за таварыша па пяры вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што дагэтуль мы не мелі на нашай беларускай паліцы такіх па якасці твораў аб нашай самай надзённай сучаснасці, дзе б з гэткай праўдзівасцю, тактам, з гэткай сардэчнасцю і веданнем справы быў узняты цэлы пласт сучаснага вясковага жыцця са шматлікімі яго радасцямі, засмучэннямі і клопатамі. Толькі чалавеку — сялянскаму сыну, якому «да камяка ў горле» блізка сучасная вёска, які ездзіць туды не госцем і не з камандзіроўкай у кішэні, а вырас там і цяпер жыве яе клопатамі, — могуць з такой паўнатой і багаццем душэўных праяў адкрыцца разнастайныя характары, у тым ліку і такія, якіх не было ў ёй да вайны, а некаторых, можа, і год 10–15 назад, і якія з’яўляюцца толькі цяпер, у 60-я гады XX стагоддзя. З даўно не адчуваным захапленнем вясковай тэмай чытаючы гэты твор, я не знайшоў у ім ніводнага вобраза, логіцы характару якога захацелася б запярэчыць. Радасна засведчыць, што ўсе яны, пачынаючы ад бясспрэчнага аўтарскага адкрыцця — Янкі Сітова да эпізадычнай асобы ўчастковага, які ў двух-трох абзацах з’яўляецца ў апошнім раздзеле, — кандэнсацыя выразнай

[2] Асіпенка А. Абжыты кут // Маладосць, 1963, № 11.

аўтарскай думкі і выпісаны з майстэрскай дакладнасцю.

У цэнтры падзей аповесці — Янка Сітоў, вясковы юнак, адзін з тысяч выпускнікоў сельскіх школ. Але ў даным выпадку мы маем справу са своеасаблівым у беларускай літаратуры аб вёсцы вобразам маладога чалавека, які праз нялёгкія турботы жыцця ўсвядоміў сваю гордую сялянскую годнасць, які не здольны на кампраміс з жыццёвай шэрасцю, які ведае, чаго хоча, і ўпэўнены, чаго не павінна быць. Не, гэта не бесцялесная схема ідэальнага героя, па-пурытанцку беззаганнага ў сваёй задуме, — гэта жывы чалавек з усёй супярэчлівасцю свайго яшчэ не закончанага ў развіцці характару.

У пачатку аповесці ён не збіраўся заставацца ў калгасе — ён, як і многія яго равеснікі, марыў пра інстытут, пра горад з яго яшчэ немагчымай для вёскі добраўпарадкаванасцю і культурай. Ды і што ў тым благога — гэта вельмі зразумелая кожнаму з'ява — таксама, як і жаўтаротаму шпачку з сімвалічнай сцэны ўступу да гэтай аповесці — людзям дадзена ў пэўным узросце часта на вельмі яшчэ нямоцных крылах вылятаць з бацькоўскага гнязда ў шырокі і невядомы свет. З часоў коласаўскага Сцёпкі Баруты тысячы юнакоў і дзяўчат кожнае лета ладзяць катомкі, у глыбокі кішэнь пад зашпільку хаваюць бацькаву дзясятку і стукаюцца ў незнаёмыя дзверы храмаў навукі, каб прыдбаць спецыяльнасць і стаць людзьмі. Але жрацы навукі, пазбаўленыя спагады, у многіх бракуюць веды, ды і наогул надышоў, відаць, час, калі сцены інстытутаў не могуць змясціць у сабе ўсіх таго вартых. Тады ў самым пачатку жыцця — маральная траўма і расчараванне, драматызм якіх лёгка сабе ўявіць. «Тое, што жменька футбалістаў можа трапіць у клас ніжэй, узрушыла ўвесь горад. Можа, гэта і сапраўды жахліва, — разважае Янка, назіраючы ў горадзе столпатварэнне на гарадскім стадыёне. — Можа, трэба хвалявацца і спачуваць? Але чаму спачуваюць адным футбалістам? Мы вылятаем з гульні не па адным, а сотнямі. І сезон экзаменаў у нас меншы — дваццаць хвілін і — будзь здаровы, развітайся са сваімі намерамі. Тры асноўныя пытанні, тры-чатыры дадатковыя і — вылятай. Ніхто табе не паспачувае. Ты — абітурыент. Гэтым усё сказана».

Лёс з самага пачатку самастойнага жыцця болей чым няласкава паставіўся да Янкі Сітова, але гэты хлопец знаходзіць у сабе сілы, каб не паддацца роспачы. Такі ўжо ў яго характар, такая чалавечая якасць, што агульнае, людскае навокал прыглушыла ў ім боль за ўласныя няўдачы, — і Янка прыходзіць да вываду, што інстытут — інстытутам, а ў вёсцы трэба жыць лепш, чым жылі і гаспадарылі дагэтуль яго землякі-зарачанцы. Усёй сутнасцю сваёй сумленнай маладой істоты Янка спасцігае тую

бясспрэчную ісціну, што селянін на сваёй зямлі павінен гаспадарыць, знаходзіць на ёй творчы пачатак і паэзію працы, а не толькі як-колечы існаваць з сваіх сотак. Ён яшчэ не ведае, як перамагчы ўсю тую коснасць і безгаспадарчую безадказнасць, у якой апынулася брыгада па віне яе гора-кіраўнікоў, але ён упэўнены, што далей так не павінна быць. Не павінны сёстры Какосцікавы спяваць брыдкія прыпеўкі, не павінен махляваць калгасны шафёр Хведар, піць у кожнай хаце учотчык Сцяпан Макуха і патураць яму брыгадзір Цопа. У брыгадзе ёсць здаровыя, сумленныя людзі, прыязджае з арміі былы афіцэр Загурскі, ствараюцца пэўныя працідзеючыя шматгадовай руціне сілы, у рэчышчы якіх апынаецца ўрэшце і малады калгаснік Янка Сітоў.

Прайшоў праз крушэнне сваіх інстытуцкіх мараў, праз нялёгкія выпрабаванні не зусім удалага кахання, праз адкрыты і не пазбаўлены небяспекі канфлікт са шкурніцкімі элементамі ў калгасе, Янка ў аповесці робіць самыя першыя спробы ўзняць гаспадарку, дамагчыся дысцыпліны ў брыгадзе. І гэта прымаецца зусім натуральна, бо пісьменнік паграшыў бы супраць праўды жыцця, строгаю мерай якой вызначаецца ўся аповесць, калі б зрабіў гэтыя намаганні маладога брыгадзіра болей выніковымі.

Нідзе не перацікаючы і не згушчаючы фарбы, аўтар у той жа час з бязлітасным выкрыццём малюе вобразы калгаснага брыгадзіра Цопу і яго ўчотчыка Сцяпана Макуху. За шмат год гаспадарання гэтыя гора-кіраўнікі давялі сваю кіраўнічую дзейнасць да адкрытай злачыннасці. Лаканічна і з вялікай псіхалагічнай дакладнасцю напісана аўтарам поўная сумнай іроніі сцэна прыезду старшыні калгаса Чукрая на ток, які ачышчае група калгаснікаў пад кіраўніцтвам учотчыка Макухі. Праставаты, бяспросыпна п’яны ўчотчык па-майстэрску абводзіць вакол пальца былога канцылярыстастаршыню. Беспардоннае ашуканства, якое мог бы лёгка зразумець звычайны чалавек, безадмоўна дзейнічае на Чукрая, бо падмацоўваецца цяжкай артылерыяй дэмагагічных запэўненняў, узятых на сябе бескантрольных абавязацельстваў.

Брыгадзір Цопа і ўчотчык Макуха — гэта тыповыя параджэнні часоў культу, калі галоўным у гаспадаранні былі не яго вынікі, а агульнапрынятае пустаслоўе ў спалучэнні з салдафонскім паслухмянствам перад начальствам і дутымі лічбамі ў справаздачах. Гаспадарылі яны дрэнна, п’янствавалі, кралі калгаснае дабро. Тым больш сімптаматычнай становіцца тая акалічнасць, што яны, па сутнасці, не прыроджаныя злачынцы, не якія-небудзь паталагічныя злыдні, а свае звычайныя сяляне, увогуле неблагія некалі людзі, былыя франтавікі. Даследуючы генезіс гэтых вобразаў, аўтар разглядае іх як аб’ектыўны прадукт пэўнай эпохі, перыяду заняпаду калгаснай гаспадаркі, калі

распаўсюджанай запаведдзю вёскі было: «не ўкрадзеш — не пражывеш» і «на праўдзе далёка не паедзеш».

У тыя ж часы, пэўна, выхаваўся на крадзеных калгасных харчах і шафёр Хведар, гэты хапуга новай фармацыі, дзялок, які спалучае ў сабе дасканалую тэхнічную падкаванасць шафёра з хціваcцю хутараніна-кулака дваццатых гадоў. Ён можа ўкрасці некалькі мяхоў са збожжам, нават і не вельмі хаваючыся ад людзей, бо ён у хаўрусе з брыгадзірам, у яго руках машына, ад яго ў пэўнай меры залежыць выкананне ўсіх жульніцкіх спраў Цопы і Макухі. Хведар — неафіцыйны гаспадар брыгады, яго адчувальная для ўсіх сіла падмацоўваецца яшчэ дужым кулаком і крутым норавам. Такога чалавека проста не выкрыеш, асабліва яшчэ калі ён сусед, а яго маці бяжыць у Янкаву хату з плачам і просьбаю не падаваць у суд, як гэта было ў эпізодзе з прададзенай гумай. Янка тады ўступіў, пазней дорага яму абышлася тая яго ўступчывасць.

Нялёгка давалася Янку гэтая барацьба, у якой яму не магла быць саюзніцай яго маці. Застаўшыся ўдавою пасля смерці мужа (які прынёс з фронту асколак у лёгкіх і неўзабаве памёр), яна ў свой час даволі цвёрда засвоіла не дужа сумленныя, але затое практычныя вясковыя звычаі схітрыць, паплакаць і разам з тым пачаставаць брыгадзіра, лесніка, бо трэба ж было неяк скасіць для каровы прагалінку, у лесе ссячы на дровы бярэзіну, выкраіць які дзень, каб пакалупацца на ўласным агародзе. Так яна працягвае жыць і цяпер, не разумеючы грамадскіх перамен ў краіне і ўсёй нізкасці сваіх звычаяў. Праўда, у аповесці ў Янкі з'яўляецца і саюзнік, нават болей — настаўнік ў яго справах — айчым Загурскі. Разам з дзядзькам Данілам, Фрузай, Янкам Загурскі, які стаў сакратаром калгаснай партарганізацыі, дамагаецца даволі крутога павароту ў калгасных справах, павароту, патрэба ў якім даўно ўжо наспела.

У апошніх раздзелах аповесці (дарэчы, таксама не пазбаўленых вострай канфліктнасці) ужо назіраюцца зачаткі новых адносін у брыгадзе, калі людзі адчулі справядлівасць і не маглі не адгукнуцца на яе.

Алесь Асіпенка ў «Абжытым куце» з упэўненасцю сталага майстра зацвердзіў сябе бытапісальнікам калгаснае вёскі ў найлепшым сэнсе гэтага разумення. Добрае веданне матэрыялу, псіхалагічная дакладнасць вобразаў, лаканізм стылю забяспечылі строгі рэалізм яго пісьма. У аповесці ёсць цэлы шэраг выдатна напісаных сцэн (начлег у горадзе, малацьба, пачастунак Янкавай маці Макуху і леснікам). Шматпланавае і шматграннае жыццё вёскі ўзаемадзейнічае з вобразам Янкі, з яго лёсам пераплятаюцца лёсы іншых людзей (хлопчыка Віцькі, Хрысціны, дзядзькі Данілы і інш.), і ўсе яны гарманічна спаяны ў складаны і цэласны арганізм

аповесці. І калі што трохі бракуе ёй, дык хіба неабавязковасць некаторых эпізодаў (купання і ратавання Шуры, сустрэчы з Хрысцінай пасля яе замужжа). Магчыма, аўтар трохі паспяшаўся і скорагаворкай напісаў фінальны раздзел. Але пры ўсім тым «Абжыты кут», бясспрэчна, спадабаецца чытачу як праўдзівая частачка нашага складанага жыцця, з усімі яго вартасцямі і хібамі, пададзенымі пісьменнікам у іх узаемаабумоўленасці і дыялектычным развіцці.

Я напісаў тут далёка не ўсё тое добрае, чаго заслугоўвае гэты надзвычай багаты на думкі і асацыяцыі твор, і калі зрабіў гэтую спробу, дык толькі з жаданнем падзяліцца першымі пасля прачытання думкамі. Магчыма, знойдуцца чытачы, якія не згодзяцца з некаторымі маімі ацэнкамі, мабыць, будуць і праціўнікі творчай манеры А. Асіпенкі, але нават і гэты факт паслужыць на карысць аповесці, бо, як пісаў В. Бялінскі: «...толькі залатая пасрэднасць карыстаецца зайздроснай прывілеяй — нікога не раздражняць і не мець ворагаў і праціўнікаў».

8 мая 1964 г.

## [Інтэрв’ю газеце «Літаратура і мастацтва»]

Гродна, вуліца Кашавога, 28, кв. 20...

Гэта і ёсць адрас рабочага стала пісьменніка, адрас Васіля Быкава.

Аглядаю невялікі «рабочы» пакойчык Васіля Уладзіміравіча, ва ўсіх кутках якога — у шафе, на стэлажы, на паліцы — кнігі, часопісы (дарэчы, паліца цалкам адведзена пад ваенную літаратуру — як мастацкую, так і дакументальную, мемуарную). Ёсць тут і «рабочы стол пісьменніка» ў літаральным сэнсе гэтых слоў. На стале толькі што прысланая з рэдакцыі «Роман-газеты» карэктура: неўзабаве ўсесаюзны чытач атрымае тры аповесці В. Быкава — «Франтавая старонка», «Пастка» і «Альпійская балада». Тут жа яшчэ некалькі кніг. Гэта зарубежныя выданні твораў В. Быкава, у прыватнасці, яго «Трэцяй ракеты».

— Я пачынаю нешта гаварыць пра сапраўдны поспех, пра славу. Але бачу, што Васіль Уладзіміравіч тут жа змаўкае, бянтэжыцца, адчуваю, што яму, з яго сціпласцю і абвостранай патрабавальнасцю, творчай і грамадзянскай, такія размовы не вельмі даспадобы, — і мяняю тэму, пытаюся пра новую аповесць.

Пішу. Частка ўжо зроблена... Вось яна, — дастае Васіль Уладзіміравіч з шуфляды папку.

На першым лістку — план аповесці, накіданы дробным уборыстым почыркам. Асобныя тэзісы пранумараваны. На пытанне, ці ўся аповесць прадумана, вынашана, пісьменнік адказвае: «Уся».

І назва ўжо ёсць?

— Ёсць. «Мёртвым не баліць» — так, відаць, будзе называцца, калі не ўзнікне што-небудзь іншае.

— Значыць, пра вайну?

— Так, пра вайну, — задуменна паўтарае Васіль Уладзіміравіч. — Прытым на гэты раз рэч амаль аўтабіяграфічная... Паглядзі вось гэтую паперу.

Я чытаю. Гэта пісьмо з архіва Міністэрства абароны Саюза ССР. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Адначасова паведамляю, што ў імянным спісе беззваротных страт 399-га стралковага палка за 1943–44 гг. значыцца: „Кам. стр. узвода л-т Быкаў Васіль Уладзіміравіч забіты 10.І.1944 г., пахаваны на цэнтральных могілках в. Вялікая Севярынка Кіравагградскай вобласці“».

І ён расказвае, якім чынам трапіў у «забітыя», — як быў паранены каля ўкраінскай вёскі Вялікая Севярынка, як ішлі ў шпіталь з таварышам і адначасова вялі палоннага немца, як наткнуліся на нямецкія танкі...

І вось гэта ўсё, уласна кажучы, і лягло ў аснову аповесці, будзе складаць яе сюжэтную канву. Спачатку мне нават хацелася напісаць усё так, як было ў жыцці. Але пачаў працаваць і адчуў патрэбу дзе-нідзе абагульняць, узбагаціць уласныя назіранні вымыслам.

Калі Васіль Уладзіміравіч знаёміў мяне са зместам аповесці, то звяртаў увагу на тое, як адзін з герояў аповесці, нямецкі салдат, мяняецца, мяняе свае паводзіны ў залежнасці ад абставін, ад ваеннай неабходнасці. Я здагадваюся, што недзе тут — ідэйная сутнасць твора.

Так, недзе тут, — пацвярджае аўтар. — Мінулая вайна паказала, якім высокім і якім нізкім можа быць чалавек. Да якой велічы могуць узняцца адны і да якой нізкасці апусціцца другія. Побач з прыкладамі гераічнымі, прыкладамі, якія ўзвышаюць чалавечую сутнасць, вайна паказала ў той жа час з усёй нагляднасцю, да чаго прыводзіць бяздумнае паслухмянства перад яе ўладай, яе логікай, да якой мізэрнай вартасці зводзіцца

чалавечая асоба, калі дзейнічае ваўсю правіла: мэта — усё, сродкі — нішто.

Гутарка выходзіць за рамкі аповесці. Я прыгадваю, што сёйтой гаворыць часам пра «тэматычную аднастайнасць» Васіля Быкава, пра тое, што пісьменнік як быццам бы паўтарае сябе. Пытаюся, што ён сам адказаў бы на такія разважанні.

Што б я адказаў?.. Матэрыял мінулай вайны, па-мойму, невычэрпны. Невычэрпны і вельмі павучальны. Вайна пацвердзіла не толькі жыццёвасць нашага ладу, але і выявіла, агаліла ўсё тое, што было народжана культам асобы. Словы вядомага звароту: «Браты і сёстры, сябры мае...» — упершыню за шмат гадоў паказалі банкруцтва чужой народу культаўскай ідэалогіі, палітыкі сляпога падаўлення і азначалі настойлівую патрэбу ў чалавечнасці, без якой немагчыма было выстаяць у бязлітаснай барацьбе. Таксама, як і без усведамлення сваёй нацыянальнай і дзяржаўнай годнасці.

Я вельмі шкадую, працягвае Быкаў, па нейкай унутранай асацыяцыі, што не маю асабістага вопыту ў партызанскай вайне, якая мне ўяўляецца найцікавейшым матэрыялам для сучаснага мастацтва. Не шмат якія нацыі могуць пахваліцца столькімі прыкладамі свабадалюбства і такога ўпартага супраціўлення ворагу, як беларусы. На жаль, мы вельмі не па-гаспадарску ставімся да здабыткаў сваёй гісторыі. Словам, мы — жывыя ўдзельнікі і сведкі — абавязаны захаваць для нашчадкаў, для чалавецтва наш горкі, наш гераічны і такі павучальны вопыт. Пакінуць яго на стагоддзі, каб людзі помнілі яго і не паўтарылі тое, што перажылі мы.

Мне ўспамінаецца адна з тых кароткіх, паспешлівых размоў, якія былі да гэтага з Васілём Быкавым. У час такой размовы — адзін мой знаёмы загаварыў з ім пра майстэрства. Васіль Уладзіміравіч адказаў тады: «Не ведаю, ці майстар я. Не гэта — галоўнае. Галоўнае — сказаць праўду пра вайну».

Гэта маё цвёрдае перакананне, — гаворыць зараз Быкаў. — У дачыненні да праблем мінулай вайны літаратура павінна праявіць крышталёвую праўдзівасць і шчырасць. Толькі праўдзівыя і толькі да канца асэнсаваныя сведчанні мінулай вайны могуць саслужыць чалавецтву патрэбную службу. Было б злачынствам і перад сучаснікам, і перад будучай гісторыяй пакінуць нашчадкам паўпраўду «культаўскіх» твораў, горшую за бессаромную хлусню, белетрысцкае «сачыніцельства» пабочных назіральнікаў і

лакіроўшчыкаў. Абавязак кожнага сведкі і ўдзельніка мінулай вайны — гаварыць толькі праўду, якой бы горкай яна ні здалася, будучы пры гэтым бязлітасным у сваёй шчырасці. Іменна ў гэтым, як пісаў нядаўна Добрыца Чосіч, адзіны шлях служэння дабру, свабодзе, братэрству і чалавеку ў дачыненні да нашай нядаўняй гісторыі.

Цікавыя думкі выказвае Васіль Уладзіміравіч і пра майстэрства (я ўсё ж «справакаваў» яго на гэтую размову), пра мову сённяшняй прозы. І выказвае іх з той глыбокай перакананасцю, якая сведчыць аб роздуме над уласным вопытам, аб нястомнай унутранай працы.

Відавочна, што мова, стыль лепшых твораў нашай прозы, у прыватнасці, твораў аб вайне, імкнуцца да лапідарнасці, эканомнасці, натуральнай прастаты. Ды гэта і зразумела. Бо адна справа, калі гутарка ідзе пра рэчы банальныя, звычайныя, а зусім другая — калі пішаш пра нешта самае істотнае, пра рэчы, поўныя драматызму, калі гутарка ідзе аб жыцці і смерці. Тут важна перш за ўсё захаваць меру, мастацкі такт.

Калі ў творы паўстае чалавек са сваім жывым і непаўторным «я», і калі ён сам пачынае гаварыць «пра час і сябе», то адсюль вынікае непасрэднасць яго мовы, яе арганічнасць.

Часам разважаюць так, як быццам бы праблема ў тым, каб знайсці сакавітае народнае, часам нават дыялектнае слоўца і ўкласці яго ў вусны героя. А праблема сёння для нас у іншым. Вось як мне паказваць свайго камбата? Якой мовай яго надзяляць? Народнай мовай, мовай нашай вёскі? Але ў арміі такой мовай не гаварылі, тым больш афіцэры. Браць за ўзор нейкую нівеліраваную мову? Таксама нельга. Вось і шукаеш патрэбны эквівалент, такі моўны сплаў, каб герой гаварыў па-беларуску і каб у той жа час яго мова не была ні псеўданароднай, ні «статутнай». Я разумею, што калі гутарка ідзе пра вёску, паказваюцца людзі вёскі, то тут пісьменнік можа браць вясковы моўны пласт, чэрпаць з яго і сваю мову, і моўныя характарыстыкі. Але калі маеш справу з героямі іншага плана — прыходзіцца ісці па іншым шляху.

Відавочна ж, што ідзе працэс урбанізацыі літаратуры. І калі нам слепа трымацца па-ранейшаму за мову нашай вёскі (прытым не сённяшняй, а ўчарашняй), мы будзем многа траціць. Ну ўзяць, да прыкладу, раман Івана Шамякіна «Сэрца на далоні». Як бы выглядалі, скажам, там такія героі, як Славік, Маша, Яраш, калі б яны загаварылі раптам мовай далёкай палескай вёскі? Вобраз, вядома, разбураўся б ад такой неадпаведнасці.

Увогуле, як мне здаецца, сёння з беларускай літаратурнай

мовай адбываецца тое, што было з рускай літаратурнай мовай XIX стагоддзя. Асімілюючы розныя стылі і пласты, яна, з аднаго боку, пазбаўляецца ад стылізацыі пад мову народную, з другога — ад кніжнасці і літаратуршчыны і імкнецца да натуральнасці і непасрэднасці гутарковай мовы. Не заўважыць гэтае нельга, як і нельга ігнараваць у нашай пісьменніцкай практыцы…

Запісаў А. Вярцінскі.
[1964]

## 1965

### Высокий накал

У нас много отличных поэтов, настоящих мастеров своего дела.

Но порой мы встречаем и стихи, где виртуозная отточенность строк скорее демонстрирует поэтическую лихость, нежели подлинное мастерство, уподобляя стихотворение изящному, но ненаполненному сосуду.

И вот стихи, где начисто отсутствует этот внешний, показной блеск, где все чрезвычайно просто и форма почти не ощущается, так она тонка и неброска, а сквозь нее с неподдельной яркостью светится полнозвучная юность поэтического содержания…

Я пишу под впечатлением от новых стихов известного белорусского поэта Пимена Панченко, за недолгое время дважды появившихся на страницах республиканского журнала «Полымя» (№ 12 за 1964 г., № 5 за 1965 г.). При этом я, безусловно, далек от мысли открыть неизвестное: Пимен Панченко — поэт общепризнанный. Правда, в последние годы его стихи не столь часты в нашей периодике, но почти каждое их появление — радость.

В новых стихах — живая душа поэта с ее мукой и радостью за муки и радости века. И если потребовалось бы кратко определить главное художественное достоинство обоих циклов П. Панченко, то я назвал бы его обостренной гражданственностью.

Она налицо в каждом из стихотворений, хотя все они совершенно различны по содержанию — от пейзажного «Минск едет за грибами» до философских «Одиночество», «Памяти М. Светлова», «За огненными веками». Всех их, однако, объединяют острое чувство современности, жажда открыть большую правду. Размышления поэта о жизни вызывают в читателе чувство

сопереживания, диапазон которого в данном случае удивительно широк. Это и радостная безмятежность грибников в осеннем лесу, и знакомая каждому фронтовику неутихающая боль утрат («Праздничные салюты»), и тихая тоска по ушедшей любви в «Рябиновом гае»... Стихи Панченко о войне — воздаяние мужеству, славе, подвигу тех, кто шел по ее дорогам, сражался за свободу и счастье народа, Родины. Этого не забыть! Как не забыть и того «самого страшного», что принесла война людям и что живет и сегодня в их непрощающей памяти. Война — не только руины, и бомбы, и смерть, но также дети и женщины, покинутые «среди беды», и вид «голодных малых и старых», которым, «отбив чужой городок», ты раздаешь своими «руками, что от огня не остыли», «тяжелые солдатские сухари»... Суровы и мужественны стихи поэта. И освящены высоким пафосом гуманизма, влюбленности в жизнь, мечтой о том времени, когда «на каждом школьном глобусе пальма золотая прорастет». «...Без человечности не будет вечности» — таким энергичным двустишием завершается стихотворение «За огненными веками».

В этих двух журнальных подборках стихотворений вновь перед нами П. Панченко, умный, нелицеприятный, порой резкий, но неизменно правдивый и страстный. Впрочем, это и понятно, потому что живым трепетом полнится сердце поэта, солдата, который творит на высоком накале гражданственности.

[1965]

## Замест аўтабіяграфіі

Нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 года ля Кубліч на Полаччыне. З дашкольнага дзяцінства прыахвоціўся да кніжак. Чытаў без разбору ўсё, што трапляла пад рукі. Час без кніжкі здаваўся пустым і нецікавым. Літаратура змалку стала такім важным духоўным фактарам, што з ім не магла раўняцца нават прырода, якая звычайна вельмі шмат значыць у фарміраванні характару вясковага жыхара. Дзяцінства ж выдалася скупое на радасці і труднае, як і ўвесь той час. Часта жылося ў непаладках, нястачы. Пэўна, з прычыны нейкай інстынктыўнай душэўнай самаахвовы змалку зазнаў цягу ў свет выдуманага, уяўнага, які з часам зрабіўся звыклым прытулкам сярод суровай рэчаіснасці. Майн Рыд, Жуль Верн, Джэк Лондан, а таксама Гайдар, Горкі, Талстой — вось уладары маіх тагачасных дум, тыя, хто запаліў у душы агеньчык надзеі і паклікаў да іншага і светлага. Пазней прыйшло хараство выяўленчага мастацтва, якое захапіла адразу і моцна і

прывяло ўрэшце ў Віцебскае мастацкае вучылішча.

Толькі вучыцца там доўга не давялося: у 1940 годзе адмянілі стыпендыі, і гэтая акалічнасць зноў вярнула мяне ў вёску. Невясёлым было тое вяртанне, але з яго пачыналася сталасць.

Перад самай вайной апынуўся ва Украіне, у ліпені — жніўні капаў акопы, з арміяй адступаў да Варонежа, зазнаў шмат трывог за сябе, за Радзіму і за лёс чалавецтва таксама. Пасля быў год звышчалавечага напружання ў вайсковым вучылішчы: дзесяцігадзінныя заняткі, земляныя работы і начныя дзяжурствы на абаронных заводах, якія люта бамбілі немцы. Нарэшце ўсё скончылася паспешлівым выпускам, пагонамі малодшага лейтэнанта і радаснай перспектывай фронту. Аднак на фронце ўсё аказалася куды болей цяжкім і складаным. У першым жа баі загінуў сябра, з якім я прыехаў з вучылішча, нямецкія танкі разграмілі наш полк. Да перамогі было далёка, ваяваць вучыліся трудна, часта на ўласных памылках і стратах. Як нялёгка далася яна нам — наша перамога, аб тым яшчэ не сказалі ўсяго ні гісторыя, ні мастацтва. Відаць, яшчэ не прыйшоў мастак, які здолеў бы ўзняць з глыбіні мінулага ўсю агромністасць людскіх выпрабаванняў. Часам я думаю, што і чалавецтва яшчэ не да канца ўсвядоміла, чаго яно пазбылася ў мінулай вайне, што набыло і колькі каштавалі тыя яго набыткі. Што датычыць мяне, дык даводзілася і наступаць і абараняцца, акружаць і выходзіць з акружэнняў. Быў два разы паранены, ляжаў у шпіталях, ваяваў у артылерыі і пяхоце, якую ніколі не перастану лічыць вялікай пакутніцай і гераіняй вайны адначасна. Аднаго толькі ўласна перажытага хапіла б на многія кнігі. Вайна выдалася неверагодна цяжкай і крывавай. Зрэшты, гэта элементарна і не патрабуе ніякіх доказаў. Сталінград для краіны быў аднойчы ў вайну, а для салдата на пярэднім краі ён здараўся куды як часта. І ўсё ж трэба было намагчыся, каб выжыць і — галоўнае — перамагчы, бо пагібель часам была як здрада жывым. Салдат з усяе сілы павінен быў біцца за сябе і таварышаў, тым самым ён змагаўся за Радзіму, бо сам быў часткай Радзімы і народа, у імя жыцця і свабоды якіх і вялася тая вайна. Затое нічога ў нашым жыцці не магло параўнацца з той радасцю, якую давялося перажыць у самую сонечную вясну Перамогі. Гэта была найвышэйшая ўзнагарода за ўсе пакуты вайны, за пралітую кроў і за слёзы таксама.

Усю вайну і яшчэ дзесяць год пасля яе быў далёка ад Беларусі, але светлы вобраз роднага краю мацярынскай пяшчотай жыў у маім сэрцы. Радзіма клікала ў снах, трывожыла ў марах, напамінала аб сабе паўзабытай матчынай мовай. Першыя апавяданні напісаў у 1951 годзе, знаходзячыся на афіцэрскай службе ў радах Савецкай Арміі. Здарылася тое, мусіць, з прычыны

незадаволенасці шмат якімі з кніг аб вайне, пабудаванымі па шырока распаўсюджаных у той час літаратурных схемах. Але тая першая спроба пяра не хутка ўбачыла свет, і не толькі таму, што час быў мала для яе прыдатны, але і па прычыне вечнае неадпаведнасці «должного и сущего», калі ісціна знаходзілася ў занадта высокім бастыёне, каб з першага наскоку ўдалося яе дасягнуць. Пасля напісаў болей, узяўся за аповесці. Некалькі рэчаў лічу няўдалымі, у іншых, здавалася, быў блізка да мэты, на якую нацэліўся. Але цяпер бачу, што ўсё той жа бастыён вялікае праўды аб вайне паранейшаму сурова высіцца ў аблоках мінулага, і каб дабрацца да яго вяршыні, пэўна, мала аднае настойлівасці. І ўсё ж якой бы ні была яна непрыступнай, тая вяршыня, трэба караскацца на яе, бо, як пісаў Генрых Бёль, чалавек перастае быць мастаком не тады, калі стварае слабы твор, а ў той момант, калі пачынае баяцца ўсялякай рызыкі.

[1965]

## Улада праўды

Іван Шамякін даўно і грунтоўна праявіў сваю пісьменніцкую схільнасць да самых надзённых тэм сучаснасці. Шэраг апавяданняў і ўсе ягоныя раманы прысвечаны таму, чым жыў наш народ на пэўных этапах пасляваеннага развіцця, што яго непакоіла, клапаціла, што з'яўлялася неадкладнай праблемай часу. Сюды адносіцца нават і «Глыбокая плынь», твор увогуле аб мінулай вайне, але які пісаўся ў той час, калі вайна яшчэ не стала мінуўшчынай, калі яна даволі рэчаісна прысутнічала ва ўсім — ва ўкладзе, побыце, а галоўнае — у душах і розуме людзей.

І тым не менш ёсць у Івана Шамякіна кніга, якая здаўна служыць аўтару як бы сувязной з нядаўнім мінулым, са сваёй маладосцю і з'яўляецца своеасаблівай пісьменніцкай данінай памяці аб найбольшых выпрабаваннях, што выпалі на долю нашага народа. Кніга гэта — «Трывожнае шчасце», цыкл невялікіх аповесцей, які час ад часу папаўняецца. Апошнім, пятым па ліку, творам стала аповесць «Мост», надрукаваная ў «Полымі» (шосты і сёмы нумары за гэты год).

Што ж гэта за аповесць, на які час народнага жыцця прыпадае яе выяўленчая ўвага, наколькі ўзнятае пісьменнікам блізка да галоўнага і вялікага з людскіх імкненняў і выпрабаванняў?

Адразу, амаль з першых радкоў, разумееш, што год, выбраны пісьменнікам для мастацкага даследавання, бадай ці не самы

цяжкі і складаны з усяго, што давялося перажыць народу ў той час.

Праўда, вясна сорак шостага года яшчэ поўнілася настроем пераможнага фіналу найвялікшай у свеце вайны. Людзі патроху аплаквалі яе ахвяры. Вярталіся з франтоў салдаты. У большасці на грудзях ззялі баявыя ўзнагароды, за плячыма была здабытая ў цяжкіх выпрабаваннях людская годнасць, сцверджаная ў баях справядлівасць і ўсведамленне запрацаванага спакою і адпачынку. Але аказалася, што для адпачынку няма падстаў. Мір і стваральная праца прынеслі свае, не менш складаныя, чым у вайну, праблемы — разбураныя вёскі, неўладкаванае жыццё, голад, недахоп самага элементарнага, а яшчэ — тыя нялюдскія з'явы, якія цяпер прынята вызначаць як культаўскія. Так, гэта быў час, калі нармальныя чалавечыя ўзаемаадносіны часам парушаліся, калі насаджаўся недавер. Што і казаць — цяжкі быў час. Ад людзей патрабавалася бадай не менш мужнасці і не меншай стойкасці іх веры ў лепшае, чым у гады вайны. Для прадузятага крытыка гэтага, мабыць, будзе дастаткова, каб усумніцца ў такім болей чым рызыкоўным аўтарскім выбары. Але, мне здаецца, не трэба спяшацца з вывадамі, лепш прасачыць, як і з якіх пазіцый аўтар узяўся за гэты складаны жыццёвы пласт.

Чым далей чытаеш аповесць, чым глыбей пранікаеш у вобразную сістэму і разумееш усю прычыннасць і вынікі падзей, тым усё болей пераконваешся ў безумоўнай грунтоўнасці аўтарскай пазіцыі, якую ў даным выпадку з найбольшай трапнасцю можна вызначыць як вернасць жыццёвай праўдзе. У гэтым галоўная і вырашальная вартасць твора. Праўда жыцця вымагала ад аўтара пэўнай рызыкі і пэўнай мужнасці, яна ж патрабавала немалое «аддачы» аўтарскага таленту, яна ўрэшце з'явілася тым пробным каменем, на якім Івану Шамякіну яшчэ раз давялося прадэманстраваць свае мастацкія здольнасці. І зрабіў ён гэта з поспехам.

Натуральна і проста ўвайшоўшы ў гушчыню тагачаснага вясковага жыцця, аўтар адразу ставіць чытача перад шматлікімі праявамі побыту і адносін, здаецца, ні мала не клапоцячыся ні аб сюжэтнай займальнасці, ні аб псіхалагічнай значнасці апавядання. Але гэта такое жыццё і такі выбраны ракурс яго адлюстравання, што аповесць захапляе адразу. Шчырасць аўтарскай інтанацыі, непадробная жыццёвасць калізій трывала і надоўга бяруць чытача ў свой палон. Не ідэалізуючы характары і не згушчаючы фарбаў, аўтар скупа і ярка малюе знаёмыя (не па літаратуры, а з самога жыцця) вобразы сельскіх кіраўнікоў Грамыкі, Бабкова разам з іх нялёгкімі клопатамі, вартасцямі і заганамі. І чытачу блізкія і зразумелыя перажыванні калгаснага старшыні Панаса Грамыкі, у

якога столькі спраў і, здаецца, невырашальных цяжкасцей. Узяць хоць бы выпадак з насеннаю грэчкай, якую перад самай сяўбой украў Сцяпан Бандарэнка, каб пракарміць сваіх галодных дзяцей. Вядома, са злодзеямі заўжды расправа была кароткай, асабліва ў той час, але не так проста Грамыку пакараць Сцяпана, калі той з'яўляецца братам старшынёвай жонкі. І мы разумеем Грамыку, які цалкам ва ўладзе вясковых узаемаадносін, дзе такія моцныя сваяцкія сувязі, дзе пасадзіць злодзея проста, але як потым «Сцяпанавай жонцы штодня ў вочы глядзець?», у якой, дарэчы, яшчэ і пяцёра дзяцей? Аўтар не развязвае гэтай сюжэтнай сітуацыі. Ды, зрэшты, ці абавязкова гэта для літаратуры, ці не дастаткова будзе і таго, што яна па-мастацку даследуе грамадскія праблемы и сумленна завастрае на іх увагу людзей.

Такіх і іншых праблем у аповесці шмат. Некаторыя з іх ужо адышлі ў нябыт, другія змянілі характар, але шмат якія застаюцца надзённымі і сёння. І ў гэтым сэнсе аповесць Івана Шамякіна працягвае сваё жыццё ў сучаснасці. Безумоўна, цяпер ужо нішто не пагражае былым партызанам, удзельнікам заходняга Супраціўлення, даўно не збіраюць па хатах пазыку. Але хіба ўжо вывеліся і прыхільнікі «валявога» кіраўніцтва накшталт Анісімава, і балбатуны-ўпаўнаважаныя, падобныя на Рабіновіча? Хіба ўжо няма ў нас хцівых прыстасаванцаў тыпу Капыла? Ды і ці ўсе ўжо пазбавіліся бытавой неўпарадкаванасці і дасягнулі дабрабыту і культуры? Што ж датычыць канфліктаў са сферы асабістых узаемаадносін людзей, няўдач у каханні і г. д., дык, мабыць, яны застануцца назаўжды.

Вобразы сельскіх кіраўнікоў, як амаль і заўсёды ў творах Шамякіна, вылеплены ўпэўненай рукой мастака. І Лялькевіч, і Анісімаў, і Рабіновіч, нягледзячы на тое, што яны з'яўляюцца на старонках аповесці не часта, пераконваюць сваёй рэальнасцю таксама, як і Булатаў, Грамыка, Бабкоў. Асабліва дакладна, хоць і вельмі стрымана, з тактам і мерай пададзены Булатаў, гэта тыповае параджэнне культу, загадкавы і страшны чалавек. Страшны ён і небяспечны ў роўнай меры. Логіка яго ўчынкаў нікому незразумелая, хада думак і прычыннасць намераў — непранікнёныя, але кожнае яго з'яўленне ў вёсцы не праходзіць дарма для яе жыхароў.

Сталасць пісьменніцкага мыслення праявілася ў шмат якіх эпізодах і вобразах. Больш таго, мне здаецца, што адлюстраванне некаторых праяў культу асобы ў пэўнай меры дае падставу разглядаць гэты твор як наватарскі ў нашай літаратуры. На некалькіх яго старонках пісьменнік пераканаўча даказаў, што нават і ў той час, калі імя і аўтарытэт Сталіна былі свяшчэннымі і непахіснымі для краіны, калі пакланенне яму стала нормай

штодзённых паводзін кожнага, нават і тады знаходзіліся ў грамадстве людзі, якія, мякка кажучы, не ўхвалялі многае з ягонай палітыкі. Не мадэрнізуючы ў гэтым сэнсе гісторыі і не навязваючы персанажам сучасных поглядаў, Іван Шамякін робіць чытача сведкам асуджэння той палітыкі сакратаром райкама Лялькевічам, болей чым крытычных выказванняў з боку Панаса Грамыкі, не кажучы ўжо аб пэўным стаўленні да рэпрэсій жонкі Шапятовіча — Сашы. Не, не быў ён і тады ў вачах народа беззаганным і беспамылковым, як гэта спрабуюць цяпер сцвярджаць некаторыя аўтары.

У вобразах Шапятовіча, а таксама Сашы, Грамыкі, Лялькевіча і некаторых іншых закладзены тыя здаровыя, народныя пачаткі, якія дазволілі ім захаваць у гады культу свае найлепшыя якасці, не паграшыць супраць сумлення, не страціць веры ў заўтрашні дзень. Пасля, калі ў краіне змяніліся грамадскія і палітычныя ўмовы, на долю менавіта гэтых людзей выпалі далейшыя намаганні, звязаныя з ліквідацыяй вынікаў культу ў вёсцы і горадзе, з аднаўленнем законнасці, з уздымам сельскай гаспадаркі. Але гэта — пасля, гэта — за рамкамі твора, хоць ужо і ў ім закладзена пэўная накіраванасць у логіцы развіцця характараў і падзей.

Карціна за карцінай праходзіць перад чытачом вясковае жыццё вясны сорак шостага года. Прама скажам: нялёгкае гэта жыццё, аднак мы разумеем, чаму І. Шамякін не мог яго абысці ў сваёй творчасці. Пісьменніцкае і грамадзянскае сумленне аўтара не дало яму магчымасці змоўчаць аб тым, што было неверагодна цяжкім у жыцці народа. Густ мастака, яго грамадзянская пазіцыя даюць магчымасць зразумець і прыняць самую нялёгкую праўду. Некаторыя сцэны аповесці захапляюць глыбінёй пранікнення ў сутнасць з'яў, другія не пакідаюць чытача абыякавым сваёй вернасцю праўдзе, якая ўжо стала гісторыяй. Немагчыма забыць эпізод на ворыве, калі жанчынам дапамагаюць цягаць плуг Шапятовіч і Грамыка («Ну, мужчынкі, хопіць, — сказала яна (Ліза)... Рукі нам адсохнуць, калі мы на вас... араць будзем»); або падпіскі на заём, калі Марына Старосціна весела згаджаецца падпісацца на «колькі хочаце» — усё роўна ў яе плаціць няма чым. Мы разумеем роспачны гнеў інваліда Рыгора Прышчэпы, нястрыманасць якога так дорага яму абышлася. Дзе-нідзе, праўда, аўтару здраджвае адчуванне меры, ды, пэўна, і адчуванне псіхалогіі, і тады з'яўляюцца надакучлівыя паўторы, перацяскі (як у інтымных сцэнах Пятра і Сашы, развагах Шапятовіча наконт сваёй ролі сакратара). Не здаецца мне натуральным увогуле важны для аповесці «прыгожы сімвал» моста. І асабліва засмучае сцэна вызвалення Шапятовіча, надзіва неверагодная ў гэтым праўдзівым

творы. Але, да гонару І. Шамякіна, гэта, бадай, адзіны няўдалы эпізод у аповесці, якая даволі пераканаўча сцвярджае тую відавочную ісціну, што ўлада праўды над талентам сапраўднага мастака непахісная.

Недахопы аповесці — прыватныя, і аб іх, можа, і не варта гаварыць, калі мець на ўвазе галоўнае, у чым безумоўная ўдача твора, багатага на думкі, канфлікты, грунтоўныя вобразы — адным словам, крута замешанага і ёмістага. Прыгадваючы тут нядаўняе меркаванне крытыка Б. Бур'яна, выказанае ім у «ЛіМе», і не ставячы, аднак, пад сумненне жанравую прыналежнасць «Сэрца на далоні», хочацца тым не менш адзначыць, што «Мост» заключае ў сабе ўсе патэнцыі, неабходныя для паўнакроўнага і востраканфліктнага рамана.

Прачытаўшы гэтую аповесць, разумееш, як далёка адышліся мы ад тых нялёгкіх часоў, на якія прыйшлася маладосць, дзяцінства ці сталасць нашых сучаснікаў. Так, нялёгкія былі часы. Шмат чым з пражытага ў іх можна ганарыцца, але ёсць і такое, чаго трэба саромецца. Аднак, як кажуць, ад пражытага нікуды не дзенешся, яно — частка нашага лёсу, хацелі б мы таго або не. А літаратура ў аднолькавай меры не мае права забывацца як на добрае, так і на дрэннае ў жыцці. І ў святле гэтага меркавання робіцца зразумелы аўтарскі выбар. Безумоўна, выбар гэты варты яго літаратурнага ўвасаблення. Іван Шамякін напісаў высокамастацкі праўдзівы твор, значэнне якога для нашай літаратуры відавочнае — як у адносінах да мінулага, так і да будучага, бо гэта твор, апрача многага іншага, яшчэ і ў імя таго, каб:

— ніколі не чулі дзеці, як іхніх сумленных бацькоў называюць «ворагамі народа»;

— навек пазбыліся людзі голаду і нястач, якія прыніжаюць і калечаць іх чалавечую сутнасць;

— навек асудзілі яны і ўзненавідзелі хціўцаў і віноўнікаў людскіх слёз — Капылоў;

— назаўжды вывеліся пачвары былога — Булатавы;

— нікому не давялося перажыць тое, што выпала на долю вясковай дзяўчыны Вольгі.

Здаецца, што адны толькі гэтыя мэты здольны надаць гонар кожнаму добраму твору, і ўжо ва ўсякім разе іх дастаткова, каб зрабіць выдатнай невялічкую аповесць.

[1965]

## У пошуках ісціны

Вечны горад сустракаў дэлегатаў чарговага кангрэсу Еўрапейскага таварыства пісьменнікаў (КОМЕС) летняй цеплынёй і сонцам. Над столікамі вулічных кафэ і тратарый, ствараючы прыемную прахалоду, віселі стракатыя тэнты, пешаходы на гарадскіх вуліцах аддавалі перавагу зацененаму боку, а ў зялёным убранстве рымскіх бульвараў не ўгадвалася яшчэ і аддаленых прыкмет восені. І тым не менш паўднёвае сонца ўжо страціла свой летні імпэт. Сярод старажытных камяніц горада не дужа даймала спёка, а што датычыць залы для пасяджэнняў на via Nazionale, дык тут дзякуючы навейшым дасягненням тэхнікі круглыя суткі падтрымлівалася аднолькавая тэмпература і патрэбная свежасць паветра. Шэсць дзён у гэтым памяшканні на розных еўрапейскіх мовах гучалі немяркоўныя і гарачыя, доўгія і кароткія, напісаныя загадзя і скатаныя экспромтам прамовы ў абарону і супраць літаратурнага авангарда ўчора і сёння.

Але з самых першых выступленняў стала відавочна, што ў сучасны момант ні ў адной літаратуры не існуе больш-менш дакладнага літаратурнага вызначэння прадмета дыялога. Добрая палавіна прамоўцаў рабіла беспаспяховыя спробы сфармуляваць паняцце авангарда, некаторая частка, аднак, з самага пачатку аб’явіла гэтую спробу беспаспяховай. Так, бельгіец Гафо сказаў, што сапраўдны авангард сучаснасці можа вызначыць толькі гісторыя. Мы бачым авангард учарашняга, але сённяшні авангард можа быць вызначаны толькі заўтра.

І тым не менш для ўдзельнікаў кангрэсу было даволі важна хоць бы ў агульных рысах уявіць сутнасць таго, што ўключае ў сябе гэты тэрмін. Трэба адразу зазначыць, што справа гэта аказалася даволі складанай.

На Захадзе азначэнне літаратурнага авангарда ўвабрала ў сябе настолькі шматзмястоўныя і рознахарактарныя літаратурныя паняцці, што стварылася рэальная прадпасылка разбурэння берагоў гэтага паняцця. Сапраўды, як пісала напярэдадні кангрэсу лонданская газета «Таймс», «авангард у тым яго выглядзе, у якім прадстаўлены цяпер… ахоплівае ўсе ступені таленту і адсутнасць таленту. Няма болей сэнсу разглядаць яго як адзінае цэлае, састаўныя часткі якога маюць аднолькавую каштоўнасць».

Відаць, у значнай меры газета мае рацыю. Сучасны літаратурны авангард, пачынаючы ад самага фармалістычнага свайго крыла — летрызму з яго лідэрам Ісідорам Ісу, ахоплівае сабой творчасць такіх вельмі розных пісьменнікаў, як Бекет, Жане, Оруэл, Олбі, Хакслі, Франц Мона, аўтараў школы «новага рамана» і іншых аж да Камю, Сартра і Іянеска, філасофія і асаблівa

драматургія якіх мае вельмі значны сацыяльна-палітычны змест і некаторымі сваімі бакамі ўшчыльную набліжаецца да рэалізму. І хоць няма фармальных і іншых відавочных адзнак прыналежнасці да гэтай плыні, усе названыя мастакі, а таксама іх прыхільнікі сыходзяцца на адным — страце веры ў здольнасць чалавека вырашыць праблемы грамадства. Іх роспач дасягнула той ступені, калі, як пісаў Дж. Віктар у «Палітыкел эферс» — органе кампартыі ЗША, яна распаўсюджваецца не толькі на чалавецтва ў цэлым, але і на кожнага чалавека паасобку.

І разам з тым шмат што ў творчасці авангарда, асабліва драматургія т. зв. «абсурдыстаў», здабыло даволі шырокую папулярнасць на Захадзе. У значнай меры гэта можна вытлумачыць тым, што лепшыя прадстаўнікі авангардызму пры ўсёй абмежаванасці свайго метаду ўздымаюць кардынальныя праблемы чалавечага існавання. Так Іянеска ў п’есе «Насарог», нягледзячы на пэўную зацененасць і абцяжаранасць формы, паспяхова выкарыстоўваючы метад алегорыі і гіпербалы, са значнай мастацкай сілай паказвае небяспеку фашызацыі грамадства, а ў другой сваёй п’есе «Забойца» ставіць карэнныя праблемы біялагічнага быцця. Драматург Олбі ў п’есе «Здарэнне ў звярынцы» высока ўзнімае выкрываўчы пафас супраць дробнабуржуазнага светапогляду. Жане даследуе праблемы каланіялізму і праблемы карупцыі, а Бекет драматызуе нікчэмнасць паўсядзённага існавання без перспектыў у прывіднай атмасферы ілюзій. Праўда, грунтоўна займаючыся сацыяльнымі праблемамі часу, драматургія гэтых і некаторых іншых аўтараў авангарда не толькі не шукае спосабаў іх вырашэння, а наадварот — усімі сродкамі даводзіць непазбежнасць паражэння ўсялякай спробы ў даным напрамку. І гэта — звычайны і натуральны вынік усёй авангардысцкай плыні, у ідэйным субстраце якой ляжыць даволі пашыраная цяпер на Захадзе філасофія экзістэнцыялізму з яе вельмі абмежаванымі пазітыўнымі магчымасцямі.

У самым пачатку дыскусіі на кангрэсе з вялікай і выдатна аргументаванай хоць і не бясспрэчнай прамовай выступіў французскі пісьменнік і філосаф Жан Поль Сартр. Ён значна расшырыў рамкі размовы, адразу і рашуча павярнуўшы ўвагу яе ўдзельнікаў да праблем т. зв. новых культур, культур народаў Афрыкі і Усходу. На думку Сартра, галоўная і найпершая задача авангарда — узбагачэнне мовы (ва ўмовах Захаду) і стварэнне мастацкай мовы нанава ў краінах, што абуджаюцца да самастойнага развіцця; тая функцыя ў гэтым сэнсе, якую ў Еўропе выканалі Джойс, Кафка, а ў рускіх — Салжаніцын, яшчэ чакае сваіх місіянераў у Афрыцы і Лацінскай Амерыцы, народы якіх у сілу розных гістарычных прычын не прымаюць нашай сучаснай

культуры і заклапочаны цяпер «зборам чарапкоў» сваёй страчанай культуры. У сучасных умовах, сказаў Сартр, асабліва важна знаходзіць сувязі культур нават і шляхам разрыву з традыцыямі мінулага. У краінах Афрыкі, напрыклад, роля пісьменніка, значна больш актыўная, чым у краінах старой культуры, дзе гэтае пераадоленне традыцый куды больш цяжкое. Там жа больш магчымасцей і для авангарда, бо мова каланізатараў стала ўжо сродкам адчужэння, і пісаць для гэтых людзей значыць амаль нанава ствараць літаратурную мову. Авангард нашага часу, сказаў у заключэнне Сартр, вызначаецца не столькі тым, што ён стварае, колькі тым, што ён адмаўляе. Сапраўдным авангардам мінулага быў, на думку прамоўцы, дадаізм, а сюррэалізм — гэта тое самае значнае, што мы маем за апошні час.

Сустрэтае з вялікай увагай выступленне Ж. П. Сартра разам з працяглымі апладысментамі ў многіх удзельнікаў кангрэсу выклікала і жаданне спрачацца. Пісьменнікі-рэалісты, пагаджаючыся з сацыяльнай накіраванасцю прамовы славутага філосафа, не маглі падзяліць яго фармалісцкіх густаў і схільнасцей.

Справа не ў словах і вызначэнні тэрмінаў, сказаў у адказ некаторым апалагетам авангардызму А. Твардоўскі. Галоўная труднасць нашага дыялога ў тым, што авангард не прадставіў прадмета (твораў) для абмеркавання. Для мяне галоўнае і рашаючае ў мастацкім творы, кажа Твардоўскі, гэта неабходнасць яго паяўлення ў літаратуры. Ці мог ён не быць? Эксперымент сам па сабе, можа, і не благая з'ява, але ўся справа ў тым, ці прыме ў ім удзел чытач. «Працэс» Кафкі і «Насарог» Іянеска пры ўсёй ускладнёнасці іх формы маюць значны сацыяльны змест, і гэта робіць іх даступнымі і важнымі для нас. Мастак не можа не мець сваіх абавязкаў перад грамадствам. У якасці прыкладу высокага ўсведамлення гэтых абавязкаў А. Твардоўскі называе «Чуму» Камю і «Па кім звоніць звон» Хемінгуэя.

Аб важнасці і складанасці праблем авангарда гаварылі шматлікія прамоўцы — прадстаўнікі розных краін. Нягледзячы на сваё суб'ектыўнае стаўленне да гэтага напрамку, амаль усе яны, як прыхільнікі авангарда (француз М. Надо, італьянец Барэлі, бельгіец Гафо, румын Ботэз), так і яго прынцыповыя праціўнікі (савецкі крытык Б. Сучкоў, югаслаў Давыдчоў, француз Вейдле) сыходзіліся на тым, што гэтая літаратурная плынь пакуль што і ў значнай меры знаходзіцца ў стане пошукаў, эксперыменту і яшчэ не стварыла твораў, якія б давалі магчымасць скласці канчатковае ўяўленне аб ёй. В. Аксёнаў у сваім выступленні адстойваў права мастака на сумленны эксперымент, найбольш яскравым прыкладам якога ён называе творчасць вядомага італьянскага кінарэжысёра Ф. Феліні. Але французскі крытык і мастацтвазнаўца

Ул. Вейдле не пагадзіўся з гэтай думкай савецкага пісьменніка. Ён выказаў меркаванне, што залішняя павага да тэрміна «эксперымент» ідзе ў наш час ад моднага цяпер навукапаклонства. Але ж і ў навуцы эксперымент — гэта толькі спосаб праверкі гіпотэзы, а не мэта пошукаў.

Некаторыя з літаратараў слушна гаварылі на кангрэсе пра небяспеку дыскрэдытацыі станоўча новага ў літаратуры з боку ілжэавангарда, а таксама пра беспадстаўныя нападкі на яго рознага роду філістэраў. Але і авангард групавы — з'ява непажаданая, як сказаў Карэл Лайцінен (Фінляндыя), бо можа прывесці да моды, якая сама па сабе супрацьпаказана мастацтву.

Трэба зазначыць, што як прыхільнікі авангарда, так і яго праціўнікі выказалі на кангрэсе шмат слушнага. Няма таксама сумнення ў тым, што ва ўсёй разнастайнасці заходняга авангарда, пры цэлым шэрагу самых розных ягоных хібаў і несумяшчальных адна з другой якасцей, працуе нямала шчырых і сумленных людзей, некаторыя з якіх разглядаюць сваю творчасць як своеасаблівы бунт супраць буржуазнага грамадства і яго культуры. У гэтым сэнсе заслугоўваюць увагі словы французскага авангардыста Марыса Надо, які сказаў, што кожны мастак хоча быць наватарам і ў гэтым сэнсе ён шукае, рызыкуючы сабой.

Так, у мінулым і зараз лепшым з прадстаўнікоў прагрэсіўнай літаратуры на Захадзе даводзіцца нялёгка. На адным з пасяджэнняў кангрэсу генеральны сакратар таварыства вядомы італьянскі крытык Джон-Карла Вігарэлі паведаміў, што ў той самы час, калі ў Рыме пачаўся еўрапейскі дыялог пісьменнікаў, у заходнегерманскім горадзе Дзюсельдорфе фашысцкія і абскурантысцкія элементы распачалі раз'юшаную кампанію супраць аднаго з прагрэсіўных літаратараў ФРГ Гюнтара Граса. Быў падпалены дом пісьменніка і спалены на гарадской плошчы ягоныя кнігі, таксама як і кнігі Эрыка Касцера, Франсуазы Саган і іншых пісьменнікаў.

З той жа трыбуны кангрэсу партугальскія дэлегаты, апелюючы да Еўрапейскага таварыства, расказвалі аб лёсе сваіх суайчыннікаў — пісьменнікаў Партугаліі і Мазамбіка, якіх арыштоўваюць, судзяць, саджаюць у турмы. Кангрэс прыняў спецыяльны зварот да ЮНЕСКА і партугальскага ўрада з повадў фактаў тэрору супраць літаратуры.

Тыдзень напружанай дыскусіі на via Nazionale, вядома, не прынёс ні паражэння апалагетам авангарда, ні перамогі традыцыяналістам. Зрэшты, гэта і не было задачай кангрэсу. Галоўнае і самае важнае заключаецца ў тым, што прадстаўнікі розных літаратур ва ўмовах шчырасці і даверу зрабілі новыя крокі па шляху збліжэння вельмі неаднолькавых, часам разнапалюсных

пунктаў погляду на праблемы даволі пашыранага ў свеце сучаснага літаратурнага авангардызму. Пры гэтым амаль ва ўсіх выступленнях выказвалася думка аб тым, што ў сучасных умовах як ніколі важна камунікацыйнае значэнне літаратур.

[1965]

## Пяром аналітыка

Кожны, хто сочыць за развіццём беларускай прозы і трымае руку на яе не заўсёды роўным пульсе, у апошні час не можа не адзначыць некаторага супакаення яе эмоцый, пэўнай запаволенасці яе дыхання.

Сапраўды, у апошнія некалькі год было апублікавана нямала ўдалых твораў, адгрымелі і сціхлі крытычныя баталіі вакол «Птушак і гнёздаў», «Каласоў пад сярпом тваім», аднадушна былі ўхвалены «Людзі на балоце» і «Сэрца на далоні». Тыя, з маладзейшых аўтараў, якія азадачвалі крытыку ў пачатку свайго творчага шляху, набралі моцы і працуюць роўна. Здаецца, у бліжэйшы час сенсацый не прадбачыцца. Беларуская проза набыла даволі салідны ідэйна-мастацкі капітал, збольшага асэнсавала яго і цяпер нібы запаволіла сваю хаду, можа, у нядоўгім, але прынцыповым роздуме — як рухацца далей?

Пэўна вядома — звароту да старога не будзе. Колішнія эталоны, што ў якасці такіх не дажылі нават да сённяшняга дня, наўрад ці дамогуцца таго, каб пачаць новае жыццё ў будучым. Зноў жа, ці варта спадзявацца на тое, што ў хуткім часе з'явіцца нейкі літаратурны месія, які адрыне традыцыі і павядзе літаратуру па зусім новым, адметным ад папярэдняга шляху. Значыць, застаецца сучасны метад і ўзровень, дасягнуты дагэтуль, плюс папраўка на канкрэтныя ўмовы развіцця. У гэтым — той вектар, які вызначыць лёс нашай літаратуры на нейкі час будучыні.

Але якая будзе гэтая папраўка? З якім знакам і ў якой абсалютнай велічыні? Не прэтэндуючы на якое б там ні было прароцтва, цікава паразважаць пра гэта.

Найбольш дзеяздольнае, на мой погляд, у сучасны момант — сярэдняе пакаленне літаратараў. Яно стварыла, мабыць, самае значнае ў нашай прозе. Яно даволі пераканаўча засведчыла сваёй творчасцю тую выказаную Стэндалем ісціну, што мастацтва патрабуе моцных страсцей. Вайна і ўсе звязаныя з ёй катаклізмы далі яму ў гэтым сэнсе выдатны жыццёвы матэрыял. Моцныя пачуцці рухаюць учынкамі герояў Адамовіча, Асіпенкі, Брыля, Карпюка, Кулакоўскага, Навуменкі, Шамякіна. Пэўныя хібы

майстэрства, што мелі месца ў творах названых аўтараў, даволі шчасліва кампенсаваліся аўтарскай страснасцю, сапраўднай любоўю і непадробнай нянавісцю. Шчырасць і паўнагучнасць пачуцця напоўнілі дзясяткі найлепшых кніг пра вайну.

Але мне здаецца, што за апошні год-два ў нашай літаратуры назіраецца некаторы спад творчай актыўнасці ў гэтай тэме. Справа, мусіць, у тым, што дасягнуты за апошнія гады даволі глыбокі пласт праўды аб вайне, — гэта, зрэшты, і заканамерна, — вычэрпваецца. Тыя, хто меў што сказаць у гэтым плане — выказаліся. Далейшае, болей змястоўнае і значнае, чакае на новым, болей глыбокім гарызонце мастацкага адлюстравання. Для пранікнення туды патрэбны, відаць, больш магутныя таленты, з большай, чым раней, грамадзянскай смеласцю. Але тыя, хто ваяваў, дарэчы, як і ўсе на зямлі, не бессмяротныя. Значыць, літаратура наша апынаецца перад альтэрнатывай: вельмі значнае і, можа, самае важнае пра мінулую вайну або будзе сказана ў бліжэйшыя дзесяць — дваццаць гадоў, або наогул ніколі не з’явіцца на свет. Гэтае меркаванне, на мой погляд, бясспрэчнае, бо вялікую праўду аб мінулай вайне суджана выказаць толькі яе ўдзельнікам або сведкам. Іншым гэта не дадзена. Іншыя могуць стварыць нават геніяльныя творы, але гэта ўжо будзе з поваду вайны, а не яе горкай і крывавай праўдай.

Сказанае, такім чынам, у большай меры датычыць сярэдняга і старэйшага пакаленняў стваральнікаў літаратуры. А якая ж тады роля моладзі? Тых, што нарадзіліся пасля вайны і цяпер дружна ідуць у літаратуру і будуць ісці, трэба спадзявацца, яшчэ болей напорыста? Мне здаецца, што эмацыянальны зарад іх творчасці рэзка зніжаецца. І гэта заканамерна: жыццё набыло іншыя рытмы, канфлікты яго знікаюць з паверхні, зло нярэдка так спрытна камуфлюецца пад дабро, што іх цяжка адрозніць. Але разам з эмацыянальнасцю знікае і значнасць твора, таксама як і яго займальнасць. Мастацтва страчвае свае найпершыя якасці. І тады, як гэта часта здараецца, творы замешваюць на сурагатах: прыблізнасцях пачуцця, эрзацах любові і нянавісці. Аўтар быццам бы захапляецца, любіць і ненавідзіць, а чытач застаецца абыякавы. Колькі па гэтай прычыне загублена найлепшых намераў, часам і пры несумненных здольнасцях!

Шчырасць у мастацтве нельга падрабіць. Пачуццё нельга выдумаць. Значнасць не вырасце з дробязнасці. Могуць сказаць: дык што ж — у маладзейшых пакаленняў мастакоў менш творчых магчымасцей? Я думаю, што не. Проста яны ў яго свае, адметныя ад папярэдніх. Можа быць, яны якасна іншыя і, несумненна, больш складаныя. Яны ляжаць крышку ў іншым кірунку. У кірунку аналітыкі.

Сапраўды, калі пара голых эмоцый мінае, дык часы рамантызацыі даўно ўжо скончыліся. Фальшывая ўзнёсласць, сентыментальнасць, слюнявае сюсюканне ў паказе чалавечых лёсаў даўно вычарпалі сябе. У такой сталай літаратуры, якой робіцца наша, ім няма месца. Свет, што раздзіраецца між дабром і злом, чакае не элегічных песнапенняў, а лекара і выратоўцы. У сярэдзіне XX стагоддзя людзі на зямлі не меней, чым калі-небудзь раней, заклапочаны ўсё той жа адвечнай праблемай — як жыць? Цяпер, у атамную эру, гэтая праблема набывае асаблівае значэнне. На карту пастаўлены лёс чалавецтва і лёс мастацтва. І ў гэтым сэнсе мастацтва рызыкуе, як не рызыкавала ніколі: або яно паможа людзям знайсці выйсце з таго тупіка, у які яны забрылі, або страціць усё.

Здаецца, агульнавядома, што найпершы абавязак літаратуры — ускрываць гнойныя раны чалавецтва і тым дамагацца іх вылячэння. (Вядома, гэта складаная справа, і для яе патрэбны таленты геніяў. Але геніі не з'яўляюцца на голым месцы. Кожны папярэдні талент — прыступка для наступнага. Генію ў мастацтве папярэднічаюць сотні нягеніяў, якія ў выніку і падрыхтоўваюць магчымасць яго паяўлення.)

І таму — перавага скальпелю аналітыка. Удумлівага, самаахвярнага, мужнага і бязмежна праўдзівага. Напачатку, можа, не так ужо і важна форма, у якой, на жаль, маладыя бачаць звычайна заруку поспеху. Стыль для такіх — усё. Але стыль не ўсё і нават не палавіна. Стыль толькі сродак. Аднак сродак — нішто без мэты. «Калі пісьменнік празмерна непакоіцца аб стылі, урэшце ў яго не застаецца нічога, апроч стылю», — сведчыць такі выдатны майстар літаратуры, як Уільям Фолкнер. Праўда, гэта не трэба разумець як вызваленне пісьменніка ад патрабаванняў і законаў мовы. Бліскучы стыль — гэта здарова! У ім віртуознасць пісьменніка. Але найвышэйшае майстэрства ўсё ж заключаецца ў тым, каб у творы яно не адчувалася.

Ці варта грэбаваць выдатнымі словамі не менш выдатнага мастака Эрнеста Хемінгуэя: «Проза — гэта архітэктура, а не мастацтва дэкаратара». Менавіта архітэктура, якая мае справу з буйнапанельнымі блокамі жыцця, сталлю ідэі і гіганцкай разнастайнасцю людскіх лёсаў. Цяжкая справа — дойлідства? Вельмі. Куды лягчэй і, мабыць, прыемней распісваць шкатулкі і наводзіць бардзюрчыкі на пабудаваным. Толькі ці варта?! Ці даравальна мастаку забываць, што талент — гэта труба, вечавы звон, барабан, але не жалейка і не свісцёлка. Што ён з'яўляецца на свет не для таго, каб усыпляць элегіямі, а каб гучаць як сігнал трывогі, які будзіць людзей для барацьбы за лепшую будучыню.

Родная літаратура ўступае ў новы этап развіцця. Яе

роздумная запаволенасць у развіцці — адна з прыкмет сталасці. За ёй ідзе выбар. Гэты выбар і вызначыць яе ролю і яе годнасць на пэўным этапе гісторыі.

[1965]

## 1966

### Природа поэтического

Среди многочисленной корреспонденции, ежедневно поступающей в редакцию, нередко встречаются письма молодых (и не только молодых) людей со вложенными в них несколькими страничками стихов — зачастую первыми пробами их пера. Стихи эти большей частью представляют собой очень слабую попытку из области литературного версификаторства, более чем приблизительное сочинение на тему очередной смены времени года, предчувствия любви или весьма косноязычное словоизъявление лирического героя относительно бурь, ветров и жажды всевозможных жизненных беспокойств.

Стихи такого рода не вызывают особенных затруднений при их оценке, чего нельзя сказать о другой части подобных обращений в редакцию, где содержатся несколько иного характера вопросы, обычно тривиальные в подобных случаях, но тем не менее весьма важные для их авторов: стоит ли вообще продолжать сочинять стихи, имеются ли для этого хотя бы незначительные способности и как добиться поэтического мастерства. Именно эти вопросы часто ставят в затруднительное положение тех, кто обязан на них ответить. И поэтому, думается, будет нелишне порассуждать здесь о некоторых, может, и не новых для творчества вообще, но немаловажных в каждом отдельном случае истинах.

Начнем, пожалуй, с выяснения, что такое поэзия? Некоторым этот вопрос, возможно, покажется риторическим. В самом деле: кто со школьной скамьи не знает, что поэзия — это стихотворная, ритмически построенная речь (противоположная прозе), — как записано в одном из современных толстых словарей. Данное определение, к сожалению, слишком распространено для того, чтобы можно было бы с ним не согласиться или тем более его опровергнуть. И все же, думается, оно неполно и как бы односторонне и потому нуждается в уточнении.

Действительно, стоит только сопоставить для сравнения такие сочинения, как «Илиаду» Гомера, «Слово о полку Игореве»,

любое из стихотворений, скажем, А. С. Пушкина, В. Маяковского, С. Есенина, чтобы убедиться в почти непостижимом разнообразии этого понятия — поэзия. Трудно, пожалуй, поначалу отделаться от мысли, что, например, отлично зарифмованные и довольно метрически организованные строчки:

Мы мечтаем, творим и дерзаем,
Нам, романтикам, в 20 лет
Стала тесною ширь земная
И предела мечтаниям нет, —

не хуже (а возможно, некоторым даже покажутся и лучше) известных стихов из «Слова о полку Игореве»:

На Немиге стелют снопы головами,
Молотят цепами булатными,
Жизнь на току кладут,
Веют душу из тела.

И тем не менее здесь — не требующий доказательства факт того, что «Слово», созданное много столетий назад, — бессмертный поэтический памятник русского народа, в то время как приведенные выше строчки молодого поэта — стихотворная имитация, хотя бы и неплохо выполненная, но имеющая очень немного общего с поэзией.

Маленький этот опыт дает основание заключить, что поэзия — нечто несравненно более тонкое и сложное, чем просто ритмически построенная речь.

Оставляя за пределами данной статьи прочие явные недостатки поэтического творчества начинающих, постараемся разобраться лишь в тех случаях, когда стихотворение в общем содержит все признаки поэзии и тем не менее только с оговорками может быть отнесено к таковой.

Существует более чем абсурдное мнение, будто для успешного занятия поэзией достаточно изучить формальные приемы стихосложения, что, надо сказать, при достаточной грамотности в наше время не так уж и сложно. Именно для этой цели когда-то была выпущена книжка проф. Г. Шенгели «Как писать статьи, стихи и рассказы», выдержавшая в свое время около 7 изданий. Автор этого труда-пособия давал ряд практических советов по стихосложению, определению размера, излагал сложную систему упражнений и т. п. Существовали, по-видимому, и другие советы и «труды», содержащие рецепты «изготовления» стихов, на которые обычно очень падки начинающие, но которым — об этом надобно

заявить со всей решительностью — все подобного рода советы совершенно ни к чему. Они, мягко выражаясь, бесполезны, эти советы, прежде всего потому, что дезориентируют литературную молодежь, уводя ее от того направления, где в самом деле следует искать истоки поэтического.

В основе поэзии лежит особая, высшая способность к сопереживанию.

Душевная отзывчивость, умение порадоваться чужим радостям и опечалиться печалями ближнего, обостренное чувство справедливости — вот те непременные условия, при которых только и могут зародиться поэтические способности. Натура инертная, тем более черствая, эгоистичная, какими бы литературными навыками она ни обладала, не может достичь сколько-нибудь значительной поэтической высоты. Впрочем, настоящее положение относится, пожалуй, ко всем видам художественного творчества, что же касается поэзии, то здесь оно просто-таки непреложно, ибо, по выражению В. Г. Белинского, «личность поэта является на первом плане, и мы не иначе, как через нее все принимаем и понимаем». Поскольку поэзия — один из многих видов искусств, адресованный прежде всего человеческим чувствам, то уже по этой причине она сама должна быть наполнена неподдельными чувствами. Поэтическое очень неохотно мирится с холодностью, умозрительностью, рассудочностью, всякий раз требуя теплоты и живых человеческих эмоций.

Способность к сопереживанию — первое, очень немаловажное, но далеко не единственное из качеств, необходимых как предпосылка поэтическому таланту. Ведь переживать и чувствовать можно и молча, никак не выражая этих своих, может, весьма значительных чувств. Но, чтобы их выразить полно и правдиво, надобно качество родственного, но несколько иного порядка — искренность.

Пожалуй, будет нелишне проиллюстрировать это положение на двух конкретных примерах, взятых из современной поэзии. Оба этих стиха принадлежат перу начинающих, оба автора — поэтессы. Впрочем, дело не в личностях, и потому не будем называть фамилий.

Вот эти стихи:

Осень,
Ты которая
На моем веку?
С листиком,
Шуршащим сонно на суку,

С липкой паутиной,
Трогающей бровь,
С нереальной явью,
С небылицей снов…
Осень,
Ты которая
На моем веку?
С ветром,
Леденящим звонкую ольху,
С вечным ожиданием,
С думою одной,
С верой, что желание
Сбудется весной.

И другое:

И пусть неудачи,
Не могу я без спора.
Обиды и ссоры —
Не могу я иначе,
Не люблю я тиши и глади,
Не терплю покровителей-дядей.
Мне знакомы и скорбь, и горе.
Я ветер ищу и горы.
Да горы, какие покруче,
Да ветер, чтоб жесткий и жгучий.
Над морем бушующим тучи!
Вот это мне не наскучит.
Все вынесу — голод и стужу.
Скажи лишь: «Так людям нужно».

Пожалуй, нет необходимости подробно разбирать достоинства первого стихотворения, написанного скромно и задушевно, без надрыва и риторики. Человека, чуткого к поэзии, не может не тронуть это тихое, со светлой грустинкой настоящее лирическое стихотворение, полное поэзии и одухотворенности. К сожалению, даже малой толики этих достоинств не ощущается во втором, которое, уже с самых первых строк, ставит читателя в недоумение своей претенциозностью и логической недостоверностью.

Не говоря уже о форме выражения (кстати, весьма корявой), настораживает заявление автора вроде: и пусть неудачи, не могу я без спора. Обиды и ссоры — не могу я иначе. Не успев побороть этого первого, подсознательного еще несогласия с, мягко

выражаясь, необычностью лирического героя, сразу же натыкаешься на следующую спорную строчку: «Не терплю покровителей-дядей», за которой следует насквозь фальшивая по своему крикливому пафосу декларация: «Я ветер ищу и горы», «какие покруче», «ветер чтоб жесткий и жгучий (!?), над морем бушующим тучи».

Недоумеваешь, для чего это и зачем искать горы и тучи над морем? Неужто не известно, где находится то и другое, и главное — для какой надобности все это потребовалось? Следующая строчка, однако, не только не рассеивает недоумение, но это недоумение усиливается до удивления: «Вот это мне не наскучит». Оказывается, все дело в скуке! Поняв это, хочется улыбнуться вздорности всех вышеизложенных желаний, желаний только ради того, чтобы избавиться от скуки. Заключительные строки никак не могут возместить логическую и эмоциональную несообразность стихотворения, ибо звучат столь же фальшиво, как и предыдущие.

Недостатков в этом стихотворении много, проистекают они, по-видимому, в силу различных причин, но главная причина, которая, на наш взгляд, при любых обстоятельствах неизменно обрекает стихотворение на неудачу, — неискренность лирического героя, его эмоциональная фальшивость. Будь эти чувства истинными, даже при скромном поэтическом опыте автора для их выражения нашлись бы куда более точные слова и родились бы более внятные мысли. Примеров подобного рода можно привести великое множество.

Настоящую поэзию от поэзии фальшивой отличить при достаточно развитом вкусе не так уж и трудно. Обычно в качестве эталона высокой поэтичности вспоминают известное стихотворение Н. А. Некрасова «Несжатая полоса». И это действительно эталон, эмоциональная сила которого, искренность, способность автора к сопереживанию будут служить образцом еще для многих поколений начинающих.

Однако, бесспорно, что одних только врожденных, благоприятных данных еще недостаточно для достижения действительно поэтического. Всякий талант нуждается в длительном и упорном совершенствовании. Но не вызывает также сомнений и тот факт, что любая, пусть даже чрезвычайной трудоспособности попытка в этой области бесплодна, если она не имеет под собой тех главнейших условий, о которых говорилось выше. И совершенно бесспорно, что только при наличии в таланте этих возможностей появляются предпосылки для дальнейшего его развития.

Хотя, однако, это вовсе не означает, что те же качества открывают ему столбовую дорогу в поэтическое будущее. Для этого

будущего необходимо еще очень многое. Нужен еще совершенный поэтический вкус, позволяющий отличать красоту от красивости, нужна зоркость глаза и острота ума, воспитывающие образность мышления, нужно, наконец, чувство гражданственности, постигаемое в процессе всей жизни. Но все это дело опыта и совершенствования мастерства.

Мы коснулись здесь только главнейших условий и предпосылок, лишенный которых всякий поэтический талант неполноценен. Размеры газетной статьи, к сожалению, не позволяют сколько-нибудь обстоятельно проанализировать прочие качества, без которых невозможна настоящая поэзия.

Поэзия — высокий результат художественного творчества, далеко не лишний в произведениях многих видов искусств — прозы, живописи, музыки и, конечно, совершенно необходимый стихотворной речи. Достижение его возможно лишь при определенных условиях, которые обобщенно принято называть поэтическим талантом. И если во многих произведениях прочих искусств поэтического может и не быть, и при этом проза, живопись, музыка, обладая иными, присущими им достоинствами, таковыми и останутся, то стихотворная речь без поэзии начисто лишается всей своей художественной ценности.

Чисто формальные приемы и признаки здесь мало чем могут помочь, — так как классическая метрика и рифмика в современной силлабо-тонической системе — далеко не решающий признак поэзии (существует ведь стих и белый и т. н. свободный), а со времен В. Маяковского широко распространилась ритмика как главный формальный стихотворный прием. Так многие стихотворения этого поэта (например, широко известное «Возьмем винтовки новые») построены на смешении разнообразных размеров, но тем не менее жестко организованы единым ритмом.

Что касается современной русской и белорусской поэзии, вобравшей в себя длительный опыт предыдущего, то они в последнее время имеют тенденцию к значительной формальной раскованности при непременном и упорном тяготении к внутренней значительности и поэтичности. В истинности этого утверждения убеждает творчество лучших поэтов нашего времени.

Даже обладающим поэтическим талантом трудно за короткий срок сделать невероятное по напряжению усилие, чтобы овладеть вершиной мастерства. Но тем не менее надобно иметь ясное представление об этом усилии, без которого стихотворчество не только безрезультатно, но и в определенном смысле противопоказано. Тематика, благие намерения здесь решительно не имеют никакого значения, потому что, как писал В. Белинский, «какими бы прекрасными мыслями ни было наполнено

стихотворение, как бы ни сильно отзывалось оно современными вопросами, но если в нем нет поэзии, в нем не может быть ни прекрасных мыслей и никаких вопросов, и все, что можно заметить в нем, — это разве прекрасное намерение, дурно выполненное».

Лучше, пожалуй, не скажешь.

[1966]

## [Интервью для АПН]

— Ранней осенью сорок третьего года младший лейтенант Быков прибыл на Второй Украинский фронт. У Кременчуга на Днепре, где шли тогда ожесточенные бои, принял он стрелковый взвод, поднял солдат в первую свою атаку… Так начал свой путь по трудным дорогам войны девятнадцатилетний офицер. Бывало всяко, но чаще всего трудно. Сначала воевал в пехоте, а потом в моточастях. Командовал и взводом «сорокапяток». День Победы встретил на австрийской земле, в Альпах, чуть южнее Вены. Тогда уже носил погоны лейтенанта и служил в противотанковом полку…

— Ну, а что было дальше? Когда вы начали писать?

Прежде чем ответить на мои вопросы, писатель несколько минут молчит, видно, собираясь с мыслями. Затем говорит:

— Эти полтора года, проведенные в самом пекле войны, вероятно, стоят целой жизни. Очень, очень много пришлось пережить. Я даже когда-то дал себе слово не читать книг о войне. Ведь, если по справедливости, литература первых послевоенных лет не говорила всей той суровой правды о войне, которую знали мы… Что же было дальше? После победы некоторое время еще служил за пределами страны, затем в Одесском военном округе, в Николаеве. Демобилизовался в чине капитана. Вернулся в Белоруссию, поселился в Гродно. Трудно сказать, как это получилось, но вот в самом конце сорок восьмого года написал рассказ «В первом бою» на основе личных фронтовых впечатлений. Его напечатала газета «Гродненская правда». Так и пошло. Правда, не очень быстро…

Живет писатель недалеко от центра старинного белорусского города, сильно пострадавшего в годы войны. Не так давно отстроенный дом стоит на улице Олега Кошевого. Мы беседуем в

небольшом, тесно уставленном книгами кабинете. Передо мной худощавый, довольно высокого роста человек. Выглядит он значительно моложе своих сорока двух лет. На что обращаешь внимание сразу — это темные, очень внимательные, может быть, даже немного колючие глаза с чуть заметным прищуром. Манера говорить — отрывисто, пожалуй, несколько резковато. Но как-то сразу проникаешься симпатией к этому человеку, который, как и его книги, подкупает своей суровой искренностью.

Писатель не так давно пришел домой из редакции «Гродненской правды», где в течение нескольких лет работает в литературном отделе. Но ведь Быков уже писатель-профессионал.

— Работаю потому, что каждодневный труд в редакции както внутренне дисциплинирует, делает жизнь осмысленнее, — замечает мой собеседник. — И еще потому, что вижу свой долг в том, чтобы помогать начинающей литературной молодежи, которая тянется со своими первыми стихами, рассказами к нам в редакцию. Радует, что встречаются и талантливые ребята…

За окном сырой мартовский вечер. На письменном столе — только что полученные из Москвы, еще не утратившие типографского аромата номера «Нового мира» с последней вещью Василя Быкова «Мертвым не больно». Работе над этой повестью он посвятил минувший год. Я уже знаю, что писатель ездил в те места, где развертывались описанные им события, где могилы его однополчан; работал короткое время — в военных архивах. Все это для того, чтобы кое-что уточнить, проверить память…

— Многое из того, что рассказано в повести, мне довелось пережить самому, — говорит писатель. — И это никогда не вычеркнешь из памяти. Подобные события действительно имели место в самом начале сорок четвертого года во время Кировоградской операции Второго Украинского фронта. Отступая, немцы оставили танковую группировку, которая и ударила по нашим тылам. Тогда многим нашим людям пришлось пережить немало очень трудных, даже трагических минут. Такая ситуация, может быть, и не так характерна для всей фронтовой обстановки того периода войны. Но она вторглась в жизнь сотен, тысяч людей. И поэтому о ней нельзя забывать. Но для меня эти события в первую очередь фон, а главное — люди, их поступки, характеры. Мой герой и сверстник младший лейтенант Ленька Василевич чудом уцелел тогда. И теперь, в наши дни, этот ветеран заново переживает все, что было. Ему и сейчас больно за бессмысленно,

по злой воле погибших людей, за друга Юрку Стрелкова, медсестру Катю… В их смерти прежде всего повинен жестокий и трусливый капитан Сахно, которому нет и не может быть прощения. И самое страшное, что и в наши дни Василевич встречает человека, не только внешне, но и по своей сущности очень напоминающего того капитана. Это Горбатюк, бывший председатель Военного трибунала, который упрямо повторяет:

«Ну, на войне жестокость — не грех…»

А я своей книгой утверждаю, что грех, — говорит Василь Быков. — И на войне человек может и должен быть прежде всего человеком в лучшем смысле этого слова. Таковы, думается, Василевич, старшина Евсюков, Юрка, Катя. Бессмысленной жестокости нет и не может быть оправдания. Людям, подобным Сахно и Горбатюку, не должно быть места ни на войне, ни в мирной жизни. Об этом надо всегда помнить…

— Творческие планы?

Если говорить коротко, то их у Василя Быкова много. Правда, он не торопится их осуществлять. Писатель размышляет сейчас над темой, связанной с партизанским движением в Белоруссии. В годы войны республика, в первые же недели оккупированная немецко-фашистскими захватчиками, стала огромным партизанским краем, в котором жили, боролись, умирали и побеждали многие тысячи людей с интереснейшими судьбами. О многих из них мы и ныне ничего не знаем. Материал буквально здесь, рядом.

Писатель рассказывает:

— Не так давно судили одного человека. Работал в немецкой комендатуре. Свидетельница доказывала, например, что он ее избивал. Но было известно и другое, что этот человек поддерживал связь с партизанами, передавал им важные сведения. Об этом говорили знавшие подсудимого в то время. Но когда спросили бывшего партизанского командира, где же правда, он сослался на то, что теперь-де ничего не помнит… Еще — непростая человеческая судьба, разные люди, различные характеры; борьба за правду, которая может быть только одна и которую нельзя не искать.

Мечтает писатель и о книге, где будет рассказано о белорусской деревне тридцатых годов, жизнь которой ему хорошо знакома. Хочется написать и о современниках, проникнуть в мир их переживаний, надежд, чувств.

— Но вероятнее всего, — замечает с улыбкой Василь Быков, — я в самом недалеком будущем снова засяду за книгу о днях военных, о том, что пережито, о людях, которых встречал. По жанру это скорее всего будет повесть.

Война была временем небывало обнаженных чувствований — резких контрастов во взаимоотношениях людей, — говорит писатель. — Нигде и никогда не проявлялась с такой очевидностью человеческая сущность, как на войне. Пусть же никогда не черствеют наши сердца к завоеваниям и ранам войны. Нельзя строить будущее без памяти о прошлом, нельзя пренебречь величайшим из человеческих потрясений — всенародным подвигом, преподавшим людям настоящего и будущего — памятный урок свободолюбия и величия духа.

Интервью вел М. Татаринов.
[1966]

## Выступленне на V з’ездзе СП БССР

Можна шмат гаварыць пра поспехі беларускай літаратуры ў духу некаторых учарашніх дакладчыкаў, але мне здаецца, што наш з’езд Саюза пісьменнікаў усё ж не юбілейны, і таму лепей гаварыць пра іншае.

Шкада, але я не магу пагадзіцца з выказаным тут аптымізмам адносна выдатных дасягненняў нашай літаратуры. Усім вядома, як крытыкавалася літаратура на XXIII з’ездзе партыі. Два гады запар камітэт па прэміях не прысуджае прэміі ў галіне літаратуры. Літаратура не толькі траціць павагу да сябе з боку кіраўніцтва, але і губляе сілу ў барацьбе за чытача, якога сотнямі тысяч адбіраюць у нас стадыёны ў якасці нечуванай, я б сказаў, ганебнай, для цывілізацыі з’явы — арміі агалцелых балельшчыкаў. Не ведаю, як каго, мяне ж гэтыя факты наводзяць на сумныя развагі. І сапраўды, як гэта атрымалася, што наша літаратура, якая заўжды ўражвала чалавецтва геніяльнасцю сваіх твораў, дажылася да таго, што за два гады не знаходзіцца кнігі, якую можна было б адзначыць Дзяржаўнай прэміяй? У чым справа? У чым справа таксама, што нашы нацыянальныя прэміі, мякка кажучы, зусім не ў пашане, і то прысуджаюцца, то пра іх нібыта забываюць, і месяцы не чуваць, што вылучана і калі будзе прысуджэнне.

Па ўсім відаць, нашая літаратура перажывае крызіс. І гэта, можа, каму-небудзь падасца дзіўным: столькі пра яе гавораць, праяўляецца такі клопат. Чаму ж тое дзіця такое хілае?

Мне здаецца, што прычыны таго заняпаду ляжаць якраз там, дзе планаваліся поспехі. Адбылася вельмі простая з'ява: у адносінах да літаратуры дзесьці згублена мера, ёю закіравалі, яе заняньчылі.

Калі ў гаспадарцы валюнтарызм неяк асуджаны, дык у літаратуры ён дагэтуль у пышным росквіце. У народнай гаспадарцы ўжо не так камандуюць, як у літаратуры. Вытворчыя адносіны там памагаюць ладзіць з некаторай натуральнасцю і заканамернасцю. Літаратура ж застаецца тым, чым была сельская гаспадарка ў нядаўнім мінулым, — кожны мае да яе адносіны і пры выпадку не супроць патаптаць яе і без таго не надта ўрадлівы агарод.

Але вельмі і вельмі памыляюцца тыя, хто лічыць, што ў мастацтве і літаратуры няма няўмольных законаў, што іх можна папіхаць, як захочацца. На жаль ці на шчасце, такія законы ёсць.

Галоўная цяжкасць для мастака заключаецца ў тым, што законы мастацтва нярэдка не супадаюць з дзеючымі на кожным этапе законамі грамадскага жыцця. Больш таго, яны амаль заўсёды ў супроцьстаянні. У жыцці ідэальнае грамадства тое, дзе як мага меней канфліктаў, а ў мастацтве наадварот. Для жыцця найлепей характары роўныя і празрыстыя, а для мастацтва — складаныя і супярэчлівыя. Мастак у творы або раздвойваецца паміж гэтымі рознаскіраванымі мэтамі, або схіляецца ў нейкі адзін бок. Вось чаму нават для самага вопытнага празаіка пісаць кожную новую кнігу — значыць пачынаць усё спачатку. Увесь яго ранейшы вопыт траціць сваё значэнне, ён заўжды бездапаможны, калі новы жыццёвы матэрыял увасабляецца ў пэўныя мастацкія формы. Прытым немагчыма падпарадкаваць законы мастацтва законам жыцця, таксама як і наадварот. Патрэбна гармонія, мера, тое, што прынята называць мастацтвам і што вызначаецца толькі талентам мастака. Ажыццяўляць дыктат у гэтай справе абсалютна немагчыма без таго, каб не задушыць мастацтва.

Але ці ўсе ў нас разумеюць гэтую даволі банальную ісціну? Баюся, што далёка не ўсе. У жыцці на кожным кроку мы сустракаем горкае неразуменне літаратуры, неразуменне, якое выклікае сум і роспач, асабліва калі вядомыя ідэалагічныя руплiўцы пачынаюць рабіць паспешлівыя палітычныя высновы.

Дзіўна, што ў наш час, на 49-м годзе Савецкай улады, у адносінах да літаратуры грэбуюць тым, што некаторым трэба б засвоіць яшчэ ў школьным дзяцінстве. І я перакананы, што высокія аўтарытэты, ідэйныя абгрунтаванні, хоць бы і спасылкі на вайну ў В'етнаме, тут абсалютна не маюць рацыі. Усе беды тут — ад непісьменнасці, нізкай эстэтычнай культуры, а то і дыпламаванага абскурантызму тых, хто прыстаўлены кіраваць

літаратурай.

Першай і галоўнай праявай таго абскурантызму, на мой погляд, з’яўляюцца адносіны да адмоўнага ў літаратуры. Яшчэ вялікі Бялінскі ў сваім артыкуле «Ответ „Москвитянину“» пісаў: «Творчество по своей сущности требует безусловной свободы в выборе не только от критиков, но и от самого художника. Ни ему никто не вправе задавать сюжеты, ни он сам не вправе направлять себя в этом отношении. Он может иметь определенное направление, но оно у него только тогда может быть истинно, когда без усилия, свободно сходится с его талантом, его натурой, инстинктами и стремлением. Он изобразил вам порок, разврат, пошлость: судите, верно ли, хорошо ли это сделал, а не толкуйте, зачем он сделал это, а не другое, или вместе с этим не сделал и другого. Говорят: что это за направление — изображать одно низкое и пошлое! А почему бы и не так?» — пытаецца Вісарыён Бялінскі і ў іншым месцы гэтага артыкула адказвае: «Это — не один дар выставлять ярко пошлость жизни, а еще более — дар выставлять явления жизни во всей полноте их реальности и их истинности».

Так, мастацтва — не адвольны твор мастака, але і не планавы прадукт грамадства, яно — душа гэтага грамадства. Нельга дастаць і як сабе хочаш перарабіць тую душу без таго, каб не перайначыць характар грамадства. Абое яны існуюць у адзіным узаемазалежным цэлым.

Літаратуры даводзіцца цяжка, асабліва калі мець на ўвазе не гэтак тэарэтычныя высновы, як яе жыццёвую практыку. У наш час зусім нярэдкія з’явы, калі нават выдатныя тэарэтычныя пастулаты на справе ператвараюцца ў штосьці, што найболей нагадвае свайго роду неакласіцызм. Пра тое не прынята гаварыць, але не сакрэт, што ў літаратуры час ад часу запаноўваюць характэрныя адзнакі менавіта такога літаратурнага напрамку: калі губляецца рэалістычны характар рэчаіснасці, грэбуюць жыццёвай праўдай, рэальнае выцясняецца яўна ідэальным. Я ахвотна пагаджуся, што мастацтва так званага сацрэалізму не дапускае ў сабе безыдэйнасць, бяскласавасць, абстрактны гуманізм і гэтак далей. Але бясспрэчна, што і іхнія супрацьлегласці, узведзеныя ў катэгарычны абсалют, — не меншае зло, хіба што з іншым, адваротным знакам. Менавіта гэтае зло нанесла немалую шкоду нашаму мастацтву. І гэта зразумела, калі мець на ўвазе знакамітыя словы У. Леніна, які ў сваёй працы «Детская болезнь „левизны“ в коммунизме» пісаў, што «самое верное средство дискредитировать новую политическую (да и не только политическую) идею и повредить ей состоит в том, чтобы во имя защиты ее довести ее до абсурда».

Хіба не зразумела, што голы рацыяналізм, імкненне падпарадкаваць літаратуру ды мастацтва патрэбам кожнага сёння, таксама як загадзя распланаванага заўтра, ігнараванне жыццёвых складанасцяў, дыялектыкі развіцця наносяць непапраўную шкоду не толькі літаратуры, але і ўсяму грамадству.

Мастацтва — гаючы дождж грамадства, якое без яго крытычнага ўздзеяння непазбежна пакрываецца плесенню і загнівае. Апалагетыка без разбору, бяздумнае сцвярджэнне ўсяго існага — па сутнасці, не што іншае, як магільшчык грамадства, і вельмі шкада, што мы дасюль не зразумелі ўсёй небяспекі тае з'явы. Вельмі шкада, што і сёння шмат хто кіруецца думкай, нібы людзі, што бачаць заганы ў жыцці, тым больш адважваюцца крытыкаваць яго, заражаны духам буржуазнай ідэалогіі, паклёпнікі або нават ідэалагічныя дыверсанты. Няўжо ёсць патрэба даказваць, што такая думка па меншай меры неразумная, што праўда, якой бы непрыемнай яна ні была, калі яна сумленна выказана, не можа пашкодзіць дабру, што сапраўдныя, а не прыдуманыя ворагі ўсіх часоў выдатна маскіруюцца самай артадаксальнай фразеалогіяй, выконваюць ролю самых верных служак. Хіба трэба пераконваць, што ўсе ўрадавыя перавароты, усе ўдары ў спіну, усе змовы і здрады рабіліся людзьмі прыбліжанымі, заўжды вельмі лаяльнымі.

Безумоўна, каб пісаць праўду, апроч таленту, патрэбна немалая мужнасць. Але не меней мужнасці патрэбна і для таго, каб успрыняць праўду ва ўсёй яе паўнаце і складанасці. І ў гэтым сэнсе варта выказаць жаль, што некаторыя нашы кіраўнікі, тыя, каму больш за іншых павінна быць уласціва гэтая якасць, апынаюцца, мякка кажучы, не на вышыні. На словах прызнаючы крытыку за рухаючую сілу грамадства, яны тым не менш імкнуцца надаць гэтай крытыцы толькі адзін кірунак — зверху ўніз. Але для літаратуры не існуе ні верху, ні нізу. З'яўляючыся чалавеказнаўствам, яна з аднолькавым правам даследуе і даярку, і міністра, радавога члена партыі і сакратара ЦК.

Вядома, што, як і кожная манаполія, манаполія на крытыку — прыемная рэч для таго, каму яна належыць. Няма патрэбы гаварыць, якая «карысць» з яе ў іншых сферах грамадскага жыцця, але для літаратуры яна — згуба. Літаратура без крытычнага пачатку — забава для гультаёў, абывацельская цацанка. Хіба мала ўрокаў такога парадку дала нам сумнай памяці тэорыя і практыка бесканфліктнасці? Папрок жа ў адрас літаратуры за так званае ачарніцельства ці паклёп — з'ява банальная па сваёй распаўсюджанасці, супраць яго ва ўсе часы змагалася літаратура. На гэты конт я зноў дазволю сабе звярнуцца да аўтарытэту Бялінскага. «Самое сильное и тяжелое обвинение,

которым писатели риторической школы думают окончательно уничтожить Гоголя, состоит в том, что лица, которых он обыкновенно выводит в своих сочинениях, оскорбляют общество… Подобное обвинение больше всего показывает незрелость нашего общественного образования. В странах, упредивших нас развитием целых веков, и понятия не имеют о возможности подобного обвинения. Никто не скажет, чтобы англичане не были ревнивы к своей национальной чести: напротив, едва ли есть другой народ, в котором национальный эгоизм доходил бы до таких крайностей, как у англичан. И между тем они любят своего Гогарта, который изображал только пороки, разврат, злоупотребления и пошлость английского общества его времени. И ни один англичанин не скажет, что Гогарт оклеветал Англию, что он не видел и не признавал в ней ничего человеческого, благородного, возвышенного и прекрасного. Англичане понимают, что талант имеет полное и святое право быть односторонним и что он может быть великим в своей односторонности. С другой стороны, они так глубоко чувствуют и сознают свое национальное величие, что нисколько не боятся, что ему могло повредить обнародование недостатков и темных сторон английского общества. Но и мы можем жаловаться только на незрелость общественного образования, а не на отсутствие в нашем обществе чувства своего национального достоинства… Чем сильнее человек, чем выше он нравственно, тем смелее он смотрит на свои слабые стороны и недостатки. Еще больше можно сказать это о народах, которые живут не человеческий век, а целые века. Народ слабый, ничтожный или состарившийся, изживший всю свою жизнь до невозможности идти вперед, любит только хвалить себя и больше всего боится взглянуть на свои раны: он знает, что они смертельны, что его действительность не представляет ему ничего отрадного и что только в обмане самого себя может он находить те ложные утешения, до которых так падки слабые и дряхлые. Таковы, например, китайцы или персияне, послушать их, так лучше их нет народа в мире, и все другие народы перед ними — ослы и негодяи». Далей ён піша: «Не таков должен быть народ великий, полный сил и жизни, сознания своих недостатков, вместо того, чтобы приводить его в отчаяние и повергать в сомнение в своих силах, дает ему новые силы, окрыляет его на новую деятельность», і далей: «Писатель выведет в повести пьяницу, а читатель скажет: можно ли так позорить Россию? Будто в ней все одни пьяницы? Положим, что читатель умный, даже очень умный человек, да следствие-то, которое он вывел из повести, — нелепо. Нам скажут, что искусство обобщает частные явления и что оно уже не искусство, если представляет явления случайные. Правда,

но ведь общество, и особливо народ, заключает в себе множество сторон, которые не только повесть, целая литература не исчерпает».

Прашу прабачэння за доўгую цытату, але мне здаецца, што сказанае Няістаўым Вісарыёнам мае самыя непасрэдныя адносіны не толькі да Гогаля, але і да нашай сучаснай літаратурнай практыкі. Калі б нашы выдаўцы і крытыкі часцей чыталі Бялінскага ды лічыліся з яго аўтарытэтам, можа б, яны зразумелі ўсю недарэчнасць шмат якіх уласных прэтэнзій да літаратуры, якія болей за сто гадоў таму разбіў вялікі крытык-дэмакрат. Гэта ж праўда, што з 1847 года, калі былі напісаны гэтыя словы, у нашай літаратуры не шмат змянілася, па-ранейшаму ў яе адрас усё тыя ж папрокі. Варта напісаць не надта прывабнага генерала, як адразу ж раздаюцца абвінавачванні ў падрыве прэстыжу савецкіх палкаводцаў; варта намаляваць адмоўны персанаж чыгуначніка, як ужо пішуць пра паклёп на слаўных савецкіх чыгуначнікаў. Абскурантызм з поваду знявагі гонару мундзіра ў апошні час набыў пагрозлівы характар. Я мог бы прывесці красамоўныя прыклады з уласнай практыкі, з жыцця ўсім нам вядомага Аляксея Карпюка, які за наіўную спробу напісаць праўдзівую літаратурную аўтабіяграфію свайго, я б сказаў, гераічнага жыцця паплаціўся ўжо шмат чым і, мабыць, паплаціцца яшчэ.

У кожнай прафесіі важнейшае значэнне мае думка спецыяліста, майстра пэўнага рамяства, але не ў літаратуры. У адносінах да літаратуры здарылася так, што ісціна вызначаецца па прынцыпу субардынацыі. Як кажуць, чым вышэй пасада, тым бліжэй да Бога. У канцы пятага дзесятка гадоў Савецкай улады мы марым аб тым жа, пра што ў свой час клапаціўся Луначарскі, які яшчэ ў 1931 годзе казаў, што «вопрос надо ставить не так, чтобы Центральный Комитет писал лозунги, а писатели подыскивали иллюстрации к ним, а так, чтобы партия, Центральный Комитет среди других информационных материалов читали и писателей и получали от них импульсы для своих постановлений и лозунгов».

Напісаць добры твор нялёгка ва ўсіх адносінах, але яшчэ цяжэй яго надрукаваць. Гэта ж факт, што ў нас лёгка друкуюцца толькі пасрэдныя творы, тыя, у якіх нічога няма, якія падобны на сотні папярэдніх, ужо выпрабаваных выдаўцамі і крытыкай. А тое, што не адпавядае афіцыйным устаноўкам, сустракаецца з недаверам і пераадольвае магутнае супраціўленне ва ўсіх сферах. Практычна аўтар апынаецца перад дылемай: або прыняць патрабаванні выдавецтва і спаскудзіць твор, або той ніколі не пабачыць свету. Нярэдка ў выдадзеным творы дужа няшмат застаецца ад аўтара і ягонай канцэпцыі. Дзіўны і незразумелы гэты ўзаконены недавер да таленту, недавер, які абразлівы сам па

сабе для кожнага літаратара і прыніжае літаратуру.

І тым не менш мы мусім пісаць. Мы стаім на парозе вялікіх падзей нашай гісторыі. У нас ёсць пра што пісаць і ніколі не было недахопу талентаў. Літаратура пачалася не ўчора і скончыцца не заўтра. Беларуская літаратура — не толькі тое, што выдадзена ў ведамстве Захара Пятровіча. Дзённікі і нататкі Даўжэнкі, Нікалаевай, Кузьмы Чорнага, шматпакутныя творы Гарэцкага, рукапісныя творы ўсіх часоў і народаў — не менш літаратура, чым шматтомныя шэрагі ў ледэрынавых вокладках. І мне здаецца, што трэба пісаць не толькі пра жыццё народа, але і пра жыццё літаратуры. Варта памятаць, што Лукаш Бэндэ ўвайшоў у нашу культуру гэтак жа назаўжды, як і тыя пакутнікі, якіх ён загубіў. Трэба часцей напамінаць пра той горкі вопыт нашай культуры. Асабліва для тых, хто ўсё яшчэ не страціў ахвоту ў падкутых ботах пагойсаць на яе здратаваным агародзе.

Магчыма, гэтыя словы не ўсім спадабаюцца. Можа, замест іх камусьці хацелася б пачуць ад мяне пакаянне ў духу Го Ма-жо. Але ў наш час такія пакаянні, як гэта красамоўна засведчыў А. Макаёнак, не шмат чаго варты. Таму не будзем крывіць душой. Мы не ворагі народа і не падрывацелі асноў Савецкай улады, адданасць якой у свой час засведчылі ўласнай крывёй. Да таго ж мы не патрабуем незвычайнага, мы толькі просім болей цярпімасці. Пастаўце сябе на нашае месца, і вы зразумееце, што выбар у нас невялікі: або літаратура, або нелітаратура. Сярэдзіны — няма.

У заключэнне хачу адзначыць, што, нягледзячы на шмат якія невясёлыя выказаныя тут думкі, я веру ў стваральную сілу літаратуры і ў добразычлівасць тых, хто пастаўлены ёю кіраваць. Яшчэ хачу падзякаваць шмат якім пісьменнікам, што праявілі ўласную мужнасць і пісьменніцкую салідарнасць з поваду вядомага выпаду ў мой адрас. Покуль мы будзем з'яднаны па важнейшых пытаннях нашага жыцця і будзем гаварыць пра тое адкрыта, беларускі народ можа спадзявацца на добры лёс сваёй літаратуры.

[1966]

## Урокі жыцця

Прынята лічыць, што тыя, каму выпала закончыць мінулую вайну бліскучай перамогай над ворагам, вярнуліся ў мірнае жыццё ўзброеныя сваім у многім універсальным вопытам барацьбы з самым дасканалым і магутным злом на зямлі— нямецкім

фашызмам. Безумоўна, гэта ў значнай ступені ўнікальны, коштам крыві здабыты жыццёвы вопыт, які і дагэтуль дае пакаленням пэўную дальнабачнасць як у паўсядзённым жыцці, так і на крутых, «заносных» паваротах гісторыі. Нярэдка здараецца, што і тыя, хто маладзей і не ўдзельнічалі ў вайне ў прамым сэнсе, бачаць у гэтым вопыце своеасаблівы маральны арыенцір сярод пэўных складанасцей жыцця.

Менавіта прадстаўніком пакалення, загартаванага ў вайне і жыццёвых нягодах, здаецца гераіні аповесці А. Адамовіча «Вікторыя» былы партызан, пачынаючы літаратар Дубовік. Вырасшы далёка ад фронту, хоць і ў поўнай меры адчуўшы на сабе яго дыханне, Віка перажывае серыю асабістых няўдач, выкліканых ускладненнем яе адносін з кіраўніцтвам інстытута, у якім яна вучылася, няўдалым замуствам, расчараваннем у каханні. У гэты даволі цяжкі для дзяўчыны перыяд канфліктаў з жыццём адбываецца яе знаёмства з Дубовікам, і таму зразумела імкненне Вікі знайсці колькі-небудзь магчымую душэўную раўнавагу, заканамерны яе парыў да яснасці, глыбіні і сілы, увасабленнем якіх ёй здаецца Дубовік.

Вобраз Вікторыі — галоўная складанасць у вырашэнні звышзадачы аповесці. Увасобленая чуйнасць і сумленне, Віка ў дачыненні да сябе і бліжняга прад’яўляе такія маральныя патрабаванні, што задаволіць іх магчыма толькі з пазіцый крыштальнай сумленнасці, вялікай мужнасці і самаадданай барацьбы са злом, што ўжо само па сабе не проста. І тут аказваецца, што той, ад каго ў гэтым сэнсе трэба было б чакаць учынкаў, адпаведных пастулатам ягоных вераванняў, на справе сутыкаецца з недастатковасцю, калі не сказаць бездапаможнасцю свайго жыццёвага вопыту. У сілу даволі пераканаўча прасочанай узаемаабумоўленасці Дубовіку даволі нялёгка прыняць да дзеяння маральны максімалізм, так арганічна ўласцівы Вікторыі. Былы партызан, які мераў кожнага адпаведна таму, «які б ён быў там, побач са смерцю», Дубовік у іншых, але не ў меней складаных, чым на вайне, сітуацыях мірнага жыцця па сутнасці аказваецца няздольным да актыўнага дзеяння. Прычын для гэтага можа аказацца некалькі, аднак па крайняй меры адну з іх трэба шукаць у характары героя аповесці. Справа ў тым, што многія з маральных крытэрыяў, якія для яго былі абсалютна бясспрэчныя ў вайне, у новых умовах, страціўшы сваю адназначнасць, набылі куды большую адноснасць. Да таго ж, як гэта няцяжка заключыць з аповесці, у сілу новай прафесіі Дубовіка недзе аказалася парушанай яго натуральная сувязь з асяроддзем, якое ў свой час зрабіла значны ўплыў на фарміраванне яго характару. У выніку аказваецца, што элементарная выразнасць ягоных учынкаў,

характэрных для партызанскага мінулага, проста перастала быць верагоднай у цяперашні час, калі маральную сутнасць ягонай асобы ў значнай меры стаў вызначаць прымат слова, а не справы. «Спачатку бе слова», «Сёння важней зразумець, чым зрабіць» — вось крэда, засвоенае Дубовікам нашых дзён. Але гэтыя прынцыпы наўрад ці могуць задаволіць там, дзе арудуюць беспрынцыпныя «макарушкі», якія самае святое з нашага жыцця выдатна прыстасоўваюць для ўласнай выгады.

У такіх умовах патрэбна дзеянне, патрэбна паслядоўная барацьба за нашы ідэалы, у імя якіх было праліта столькі крыві. Канчаткова і рашуча зламаць «макарушак» можна толькі справай, бо «выкрыты фальш — гэта яшчэ не праўда», — як сцвярджае адзін з персанажаў аповесці. І хоць Дубовік не без падстаў лічыць неабходным спачатку «зразумець чалавека ўчарашняга, угадаць заўтрашняга», але ў пагоні за гэтым разуменнем, па сутнасці, саступае з пазіцый, заваяванне якіх вельмі нятанна абышлося ў мінулым.

У выніку нялёгкі саюз Вікі з Дубовікам аказваецца не ў стане даць ёй жаданую апору і, наўрад ці ўзбагаціўшы яе маральна, распадаецца. Што ж датычыць Дубовіка, дык для яго Віка — нечаканы, хоць і ў многім дэтэрмінаваны ўрок, які значна расшырыў круг яго адчування і яго разумення, «Хіба жыццё каго-небудзь чакае? — нібы духоўна ачнуўшыся і на многае зірнуўшы інакш, пытаецца Дубовік у фінале і адказвае: — У яго свой расклад». Безумоўна, жыццё не чакае, і Дубовік прыходзіць да некалькі нечаканага для сябе вываду: нягледзячы на свой значны ўніверсалізм, ваенны вопыт яго ў новых гістарычных умовах па меншай меры недастатковы. Зло ў яго няспынным прыстасаванні да абставін жыцця якасна змянілася, павінны змяніцца і метады барацьбы з ім. Усё значна ўскладнілася, толькі наша непрымірымасць павінна заставацца ранейшай. У гэтай сувязі выяўляецца, што Вікторыя, будучы маладзейшая за Дубовіка на цэлую вайну, у сваёй, хай да канца не ўсвядомленай, у многім жаночай нецярпімасці да зла, мабыць, і старэйшая, больш мудрая за Дубовіка.

Нягледзячы на некаторую камернасць даследуемага мастаком матэрыялу, аповесць гэтая заключае ў сабе надзвычайны па канцэнтрацыі згустак грамадзянскасці. Прыкметна, калі не сказаць моцна, выяўляючы сваю прыхільнасць да тэмы вайны, А. Адамовіч здолеў нібыта зліць у адзін два розныя пласты часу. Свабодная архітэктоніка твора дазволіла аўтару лёгка перамешваць малюнкі сучаснасці з матывамі вайсковага мінулага. Старонкі, якія адносяцца да партызанскай барацьбы, бадай што самыя лепшыя ў аповесці. Вельмі ўдала ўпісваецца ў яе і паездка

герояў на партызанскае свята, неабходная ў аповесці ў якасці своеасаблівага звароту да мінулага Дубовіка. Многія сцэны і вобразы з гэтай сустрэчы як бы маральна прасвятляюць герояў, адлюстраванае святло ад якіх дабром і мірам пранікае ў душу чытача. Пасля гэтага раздзела асабліва разумееш Дубовіка, вобраз вайны для якога «не сціраецца з памяці, а ўразаецца з кожным годам глыбей, як вяроўка ад цяжкае ношы».

Усім сваім вобразным ладам аповесць сцвярджае высакародную думку аб чалавечай і грамадзянскай адказнасці кожнага за сябе і за час, у які ён жыве. Заканамерны зварот Дубовіка ў фінале аповесці да разумення адной з нязменных каштоўнасцей чалавечага існавання — дабраты — успрымаецца як гранічна абвостранае пачуццё чалавечнасці ў самым яго высокім сэнсе. Непрымірымасць да зла, крыштальная праўдзівасць, калі «ўсё павінна быць сказана — сабе, другім, і да канца, і кожным», разумная дзейсная дабрата вызначаюць другі маральны ўрок, які ў выніку засвойвае Дубовік.

Вобразная структура аповесці складаная і вытанчаная. Па характары сваім — гэта скрупулёзна выверaны алоўкавы малюнак, дзе кожны штрых — толькі намёк, контур, у той час як астатняе прадастаўляецца ўяўленню чытача. Складаная асацыятыўнасць апавядання пры стрыманасці і значнасці стылю як нельга лепш сведчаць аб сталасці таленту Алеся Адамовіча, які здолеў у такім невялікім паводле аб'ёму творы выказаць так многа і з выдатным мастацкім густам.

[1966]

## 1967

### Черный хлеб правды

Правда человеческих отношений все с большей настойчивостью утверждается в жизни нашего общества.

Теперь уже стала совершенно очевидной та истина, что сокрытие правды, какого-нибудь нежелательного явления в обществе гораздо опаснее, чем даже самое нежелательное его обнародование. Истинное положение в сельском хозяйстве неоднократно являлось предметом большого обсуждения в различных органах власти. Важнейшие реформы в экономике вряд ли были бы возможны без всестороннего публичного исследования наметившихся в ней конфликтов и неувязок. Степень и глубина

той яго, дарэчы, не самай папулярнай кнігі — «На поўдзень ад галоўнага ўдару», і расказваецца ў ёй аб некалькіх днях цяжкіх баёў ля возера Балатон у Венгрыі. Гэта таленавіта напісаная аповесць — канцэнтрат суровай праўды аб вайне, якой яна навек адбілася ў свядомасці перажыўшых яе франтавікоў, варты помнік тым многім тысячам нашых аднагодкаў, што навек засталіся ля меліярацыйных каналаў і вінаграднікаў венгерскай зямлі. Потым з'явіліся іншыя яго аповесці — славутая «Пядзя зямлі», яркая, як успышка ракеты, «Мёртвыя ганьбы не імуць», ёмісты і мудры «Ліпень 41 года», у якіх мінулая вайна паўстала ў новых, не менш праўдзівых і хвалюючых вобразах. Але гэтая першая ваенная аповесць Бакланава з'явілася для мяне надзвычай наглядным прыкладам таго, як непадмаляваная ваенная рэчаіснасць пад пяром сапраўднага майстра ўвачавідкі ператвараецца ў высокае мастацтва, поўнае хараства і праўды. Ва ўсякім выпадку, з хваляваннем прачытаўшы гэты невялікі твор, я зразумеў, як трэба пісаць пра вайну, і думаю, што не памыліўся.

Сіла бакланаўскага таленту, на мой погляд, заключаецца перш за ўсё ў яго мудрай, ёмістай памяці — на дэталі, атмасферу, псіхалагічны стан тых непаўторна адыходзячых у мінулае год. Менавіта чэрпаючы з гэтай памяці, мастак плавіць у тыглі сваёй душы высокую праўду аб вайне, умела пазбягаючы разбуральных наносаў прыгажосці, прыблізнасці, шаблоннай рыторыкі. Ва ўсім, што б ні напісаў Бакланаў, ён надзіва дакладны і канкрэтны. Так, напрыклад, у акопным артылерыйскім побыце пасля выхаду ягоных кніг проста стала цяжка знайсці свежую, не выкарыстаную ім дэталь, стварыць колькі-небудзь новы тып салдата або малодшага афіцэра. Ён намаляваў цэлую галерэю цудоўных па сваёй дакладнасці характараў франтавікоў, кожны з якіх мог бы стаць гонарам для любога аўтара — столькі ў іх вернасці натуры, псіхалагічнай і сацыяльнай ёмістасці. Пры гэтым нельга забываць, што такія характары, як Багачоў, Матавілаў, Ішчанка, Прышчаміхін, прыдумаць немагчыма, іх трэба назіраць шмат год, жыць з імі, праліць кроў і перажыць вайну, каб пасля з такой яркасцю ўвасобіць іх у літаратуры.

Вернасць факту ваеннага мінулага, рэаліям і людзям вайны зрабілі прозу Р. Бакланава такой ёмістай, дакладнай і разумнай, з'яўленне якой трудна было чакаць праз два дзесяцігоддзі пасля вайны, маючы на ўвазе колькасць аб ёй напісанага. Але ў ягоных кнігах вайна зажыла новым жыццём, у ёй з'явіліся новыя жывыя людзі з іх горам і радасцямі, прастадушшам і хітрасцю — з усёй складанасцю непрыдуманых салдацкіх натур. Да таго ж кожная яго ваенная аповесць — гэта не проста твор пра вайну наогул, гэта яшчэ і дакумент, мноствам яўных і ледзьве ўлоўных прыкмет

прывязаны да канкрэтнага перыяду вайны, пэўнага месца баёў. Так, «Пядзя зямлі» — гэта адзін з днястроўскіх плацдармаў 1944 года. «Мёртвыя ганьбы не імуць» — франтавы эпізод зімы таго ж года на Украіне. «На поўдзень ад галоўнага ўдару» — Секешфехервар, Венгрыя. Адны толькі назвы шмат аб чым гавораць слыху франтавікоў, бо за кожнаю з іх крывавыя баі, раненні, смерці таварышаў. Што і казаць, баклануаўскія кнігі не для лёгкага чціва, у іх, можа быць, надта многа смерцяў, крыві, горычы баявых няўдач, затое не меней і доблесці, стойкасці, душэўнай прыгажосці і мужнасці. Ды і ці ж магчыма інакш! Хіба вялізнейшая з нашых перамог не далася нам самай вялікай цаной, якую калі-небудзь у гісторыі плаціў наш народ?

Знамянальна, што проза Бакланава, апрача таго, што яна глыбока драматычная па сваёй сутнасці, яшчэ і напоўнена тонкім, чароўным лірызмам, як бы асветлена поглядам добрага чалавека, які ўсё разумее, шчыра і па-сапраўднаму любіць людзей. Многія яе старонкі авеяны ціхім смуткам душэўнага спачування. У той жа час, напэўна, рэдка хто іншы ў нашай літаратуры такі непрымірымы да рознага роду подласці і фальшу, як Рыгор Бакланаў. Але нават у сваім асуджэнні ён нешматслоўны і стрыманы. І гэта цудоўна.

І яшчэ — галоўны герой яго кніг амаль заўжды малады чалавек.

Можа, гэта таму, што наша пакаленне вельмі маладым пайшло на тую, магчыма, апошнюю вайну і наша маладосць вызначыла ў ёй і наш лёс. Мы былі салдатамі або лейтэнантамі, адпаведным нашаму чыну аказаўся і наш вопыт — вопыт франтавікоў-акопнікаў, — салдацкі вопыт, які атрымалі на вайне мільёны. Наўрад ці хто з нас разлічваў дажыць не толькі да генеральскага чыну, але і да генеральскага ўзросту, мары такога роду былі не для нас. І калі ўсё ж лёс зліставаўся над некаторымі з нас і мы сёння маем магчымасць вітаць аднаго з нашых аднагодкаў, дык робім гэта з радасным усведамленнем таго, што сляпы выбар лёсу не аказаўся марным. Што датычыць Рыгора Бакланава, дык ён са шчодрасцю, уласцівай значнаму таленту, аплаціў гэтыя падараваныя яму вайной гады, стварыўшы нямала сапраўды цудоўных старонак аб нашым трудным і гераічным мінулым.

[1973]

## Что всего важнее

Юные читатели этой книги найдут в ней образы своих сверстников — тех, кого они знают и видят в школе, колхозе, на производстве, с кем они делят свои повседневные ребячьи радости, дела и заботы которых им хорошо известны. Здесь они прочтут о ребятах, которые навеки остались подростками, чья жизнь сгорела в пламени незабываемых героических огненных лет.

Наверное, ни в одной из войн прошлого не была такой трудной и героической судьба тех, кто, не принимая в них непосредственного участия, тем не менее боролся не на жизнь, а на смерть, как это имело место в минувшей Великой Отечественной войне нашего народа.

Действительно, не будучи солдатами в строгом смысле этого слова, дети, женщины, старики рисковали почти наравне с воинами, сражавшимися на фронте, потому что тоже боролись и нередко лишались жизни в этой борьбе. И все дело в том, что не бороться они не могли, а фронт их борьбы проходил тут же — и не только по полям, деревням, но и по душам и сердцам тысяч людей, населявших оккупированные территории нашего Союза.

За свободу своего Отечества сражались все: взрослые на переднем крае и в партизанских отрядах, дети и женщины дома, у порога своих жилищ, на деревенской околице. Боролись, так как понимали, что только беззаветная совместная борьба может спасти поруганную фашизмом честь Родины и вернуть временно утраченную свободу. И эта свобода была возвращена, но плата за нее в человеческих жизнях оказалась такой огромной, что мы не вправе забыть о ней ни сегодня, ни когда-либо в будущем.

Враг был силен и беспримерно жесток. За малейшую провинность или оплошность со стороны населения, а тем более за прямое неповиновение властям не было пощады ни старым, ни малым. Отвечали поголовно все. Сотни тысяч людей были лишены свободы и жизни в многочисленных концлагерях, многие тысячи расстреляны без суда и следствия, другие сожжены вместе с их жилищами. На местах сотен сельских домов остались закопченные трубы уцелевших от пожаров печей.

Хатынь — именно такая, некогда ничем не примечательная деревенька в партизанском крае на Минщине, которую постигла самая жестокая участь из всех возможных в прошлой войне. Тихим мартовским днем сорок третьего года отряд немецких карателей окружил деревню и за несколько часов сжег ее вместе со всеми жителями.

В этой книге — живой и бесхитростный рассказ о людях Хатыни, о ее беспримерной трагедии, о ребятишках этой лесной

деревеньки, которые никогда уже не станут взрослыми. Кто знает, сколько бы вышло из них замечательных людей труда, науки и культуры, которыми, может быть, гордились бы последующие поколения, но вот их нет и никогда уже не будет.

Писательница собрала огромный материал об этой деревне, и хотя собрать его было нелегко, потому что до обидного мало осталось живых свидетелей довоенной жизни хатынцев да и самой страшной трагедии, повествование отличается правдивостью и достаточной полнотой. Перед глазами читателя в трудах и заботах проходит жизнь двух крестьянских семей с их нелегкой довоенной судьбой, до краев полной тревог и лишений в годы войны. Читатель увидит прямого, честного, умудренного жизнью деда Карабана, бескорыстного друга детворы и советчика старших; познакомится со скупо, но точно очерченным образом бабки Тэкли или незадачливого Пучка. Особо выделены авторским вниманием судьбы младших хатынцев — Лёксы, Адася, Антошки, и как бы в дополнение к ним приведен рассказ городской девочки Анюты о страшной жизни в оккупированном Минске — рассказ, трогающий и ужасающий детской своей непосредственностью.

Разные люди населяли эту деревню, с различными человеческими характерами, разными склонностями и привычками. Но тот мартовский день сорок третьего года объединил всех единственной и общей трагической судьбой, за которой осталась вечная память о них, свято сберегаемая согражданами. На месте сожженной Хатыни теперь огромный государственный мемориал как знак памяти о безвременно погибших людях этой деревни и многих сожженных в войну белорусских селах. Однако самый прекрасный архитектурный памятник не в состоянии во всей полноте передать нам тепло загубленных человеческих жизней, которые теперь так близки и интересны каждому. Нам хочется знать, как жили хатынцы, ощутить их людские тревоги и волнения, познать их надежды, которым не суждено было сбыться. Для того и написана эта повесть, которая помогает лучше понять и запомнить тех, кого нет с нами, но чей подвиг на века будет освещать нашу свободную жизнь, являя собой пример беззаветной любви к социалистической Родине.

Во второй части книги — повести «Голубой экспресс» — уже другая, ничем не похожая на военное лихолетье, мирная человеческая жизнь, но в ней те же деревенские и городские ребята, учащиеся железнодорожного профтехучилища, постигающие мудрость трудовой науки в сельском строительном отряде. Оказывается, это совсем не просто — построить необходимый колхозу коровник, это не только физический труд,

требующий значительных усилий еще не окрепших ребячьих рук, но и сложность трудовых взаимоотношений, в которых каждый из ребят познается в своем истинно человеческом качестве. Писательница хорошо знакома с бытом, укладом и трудом такого коллектива подростков, так как сама работала в строительном отряде, постигла многотрудные сложности воспитания и ребячьих взаимоотношений. Но в этих трудностях, в борьбе каждого с собой, с производственными неурядицами, нечестностью некоторых старших товарищей, в процессе труда из обычных — прилежных, нерадивых, слабых и посильнее — характеров выковываются будущие труженики, формируется трудовой коллектив. В этом мне видится главное достоинство повести, которая, надо полагать, понравится любознательному, строгому и взыскательному молодому читателю.

[1973]

## 1974

### [Выступленне на вечары з нагоды 50-годдзя]

Я вельмі ўдзячны ўсім, хто сёння прыйшоў сюды, хто сказаў пра мяне шчырае слова, хто прынёс цёплае пачуццё да бел[арускага] слова і беларускай л[ітарату]ры.

З гэтай, можа, не надта для мяне вясёлай нагоды я хацеў бы сказаць, што талент, які ён ні ёсць, не вырастае на пустым месцы, што ён можа існаваць толькі за кошт сокаў роднай зямлі, роднай культуры, узрошчанай потам, лёсам, крывёю яе лепшых працаўнікоў у стагоддзях. Толькі сумленне, праца, пакуты даюць найбольшае капіталаўкладанне ў культуру, толькі яны вызначаюць яе кошт у скарбонцы вялікай культуры свету, вартасці якой прама прапарцыянальны ўкладзеным у яе талентам і сумленню. Таму ўсё тут сказанае ў мой адрас я ўспрымаю як аванс на няздзейсненае, якое я мушу цяпер здзейсніць у адведзены мне час жыцця.

Я вельмі ўдзячны ўсім, хто чытаў мае творы, у нейкай меры падзяляў мае думкі, разумеў мае, можа, і не заўжды, як належыць, выражаныя, але заўжды шчырыя турботы.

Я ўдзячны тым, хто некалі дапамог мне на пачатку майго літ[аратурнага] шляху, і чыю дапамогу я буду памятаць да скону сваіх дзён. Я маю на ўвазе найперш тых, каго ўжо няма — Г. Шчарбатава, М. Васілька, А. Т[вардоўскага] і тых, хто, на маю радасць, жыве і творыць: П. Панчанку, А. Кулакоўскага, Р.

Сабаленку, А. Адамовіча, А. Асіпенку.

Я ўдзячны роднаму майму часопісу «М[аладосць]», з якім звязана амаль што ўсё мной напісанае.

Дзякуй маім крытыкам, злым і добрым, кожны з якіх зрабіў сваю справу і так ці інакш паспрыяў майму літ[аратурнаму] лёсу.

Дзякуй кіраўніцтву СПБ, дзе я ніколі не адчуваў сябе пасынкам, а нават у трудныя часы сустракаў разуменне і спагаду. Дзякуй кіраўніцтву Рэспублікі, якое з клопатам і разуменнем адносілася да таго, што выходзіла на друкаваных старонках за маім подпісам і, калі ў тым была неабходнасць, папраўляла і накіроўвала маю творчасць.

Дзякуй маім чытачам, без падтрымкі і спачування якіх не мела б ніякага сэнсу ўся нашая творчасць.

Дзякуй вам, дарагія сябры!

[19 чэрвеня 1974 г.]

## Жыццём абавязаны

Якім бы дасканалым ні было наша пісьменніцкае ўяўленне і яго здольнасць дамысліваць, у аснове рэалістычнай творчасці заўжды будуць вопыт, жыццё, выдатныя падзеі эпохі, сведкамі, а яшчэ лепш — удзельнікамі якіх мы былі. У гэтым сэнсе наша Вялікая Айчынная вайна стала не толькі найвялікшым выпрабаваннем у жыцці народа, але і рознабаковай школай народнай мужнасці, акадэміяй жыцця для тысяч маладых людзей, нашых сучаснікаў. Франтавы вопыт многіх з нас, стаўшы першым жыццёвым вопытам наогул, даў пасля выдатны матэрыял для нашай ваеннай літаратуры.

Аднак вядома, што час робіць сваю адвечную справу, і з кожным дзесяцігоддзем усё далей у незваротнае мінулае адсоўваюцца падзеі тых агняных гадоў, туман небыцця ўсё шчыльней засцілае справы і твары людзей, вырваных з таго жыцця вайной. Апроч нас і нашай недасканалай памяці, што яшчэ можа ўтрымаць іх у нашай свядомасці, зберагчы для гісторыі?

Вядома, шмат што можа зрабіць мастацтва.

Аднак мастацтва і літаратура пра вайну, маючы пэўную схільнасць да эпічнага і ўзвышанага, нярэдка мінаюць прыватнае і звычайнае, якімі б характэрнымі яны ні былі. У лепшым выпадку індывідуальнае, згубіўшы сваю канкрэтнасць, служыць хіба што нагодай, зыходным матэрыялам для мастацкіх абагульненняў.

Але як жа тады быць з радавым удзельнікам вайны, які меў свой канкрэтны характар, сваё няхай мала каму вядомае, але

рэальнае імя, не праславіўся гучнымі подзвігамі, але ўсё ж крывёю або жыццём зрабіў свой уклад у справу перамогі? Вядома ж, усіх і кожнага не ўвекавечыць нават самай стараннай і працавітай літаратуры ўжо хоць бы па той прычыне, што іх — безліч. Тры беларускія пісьменнікі і сябры — А. Адамовіч, Я. Брыль і У. Калеснік — стварылі цудоўную кнігу, сабраную са сведчанняў сотняў людзей, цудам уцалелых пры масавых фашысцкіх акцыях. Кніга гэта ўнікальная як па сваім змесце, так і па маштабах ахопу. Але і яна далёка не вычэрпвае дадзенай тэмы, таму што як ні стараліся гітлераўскія эйнзацкаманды, сведкаў іх злачынстваў засталося нямала.

Я пра многае ўжо напісаў з таго, што бачыў і перажыў на вайне, але павінен прызнаць, што ўсё напісанае — толькі малая частка майго сціплага франтавога вопыту. Куды больш з яго не знайшло сабе месца ў маёй франтавой прозе, і невядома, ці знойдзе.

Канешне, хацелася б напісаць пра ўсё, каб хоць часткова адплаціць наш неаплатны доўг перад тымі, каго замест нас вырвала з жыцця вайна. Праўда, мабыць, няма неабходнасці ў кожным асобным выпадку брацца за тоўстую кнігу, можа, больш адпаведным іх памяці будзе простае і сціплае апавяданне аб іх салдацкім жыцці.

Так, больш за трыццаць гадоў у маёй памяці жыве вобраз лейтэнанта Пятра Міргарада.

Ён не быў маім сябрам, хутчэй наадварот: я недалюбліваў яго за лішнюю, як мне здавалася тады, гарачнасць, не заўсёды абгрунтаваную прыдзірлівасць старшага начальніка да свайго падначаленага. Канешне, ён валодаў такім правам, бо з'яўляўся камандзірам роты, у якой я служыў узводным. Я не ведаю, дзе ён цяпер, перажыў ці не гэтую вайну або, можа, даўно ўжо склаў сваю неспакойную галаву, але ён выразна бачыцца мне жывым — у сваім апаленым, караткаватым шынялку, шапцы, з аўтаматам на плячы, якім я ўпершыню ўбачыў яго ў тую заінелую снежаньскую раніцу, калі ён падвёў мяне да кароценькага строю майго стралковага ўзвода. Ён прадставіў узвод мне, а мяне прадставіў байцам — хмурым, недаспаным, азяблым, якія чакалі тады спазнелы сняданак. Я хацеў аб чымсьці запытаць байцоў, але ён нецярпліва кінуў: «Ладна, пасля пазнаёмішся. Камандуй! Праз дваццаць хвілін атака!»

Праз дваццаць хвілін была атака, шалёна лупцавалі варожыя кулямёты, а мінныя разрывы чорнымі плямамі за дзесяць хвілін спярэсцілі ўсё поле. Хутка мы залеглі, здавалася, не ў стане болей падняцца. Каб вызначыць шчыльнасць агню, камандзір роты на некалькі секунд ускінуў над сабой малую лапатку, і ў метале яе

адразу ж з’явіліся дзве рваныя дзіркі ад куль. І ўсё ж мы ўсталі, паднялі байцоў і атакавалі вёску, на ўскрайку якой у брацкай магіле засталася трэць нашай роты.

Часам нам даставалася і болей.

Дзесьці на правабярэжнай Украіне, непадалёк ад Дняпра, згубілася вёска Севярынаўка, у стэпе пад якой нам суджана было перажыць найгоршае і расстацца.

Відаць, правароніла наша ахова, што ўвогуле было зразумела: у стэпе змяркалася, з аднаго боку дарогі ляжала непрыбранае кукурузнае поле, з другога месцамі цямнелі рэдкія сціpты саломы. Танкі наваліліся на нас нечакана, усе разам адкрыўшы агонь па батальённай калоне, у якой не было нават супрацьтанкавых ружжаў. У марознай прасторы загуло, загрукатала, крыжуючыся і разлятаючыся ў бакі, заблісталі сотні аўтаматных трас, пад якімі ўрассыпную беглі байцы. Танкі, завёўшы маторы, пачалі нас праследаваць, расстрэльваючы на хаду з усяе танкавай зброі. Не шмат каму ўдалося дабегчы да рэдкіх сціртаў, большасць назаўжды палегла на аснежаным полі, але і тых, што апынуліся за сціртамі, хутка дагналі танкі.

Непадалёку ад сціртаў я быў паранены і, імкнучыся адолець апошнія метры да сховішча, ліхаманкава поўз па снезе, цягнучы параненую нагу. Заставалася прапаўзці, можа, сто метраў, як мяне пачаў даганяць танк. Гэта быў не «тыгр» і не «фердынанд» — звычайны, добра знаёмы франтавікам сярэдні «Т-111», але і такога для мяне было дастаткова. Яшчэ здалёку кулямётчык запусціў па мне даўжэзнай чаргой, кулі з рассейваннем прабеглі па снезе, прадзіравіўшы мой шынелак і перабіўшы раменьчык палявой сумкі. Іншыя танкі расстрэльвалі тых, хто яшчэ бег да сціртаў, а гэты, здаецца, надумаўся раздушыць мяне гусеніцай і, трошкі прытармазіўшы, выразна павярнуў у мой бок. Уцячы ад яго я не мог, схавацца не было куды, скорчыўшыся на снезе, я з жахам глядзеў, як ён, скрыгочучы гусеніцамі і гайдануўшыся на павароце, рэзка рвануў да мяне. У маёй свядомасці мільганула адзіная думка: «Канец!», інстынктыўна я падабраў ногі, і тут грымотны выбух скалануў танк. Прыкметна губляючы хуткасць, той прагрукацеў побач, ледзьве не раструшчыўшы мае ногі, толькі ўціснуў у снег полы майго шыняля і нерашуча спыніўся. І тады я ўбачыў ротнага, знаёмая постаць якога мільганула за танкам. Ён нешта крычаў мне і схапіўся за аўтамат — з усіх люкаў машыны ўжо выскаквалі танкісты. І тады я сцяміў, што гэта работа ротнага, які ў апошняе імгненне паспеў кінуць кумулятыўную супрацьтанкавую гранату і падарваць танк.

Потым была доўгая ноч у марозным стэпе, хтосьці мне дапамагаў, мы дабраліся да дарогі, набрылі на фурманку.

Міргарада я болей не бачыў.

Нішто так не цанілася на фронце, як таварыская ўзаемавыручка, пачуццё абавязку перад таварышамі, што трапілі ў бяду. Мноства разоў танкісты выручалі пяхоту, пехацінцы — артылерыю, наземныя войскі з паветра апекавала авіяцыя. Прыклады ўзаемавыручкі і высокай адказнасці за сваіх асабліва памятаюцца праз гады.

Неяк пад Луцкам у наш батальён прыбылі два малодшыя сяржанты — Свінцоў і Пронін. Яны былі залічаны ў мой узвод ПТА, які складаўся тады з дзвюх старога ўзору «саракапятак»: Свінцоў — камандзірам гарматы, а Пронін — наводчыкам.

У цяжкіх баях пад Секешфехерварам у Венгрыі здарылася так, што батальён, які вырваўся наперад, аказаўся без артылерыйскай падтрымкі, без танкаў. З супрацьтанкавых сродкаў засталася адна мая «саракапятка». І вось раніцай батальён, які разгарнуўся для наступлення, атакавалі нямецкія танкі.

Іх было нямнога, усяго якіх-небудзь сем штук, і яны не спяшаліся. Батальённы ланцуг залёг на адкрытым, падмерзлым полі, і танкі, паволі пасоўваючыся, пачалі метадычна выбіваць яго, пасылаючы ў кожнага байца па снараду — боепрыпасаў у іх хапала.

Мы таропка развярнулі «саракапятку» на нешырокай прасёлачнай дарозе, што абрасла рэдкім кустоўем, і скрозь яго адкрылі агонь. Але танкі ў адносінах да нас знаходзіліся наўкось у полі, так званы «вугал сустрэчы» снарада з бранёй аказаўся вельмі малы, і ўсе нашы бранябойныя снарады, ярка бліскаючы трасёрамі, разляталіся ад танкаў у бакі. Як заўсёды, у гарачцы бою нам здавалася, што вінаваты наводчык, што ён кепска наводзіць, «мажа»; мы злосна крычалі на яго, і ён, не менш злосна мацюгаючыся, пасылаў снарад за снарадам, і ўсё марна. Пасля дзясятка стрэлаў я кінуўся з канавы да гарматы, як раптам пад самым яе ствалом грымнуў разрыў, і гармата, скокнуўшы ўгору, завалілася набок. Падняўшыся, я адчуў, што паранены: з рукава па пальцах густа палілася кроў. Праз якую хвіліну з шасці чалавек разліку здолелі падняцца толькі двое, у тым ліку і паранены ў плячо Пронін. Мы падхапілі нашу ручную зброю і пад кулямётным агнём пачалі адыходзіць у тыл.

Тым часам, скончыўшы з гарматай і асмялеўшы, танкі падышлі яшчэ бліжэй да батальённага ланцуга, рэшткі якога нават не імкнуліся бегчы, бо бегчы не было куды: ззаду прасціралася адкрытае поле. Але цяпер у адносінах да агнявой пазіцыі гарматы яны аказаліся бокам, бяспечна падставіўшы свае слабыя для снарада барты. Пронін, які ўвесь час мацюгаўся і плакаў, бадай, болей ад роспачы, чым ад ранення, нічога не сказаўшы, раптам

выскачыў з-за кустоўя, дзе мы перавязалі адзін аднаго, і пабег да гарматы.

«Саракапятка» добра была пакарэжана, прыцэл разбіты, але ствол і замок былі, мабыць, спраўныя, і Пронін адкрыў агонь. Лежачы ў канаве, мы чулі злыя ягоныя выкрыкі каля гарматы і бачылі, як зноў замільгалі бранябойныя трасы — у барты, пад вежу, па маторах фашысцкіх танкаў. Хутка адзін з іх задыміў, другі стаў разварочвацца, сцелючы па зямлі перабітую гусеніцу. Але вось некалькі танкавых вежаў паспешна развярнуліся ў бок дарогі, і тры амаль адначасных стрэлы з іхніх гармат назаўжды скончылі з нашай «саракапяткай».

Чаму Пронін рашыўся на гэта самаахвяраванне? Пачуццё адказнасці і свайго воінскага абавязку, думаю, кіравала ім.

У сваёй прозе я так і не знайшоў месца ні для Міргарада, ні для Проніна, аб чым не перастаю шкадаваць і цяпер, але і нічога не магу зрабіць. Відаць, усё ж мастацкая проза больш выбарачная па сваёй прыродзе, чым які іншы від мастацкай творчасці. Таму хай гэтыя скупыя радкі будуць маёй сціплай данінай памяці тым, аб кім я заўсёды думаю і каму абавязаны самым дарагім — жыццём.

[1974]

## [Інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва»]

*— Ад усяго сэрца віншуем з прысуджэннем Дзяржаўнай прэміі СССР. Мы шчыра рады за вас.*

— Дзякуй. Для мяне гэта вялікі гонар — атрымаць Дзяржаўную прэмію СССР разам з такімі сусветна вядомымі майстрамі літаратуры, як Кайсын Куліеў і Леанід Мартынаў. Удзячны за прысуджэнне прэміі Камуністычнай партыі і Савецкаму ўраду. Я разглядаю гэту ўзнагароду як усесаюзнае прызнанне дасягненняў усёй беларускай літаратуры.

*— Прэміяй адзначаны вашы аповесці «Абеліск» і «Дажыць да світання» — творы пра вайну, пра подзвіг чалавека на вайне. Напярэдадні трыццатай гадавіны з Дня Перамогі гэта набывае асаблівае гучанне.*

— Так. Значэнне прэміі яшчэ і ў тым, што ў даным выпадку яна прысуджана за творы на тэму вайны. Склалася так, што амаль уся мая літаратурная творчасць так ці інакш прысвечана ваеннай тэматыцы. Хаця вайна, як вядома, працягвалася чатыры гады, яна склала цэлую эпоху ў жыцці савецкага народа. Асабліва гэта датычыла гістарычнага лёсу беларускага народа, які спазнаў

поўную цану барацьбы, страт і нашай вялікай Перамогі. І дагэтуль у беларускіх гарадах і вёсках поўна напамінкаў вайны, хаця даўно ўжо няма разбурэнняў і руін. Гарады і вёскі адноўлены і расквітнелі, але сляды вайны засталіся ў душах людзей. Яшчэ і дагэтуль маці памятаюць сваіх сыноў, яшчэ і цяпер вырасвыя дзеці пакутуюць ад невядомасці пра сваіх загінуўшых бацькоў, яшчэ і цяпер даволі інвалідаў, пакалечаных той, мінулай вайной.

Літаратура наша шмат зрабіла ў адлюстраванні гістарычнага подзвігу народа — ва ўсіх жанрах створаны шэраг выдатных твораў пра вайну, але ці значыць гэта, што пра адно з найвялікшых гістарычных выпрабаванняў сказана ўсё? Я думаю, што тэма гэтая бязмежная. І не толькі мы, сведкі і ўдзельнікі гэтага выпрабавання, павінны напісаць яшчэ шмат, але аб ёй, аб вайне, будуць пісаць яшчэ многія пісьменнікі з тых пакаленняў, якія прыйдуць пасля нас.

— *Пытанне вам як удзельніку вайны і пісьменніку. У якой ступені пражытае вамі дапаўняецца творчым домыслам?*

— Суадносіны ўласнага вопыту з чыста літаратурным домыслам — праблема вельмі складаная для пісьменніка. Відаць, у працэсе творчасці адно ўдаемадзейнічае з другім. Хаця — у розных пісьменнікаў, можа, у рознай меры. Адны аддаюць перавагу свайму вопыту, факту, другія — наадварот. Людзі з добра развітым уяўленнем, чыста мастакоўскай фантазіяй болей любяць кіравацца сваім мастацкім чуццём. У мяне было па-рознаму. Некаторыя творы ўзніклі цалкам на базе факту і вопыту, іншыя — былі сканструяваны, калі можна так сказаць, з дапамогай уяўлення і ведання падзей. Гэта, напрыклад, адносіцца амаль да ўсіх партызанскіх аповесцей — бо асабістага вопыту ўдзелу ў партызанскай вайне ў мяне няма.

— *Як спрыяла работа ў газеце вашаму станаўленню ў літаратуры?*

— Работа ў газеце «Гродненская правда» паслужыла пэўнай школай. Журналісцкае асяроддзе папярэднічала літаратурнаму. Хаця газета спецыяльна не займалася літаратурай, але час ад часу друкавала вершы, літаратурныя старонкі. Так выпрацоўваліся першыя навыкі журналістыкі і пісьменніцтва. І яшчэ. Работа над словам. Безумоўна, слоўнік газетчыка не надта багаты: што там гаварыць пра метафары, народныя выразы... Але ў той жа час газетная школа, як ніякая, вучыць эканомнасці, папярэджвае ад усялякай моўнай празмернасці, вучыць абсалютнай стылістычнай строгасці. Безумоўна, для пісьменніка патрэбна развіццё тых навыкаў, якія дае газета, патрэбна ўдасканаленне іх, потым газетныя навыкі саслужаць харошую службу.

— *Мы ведаем, што вы зараз заняты ў кіно. Як там справы?*

— На студыі «Беларусьфільм» і на студыі «Ленфільм» здымаюцца фільмы «Воўчая зграя» і «Дажыць да світання».

Як вядома чытачам, адна аповесць — пра партызанскую вайну ў Беларусі, дзеянне другой — адбываецца ў першы год вайны пад Масквой. Натурныя здымкі «Воўчай зграі» праходзілі на станцыі Лынтупы і ў Смалявічах. Здымае фільм рэжысёр Б. Сцяпанаў, добра мне знаёмы. «Дажыць да світання» здымае рэжысёр Віктар Сакалоў.

— *Над чым вы працуеце цяпер?*

— Пішу новую аповесць пра вайну. Назвы яшчэ няма. Увесь час заняты здымкамі. Апрача таго, МХАТ працуе над п’есай «Апошні шанц». І ад мяне патрабуецца шмат намаганняў — я ўжо не проста аўтар, а аўтар пераробак і ўдасканаленняў.

Інтэрв’ю ўзяў А. Мажэйка.
[1974]

## [Интервью газете «Труд»]

— *Литературные критики, особенно в последнее время, много писали о вашем творчестве, называли главные проблемы, которые вы ставите в своих произведениях. А как вы сами сформулировали бы эти проблемы?*

— Видите ли, мне трудно сжато, коротко назвать проблемы, которые я ставил и уже сформулировал в своих произведениях. Ну, пожалуй, так: это попытка исследования нравственности нашего советского человека в условиях большой кровопролитной, длительной борьбы против немецкого фашизма. Сюда входят, очевидно, все стороны нашей нравственности, нашей духовности: идейность советского человека, его верность Родине, товарищество, взаимная выручка. На войне нравственный фактор был очень важен, правда, как и всегда в жизни. Но на войне он был особенно важен, потому как в конечном счете исход войны и наша победа определялись нашей высокой нравственностью, нашей высокой идейностью и убежденностью.

— *Вы почти ответили на мой второй вопрос. И все же: почему эти глубинные, нравственные проблемы вы решаете именно на материале войны?*

— Конечно, их можно решать в искусстве на различном жизненном материале. Но меня интересует именно период войны в нашей истории как время, которое наиболее мне близко, знакомо по личному опыту. И, кроме того, в периоде войны, очевидно, заложены очень большие возможности для таких исследований,

возможности большие, мне так думается, чем в обыкновенной мирной жизни.

— *Все ваши произведения по жанру — повести. Чем это объясняется?*

— Я начинал с рассказов. Но потом постепенно перешел к жанру повести, потому, как мне показалось, что для задач, которые я сам перед собой поставил, жанр этот наиболее емкий, он позволяет с максимальной глубиной и в то же время весьма экономно исследовать человеческую нравственность. Повесть перед романом вообще, на мой взгляд, имеет явные преимущества.

— *Какие?*

— Повесть позволяет сосредоточиться целиком на каком-то одном жизненном моменте. Писатель берет небольшой промежуток времени, ограниченное количество героев и максимально углубляется в изучение духовного содержания своих персонажей, в их нравственность. Роман же требует широкого охвата и времени, и пространства, он всегда многопланов. Есть много примеров, когда романы не удавались писателям именно в силу ширины своего охвата: охватывалось гораздо больше, чем удавалось глубоко исследовать. А если еще роман событийный, эта событийность вообще отодвигает психологизм на второй план. Автор, идя вслед за событиями, за действием, просто не имеет возможности углубленно исследовать человеческую психику.

— *Василий Владимирович, вы сказали, что военное время вам знакомо по личному опыту. Означает ли это, что ваши повести автобиографичны?*

— В значительной степени да. Хотя это вовсе не значит, что мои повести целиком построены на воспоминаниях. Моя военная биография накладывает свой свет на все произведения. Но в одних какие-то моменты моей фронтовой жизни отражены довольно полно, например, в повестях «Третья ракета», «Атака с ходу», другие произведения к моей биографии прямого отношения не имеют. Это прежде всего «партизанские» повести, ведь у меня не было личного опыта партизанской войны. Тем не менее опыт вообще фронтовой войны позволяет видеть и в этой партизанской войне очень многое. Вот и выходит, что одни произведения буквально взяты из моего прошлого, а другие созданы на основании этого прошлого.

— *Где вы сражались во время войны?*

— На Украинских фронтах, за границей — в Румынии, Венгрии. Закончил войну в Австрии в звании лейтенанта, командира взвода.

— *Военная тема в искусстве. Ей, по-видимому, суждена долгая жизнь. Как вы представляете себе будущее этой темы?*

— Думаю, что будущее этой темы — во все большем углублении психологических исследований различных моментов войны, различных героев ее. На мой взгляд, у нас сейчас несколько суженно пошло развитие этой темы, а именно в направлении исследования героизма — ведь героизм тоже имеет множество всяких нюансов, всяких аспектов. Поэтому, я думаю, искусство военной темы будет все больше углубляться в психологию людей войны, изучать и то, что мы сейчас называем частностями.

*— К военной теме сейчас обратились и художники молодого поколения, которые сами не пережили войну. Как вы думаете, могут ли эти люди достаточно серьезно и правдиво рассказать о войне?*

— Я думаю, что могут и они написать о войне достойно.

Ведь Толстой, к примеру, писал о войне 1812 года, хотя сам ни участником ее, ни даже свидетелем не был. Но для этого, конечно, нужен прежде всего талант и художническая добросовестность — это обязательно. И только в таком случае возможно создание вполне художественных и глубоких произведений.

*— Когда Толстой писал «Войну и мир», память о войне 1812 года уже достаточно стерлась и мало очевидцев ее осталось в живых...*

— Да, это верно, конечно. Но ведь уже есть примеры, когда люди, которые не принимали участия в войне, тем не менее создали произведения весьма интересные. Это произошло, думаю, потому, что, помимо какого-то антуража, помимо частностей и деталей войны, которые не доступны людям, в ней не участвовавшим, в их распоряжении есть еще и такое — более общее и более важное и интересное для искусства, — как психология. И для талантливого, хотя и молодого автора она-то доступна.

*— Ваши герои часто принимают решения, от которых зависит жизнь других людей и их собственная. Это традиционный прием в искусстве. Чем он вас привлекает?*

— Прием традиционный, но, я думаю, убедительный для того, чтобы выразить те нравственные моменты в жизни человека, которые меня интересуют. Ну, и потом на войне подобные ситуации были правомерны, что ли.

*— Вы не помещаете своих героев в обстановку больших битв, известных сражений, а берете локальные «безымянные» события. Объясните, пожалуйста, почему?*

— На огромном фронте войны битвы происходили каждый день и каждый час. И не обязательно это были битвы большие. Больших битв было, наверное, меньше, чем повседневных, самых

обыкновенных. За Сталинград была одна битва, а за какой-нибудь безымянный хуторок, высотку, которых тысячи на нашей земле, битвы происходили на всех фронтах непрерывно.

Это не в моем, что ли, вкусе — исследовать большие битвы. Моя задача гораздо скромнее, и мне достаточно для того, чтобы выразить то, что я хочу, маленького, боя в течение одних суток за какую-нибудь безымянную высотку с ручьем. Потому как, я полагаю, там происходило все то же самое, что и, скажем, в большой битве, только в меньших размерах. Но для меня эти размеры вполне достаточны, потому как они дают возможность исследовать мысли и поступки двух-трех человек. Для меня это интереснее, чем исследовать многие массы войск.

— *Как вы работаете?*

— Обыкновенно. Пишу тогда, когда появляется такая возможность, то есть когда созревает образ или действие, очередная глава. Тогда сажусь и пишу. Это бывает в разное время: может быть днем, может быть вечером. Пишу я по главам. Глава, как картина, как сцена, я ее изображаю в один присест. Ну, потом идет, разумеется, читка, правка и доработка. Пишу последовательно — от главы к главе. Никогда не начинаю с конца и не возвращаюсь в начало, а с самого первого слова, первого замысла, первой картины и так — до конца.

— *Какие фильмы по вашим сценариям сейчас снимаются?*

— «Волчья стая» на белорусской студии и «Дожить до рассвета» на «Ленфильме», где я выступаю в качестве соавтора сценария вместе с Виктором Соколовым, режиссеромпостановщиком.

— *Недавно вы впервые обратились к театру…*

— Это было трудное, надо сказать, обращение. Оно отняло и много сил, и времени, и я не считаю это обращение перспективным. Я обнаружил, что театр меня мало увлекает, хотя я очень добросовестно, в полную силу поработал года полтора и написал две пьесы. Это «Последний шанс» для МХАТа и еще есть одна пьеса — «Решение». Она была напечатана в журнале «Неман» года два назад, но еще не ставилась.

— *Над чем вы сейчас работаете?*

— Пишу одну небольшую повесть, тоже на военную тему.

Названия у нее еще нет, еще только-только рождаются первые страницы. Думаю, может быть, в течение осени и зимы я ее напишу.

Интервью вел С. Пархомовский.
[1974]

## [Інтэрв’ю БелТА]

— Для мяне паказ «Апошняга шанца» на купалаўскай сцэне — падзея вельмі важная, хвалюючая. У час работы калектыву над п’есай я часта бываў у тэатры. Сцэнічныя вобразы нараджаліся на маіх вачах, і я шчыра ўдзячны рэжысёру спектакля Валерыю Мікалаевічу Раеўскаму, акцёрам Леаніду Рыгоравічу Рахленку, Галіне Кліменцьеўне Макаравай, Паўлу Васільевічу Кармуніну і іншым за выдатнае ўвасабленне галоўнай ідэі п’есы. Яе раскрыццю, эмацыянальнай напоўненасці спектакля дапамагае арганная музыка Сяргея Картэса і мастацкае афармленне, зробленае Барысам Герлаванам.

Гэта чыста аўтарскія ўражанні. Здаецца, што іх падзяляюць і гледачы, якія так цёпла прынялі спектакль.

Цяпер з хваляваннем чакаю новага нараджэння сваёй першай п’есы — у МХАТ. Спектакль, як прынята гаварыць у тэатры, ужо «на выхадзе». Яго вырашэнне адрозніваецца ад купалаўскага, і гэта натуральна, паколькі розныя рэжысёрскі почырк, традыцыі калектываў, афармленне, выканаўцы. Але адзіным застаецца лёс герояў-падпольшчыкаў, іх паядынак з гестапа. У гэтым паядынку раскрываюцца характары савецкіх людзей, іх ідэйная перакананасць, вера ў перамогу, якія даюць ім сілы з гонарам вытрымліваць усе выпрабаванні.

Для мяне, пісьменніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, вельмі важна, што калектывы двух лепшых тэатраў краіны прысвячаюць гэты спектакль 30-годдзю Перамогі над фашызмам.

[1974]

## 1975

### Вялікая акадэмія — жыццё

*— Раскажыце, калі ласка, аб вашай «дапісьменніцкай» біяграфіі. Гэта не проста цікавасць: многае ў творчасці пісьменніка вызначаецца ўжо тым, што прымусіла яго ў свой час узяцца за пяро, як і ў сувязі з чым у ім абудзіўся мастак. Якую ролю ў гэтым адыграла ваша знаходжанне на фронце? Для людзей нашага пакалення (мы равеснікі, у нас агульны ваенны лёс) вайна была і засталася галоўным жыццёвым выпрабаваннем, многае ў нас сфарміравала менавіта яна. Барыс Слуцкі вельмі трапна*

*заўважыў, што наша пакаленне вайна перастварыла «по своему образу и подобию». Чым сталі гэтыя гады вайны для вас, што значылі для вашага пісьменніцкага лёсу?*

— Нарадзіўся і вырас я ў Беларусі, у перадваенныя гады вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы, займаўся скульптурай, выяўленчым мастацтвам і не думаў аб пісьменніцтве. Але вось грымнула Вялікая Айчынная вайна, якая застала мяне летам 1941 года ва Украіне і пазней прывяла ў Саратаўскае пяхотнае вучылішча. Пасля яго заканчэння на пасадзе камандзіра стралковага ўзвода, узвода аўтаматчыкаў і ўзвода супрацьтанкавай артылерыі (калібру 45,57 і 76 мм) ваяваў да канца вайны.

Як бачыце, склалася так, што перыяд юнацтва і ўзмужнення нашага пакалення супаў з гадамі вайны, і першай навукай жыцця, якую мы спасцiглі ў юнацтве, была цяжкая навука вайны з усёй складанасцю яе праблем і чалавечых адносін.

У час вайны, як ніколі ні да, ні пасля яе, выявілася важнасць чалавечай духоўнасці, непахіснасць асноўных маральных крытэрыяў. Няма патрэбы гаварыць аб тым, якую ролю тады ігралі і гераізм, і патрыятызм. Але ці ж толькі яны вызначылі сацыяльную значнасць асобы, якая нярэдка трапляла ў абставіны выбару паміж жыццём і смерцю? Як вядома, гэта вельмі нялёгкі выбар, у ім раскрываецца ўся сацыяльна-псіхалагічная і маральна-этычная сутнасць асобы.

На маю думку, было б неразумна і неашчадна не ўлічваць гэтага, мільёнамі вынесенага з вайны вопыту, да таго ж аплачанага такой дарагой цаной. І мяне цікавяць у першую чаргу не сама вайна, не яе побыт, і не тэхналогія бою, хоць усё гэта для мастацтва таксама важна і цікава, але галоўным чынам унутраны свет чалавека, магчымасці яго духу.

— *Але пасля фронту і працягваючы яшчэ службу ў Арміі, вы пісалі на іншыя тэмы. І так было, менавіта, з многімі вашымі равеснікамі, якія ўваходзілі ў літаратуру…*

— Так было з многімі. Відаць, гэта адбылося таму, што ў гады вайны з-за недастатковай сталасці і нязначнасці нашага жыццёвага вопыту (у яго жыцейскім сэнсе) мы не змаглі адразу спасцігнуць усю складанасць таго, што бачылі і што перажывалі на фронце. Гэта прыйшло пазней і многіх з нас прымусіла, так сказаць, «задним числом» задумацца аб даўно перажытым і нават забытым, з адлегласці дзясятка год і вышыні назапашанага жыццёвага вопыту паспрабаваць адкрыць там нешта такое, што аказалася жывым і павучальным для ўсіх.

Відавочна, да такіх тугадумаў належаў і я. Доўгі час пасля вайны я лічыў, што ўсе колькі-небудзь значныя праблемы вайны

дастаткова распрацаваны літаратурай, якая так многа і горача пісала ў гады вайны, што куды цікавей для нас час міру з яго новымі радасцямі і новымі цяжкасцямі. Напэўна, так думаў не адзін я, вопыт многіх маіх равеснікаў, якія пасля зарэкамендавалі сябе вельмі значнымі аўтарамі ваеннай тэмы, сведчыць аб тым жа.

— *Вашы равеснікі ў літаратуры, пісьменнікі ваеннага пакалення, з якімі ваша імя ставяць побач — Юрый Бондараў, Рыгор Бакланаў, Алесь Адамовіч, Віктар Астаф'еў — ужо напісалі кнігі, у якіх расказваецца і аб мірным часе. Вы сярод іх, здаецца, адзіны, хто пасля першых спроб цалкам прысвяціў сваю творчасць тэме вайны. Што ж прымушае вас зноў і зноў вяртацца да падзей тых дзён?*

*І што, на ваш погляд — падыдзем і з гэтага боку да пастаўленага пытання, — яшчэ, так сказаць, не даследавана нашай літаратурай, якая стварыла ўжо цудоўную і багатую бібліятэку кніг аб Вялікай Айчыннай вайне?*

— Многія фактары чалавечай сутнасці разам з вайной адышлі ў мінулае; перад грамадствам і асобай мірны час паставіў новыя, толькі яму ўласцівыя праблемы. Так, напрыклад, праблема гераізму ў час вайны з'яўляецца рашаючай, галоўнай. Смеласць, адвага, пагарда да смерці — вось тыя асноўныя якасці, якія вызначаюць вартасць нашага воіна. Але ў мірны час мы не ходзім у разведку, пагарда да смерці ад нас не патрабуецца і адвага нам неабходна толькі ў надзвычайных сітуацыях. Аднак тое, што ў вайну стаяла за гераізмам, жывіла яго, было яго глебай, — ці ж гэта страціла сваю сілу? Так, мы не ходзім сёння ў разведку, але гэтая акалічнасць не перашкаджае нам і цяпер цаніць у таварышу сумленнасць, вернасць у дружбе, мужнасць, пачуццё адказнасці. І цяпер нам патрэбны прынцыповасць, вернасць ідэалам, самаадданасць, — гэта і цяпер вызначае нашу мараль, якая ў гады вайны жывіла гераізм. А выхаванне камуністычнай маралі — першачарговая задача літаратуры. Мноства прыкладаў з жыцця, сведчанне прэсы, нашыя паўсядзённыя назіранні настойліва гавораць аб надзённай неадкладнасці гэтай задачы. Рост матэрыяльнай забяспечанасці грамадства, павышэнне ролі навукі і тэхнікі не прыводзяць аўтаматычна да больш высокага маральнага ўзроўню, да духоўнага багацця. Наадварот, усё гэта нярэдка адыходзіць на другі план і мізарнее. Мы ведаем аб пагібельнай уладзе матэрыяльнага ў заходнім грамадстве з яго стандартнай спажывецкай культурай. Мы бачылі на прыкладзе Германіі, да чаго можа прывесці перадавая тэхніка, якая не кантралюецца мараллю, не забяспечваецца духоўнасцю.

Літаратура павінна няспынна біць у свае званы, настойліва будзіць у людзях патрэбу ў высокай духоўнасці, без якой кожны

самы высокі прагрэс матэрыяльнай культуры будзе не ў радасць.

*— Гаворачы неяк пра аповесць «Сотнікаў», вы заўважылі: «А хіба гэта аповесць пра партызанскую вайну?» (Я, праўда, сказаў бы не так катэгарычна: гэта аповесць не толькі пра партызанскую вайну.) Але, мяркуючы па сказаным, вы свядома шукаеце сучасную праблематыку, звяртаючыся да рэчаіснасці ваеннай пары. Пытанне ў тым: ці сучасная — у прамым і дакладным сэнсе слова — гэтая праблематыка? Бо кожны час — вы таксама гаварылі пра гэта — усё ж нараджае свае ўласныя праблемы. А мадэрнізацыя або архаізацыя іх можа адвесці ад праўды. Ці гэта праблематыка на самой справе толькі «рыфмуецца» з тымі пытаннямі, над якімі мы цяпер б'ёмся, і дапамагае знайсці ключ да іх вырашэння? І яшчэ адно: ці не тут адзін з вытокаў тых спрэчак, якія нярэдка ўзнікалі ў крытыцы вакол вашых твораў, калі іх сучасны пафас тлумачыўся або празмерна вузка, або празмерна шырока?*

— Вялікая Айчынная вайна савецкага народа супраць нямецкага фашызму цягнулася чатыры гады; але яе духоўнафізічны «канцэнтрат» складае цэлую эпоху ў нашай гісторыі. На працягу гэтых чатырох год так ці інакш знайшлі сваё адлюстраванне многія стагоддзі нашай гісторыі, нашай палітыкі, усе элементы псіхалогіі і маралі нашага народа. Нельга таксама лічыць, што Дзень Перамогі 9 мая 1945 года з'явіўся пераломным днём нашага існавання, што, як толькі сціх грукат гармат, жыццё імгненна змяніла характар і стала ціхамірным. На самой справе жыццё з адной якасці ў другую эвалюцыянавала марудна і малапрыкметна. Многае з таго, што мы адкрылі для сябе ў часіну цяжкіх выпрабаванняў, жыве з намі да гэтага часу; многія нашыя духоўныя і арганізацыйныя набыткі так ці інакш аказвалі або аказваюць свой уплыў на далейшае жыццё грамадства. Таму ці ёсць патрэба для літаратара падганяць праўду нашага існавання пад праўду вайны або рэканструяваць рэчаіснасць? Ці не больш плённа будзе пашукаць агульны назоўнік, філасофскі корань таго, што мела месца ў вайну і не страціла свайго маральнага або іншага значэння і цяпер? Канешне, метад палявання снайпераў за варожымі салдатамі наўрад ці здольны сур'ёзна зацікавіць кагонебудзь сёння, снайперы — не самая актуальная спецыяльнасць для грамадства мірнага часу; адышлі у мінулае многія іншыя якасці, калісьці важныя для вайны, а з імі і носьбіты гэтых якасцей. Але вось аматары падставіць бліжняга пад удар лёсу або начальства, каб схавацца за яго спіной, не пераведліся і сёння. Праўда, у гады вайны гэта было больш прыкметна і болей уражвала вынікамі, цяпер нярэдка такія рэчы выглядаюць менш драматычна, але пры ўсім тым прырода іх застаецца аднолькавая.

Прырода здрадніцтва ва ўсіх выглядах агідная, якімі б матывамі гэтае здрадніцтва ні кіравалася і якія б высокія мэты ні праследавала.

У гэтай сувязі будзе не лішне, я думаю, успомніць аб некаторых спрэчках вакол аднаго з персанажаў маёй аповесці «Сотнікаў». Я маю на ўвазе Рыбака. Мне думаецца, што прычына падзення Рыбака — у яго душэўнай усяяднасці, яго маральнай несфармаванасці. Ён прымітыўны прагматык, які зусім не суадносіць мэты са сродкамі. Вайна для яго — простая да прымітыву справа, з вычарпальнай паўнатой выяўленая пастулатам «чыя сіла, таго і праўда» і яшчэ — «свая кашуля бліжэй да цела». Ён не вораг па перакананнях і не нягоднік па сутнасці, але ён хоча жыць насуперак магчымасцям, у трудную хвіліну ігнаруючы інтарэсы бліжняга, клапоцячыся толькі аб сабе. Духоўная глухата не дазваляе яму зразумець глыбіню яго падзення. Толькі ў канцы ён з непапраўным спазненнем бачыць, што ў некаторых выпадках выжыць не лепш, чым памерці. Але, каб спасцігнуць гэта, яму давялося прайсці праз цэлы шэраг малых і вялікіх здрад, згодніцтва, уступак каварнаму і хітраму ворагу, якім быў нямецкі фашызм. У выніку — духоўная пагібель, якая аказваецца горш за фізічную смерць.

Канешне, сучасны чытач не стаіць перад такім выбарам, аднак лёс Рыбака, магчыма, прымусіць яго задумацца над тым, наколькі небяспечныя кампрамісы з уласным сумленнем і да чаго яны могуць прывесці чалавека...

— *У адрозненне ад літаратурных равеснікаў вас не займала тэма пакалення юнакоў 41-га года, якой яны ў сваёй творчасці аддалі немалую даніну. Ці не таму гэта, што яны пачалі свой літаратурны шлях раней за вас і паспелі аб гэтым даволі шмат напісаць? Ці не таму вы з самога пачатку пайшлі па шляху некалькі іншым?*

— Магчыма, і таму. Сапраўды, яны даволі падрабязна напісалі аб лёсе — ваенным і пасляваенным — юнакоў 41-га года да таго, як я пачаў пісаць наогул. Але тут ёсць і яшчэ адна прычына. Яны, вярнуўшыся адразу пасля заканчэння вайны да мірнага жыцця ў інстытуты і ўніверсітэты, былі больш звязаны са сваімі равеснікамі, чым я, які працягваў і пасля вайны немалы час служыць у арміі на ўскраінах, у далёкіх гарнізонах. Многія праблемы, якія былі вельмі істотныя і вельмі важныя для іх, для мяне былі за межамі майго асабістага жыццёвага вопыту.

— *Аднойчы вы заўважылі, што немалую ролю ў стварэнні кніг аб салдатах пяхоты, якая «ў мінулай вайне з'яўлялася не толькі царыцай палёў, але і пралетарыятам усіх бітваў, выйграных яе вялікай крывёй, адыгрывае пачуццё абавязку тых,*

*што жывуць, непехацінцаў, якія даволі нагледзеліся на крой, мукі і пот пяхоты». Іншы раз вы пісалі: «Так, гэта ён, радавы вялікай бітвы, нічым не прыкметны былы калгаснік або рабочы, сібірак ці разанец, доўгія месяцы мёрз пад Дзямянскам, перакапаў сотні кіламетраў зямлі пад Курскам і не толькі нішчыў агнём немцаў, але і круціў баранку на разбітых франтавых дарогах, пракладваў і трымаў сувязь, будаваў дарогі, наводзіў пераправы. Ён многае перажыў, гэты баец, галадаў, знемагаў ад смагі, пабойваўся смерці, але сумленна рабіў сваю непрыкметную салдацкую справу. І, прайшоўшы праз усе выпрабаванні, ён не страціў сваёй чалавечнасці, зведаў і засвоіў у вялікім калектыве спрадвечную праўду жыцця і многае іншае». Абапіраючыся на гэтыя вашы выказванні, можна, мне здаецца, вызначыць не толькі асяроддзе, у якім вы шукаеце герояў (у новай аповесці «Воўчая зграя» яна, скажам, дала вобразы Леўчука і Грыбаеда), але і нешта больш важнае — кола праблем, характэрных менавіта і толькі для вайны ўсенароднай, якой была вайна супраць гітлераўскіх захопнікаў. Ці маюць гэтыя сказаныя вамі словы сапраўды «праграмны» характар?*

— Наша вялікая вайна, як вядома, багата рознымі подзвігамі, сотні тысяч людзей усіх пакаленняў, воінскіх званняў і родаў войск праявілі на ёй дзівосы адвагі і воінскага ўмельства. Але асабіста я, трохі паваяваўшы ў пяхоце і зведаўшы частку яе штодзённых пакут, як мне думаецца, спасцігшы сэнс яе вялікай крыві, ніколі не перастану лічыць яе ролю ў гэтай вайне ні з чым не параўнальнаю роляй. Ні адзін род войск не ў стане зраўняцца з ёю ў яе агромністых намаганнях і ёю прынесеных ахвярах. Ці бачылі вы брацкія магілы, густа раскіданыя на былых палях бітваў ад Сталінграда да Эльбы, ці ўчытваліся калі-небудзь у бясконцыя слупкі імёнаў забітых, у аграмаднай большасці юнакоў 1920–1925 гадоў нараджэння? Гэта — пяхота. Яна густа ўслала сваімі целамі ўсе нашы шляхі да перамогі, сама застаючыся малапрыкметнай і малаэфектыўнай сілай, якая, ва ўсякім разе, не ідзе ў параўнанне з тараннай магутнасцю танкавых войск, з агнявой сілай бога вайны — артылерыі, з бляскам і прыгажосцю авіяцыі. І напісана пра яе меней за ўсіх. Чаму? Ды ўсё таму ж, што тых, хто прайшоў у ёй ад Масквы да Берліна, засталося вельмі нямнога, жыццё пехацінца ў стралковым палку вымяралася нямногімі месяцамі. Я не ведаю ні аднаго салдата або малодшага афіцэра-пехацінца, які мог бы сказаць сёння, што ён прайшоў у пяхоце ўвесь яе баявы шлях. Для байца стралковага батальёна гэта было неверагодна.

Вось таму мне думаецца, што самыя вялікія магчымасці ваеннай тэмы для гэтага часу маўкліва хавае ў сваім мінулым пяхота. Час паказвае, што ўжо наўрад ці прыйдзе адтуль у нашу

літаратуру яе геніяльны апостал, затое нам, пакуль што жывым, трэба шукаць там. Пяхота мінулай вайны — гэта народ з усім яго шматпакутным лёсам, там трэба шукаць усё.

— *Вашы апошнія творы прысвечаны партызанам. Але вы партызанам не былі, ваявалі ў рэгулярнай арміі. І ўсё ж я хачу задаць вам пытанне, маючы на ўвазе і вашы партызанскія аповесці: у якой меры вашы асабістыя ўражанні, ваш ваенны вопыт уваходзяць у вашы творы? Ці маглі б вы пісаць пра вайну, — у тым ліку і партызанскую — калі б не былі на фронце? І з другога боку, калі вы пачалі пісаць пра партызан, ці патрабаваў гэты, новы для вас, матэрыял якіх-небудзь дадатковых намаганняў для авалодання ім? Як наогул вы збіраеце матэрыял? Канешне, гэта складаны працэс. Але калі яго да вядомай ступені ўпрасціць і лагізаваць, дык якое месца займаюць гутарка з удзельнікамі вайны, вывучэнне архіваў, чытанне мемуараў, ваенна-гістарычных прац і г. д.? Мэтанакіраваныя вашы пошукі матэрыялу ці ён накопліваецца сам сабой?*

— Хоць я пішу пра вайну даволі даўно, тэмай партызанскай вайны заняўся толькі ў апошні час, пасля таго, як зразумеў, што яна тоіць у сабе магчымасці, якія далёка не заўсёды ёсць у франтавой рэчаіснасці з высокай ступенню яе арганізаванасці і рэгламентаванасці ўсяго яе побыту і дзейнасці. Партызанская ж вайна ў значнай меры (асабліва на яе раннім этапе) — працэс дзеяння мас, стыхійнасці яе чалавечага матэрыялу, маральнай і псіхалагічнай разнастайнасці, што заўжды мае перавагу для літаратуры. Спрадвечная праблема «выбару» ў партызанскай вайне і на акупіраванай тэрыторыі стаяла больш востра і вырашалася больш разнастайна, матываванасць чалавечых учынкаў была болей ускладнена, лёсы людзей больш багатыя і часта больш трагічныя, чым у кожным з самых розных армейскіх арганізмаў. І наогул элемент трагічнага, які заўсёды з’яўляецца істотным элементам вайны, праявіўся тут ва ўсю сваю страшэнную сілу. Можна сказаць, не баючыся памыліцца, што для паўнакроўнага выяўлення ў літаратуры трагедыі акупіраваных тэрыторый бытапісальныя сродкі занадта бледныя. Тут патрэбны зусім іншыя фарбы і страсці маштабу шэкспіраўскіх. Я заўсёды з вялікай нерашучасцю бяруся за гэты матэрыял і, мабыць, зусім не браўся б, калі б не думка аб хуткаплынным часе, які з кожным годам усё менш пакідае нам сведкаў і сведчанняў той небывалай па чалавечых перажываннях эпохі. Прытым, зразумела, было б немагчыма колькі-небудзь паспяхова справіцца з ім, не валодаючы вопытам вайны. Але ж галоўная ідэйная аснова тут тая самая, што і ў дзеючай арміі, псіхалагічныя, маральныя перадумовы многіх учынкаў адэкватныя. Я не праводзіў мэтанакіраваных пошукаў

матэрыялу, не займаўся зборам яго. Там, дзе я жыву, у гэтым яшчэ няма патрэбы, тут яшчэ вельмі многае напамінае пра мінулыя гады вайны.

*— Сабраныя мастакамі ўражанні жыцця па-рознаму імі рэалізуюцца, у чым і выяўляецца пісьменніцкая індывідуальнасць кожнага аўтара. Дык вось, ці былі ў каго-небудзь з вашых герояў прататыпы, а можа, блізкасць літаратурнага характару да рэальнай асобы вас звязвае? Тое ж самае я хачу спытаць наконт сюжэтных сітуацый: ці абапіраецеся вы на рэальныя падзеі, сапраўдныя выпадкі, якія мелі месца ў жыцці, або вашы веды жыцця дазваляюць вам ствараць вымышленыя, але праўдзівыя сітуацыі?*

— У мяне тут няма пэўнай сістэмы. Кожны раз бывае па-рознаму. У некаторых з маіх літаратурных вобразаў ёсць прататыпы. Хоць у дадзеным выпадку прамога «спісвання» няма, адбываецца звычайная літаратурная трансфармацыя. Мне ўжо даводзілася неяк пісаць аб гэтым, прыводзіць у якасці прыкладу два вобразы з аповесці «Трэцяя ракета». Самы «спісаны» вобраз там — камандзір гарматы сяржант Жаўтых. Многія рысы яго знешнасці і характару я сапраўды спісаў з камандзіра майго разліку, з якім ваяваў у Венгрыі, знаходзячыся ў 10-й знішчальна-супрацьтанкавай артылерыйскай брыгадзе. Яго сапраўднае прозвішча Лук'янчанка. Значыць, ён не камандзір «саракапяткі» і не загінуў на плацдарме ў Румыніі, ён паспяхова даваяваў вайну і ў сорак пятым дэмабілізаваўся з арміі. Але ў астатнім ён той жа: па-гаспадарску разважлівы, павольны, не надта пісьменны — сапраўдны хлебаробкалгаснік, які змяніў з-за акалічнасцей вайны плуг на зброю. Ён быў адным з лепшых камандзіраў гармат у нашым супрацьтанкавым палку.

Другі вобраз той жа аповесці, радавы Крывёнак, таксама ў многім спісаны з рэальнай асобы, толькі гэта асоба мела да маёй біяграфіі некалькі іншыя адносіны і ў іншы час. Неяк быў у мяне ва ўзводзе адзін недысцыплінаваны баец, ён прыносіў многа непрыемнасцей камандзірам і дрэнна скончыў свой лёс па сваёй, між іншым, віне. Крывёнак у аповесці не такі, але ў многім падобны на таго, іншага, байца.

Я пісаў ужо пра радаслоўную Рыбака з «Сотнікава», правобразам яго паслужыў чалавек, які, апроч аднолькавага лёсу, не меў больш нічога агульнага з яго літаратурным персанажам. Але менавіта агульнасць лёсу і зрабіла яго прататыпам, і цяпер я не магу іх падзяліць — адзін выклікаў да жыцця другога. Што гэта — прататып ці не, — я не думаў, ды і ці ёсць патрэба разбірацца ў гэтым?

Але нават і ў тых выпадках, калі самому аўтару цяжка

назваць рэальны правобраз героя, ці азначае гэта, што той наогул адсутнічае? Забытыя або паўзабытыя жыццёвыя ўражанні, вобразы, характары людзей і нават асабісты настрой мінулых год, адбіўшыся глыбока ў падсвядомасці, могуць аднойчы ўзнавіцца і ўзнікнуць перад аўтарам як убачанае або адчутае ім упершыню. Асабліва калі некалькі сцёртых характараў трансфармуюцца ў адзін зборны — яркі і паўнакроўны, той, пра якога гавораць, што ён, выдуманы, увасабляе ў сабе больш праўды, чым той, што існаваў сапраўды. Бо ў працэсе творчасці, як вядома, роля падсвядомага надзвычай важная.

— *А сюжэтныя сітуацыі?*

— Гэтаксама і сюжэтныя сітуацыі. З некаторымі з іх у мяне не было лішніх клопатаў — яны ўзяты проста з маёй франтавой рэчаіснасці, ступень канструявання ў іх вельмі нязначная. Такія сюжэты «Трэцяй ракеты», «Мёртвым не баліць», «Атакі з ходу», часткова «Круглянскага моста» і «Воўчай зграі». Фабула кожнай з гэтых аповесцей была загадзя вядома, аўтару давялося толькі распрацаваць яе ў дэталях і засяліць патрэбнымі вобразамі.

Іншыя ж сюжэты складваліся з розных выпадкаў, паступова аб'ядноўваліся, ствараючы адзінае цэлае. Нейкія стыкі дамысліваліся, шукаліся арганічныя сувязі, мяняючыся, розныя выпадкі як бы «прыціраліся» адзін да аднаго. А бывала, што нейкая жыццёвая гісторыя служыла толькі завязкай, пачаткам аповесці, усё астатняе ўжо дыктавала ўяўленне.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што нявыдуманасць першых рашуча не мае пераваг над сканструяванасцю іншых, складзеных з розных кавалкаў, і не гарантуе ад няўдачы. Ва ўсякім выпадку, тыя рэчы, сюжэты якіх мне давялося, што называецца, выдумаць («Пастка», «Сотнікаў», «Дажыць да світання», «Альпійская балада»), наўрад ці ўступалі ў сваёй жыццёвай верагоднасці сюжэтам непрыдуманым. Відаць, многае тут вырашаецца ўсім ідэйна-вобразна-сюжэтным комплексам, розным у кожным асобным выпадку, ён канчаткова і вызначае літаратурную вартасць рэчы.

— *А як у вас узнікае задума, што з'яўляецца першым штуршком — думка, якая прыходзіць у галаву, праблема, якую вы хочаце паставіць або даследаваць, нейкія ўражанні і ўспаміны або нейчае апавяданне аб перажытым і г. д.? Або ў розных выпадках бывае па-рознаму? Калі гэта ўспамін або нейчае апавяданне, дык вас вабіць праблема, якая ў ім прасвечваецца, або да яе вас прыводзіць логіка падзей і характараў?*

— Узаемадзеянне частак у схеме: задума — матэрыял — увасабленне, бадай, самае цяжкае для разумення і, бадай, найменш асэнсаваная галіна псіхалогіі літаратурнай творчасці.

Ясна, што нядрэмная аўтарская думка, якая нясе ў сабе маральна-філасофскую ідэю, толькі тады ў стане літаратурна «прарасці», калі яна трапляе ў спрыяльную глебу жыццёвага матэрыялу. Неабходны сінтэз — ідэі, жыццёва праўдзівай сітуацыі і належных чалавечых вобразаў, якія здольны ў пэўных абставінах увасобіць пэўную ідэю. Што ў маёй свядомасці паяўляецца раней, а што пасля, — не так ужо важна. Можа паяўленне трапна падмечаных характараў, пастаўленых у належныя сітуацыі, прывесці да выяўлення той ці іншай ідэі, а можа і ідэя для сваёй літаратурнай рэалізацыі выклікаць да жыцця сваіх адэкватаў-вобразаў. У «Трэцяй ракеце» я не навязваў маім персанажам ніякай літаратурнай ідэі, яны жылі, пакутавалі, ваявалі кожны ў сілу свайго характару і абставін. У выніку іх самавыяўлення знайшлася і чытаецца нейкая ідэя; мабыць, больш складанай ідэі і не патрэбна для гэтай маленькай аповесці. Што ж да «Сотнікава», дык тут усё было падпарадкавана загадзя акрэсленай ідэі, хоць гэта зусім не азначала дыктат аўтара над характарамі і акалічнасцямі — проста аўтар даволі добра ведаў сваіх герояў і па магчымасці дакладна разлічыў логіку іх учынкаў. Да таго ж для выяўлення ідэі я стараўся выбраць з запаснікоў сваёй памяці найбольш прыдатныя персанажы.

*— Я хачу напомніць аб тым, што сказана ў адным вашым артыкуле: «У „Сотнікаве“, — пісалі вы, — я з самага пачатку ведаў, чаго хачу ў канцы, і паслядоўна вёў маіх герояў да сцэны пары, дзе адзін дапамагае вешаць другога». А як было ў іншых выпадках, у іншых аповесцях: ці ведалі вы, да чаго павінны прыйсці ў канцы? Ці не здаралася вам адчуць супраціўленне народжанага пад пяром характару? Мне, напрыклад, здаецца, што ў «Альпійскай баладзе» і «Дажыць да світання» вас дзенідзе вядзе не логіка характараў і акалічнасцей, а думка, што апераджае іх. Думка, якую вы хочаце выказаць, становіцца гаспадыняй становішча. Што вы думаеце наконт гэтага?*

— Я думаю, што калі характар схоплены дакладна, калі ён пастаўлены ў адпаведныя для яго раскрыцця акалічнасці, калі аўтарскія адносіны да яго правільныя — ніякіх асаблівых сюрпрызаў быць не павінна.

Я ўжо казаў пра «Сотнікава». Што да, напрыклад, «Дажыць да світання» і вобраза галоўнага героя гэтай аповесці, лейтэнанта Іваноўскага, дык мяне тут перш за ўсё цікавіла мера чалавечай адказнасці. Як вядома, на вайне выконваюцца загады старэйшых начальнікаў. І адказнасць за поспех або няўдачу той ці іншай аперацыі дзеліцца напалам паміж яе выканаўцам і кіраўніком. А тут выпадак, калі ініцыятарам аперацыі выступае сам выканаўца — малодшы афіцэр, але ўся справа ў тым, што гэтая ягоная

ініцыятыва заканчваецца поўным фіяска. Канешне, Іваноўскі тут ні пры чым, можна апраўдаць яго, ён сумленна выканаў свой абавязак. Але сам Іваноўскі апраўдаць сябе не можа: аперацыя патрабавала неверагодных намаганняў, за яе заплочана жыццём людзей, яго падначаленых. У пагібелі Іваноўскага не вінаваты ніхто: ён сам выбраў для сябе такі лёс, таму што валодаў высокай чалавечай мараллю, якая не дазваляла яму схітраваць або ашукаць ні ў вялікім ні ў малым…

*— Мне здаецца, што многае ў гэтай аповесці вызначаецца часам яе дзеяння: пачатак зімы сорак першага года, вораг усё бліжэй падыходзіць да Масквы. Без разумення гэтага трудна спасцігнуць логіку паводзін героя. У гэтую пару кожны сумленны чалавек быў гатовы на ўсё, каб ўратаваць Радзіму і аддаць сваё жыццё за тое, каб знішчыць хоць бы аднаго варожага салдата, — гэта не здавалася празмернай цаной. І трагічны фінал аповесці, як мне ўяўляецца, падводзіць чытача да гэтай думкі…*

— Так, час, адлюстраваны ў аповесці, — самая трагічная пара Вялікай Айчыннай вайны. Апрача ўсяго іншага, многія воіны тады яшчэ не мелі таго вопыту, таго ўмення ваяваць, якія прыйшлі пазней. Тым не менш патрыятызм, самаадданасць, сіла духу і воля да супраціўлення былі вельмі высокія, дзякуючы ім мы выстаялі. У тых умовах, калі нам не хапала воінскага майстэрства і ваеннай тэхнікі, людзі, падобныя да лейтэнанта Іваноўскага, спрабавалі гэта кампенсаваць самаадданасцю, гатоўнасцю ахвяраваць сабой, каб хоць якой цаной затрымаць ворага. Пазней воля да перамогі і самаадданасць, узмоцненыя воінскім уменнем і перавагай у баявой тэхніцы, прыводзілі да вынікаў больш значных, чым у лейтэнанта Іваноўскага…

Зрэшты, справа, як мне здаецца, зусім не ў баявым выніку той ці іншай аперацыі або дзеяння; для літаратуры аб вайне аднолькава важныя як поспехі, так і паражэнні, вялікія і малыя. Да таго ж, што такое перамога і паражэнне з пункту погляду маральнага або філасофскага, якія больш за ўсё іншае цікавяць у мастацтве? Іваноўскі, зразумела, быў пераможаны і загінуў на сваім маленькім полі бою, але калі ён з тых людзей, аб якіх сказана, што іх можна забіць, але немагчыма перамагчы, дык яго паражэнне ператвараецца ў іншую, процілеглую, якасць. Менавіта на стыку гэтых узаемавыключных паняццяў і тояцца значныя магчымасці літаратуры, якія нярэдка ігнаруюцца намі: мы ж прывыклі да гранічнай яснасці, з якою суседнічае спрошчанасць і верхаглядства.

*— Амаль усё, што вы напісалі, належыць да аднаго жанру — кароткай аповесці: спачатку яна напамінала сваёй структурай аповесць лірычную, і крытыкі яшчэ доўга лічылі яе па гэтым*

*«разрадзе», нават тады, калі асноўны яе змест вызначаўся як маральна-філасофскі. Калі вы прыступаеце да работы над новым творам, ці зададзена яго жанравая структура з самага пачатку або гэта складваецца само сабой? Зусім нядаўна адзін крытык папісаў, што вам ужо цесна ў тым жанры, у якім вы працуеце шмат год, што вы, ён у гэтым перакананы, павінны перайсці да больш буйной формы — рамана. Ці супадае гэта з вашымі адчуваннямі і намерамі?*

— Мне трудна сказаць, як будзе далей. Можа быць, калінебудзь я і напішу раман. Але пакуль у мяне няма такога намеру.

Так атрымалася, што з самага пачатку я пісаў пераважна аповесці. Некалі гэтыя аповесці сапраўды былі лірычныя. Потым, мабыць, па меры таго, як іх аўтар набываў літаратурны вопыт, характар іх змяніўся. Беручыся за новую рэч, я не вызначаю яе памеру або структуры, хоць, канешне, і мяркую прыкладна, якой атрымаецца гэтая рэч, і ведаю напэўна, што гэта будзе аповесць. Але ў працэсе работы яна становіцца або карацейшай, або даўжэйшай, чым я меркаваў спачатку. Часам нейкія звенні сюжэта, нейкія эпізоды скарачаюцца, іншыя, наадварот, развіваюцца падрабязней. А наогул я не адчуваю цеснаты ў гэтым абжытым мной жанры. Я думаю, што гэта вельмі ёмістая форма прозы і ў ёй можна выказаць вельмі многае, а галоўнае — выказаць сцісла і канкрэтна.

— *Часам гавораць і пішуць, што вашы аповесці — ва ўсякім выпадку, апошнія, — паўтараюць мастацкую структуру прытчы, хоць ацэньваецца гэтая якасць па-рознаму — і як вартасць, і як недахоп. Мне гэтае вызначэнне не здаецца правільным: прытча мае на мэце адмаўленне ад канкрэтнасці — бытавой, псіхалагічнай і перш за ўсё гістарычнай. Але гэтага ніяк не скажаш аб вашых аповесцях. Падставу для такога роду меркаванняў, мне здаецца, дае тое, што вашы аповесці вызначаюцца крайняй завостранасцю і трагізмам сітуацый, маральным максімалізмам, бескампраміснасцю ўяўленняў аб тым, што добра і што дрэнна, якая і вызначае ацэнку паводзін чалавека. Ці не таму з такой настойлівасцю вы ставіце герояў адзін на адзін з іх сумленнем, падпарадкоўваючыся якому яны самі павінны вырашыць свой лёс у акалічнасцях, дзе за вернасць абавязку плацяць жыццём?*

— Сапраўды, некаторым з маіх крытыкаў хацелася б вытлумачыць нейкія асаблівасці маёй творчасці ўяўнай прыхільнасцю аўтара да жанру прытчы. Думаю, што гэта не так. Падабенства да прытчы некаторых з маіх аповесцей ідзе, на мой погляд, не ад аўтарскага гвалту над жыццёвым матэрыялам, каб

дагадзіць загадзя прынятай ідэі, не ад імкнення вырашыць нейкую абстрактную маральную задачу, а ад лаканізму апавядання і сціласці дзеяння, можа быць, ад некаторай белетрыстычнай збедненасці сюжэта і стылю. Відаць, часам адчуваецца прымат ідэі над формай, калі ідэя не ўсюды знаходзіць сваё арганічнае ўвасабленне ў форме. Напэўна, усё гэта ўласціва некаторым з маіх аповесцей, але я не імкнуўся да гэтага, больш таго, я стараўся гэтага пазбегнуць. Іншая справа, як вы сказалі, маральны максімалізм, без якога я не магу абысціся, таму што ўсімі сродкамі прывык зацягваць маральныя вузлы і па гэтай прычыне часам надта выпірае жорсткасць сюжэтных канструкцый. У той жа час можна зразумець тых, каму хацелася б мяккасці таноў, паступовасці пераходаў. Але што рабіць? Вайна кепска дапасуецца да гэтай чалавечай схільнасці. Вайна — справа надта сур'ёзная, каб на яе матэрыяле канструяваць святочнае «чціва» для бесклапотных чытачоў. Апроч таго, я перакананы, што найбольш праўдзіва расказаць аб ёй можна толькі сродкамі рэалізму. Усякая знарочыстая рамантызацыя, вольная або нявольная эстэтызацыя гэтага народнага бедства, на мой погляд, з'яўляецца кашчунствам у адносінах да яе жывых удзельнікаў і ў адносінах да памяці дваццаці мільёнаў забітых. Гэта трэба добра памятаць мастаку, які звяртаецца да суровых гадоў вайны — у гэтым своеасаблівы катэгарычны імператыў мастацтва нашага часу.

— *Якія свае кнігі вы любіце больш за іншыя і што вам у іх дорага? Толькі не ўхіляйцеся ад гэтага пытання, кажучы, што самая любімая, самая лепшая кніга яшчэ не напісана. Пра будучыя кнігі, я спадзяюся, мы яшчэ пагаворым. Ведаць жа, што пісьменнік са створанага ім цэніць больш за ўсё, — гэта дапаможа зразумець сутнасць яго мастацкіх пошукаў... І яшчэ адно пытанне. Ці не ўзнікала ў вас, калі мінуў пэўны час, жаданне вярнуцца, дапісаць, перапісаць калісьці напісаныя рэчы?*

— Першае пытанне сапраўды даволі цяжкае, таму што ў пісьменніка некалькі ацэначных крытэрыяў сваіх твораў. У чытача наогул адзін крытэрый: спадабалася або не спадабалася, або гэты твор спадабаўся больш, а гэты менш, нават калі ён спрабуе высветліць для сябе, чаму спадабалася і чаму не спадабалася. Аўтара ж звязвае з кожным ягоным творам вельмі многае: не толькі тое, што ён выказаў у ім, але і тое, скажам, што хацеў выказаць і як яму гэта ўдалося. Потым адна рэч пішацца лягчэй, а над другой даводзіцца працаваць часам вельмі пакутна. Калі гаварыць канкрэтна, дык больш за іншыя мне дарагая аповесць «Сотнікаў», якая і пісалася даволі лёгка, і жыццёвага зместу ў ёй, мабыць, некалькі больш, чым у іншых рэчах.

Што да другога пытання, дык ужо так павялося, што я не

вяртаюся да рэчаў, якія сталі набыткам чытача, для гэтага ў мяне няма ні сіл, ні жадання. Хоць амаль заўсёды ў надрукаванай рэчы знаходжу нейкія недаробкі, недахопы, засмучаюся, дакараю сябе за недагляд, але не магу прымусіць сябе ўзяцца за яе нанова. Бяруся за наступную.

— *Карабель спушчаны на ваду?*

— І адчаліў ад берага, ён належыць ужо не будаўнікам, а экіпажу...

— *Ці ёсць у вас сярод класікаў любімыя пісьменнікі? У крытыцы, калі спрабуюць вызначыць традыцыі, з якімі звязваюць вашу творчасць, часцей называюць імёны Дастаеўскага і Кузьмы Чорнага. А як лічыце вы самі? Ці ёсць свядомасць, намер у выбары пісьменнікам традыцый? І што такое «вучоба ў класікаў», пра якую мы так часта гаворым, — выкарыстанне іх вопыту ці імкненне да той глыбіні пранікнення ў душу чалавека, якой яны дасягнулі?*

— Я думаю, што паняцце «вучоба ў класікаў» у нас часта спрашчаецца. Вучыцца ў класікаў — гэта не значыць пераймаць іх тэхналогію творчасці, засвойваць іх прыёмы. Гэта штосьці больш шырокае і значнае: павага да праўды, прапаведзь гуманізму, разуменне грамадскага абавязку літаратуры і пісьменніка, — усё тое, у чым сапраўды праяўляецца сіла і значэнне класікаў.

Мае літаратурныя сімпатыі не арыгінальныя і, мабыць, могуць здацца старамоднымі. Як і мільёны чытачоў, я лічу самым высокім у нашай літаратуры Льва Талстога, побач з якім сапраўды паставіць няма каго. Сваім прароцкім прадбачаннем, разуменнем падспуднага, затоенага ў чалавечай душы заўсёды будзе вялікі Дастаеўскі, з творчасцю якога сугучна многае ў творах класіка беларускай літаратуры Кузьмы Чорнага. Вялікая руская літаратура была і застаецца той галоўнай школай духоўнасці, якую павінен прайсці кожны, раней чым наважыцца дадаць да яе нейкі свой радок...

Акрамя таго, я хацеў бы сказаць, што ў маім пісьменніцкім лёсе немалую ролю адыграла тая акалічнасць, што я пісаў і пры поўным узаемаразуменні з маімі рускімі равеснікамі, аўтарамі таленавітых кніг пра вайну, сярод якіх у першую чаргу хочацца назваць Юрыя Бондарава і Рыгора Бакланава. Я многім таксама абавязаны Алесю Адамовічу, выдатнаму беларускаму празаіку і самаму ўдумліваму з маіх крытыкаў.

— *Ну, калі вы ўпамянулі, што Алесь Адамовіч не толькі празаік, але і крытык, пяройдзем да гэтага пытання, пагаворым аб крытыцы. Вы як быццам не можаце паскардзіцца на яе безуважнасць: вашы кнігі рэцэнзавалі многа і ахвотна. Хоць вам даводзілася сутыкацца не толькі з удумлівымі і строгімі*

*меркаваннямі крытыкаў, але і з неразуменнем, нават з нядобразычлівасцю. Ці маеце вы цікавасць да крытыкі наогул і да меркаванняў крытыкаў пра вашу творчасць? Ці знаходзяць яны ў вас унутраны водгук — гэта не абавязкова згода і прыняцце, можа быць і наадварот? Вам часам — няхай не вельмі часта — таксама даводзіцца выступаць у ролі крытыка, дык робіце вы гэта з ахвотай або ў сілу абавязку?*

— Я выдатна разумею, што крытыка, як і крытыкі (зрэшты, як і пісьменнікі) бываюць розныя. Праўда, крытыкі ў маёй свядомасці не дзеляцца на тых, якія мяне хваляць, і тых, якія мяне лаюць. Справа не ў тым, каб цябе пахвалілі. Прыемна, вядома, калі напісаны твор знаходзіць у крытыка такое ж разуменне, як і ў аўтара, калі крытык не вышуквае ў ім тое, што з асалодай потым асудзіць…

— *Калі ён разумее ўнутраныя законы, па якіх ствараўся твор, ягоны пафас…*

— Абсалютна правільна. Але ў той жа час бывае так, што крытык па розных прычынах не прымае манеры аўтара і загадзя настроены непрыязна. Менавіта гэтая яго настроенасць выдае сябе з самага пачатку, нярэдка з загалоўка, і я ўжо ведаю, што будзе далей. Больш таго — яшчэ ў працэсе работы над аповесцю я ўжо прадбачу, што скажа пэўнага толку крытык, прадбачу ўвесь нескладаны ход яго матывіровак і развагі. Чытаць яго рэцэнзію не мае сэнсу, бо аўтар і рэцэнзент як бы стаяць на розных берагах ракі і кожны бачыць нешта адваротнае таму, што бачыць яго апанент. Пра такога крытыка трапна гаворыць прыказка: яму пра Фаму, а ён пра Ярому. Бывае і так, што крытык лае аўтара зусім не за тое, за што ён яго лае, а тое, што сапраўды абурае крытыка, старанна ім замоўчваецца, і ён адыгрываецца на дробязях і рэчах, якія пры жаданні можна тлумачыць па-рознаму.

Прыемна чытаць рэцэнзію, няхай самую строгую, дзе крытык імкнецца зірнуць на праблему тваімі вачыма і судзіць цябе з тваёй жа пазіцыі. Пры гэтым даўно заўважана, што зусім таксама як першы крытык імкнецца падхапіць любой цаной сапраўдны промах аўтара, каб выкарыстаць яго супраць апошняга, таксама другі крытык ахвотна гатовы пераацаніць найменшы поспех пісьменніка, але і той і другі пакідаюць ісціну за рамкамі сваіх развагі. Зрэшты, яно і зразумела. Абараняючы або ганьбуючы пазіцыю аўтара, кожны з крытыкаў зброяй уласнай аргументацыі перш за ўсё абгрунтоўвае ўласную пазіцыю, да якой твор аўтара часам мае вельмі далёкія адносіны, з'яўляючыся толькі зачэпкай для крытычнага самавыяўлення. Што таксама зразумела.

— *У мяне ўзнікала такое адчуванне, што ў наступных пасля «Сотнікава» аповесцях, асабліва ў «Абеліску», ёсць*

*унутраная палеміка, хоць і не прамая, не «спецыяльная», з тым, што пісалі некаторыя крытыкі пасля з’яўлення «Сотнікава»…*

— Магчыма, хоць такой задачы — улічыць заўвагі крытыкаў або палемізаваць з імі на старонках сваіх твораў — я перад сабой не ставіў. Я ўжо не кажу пра тое, што, калі завязваліся спрэчкі вакол якой-небудзь з маіх аповесцей, наступная была ўжо ў рабоце… Магчыма, тут справа ў тым, што часам да праблем, якія я толькі закрануў у якой-небудзь аповесці (яны былі для мяне бакавымі), я вяртаюся пазней, каб заняцца імі грунтоўна.

У кожнай асобнай рэчы не можа быць поўнай карціны вайны, усіх высунутых часам праблем. У маленькай аповесці можа быць толькі адзін які-небудзь эпізод, нейкі адзін момант, адна маленькая грань таго часу. Як можна патрабаваць усёй паўнаты карціны вайны ад аднаго аўтара, калі ўся наша літаратура да гэтага часу яшчэ не можа ахапіць усю аграмадную паўнату Вялікай Айчыннай вайны?.. І паколькі я таксама не лічу гэтую тэму вычарпанай ні маёй творчасцю, ні літаратурай у цэлым, у кожнай сваёй новай рэчы стараюся вярнуцца да таго, што было ўпушчана або не знайшло месца ў папярэдняй, і гэта, магчыма, таксама можа стварыць уражанне, што я ў сваёй творчасці палемізую з крытыкамі…

— *Я хачу напомніць пра другое сваё пытанне: як вы самі сябе адчуваеце ў ролі крытыка?*

— Не надта ўпэўнена. У літаратуры я прывык мысліць вобразамі, тут жа іншая форма мыслення, якая патрабуе некалькі іншых навыкаў. Адна справа *атрымліваць* уражанне ад пэўнага твора і зусім іншая — *абгрунтаваць* гэта ўражанне, перавесці яго ў лагічны рад сілагізмаў. Тым не менш часам узнікае патрэба выказацца ў друку з нагоды таго ці іншага твора, асабліва ў тых выпадках, калі твор, як мне здаецца, не ацэнены належным чынам або ацэнены неаб’ектыўна.

— *Ці не даводзілася вам адкладваць пачатую рэч, калі яна чамусьці не давалася? Ці вяртаецеся вы зноў да яе? Ці ёсць у вас «задзел» задумак? Ці ведаеце вы, заканчваючы адну рэч, якую будзеце пісаць наступную? Ці патрэбны вам паўзы паміж дзвюма кнігамі?*

— Многія мае калегі — я не раз гэта чуў ад іх — лічаць, што паўзы паміж дзвюма кнігамі павінны быць як мага карацейшыя. Калісьці я таксама схільны быў так думаць, але потым гэтая мая думка перамянілася. Хоць адразу пераходзіць ад адной рэчы да другой здаецца лягчэй, так сказаць, дапамагае інерцыя пісьма, аднак, як мне цяпер думаецца, гэта фальшывая лёгкасць. Праца над кнігай — гэта не толькі праца над радком і фразай, а нешта больш важнае і цяжкое. Таму, не вынасіўшы належным чынам

задуму, цяжка стварыць што-небудзь вартае, а для выношвання патрэбны час і думкі. Трэба рэч спраектаваць. Проза ж, як вядома, гэта архітэктура, а не майстэрства дэкаратара.

Але самае цяжкое для мяне — выбраць сярод многіх задум тую, над якой цяпер трэба працаваць. Не выпадкова Пушкін надаваў такое значэнне «форме плана». Галоўная ідэя твора, план вызначаюцца выбарам той ці іншай тэмы або ідэі. Гэты выбар павінен быць аптымальным у сэнсе задач і магчымасцей, і на яго часта ідзе значна больш часу, чым на напісанне твора. Задум у мяне, паўтараю, заўсёды дастаткова, але пры гэтым неабходна правільна суаднесці гэтыя задумы са сваімі магчымасцямі. (Да паняцця «магчымасці» я адношу не толькі здольнасці і вопыт, але і веданне матэрыялу, валоданне ім.) Іншы раз, прыступіўшы да работы, разумееш, што выбраная задума не па плячы, я з ёй не спраўлюся. Тады прыходзіцца рэч адкладваць. Часам, пасля таго як яна адляжыцца, узнікае новы погляд на тэму, новы да яе падыход, новае сюжэтнае рашэнне. Так адбылося, напрыклад, з аповесцю «Дажыць да світання», пачатай мною шэсць год назад, адкладзенай і дапісанай у 1972 годзе. Некаторыя ж задумы так і аказваюцца адкладзенымі назаўсёды. Асабліва тыя, што спазніліся са сваім з’яўленнем або не былі ажыццёўлены ў патрэбны для іх час.

— *Ці становіцца з гадамі, з назапашаным вопытам асэнсаванне сваіх магчымасцей больш дакладным? І ці заўсёды гэта добра: можа, рызыка, адвага дапамагаюць іншы раз зрабіць тое, што здавалася немагчымым?*

— Напэўна, так. Нявопытнасць, як і няведанне, не заўсёды дрэнна, часам асабліва ў пачатку творчага шляху, яны нямала садзейнічаюць таму, што аўтар бярэцца за рэчы, за якія ніколі б не ўзяўся, каб ведаў пэўна, што гэта такое. І здараецца, стварае штосьці ўдалае. І хто ведае, колькі твораў засталіся б ненапісанымі ў сталым узросце менавіта з-за асэнсавання іх аўтарамі сваіх асабістых магчымасцей, а таксама з-за нежадання рызыкаваць. Веданне тут перасцерагае аўтара ад самаўпэўненасці, але і падразае немалаважную ў любой справе здольнасць да рызыкі. Усім вядома, што ісці па пратаптанай сцежцы заўсёды прывабней для аўтара. Але не для літаратуры, вядома.

— *І, нарэшце, апошняе пытанне: калі вы пішаце, ці думаеце вы пра свайго будучага чытача? Ці думкі пра чытача ўзнікаюць, калі рэч закончана?*

— Я дрэнна сабе ўяўляю, што такое чытач наогул. Я ведаю чытачоў — маіх знаёмых, магу з пэўнай доляй упэўненасці прадбачыць рэакцыю кожнага з іх на які-небудзь мой пасаж. Але чытач наогул?.. Ён такі розны, духоўна-маральны дыяпазон яго

такі ўсеабдымны, што ўлічыць яго інтарэсы або яго адносіны без ЭВМ я не ў стане. Калі, працуючы над творам, я думаю аб чымсьці пабочным, дык гэта хутчэй літаратура, жыццё, надзённыя патрэбы часу, грамадская атмасфера, не прымаць пад увагу якіх нельга. Урэшце, я заўсёды лічуся з магчымай рэакцыяй маіх знаёмых, людзей, чыёй думкай я прывык даражыць і ў чыю аб'ектыўнасць глыбока веру…

Гутарку вёў Л. Лазараў.
[1975]

## О книге «Высокий день» и ее авторе

Всякое произведение настоящей литературы есть прежде всего свидетельство человеческого опыта, известное открытие истины, жизненных характеров, их взаимосвязей, зачастую постигнутых также в процессе трудного, обретенного дорогой ценой личного опыта автора. Конечно, как и во всяком искусстве, здесь важно мастерство, «умельство», посредством которого художник переплавляет свой жизненный материал, свой опыт в произведение «изящной словесности», но только обладание тем и другим дает ему возможность создать нечто стоящее внимания его читателей.

В смысле значительности жизненного опыта Геннадию Пациенко повезло с самого детства, прошедшего среди живописной природы северной Белоруссии и Смоленщины, — в местах, некогда страстно любимых И. Репиным, мечтавшим поселиться здесь навсегда. По всей видимости, именно годы детства, совпавшие с Великой войной нашего народа, дали будущему писателю главный, так необходимый в литературе заряд сердечного отношения к людям, который впоследствии стал определяющим в его литературном творчестве.

Позже воинская служба забросила Геннадия Пациенко на Дальний Восток, где он несколько лет служил танкистом, а потом «гражданские» пути-дороги привели его на западный рубеж страны в Гродно, где продолжительное время он работал токарем на одном из заводов города.

К этому времени относятся и первые литературные попытки Геннадия Пациенко, хотя во многом еще и несовершенные, но отмеченные несомненной печатью талантливости, а главное — вдумчивого отношения к жизни, зачастую ценимого в молодом авторе больше всего другого. Несколько из первых его рассказов были напечатаны в областной газете, счастливо открывшей ему

первые возможности для публикации и ставшей для него первой школой литературного мастерства. Позже желание овладеть этим мастерством привело молодого автора в стены Литературного института им. А. М. Горького в Москве, по окончании которого он занимался журналистикой, сотрудничая в московских газетах, затем была аспирантура, напряженная практическая учеба у классиков и своих более опытных товарищей по перу и непосредственное литературное творчество, занятие прозой малой формы, которой он отдал немало лет своей жизни.

Итогом этой работы явились два сборника его рассказов — «Шуршание сена» и «Колесо на березе» — плод многолетних художественных поисков молодого прозаика. Эти небольшие книжки явились убедительным свидетельством прежде всего похвальной настойчивости автора отобразить в малом прозаическом жанре большой и многообразный мир во всей его яви и сложности.

«Высокий день» — третья книга молодого писателя. Многие рассказы ее убеждают, что Геннадий Пациенко обладает завидной способностью зорко всматриваться в характерные явления жизни и умело создавать выпуклые человеческие характеры. В его рассказах особенно хороша и самобытна природа, живописны ее постоянно меняющиеся состояния: от безмятежно-радостного до тревожно-драматического.

В прозе Геннадия Пациенко пленяет лиризм и живописание авторской речи, умная значительность, тонкость и богатство красок — качества, присущие лучшим произведениям современной молодой русской прозы.

Особое место в книге занимает повесть «Высокий день» — вещь самобытная и интересная по затронутым в ней проблемам. Повесть посвящена сложной и актуальной теме рабочего класса. Сам бывший рабочий — и в значительной мере в качестве такового пришедший в литературу, — Геннадий Пациенко знает жизнь своего класса не понаслышке, не в результате кратковременного «командировочного» ее изучения, а изнутри и глубоко, что позволяет ему писать о ее проблемах со знанием дела, не избегая действительных трудностей и сложностей как в организации производства, так и в характере человека на новом этапе общественного развития — в условиях научно-технической революции.

И еще — о чем бы ни писал Геннадий Пациенко и какие бы герои ни населяли его страницы, за ними всегда прочитывается недавнее прошлое нашего народа, его трудная последняя война. Ее горькое, но героическое дыхание дает себя знать и в небольших рассказах «Дым за деревней», «Медные гильзы», «Старая скрипка» и

в большой повести, даже в том случае, когда автор непосредственно и не касается военного времени. Впрочем, это и понятно. Опаленное горечью военных переживаний детство писателя, его скорбная память обо всем пережитом накладывает незримую печать особой значительности на все лучшие страницы его прозы.

И, мне думается, это — прекрасно.

[1975]

## [Беседа с Юрием Бондаревым и Михаилом Кузнецовым]

*М. Кузнецов:* Вряд ли кто-нибудь из нас тогда, в последние месяцы войны, предполагал, что и три десятка лет спустя она будет жить в каждом из нас и определять столь различные творческие судьбы.

Целая эпоха прожита после Победы. Столько событий, разительных перемен, но минувшая война не только не поблекла в воображении художников, а часто новые книги о фронтовом четырехлетии — самые активные участники современного литературного процесса... Только в самое последнее, время в разных журналах появилось немало самых разных — по жанру, по стилю — произведений. Вот примеры. Фронтовые дневники К. Симонова, своеобразный и интереснейший комментарий к его трилогии. Обжигающая сердце документальная повесть трех белорусских писателей А. Адамовича, Я. Брыля, В. Колесника «Я — из огненной деревни». Прекрасный роман В. Богомолова «В августе сорок четвертого»...

Естествен и закономерен вопрос: почему и сегодня мы пишем о войне? Почему через три десятилетия эта тема звучит, пожалуй, даже сильнее?

*Ю. Бондарев:* Почему мы пишем о войне? Этот вопрос надо относить индивидуально — к каждому отдельному писателю. Лично я пишу о ней не только потому, что война — тяжелейшее испытание для человечества, а потому, что мне чрезвычайно важно увидеть свой персонаж в самых сложных, самых драматичных обстоятельствах, где нравственные ценности проверяются в предельной обостренности. Но если мы пишем о войне только как о прошедшем мировом событии, то мы становимся историками, а не художниками. В литературе же все направлено на человека.

Главное желание писателя этой темы — заставить людей посмотреть на своего героя не в уравновешенной, спокойной

обстановке быта, а в той, где возникает вопрос: или — или? Но даже в быту Достоевский поставил Родиона Раскольникова в невероятно сложные коллизии, и это помогло великому психологу своим собственным методом выявить философию времени, всегда связанную с категорией этической. Мне интересны поступки людей в жгучей накаленности решающих обстоятельств. В безмятежном покое исследование человека почти невозможно.

*М. Кузнецов:* Лев Толстой так и начинает «Анну Каренину»: «Все счастливые семьи похожи друг на друга...»

*Ю. Бондарев:* Да, да. Ведь литература познает движение, а движение — это поступки, характер человека, сущность времени и эпохи. Это, в конце концов, и характер писателя.

*В. Быков:* Если человек закрыл телом амбразуру — это, разумеется, подвиг. Но это, кроме того, результат, трагический итог жизни, а искусство интересует процесс, совокупность причин, приведших человека к данному итогу.

*Ю. Бондарев:* Поэтому-то самое сильное эмоциональное воздействие замечается, как мне кажется, там, где прошлое и настоящее соприкасаются и высекают символ пространственной глубины. Неправильно было бы думать, что прошлое остается лишь воспоминанием, отблеском в памяти людей. Прошлое так же материально, как и настоящее. Иначе исчезла бы сама история. Она стала бы похожей на сны минувших времен. Без прошлого человек чувствует себя существом с обрубленными истоками, с разъединенным сознанием.

Вместе с тем, когда мы пишем о войне, то, конечно, должны иметь в виду, что наша мысль всегда устремлена в целевую точку, подобно стрелке компаса, а это направление носит единственное название — современность. В противном случае все усилия теряют смысл. Беда некоторых романов о войне в том, что подчас исторические и неповторимые сороковые годы не освещены мыслью, протянутой из современного состояния мира. Короче говоря, именно эта целевая мысль с новой, неожиданной стороны озаряет прошлое и тем самым как бы возвращает его в настоящее, реконструирует события и одновременно рождает художественную истину, исторически точную и вполне современную. В этом наивысшее мастерство думающего, а не фиксирующего летописца, и здесь главную роль играет не столько воссоздание того, что было, сколько изображение того, как было, сгущение и обострение подробностей, комплекса социального.

Кроме того, «как было» — это концентрация идеи, средств выражения эмоций, своего отношения к тому, «что было». Поэтому писатель, возвращаясь к прошлому, должен писать о нем, как о настоящем, и в этом я не вижу никакой парадоксальности.

*М. Кузнецов:* Чтобы читатель почувствовал, что описанное в книге как бы происходит при нем…

*Ю. Бондарев:* Да. Только тогда возникает эффект присутствия, мгновения правды, период правды, если не вся правда.

Воспроизвести эффект присутствия может не каждый. Это особый дар. Однако лишь так возникает у читателя полное доверие к тому, о чем рассказывает писатель, к тому, что он хочет исследовать («как было»), а значит — познать.

*М. Кузнецов:* Но как создается эта предельная достоверность картины? Общеизвестно, что документализм — характернейшая черта современной прозы и шире — нынешнего художественного мышления вообще. Конечно, решается эта проблема каждым художником по-своему. И все же резкая активизация художественно-документальных жанров — объективный факт современного литературного процесса. В романе В. Богомолова есть поток действия, так сказать, вымышленного, где действуют точно и резко очерченные характеры рядовых героев (в отличие от исторических личностей, тоже фигурирующих в романе), и есть другой интереснейший поток — документы, как бы скрепляющие повествование цементом предельной достоверности. Не исключено, что этот поток так же вымышлен, как и характеры Таманцева, Алехина, Блинова… Какова же роль документа в современной военной прозе?

*Ю. Бондарев:* Думаю, что неподвластное использование документа, как довеска художественной ткани, нередко ломает конструкцию идеи, как бы утяжеляет дом, в котором помещена идея, пробивает ненужные двери, ставит лишние колонны, и нет непосредственности восприятия внутренней обстановки дома.

Художник же постоянно разглядывает свой персонаж вблизи, и ему иногда мешают бьющие в глаза прямые доказательства, они могут заслонить характер, в какую бы эпоху его герой ни жил — в эпоху ли Петра I, в эпоху 40-х или 50-х годов или в наше время. Вот почему талантливый роман Богомолова «В августе сорок четвертого» явил особый пример нового сочетания главной мысли писателя и документа, ибо документальные вставки в нем подчинены человеку, и я назвал бы их действующим лицом художнического исследования, осмысляющим реальность.

*М. Кузнецов:* Вот с этим я согласен вполне. А то ведь документ нередко так «выпирает» из произведения, что воспринимается как заплата. Богомолову же удалось найти оптимальный вариант.

Однако достоверность картины, социальная и психологическая правда характеров достигаются не только

прямым использованием документов. Вот, например, ваши первые книги были своеобразнейшей исповедью поколения. Искренней, чистой, талантливой исповедью поколения, которое война захватила на самом взлете юности. Но на каком-то этапе исповедь все же кончилась. Вы стали говорить уже с более широкой платформы…

*В. Быков:* Вот именно. Из мальчиков стали мужами, и появилась потребность, так сказать, в более широком взгляде на прошлое за пределами нашего опыта. И мы обнаружили (я говорю в данном случае о себе), что это прошлое в годы войны таит в себе нечто более значительное. Действительно, хотя война продолжалась четыре года, но по своей напряженности, своей духовно-эмоциональной концентрированности она составила целую эпоху в жизни народа. В ней, этой эпохе, заключено очень многое — как совершенно новое, самобытное, так и явившееся следствием и продолжением предшествующих ей периодов. Война представляет собой целый комплекс человеческих и общественных отношений, многие из которых так или иначе оказывают свое воздействие и на жизнь последующих за ней поколений.

Но это все-таки история, и если она интересует нас, литераторов, то скорее с точки зрения тех уроков, которые эта история преподает современности. А мы видим в ней очень значительные уроки прежде всего в смысле нашей современной нравственности. Никогда прежде возможности советского человека не проявлялись с такой выразительностью и глубиной, как в годы войны. Для искусства там заключены огромные, просто неисчерпаемые человеческие ценности. Правда, я склонен полагать, что освоение этих ценностей несколько суживается. Идя за публицистикой, мы нередко обходим в художественной литературе все, что не есть элементарное проявление самоотверженности и героизма. Но мы-то, фронтовики, знаем, сколь многообразен на войне и человек, и его подвиг.

Как уже сказано, мы стремимся писать войну, идя к ней от насущных потребностей современной нравственности. При этом, естественно, возникает вопрос о реконструкции, хотя мне лично не очень нравится это слово, от которого чересчур отдает техницизмом. Думается, для произведения все-таки лучше, если эта реконструкция проявляется без заметных усилий, но, как точно сказал здесь Юрий Бондарев, с максимальным эффектом присутствия. Особенно важно, на мой взгляд, видеть в военном прошлом определенные созвучные нам моменты, в той или иной степени существенные для нашего сегодня. Это основная, хотя и не единственная причина, побуждающая нас обращаться к исследованию жизненного материала войны.

Другое дело, что в процессе этого исследования мы не вправе игнорировать нравственную атмосферу и конкретные реалии тех трудных лет. Ведь мы реалисты, а реалистическое искусство конкретно. Нам приходится воскрешать на страницах наших книг очень многое, так или иначе уходящее из человеческой памяти. И если наша зрительная память хранит еще многое из виденного, то память эмоциональная, такая емкая в годы войны, постепенно тускнеет. Видимо, по этой причине некоторые современные книги о войне выглядят облегченными, населенными бесстрастными героями, для которых умереть — что выкурить сигарету.

*Ю. Бондарев:* Я уверен, что наше искусство и наша литература подошли уже к тому рубежу, когда они не могут обойтись без всего объема, всей широты возможностей, представляемых разнообразнейшим материалом прошлой войны.

*В. Быков:* Для нас в одинаковой степени должны быть важны как воспоминания видных военачальников, так и скромные свидетельства рядовых участников войны, не говоря уже о правдивых и высокохудожественных произведениях, несущих значительное философское осмысление этого периода нашей истории. Здесь уже говорилось о романе В. Богомолова, представляющем собой совершенно новое и интересное слово о войне и в который раз подтверждающем ту истину, что возможности этой темы неисчерпаемы.

Еще мне хотелось бы вспомнить повесть «Сорок дней, сорок ночей» крымского писателя Анатолия Никаноркина — почти документальный рассказ о событиях 1943 года, о Керченском десанте, который, можно сказать, на одном героизме и самоотверженности сорок суток противостоял немцам. Это честное свидетельство его участника, бывшего в то время врачом медсанбата, свидетельство, лишенное лукавства и созданное на одной лишь горькой концепции правды. Вот такие книги участников войны, если к тому же они хорошо написаны, бесценны для истории и для литературы.

Но как быть тем, кто, обладая недюжинным опытом войны, не имеет определенных, литературных способностей? Я знаю в Гродно бывшего командира батареи, много пережившего на фронте и отдавшего пятнадцать лет жизни написанию содержательных и правдивых воспоминаний, относящихся к весне и лету 1942 года. Желая увидеть этот материал изданным, я за несколько месяцев тщательно выправил его язык, но куда бы автор затем ни обращался, он получал отказ. А жаль. Ведь это чистая, без прикрас правда солдатского героизма, пота, крови и слез — все, что пережил автор в частях 33-й армии, окруженной под Вязьмой…

Тема войны заключает колоссальные возможности во всех сферах искусства. Но эти возможности, на мой взгляд, используются еще недостаточно. Несмотря на то, что появились очень большие и очень значительные книги о войне.

*М. Кузнецов:* Да, Василий Владимирович совершенно прав, говоря о воспоминаниях рядовых участников Великой Отечественной войны. Их надо издавать гораздо больше, нежели это делалось до сих пор, — ведь в них великий и благородный опыт народа. Недавно опубликована книга А. Адамовича, Я. Брыля, В. Колесника «Я из огненной деревни...». Это потрясающие душу рассказы простых людей, даже не воинов и не партизан, а большей частью женщин, чудом уцелевших во время кошмарных гитлеровских карательных экспедиций. Казалось, мы уже так много знали об ужасах, творимых эсэсовскими мерзавцами, но эти бесхитростные свидетельства, бережно собранные тремя белорусскими писателями, открывают новую, неизвестную грань подвига...

*В. Быков:* Репортаж с того света...

*М. Кузнецов:* Да, да, это ведь в сущности рассказы расстрелянных, которым буквально чудом удалось уцелеть...

И даже сегодня, спустя 30 лет после Победы, нельзя сказать, что собрано все, что хранится в памяти народной о трагедии и подвиге военного четырехлетия... И пока живы люди, пережившие ту страшную военную грозу, надо неустанно собирать самые ценные их свидетельства. Что касается крупных военачальников, то здесь дело обстоит значительно лучше.

Но хотелось бы вернуться еще раз к проблеме исповеди поколения...

*Ю. Бондарев:* Василь Быков довольно подробно ответил на вопрос. Я думаю, что сама литература — это исповедь. Каждый роман — исповедь писателя, обращенная не к одному человеку, а ко всем, независимо от того, от первого или третьего лица он написан. Ведь исповедь — это в полную меру раскрытие душевных заслонок, освобождение жизненного опыта и одновременно поиск истины. Мне, например, трудно сейчас расположить свои книги по периодам. По-видимому, от года к году я что-то приобретал и что-то утрачивал, ибо нет равной линии познания, как нет в диалектике заданных раз и навсегда формул абсолюта. И все-таки я понимаю, что в наших последних книгах, если говорить о некоем отходе от чистой исповеди как жанра к широкому полотну, появились новые герои, новые характеры, новые ситуации. Однако я вижу в этом свежее средство познать нравственные возможности человека в более масштабном, более глобальном плане, ничуть не отрицая одиночный солдатский окоп.

*М. Кузнецов:* Я помню, как Юрий Бондарев лет десять назад писал в одной из своих статей: «Сейчас время малых повестей или компактных романов на 10–12 печатных листов». Тогда это выражало творческую практику Бондарева, а после этого что-то уже произошло в творческом развитии Бондарева, и он обратился к романам. Сначала — к «Тишине», затем — к «Горячему снегу», а сейчас вот закончен новый роман… Эволюция у вас шла не только, конечно, в движении от повести к роману, но и, так сказать, внутри самого жанра. В первых ваших повестях уже сразу привлекали исключительная острота проблемы и конфликтной ситуации, четкость характеров и точность реалий, я бы даже прибавил — воинствующая точность каждой фронтовой детали, яростное неприятие малейшей приблизительности… Если же обратиться к творчеству, Василя Быкова, то в последние годы все чаще говорят о некоей «притчеобразности» его повестей. Лучше всех и глубже всех об этом сказал, на мой взгляд, прозаик и критик А. Адамович в книге «Горизонты белорусской прозы». Думаю, что было бы небезынтересно об этом поговорить…

*Ю. Бондарев:* Давайте сначала выясним, в каком смысле мы будем употреблять понятие «притча»: в том, как понимали ее в XIX веке, или как понимают сейчас?

*М. Кузнецов:* Самое краткое определение притчи — иносказание. Такое художественное произведение можно толковать в нескольких планах, оно обладает, как говорил М. Пришвин, тайной современностью рассказа о несовременных вещах. Притча отличается крайней заостренностью мысли и, изображая конкретную ситуацию, заставляет читателя подумать о какой-то иной, большой нравственной проблеме, выходящей за пределы конкретного случая…

*Ю. Бондарев:* Вы сказали это, и я вспомнил притчу об Иосифе Прекрасном, которая беспредельно восхищала Льва Толстого. Притчей будем считать жанр, который заключает в себе некую понятную всем общечеловеческую историю, исповедующую высокую мораль. В первую очередь я назвал бы, конечно, повесть Василя Быкова «Сотников». Эта вещь нравится мне чрезвычайно потому, что значительность мысли намечает здесь несколько измерений одного и того же факта, поступка человека в предельной ситуации. Возраст предательства — несколько тысяч лет, но, с точки зрения простой нравственности, оно всегда младенец, рождающийся из чувства страха и слабости.

*М. Кузнецов:* Но есть существеннейшее отличие традиционной притчи от «притчеобразности» повестей Быкова. Обычно для притчи характерно отвлечение от конкретной обстановки, от характеров, динамики событий, и т. п. У Быкова

дроту знаёмы твар. У нямецкай пілотцы, у нямецкім мундзіры. І ён на мяне глядзіць. Прыгледзеўся — камбат. Пытаюся: «Як вы трапілі сюды? Вы ж Герой Савецкага Саюза!» Аказваецца, ён не загінуў і трапіў у палон. Пасадзілі немцы яго ў лагер, дзе — усё, чакай смерці. Аднойчы прыйшлі вярбоўшчыкі. І ён вырашыў запісацца ва ўласаўцы, каб пасля перайсці да нас. «Я, канечне, не страляў у сваіх і падняў рукі, — гаворыць, — здаўся ў палон. Але ўсё роўна, ведаю, цяпер маё дзела спета». А ён жа быў неблагі камбат, нават людзей шкадаваў.

— *Вы хочаце сказаць, што ў літаратуры павінна быць так, як у жыцці?*

— Безумоўна. Няма такога водападзелу на толькі станоўчых і толькі адмоўных. Бывае, абставіны складуцца такім чынам, што ў чалавеку праяўляецца толькі лепшае. А бывае наадварот — выпірае самае чорнае з яго душы. Некалі яшчэ Горкі пісаў, што чалавек каштоўны сваім супраціўленнем сіле жыцця. Таму вельмі важна існа чалавечае, бо абставіны бываюць — нечалавечыя! Толькі чалавек з вялікай сілай можа супрацьстаяць гэтым нечалавечым сілам. Калі вярнуцца да размовы пра камбата, то і ў яго чыста біялагічныя сілы былі здаровыя і моцныя. Ён шукаў магчымасці, каб выжыць. Але духоўныя сродкі для жыцця ён знайшоў не тыя, якія б забяспечылі яму маральнае існаванне на гэтым свеце. Хоць ён і застаўся жывы, тым не менш ён загінуў. Для «Сотнікава» я ўзяў партызанскую стыхію, дзе больш вырашалася — куды? як? з кім? У арміі ёсць загад. Партызанскі ж матэрыял з меншым дэтэрмінізмам, тут можна лягчэй абысціся з магчымасцю выбару. Ну, а астатняе — для пісьменніка няцяжкая справа: ведаючы вайну наогул, не так ужо цяжка было ўявіць партызанскую вайну.

— *Яшчэ пра адну цяжкасць, Васіль Уладзіміравіч. У арміі — свая тэрміналогія, свая лексіка, і гавораць там пераважна парускую. А чытаеш Ваш твор і адчуваеш, што ён — беларускі. У асваенні беларускай літаратурай мовы вайскоўцаў Вы шмат зрабілі. І хацелася б пачуць Вашы думкі наконт гэтага.*

— Так, армія абыходзіцца рускай мовай. І тэрміналогія — па-руску. Значыць, дыялогі дзеючых асоб даводзіцца перакладаць. Задача пісьменніка — знайсці нейкі эквівалент, каб гучала па-беларуску і разам з тым каб, не парушаючы нацыянальнай мовы, была перададзена праўда адносін вайсковых людзей. Атрымаецца фальшыва і ненатуральна, калі рускія афіцэры загавораць на мове дзядзькоў палескай вёскі.

— *Чым павінен кіравацца мастак, каб стварыць такую кнігу, якая стала б сучаснай на многія гады?*

— Тут, на мой погляд, вырашаюць тры ўмовы. Першая —

талент. Другая — сумленнасць мастака. Трэцяя — грамадская атмасфера, гэта значыць магчымасць з'яўлення кнігі.

Грамадства павінна выспець, каб успрыняць подзвіг мастака. Бо калі яно не гатова да гэтага, то атрымаецца, што твор прызнаюць пазней. Гэта асабліва заўважаецца ў выяўленчым мастацтве, — калі мастак апераджаў магчымасці ўспрымання мастацтва сваімі сучаснікамі і прызнанне, і папулярнасць прыйшлі толькі пасля смерці, як, напрыклад, да Ван Гога. У літаратуры, як пісаў той самы Маэм, рэдка так адбываецца, каб слава, якая абыходзіла пісьменніка пры жыцці, палюбіла яго пасля смерці.

*— А вялікі польскі паэт Норвід, напрыклад, за якім настойліва трымалася рэпутацыя «незразумеласці», якога не прызнавалі нават буйнейшыя літаратары-сучаснікі? Сёння імя Норвіда стаіць побач з імёнамі Міцкевіча, Славацкага.*

— Гэты прыклад якраз з тых рэдкіх выпадкаў.

— *А Вы ўлічваеце ўспрыманне сучаснага чалавека?*

— Калі я пішу, то думаю і пра псіхалогію салдата, і пра псіхалогію ўспрымання сучаснага чытача. Я шукаю такіх ваенных перажыванняў, каб гэтая псіхалогія і перажыванні мелі водгук у душах сучасных людзей.

*— Беларуская літаратура пастаянна акцэнтуе ўвагу на ваеннай тэме. Гэта стала яе своеасаблівай уласцівасцю, рысай. Ці можа аказацца для Вас у будучым гэтая тэма вычарпанай?*

Для мяне — можа, а для літаратуры наогул вычарпаць яе немагчыма. Зараз прыйшло маладзейшае пакаленне, і яно са свайго пункту погляду піша пра вайну. Калі ісці далей, то для кожнай нацыі вайна была ў нечым свая. Узбекам, напрыклад, не было лягчэй, але для іх яна была іншая, чым для нас, беларусаў. А што будзе далей для мяне, я не ведаю, з вайны прывык не загадваць далёка наперад.

[1977]

## Сяргей Смірноў

Прыкладна за год да канчыны выдатнага савецкага пісьменніка Сяргея Сяргеевіча Смірнова мы сядзелі з ім у цішы гасцінічнага нумара ў Мінску, і ён, як заўжды, з захапленнем, з зайздроснай маладой апантанасцю расказваў аб рабоце над сваёй новай кнігай, аб тых цяжкасцях, якія трэба было пераадолець у гэтай яго рабоце. Мы пагадзіліся, што задума яе сапраўды складаная, але не варта засмучацца. Напэўна, усе складанасці будуць пераадолены, і з'явіцца кніга, вартая яго папярэдніх кніг.

Мы, аднак, памыліліся.

Мы не маглі прадбачыць тады, што міне год з невялікім і гэтага, поўнага душэўнай энергіі і мастацкіх задум, чалавека не стане. Але, відаць, такая каварная сутнасць смерці — як і на вайне, біць па тых, хто меней за ўсё аб ёй думае, аддае сябе справе, людзям, ідэям.

Новая кніга Сяргея Сяргеевіча Смірнова ніколі ўжо не паявіцца на кніжных паліцах нашых бібліятэк, і, мабыць, назаўсёды застануцца невядомымі нейкія новыя подзвігі і іх героі, якіх з такім пастаянствам умеў адкрываць наш дарагі пісьменнік. Без яго заўжды нечаканых адкрыццяў наша літаратура напэўна стане беднейшай, бо, як бы актыўна ні працавалі іншыя на ўлюбёнай ім ніве, замяніць яго не можа ніхто. У гэтай літаратуры, заўсёды багатай талентамі, наўрад ці хто іншы ў поўнай меры валодае тымі рэдкімі якасцямі, якімі быў надзелены ён. Мабыць, гэта таму, што ў наш складаны час і ў той мнагатруднай справе, якой цалкам прысвяціў сябе ён, недастаткова мець нават бліскучыя літаратурныя здольнасці і спецыфічны талент даследчыка, трэба яшчэ ўмець абараніць сваю пазіцыю з такой непахіснай прынцыповасцю, як гэта ўмеў рабіць ён.

Мы ўжо не ўбачым яго новых кніг, але з намі назаўсёды застанецца тое сапраўды цудоўнае, што паспеў стварыць ён. Яго бессмяротная «Брэсцкая крэпасць», хвалюючыя апавяданні пра шпіталь у Ерамееўцы, гэтай маленькай савецкай калоніі на акупіраванай фашызмам зямлі, пра герояў Аджымушкая, самаадданую чырванафлоцкую Кацюшу, пра невядомага рускага хлопца, які стаў нацыянальным героем далёкай Італіі — пра ўсіх гэтых і многіх іншых герояў будуць з не меншай цікавасцю чытаць нашы нашчадкі, і іх душы, як і нашы сэрцы, будуць поўніцца захапленнем мужнасцю іх маладых продкаў.

І, трэба думаць, яны таксама будуць адчуваць сардэчную ўдзячнасць таму, хто зрабіў набыткам мастацтва і гісторыі пакуты і подзвігі іх далёкіх папярэднікаў.

Крылаты афарызм нашага часу «Ніхто не забыты, нішто не забыта» толькі тады здольны набыць свой сапраўдны сэнс, калі яго разумець як лозунг, канкрэтны заклік да справы, а не як канстатацыю дасягнутага. Цяпер ужо ясна, што мінулая вайна з'явілася цэлай эпохай у гісторыі народа, гераізм якога доўга яшчэ будзе натхняць наша мастацтва. Пры гэтым зусім відавочна, што нікому паасобку, нават самаму таленавітаму з літаратараў не дадзена расказаць аб ёй у вычарпальным аб'ёме, кожны ў меру сваіх сіл і магчымасцей можа засведчыць толькі невялікую частку з гэтага агульнанароднага выпрабавання. Але нават і ў гэтым выпадку ўклад Сяргея Сяргеевіча Смірнова ў ваенную

дакументалістыку пераацаніць немагчыма. На працягу амаль трох дзесяцігоддзяў ён шукаў, клапаціўся, узнаўляў забытае або страчанае і ў самай дзелавой, пазбаўленай усялякіх белетрыстычных аздоб, форме сведчыў аб фактах, непрыдуманая канкрэтнасць якіх здольна зацьміць самыя вытанчаныя прыдумкі. Сапраўды, гісторыя хоць бы той самай праслаўленай ім Брэсцкай крэпасці-героя, аб якой у час вайны ды і ў першыя гады пасля яе абсалютна нічога не было вядома. Цяпер мы ведаем аб ёй многае, таксама як і аб тых цяжкасцях, якія пераадолеў пісьменнік, перш чым з мноствам падрабязнасцей узнавіў усе перыпетыі няроўнай барацьбы жменькі савецкіх байцоў супраць добра ўзброеных часцей вермахта, аднавіў імёны загінуўшых герояў, дамогся рэабілітацыі тых, што засталіся ў жывых, узвысіў іх сапраўды беспрыкладны подзвіг да агульнанароднага прызнання і высокіх узнагарод. Здавалася, ужо адна гэтая крэпасць над Бугам магла стаць справай усяго жыцця для кожнага з літаратараў, а ён пайшоў далей, шукаў, даследаваў і расказаў свету аб дзясятку іншых, не меней яскравых, складаных і супярэчлівых гісторый вайны.

За ім заслужана і трывала ўсталявалася рэпутацыя песняра народнага подзвігу ў мінулай вайне, у гэтай высакароднай справе яму не было роўных, хоць пра подзвігі і пра вайну пішуць многія сотні самых розных аўтараў, і наша ваенная літаратура, мабыць, самая багатая ў свеце. У чым жа тады своеасаблівасць і прыцягальная сіла кніг, створаных талентам Сяргея Сяргеевіча?

На маю думку, няпросты адказ на гэтае пытанне ў значнай ступені вынікае з асобы пісьменніка, яго мастацкага таленту і яго грамадзянскага тэмпераменту. Сяргей Сяргеевіч Смірноў не хранікёр вайны і нават не яе таленавіты даследчык, здольны браць з мінулага штосьці значнае, асвяціўшы яго праменем сучаснай ісціны. Перш за ўсё ён салдат, які тры дзесяцігоддзі пасля заканчэння вялікай вайны працягваў жыць выпраменьваннем яе каласальнай энергіі. Яго, які прайшоў увесь крывавы і гераічны шлях вайны, камандаваў ротай, аб’ездзіў з карэспандэнцкім блакнотам залітыя крывёю палі Украіны і Венгрыі, яго да канца дзён не пераставала хваляваць цана прынесеных народам ахвяр і перажытых выпрабаванняў. Вернасць памяці загінуўшых, трывога за будучыню пакаленняў прымушала яго шукаць, дакопвацца да ісціны, узнаўляць гонар сапраўдных герояў і развенчваць фальшыўцаў. Яго нястрымнай энергіі хапіла б яшчэ на дзясятак кніг пра вайну, калі б смерць не спасцігла так рана, у росквіце яго пісьменніцкай і чалавечай сталасці.

Не баючыся перабольшвання, можна сцвярджаць, што яго дакументальная проза — бадай, самае значнае дасягненне гэтага

папулярнага жанру. Пазбаўленая прыдумак, усялякай літаратурнай красамоўнасці, выдуманых і заўжды фальшывых дыялогаў, яна стрымана-грунтоўна і дакладна апавядае аб тым, што ў працэсе карпатлівых пошукаў удалося высветліць аўтару. Гэта тая проза, якая, будучы створанай на аснове паказанняў сведкаў, на матэрыяле старанна вывучаных фактаў і вельмі нешматлікіх дакументаў, сама становіцца дакументам, дакладным і бясспрэчным, як ісціна. Нездарма многія яе старонкі з'явіліся падставай для рэабілітацыі яе герояў, наступных публікацый іншых аўтараў, для ўрадавых узнагарод і іншага. Што можа быць вышэй і больш дзейсна, чым такая літаратура аб нашых сучасніках?

Кожны з працаўнікоў літаратуры ў меру сваіх таленту і здольнасцей выконвае свой так ці інакш зразуметы ім абавязак перад часам і перад народам, і кожны варты прызнання пэўнага кола чытачоў. Але мала ў каго знойдзецца столькі чытачоў, так крэўна абавязаных аўтару. Сотні, калі не тысячы людзей у нашай краіне і за яе межамі да канца сваіх дзён будуць абавязаны Сяргею Сяргеевічу Смірнову за яго чалавечы ўдзел у іх няпростых лёсах, часта заблытаных сітуацыях, калі ў канчатковым выніку многае, калі не ўсё, вызначала яго чалавечае сумленне і яго пісьменніцкая прынцыповасць. Заўчасную смерць пісьменніка аплаквалі не толькі яго сябры і блізкія, але і многія з тых, хто абавязаны яму быццам другім нараджэннем.

Што ж, цудоўны яго пісьменніцкі лёс!

[1977]

## 1978

### Усенародная памяць

У непрыкметнай лясной вёсачцы каля вялікай беларускай ракі жыве не старая яшчэ жанчына. У яе добрая, адбудаваная ў пасляваенны час хата, якая некалі рознагалоса гучала дзіцячымі галасамі. Цяпер тут цішыня. Невялікая гаспадарка, і вольны час запоўнены ўспамінамі аб тым даўнім ваенным леце, калі гэтая жанчына, тады маладая дзяўчына, страціўшы бацькоў, сабрала пад уцалелым дахам паўтузіны асірацелых на вайне дзяцей, на доўгія гады стаўшы для іх маці, старэйшай сястрою, выхавальніцай. Ішлі гады, дзеці вучыліся, сталелі і разыходзіліся з ляснога прыстанку па сваіх нязведаных дарогах. І вось настала хвіліна, калі яна развіталася з апошнім і асталася ў гэтай хаце адна. Яна не шкадуе аб сваім нялёгкім лёсе, які шмат у чым вызначыла яе дабрыня, што праявілася ў цяжкую гадзіну…

Усё далей у незваротнае мінулае адыходзіць гэтая самая вялікая вайна, але шрамы ад яе кіпцюроў яшчэ часам праглядваюць у звыклым дабрабыце нашага сённяшняга жыцця. Мінула столькі гадоў, а памяць аб ёй жывая ў свядомасці народа, у сэрцах і душах людзей. На самой справе, як можна забыць наш бяспрыкладны подзвіг, нашы велізарныя страты, прынесеныя ў імя перамогі над самым каварным і жорсткім ворагам — нямецкім фашызмам!

Але памяць чалавека, на жаль, абмежавана ў сваіх магчымасцях. Тое, што нядаўна яшчэ было табе памятна, праз некалькі год паступова зацягваецца туманом забыцця, і трэба ўжо намаганне, каб успомніць імёны нашых франтавых таварышаў, даты калісьці так добра памятных баёў, назвы вёсак і ўрочышчаў, якія, здавалася б, на ўсё жыццё ўрэзаліся ў тваю памяць. Да таго ж паступова радзеюць шэрагі ветэранаў, тых, хто прайшоў вайну і мог бы з веданнем справы і падрабязнасцей расказаць аб ёй людзям.

У гэтым сэнсе вялізная задача кладзецца на наша мастацтва і літаратуру, якія валодаюць, як вядома, зайздроснай здольнасцю спыняць хуткаплынны час, увасабляць і захоўваць яго кардынальныя моманты ў гістарычнай свядомасці народа. Сапраўды, за пасляваенныя гады ўсімі відамі мастацтва створана нямала цудоўных твораў на тэмы мінулай вайны, а літаратура ўзбагацілася кнігамі, якія, можна спадзявацца, з’явяцца надзейным сведчаннем аб ёй на многія будучыя дзесяцігоддзі. Але ўся неаглядная разнастайнасць народнага подзвігу ў агняныя гады вайны, гераізм мільёнаў, поўная не меншага гераізму і

самаадданасці работа савецкага тылу тояць у сабе нямала неасветленых, а то і забытых старонак.

Трэба аддаць належнае нашай прэсе і нашым выдавецтвам — за пасляваенныя гады надрукавана шмат матэрыялаў аб мінулай вайне, якія належаць відным военачальнікам, партызанскім і партыйным кіраўнікам. Сярод іх нямала цікавых успамінаў, асветленых незвычайнасцю барацьбы, значнасцю асобы іх аўтараў. За апошнія гады наша грамадскасць не магла не адзначыць з'яўленне незвычайнай кнігі аповедаў аб злачынствах акупантаў на беларускай зямлі «Я з вогненнай вёскі...», запісаных А. Адамовічам, Я. Брылём і У. Калеснікам. Зусім нядаўна той жа А. Адамовіч у сааўтарстве з Д. Граніным надрукаваў «Раздзелы з „Блакаднай кнігі"» аб людзях блакаднага Ленінграда. А яшчэ некалькімі гадамі раней наша літаратура ўзбагацілася надзвычай змястоўнымі ваеннымі дзённікамі К. Сіманава.

Трудна пераацаніць значэнне той справы, якую робяць вышэйназваныя і іншыя аўтары. Вялікая заслуга ў гэтым жанры належала С. Смірнову з яго «Брэсцкай крэпасцю». Гэтая і наступныя яго кнігі, пабудаваныя на скрупулёзнай фактычнай дакладнасці, пазбаўленыя сумніўнага ў такіх выпадках белетрыстычнага элементу, нясуць высакародную мэту аддаць належнае непрызнаным, а то і забытым героям вайны, яны з'явіліся адкрыццём для свайго часу.

Зразумела, літаратура не можа не ўсведамляць свой абавязак як у адносінах да забытых старонак вайны, так і ў адносінах да яе герояў, ветэранаў многіх баёў, якія маюць унікальны баявы вопыт, але з-за шэрагу прычын не маюць магчымасці належным чынам зафіксаваць яго на паперы. Пры саюзах пісьменнікаў некаторых рэспублік створаны і працуюць камісіі па ваеннай літаратуры, вопытныя аўтары разглядаюць рукапісы ўспамінаў, дапамагаюць у іх дапрацоўцы. Нямала кніг штогод выходзіць у літаратурным запісе прафесійных літаратараў. І ў дадзеным выпадку вельмі важным з'яўляецца не толькі прафесійнае майстэрства літаратурнага памочніка аўтара, але таксама і яго жыццёвы і ваенны вопыт, ступень валодання гэтым няпростым матэрыялам.

Але, на жаль, бывае і так, што аўтар літаратурнага запісу, мабыць, не маючы здатнага арыгінала і не валодаючы асабістым ваенным вопытам, абмяжоўваецца ў сваёй рабоце больш ці менш пісьменным пераказам фактаў і трапляе ў яшчэ большы, на мой погляд, грэх — гвалтоўную белетрызацыю матэрыялу. І тады на працягу многіх старонак чытачу прапаноўваюцца бясконцыя размовы персанажаў, пададзеныя ў іх прамым пераказе, размовы, якія нібыта мелі месца ў сапраўднасці, што ўжо само па сабе выклікае сумненне.

Кожны літаратурны жанр мае свае законы, уласцівыя толькі яму асаблівасці. Многае з таго, што абавязкова для мастацкай літаратуры, супрацьпаказана літаратуры дакументальнай. І ўжо зусім недапушчальна, калі імя такога літаратурнага памочніка значыцца на вокладцы кніжкі побач з імем яе сапраўднага аўтара, а то і замест яго. Можа, падобная трансфармацыя не пераступае юрыдычных або літаратурных норм, але, акрамя іх, існуюць жа яшчэ і этычныя нормы, а простая замена першай асобы на трэцюю ў дадзеным жанры яшчэ не дае права на аўтарства. Даволі распаўсюджанай і не менш сумнай памылкай тых, хто піша аб перажытым у гады вайны, з'яўляецца імкненне стварыць на яе матэрыяле раман або аповесць замест таго, каб падрабязна, строга прытрымліваючыся фактаў і без выдумкі напісаць аб тым, што было і што добра запомнілася. Не валодаючы патрэбнымі літаратурнымі навыкамі, гэтыя людзі пры ўсёй пахвальнасці іх намераў затрачваюць шмат часу на стварэнне твора, загадзя асуджанага на няўдачу, пасля якой настае непазбежнае расчараванне, неабгрунтаваныя крыўды на рэдактараў і кансультантаў. Усяго гэтага можна і трэба пазбегнуць, калі аўтар будзе ясна ўсведамляць сваю канкрэтную задачу і разумна суаднясе з ёю свае літаратурныя магчымасці.

Не трэба, вядома, лічыць, што ўсё напісанае ў розных відах і формах успамінаў будзе надрукавана. Многае застанецца ў рукапісах, дакументах сям'і або будзе здадзена ў музеі і архівы, дзе захаваецца на доўгі час і так ці інакш знойдзе свайго ўдзячнага чытача.

Планы і магчымасці нашых выдавецтваў, як вядома, абмежаваны, але нельга не прызнаць таксама, што выдавецтвы яшчэ недастаткова працуюць з ветэранамі, стымулюючы іх да стварэння кніг аб вайне, недастаткова вядуць пошук цікавых рукапісаў, а з таго, што самацёкам паступае ў выдавецтвы, многае так і не знаходзіць дарогі да чытача з прычыны вытворчай працаёмкасці або незвычайнасці матэрыялу. Асабліва калі аўтар такога рукапісу — радавы ўдзельнік вайны і пасля яе не так ужо многа прыдбаў на пасадах.

Я ведаю колішняга камандзіра батарэі Івана Рыгоравіча Ушчапоўскага, які жыве ў Гродне і сапраўды прайшоў усю вайну ад яе першага да апошняга дня, многа перажыў і многа на ёй пабачыў. Валодаючы здзіўляючай памяццю адносна ўсяго, што датычыць тае пары, ён аддаў некалькі год успамінам аб перажытым, напісаў больш за тысячу старонак машынапісу. Гэты шчыры і праўдзівы дакумент — сведчанне аб найвялікшай з войнаў, убачанай вачыма яе радавога ўдзельніка, пакуль яшчэ так і не знайшоў свайго выдаўца.

Абавязак усіх, хто перажыў вайну і каму ёсць што расказаць людзям, зрабіць гэта ў любой даступнай для яго форме. Мы, літаратары, а таксама выдаўцы, журналісты павінны дапамагчы тым, хто не мае дастатковых для таго магчымасцей. І стары заслужаны генерал, які правёў сваю дывізію ад падмаскоўных палёў да Берліна, і славуты партызанскі кіраўнік, арганізатар агульнанароднай барацьбы на акупіраванай тэрыторыі, і невядомая жанчына над Нёманам, што выхавала шасцярых сірот, могуць і павінны расказаць гісторыі і чалавецтву аб усім перажытым імі ў цяжкую гадзіну.

Многія ўжо напісалі, іншыя пішуць. Прыемна, калі за пяро бяруцца не толькі людзі, якія маюць вольны для таго час, але і вельмі занятыя людзі, для якіх некалькі вольных гадзін у тыдзень — цяжкая праблема. Нядаўна мы з сябрамі-журналістамі былі на прыёме ў аднаго з беларускіх міністраў, які ў канцы размовы даверліва паведаміў, што збіраецца напісаць кнігу. Мы, канешне, дружна падтрымалі гэты намер, і адзін з нас, падумаўшы пра пастаянны дэфіцыт ягонага часу, сказаў, што трэба пашукаць памочніка.

— А не, — рашуча заявіў міністр. — Такую справу я не магу даверыць нікому. Толькі сам!

Што ж, пахвальнае рашэнне!

На днях у Мінску закончылася ўсесаюзная нарада, скліканая Саюзамі пісьменнікаў СССР і БССР. Некалькі дзён вядомыя пісьменнікі і літаратуразнаўцы абмяркоўвалі праблему: «Гераізм савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны і сучасная дакументальная літаратура». Вызначаны задачы, якія стаяць не толькі перад дакументальнай, але і мастацкай літаратурай аб вайне. Галоўны ж вывад такі: усе мы, удзельнікі мінулай вайны, кожны ў меру сваіх сіл і магчымасцей, павінны няспынна сведчыць перад народам і гісторыяй аб нашым унікальным вопыце, які стаў для многіх таксама і вялізным жыццёвым вопытам, а для народа ў цэлым — найвялікшым з выпрабаванняў, якія калі-небудзь выпадалі на яго долю.

Гэта наш грамадзянскі, пісьменніцкі і воінскі абавязак.

[1978]

## Невычэрпная шчодрасць розуму

Упершыню Л. М. Талстой увайшоў у маё жыццё многа гадоў назад, калі, захварэўшы аднойчы, я быў на месяц адарваны ад школы і прачытаў чатыры тамы яго «Вайны і міру». Не скажу, што

дзіцячае чытанне вялікай эпапеі аказалася ў чымсьці для мяне плённым, але непаўторныя вобразы яе герояў, шырокая панарама рускага жыцця, ваенныя карціны далёкага мінулага не маглі не паланіць дзіцячай душы. Гэта было добраахвотнае паланенне на ўсё жыццё, хоць, зразумела, чытаць і перачытваць Талстога не лішне ў любым узросце. Як ніхто іншы з вялікіх мастакоў слова, ён грандыёзны глыбіннаю шчодрасцю розуму, жывасцю назіранняў, здольнасцю пастаянна ўплываць на фарміраванне і ўдасканаленне чалавечай душы.

І гэта цудоўна, калі дружба з агромністаю спадчынай Л. Талстога не заканчваецца аднойчы, а працягваецца праз усё жыццё. Гранічная талстоўская шчырасць, глыбіннае пранікненне ў таямніцы чалавечай істоты, сацыяльная значнасць і няспынныя пошукі маральнага ідэалу прыцягвалі і прыцягваюць да яго многія пакаленні чытачоў. Больш за стагоддзе назад створаныя ім «Севастопальскія запіскі» красамоўна сведчаць аб тым, як трэба разумець «сражающийся» народ і як яго адлюстроўваць у літаратуры. Магутны талент і творчая мужнасць вялікага мастака далі яму права напісаць бессмяротныя радкі, якія з'яўляюцца катэгарычным імператывам усякай рэалістычнай літаратуры: «Герой жа маёй аповесці, якога я люблю ўсімі сіламі душы, якога імкнуўся адлюстраваць ва ўсёй прыгажосці яго і які заўжды быў, ёсць і будзе цудоўны — праўда».

Здаецца, усё вельмі проста, інакш і не можа быць: праўда была і застаецца вялікім сэнсам літаратуры. На справе ж няма большых клопатаў у таго, хто піша, чым яго адносіны з такой няпэўна акрэсленай, непастаяннай і зменлівай катэгорыяй, якой з'яўляецца праўда. Талстой жа валодаў здзіўляючай, мабыць, прыроднаю, здольнасцю адрозніваць у заблытаных і шматскладаных праявах жыцця глыбінную сутнасць праўды, а яго грандыёзны талент пераўтвараў яе ў нязменнага героя яго мастацкай прозы. Мабыць, аднак, і для Талстога гэта было няпроста, інакш бы ён не напісаў, што: «Як ні дзіўна гэта казаць, а мастацтва патрабуе яшчэ большай дакладнасці... чым навука». Некалькі парадаксальна гучаць у наш век НТР гэтыя ягоныя словы, але справядлівы іх сэнс разумее кожны калькінебудзь сур'ёзны пісьменнік, таксама як і ўдумлівы чытач.

Мы прывыклі да бясспрэчнай справядлівасці вядомага ленінскага выказвання аб графе Талстым, да якога не было сапраўднага мужыка ў літаратуры, але не часта задумваемся над тым, адкуль у гэтага пана, які на працягу ўсяго жыцця вёў замкнуты, «сядзібны» спосаб жыцця, такое глыбокае разуменне народа, веданне патаемнай чалавечай сутнасці? Справа, відаць, усё ж не ў спосабе жыцця, а ў прыроднай якасці душы — ступені

чалавечай «сопричастности» з другімі, да сябе падобнымі, здольнай да суперажывання, да ўсведамлення чужога болю, як свайго ўласнага, чым у вялікай ступені быў надзелены Леў Талстой. Цяпер нам відаць абмежаванасць і бесперспектыўнасць некаторых з яго духоўных пошукаў, і мы з пэўнасцю можам меркаваць аб ягоных памылках. Але вялізнае бачыцца на адлегласці, а для яго быў важны галоўнейшы з ягоных прынцыпаў: «Каб жыць сумленна, трэба рвацца, блытацца, біцца, памыляцца, пачынаць і кідаць, і зноў пачынаць і зноў кідаць і вечна змагацца і губляць. А спакой — душэўная подласць».

[1978]

## Глазами участника и очевидца

Эта книга представляет собой частицу художественной летописи поколения, в свое время лишенного юности, со школьной скамьи шагнувшего в испепеляющий огонь войны. История уготовила ему величайшую из миссий, когда-либо выпадавших на долю человечества, — освобождение народов от жестокой силы фашизма. Что и говорить — миссия эта оказалась невероятной по своей сложности, потребовала огромных усилий, самоотверженности и недюжинного ратного опыта, который приобретался в ходе ожесточенной борьбы и стоил немалых жертв.

Анатолий Соболев фактом своего рождения принадлежит к людям данного поколения, в историческом опыте которого — часть и его личного опыта. Именно по этой причине его писательское свидетельство является одновременно и личным свидетельством участника и очевидца одной из самых кровавых войн.

На протяжении последних пятнадцати лет в ряде книг о войне он с завидным постоянством воссоздает ее суровые, чуждые псевдогероики и напускного бахвальства будни, в которых выстоять и победить было столь же неимоверно трудно, как и необходимо. Победа над немецким фашизмом давалась ценой обильного солдатского пота и большой солдатской крови. Сознание непреложности данного факта, как и неоплатного долга живых перед миллионами павших, дало возможность автору создать свои лучшие произведения о войне, населив их полнокровными образами и наполнив правдивыми реалиями тех огненных лет.

Случилось так, что в силу обстоятельств личной биографии питателя излюбленной сферой действия его героев стал Северный флот, а флотская военная жизнь — тем оселком, на котором оттачивались характеры многих героев А. Соболева. Начиная со

своей первой военной повести «Безумству храбрых», авторское внимание захватила флотская среда, Заполярье со всеми особенностями его быта, атмосферы, природными условиями. Человек перед грозным лицом опасности, мера его готовности к подвигу — вот те нравственные моменты, которые интересуют воображение писателя и позволяют читателю с неослабевающим интересом следить за изнуряюще-опасной работой водолазов, волноваться и переживать трагическую судьбу шестерки матросов с «Тихого поста» или юного разведчика, оказавшегося раненным на той стороне фронта. Это как раз те ситуации, которые с юношеских лет памятны автору, те образы, которые знакомы ему с ранней военной юности. Безусловно, это обстоятельство в значительной мере определяет достоинство лучших произведений Анатолия Соболева.

В лучших своих повестях и рассказах А. Соболев скрупулезно следует правде того времени, ее атмосфере, счастливо избегая любой выспренности и фальши, всего напускного, привнесенного временем, которое, как известно, склонно создавать мифы там, где умолкают факты. Герои этой книги — обыкновенные люди, по преимуществу молодые парни; как и всем живущим на земле, им присуще желание жить, и не их вина, что жить всем не выходит. Чтоб победить, приходится кому-то умирать, и смерть эту каждый из них встречает поразному. Приняв на себя немецкий огонь, погибает разведчик Олег, дав тем возможность вырваться из западни товарищу; в безнадежной обстановке кончает с собой Гена Лыткин, чтобы позволить последнему оставшемуся в живых выполнить важное задание. Обстоятельства смерти героев различны, но смысл остается неизменным — даже погибая, помочь остающимся продолжать борьбу.

Но Анатолий Соболев не был бы настоящим прозаиком, если бы все в своем творчестве основывал лишь на собственном опыте, на пережитом лично. Многие его вещи последних лет свидетельствуют о довольно плодотворных попытках их автора проникнуть за пределы его военного опыта, выйти из круга личных впечатлений. В повестях «Ночная радуга», «Три Ивана», «А потом был мир» с различной степенью успеха, но всегда интересно, со знанием жизни и чужой психологии изображены люди с «той стороны», убедительно прослежены философские и нравственные моменты и сознания и поступков.

А. Соболев, несомненно, одаренный русский прозаик. Эта его одаренность явственно проступает уже в его языке, манере литературной речи, свободной, богатой и выразительной. Отличное владение языком особенно проявляется в невоенных вещах, связанных с впечатлениями детства автора, прошедшего среди

живописной природы Алтая, в исконно русских селениях. В этом отношении приятно впечатляют «Грозовая степь» и «Тополиный снег» — произведения о довоенной сибирской деревне, полные лиризма и неизъяснимой поэтической прелести.

В заключение нелишне будет добавить, что Анатолий Соболев, безусловно, оставаясь писателем-маринистом, изрядно потрудившимся в военно-морской тематике, по-видимому, обратится в ближайшем будущем к труженикам моря наших дней. Об этом свидетельствует накопленный им опыт в жизни «мирного» моря, его непрекращающаяся связь с моряками, наконец, его верность городу на Балтике, где, не переставая, звучат пароходные гудки, бередящие писательское воображение и обязывающие к новым проникновенным строкам о мужественных людях моря.

[1978]

## 1979

### Некалькі слоў пра «Альпійскую баладу»

Група студэнтаў біялагічнага факультэта МДУ імя М. В. Ламаносава просіць мяне расказаць у газеце аб прадгісторыі стварэння адной з маіх аповесцей…

Гэта адбылося ў самым канцы вайны ў аўстрыйскіх Альпах, куды ўжо ўладарна прыйшла апошняя ваенная вясна і з ёю магутным патокам шыбавалі войскі двух нашых франтоў. Нядаўна яшчэ тут быў глыбокі тыл нямецкага рэйха, і, як усюды ў яго тыле, было шмат прамысловых прадпрыемстваў, якія працавалі на вайну, і, вядома, усялякіх лагераў: канцэнтрацыйных, ваеннапалонных, працоўных. З прыходам Чырвонай Арміі ўсе яны разбягаліся, ахова ўцякала, а дарогі і населеныя пункты напаўняліся многімі тысячамі людзей, сагнаных з усіх краін Еўропы.

Аднойчы мы занялі нейкі гарадок і чакалі новай каманды. Доўгая калона артпалка, павярнуўшы да абочыны, замерла на брукаванай ускраіннай вулачцы. Здаецца, гэта быў Фэльбах або, можа, Глейсдорф, памяць добра захавала агульны выгляд гарадка, але зусім страціла яго назву. Салдатам не было дазволена адлучацца ад машын, мы вось-вось павінны былі кудысь павярнуць з ранейшага напрамку, і начальства ў камандзірскім «вілісе» нешта вырашала над картамі.

У кабіне «студэбекера» моцна прыгравала сонца, пасля

бяссоннай ночы карцела драмаць, і я вылез на вуліцу. Салдаты ў кузавах таксама сядзелі, разамлеўшы ад цяпла, і «клявалі» насамі. Па маставой уздоўж машын прайшла група выпушчаных на волю схуднелых экспансіўных людзей у цёмных берэтах. Яны неслі нацыянальны французскі сцяг, спявалі «Марсельезу» і нешта крычалі нам, але мы не разумелі, і толькі старшына Лук'янчанка дабрадушна памахаў ім з кузава — давай, маўляў, не варта ўдзячнасці. Аслабанілі, дык што ж... Гэта нам — семачкі.

І тут каля адной з дальніх машын на вочы мне трапіла дзяўчына — шчупленькая, чорнавалосая, у паласатай куртцы і цёмнай спаднічцы, яна перабірала вачыма твары байцоў у машыне і адмоўна круціла галавой. А ў машыне ўжо пачалося звычайнае ў такім выпадку ажыўленне: штосьці там наперабой выкрыквалі байцы, але яна, пагасіўшы ўсмешку, пераходзіла да наступнай машыны.

— Таварыш, хто ест Іван?

— Іван? — ускочыў крайні баец. — Я Іван, вунь той Іван і шафёр наш таксама Іван.

Поўны надзеі твар дзяўчыны паступова сумнеў, калі яна пераводзіла позірк з аднаго Івана да другога і з ціхім сумам казала:

— Но. То — нон Іван.

Штосьці зацікавіла мяне ў гэтых яе пошуках, і я пачакаў, пакуль яна, паўтараючы ўсё тое ж пытанне, абышла ўсю калону. Зразумела, Іванаў у нас было шмат, але ні адзін з іх не здаўся ёй тым, каго яна шукала. Тады мы з камандзірам трэцяй батарэі капітанам Коханам падышлі да дзяўчыны і спыталі, якога менавіта Івана яна шукае.

Дзяўчына спярша заплакала, але хутка спахапілася, рукавом курткі выцерла цёмныя бліскучыя вочы і, агледзеўшы нас выпрабавальным позіркам, страшэнна скажаючы рускія і нямецкія словы, густа перасыпаныя італьянскімі, расказала прыкладна наступнае.

Яе завуць Джулія, яна італьянка з Неапаля. Год назад, летам сорак чацвёртага, у часе бамбёжкі саюзнай авіяцыяй размешчанага ў Аўстрыі ваеннага завода, яна ўцякла ў Альпы. Пасля адзінокага блукання ў гарах сустрэла рускага ваеннапалоннага, які ўцёк з канцлагера, і яны пайшлі разам. Спачатку ён не хацеў браць яе з сабою, бо прабіраўся на Усход, бліжэй да фронту, яна ж хацела на радзіму, у Італію, адкуль была вывезена пасля падаўлення паўстання ў Неапалі і кінута ў нямецкі канцлагер. Некалькі дзён яны праблукалі ў гарах, перайшлі заснежаны горны хрыбет і аднойчы ў туманную раніцу наткнуліся на паліцэйскую засаду. Яе схапілі і зноў кінулі ў лагер, а што здарылася з Іванам, яна не ведае. Але яна вельмі спадзявалася,

што ён быў шчаслівейшы, прабраўся на фронт і цяпер разам з Чырвонай Арміяй зноў прыйшоў у Аўстрыю.

Канешне, гэта было наіўна — спадзявацца сустрэць у вялізным патоку войск знаёмага хлопца, мы, як маглі, суцешылі дзяўчыну і пабеглі да сваіх машын, бо ўжо была пададзена каманда ехаць далей.

У той жа дзень пад вечар пачаўся зацяжны бой за чарговы гарадок, у хуткім часе загінуў капітан Кохан, я амаль забыўся пра тую мімалётную франтавую сустрэчу і ўспомніў пра яе толькі праз васемнаццаць гадоў, калі заняўся літаратурай. І тады я напісаў усё тое, што вы прачыталі ў «Альпійскай баладзе».

Вось і ўся кароценькая гісторыя — пралог да адной з маіх аповесцей, якая зацікавіла групу студэнтаў з Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. В. Ламаносава.

[1979]

## [Інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва»]

Кожная ўзнагарода, апроч таго, што лашчыць самалюбства ўзнагароджанага, яшчэ і напамінае яму пра абавязкі, і, мусіць, у гэтым яе найбольшы сэнс. Бо пісьменнік амаль ужо не ўладар над тым, што напісана, выдадзена і прачытана дзясяткамі тысяч яго чытачоў, але ён — паўнапраўны распарадца над сваімі планамі, задумамі і іх здзяйсненнямі.

Удастоеныя высокай прэміі мае аповесці напісаны не ў апошні час, і, як бывае ў такіх выпадках, нямала аддаліліся ад аўтара ў многіх сэнсах, аўтарскія ж клопаты — ужо ў будучым, у новым матэрыяле. Хаця, трэба сказаць, што для мяне гэты матэрыял усё той жа — неўміручы подзвіг народа ў небывалай па жорсткасці вайне, якую ён перажыў з гонарам, з сусветнай славай, але і з найвялікімі ахвярамі. Менавіта гэты подзвіг яго і яго ахвяры абавязваюць мастака да многага ў яго працы, а найболей — да праўды.

Чалавечая памяць у яе псіхалагічным сэнсе ўладкавана такім чынам, што найпершай яе ўласцівасцю з хадой часу з'яўляецца адсейванне непрыемнага, цяжкага і схільнасць да добрага, удачлівага, нават камедыйнага. Мабыць, з гэтай прычыны ў апошні час паявіліся вясёлыя фільмы пра вайну, дзе налі хто і гіне, дык гэта ўспрымаецца са светлым смуткам і не ўплывае на святочна-прыўзняты настрой гледача, з якім той прыйшоў у кінатэатр. Не навіна гэткія творы і ў літаратуры. Мусіць, гэта заканамерна з пункту погляду ўсё той жа псіхалогіі, але толькі не

сур'ёзнага мастацтва. Паасобны чалавек або група людзей могуць забыць МНОГАЕ з мінулага, мастацтва ж не мае права забыць НІЧОГА. Толькі сукупнасць усіх раўнадзейных і ўсіх рознанакіраваных, уся механіка іх узаемадзеяння і складаюць тое галоўнае, што мы называем праўдай жыцця.

Гэта, вядома, элементарна, не патрабуе доказаў і ўспамінаецца хіба тады, калі ў літаратурнай практыцы мы сутыкаемся з нечаканым адхіленнем у іншы бок пры абсалютнай несумненнасці самых добрых аўтарскіх намераў. І тут, мабыць, справа ў яшчэ адной асаблівасці мастацкай творчасці — у яе суб'ектыўнасці, якая ёсць дабро і зло адначасна і пераадолець якую не дадзена нікому з творцаў. Канечне, найбольшы каардынатар між гэтымі двума пачаткамі — ТАЛЕНТ, яго спрадвечнае імкненне да ісціны. Але талент, як вядома, якасць дужа няўлоўная, лятучая і зменлівая, яе нельга праверыць алгебрай і можна — хіба што працай, творам — канчатковым вынікам творчасці. Да таго ж талент, як казалі ў старыя часы, — ад Бога, і не залежыць ад чалавека, ягонага носьбіта, у той час як усё астатняе — ад чалавечай прыроды і цалкам у нашых руках. Найпершае з гэтага астатняга — грамадзянскае сумленне і працавітасць. Дык будзем жа памятаць пра іх і карыстацца імі спаважна, па-гаспадарску, — як таго заслугоўвае наш гераічны, шматпакутны і працавіты народ.

[1979]

## [Інтэрв'ю газеце «Советская Белоруссия»]

— *Пётр Усцінавіч Броўка сказаў неяк, што ў вашай творчасці аповесць «Яго батальён» займае асобнае месца. Яна з'яўляецца як бы вяршыняй цыкла вашых ваенных твораў. А да іх адносяцца і «Альпійская балада», і «Сотнікаў», і «Воўчая зграя», і той жа «Яго батальён», і іншыя вашы творы. Студэнты Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. В. Ламаносава ў навагоднім нумары «Литературной газеты» назвалі ваша імя першым сярод пісьменнікаў, кнігі якіх яны палюбілі. Раскажыце, калі ласка, Васіль Уладзіміравіч, аб вытоках вашай творчасці, аб тых, калі можна так сказаць, «крылах», якія дапамагаюць у вашым творчым палёце, садзейнічаюць нараджэнню высокамастацкіх твораў.*

— Цяпер з усёй перакананасцю можна сказаць, што як пісьменнік я пачаўся з самага звычайнага, магчыма, некалькі больш, чым іншыя мае аднагодкі, захопленага літаратурай чытача,

якім я быў у дзяцінстве і ў юнацтве. Канешне, у тую ўжо далёкую пару не даводзілася і думаць аб пісьменніцтве, былі клопаты іншага роду, было нялёгкае дзяцінства, а потым яшчэ больш цяжкое юнацтва, вайна і ўсё, што з ёю звязана. Праўда, той самы неспрыяльны ў жыцці народа час даў пэўнага характару вопыт, які заўжды важны ў мастацтве, хоць гэты вопыт і дастаўся нашаму пакаленню занадта дарагой цаной. Таму, мабыць, натуральна, што, заняўшыся літаратурай, я не мог грэбаваць ім — усё перажытае патрабавала выйсця. Відаць, менавіта гэтая акалічнасць, як я цяпер разумею, з'явілася прычынай таго, што мае першыя творы былі напісаны пра вайну, тэма якой не перастае займаць мяне і цяпер, праз болей чым тры дзесяцігоддзі пасля яе заканчэння. Відаць, гэта натуральна і правамерна, таму што ўсенародны подзвіг у мінулай вайне, нашы перамогі і нашы страты накладваюць на літаратуру і мастацтва асаблівыя абавязкі, якія могуць быць выкананы толькі аб'яднанымі намаганнямі ўсіх творчых працаўнікоў на працягу многіх год.

*— Пісьменнік — справядліва гавораць — інжынер чалавечых душ. Якім бы талентам ён ні валодаў, ён павінен жыць жыццём свайго народа, быць у гушчыні гэтага жыцця. Відаць, пры гэтай умове і спадарожнічае пісьменніку поспех. Я добра ведаю, што вы многа і плённа працуеце за пісьменніцкім сталом. Вы абраны дэпутатам Вярхоўнага органа дзяржаўнай улады нашай рэспублікі, выконваеце пэўныя абавязкі ў Саюзе пісьменнікаў БССР, з'яўляецеся членам яго прэзідыума. Раскажыце, калі ласка, як вы спалучаеце творчасць з грамадскай дзейнасцю?*

— Вядома, што літаратура — справа надзвычай старажытная і сутнасць яе працэсу мала ў чым змянілася з самых аддаленых часоў. У аснове літаратурнай творчасці па-ранейшаму ляжаць індывідуальныя намаганні аўтара, жыццё якога, як і ў старажытнасці, абмежаванае. У наш жа час, цяпер, калі інтэнсіфікацыя жыцця дасягнула незвычайных тэмпаў, праблема часу стала адной з галоўных праблем кожнага працоўнага чалавека, у тым ліку і пісьменніка. Часу не хапае. Але гэтая акалічнасць зусім не азначае таго, што пэўны запас часу быў бы для пісьменніка раскошай. Акрамя часу для мастака надзвычай важны непасрэдны ўдзел яго ў жыцці, той напружанай працоўнай дзейнасці, якой заняты яго блізкія, суседзі, народ. Толькі гэта дае яму магчымасць трымаць руку на пульсе жыцця, адчуваць гарачае трапятанне чалавечых сэрцаў. У гэтым сэнсе цяжка пераацаніць удзел мастака ў грамадскім жыцці, у тым ліку і маю сціплую працу ў якасці дэпутата Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, дзе вырашаецца столькі самых надзённых задач агульнарэспубліканскага маштабу. Рэгулярныя сустрэчы з чытачом

служаць жывым барометрам, які паказвае ступень уздзеяння літаратуры на масы, таксама як і чытачоў на аўтара. Ну і вядома, у наш час было б немагчыма ды і неразумна пазбягаць удзелу ў перыядычным друку, выступленняў па радыё і тэлебачанні, якія з'яўляюцца, як вядома, велізарнай трыбунай, што дае магчымасць размаўляць з мільёнамі адначасова, — магчымасці зусім неверагоднай у яшчэ зусім нядаўнім мінулым.

*— І апошняе пытанне. Пачаўся новы год. Ва ўсіх сферах нашага эканамічнага і культурнага жыцця савецкія людзі імкнуцца павышаць эфектыўнасць і якасць сваёй працы. І, вядома ж, працаўнікоў горада і сяла Беларусі цікавіць, над якімі асноўнымі праблемамі творчага характару працуюць зараз беларускія пісьменнікі. Хацелася б, каб вы коратка расказалі аб творчых планах на будучае.*

— Мне трудна гаварыць за ўвесь даволі шматлікі пісьменніцкі атрад рэспублікі, да таго ж усякая творчасць у вядомай ступені інтымная па сваёй прыродзе і не трывае афішыравання. Але я ведаю, што, апрача традыцыйнай для беларускай літаратуры тэмы мінулай вайны, нашых пісьменнікаў цікавяць яшчэ недастаткова распрацаваная гарадская тэматыка, праблемы НТР, нашай тэхнічнай інтэлігенцыі. Вёска ж і яе людзі даўно былі ўлюбёнымі аб'ектамі нацыянальнага мастацтва і літаратуры, якія стварылі аб ёй мноства цудоўных твораў, але вобразы, маральны змест вясковага жыцця і сельскай працы, якія значна змяніліся за апошнія гады, не могуць не прывабіць новай, абвостранай увагі літаратараў. Нельга не сказаць таксама аб найцікавейшых магчымасцях беларускага Палесся, меліярацыі забалочаных земляў і звязаным з гэтым цэлым комплексам праблем сацыялагічнага і маральнага парадку. Над усімі гэтымі і некаторымі іншымі тэмамі і працуюць сёння многія паэты, празаікі, драматургі нашай рэспублікі.

Интервью вел А. Литвин.
[1979]

## Подзвіг мастака

Ягоны партрэт змешчаны апошнім у гэтай не зусім звычайнай для выстаўкі экспазіцыі і, можа быць, самы сціплы на ёй па манеры выканання, пазбаўлены якой бы там ні было мастакоўскай прэтэнзіі. Ён і падпісаны лаканічна, без аніякага намёку на адносіны да аўтара: «Вязень 32815». Але амаль кожны, хто спыняецца перад ім, не можа не адчуць штосьці затоена-значнае

ў гэтай вельмі схуднелай постаці ў паласатай робе і ў такім жа паласатым берэце на стрыжанай галаве, у нерухомым, скіраваным кудысьці ўніз позірку. Вашу ўвагу міжволі прыцягваюць да сябе і рукі з нечакана вялікімі сціснутымі кулакамі, у якіх да часу дрэмле дрэнна прыхаваны пратэст. Болей дасведчаныя з наведнікаў неўзабаве ўгадваюць у гэтай змардаванай, але поўнай напружанай духоўнай сілы паставе нялёгкае мінулае аднаго з самых выдатных мастакоў краіны — Міхаіла Андрэевіча Савіцкага. Безумоўна, гэта ён, той, чыя працавітасць і талент паставілі яго імя ў рад самых выдатных майстроў сучаснасці.

У свеце выяўленчага мастацтва прынята ўспамінаць вытокі і называць папярэднікаў, тых, што ў гады вучнёўства ўласным прыкладам дапамаглі будучаму майстру выпрацаваць пачаткі майстэрства, «знайсці сябе». Гэтую звычайную ў такіх выпадках спасылку мне цяжка зрабіць у адносінах да Міхаіла Савіцкага, такі ён з самага пачатку сваіх творчых пошукаў ні на кога не падобны, такі самабытны, увесь — «з сябе», свайго таленту і, вядома, з трагічнага і гераічнага мінулага — з вайны. Сапраўды, перажытага ім у гады найвялікшага з усенародных выпрабаванняў хапіла б на некалькі чалавечых лёсаў. Адзін з апошніх абаронцаў Севастопаля, ён пасля падзення гэтага горада-героя трапіў на Херсанескім мысе ў рукі ворага і апынуўся ў Германіі, дзе прайшоў усе кругі гітлераўскага пекла, чатыры разы ўцякаў, быў злоўлены і прыгавораны да пакарання смерцю і толькі выпадкам пазбегнуў яе ў гітлераўскіх засценках.

Яго трыумфальны поспех у мастацтве звязваюць з цудоўнай работай на тэму партызанскай Беларусі, з «Партызанскай мадоннай», якая ўпершыню паявілася на выстаўцы адзінаццаць гадоў назад і стала цяпер не меней славутай у свеце, чым самыя выдатныя яе папярэдніцы эпохі Адраджэння. Гэта сапраўды шэдэўр, які не мае сабе роўных у нашым далёка не бедным на шэдэўры выяўленчым мастацтве, але ён не адзіны ў творчасці гэтага даравітага майстра. Пасля «Партызанскай мадонны» з’явіліся, можа быць, меней вядомыя, але не меней выдатныя «Віцебскія вароты», «Кара», «Поле», напісаныя ўсё той жа таленавітай рукой на неўміручую тэму ўсенароднага подзвігу ў гады мінулай вайны. Гэтая высакародная тэма на працягу больш трыццаці гадоў натхняе нацыянальнае мастацтва Беларусі, і Савіцкі шмат што сказаў у ёй сваімі работамі. Але ён бы здрадзіў сабе і свайму мастакоўскаму абавязку, калі б абмежаваўся першымі ўдачамі, якія прынеслі яму несумненны поспех.

Няўрымслівы характар мастака не мог не прыслухацца да ўладарнага закліку ўласнага вопыту, у якім самым непасрэдным чынам пераплялося драматычнае з гераічным; узмацнелы талент,

атрымаўшы ўсенародную падтрымку, дазволіў наважыцца на самыя смелыя задумы. І вось каля чатырох гадоў назад пачалася ягоная праца над серыяй палотнаў-дакументаў, палотнаў выкрыцця і абвінавачання крывавых злачынстваў нямецкага фашызму, дзесяць з якіх ужо скончаны і экспануюцца на юбілейнай выстаўцы.

Гэтыя карціны — не лёгкае і не простае відовішча, і можна сабе ўявіць, чаго каштавала мастаку праца над імі. Перад вачамі гледача праходзіць шэраг пякельных прывідаў гітлераўскіх лагераў, няспынная барацьба высокай чалавечнасці з подласцю, страсна выкрываецца канібальская сутнасць фашызму і сцвярджаецца вышыня камуністычнага ідэалу. Пафасам гэтай барацьбы вее ад твараў і постацей зняволеных, што спляліся ў жахлівую вертыкаль уцёкаў («Уцёкі») цераз драцяную агароджу з электрычным токам. Так, іхні парыў імпульсіўны, удачы не будзе, на вышках ужо «працуюць» кулямёты, і акрываўленыя целы валяцца з дроту на ўтаптаную зямлю лагера. Але гэта яшчэ не фінал, гэта толькі маленькі эпізод у доўгім і гераічным ланцугу супраціўлення. І вось ужо іншы сюжэт — насцярожаная група зняволеных каля самадзельнага радыёперадатчыка, заземленага ў вядро з вадой («808»), і іхнія твары, якіх нельга забыць. Такія завостраныя профілі, патыліцы, вочы немагчыма ні прыдумаць, ні намаляваць — ніводзін натуршчык нашага часу не можа паслужыць для іх мадэллю — усё гэта трэба вынесці адтуль, адкуль іх вынес мастак.

Амаль усе карціны гэтай незвычайнай серыі (за некаторым выключэннем) будуюцца на рэзка акрэсленым кантрасце дабра і зла, высокага і нізкага — неўміручага, нягледзячы на смяротную кару, і ўжо асуджанага на пагібель, не зважаючы на пэўную вайсковую сілу, калючы дрот і аўчарак — усяго, чым спрабаваў адцягнуць свой непазбежны крах гітлераўскі рэжым у Еўропе. Ён быў яшчэ дужы, гэты рэжым, і трымаў у пакоры мільёны бяззбройных, распранутых і распятых; многіх ён ужо і панішчыў, склаўшы ў вялізныя штабялі з цудоўных дзявочых целаў перад тым як пачаць іх паліць («Танец з факеламі»). Ён яшчэ старанна выбіраў лепшыя экзэмпляры з новапрыбыўшых для сваіх варварскіх «медыцынскіх» эксперыментаў («Адбор») і паліў на слупах няскораных («Камуністы пяюць»), але сам ён ужо канаў. Застаючыся строгім рэалістам і дакладным псіхолагам у перадачы чалавечага стану і лагернага быту, М. Савіцкі ў той жа час нярэдка ўзнімаецца да высокай сімволікі, такая ёмістая і шматзначная мера ягоных абагульненняў. Схуднелыя твары зняволеных, як тое і было ў сапраўднасці, амаль пазбаўлены індывідуальных рысаў, таксама як узросту і нацыянальнай прыналежнасці, і ў гэтай іх

абагуленасці заключаецца высокі сэнс, на першым плане якога Чалавек, а барацьба супраць бесчалавечнасці ляжыць у аснове мастацкай ідэі.

Помнячы пра першую сваю ўдачу, М. Савіцкі і тут не ўстрымаўся ад таго, каб не стварыць яшчэ адну, лагерную, мадонну. Яна так і называецца «Мадонна Біркенаў», гэта цудоўная жанчына з малым, якая трагічна распасцерлася над комінам лагернага крэматорыя. Гэткай жа высокай сімволікі поўная другая яго работа, што ўжо ўласнаю назвай асацыіруецца з падобнай тэмай, якая шмат стагоддзяў натхняла лепшых мастакоў мінулага. Гэта таксама распяцце, але не па традыцыйным драўляным крыжы, а на жалезных кратах канцлагера Этэрсберг, і на грудзях распятага свежа ззяе пяціканцовая зорка, выразаная ягонымі катамі. Абяскроўленае васковае цела ўражвае ступенню фашысцкага зверства і з'яўляецца ўвасабленнем бязмежнай чалавечай духоўнасці, калі цела ўжо зрабіла сваё і на смяротным рубяжы нічога не можа, затое дух, воля скіраваны ў такія вышыні чалавечых магчымасцей, якія ўжо непадуладны ворагу. Калі ўспамінаць славутых папярэднікаў гэтага роду, напэўна, можна было б назваць самыя гучныя імёны мінулага, але наўрад ці будзе ў гэтым патрэба. Не паўтараючы нікога з іх, гэтае палатно нашага сучасніка дастойна прадаўжае іх неўміручы пералік.

Нельга не прызнаць тут, што сам па сабе зусім правамерны метад прамога кантрасту ў сутыкненні на адным палатне такіх палярных паняццяў, як зло і дабро, паставіў мастака перад шэрагам дадатковых, чыста жывапіснага парадку, цяжкасцей, саўладаць з якімі мог толькі надзвычай таленавіты майстра. Янтарныя целы дзяўчат і глухую чарнату эсэсаўскай уніформы, высакародныя рысы жаночых твараў і пачварныя, у пэўнай меры ўтрыраваныя, постаці катаў і наглядчыкаў вельмі не проста падпарадкаваць агульнай пластыцы, аб'яднаць адзінствам каларыту. Трэба аддаць належнае мастаку, які амаль скрозь умела пазбягае звычайнай у такіх выпадках дысгармоніі: цёмназалацісты каларыт ягоных рэчаў бездакорны і ўспрымаецца як адзіна магчымы для дадзенага намеру, дзе зусім ненатуральнай была б каляровасць. Каларыстычнае майстэрства мастака часам такое дасканалае, што амаль знікае ў змесце — ці не ў тым вышэйшая ступень жывапіснага майстэрства, якому можна зайздросціць.

Творчасць М. Савіцкага за апошняе дзесяцігоддзе каторы раз з усёй відавочнасцю пацвярджае тую неабвержную ісціну, што сапраўднае мастацтва натхняецца перш за ўсё высокай ідэяй, для ўвасаблення якой, апроч майстэрства, патрэбна таксама асоба значнага зместу. Без асобы мастака, ягонага характару і біяграфіі нават пры самым віртуозным умельстве мастацтва не можа

ўзняцца высока і кранаць чалавечыя душы. Мабыць, толькі тое значнае і бездакорнае, што выпакутавана і аплачана потам і крывёю.

Дзесяць вялізных палотнаў, створаных за няпоўныя чатыры гады, кожнае з якіх — твор высокага мастацтва і ў той жа час дакумент эпохі. Каб стварыць іх, безумоўна, патрэбны быў немалы жывапісны талент, але не меней за яго — надзвычайная апантанасць. Нядрэмная памяць мастака, усведамленне абавязку жывога ў адносінах да мільёнаў ахвяр, пачуццё адказнасці перад будучыняй далі яму права на подзвіг, можа быць, іншага роду, чым тыя, што мелі месца ў вайну, але таксама не менш самаадданы і вялікі.

[1979]

## З пяшчотаю ў душы

Так ужо заведзена на гэтай зямлі, што час ніколі і нідзе не замаруджвае сваёй хады і, не зважаючы ні на якія абставіны, з нязменнай бясстраснасцю адмервае свае хвіліны. Вось ужо шэсцьдзесят год і Аляксею Слесарэнку, нашаму нястомнаму жартаўніку, аматару дасціпнага выразу, нястомнаму прапагандысту беларускага мастацкага слова і пісьменніку.

Што і казаць, як і шмат каму з ягонага пакалення, лёс наканаваў Аляксею Слесарэнку нялёгкую долю з самага дзяцінства, шмат чаго давялося яму вытрываць у гэтым жыцці, не адзін раз здаваць экзамен не толькі на прафесійную, але і на чалавечую годнасць. Аднак, воляй выпадку яшчэ з дзіцячых гадоў далучаны да трапяткой святыні мастацтва, Аляксей Аляксеевіч пранёс праз усе віхуры жыцця нязменную пяшчоту да ўсяго прыгожага, высокага і разумнага.

Гэтую пяшчоту не аслаблялі ў ягонай душы ні цяжкое дзяцінства, ні вайна, калі ён, будучы камандзірам узвода ў стралковым батальёне, займаўся далёкімі ад мастацтва справамі, ні пакуты цяжкога ранення. Вайна, безумоўна, паклала свае адмеціны на ўражлівай душы юнака, але яна і выхавала ягоную волю, якая надта была патрэбна, каб прайсці ўвесь агнявы шлях ад Вялікіх Лук да рэйхстага. Усё пасляваеннае жыццё Аляксея Слесарэнкі ўжо моцна і назаўжды павязалася з мастацтвам і беларускай літаратурай.

Мабыць, самым найпершым у нашай рэспубліцы ўзяўшыся за турботную, але і такую ўдзячную справу прапаганды роднай літаратуры, ён за кароткі час спасціг усе таемныя сакрэты гэтага

складанага майстэрства, а руплівасці ў яго хапала. Мабыць, няма ў Беларусі самага далёкага куточка, самай непрыкметнай вёсачкі, дзе б хоць аднойчы не пабываў са сваім канцэртам артыст і чытальнік Аляксей Слесарэнка. І цяпер многія іх жыхары як светлую падзею ўспамінаюць той даўні зімовы ці летні вечар, калі артыст з Мінска цэлыя гадзіны чытаў на памяць «Новую зямлю» Я. Коласа, «Сцяг брыгады» А. Куляшова ці іншыя славутыя або меней каму вядомыя творы. Сем з палавінай тысяч выступленняў перад працаўнікамі вёсак, пасёлкаў і гарадоў — такі творчы рахунак мастацкага чытальніка Аляксея Слесарэнкі.

Але для няўрымслівай ягонай душы адных толькі чытанняў было замала. У сталыя гады ён плённа заняўся літаратурай і напісаў паўдзясятка кніжак, зноў жа прысвечаных людзям мастацтва, іх самым дарагім у нашай гісторыі імёнам. Лепшыя з гэтых кніжак не залежваюцца ў магазінах ці на паліцах бібліятэк, па іх мільёны чытачоў краіны спасцігаюць высокі сэнс тэатральнага мастацтва, урокі выдатных яго майстроў.

І вось яму ўжо шэсцьдзесят. Узрост, безумоўна, не самы юнацкі, але, ведаючы Аляксея Слесарэнку, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ён можа і скажа яшчэ шмат цікавага і значнага, што спее ў ягонай душы. Зарукай таму — ягоная невычарпальная няўрымслівасць, яго пяшчотнае пачуццё да прыгожага, якое ніколечкі не прыгасілі ні гады, ні жыццёвыя буры.

Дык няхай жа і далей шчасціць табе ў жыцці, дарагі Аляксей Аляксеевіч!

[1979]

## Ведаць тое, аб чым пішаш

Мастацкае асэнсаванне народнага жыцця ва ўсёй яго непаўторнай разнастайнасці і стварае, на мой погляд, галоўную задачу мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Пры гэтым, мне здаецца, трэба зыходзіць з абавязковасці прызнання менавіта факта непаўторнай разнастайнасці жыцця, у якім кожны дадзены момант адбываецца няспыннае ўзаемадзеянне рознага роду характараў, увасобіць якія ў літаратуры можа толькі вобраз. Але вельмі няпроста гэта — праз адно выказваць другое ды яшчэ з неабходнай для рэалістычнага мастацтва глыбінёй і дакладнасцю. Для гэтага мала валодаць літаратурным талентам — трэба яшчэ вельмі многае ведаць, глыбока адчуваць і правільна разбірацца ў часта заблытаных жыццёвых сувязях, працэсах і з’явах.

Існуе парадаксальная на першы погляд думка, быццам для таго, каб перадаць дух часу, трэба адысці ад гэтага часу на

адлегласць, бо з адлегласці ўсё відаць болей выразна. І сапраўды, сучаснасць цяжка ўлавіць для тыпізацыі. Куды болей падатлівы і паслухмяны час мінулы з яго ўстаялымі каштоўнасцямі і абкатанымі рэаліямі. Але вось чытаючы сёння некаторыя творы на тэму мінулай вайны, міжволі заўважаеш, як пры ўсёй бясспрэчнасці многіх палажэнняў і кананізаванай абавязковасці пэўных рэалій у іх адсутнічае нешта большае і значнае, без чаго гэтыя творы проста не ўражваюць, хоць гутарка ідзе, магчыма, аб самым галоўным для кожнага жывога — барацьбе за жыццё.

Так, рэалій і востра драматычных сітуацый там, мабыць, дастаткова, але адкуль аўтарам узяць душэўную напоўненасць, псіхалагічную дакладнасць пачуцця, якія немагчыма імітаваць, бо неабходна перажыць. Вось чаму на пытанні маладых літаратараў, што нарадзіліся пасля пераможнага мая 1945 года, ці можна тым, хто не ваяваў, пісаць пра вайну, я адказваю: можна, але лепш не трэба. Літаратура, кіно, тэлебачанне цяпер у стане забяспечыць вас поўным наборам расхожых сітуацый і штатных дэталей, але ніхто не перадасць вам пачуццяў, якія вы не адчулі і якія, быць можа, і складаюць самае істотнае ў кожным мастацкім творы.

Менавіта дакладнасць у перадачы чалавечай псіхалогіі, сіла пачуццяў і вышыня ідэалаў адрозніваюць лепшыя творы літаратуры сацыялістычнага рэалізму на тэмы мінулай вайны. Успамінаючы цяпер многія акалічнасці паяўлення так званай другой хвалі ваенных празаікаў, трэба прызнаць той факт, што галоўным у іх аповесцях і раманах была ўсё ж з нечаканай паўнатой і дакладнасцю выяўленая псіхалогія салдата ў баі. Адамовіч, Астаф’еў, Бакланаў, Багамолаў, Бондараў, Гусараў, Носаў стварылі кнігі, дзе выдатны талент іх аўтараў шчасліва спалучаецца з багатым асабістым ваенным вопытам, які і прынёс поспех прынцыповага значэння. У іх мы знаходзім складанасць, якая ўражвае ўяўленне, і сапраўдны цяжар ваеннага лёсу, самаадданасць і гераізм — увесь комплекс праўды самай крывавай, але і самай справядлівай з войнаў, што выпадалі на долю нашага народа.

Як вядома, усялякае прагназаванне звязана з той ці іншай мераю рызыкі, але ў дадзеным выпадку, здаецца, менш за ўсё рызыкуючы памыліцца, можна сцвярджаць, што лепшыя творы названых вышэй і некаторых іншых аўтараў аб вайне на доўгія гады застануцца ў залатым фондзе літаратуры сацыялістычнага рэалізму, бо ў іх ёсць псіхалагічная дакладнасць і вялікая праўда аб часе, які ніколі не знікне з чалавечай памяці.

[1979]

## Газета — школа слова

*— Раскажыце, калі ласка, як вы прыйшлі ў журналістыку, як вам працавалася і чаму навучыла вас, будучага пісьменніка, журналістыка?*

— У журналістыку я трапіў, можна сказаць, выпадкова. Дэмабілізаваўшыся з арміі ў 1947 годзе, прыехаў у Гродна, дзе выдавалася абласная газета «Гродненская правда», і ў хуткім часе апынуўся ў сценах рэдакцыі. Спецыяльнай падрыхтоўкі, вядома, у мяне не было ніякай. Даводзілася спасцігаць усё на хаду, і я ўдзячны добрым людзям, вопытным журналістам, маім настаўнікам.

Шмат год я працаваў у сакратарыяце рэдакцыі, якім кіравалі ў розны час Ганна Ільінічна Цыпіна і Андрэй Абрамавіч Салаўёў, што далі мне першыя ўрокі газетнай справы. Салаўёў, акрамя таго, быў адным з першых маіх рэдактараў, ён уважліва і з надзеяй аднёсся да маіх першых літаратурных практыкаванняў, якія былі надрукаваны ў «Гродненской правде». Зразумела, я заўсёды буду ўдзячны яму за дапамогу, парады і, безумоўна, за добразычлівасць — гэта так важна ў падобных выпадках.

Трудна пераацаніць значэнне журналістыкі для лёсу пачынаючага пісьменніка. Калі гаварыць коратка, дык яна важная для яго ў двух сэнсах. Па-першае, як школа слова, якая вучыць выказацца на паперы дакладна і сцісла, школа моўнага ўмельства, якое надалей, безумоўна, саслужыць сваю добрую службу. Але ж, зразумела, гэта толькі пачатковая школа, бо аваладанне гэтым умельствам працягваецца праз усё творчае жыццё пісьменніка. І, па-другое, журналістыка заўжды кідае будучага пісьменніка ў гушчыню падзей, дае магчымасць пазнаёміцца з сотнямі розных людзей, характараў, тыпаў, што, безумоўна, патрэбна ў сэнсе назапашвання матэрыялу і вобразаў для будучай літаратурнай творчасці.

— *Цяпер вы звязаны з журналістыкай пераважна як чытач. Што вабіць вас у журналістыцы нашых дзён, а што выклікае шкадаванне або нязгоду?*

— Як, мабыць, кожнага чытача, мяне вабіць у сённяшняй журналістыцы не толькі яе аператыўнасць і надзённасць, але і праблемнасць публікацый. Пры гэтым заўважаеш, што ў адных газетах гэтай праблемнасці больш, другія ж яўна ўхіляюцца ад яе, абыходзяць яе, тым больш што, як вядома, для вырашэння сапраўды складаных і значных праблем адных толькі газетных выступленняў часта недастаткова. І тым не менш яны павінны быць, бо газета — адлюстраванне грамадскай думкі, а каму ж, як

не нашай грамадскасці, змагацца за вырашэнне сапраўды наспелых у жыцці праблем?

У гэтых адносінах сярод іншых выданняў вылучаецца «Литературная газета», у кожным нумары якой ёсць штосьці такое, што здольна выклікаць жывую цікавасць чытача, жаданне адгукнуцца, абмеркаваць, а то і паспрачацца. Як ні дзіўна гэта можа здавацца, але для мяне як для літаратара літаратурныя раздзелы «Литературной газеты» меней цікавыя, чым яе раздзелы па эканоміцы, быце, сацыялогіі, дзе адчуваецца гарачы пульс жыцця і гарачая зацікаўленасць аўтараў і журналістаў — супрацоўнікаў рэдакцыі.

— *Калі мець на ўвазе «літаратуру факта» — род літаратуры, якая пабудавана на дакументах, ці можна сцвярджаць, што журналістыка аказвае на пісьменніка пэўны ўплыў?*

— Зразумела, аўтар сучаснай тэмы чэрпае свае задумы з самога жыцця, але ж і журналістыка, у тым ліку і журналістыка факта, таксама частка нашага жыцця. Я не магу пахваліцца канкрэтнымі прыкладамі са сваёй практыкі, але ведаю выпадак з творчага жыцця, напрыклад, У. Цендракова, які адзін сюжэт сваёй даволі вядомай аповесці ўзяў з газеты. Зразумела, у гэтым няма нічога ні кепскага, ні абавязковага для пахвалы: як вядома, сюжэт сам па сабе яшчэ не вызначае поспеху твора. Уся справа ў распрацоўцы сюжэта. Вось і Леў Талстой, як вядома, узяў з газет скупы факт, які лёг у аснову яго сусветна вядомай «Ганны Карэнінай», але распрацаваў яго ў шэдэўр. Зрэшты, Талстой мог абысціся і без запазычанага факта…

— *Час, калі вы працавалі ў газеце, не за гарамі. Як і раней, у рэдакцыях шмат думаюць над тым, як зрабіць выданне лепшым, болей займальным і патрэбным для чытача. Што вы думаеце аб журналісцкіх сродках больш актыўнага ўцягнення чытача ў кола пытанняў, аб якіх гаворыць газета?*

— Часткова я ўжо адказаў на гэта пытанне: патрэбна сур'ёзная размова аб сур'ёзных праблемах, ва ўсякім разе для мяне гэта цікава. Але як гаварыць аб сур'ёзным? Вось, напрыклад, адна з вастрэйшых праблем сучаснасці — алкагалізм.

Нельга сказаць, што нашы газеты не ўдзяляюць ёй месца на сваіх старонках. Пішуць. Рэгулярна друкуюцца гутаркі ўрача аб шкодзе алкагалізму, і фельетоны, і рэпартажы з медвыцвярэзніка. У гэтым агульным наступленні на п'янства актыўна ўдзельнічае таксама кіно (спецыяльнай пастановай Дзяржкіно забаронена паказваць сцэны выпівак), тэлебачанне, радыё.

Пачытаеш, паслухаеш — страх бярэ: здаецца, няма нічога больш небяспечнага за чарку гарэлкі: кажуць жа, што ўсё

пачынаецца з чаркі. А які вынік? Спытайце ў работнікаў гандлю, яны скажуць, як расце з году ў год продаж той самай гарэлкі, «чарніла». П'юць рабочыя, калгаснікі, інтэлігенты. П'юць у будні і ў святы, на працы і дома. Таму што піць культурна нідзе нікога не вучаць, п'юць брыдка — з бутэлькі, за вуглом, у пад'ездах, на фермах, у полі. П'юць са шклянак, кубкаў, не закусваючы, пад лаянку і п'яныя бойкі.

А што ж наш друк? Друк на працягу многіх год друкуе дзяжурныя, амаль велікодныя гутаркі аб тым, што піць дрэнна, што трэба не піць. А дзе ўсебаковае даследаванне гэтай сапраўды жахлівай праблемы ў яе сацыялагічным, эканамічным, псіхалагічным, этнаграфічным аспектах? Не памятаю, каб дзенебудзь выступіў з сардэчнай споведдзю былы алкаголік, які ўжо вылечыўся, або перакананы п'яніца, якія б выкрылі гэты недахоп знутры, растлумачылі яго прычыны…

*— Героі вашых твораў, якія расказваюць пра вайну, трапляюць звычайна ў выключныя абставіны, калі неабходна зрабіць выбар па сумленні. Гэты выбар паміж любоўю да іншых, абавязкам і самаахвяраваннем, з аднаго боку, і сябелюбствам, жаданнем уцалець любым чынам — з другога, выяўляе маральны зарад асобы. Вашыя героі — тыя, якіх любіце вы і любім мы, — людзі подзвігу (хоць самі яны, натуральна, гэтага не ўсведамляюць). Што вы думаеце аб прыродзе подзвігу ў нашы дні? У прыватнасці, маладзёжныя газеты часта стараюцца выхоўваць сваіх чытачоў на разглядзе сітуацый выключных. Аднак падчас такі гераізм — імкненне нечалавечымі намаганнямі ліквідаваць той ці іншы прарыў, які з'яўляецца вынікам безадказнасці, галавацяпства. Што вы скажаце з гэтай нагоды?*

— Прырода подзвігу ваеннага часу некалькі адрозніваецца ад таго, што мы называем подзвігам мірных дзён. Я думаю, што сумленная праца — гэта сумленная праца. Да подзвігу яна не мае ніякіх адносін. Але бываюць экстрэмальныя выпадкі, здараюцца ў жыцці трагічныя сітуацыі, калі толькі рызыкуючы жыццём можна ратаваць другое жыццё. Друк часам паведамляе аб сапраўды хвалюючых выпадках гераізму ў сутычцы з узброеным бандытам, або пры тушэнні пажару, або выратаванні дзяцей. Але я не магу лічыць вартым пераймання ўчынак, зроблены хоць і з рызыкай для жыцця, але без дастатковых матываў, або той, што здзейснены толькі з-за бравады і заканчваецца трагічна.

Якой бы дарагой ні была тэхніка або жывёла на ферме, усё ж гэта не тая каштоўнасць, платай за якую можа быць жыццё чалавека. Няма неабходнасці тут развіваць гэтую відавочную думку, хіба што варта напомніць, што за кожным такім подзвігам-трагедыяй, якім бы, паўтараю, хвалюючым ён ні быў

сам па сабе, стаяць блізкія, сябры, якім дадзена доўга і пакутна думаць над тым, што здарылася.

— *Некаторыя лічаць, што чым больш універсальны журналіст (можа напісаць на любую тэму), тым ён больш прафесійны. Іншы раз чытаючы тую ці іншую газету, адчуваеш такое, быццам яе напісаў адзін чалавек — бойкі на пяро, дынамічны, але... некалькі павярхоўны. Ці лічыце вы, што важнасць і складанасць праблем, якія стаяць перад нашым грамадствам і не церпяць газетнага пустаслоўя, патрабуюць далейшай спецыялізацыі журналістаў?*

— Мне думаецца, час усёўмельства, журналісцкага верхаглядства беззваротна мінуў. Век НТР патрабуе самай скрупулёзнай спецыялізацыі, дасканалых ведаў прадмета, аб якім ідзе гаворка.

Але ж на кожную праблему не набярэшся спецыялістаўжурналістаў. Дзе ж выйсце?

Іншы раз няёмка глядзець і слухаць, як журналістка, што вядзе тэлеабо радыёпраграму, запаўняе паўзы вымучанымі або выпадковымі фразамі, задае наіўныя пытанні, на якія неяк стараюцца адказваць спецыялісты. Відаць, тут проста трэба смялей давяраць тым, у каго ёсць што сказаць па гэтай праблеме, спецыялістам сваёй справы і радзей звяртацца да павадыроў-нянек, карысці ад якіх ніякай. Адна няёмкасць.

Інтэрв'ю браў А. Сакалоў.
[1979]

**Памяці мастака**

Добрыя весткі ў жыцці прыходзяць кожная ў сваю чаргу, з'яўляючыся вынікам нейкіх прычын, узгодненых з логікай характараў, учынкаў людзей. Благія ж — заўжды алагічныя, ашаламляльна недарэчныя. Да іх прывыкаеш доўга, на працягу ўсяго жыцця, а часам і жыцця не хопіць, каб прымірыцца з імі. У аўтамабільнай катастрофе загінулі работнікі «Масфільма» — кінарэжысёр Ларыса Шапіцька і яе калегі.

Я добра ведаў Ларысу Яфімаўну Шапіцька. Яе смерць — балючая страта для ўсіх, хто ведаў яе, бачыў яе трудныя і вельмі чалавечныя, не падобныя ні на якія іншыя фільмы — палымяныя творы яе незвычайнага таленту, яе неспакойнага духу, поўнага боляў і пакут нашага веку. Цяжка зразумець гэтую страту, яшчэ цяжэй прымірыцца з ёю.

Але што рабіць — смерць сляпая, выпадак заўсёды

пазбаўлены сэнсу. Чорны і недарэчны выпадак, так непапраўна і ўраз перакрэсліў чалавечы лёс, жыццё вялікага мастака ў самым росквіце яго творчых сіл.

Быццам прадчуваючы свой фатальны канец, яна заўсёды спяшалася. Усё ёй здавалася мала, яна баялася не паспець, спазніцца. Ужо былі зняты выдатныя карціны, якія прынеслі ёй прэміі і сусветную вядомасць, а прагнасць яе да працы не меншала з гадамі. Здаецца, яна заўсёды ведала, што няма «вечнасці», і няспынна білася над удасканаленнем сродкаў выяўлення сваіх ідэй мовай кіно, імкнучыся да высокага сэнсу і высокай артыстычнасці ў кожным фільме. Мабыць, як нямногія ў сучасным кінематографе, яна разумела сэнс духоўнага зместу мастацтва і ўмела гарманічна ўвасобіць яго ў кожнай рабоце. Часта гэта было няпроста. Усе, хто працаваў з ёю над «Узыходжаннем», ведаюць, як давалася ёй гэтая далёка не «жаночая» карціна, але і Ларыса была надзелена безумоўным разуменнем таго, што толькі яна можа зрабіць тое, што яна робіць. Так ужо здарылася, што менавіта гэта яна — слабая жанчына і цудоўны рэжысёр — узваліла на сябе цяжкую глыбу труднейшага матэрыялу і ўпэўнена паднялася з ёю на адну з вышынь сучаснага кінематографа. У ёй жыў мужны мастак сучаснага кіно, урокі якога не страцяць сэнсу і для будучых пакаленняў кінематаграфістаў.

Яна заўсёды дакопвалася да першапрычын і каранёў, шукала ў глыбінях народнага жыцця, у таямніцах чалавечага духу. Логіка яе мыслення часам здзіўляла, часам захапляла, што наогул зразумела — яна была мастаком, які напружана думаў. І яшчэ — яна заўсёды была аптымісткай, ніколі і ніякія няўдачы не маглі кінуць яе ў роспач. Яна свята верыла ў сваю шчаслівую зорку, гэтак жа, як і ў шчаслівы зыход сваіх творчых намераў, якія б церні ні ляжалі на яе далёка не лёгкім шляху. Цяпер я разумею, чаму так: думкі яе былі светлыя, а дзейсная яе натура таіла ў сабе невычэрпныя запасы энергіі.

Яна заўсёды была ў працы. Яе мастакоўскае ўяўленне заўсёды тварыла цікавыя вобразы, яе задумам не было канца. І ў яе верылі, ад яе многага чакалі…

Але што рабіць — даўно і не намі сказана, што жыць — значыць губляць. Канешне, губляць заўсёды горка, і як бы мы ні суцяшалі сябе тым, што пасля Шапіцькі застанецца многае, як бы ні кляліся памятаць яе цудоўныя фільмы і яе мілы вобраз, — дрэнная гэта ўцеха. Назаўсёды абарвалася жыццё чалавека, спыніўся творчы шлях мастака, і ніхто болей на гэтай зямлі не створыць таго, што магла і хацела стварыць Ларыса Шапіцька, ніхто і ніколі не заменіць яе. Мастацтва кіно страціла аднаго з

самых цудоўных сваіх мастакоў, і наш смутак няўцешны.

[1979]

## Па праву памяці

Ёсць пісьменнікі-ўніверсалы, здольныя дзякуючы асаблівасцям свайго таленту адлюстраваць любую карціну, распрацаваць усялякую тэму, якія пад іх пяром нязменна набываюць мастацкую выразнасць і значнасць. Ёсць і іншая катэгорыя аўтараў — верных аднойчы выбранай тэме, у даследаванні якой яны дасягаюць часам значнай глыбіні, недаступнай для align рознабаковага таленту. З майго пункту гледжання, Рыгор Бакланаў належыць да гэтай апошняй катэгорыі пісьменнікаў, чый талент дасягнуў значнага ўзлёту менавіта ў адлюстраванні мінулай вайны, хоць у яго творчым актыве значацца і такія безумоўныя ўдачы мірнай тэмы, як многія апавяданні або шырокавядомая аповесць «Карпухін». У апошнім, майскім, нумары часопіса «Октябрь» ён выступіў з новым творам на сваю ранейшую тэму — аповесцю пра вайну «Навекі дзевятнаццацігадовыя».

Трэба адразу зазначыць, што ўся ваенная проза Р. Бакланава, пачынаючы ад яго першай аповесці «На поўдзень ад галоўнага ўдару», вылучаецца скрупулёзнай увагай да непаўторных дробязей вайсковага быту, акопнага жыцця, складаных перыпетый бою і чалавечай псіхалогіі ў баі. Будучы майстрам выразнага і ёмістага слова, ён упэўнена валодае фразай, якая нараджаецца думкай і незамутнёным мастацкім бачаннем свету.

Як і ў папярэдніх сваіх творах («Пядзя зямлі», «Мёртвыя ганьбы не імуць», «Ліпень 41 года»), у гэтай ягонай аповесці праяўляецца зайздросная свежасць памяці аб тых агняных гадах, якія ўжо так аддаліліся ад нас, уносячы ў забыццё многае, што яшчэ нядаўна, здавалася, немагчыма было забыць.

Але такая, відаць, асаблівасць чалавечай памяці. На шчасце, сапраўдны мастак не можа сабе дазволіць забыць не толькі важнейшыя падзеі той цяжкай пары, але нават яе, здавалася б, другарадныя дробязі і, што важней за ўсё — такія важныя для мастацтва моманты, як псіхалогію людзей вайны, іх пачуцці, настрой — свет іх душы.

Сюжэтная будова аповесці грунтуецца пераважна на раманнай аснове і ўключае ў сябе год жыцця героя, дзевятнаццацігадовага лейтэнанта Траццякова. Гэта аповесць пра вайну, але ў ёй вы нямнога знойдзеце батальных карцін, а тыя,

што там ёсць, напісаны з уласцівым Бакланаву густам і мноствам істотных падрабязнасцей. Менавіта аўтарскі густ дазваляе яму пазбегнуць распаўсюджаных трывіяльнасцей у адлюстраванні салдацкага гераізму, хоць паводзіны Траццякова ў часе атакі можна расцаніць як подзвіг. Гэта, калі так можна сказаць, двойчы на працягу года ажыццёўлены ўдзел лейтэнанта ў вайне, пасля першага з якіх паследаваў доўгі перыяд лячэння ў тылавым шпіталі, а пасля другога яму суджана было навек застацца дзевятнаццацігадовым. Паміж першым і другім баямі пралегла ўся цяжкая шпітальная маладосць Траццякова з яе перажываннямі і марамі, пакутамі і каханнем — увесь лёс людзей пакалення, якое ў раннім юнацтве безаглядна ступіла насустрач шквалу вайны і пераважна ўсё незваротна засталося там. Так ужо склалася, што менавіта гэтыя 18–20-гадовыя хлопцы навек супакоіліся ў шматлікіх брацкіх магілах, раскіданых па Еўропе, у засыпаных выбухамі варонках, абрушаных траншэях і ровіках. Вядома са статыстыкі, што іх, народжаных у 1922–1925 гадах, вярнулася з вайны толькі трое на сотню.

Заўчасная іх страта — гэта не толькі жалобны фінал індывідуальнага лёсу, але і несціханы душэўны боль блізкіх, страта народа, якая ўплывае на лёс і наступных пакаленняў. Гэта, нарэшце, вечны абавязак, які лёг на плечы нешматлікіх іх аднагодкаў і толькі часткова можа быць аплачаны непазбыўнаю памяццю. Таленавіта засведчаная ў мастацтве салдацкая памяць становіцца своеасаблівым духоўным абеліскам, пастаўленым жывымі ў гонар сваіх мёртвых братоў.

У аповесці толькі адзін галоўны герой, які праходзіць перад чытачом з першай да апошняй старонкі, хоць дакранаецца ён да многіх чалавечых лёсаў на фронце, у тыле, у шпіталі. Пільная ўвага аўтара да свайго Траццякова, аднак, не перашкаджае яму жыва, на вачах у чытача, ляпіць іншыя характары, як бы асвятляючы іх сваім унутраным мастацкім зрокам. Гэта, трэба меркаваць, нялёгка, калі памятаць аб дыстанцыі часу, які раздзяляе нас, і тут немагчыма не парадавацца зайздроснай здольнасці аўтара памятаць і бачыць усё. Цудоўна, што ў аповесці зусім не адчуваецца выдуманага, усё быццам пачэрпнута, перажыта, вынесена з уласнага вопыту аўтара. Хоць, зразумела, гэта не так. Якім бы living рознабаковым ні быў ён, гэты аўтарскі вопыт, яго заўсёды недастаткова для стварэння значнага мастацкага твора. Тым больш здзіўляючая гэта здольнасць таленту — з такой верагоднасцю выклікаць з небыцця мінулае, насяляць яго жывымі паўнакроўнымі вобразамі.

У адрозненне ад папярэдніх ваенных аповесцей Р. Бакланава апошняя мае мноства характэрных рысаў і бытавых рэалій жыцця

ў тыле, далёкім уральскім шпіталі з яго рознахарактарнымі тыпамі параненых, дактароў, санітарак.

Перагарнуўшы апошнюю старонку аповесці, вы будзеце доўга памятаць знявечанага на вайне малодшага лейтэнанта Гошку, аслепленага капітана Ройзмана, камандзіра роты Старых, чалавека нялёгкага лёсу Атракоўскага. Рэалістычна напісанае, пазбаўленае нярэдкага ў такіх выпадках налёту саладжавасці, юнацкае каханне Траццякова да ўчарашняй школьніцы Сашы падкупляе цнатлівасцю адносін, тонка падмечаным душэўным станам.

Аповесць пачынаецца лаканічнай па апісанні, але шматзначнай па сэнсу сцэнай знаходкі ў старым засыпаным акопе астанкаў воіна, армейскую прыналежнасць якога можна вызначыць толькі па ледзьве пазнанай афіцэрскай спражцы. Гэта вельмі знаёмая, нават характэрная для Беларусі карціна, дзе вось ужо шмат год намаганнямі грамадскасці і юных следапытаў працягваюцца пошукі адзіночных і выпадковых воінскіх магіл, пасля чаго ідуць доўгія месяцы пошукаў імён герояў. Не заўсёды яны заканчваюцца паспяхова. Але калі гэта здараецца, нішто са здабытага ў мінулым і адваяванага ў забыцця не пакідаецца без ўвагі. Друк, радыё, тэлебачанне расказваюць аб жыцці і апошнім баі забітых, сэнс іх ратнага подзвігу становіцца здабыткам усіх. Асабліва цяпер, калі беларускі народ урачыста адзначае 35-годдзе вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У заключэнне хочацца выказаць упэўненасць, што апошняя аповесць Рыгора Бакланава з’явіцца сур’ёзным набыткам нашай ваеннай прозы, своеасаблівым абеліскам памяці «навекі дзевятнаццацігадовым», пра якіх таленавіта расказаў адзін з іх жывых аднагодкаў.

[1979]

## Пазначана высокаю гармоніяй

Кожнага, хто знаёміцца з ім, найперш уражваюць ягоныя рукі — мазалявыя, працавітыя далоні з абпаленымі травільнай кіслатой пальцамі. Спярша цяжка нават паверыць, што гэтымі далёка не артыстычнымі, абмазалелымі рукамі працаўніка Арлен Кашкурэвіч робіць свой мастакоўскі цуд. Тым не менш менавіта гэтыя рукі здольныя на самую тонкую рыску, на самы непрыкметны рух, якімі поўная і з якіх складаецца ягоная цудоўная графіка.

Так, гэта майстра тонкай, філіграннай і вельмі выразнай

лініі, на якой звычайна трымаецца ўся кампазіцыя ягоных графічных работ, яна — выразнік яго эмоцый і яго філасофскага зместу. Безумоўна, гэта вельмі не проста — у кніжнай ілюстрацыі або ў станковых работах галоўны сэнс выявіць праз некалькі скупых ліній; трэба знайсці гэтыя лініі, адпрацаваць іх, давёўшы да гранічнай выразнасці, і, апроч таго, яны павінны быць эстэтычна дасканалыя, надзеленыя выключнай гармоніяй, без якой графіка перастае быць мастацтвам.

Арлен Кашкурэвіч мастак «божай міласцю» і менавіта графік па характару свайго таленту. Ужо першыя работы пацвердзілі яго немалыя здольнасці, а далейшы ягоны шлях у мастацтве быў поўны прызнання, удач і, зразумела, штодзённай напружанай працы. Можа, найперш ён працаўнік, самаадданы і добраахвотны катаржнік, як ён кажа, навечна прыкуты да цяжкой і нязменнай тачкі, назва якой мастацтва. Ягонае імя звярнула на сябе ўвагу знаўцаў і шанавальнікаў мастацтва яшчэ ў пяцідзесятыя гады, адразу пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, пасля ўдзелу ў першых выстаўках. Але сапраўднае прызнанне яго як аднаго з самых лепшых майстроў нацыянальнай графікі прыйшло пазней, калі ён ад паасобных удалых работ на літаратурныя тэмы перайшоў да графічных цыклаў. Сын народа-будаўніка і народа-барацьбіта, ён лагічна звярнуўся ў сваёй творчасці да тэмы гераічнай барацьбы беларусаў у гады Вялікай Айчыннай вайны і стварыў выдатную графічную серыю пад агульнаю назвай «Партызаны». Эпічная значнасць зместу і драматычнае напружанне кожнага ліста гэтай серыі не могуць не ўзрушыць таго, каму дарага наша гісторыя. Сапраўды, бясконца хвалююць драматычныя паставы яго партызан, што, выбіваючыся з сілы, праз агонь нясуць па балоце параненага таварыша, або група жанчын, звычайных вясковых бабулек, якія заняты зусім не бабульчынай справай — яны набіваюць патронамі магазіны і стужкі для сваіх сыноў-партызан. Нельга раўнадушна адысціся ад ліста, дзе чалавек і конь дапалі да вады і з аднолькавай апантанасцю спатольваюць смагу, або ад наступнага, дзе ў ваеннае ліхалецце жэняцца двое маладых, і мы бачым іх дзве танклявыя постаці, побач дзве іх вінтоўкі і дзве свечкі — на шчасце і на гора, на доўгае ці кароткае іх лясное жыццё. Так, станковая графіка — афорты, аквацінты, літаграфіі — прынесла Арлену Кашкурэвічу ўсеагульнае прызнанне ў мастацтве, званне заслужанага дзеяча мастацтваў і Дзяржаўную прэмію БССР.

Але Арлен Міхайлавіч яшчэ і выдатны майстра кніжнай ілюстрацыі. Не менш паспяхова ён ілюстраваў кнігі вялікага Янкі Купалы, Лакснеса, а таксама творы І. Шамякіна, А. Адамовіча, І.

Пташнікава, У. Караткевіча. Вайна і тут упарта трымае яго ў палоне сваім драматызмам, напалам эмоцый, бязмернасцю народных перажыванняў. Вы не знойдзеце ў Кашкурэвіча шырокіх кампазіцый, як правіла, ягоныя лісты не шматфігурныя, — усяго некалькі постацей, а часам і зусім адна пастава — торс, плячо, профіль і заўжды рух, у якім увесь згустак сэнсу, усё галоўнае, выражанае скупа і выразна. Мабыць, з усіх частак чалавечага цела ён найбольш любіць рукі і босыя ногі, якія ў ягоных творах часам гавораць больш, чым твары ці вочы. Ну, але затое якія гэта рукі і якія ногі! Кожная — характар, вузел, напружанне, лёс. Як ніхто з сучасных майстроў мастацтва, Кашкурэвіч валодае зайздроснаю здольнасцю праз малое, нейкую прыватнасць, дэталь паказаць многае, выразіць часам ашаламляльны змест народнага гора і народнага подзвігу.

Некалькі год назад Арлен Кашкурэвіч здзейсніў даўнюю і, не баюся гэтага слова, грандыёзную творчую мару — ілюстраваў «Фаўста» Гётэ. Каля дваццаці старонкавых ілюстрацый упрыгожылі гэта выданне, надалі яму новы сэнс і разам з цудоўным перакладам В. Сёмухі зрабілі яго выдатнаю з’явай беларускага кнігадруку і нашай нацыянальнай графікі.

У верасні Арлену Міхайлавічу Кашкурэвічу спаўняецца пяцьдзесят год. Ён шмат зрабіў у беларускім выяўленчым мастацтве і яшчэ болей зробіць. Мастак у творчым росквіце сваіх сіл, поўны цікавых задум. І без таго бездакорнае яго майстэрства робіцца ўсё болей змястоўным і дасканалым.

Пажадаем жа плёну яго мудрым рукам.

[1979]

## Нашы надзённыя клопаты

Банальным труізмам рызыкуе прагучаць з гэтай трыбуны сцвярджэнне аб тым, што наша нацыянальная культура ўзнялася на небывалую дасюль вышыню. Але сапраўды, ніколі ў гісторыі нашага народа мы не мелі такога багата развітага і разнастайнага мастацтва, музыкі, кіно, літаратуры. Каля чатырох соцень літаратараў аб’ядноўвае наш СП, — калі ў Беларусі нас было столькі? Штомесяц выходзяць тры тоўстыя часопісы, дзясятак газет. Выдавецтвы, якіх таксама нямала, не могуць напасціся паперы, каб своечасова выдаць усё вартае, што напрацавана нашымі інтэлектуаламі. Цяпер маладыя разумныя хлопцы (ды і дзяўчаты таксама) ужо ў студэнцкія гады выдаюць кніжачку, а то і дзве, а к часу прыёму ў Саюз маюць іх ужо тры, а то і болей. З

горкім сумам успамінаеш той даўні час, калі наш вялікі паэт, паміраючы ля сіняй бухты, быў шчаслівы тым, што меў кніжку з друкарні Марціна Кухты.

Праўда, гэта была асаблівая кніжка!

Канешне, часы змяніліся, і мы не можам не разумець, што роскві т нацыянальнай культуры быў бы немагчымы без сацыяльнага ўздыму, павышэння ўзроўню жыцця народа.

Галоднаму культура не патрэбна, галоднаму патрэбен хлеб.

У нас жа ёсць хлеб і да хлеба, і настойліва ўзнікае новая праблема — патрэбы хлеба духоўнага.

Я думаю, што красамоўны і шматзначны сам факт пастаноўкі на абмеркаванне гэтага пленума праблем беларускага рамана.

Сапраўды, варта толькі ўдумацца ў тое, што адна з самых маладых літаратур Еўропы, для якой паўстагоддзя назад вялікай праблемай было апавяданне, верш, у якой толькі зараджалася нацыянальная драматургія, цяпер ужо мае такую магчымасць (я б сказаў, такую раскошу) — абмяркоўваць праблему рамана. Але так. Раманы ў нас выходзяць штогод, іх ужо багата набралася, імклівы рост гэтага жанру, часам здаецца, ідзе па законах геаметрычнай прагрэсіі. З гэтага повадy хочацца выказаць некалькі вельмі суб’ектыўных, адрывачных думак, якія не прэтэндуюць ні на залішнюю канкрэтнасць, ні на абагульненне.

Перш за ўсё — што такое раман?

У літаратуразнаўстве ёсць даўнія і ёмістыя вызначэнні гэтага жанру, сярод якіх, можа быць, варта працытаваць сёння хоць бы «Неистового Виссариона», паводле якога раман — гэта «изображение чувств, страстей и событий частной и внутренней жизни человека и мира», а таксама «художественный анализ современного общества, раскрытие тех невидимых основ его, которые от него же самого скрыты привычкою и бессознательностью». Другія тэарэтыкі літаратуры характарызуюць тэму рамана як «неадекватность герою судьбы и его положения, избыток человечности в характере героя» (Бахцін), як «движение человеческого сердца» (Стэндаль). Не, я не збіраюся ў святле гэтых фармулёвак разглядаць беларускую раманістыку — вядома, што практыкі літаратуры даўно ўжо не лічацца з тэарэтычнымі прадпісаннямі заканадаўцаў літаратурнай моды і, можа, у значнай меры таму сусветная літаратура, у тым ліку і беларуская проза ўзбагаціліся сапраўднымі шэдэўрамі. Тым не менш, я думаю, ніколі не лішне прыгадаць класікаў, асабліва калі ў нашай гаспадарцы ёсць, як прынята казаць, некаторыя недахопы.

Безумоўна, заслугоўвае ўсялякага заахвочвання з боку грамадскасці і літаратуры актыўнае ўмяшанне раманіста ў нашу

сучаснасць, працоўныя будні, праблемы НТР, у адлюстраванні якіх мы маем пэўныя поспехі, у тым ліку і ў жанры рамана. І ўсё ж, мне думаецца, што ва ўмовах бурнага развіцця эканомікі, імклівай зменлівасці сацыяльных тэндэнцый, складанай узаемазалежнасці безлічы тэхнічных, эканамічных, псіхалагічных і іншых фактараў куды большыя магчымасці аператыўнага ўздзеяння на жыццё мае жанр аповесці, аргументаванага, падрабязнага нарыса. У гэтай сувязі ўспамінаецца, як у свой час Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі, будучы рэдактарам «Нового мира», аддаваў перавагу аповесці і амаль не друкаваў у часопісе раманы (за выключэннем, здаецца, добрага рамана У. Фаменкі). У той жа час нельга не ўспомніць, што, напрыклад, нарысы і запіскі В. Авечкіна, напісаныя з болем душы і веданнем справы, перажылі многія раманы і з цікавасцю чытаюцца і зараз. Тое ж самае я хацеў бы аднесці і да рамана аб мінулай вайне, які, нягледзячы на некаторыя нячастыя поспехі, на маю думку, ужо ў сілу спецыфікі жанру, каб застацца раманам, з аднаго боку, не можа абысціся прыватнасцямі, а з другога — не ў стане ахапіць усю неахопнасць эпохі, якая названа вайной. Гэта толькі тытанічнымі намаганнямі народа яна была спрасавана ў чатыры гады, але гэтыя чатыры гады роўныя стагоддзю гісторыі. Але сто год народнага жыцця наўрад ці па плячы нават геніяльнаму раманісту (канешне, вы можаце назваць Маркеса, але ў нас, на вялікі жаль, яшчэ няма беларускага Маркеса). Тыя ж удалыя раманы аб вайне, поспех якіх бясспрэчны, на мой густ, усё ж з'яўляюцца не чым іншым, як болей ці меней расцягненымі аповесцямі, хіба што з прычыны аўтарскай прэтэнцыёзнасці пайменаваныя раманамі.

Так, літаратурная практыка, на жаль ці на шчасце, не схільна лічыцца з жанравымі імператывамі, часам гэта дае добрыя вынікі, а часам, менавіта з гэтае прычыны, аўтараў спасцігае няўдача. Бо тое, што даруецца аповесці на прыватную, лакальную тэму, не даруецца раману з яго куды большымі магчымасцямі, але і з большымі задачамі. Гэта толькі паблажлівасць нашай крытыкі (якая, як вядома, з нейкага часу страціла ўласцівы ёй крытычны запал і выдае толькі станоўчыя артыкулы на ўсе жанры літаратуры, у тым ліку і на раманы), толькі яе паблажлівасць не дае нам грунтоўна разабрацца ў прычынах няўдач такога парадку.

Хвацкі наскок на злабадзённую, часцей за ўсё эканамічную або нават вузкатэхнічную праблему, уяўнасць наспех сканструяванага канфлікту (пэўна ж, паміж добрым і не зусім добрым), патугі на анемічнае каханне плюс пэўная доля адзюльтэра (для жаночай займальнасці) і больш-менш эфектны фінал — вось распаўсюджаны рэцэпт раманістыкі такога тыпу. (Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што і аповесці таксама.)

Раман можа быць аб чым хочаш — даверлівая споведзь чалавечай душы ці эпічная карціна жыцця народа, складаная тэхнічная праблема ці вечная складанасць чалавечых адносін. Але ён не можа існаваць без пэўнай канцэптуальнасці, таго адметнага ад іншых аўтарскага светапогляду і светаўспрымання, у якіх павінна знайсціся месца і для адлюстравання *«движения страстей»,* і для *«избыточной человечности».* Адна голая тэхнічная праблема не толькі не ў стане легчы ў аснову рамана, але і апавядання таксама. Хіба што для спецыяльнага часопіса, калі не ўстарэе да яго выхаду.

Дык добра яшчэ, калі ў той ці іншай кнізе мы маем справу з пастаноўкай слушнай праблемы, а калі нам прапануецца адна толькі бачнасць яе?

І тут я хацеў бы закрануць момант, на маю думку, даволі істотны для развіцця нашай літаратуры сёння.

Неяк на адной канферэнцыі чытачоў у віцебскай глыбінцы да мяне падышоў чалавек, слесар саўгаснай аўтамайстэрні, і на мае словы пра тое, што цікавага шмат у нашай літаратуры, сказаў:

— Цікавага многа. А вот каб паверылася — нямнога.

Я тады яму проста не адказаў, лічачы, што калі твор цікавы, добра чытаецца, дык ён і праўдзівы. А пасля падумаў, што, мусіць, не зусім так. Чытаем жа мы дэтэктывы, у якіх, ведаем, не шмат праўды, але цяжка адарвацца. У той жа час ёсць сусветна прызнаныя творы літаратуры, якія не кожны філолаг можа дачытаць да канца. Прытым існуе такая катэгорыя, як праўда жыцця, тыповасць характараў і абставін, якім разумны, чуйны душой чытач заўжды аддасць перавагу перад самай спакуслівай займальнасцю. Самай дасканалай займальнасцю нельга прымусіць паверыць у неверагоднае, у тое, чаго не бывае ў жыцці. І толькі жыццёвая патрэба грамадства ў літаратурным асэнсаванні яго сацыяльнасці часам робіць магчымым поспех твораў з надуманай сітуацыяй і сканструяванымі вобразамі, накшталт той славутай брыгады, якая адмаўляецца ад прэміі.

Запытаць бы аўтара, ці ён бачыў у жыцці хоць адзін такі выпадак? Хоць бы адзін, не гаворачы ўжо аб яго тыповасці?

Кіруючыся такой методай, можна ісці далей і напісаць драму пра чалавека, які прыйшоў да начальства з хадайніцтвам зменшыць яму аклад. Бо замнога, а ягонае сумленне не дазваляе атрымліваць лішку. Мусіць, гэта ўжо была б камедыя — болей у жанры літаратурных фантазій.

Літаратура існуе не сама па сабе і не для задавальнення сваіх хай сабе немалаважных для яе эстэтычных патрэб, яна мае пэўныя сацыяльныя і духоўныя функцыі ў жыцці грамадства. Для яе не могуць быць абыякавымі КПД яе духоўнага ўздзеяння, тое, чытаюць яе ці не, вераць прачытанаму ці не. Я думаю, усе мы

выдатна разумеем гэта, таксама як і тую адказнасць, якая кладзецца на кожнага з нас, калі мы бяром у рукі пяро і прысоўваем да сябе чысты аркуш паперы.

Так, наша літаратура зрабілася ўжо сталай літаратурай Еўропы, і шмат чым у ёй мы можам ганарыцца па праву. Асабліва калі азірнуцца назад. Але ж мы павінны яшчэ час ад часу пазіраць наперад і азірацца па баках, як слушна даводзіў Алесь Адамовіч, мець прывычку суадносіць зробленае з тым, што ў гэтай галіне робіцца ў свеце. На жаль ці на шчасце, жывём не на хутары, а Зямля, як аказалася, кволы маленькі шарык — не болей.

Мы многае ўмеем, умельства наша ў пэўным сэнсе можа параўнацца з высокім артыстызмам класікаў. Часам возьмеш у рукі кніжку, з густам ці не дужа аздобленую выдавецтвам, і не можаш не падзівіцца, разгарнуўшы на любым месцы. Такое майстэрства! Такія апісанні! Тры старонкі і ніводнага абзаца — сплашняк, думка за думкай, слова за слова так і чапляецца, лес, джунглі самых маляўнічых дэталей. А мова! Такое багацце, што вочы разбягаюцца, і без спецыяльнага слоўніка беларусу цяжка зразумець, аб чым гаворка. Дзе ўсё гэта сабраў дбайны аўтар — усе гэтыя замшэлыя слоўцы, сумніцельнага густу выразы, якія далей за вясковым выганам ніхто зразумець не можа. Але ж кніжка выдадзена не для адной вёскі. Хто і як будзе яе чытаць?

Гаворачы пра мову, нельга не сказаць тут, што і шэрая, невыразная наша канцылярская мова, мова многіх нашых газет ды і часопісаў, — таксама бяда, гэта агульнавядома. Але сёння ўжо можна падумаць: ці не аднолькавай бядой з'яўляюцца абедзве гэтыя крайнасці — пазбаўленае густу і меры захапленне дыялектызмамі, пакарабачанымі, без жаднай патрэбы перайначанымі слоўцамі, моўнымі калекамі і прыдумкамі, таксама як і шэрая казёншчына мовы — яны аднолькава аддаляюць нашу літаратуру ад яе чытача — народа. Такая мова аднолькава незразумелая і чужая і для горада і для вёскі. Лексічная яе манернасць, снабісцкая гульня ў моўны прымітывізм, жаданне здзівіць нечуваным цягам часу ператварае яе ў зусім папяровую з'яву, латынь з абмежаваным колам ужытку. Канешне, кожны аўтар мае права на пошук у сваёй галіне, але што датычыцца літаратурнай мовы, дык лепш бы турбавацца пра яе развіццё, рух наперад, у заўтрашні дзень на аснове сучаснага жыцця з яго новымі моўнымі патрэбамі і яго моўнымі заканамернасцямі, якія склаліся. У век НТР, нейтронных боегаловак і асваення космасу наўрад ці могуць задаволіць нашу мастацкую літаратуру, журналістыку, публіцыстыку няхай сабе самыя сакавітыя выразы якойнебудзь гаманкой бабкі з Палесся або Бабруйшчыны. Канешне ж, можна з вялікай асалодай слухаць такую бабку, але строй яе

мовы не шмат дасць, калі справа заходзіць аб выяўленні ўнутранага свету і вытворчых клопатаў яе гараджаніна-ўнука, які працуе хоць бы на тым жа аб'яднанні «Інтэграл».

Між тым у нашай літаратуры ёсць выдатныя прыклады высокага густу ў галіне мовы, прыгоднай для самых розных стылёвых мэт — і мастацкай літаратуры, і публіцыстыкі, і нашага справаводства. Дрэнна толькі, што лепшыя здабыткі нашых пісьменнікаў-стылістаў застаюцца прыватнай іх прывілеяй, не распаўсюджваюцца, не пераймаюцца, амаль не вывучаюцца. А шкада. Нават стылістыка Купалы і Коласа не стала, на жаль, эталонам для ўсеагульнага карыстання, хоць менавіта яна па праву ляжыць у падмурку сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

[1979]

## [Интервью газете «Социалистическая индустрия»]

— *Пройдя через огонь войны не в переносном, а в буквальном смысле слова, что вы, Василь Владимирович, считаете для себя, писателя, главным?*

— Что-то одно главное определить непросто. Литература отражает все стороны человеческого бытия, и все они важны. И все же есть в литературе о войне аспект, который привлекает мое внимание особенно. Это поведение человека в условиях военной опасности, границы его душевной прочности. Что он может в обстоятельствах, когда физические возможности в борьбе за жизнь исчерпаны? Каким располагает резервом сил, чтобы все-таки остаться достойным звания человека? Считаю, что этот резерв — в его нравственных началах. Вот я и исследую эти начала, насколько возможно их исследовать средствами художественной литературы.

— *На мой взгляд, наиболее выразительно, остро, беспощадно проводите вы такое исследование в «Сотникове». Как появился замысел, что подтолкнуло вашу фантазию, как зародились и ожили эти антиподы — Сотников и Рыбак?*

— На фронтовых дорогах мне довелось встретить бывшего командира батальона, который считался у нас погибшим и был посмертно представлен к высокой награде. Последний бой этого комбата действительно был тяжелым и геройским. Но в нем он не погиб, а раненым попал в плен. В плену же испытания не выдержал…

Мне показалось, что история падения комбата может наполнить своим содержанием один из образов задуманной повести. Но по логике, в которой нелегко разобраться и автору,

внешними чертами того разжалованного офицера я наделил Сотникова, а поступки его, так сказать, нутро отдал Рыбаку. В результате и выстроилась композиция Рыбак — Сотников, на которой держится повесть.

— *В творчестве своем вы долгое время опирались на то, что видели, на свой трудный опыт фронтовика. Опыта же партизанского в вашей жизни не было. А между тем в последние годы герои ваши нередко — партизаны, подпольщики…*

— После войны я несколько лет жил за пределами Белоруссии. А когда возвратился в родные места, то услышал многое, что открыло мне до того неведомую сторону войны, и не смог удержаться, чтобы не попытаться написать об этом. Но решился на это не сразу, со временем, потому что есть у нас писатели с личным партизанским прошлым, лучше знающие жизнь народа и борьбу в тылу врага в годы Великой Отечественной. Тем не менее материала партизанского, доселе нетронутого материала — героического, драматического, трагического — в Белоруссии так много, что хватит на всех и надолго. А жертвы, которые понесла Белоруссия в борьбе с фашизмом, ее мужество просто обязывают не оставлять этой темы, разрабатывать ее еще глубже, настойчивее, разностороннее.

— *Вам, Василь Владимирович, наверное, много пишут?*

— Да, писем от читателей приходит немало. Особенно вскоре после того, как напечатана новая повесть. Пишут разные люди из разных мест. Пишут ветераны, участники войны. Пишут молодые. Немало среди пишущих тех, кто является основным читателем «Социалистической индустрии», — рабочих, инженеров…

Особенное внимание обращаю на письма молодых — тех, кто под влиянием прочитанного, в частности, книг о войне, задумывается над важными вопросами жизни, просит в чемто дать совет.

Не на все можно исчерпывающе ответить, тем более письмом. Но я стараюсь. Ну и вообще рекомендую внимательнее следить за литературой. Ведь литература так много несет в себе значительного, поучительного.

— *Что думаете вы о так называемом книжном буме?*

— Ничто не может заменить человеку радости углубленного проникновения в умное, талантливое произведение художественной литературы. Нужно только, чтобы литература оставалась достойной высокого предназначения. Чтобы каждая новая книга была богатой и неповторимой по мысли, острой по постановке проблемы. Не так важно, решается или не решается эта проблема на страницах книги, важно, чтобы она была поставлена. Чтобы читателю было над чем задуматься, соглашаясь

или не соглашаясь с автором, чтобы он не оставался равнодушным, сопереживая…

— *Что же видится вам главным в литературе?*

— Быть учителем нравственности. У советской литературы в этом смысле очень весомые традиции. А опирается она на классику. Потому что никакая другая литература мира не уделила столько внимания нравственному совершенствованию человека, как русская классика. Вспомним хотя бы наших гигантов — Толстого и Достоевского.

Когда мы обращаемся помыслами к прошедшей войне, вопросы нравственности человеческих поступков, их побудительных мотивов, совестливости приобретают особую остроту. Война есть война. Как того ни хотелось, сберечь жизни всем сражавшимся за Родину было невозможно. Случалось так, что кому-то было самому решиться на то, чтобы во имя великой цели отдать жизнь. Естественно, не обходилось без внутренней борьбы. Только у одних эта борьба продолжалась секунды, и побеждало чувство долга. У других же столкновение естественного желания жить с тем, чего требовал долг, затягивалось, а иногда вызывало осложнения.

Могут сказать, что такие случаи — явление нераспространенное, исключительное. Но, я думаю, литература равно должна их исследовать. Потому что исследование человеческой души во всем ее разнообразии есть главная задача литературы, да и всякого искусства вообще.

— *В печати, в литературной среде время от времени продолжаются споры, появится или не появится когда-либо главная книга о минувшей войне, так сказать, «Война и мир» двадцатого столетия…*

— Разговор об этой главной книге о Великой Отечественной войне начался давно, еще когда битва была в разгаре. В грядущее ее появление верили очень авторитетные, крупные писатели, например, Илья Эренбург. Но вот мы готовимся отметить 35-летие Победы, а книги такой все еще нет. Думаю, и не появится, если иметь в виду одно произведение. Подвиг народа в Великой Отечественной был настолько огромен, пережитое настолько грандиозно, что даже самый гениальный автор и его самая гениальная книга не могут объять этот масштаб, показать этот подвиг, это пережитое во всем величии: великую книгу о великой войне, новую «Войну и мир» создает вся советская литература.

Интервью вел В. Мехов.
[1979]

## [Предисловие к книге «Войны разрозненные строки» Ефима Гольбрайха]

Автор этих записок ветеран Великой Отечественной войны Ефим Абелевич Гольбрайх родом из Белоруссии. Его детство прошло в старинном городке Витебске, и во время войны он сражался в пехоте, и эти обстоятельства дают мне право с определенной причастностью судить о его строках. Надобно сразу сказать, что это суждение с самого начала моего знакомства с работой Е. Гольбрайха было и оставалось весьма благоприятным для автора.

Принято считать, что минувшая война советского народа против немецко-фашистских захватчиков составляет целую эпоху в его истории и, как всякая эпоха, она содержит в себе часть бесценного общенародного опыта, концентрированного в четырех страшных годах и персонифицированного в непосредственных участниках этой беспримерной борьбы.

Конечно, о войне написано много, но кто скажет, что тема ее исчерпана? Каждая новая книга о ней добавляет к общей картине народного бедствия нечто свое, создает новые образы и называет новые имена. Уже в одном этом состоит непереоценимое значение военной литературы.

Автор настоящих записок безыскусно, но очень правдиво, со скрупулезной точностью участника и очевидца повествует о пережитом, тем самым внося свой благородный вклад во всенародную копилку памяти о тех героических днях, примет которых все меньше остается в нашем сегодня. Здесь нет необычного, исключительного, многое из записок Е. Гольбрайха известно нам по другим источникам, а многим — и по собственному опыту. Но ведь каждый конкретный опыт — это частица истории и она чему-то да учит.

Разумеется, война учит многому, и эта ее наука часто открыто, публицистично выражается автором в его строках, а часто содержится в подтексте, освещая благородной мыслью факты и образы этих записок.

Отрадно заметить, что автор обладает завидной человеческой памятью и зорким взглядом, которые позволяют ему с такой живостью и достоверностью воскрешать картины минувшего. Читая его, явственно узнаешь быт и нравы довоенного Витебска, драматические события начала войны, бои на юге Украины. Глубоко впечатляют героические сцены обороны Сталинграда, явившейся суровой академией войны для молодого солдата Е. Гольбрайха, фрагменты тяжелых боев на Сиваше, в Крыму и

Прибалтике. Множество образов солдат и офицеров проходят перед взором читателя, оставляя в его сознании какую-то черточку памяти о себе. Это тем более важно, что другой памяти о них, может, уже и не осталось на этой земле.

Скуп, лапидарен и емок язык записок. Автор счастливо избегает приблизительности и общих мест, образы его просты, ярки и выпуклы. Благородная печать трудной правды войны лежит на лучших страницах записок, согретых теплом человеческого участия и доброты. И, конечно, светлой памяти о тех, кто в трудное время был рядом, но кого уже нет с нами сегодня.

Я желаю счастливой судьбы этим солдатским запискам.

22 декабря 1979 г.

## [Інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва»]

*— Васіль Уладзіміравіч, «пад заслону» года ў друку паведамлялася пра вашу сустрэчу з чытачамі ў Маскве. Раскажыце, калі ласка, пра гэта больш падрабязна.*

— Сапраўды, нядаўна ў Маскве адбыліся два мае выступленні перад чытачамі — у Політэхнічным музеі і Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна. Абодва гэтыя мерапрыемствы прыемна ўразілі добрай увагай сталічнага чытача да маёй творчасці, даволі грунтоўным веданнем яе. Хаця і нялёгкая гэта справа — на працягу некалькіх гадзін весці гаворку з вялізнай перапоўненай залай, але ўвогуле адчуваеш задавальненне, бо ідзе даверлівая шчырая бяседа аб справе, якая аднолькава цікавіць аўтара і яго чытачоў. Мяне нават трохі здзівіла тая глыбіня зацікаўленасці праблемамі жыцця і літаратуры, якую праявілі масквічы. Аказалася, што ніводны радок, ніводнае слова нашых твораў не праходзяць міма самай пільнай і прыдзірлівай чытацкай увагі, і ўсё ў нашых творах — як несумненныя вартасці іх, так і прыхаваныя хібы — будуць належным чынам ацэнены. Карацей кажучы, у Маскве я меў шчасце сустракацца з самым зацікаўленым, патрабавальным і ўдзячным чытачом, якім можа ганарыцца кожная нацыянальная літаратура.

*— Ці не маглі б вы, Васіль Уладзіміравіч, у сувязі з гэтым пасвяціць нас і ў свае ўзаемаадносіны з найбольш блізкімі вам рускімі пісьменнікамі?*

— Мой творчы вечар у Політэхнічным музеі вёў вядомы рускі празаік Юрый Бондараў, з якім у мяне даўнія і вельмі сардэчныя адносіны. Ён мой равеснік, у часе вайны служыў у звыклай для

мяне стралковай дывізіі, мусіць, таму матэрыял яго кніг на тэму вайны блізкі мне і дарагі. Зноў жа, я адчуваю яго па-сяброўску вельмі зацікаўленае стаўленне да маёй творчасці, якое ён меў выпадак яскрава засведчыць у друку, калі была ў тым патрэба. Да таго ж гэта тонкі і глыбокі мысліцель, публіцыстыку якога чытаць таксама цікава, як і яго мужную таленавітую прозу.

Я мог бы назваць яшчэ нямала старэйшых і маладых рускіх і з іншых рэспублік празаікаў, пераважна былых франтавікоў, з якімі ў мяне даўнія і сяброўскія адносіны. Асабліва гэта датычыць майго пакалення франтавікоў, якіх вельмі не шмат вярнулася з палёў мінулай вайны і яшчэ паменела за пасляваенны час. Няма ўжо маіх сябрукоў, выдатных пісьменнікаў К. Вараб'ёва, В. Земляка, Л. Якіменкі, В, Курачкіна, якія працягваюць жыць хіба у сваіх творах ды ў памяці тых, хто ведаў іх і любіў.

— *Пытанне такое, можа, залішне адцягненае: як суадносіцца літаратура, проза, скажам, з выяўленчым мастацтвам у плане служэння грамадству, высокім ідэалам?*

— Даўно вядома, што розныя віды мастацтва маюць блізкія, хоць і не зусім выяўныя падабенствы паміж сабой. Ёсць такія падабенствы і ў літаратуры з выяўленчым мастацтвам. Не кажучы ўжо пра агульнасць творчага метаду ці тэматыкі, гэта асабліва датычыць стылю, формы, меры аб'ектывізацыі ці, наадварот, аўтарскага суб'ектывізму ў творах прозы і жывапісу. Вядома, што літаратурны стыль многіх празаікаў, іх моўная манера даюць пэўнае права супаставіць іх з жывапіснай ці графічнай манерай многіх мастакоў, незалежна ад іхняй тэматыкі. Тэматыка можа быць блізкай, а можа і далёкай, нават супрацьлеглай па змесце, а вось стыль можа аказацца падобным.

Мабыць, гэта і зразумела, бо стыль — гэта чалавек, як сказаў Бюфон, а характар чалавека не можа не праявіцца ў справе рук яго. Так, напрыклад, існуе вялікае падабенства творчых манер беларускага пісьменніка У. Караткевіча і фламандскага мастака Брэйгеля. У іх аналагічнае бачанне свету і сходныя мастакоўскія адносіны да жыцця; чытаць гістарычную прозу Караткевіча таксама цікава, як і разглядваць палотны «мужыцкага» Брэйгеля, — пераход ад аднаго да другога не патрабуе ніякай душэўнай перастройкі. Можна нават сказаць, што той, каму падабаецца Брэйгель, з не меншым задавальненнем прачытае і Караткевіча, асабліва яго гістарычную прозу і з яе найперш гісторыю пра мужыцкага Хрыста, які «прызямліўся ў Гародні».

— *Як вы ацэньваеце творчыя набыткі беларускай літаратуры за гэты год? Што з новых твораў найбольш імпануе вам асабіста?*

— Вядома, я не магу прэтэндаваць на ўніверсальнасць маёй

ацэнкі гадавых набыткаў беларускай літаратуры ўжо хоць бы з тае прычыны, што прачытаў далёка не ўсё. А за гэты год у друку з'явілася некалькі добрых, на маю думку, раманаў, якія заўжды нешта значаць для кожнай літаратуры нават з уласцівымі для іх хібамі, якія часам больш важныя для літаратурнай практыкі, чым яе несумненныя поспехі.

З таго, што прачытаў за год, мне падабаецца, напрыклад, ваенны раман В. Хомчанкі, аповесць В. Казько «Суд у Слабадзе», а таксама новая кніга А. Адамовіча, якая неўзабаве будзе друкавацца ў часопісе «Дружба народов». Ва ўсіх гэтых творах (і асабліва ў апошнім) наша мінулая вайна паўстае ў яе самых драматычных аспектах, асэнсаваных глыбокім і ўдумлівым аўтарам.

З вялікай увагай чытаю надзвычай змястоўную кнігу Э. Скобелева «Міраслаў князь дрыговіцкі», у якой, пры некаторай спрэчнасці паасобных момантаў, сабраны вельмі багаты гістарычны матэрыял, пададзены ў вельмі арыгінальнай літаратурнай форме. У нас не шмат такіх твораў, і таму я з гатоўнасцю вітаю кожную спробу ў гэтым напрамку, нават калі яна і не пазбаўлена недахопаў. Ісці першым заўжды трудней, але ж некаму трэба быць і першапраходцам.

— *Васіль Уладзіміравіч, як вядома, рыхтуецца да друку ваш чатырохтомны Збор твораў. Што вас у сувязі з гэтым турбуе і хвалюе?*

— Так, ужо здадзены ў вытворчасць першы том майго чатырохтомнага Збору твораў. Гэта, безумоўна, радасная падзея ў жыцці кожнага пісьменніка, яна мяне таксама нямала радуе, хаця і нясе з сабой новыя клопаты і немалую адказнасць. Найперш трывожыць думка: а ці будуць цікавыя даўнія (тым болей раннія) мае творы сучаснаму чытачу, што ён там знойдзе блізкага для сябе і сугучнага сённяшняму жыццю? Асабліва што датычыць матэрыялу вайны, праблемы і падзеі якой усё больш аддаляюцца ў глыбіню мінуўшчыны. Зноў жа ў гэтым сэнсе трэба мець на ўвазе, што з часу напісання аповесцей, уключаных у першы том, выйшла нямала выдатных кніг пра вайну розных аўтараў, і гэтая акалічнасць таксама не можа не ўплываць на адносіны сучаснага чытача да твораў, напісаных амаль два дзесяцігоддзі назад.

— *Клопат немалы ў вас, Васіль Уладзіміравіч. Акрамя таго, у вас, мабыць, і яшчэ нешта ёсць у творчых планах?*

Відавочна, новы 1980 год возьме нямала клопату ў сэнсе падрыхтоўкі наступных тамоў Збору твораў, якія выйдуць у 81-м годзе. Апроч таго, пішу адначасна два новыя празаічныя творы, адзін з якіх — на звыклую для мяне тэму вайны, другі ж — пра нашу сучаснасць. Калі пашанцуе з часам і настроем, дык да канца

новага, 80-га года мяркую іх скончыць.

Інтэрв'ю вёў У. Аніскові́ч.
[1979]

## Адна рыска з многіх

У тыя, цяпер даўнія, даваенныя гады хто з нас не быў зачараваны ягонай мілагучнай прозай, ягонымі ўжо ў той час хрэстаматыйнымі вобразамі Андрэя Летуна, Ваські Шкетава, драматызмам нялёгкага кахання Міхася і Рывы. Шмат напісана пра значэнне ягоных твораў, якія даўно і па справядлівасці сталі адметнаю старонкаю беларускай літаратуры, адной з найярчэйшых з'яў нашай культуры. Здаўна вядомы таксама многія прывабныя рысы характару гэтага мастака слова. Мне хацелася б тут расказаць хіба пра адзін маленькі выпадак з гэтым чалавекам, выпадак, які праз гады зіхаціць у памяці яркай нязгаснай іскрынкай.

Неяк сабраўся на сваё пасяджэнне прэзідыум пісьменніцкага праўлення, і ў нізкай старой зале Саюза было цесна ад людзей — столькі прыйшло тых, хто павінен быў прыйсці па абавязку, і зацікаўленых. Зацікаўленых таксама было нямала, бо пытанне на гэты раз ставілася важнае, такое, што сапраўды не магло не закрануць многіх. Абмяркоўваліся выдавецкія планы на бліжэйшыя гады, прысутныя выступалі дружна, перабіваючы адзін аднаго з месца і ад стала прэзідыума. У гэтай напаленай атмасферы, можа, адзін толькі Міхась Ціханавіч, здавалася, нічым не цікавіўся, быў заняты нейкімі сваімі думкамі і ціха сядзеў на краі пярэдняга рада крэслаў.

Сапраўды, цяжкае было пытанне. Былі пакрыўджаны некаторыя з маладых пісьменнікаў, але ж магчымасці выдавецтва таксама не былі бязмежныя. І пасля выступлення некалькіх маладзейшых аўтараў, якія не трапілі ў план выдання, хоць і павінны былі туды трапіць, настала кароткая паўза няёмкасці, якую неўзабаве парушыў нізкі, глухаваты голас Лынькова:

— Там запланавана мая кніжка перавыданняў. Дык гэта... Я пачакаю. Няхай замест яе выдадуць маладзейшых.

Тут зноў настаў няёмкі прамежак цішыні ў зале, дзе такія прапановы гучалі не часта, і за сталом прэзідыума не ведалі, як адрэагаваць на яе. Аднак не запярэчылі, старшыня паставіў птушку ў выдавецкім праспекце супраць кніжкі Міхася Лынькова, што значыла: з'явіўся рэзерв памерам якіх-небудзь 20 ці болей аркушаў.

Неўзабаве аб'явілі перапынак. Міхась Ціханавіч накіраваўся ў гардэроб па паліто, і некалькі чалавек з ліку пакрыўджаных планам абнадзеена і прачула ціснулі яму руку, а ён спакойна, з усведамленнем здзейсненай праваты казаў нешта пра тое, што сам быў малады, што маладым памагаць трэба, што на яго век перавыданняў хопіць.

Пасля перапынку абмеркаванне прадаўжалася, было шмат выказана прэтэнзій, слушных і не вельмі. Меркавалі так і гэтак… І ўрэшце сышліся на тым, што 20 лынькоўскіх аркушаў вельмі ж патрэбны для чарговага выдання Збору твораў аднаго найбольш заслужанага, якому якраз і не стае гэтых аркушаў на яго восьмы ці дзясяты том…

Толькі не ведаю, ці дачакаўся Міхась Ціханавіч падзякі ад таго аўтара, ашчасліўленага ягонай уступкай, ці, можа, так і пайшоў з жыцця са спакойным усведамленнем здзейсненага дабра для маладых.

Як бы там ні было, аднак гэты высакародны і такі натуральны для яго жэст яшчэ адной маленькай рыскай вызначае характар незабыўнага пісьменніка і чалавека.

[1979]

## [Прадмова да кнігі «Финал Краба» Мікалая Чаргінца]

Для мастацтва, як і для гісторыі, асаблівую каштоўнасць маюць сведчанні відавочцы, удзельніка, чалавека бывалага, які ведае ўсё аб прадмеце свайго апавядання і нават трошкі болей. Гэтая каштоўнасць яшчэ павялічваецца, калі аўтар, апроч уласнага жыццёвага вопыту і ведаў, валодае і літаратурным талентам, які дазваляе яму з найбольшай паўнатой і даходлівасцю данесці сутнасць падзей і даць сваю ім ацэнку.

Мікола Чаргінец адносіцца да ліку менавіта такіх людзей. Адзін з непасрэдных кіраўнікоў крымінальнага вышуку і літаратар адначасова, ён з'яўляецца аўтарам трох кніг аб трывожнай і неабходнай людзям рабоце савецкай міліцыі.

«Фінал Краба» — яго чацвёртая кніга. Як і ў папярэдніх аповесцях, у гэтай апошняй аўтар пераплавіў многае з уласнага вопыту службы з пэўнай доляй літаратурнага вымыслу, без якога звычайна цяжка абысціся ў прозе. А магчыма, у гэтым і няма неабходнасці, бо такая ўжо ўласцівасць таленту — вымышленае ім часта больш праўдападобнае, чым рэальнае і ўжо напэўна болей цікавае. Ва ўсякім разе ў Міколы Чаргінца трудна аддзяліць адно ад другога, бо абедзве гэтыя якасці зліты ў адзіны дынамічны

малюнак крымінальнага дэтэктыву з загадкавай таямніцай злачынства, яго выкрыццём, небяспекамі і пагонямі.

Як правіла, аўтар шчасліва пазбягае многіх яўных і таемных пастак, нарыхтаваных асаблівасцямі дадзенага жанру. Мы амаль не знойдзем тут аблегчаных рашэнняў, халастых захадаў і прыёмаў дзеля цікавасці. Раскрыццё злачынства з'яўляецца цяжкай працай, поўнай рызыкі і небяспекі. Тым больш сур'ёзна і значна выглядае штодзённая, а часам і штоночная праца аператыўных работнікаў крымінальнага вышуку: стрыманага і разумнага маёра Вятрова; маладога і яшчэ малавопытнага Майскага; лейтэнанта Скалава, які на працягу некалькіх дзён, рызыкуючы ўласным жыццём, пад выглядам рэцыдывіста пранікае ў самае логава медзвяжатнікаў. Праца гэтых і многіх іншых людзей праходзіць, як правіла, непрыкметна для староннягa вока. Але менавіта гэта праца сапраўдных герояўпрацаўнікоў нашай міліцыі, ад якіх залежаць спакой і дабрабыт насельніцтва. Яны супрацьстаяць, выкрываюць і нарэшце арыштоўваюць законспіраваную шайку злачынцаў, якую ўзначальвае мацёры бандыт Крокет-Краб, што спецыялізуецца па дзяржаўных сейфах, але не грэбуе і маёмасцю некаторых грамадзян. Менавіта гісторыя раскрыцця, арышту групы Краба і складае дэтэктыўны сюжэт гэтай аповесці.

[1979]

## 1980

### [Интервью «Литературной газете»]

*— Что является непосредственным толчком, импульсом, побуждающим всякий раз к созданию новой «фронтовой страницы»?*

— По-разному это бывает. Иногда еще при работе над предыдущей повестью возникают побочные ответвления идеи или замысла, которые в рамках данного сюжета реализовать невозможно, но они чем-то мне интересны. Ведь когда углубляешься в материал, обдумывая его, заново переживаешь коллизии и переосмысливаешь ситуации, то всегда что-то отбрасывается, а что-то берешь «на заметку», про запас, на будущее. Иное так и остается неиспользованным, к другому же я потом возвращаюсь.

Но «толчки» возникают не только во время работы, а и самым неожиданным образом — в общении с людьми, в беседах с друзьями, при чтении… Вдруг что-то завладевает тобой, будит воображение, обрастает подробностями, появляется новый поворот идеи. Неясное еще намерение долго не отпускает, свербит в сознании. Трудность при этом состоит в том, что интересную идею надо «одеть» в достаточно пригодные для нее литературные одежды, обрастить идейный костяк, что называется, мясом жизни. И сделать это так, чтобы, с одной стороны, идея не очень выпирала из этих одежд, а с другой, — чтобы не потонула в обилии фактического материала. Хорошо, конечно, когда все выступает в гармоническом единстве, когда за жизненными фактами как бы стоит, возвышаясь в отдалении, не обязательно рядом, большая, сильная, захватывающая идея. Это, я считаю, самое важное, но и самое сложное в литературе. Порой для воплощения сильной идеи просто недостает фактического багажа, и тогда приходится оставить задуманное. А бывает и так, что в процессе работы воплощение идеи выходит недостаточно убедительным, и, хотя жизненного материала хватает, трудиться дальше бессмысленно.

*— Василий Владимирович, вы садитесь за стол с уже отработанным в голове сюжетом, точно очерченными образами, или они обретают плоть в процессе письма, проявляя новые черты, не подчиняясь вашей режиссуре?*

— Я бы сказал, что мои герои всегда мне послушны, обычно никто из них не выражает своеволия, идут туда, куда я их веду. В этом смысле они дисциплинированны, как хорошие солдаты хорошо вышколенной роты.

Прежде чем обратиться к листу бумаги, приступить к первой

главе, я стараюсь тщательно продумать сюжет, характеры, знаю начало и обязательно — финал. Детально обработанный финал — непременный залог того, что вещь получится. Конечно, во время письма и сюжет, и образы претерпевают какие-то изменения, но образная система в целом сохраняется. Как ни странно, труднее всего определить начало, а ведь для всякой маленькой повести очень важно, откуда начать. Если слишком издалека — получится затянутая экспозиция, нарушится сюжетная, композиционная стройность. Начать на недостаточном расстоянии от финала — тоже плохо, поскольку характеры не успевают проявить себя в нужной степени, запомниться читателю, как наступает развязка.

Очень важно, повторяю, начать с такого момента, чтобы действие развивалось ровно, энергично, но неформированно, а характеры проявлялись в меру. Чтобы было интересно, недлинно и в то же время обстоятельно. Чехов советовал, завершив рассказ, обрубать начало и конец, поскольку там больше всего искусственности, неестественности. Но думаю, что лучше все-таки не обрубать, лучше сделать так, чтобы обойтись без хирургического вмешательства.

Пишу последовательно, то есть от первой главы продвигаюсь к последней. С самого начала у меня существует сюжетный план, и редко случается, что главы меняются местами. Полагаю, что произведение такого жанра, как маленькая или средняя повесть, должно вырастать гармонично, словно дерево, — от корня к вершине.

— *А название повести вы легко находите?*

— Это интересная область литературного творчества. У иных писателей талантом освещено не только то, что находится под обложками их книг, но и то, что значится на обложках. У меня выходит по-разному. Бывает, что с самого начала знаю название, но когда рукопись завершена, приходится его отбросить, потому что оно себя не оправдывает. Случается обходиться без переделок. Иногда же происходит такое: вещь написана, а названия нет, сотни вариантов переберешь, пока найдешь то единственное, что сколько-нибудь годится для данной повести.

— *Вы хотели стать живописцем или ваятелем и поступили перед войной в художественное училище. Может, ваши повести малоформатны, лаконичны еще и потому, что вы, словно скульптор, отсекаете от глыбы материала не только все лишнее, ненужное, но и отказываетесь от того, что, на ваш взгляд, не является обязательным?*

— Может быть. Мне трудно сказать, что это: результат давних занятий изобразительным искусством или своеобразие моего вкуса. В живописи я никогда не был силен, хотя люблю ее с детства. Мои

способности скорее проявлялись в графике. Наверное, потому отдаю предпочтение графике и в литературе. Подчас завидуешь автору, который пишет эмоционально, богато, с большим количеством тропов, свободно и подробно распространяется о вещах второстепенных, но делает это изысканно, со вкусом. Наверное, это хорошо. Но в собственном творчестве я не испытываю к подобному письму особого пристрастия. Мне больше нравится лапидарность, выразительность без излишеств, даже сухость, скупость языковых средств, какие могут быть сродни только графике.

Считаю, что среди пишущих о войне великолепный график мысли и слова В. Богомолов. У него каждая фраза словно выбита на камне — ни вставить лишнего слова, ни исправить, всегда все точно выверено и подогнано. Словесная манера Г. Бакланова тоже графически скупа, хотя у него фраза часто эмоционально окрашена и содержит намек, оттенок, подтекст.

— *У Бакланова больше полутонов?*

— Совершенно точно. А вот Ю. Бондарев или В. Астафьев, на мой взгляд, работают маслом. Их живописная кисть пишет широко, изящно, красочно. Наверное, я так бы не смог, если бы и захотел.

— *Законченная рукопись, по-видимому, долго еще держит вас подле себя, ведь вы сами переводите свою прозу. Скажите: на оригинале это как-то отражается? Он остается неизменным или перевод выявляет некие прежде скрытые от глаз дефекты, диктует изменения в изобразительных средствах?*

— При переводе испытываешь муки не меньшие, чем при создании оригинала. Если на русском языке дать простой эквивалент — получится бедно, плоско, поверхностно, у фразы нет ни глубины, ни изящества. Обычно переводчиков не слишком занимают эти проблемы. Для них главное — передать смысл.

Оттого у нас столько корявых переводов. Я же, по существу, каждый раз делаю двойную работу: сначала пишу вещь побелорусски, потом переписываю ее по-русски, являясь таким образом автором двух оригиналов. Перевод, разумеется, ведет к некоторым изменениям в первом оригинале, потому что вдруг становится заметна неуклюжесть какого-то речевого оборота, выпирает неточный эпитет, обнаруживается не та тональность.

Год от года пишется все труднее. И это объяснимо. Возрастает требовательность к тому, что выходит из-под твоего пера. Хочется, чтобы груз высокой нравственности — то, собственно, из-за чего и создается произведение, — становился все весомее, значительнее…

Интервью вела И. Ришина. [1980]

## Сілай любові і нянавісці

Мастацка-філасофскае выкрыццё ўсіх відаў сусветнага фашызму па-ранейшаму з'яўляецца найважнейшай тэмай сучаснага мастацтва. Гэта і зразумела, бо фашызм — з'ява жывучая, шматаблічная, здольная, як паказала жыццё, з аднолькавай жорсткасцю паражаць народы ўсіх кантынентаў. Пераканаўчы таму прыклад — памятныя падзеі ў Чылі або нядаўняя трагедыя Кампучыі, якія, несумненна, яшчэ паслужаць зыходным матэрыялам для многіх твораў сусветнага мастацтва.

Што ж датычыць савецкай літаратуры, дык яна працягвае распрацоўваць вопыт барацьбы савецкага народа з нямецкім фашызмам, які прынёс нязмерныя пакуты народам Еўропы. Менавіта ў гэтым рэчышчы створана і новая аповесць Алеся Адамовіча «Карнікі».

Аўтар спакваля і няспешна падводзіць чытача да шырокай панарамы трагедыі беларускага пасёлка Боркі, прасочвае ўсю д'ябальскую хаду гэтай «акцыі ўстрашэння» — адной з многіх, што залілі нявіннай крывёю акупаваную зямлю Беларусі. Тут, у Борках, яе ажыццяўляў праклятай памяці батальён аднаго з нуварышаў нацызму доктара Дзірлевангера, які быў ініцыятарам і рэжысёрам мноства падобных акцый у Беларусі і Польшчы, але пачынаў ён з Боркаў, дзе на працягу аднаго дня былі знішчаны амаль дзве тысячы ні ў чым не вінаватых людзей. Безумоўна, для работы такога маштабу спатрэбіліся спрактыкаваныя кадры выканаўцаў, і яны знайшліся ў Дзірлевангера. Розныя шляхі прывялі іх у гэтае адно з самых жорсткіх карніцкіх фарміраванняў фашызму, але для кожнага ў самым пачатку былі страх і жаданне выжыць любой цаной. Гэта была сапраўдная банда здраднікаў і злачынцаў розных узростаў, веравызнанняў і характараў, аб'яднаных паталагічнай стараннасцю ў сваім імкненні дагадзіць фашызму.

Алесь Адамовіч далёкі ад таго, каб нешта прыдумляць, фабульная аснова яго аповесці строга і падрабязна дакументавана, аж да найменшых дэталей і падрабязнасцей. Аўтару не шмат давялося дамысліваць — гісторыя знішчэння Боркаў добра вядома ў Беларусі. Галоўнай яго задачай было імкненне расказаць аб удзельніках і натхніцелях, пачынаючы з Гітлера і канчаючы апошнім радавым паліцаем — Плюгавым Дабраскокам.

Задача, трэба шчыра сказаць, не з лёгкіх. Яна патрабавала не толькі паглыбленага ведання акупацыйнай атмасферы, умоў партызанскай барацьбы, але і немалога таленту псіхааналітыка, здольнага зразумець ушчэрбную псіхіку людзей, якіх з пазіцыі нармальнай чалавечай логікі зразумець немагчыма. Адамовіч зразумеў, каб выкрыць і ўзненавідзець.

Нескладаная на першы погляд схема многіх характараў, аднак, таіла ў сабе ўсю заблытанасць чалавечых адносін, разабрацца ў якой — удзячная задача мастака. Адна з такіх няпростых, па-свойму ўскладненых бясконцым ланцугом злачынстваў натура самога Дзірлевангера, якая ў нечым паўтарае паталагічную сутнасць фюрэра і развівае яе крывавай канкрэтыкай дзеяння. Дзірлевангер дзейсны, па-свойму разумны і рашучы, ён цвёрда верыць, як сам фармулюе, у сілу «нацыянал-сацыялістычных ідэй і дзіцячай крыві». У той жа час гэта тыповы дробнабуржуазны дзялок, які нават на вайне возіць з сабой шавецкую майстэрню з групай асуджаных яўрэяў, якая працуе на яго, знаходзіцца ў сувязях з жанчынай, «сумніцельнай» у расавых адносінах, што, паводле нацысцкіх законаў, лічылася немалой рызыкай. «Сарвігалава гэты Дзірлевангер!» — з захапленнем думаюць аб ім падначаленыя, ліслівa слухаючы яго канібальскія запаведзі накшталт такой:

«Я не супраць, каб вы спалі з рускай дзеўкай, але вы павінны тут жа, сваёй рукой застрэліць яе».

Страляць яны ўмелі.

Радавы паліцай Тупіга, адзін з самых старанных забойцаў батальёна, так авалодаў сваёй справай, што «цягне кулямётнаю чаргой, як вопытны кравец шво — цвёрда і плаўна...». Гэта кат па прызванні, ён паталагічна ўлюбёны ў сваё рамяство і пераканана ненавідзіць тых, хто ад гэтага рамяства імкнецца ўвільнуць.

Асаблівае месца ў аповесці займаюць узаемаадносіны камандзіра ўзвода карнікаў Белага з яго сябрам Суравым, увасабленнем чорнага сумлення ўзводнага, своеасаблівым яго алібі на непрадбачаны выпадак, чалавекам-«ксяндзом», у якога штосьці зашыта ў падкладцы — індульгенцыя на праграшэнні на двух. Пры ўсёй фатальнай раз'яднанасці фашысцкіх прыслужнікаў гэтыя двое да часу сапраўды аб'яднаны адной таемнай гнятлівaю марай — выблытацца са становішча, якое ў прынцыпе не мае выйсця. Нягледзячы на ўсе іх намаганні, фашысцкая рэчаіснасць аказваецца непераадольнай, і планы Белага — Сурава рушацца. Наперадзе тупік.

Амаль гэткім самым тупіком, толькі расцягнутым па часе, заканчваецца злачынна-мітуслівае жыццё ротнага Мельнічэнкі, аднаго з прыспешнікаў нацыяналістычнага ахвосця, якое пайшло за Гітлерам па перакананні.

Паслухмяна распраўляючыся з беларускімі вёскамі, забіваючы ў дварах, у хатах, хлявах, яны тым самым няўхільна набліжалі сябе да той апошняе рысы, за якой іх чакала поўнае расчалавечанне, татальнае вызваленне ад усіх маральных абавязкаў перад людзьмі і краінай. Маральны і духоўны

прымітывізм гэтых людзей дазволіў фашызму выкарыстаць іх сабе на патрэбу і з найбольшым эфектам, незалежна ад волі ўсіх і кожнага паасобку.

Усе яны схільныя да разважанняў і рэфлексій у вольную гадзіну, так ці інакш тлумачачы сабе сваё становішча. Праўда, паліцаі меншыя чынамі разважалі не шмат, яны рабілі сваю крывавую справу з фанатычнай тупагаловасцю. З пераканаўчай праўдзівасцю ў аповесці ствараецца сапраўды апакаліптычная карціна знішчэння аднаго з лагераў у Бабруйску, калі, справакаваўшы беспарадкі, гітлераўцы расстралялі ўсю шматтысячную масу ваеннапалонных. Нямногія ўцалелыя ў гэтым пекле пасля ўсяго перажытага, зломленыя і душэўна пакалечаныя, пайшлі служыць немцам, не падазраючы, што наперадзе іх чакае і яшчэ горшае.

Гэтых людзей нельга ні зразумець, ні апраўдаць.

Таму што, гінучы самі, яны не мелі людскага права губіць сваіх суайчыннікаў, пасабляць ворагу, рабіцца паслухмянай зброяй у злачынных фашысцкіх дзеяннях. Усё далейшае, што адбылося з тымі, хто пайшоў ва ўслужэнне да катаў, знаходзілася за мяжой чалавечнасці, бо платай за злачыннае ўласнае жыццё былі рэкі крыві бязвінных. Паступова, але няўхільна абрываліся ўсе ніці, якія звязвалі іх з ранейшым даваенным жыццём, і кожны дзень іхняга існавання толькі павялічваў іх і без таго непамерную віну перад Радзімай. Пры ўсёй, на першы погляд, інтэграванасці іх лёсаў і ўчынкаў яны да канца заставаліся надзіва адмежаванымі адзін ад аднаго, страшэнна адзінокімі ў сваім роспачным намаганні перахітрыць пагібель. Вядома, што выжыць было няпроста ў абставінах няспынных баёў з партызанамі, атмасферы нянавісці з боку насельніцтва, бязлітаснага фашысцкага тэрору, калі здаралася, што з аднолькавай лёгкасцю каціліся ў агульную яму галовы ахвяр і галовы іх катаў.

Кампазіцыйная будова аповесці нагадвае бязлітасны разрэз — агаленне ўсёй сістэмы фашызму. Нямнога знойдзецца ў нашай літаратуры твораў, дзе б на такой адносна невялікай плошчы з такой яркасцю і глыбінёй была прэпарыравана ўся гэта д’ябальская сацыяльная з’ява, пабудаваная на страху, бяздумным падначаленні і авантурызме. Кнігу пачынае і заканчвае выпісаны знутры вобраз Шыкльгрубера-Гітлера з яго рэфлексіямі-маналогамі, поўнымі непамернага славалюбства і выхвалення, якія прытым выкрываюць нікчэмнасць абывацеля, што капрызнаю воляй выпадку ўзвысіўся над адной са старажытнейшых дзяржаў Еўропы. Многія з ягоных трызненняў проста цяжка спасцігнуць, калі адлучыцца ад думкі, што ў свой час яны рухалі мільёнамі і вызначалі лёсы народаў. Менавіта гэты ва ўсіх адносінах

звычайны авантурыст, які ўбачыў у сабе ўвасабленне «провидения» і месію германцаў, стаў непасрэдным віноўнікам пагібелі больш як 40 мільёнаў чалавек у Еўропе. Аднак і гэтага яму было мала, ён марыў аб уладзе над светам, якая б здзяйснялася з вышынь Гімалаяў. Гісторыя, аднак, распарадзілася інакш, і незадачлівы ніцшэанскі выпладак на вачах усяго чалавецтва сам ператварыўся ў недачалавека, галазадую малпу на дрэве.

Аповесць насычана багатым дакументальным матэрыялам аб людзях і падзеях мінулай вайны і з'яўляецца новым сведчаннем гераічнай барацьбы народа супраць яго прыгнятальнікаў.

Многія яе з высокім майстэрствам напісаныя старонкі сагрэты высакародным пачуццём любові і ўдзячнасці да тых, хто загінуў, не здрадзіўшы чалавечнасці, іншыя поўныя нянавісці да катаў, якія пралілі нявінную кроў у імя вар'яцкіх ідэй фашызму. Аўтар з усёй відавочнасцю і глыбінёй і выкрывае подлую прыроду страху і здрадніцтва, у фінале якіх — заўжды смерць і пагарда.

Гэтая самабытная і ў многіх адносінах павучальная аповесць, безумоўна, належыць да тых шчаслівых твораў літаратуры, якім суджана доўгае жыццё.

[1980]

## Ад імя пакалення

— Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Але... Ведаеце, у Твардоўскага ёсць такое сведчанне, што ён не любіць свайго юнацтва. Я не люблю свайго дзяцінства. Галоднае жыццё, калі трэба ісці ў школу, а няма чаго паесці і апрануць... Адзінае, што было радасцю, дык гэта прырода і кнігі. Улетку возера, лес, рыбалка. Калі дазваляў час, вядома. Бо трэба было працаваць. Трэба, ды і прымушалі. Але ў пісьменніцтва, напэўна, прывяла любоў да кнігі. Чытаў заўжды, як памятаю сябе. Першую кніжку мне прачытаў бацька. А ўжо год з дванаццаці пайшла класіка. «Уваскрасенне», «Ганна Карэніна», «Вайна і мір»... Гэта, канешне, было надта рана, але перачытваць не ўмею. Памятаю і так.

У школьнай бібліятэцы кніг было няшмат. Але ў вёсцы жылі людзі, якія зберагалі старыя выданні. У хаце сельскага настаўніка Баброўскага, з сынам якога я сябраваў, стаяў куфар старых кніг. Пісемскі, Дастаеўскі, Станюковіч, заходнія рамантыкі — Жуль Верн, Вальтэр Скот, Майн Рыд. Памятаю, трапіўся мне Шэлер-Міхайлаў — чатыры тамы аб свецкім жыцці рускай арыстакратыі... Чытаў без усякай сістэмы, без разбору. Але час і вопыт усё расставілі па сваіх месцах. З класікаў я, вядома,

вылучаю Талстога і Дастаеўскага, хоць лічу, што рускіх пісьменнікаў-класікаў трэба любіць усіх без выключэння. Талстой, як мне здаецца, вялікі сваім светаадчуваннем, здольнасцю ўвабраць у сябе і асэнсаваць цэлыя эпохі з іх складанасцямі і супярэчнасцямі. Дастаеўскі — незвычайнай паглыбленасцю ў чалавека, у яго ўнутраны свет. Маёй пісьменніцкай прыродзе блізкая таксама проза Пушкіна. Яна ясная, нешматслоўная, трапная, амаль без тропаў. Вось вершы — не па маёй часці. Хаця даводзілася імі займацца ў жыцці — год дванаццаць быў літкансультантам у гродзенскай абласной газеце.

Юнаком Быкаў вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Хоць сялянскаму хлапчуку ў пэўным сэнсе лягчэй стаць пісьменнікам, чым мастаком або музыкантам, — гэта патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі, якую ў вёсцы, практычна, атрымаць было нельга…

— Маляваў, як усе дзеці, можа, трохі лепш. І, мабыць, таму ў школе мне заўжды даводзілася займацца насценгазетай. У суседняй вёсцы жыў селянін па прозвішчы Бобрык. Пасля грамадзянскай вайны ён прывёз з Сібіры мноства кніг, гадавыя камплекты «Нивы», «Огонька», некалькі карцін алеем у багетавых рамах, пейзажы. Былі там рэпрадукцыі і артыкулы аб Рэпіне, Крамскім, Каровіне, а таксама Клеверы, пейзажы якога мне вельмі тады спадабаліся. Усё гэта неяк адгукнулася ў маёй душы. Пачаў даставаць фарбы, маляваць, пісаць у нейкія метадычныя кабінеты. Мне прысылалі адтуль брашуры аб тым, як трэба маляваць. Потым наш піянерскі важаты — малады, энергічны хлапец Кандрацкі — паступіў у Віцебскае мастацкае вучылішча. І я туды паехаў і паступіў. Але ў хуткім часе прыйшлося кінуць — у 1940 годзе адмянілі стыпендыі студэнтам тэхнікумаў. Паехаў дадому, зноў пайшоў у школу. Потым пачалася вайна…

Васіль Быкаў, як і тысячы ягоных аднагодкаў, васемнаццацігадовым юнаком трапіў у самае пекла. Не, ён не пісаў у франтавыя газеты, не вёў дзённікаў — апошняе строга забаранялася загадамі ваеннага часу.

— Наогул да пісьменніцтва сябе не рыхтаваў, не да таго было. На фронце, бывала, не ведаеш, ці дажывеш да вечара, і ўжо тым больш — да перамогі. Вось кажуць: скончыўся бой… Для нас ён ніколі не канчаўся. Калі немцы не наступалі, працавала іх артылерыя, авіяцыя… Калі нас адводзілі ў другую паласу, чакай прарыву на гэтым участку танкаў. Ды і там таксама баі. Мяне неяк

запыталі чытачы, ці былі ў мяне на фронце светлыя хвіліны. Былі, калі ўдавалася жывому вырвацца з пекла. Тады было светла і радасна. Але ненадоўга. Наогул на вайне і нават нейкі час пасля яе не толькі пісаць, але і чытаць аб ёй не хацелася.

Васіль Быкаў у часе вайны скончыў ваеннае вучылішча, служыў у пяхоце, камандаваў узводам «саракапятак», потым — у знішчальна-супрацьтанкавай артылерыі.

Я неяк прачытала выказванне Чынгіза Айтматава аб тым, што ён не можа вызваліцца ад думкі, што лёс збярог нам Васіля Быкава. Па сведчанні самога Быкава, з васьмідзесяці чалавек, якія разам з ім скончылі пяхотнае вучылішча, у жывых засталося чацвёра. Па дакументах і сам В. Быкаў «забіты і пахаваны» ў брацкай магіле ля вёскі Севярынаўка на Кіраваградчыне.

— Мне ўжо даводзілася расказваць аб тым…

Гэта было ў студзені сорак чацвёртага. Мы наступалі пад Кіраваградам. Зіма. Стэп. Наш стралковы батальён вёў бой пад Вялікай Севярынаўкай. Была ноч, але было светла ад свежага снегу. Немцы атакавалі нечакана танкамі на кукурузным полі. Рассеялі батальён і пачалі распраўляцца з намі. Агонь быў вельмі густы. Мы адстрэльваліся. Я быў паранены ў нагу. Адзін танк павярнуў да мяне. Я кінуў супрацьтанкавую гранату, але прамахнуўся і толькі паспеў падабраць ногі. Танк літаральна ўціснуў у снег полы майго шыняля. Метраў праз дваццаць ад мяне лейтэнант Міргарад кінуў у гэты танк сваю гранату.

Танк не загарэўся, але развярнуўся і стаў. Мы паспелі дабрацца да сцірт, потым да палявой дарогі, там былі нашы фурманкі. Мяне прывезлі ў сяло, якое стаяла ў лагчыне. У хаце набралася чалавек пятнаццаць параненых. Ноччу я задрамаў на лаўцы. Раптам чую, нехта будзіць: «Быкаў, Быкаў…» Гляджу, нада мной стаіць камандзір батальёна. «Ты паранены?» — «Паранены». — «Хадзіць можаш?» — «Не». — «Наш батальён разграмілі…» Я разумеў, што ён збірае байцоў, каб арганізаваць абарону. Раніцай сяло зноў атакавалі нямецкія танкі, збілі абарону. Я выпаўз з хаты на дарогу, дзе мяне падабрала апошняя фурманка. Адзін танк спыніўся насупраць нашай хаты і расстраляў яе. Хата загарэлася. Відаць, усё гэта бачыў і мой камандзір батальёна, які, канешне, не ведаў, што за пятнаццаць хвілін да таго я выпаўз на вуліцу. Пасля шпіталя я трапіў у іншую часць. Падзеі тых дзён знайшлі адлюстраванне ў аповесці «Мёртвым не баліць», найбольш аўтабіяграфічнай з усяго мною напісанага.

Некалькі год назад я пабываў у тых мясцінах. Сяляне расказвалі, што забітых у студзеньскіх баях збіралі па стэпе і хавалі ўжо ў сакавіку, калі растаў снег. Можаце ўявіць, што там было. Вось так я і трапіў у спісы забітых. Дадому прыслалі паведамленне.

Колькі было такіх выпадкаў? Па сутнасці, усё жыццё на фронце праходзіла на валасок ад смерці. Памятаю, у Венгрыі заселі мы з «саракапяткамі» ля меліярацыйных каналаў. Я ляжу побач з гарматай у гразі тарфяніку. Спусціліся пацёмкі. Немцы зрэдку пастрэльвалі. Раптам перада мной моцны ўдар.

Выцер твар, гляджу, за паўметра з гразі тырчыць донца снарада. А калі б ён разарваўся?

— У мяне быў шынель, у якім я закончыў вайну, увесь прапалены, у некалькіх месцах прастрэлены, прабіты асколкамі. Па сутнасці, гэта чысцейшая выпадковасць, што тыя кулі і асколкі мяне не кранулі — большасць жа маіх таварышаў па Саратаўскім пяхотным вучылішчы з вайны не вярнуліся. Але і жменька тых, што засталіся ў жывых, прыйшлі з раненнямі і кантузіямі…

Васіля Уладзіміравіча многія лічаць чалавекам замкнёным, суровым, які трудна і неахвотна ідзе на кантакты. Гэта трохі насцярожвала перад сустрэчай. Хоць штосьці яўна не сыходзілася ў гэтых характарыстыках з тымі ўражаннямі, якія пакідалі ягоныя кнігі: адкуль жа ў такім выпадку гэтая бязмежная любоў і пяшчота да чалавека, гэтае ўсёпранікальнае разуменне яго? Адкуль гэтае спачуванне да сваіх герояў? Прызнаюся, я сустрэла менавіта такога Быкава, якім ён паўстае са старонак сваіх кніг: адкрытага і добрага, простага і шчырага, разумнага і чулага.

— …І вось калі з’явілася так званая другая хваля ваеннай прозы, калі пра вайну пачалі пісаць былыя лейтэнанты, салдаты, — гэта было сапраўднае адкрыццё: так па-новаму, пранізліва загучалі словы пра вайну… Я маю на ўвазе Юрыя Бондарава і Рыгора Бакланава, Віктара Астаф’ева і Яўгена Носава, Юрыя Ганчарова і Канстанціна Вараб’ёва. І, вядома, Уладзіміра Багамолава, чые кнігі «Іван», «Зося», а потым і больш позняя рэч, раман «У жніўні сорак чацвёртага…» — гэта аголеная праўда вайны, амаль дакументальная проза аб ёй. Я не хачу тым сказаць, што іншыя аўтары пішуць горш. Проста мне бліжэй тыя, каго я назваў. Менавіта іх проза і ўмацавала маё жаданне пісаць пра вайну…

Пісаў я аб тым, што бачыў і перажыў сам, што перажылі мае таварышы. Вядома, у маіх кнігах няма літаральнага ўзнаўлення перажытых жыццёвых сітуацый. Але ўсё, аб чым я пішу, так або інакш было.

*— Ці быў такі камбат Валошын і сітуацыя, аб якой вы*

*расказваеце ў аповесці «Яго батальён», — такі ж цяжкі бой і такі ж цудоўна смелы камбат, якога несправядліва адхілілі ад камандавання і які ўсё роўна працягваў ваяваць?*

— У нас быў камандзірам палка Валошын, а прозвішча майго камбата было Смірноў. У пэўнай меры з яго спісаны воблік майго героя. Смірноў да вайны быў настаўнікам — спакойны, роўны, умеў абыходзіцца з падначаленымі. Ён моцна трымаў батальён у падпарадкаванні і ў баі цвёрда ўпраўляў ім. Наш Смірноў не загінуў, як Валошын, ён быў паранены пад Балатонам і, здаецца, вярнуўся з вайны.

Што такое камбат на фронце? Гэта як старшыня калгаса — на ім галоўная адказнасць за поспех справы. Камбату загадана наступаць, а немцы не даюць, салдацкія сілы таюць…

Такіх сітуацый, як у маёй аповесці, на фронце было нямала. Няўдалыя баі заўсёды звязаны з пэўнай нервовасцю, з сутычкамі і канфліктамі.

— *Мабыць, вашым асабістым вопытам і вызначаецца ваш выбар галоўнага героя — маладога воіна, будзь то лейтэнант, сяржант, радавы?*

— Натуральна. Сам я быў у стралковых падраздзяленнях, а ў іх амаль усім па васямнаццаць-дваццаць. Часам глянеш на ланцужок тых, што бягуць у атаку — адны хлапчукі. Вось таму і мае героі такія маладыя. Ведаеце, мне часта пішуць былыя франтавікі. Сярод іх пісьмаў ёсць і такія: маўляў, усялякае было на фронце, але навошта цяпер аб гэтым пісаць? Цяпер трэба штосьці і забыць, а штосьці не грэх і падправіць. Не магу з гэтым пагадзіцца. Не магу прыняць і такой формулы, калі пра чалавека кажуць: ён прайшоў усю вайну — значыць, ён герой. Для нас, франтавікоў, важна яшчэ, кім ён быў на гэтай вайне, дзе служыў. Некаторыя яе ўдзельнікі за ўсю вайну ні разу не стрэлілі. Пэўна, ад кожнага гэта і не патрабавалася. Армія ж, як дзяржава, у ёй важны і патрэбны і інтэндант, і начфін, і стралок, і разведчык. Але ступень рызыкі, перажытых цяжкасцей і ўклад у перамогу ў гэтых людзей розныя. Для мяне галоўны герой вайны той, хто са зброяй у руках біўся з ворагам. Вось чаму і пісаў і буду пісаць менавіта пра такіх герояў — непасрэдных удзельнікаў баёў, франтавікоў, партызан.

Аднойчы мяне спыталі: ці веру я, што энергія такіх людзей, як Іваноўскі, не гіне. Мне здаецца, што перажыванні аднаго чалавека, які ідзе на самаахвяраванне, не павінны знікаць без следу. Зноў жа чалавек, які пайшоў на самаахвяраванне, павінен быць упэўнены, што ягоны ўчынак патрэбны іншым і будзе па справядлівасці ацэнены імі.

— *Вы гаварылі, што для пісьменніцкай работы неабходны*

*жыццёвы вопыт. Вашы франтавыя аповесці ствараліся на франтавой аснове — вы ваявалі ў дзеючай арміі. А як жа вы пішаце пра беларускіх партызан, адкуль бярэце свае сюжэты?*

— У мяне няма вопыту партызанскай барацьбы. Але ў Беларусі яго многа ўсюды. Як, напрыклад, нарадзілася «Воўчая зграя»? У часе блакады, акружэння насельніцтва ўцякала з вёсак, хавалася ад фашыстаў у лясах і балотах. Немцы, што называецца, рабілі «зоны пустынь», знішчаючы ўсіх. Вось аб адным з такіх выпадкаў мне расказалі, астатняе — справа ўяўлення.

— *Дарэчы, аб гэтай аповесці. Памятаеце, на канферэнцыі чытачоў у лістападзе мінулага года ў бібліятэцы імя Леніна ў Маскве ў вас запыталі, чаму гэтая аповесць мае так званы «адкрыты канец» — чаму Ляўчук, які прыязджае ў горад, дзе жыве выратаваны ім хлопчык, цяпер ужо дарослы чалавек, як бы пабойваецца гэтай сустрэчы? Тады вы адказалі коратка, што фіналы могуць быць розныя. У «Трэцяй ракеце», «Альпійскай баладзе», «Абеліску» вы ставіце ў канцы кропку. У «Воўчай зграі» гэта павінен зрабіць чытач. Вы ж даеце чытачу магчымасць меркаваць, што Леўчука тут маглі сустрэць не належным чынам?*

— Безумоўна. Час, на жаль, часта разрывае старыя сувязі, разводзіць людзей, іх кантактнасць меншае з гадамі. Я гэта ведаю па сабе. Памятаеце фільм «Беларускі вакзал»? Як міла бачыць, што гэтыя добрыя людзі захавалі франтавое братэрства! Але ў жыцці часта бывае інакш. Я намагаўся шукаць, знайсці старых сяброў. Шукаеш аднаго — знаходзіш другога: зусім не падобнага на таго, першага. Але затое ўтрая даражыш выпрабаванай старой дружбай. Тым больш калі яна пачалася на фронце, праверана ў баях.

З другога боку, час зближае з новымі людзьмі, з якімі ты нібы ішоў рознымі шляхамі па жыцці, а яны аказваюцца табе блізкімі і дарагімі. Вось з Віктарам Астаф'евым мы разам не ваявалі, юнацкая дружба нас не звязвала, а адносіны ў нас самыя братэрскія — нам з ім высвятляць няма чаго, усё ясна.

Таму я і зрабіў «адкрыты канец» — у жыцці ўсё можа быць… Кім ён стаў, гэты выратаваны хлопчык? Хай чытач падумае.

— *Аб апошняй вашай аповесці «Пайсці і не вярнуцца» многа пішуць і спрачаюцца і чытачы і крытыкі. Што падахвоціла вас напісаць гэтую драматычную гісторыю?*

— Час дзеяння аповесці — фінал Сталінградскай бітвы. Сталінград многа значыў не толькі для фронту — яго перамога адгукнулася і на акупаванай тэрыторыі. У Беларусі Сталінград стаў паваротным момантам у развіцці партызанскага руху. Многія з тых, хто яшчэ не выбраў свайго шляху, вагаўся, менавіта пасля Сталінградскай перамогі пайшлі ў партызаны. Нават некаторыя

паліцаі пачалі наладжваць сувязь з партызанамі. І толькі тыя, хто моцна заграз у злачынствах перад народам, засталіся пры сваім, робячыся яшчэ больш жорсткімі, і ішлі напралом, па лужынах крыві.

У гэтай аповесці мне хацелася паказаць шляхі выбару, прасачыць за псіхалогіяй чалавека, які стаў на шлях здрады, але раптам даведаўся пра Сталінград. Антыпод яму — Зося, якая зрабіла свой выбар даўно, у самым пачатку.

*— У вас многа гераінь жанчын. Вы з вялікай цеплынёй і вельмі цнатліва пішаце пра жанчыну на вайне.*

— Мне здаецца, што ў маіх аповесцях мала жанчын…

*— А Джулія, Люся, Вера, Клава, Зося?..*

— Наогул жанчына і вайна — штосьці ненатуральнае і несумяшчальнае. У баявых умовах жанчына заўсёды аказвалася болей уязвімай асобай, чым мужчына. Мужчыны старэйшыя асабліва добра гэта разумелі. Дзяўчаты таксама імкнуліся да тых, у кім яны бачылі нешта бацькоўскае, матчына нават. У арміі была пасада санінструктара роты, якую звычайна займалі дзяўчаты. Яны павінны былі аказваць першую дапамогу і эвакуіраваць параненых. Калі пяхота залягала пад агнём, яны паўзлі ад аднаго параненага да другога. Часта і гінулі так у першым баі.

Гэты цяжар пакут, які выпаў на долю жанчын на фронце, і прымушае нас з такім спачуваннем адносіцца да іх у літаратуры.

*— Вашы многія творы экранізаваны, пастаўлены ў тэатры. Ці задавальняюць вас гэтыя работы?*

— Сапраўды, тэатр і кіно часта звяртаюцца да маіх твораў. Радзей паспяхова. Але што рабіць, тут я не вінаваты. Самая ўдалая, на мой погляд, экранізацыя «Сотнікава», зробленая Ларысай Шапіцька. Фільм, як вы ведаеце, называецца «Узыходжанне». Чым гэта пастаноўка ў прынцыпе адрозніваецца ад іншых? Перш за ўсё псіхалагічнай заглыбленасцю ў тэму. Шапіцька не пайшла па лініі фіксацыі вобразаў аповесці, а імкнулася іх паглыбіць, драматызаваць сітуацыю, характары. У іншых выпадках мела месца аблегчанае адлюстраванне канфліктаў, ілюстрацыйнасць. Хоць сёе-тое ва «Узыходжанні» я як рэаліст і не прымаю. Напрыклад, эпізод, калі Рыбак пачынае выказваць любоў да сваёй ахвяры — Сотнікава. Тут ужо нешта ад цяжказразумелага, язычніцкага. Але гэта нельга палічыць і недахопам фільма. Проста тут іншы погляд мастакакінематаграфіста.

Як бы ні была глыбока і моцна звязана творчасць Васіля Быкава з мінулым, якое аддалена ад дня сённяшняга на тры з палавінай дзесяцігоддзі, яна глыбокая і па-сапраўднаму сучасная. Вернасць абавязку, мужнасць у сутычцы з ворагам, непрынядце

прыстасавальніцтва — хіба гэтыя праблемы зняў час, хіба ўсе маральныя пытанні вырашаны ў нашым жыцці? Вось чаму ваенная проза В. Быкава такая сучасная, вось чаму яго кнігі чытаюць у пяцідзесяці краінах свету, а ў нашых бібліятэках на Быкава запісваюцца ў чаргу. Яго заслугі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР. Васіль Уладзіміравіч ужо другі раз выбіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

*— Якія пытанні даводзіцца вам вырашаць, з чым да вас звяртаюцца людзі?*

— Як дэпутату даводзіцца займацца рознымі пытаннямі, прабіваць нейкія рашэнні, дапамагаць гаспадарнікам даставаць матэрыялы. Неяк адзін старшыня калгаса сказаў, што яго калгас мог бы купіць самалёт — такі ён багаты. І на самой справе мог бы — і не толькі таму, што багаты, а таму, што, мабыць, самалёт лягчэй купіць, чым, скажам, платформу шыферу або бетонных апор, каб пашырыць кароўнік. Гаспадаркі разрастаюцца, а матэрыялаў не хапае. Цяпер, як мне здаецца, вёска можа развівацца толькі пры рознабаковай дапамозе ёй усёй эканомікі. Тэхнікі ж на вёсцы поўна. Але гэтая тэхніка паразбівала дарогі і сама на іх грэзне, гробіцца з-за бездарожжа. Зразумела, праблема дарог у сельскай мясцовасці турбуе, клапоціць і гаспадарнікаў і мяне як дэпутата. Было б няправільна разглядаць яе як праблему вузкую: у яе ўпіраецца развіццё ўсёй сельскай эканомікі. Аб гэтым, дарэчы, быў глыбокі і цікавы артыкул у «Правде» Васіля Бялова, пісьменніка, шчыра заклапочанага праблемамі сучаснасці.

Часта да мяне як да дэпутата звяртаюцца людзі пажылыя наконт пенсій. Па магчымасці стараюся дапамагаць, бо клопаты пра людзей, якія шмат працавалі і ваявалі — наш свяшчэнны абавязак.

...Жывыя клапоцяцца пра жывых, берагуць памяць забітых. Сярод іх нябачна жывуць і героі Васіля Быкава, як сведчанне чалавечнасці, як напамінак пра абавязак перад тымі, хто недажыў, недакахаў.

*— Васіль Уладзіміравіч, што б вы хацелі пажадаць чытачам «Советской культуры»?*

Верыць нашай літаратуры, бо літаратура ў цэлым служыць чалавеку і падобна да кропляў вады, якія дзяўбуць камень. Яна таксама з дзіўнай настойлівасцю пракладвае ў чалавечай свядомасці шлях да дабра і справядлівасці.

Гутарку вяла Н. Кузняцова.
[1980]

## [Інтэрв’ю газеце «Неделя»]

— *Васіль Уладзіміравіч, можа, парушым «пратакол» гэтай старонкі «Недели» і пачнём з фіналу: высветлім вашы адносіны да гумару. Пра лічбу 13 не пытаюся…*

— А я якраз з цікавасцю паслухаў бы чалавека, якому лічба 13 дапамагла ў жыцці або, наадварот, перашкодзіла яго парыву дасягнуць дасканаласці… Што датычыць гумару, дык я люблю і востры жарт, і дасціпнасць, і сатыру, і «лёгкія» жанры. Але гумар абавязкова павінен быць дарэчы. Не цярплю, калі хто-небудзь пачынае «хахміць», асабліва на тэму мінулай вайны. А трэба прызнаць, што ўжо мільгаюць у літаратуры і ў мастацтве прыхільнікі «ваеннага лёгкага гумару», сёй-той спрабуе ствараць ледзь не вадэвілі пра вайну. Але ж яшчэ баляць і крывавяць раны, яшчэ аплакваюць маці сваіх сыноў, якія не вярнуліся з вайны; хіба тут да гумару?..

— *Менавіта таму вашы творы расказваюць выключна пра вайну, пра людзей на вайне?*

— Прызнацца, у час вайны я не мог чытаць нічога, напісанага пра яе ў жанры мастацкай літаратуры. Занадта вялікая была розніца паміж кніжным адлюстраваннем людскіх пачуццяў і сапраўднымі пачуццямі, асабліва тымі, якія бушавалі на палях баёў. А пасля вось, калі ласка, сам пачаў пісаць. І толькі пра вайну. Нас, франтавікоў, вайна біла ва ўпор, страляла ў сэрца кожнага з нас. Тым, хто вырваўся з яе пекла, яна сніцца і цяпер, праз трыццаць год пасля перамогі. Раней снілася кожную ноч, цяпер радзей, але надта глыбока сядзіць яна ў нашай свядомасці. У тым, што я пішу толькі пра вайну, вінаваты не я — вайна вінавата.

— *А як пачалося гэта пісанне? Я чуў, што вы ў дзяцінстве малявалі, марылі стаць мастаком. Ці быў які-небудзь канкрэтны імпульс, што падштурхнуў вас пісаць?*

— Быў такі, калі можна так сказаць, «імпульс», добра яго памятаю: аповесць Рыгора Бакланава «На поўдзень ад галоўнага ўдару». Таленавітае мастацкае апавяданне аб драматычных баях пад Балатонам, кульмінацыяй якіх стаў захоп фашыстамі венгерскага горада Секешфехервара. Тым, хто ваяваў на Трэцім Украінскім фронце, мабыць, да канца дзён запомнілася гэтая нязвыклая для рускага слыху назва… Прачытаўшы аповесць Бакланава, я зразумеў: можна напісаць пра вайну з вычарпальнай праўдзівасцю і глыбінёй. І адважыўся зрабіць першую, даволі нерашучую спробу ў гэтым напрамку, напісаўшы аб падзеях, праўда, далёкіх ад зімы 1945 года. Аповесць «Жураўліны крык» пабачыла свет у 1959 годзе ў часопісе «Маладосць». З яе і пачалося маё, як вы сказалі, «пісанне».

*— Як вы лічыце, што вам ужо ўдалося сказаць пра вайну і што яшчэ хацелася б сказаць? Якія адкрыцці чакаюць нас, вашых чытачоў, у новай быкаўскай прозе?*

— Што ўдалося? Часам так бывае: калі пішаш, здаецца, быццам нешта ўдалося або, па меншай меры, удаецца.

А напішаш — і незадаволены! Не так, не тое!.. Мяркую, што мне, у ліку іншых, удалося стварыць у літаратуры маленькі кавалачак вялікай вайны, названы салдацкай праўдай. Калісьці крытыкі папракалі мяне за «акопную праўду», укладваючы ў гэты тэрмін нейкі свой негатыўны сэнс. Не ведаю, што яны мелі на ўвазе пад «акопнай праўдай». Я ж у першую чаргу бачыў у ёй псіхалогію чалавека, які застаўся сам-насам з ворагам або акоп якога прасуе гусеніцамі варожы танк… Хіба нам абыякава, нецікава, што ў такі момант адчувае чалавек? Перакананы: у гэтай галіне — безліч не пазнанага, не даследаванага яшчэ нашай літаратурай, на жаль, яно паступова адыходзіць з народнай памяці. Але і сёння з'яўляюцца ўсё новыя, цудоўныя па сваёй праўдзівасці творы пра вайну. Ну, хоць бы новыя аповесці і апавяданні Кандрацьева, аповесць Адамовіча «Карнікі», надрукаваная ў «Дружбе народов». Гэта зусім новыя старонкі вайны, сапраўдныя адкрыцці салдацкіх характараў…

Мне таксама хацелася б у наступных творах зрабіць такія адкрыцці. Ці ўдасца? Не ведаю. «Хачу» і «магу» — паняцці нярэдка процілеглыя…

— *Вядомы такі эпізод з вашай біяграфіі: у баях за Кіраваград лейтэнант Васіль Быкаў быў забіты, а потым пахаваны, аб чым маці ў свой час атрымала афіцыйнае паведамленне…*

— Так. Пахаваны ў брацкай магіле ля вёскі Вялікая Севярынаўка. Але я быў толькі паранены. Выжыў па чыстай выпадковасці. У сваіх аповесцях я пісаў аб тым, што бачыў і перажыў сам, што бачылі і перажылі мае таварышы. Вядома, у маіх кнігах няма літаральнага ўзнаўлення вайсковых сітуацый, але ўсё, аб чым я пішу, так або інакш *было.* Ніхто з ветэранаў, напрыклад, удзельнікаў баёў за Кіраваград, не папракаў мяне ў скажэнні фактаў. А характары, мастацкія вобразы — гэта ўжо прэрагатыва пісьменніка. Хоць пісьменнік зусім вольны ў іх стварэнні і кіруецца прытым адзіна мастацкай логікай, я мог бы даць справаздачу ў сваіх матывах і назваць прататыпы. Калі б у гэтым з'явілася неабходнасць або хтосьці, скажам, запярэчыў у тым сэнсе, што такіх характараў у гады вайны не было і быць не магло, я назваў бы рэальныя імёны рэальных людзей.

*— Колькі ж, так сказаць, «працэнтаў» асабістага вопыту закладваеце вы ў свае творы?*

— Усё, што прыгодна, памножанае на ўяўленне. Дзе не стае

аднаго, выручае другое. Каб напісаць адзін твор, зразумела, добры, трэба, як вядома, усё жыццё і яшчэ трошкі…

— *А як жа з вашымі партызанскімі аповесцямі? Вы прайшлі франтавую вайну артылерыстам, камандзірам стралковага ўзвода, узвода аўтаматчыкаў :, але ж у партызанах вы не былі…*

— Прадбачыў гэта пытанне… І ўсё ж партызанскія аповесці напісаны на аснове асабістых ведаў, уяўленняў, а галоўнае — пранікнення ў псіхалогію чалавека на вайне. Гэта толькі здаецца, быццам сутнасць партызанскай барацьбы і франтавой вайны розная. На справе ж і тут і там усё вырашала адно, старое, як свет, і заўсёды балючае пытанне — жыць або памерці. Усім выжыць было немагчыма, а паміраць ніхто не хацеў. У гэтай невырашальнасці галоўная сутнасць усялякага твора на тэму вайны. Усё астатняе — прыватнасці, якія не маюць для пісьменніка занадта вялікай праблемы.

— *Некаторыя чытачы пытаюцца: чаму ў кожным творы Быкава існуе здраднік?*

— Прырода гераічнага нам блізкая і зразумелая. Зразумела, напрыклад, што менавіта кінула Аляксандра Матросава на амбразуру дзота, што павяло на смерць маладагвардзейцаў, Зою Касмадзям’янскую, падпольшчыкаў Мінска. Іх паводзіны — гэта норма паводзін савецкага чалавека. Норма! Але чаму ж так бывае: тысяча, дзесяць тысяч чалавек страляюць па ворагу, а адзін раптам (ці раптам?) паварочвае зброю і страляе ў сваіх. Чаму? Гэта ж яўнае адхіленне ад «нормы»! Магчыма, ён вучыўся ў адной школе з Зояй Касмадзям’янскай або з маладагвардзейцамі, нават сядзеў на адной парце з героем! Што, дзе, калі зрабіла яго здраднікам? Згадзіцеся, што разабрацца ў прыродзе здрадніцтва таксама неабходна. Для чаго? Каб выкараніць гэтую прыроду, каб у будучым не было ні аднаго здрадніка. Таму я і выводжу на старонках сваіх кніг такіх людзей, як Рыбак, Пшанічны, і іншых…

— *Скажыце, калі ласка, Васіль Уладзіміравіч, чым вы больш за ўсё даражыце ў сваіх творах?*

— У сваіх? Хутчэй ва ўсіх і ўсялякіх: праўдай! Праўда недзялімая, гэта даўно вядома. Іншая справа, што кожны з нас, з прычыны пэўнай абмежаванасці асабістага вопыту, можа валодаць толькі некатораю часткай жыццёвай праўды (гэта я вяртаюся да «акопнай праўды»); іншую, вялізную частку папаўняе ў нашай свядомасці вопыт іншых — блізкіх, знаёмых, грамадства ў цэлым. Нам, франтавікам, тым, хто, як кажуць, меў «непасрэдную» справу з ворагам, блізкая і зразумелая наша праўда смяротэльнай сутычкі… Другім праўда вайны знаёма не па перарытых мінамі палях, не па акопах, а па камандных пунктах, штабах, рэдакцыях ваенных газет… Што ж, іх вопыт таксама карысны і патрэбны ў

справе стварэння агульнай, праўдзівай, шматскладанай карціны вайны. Кожны мастак прыходзіць у мастацтва перш за ўсё з праўдай асабістага вопыту, з асабістым разуменнем і тлумачэннем свету. Справа чытача — меркаваць аб меры яго праўдзівасці, аб ступені яго праваты. Думаю, чытач і рассудзіць.

— *І на кінаэкране, і на сцэне ўсё часцей з'яўляюцца быкаўскія героі. Ці задаволены вы імі? Ці задавальняюць вас кінематаграфічны і тэатральны эквіваленты вашых празаічных твораў?*

— Што рабіць, кіно заваявала кантыненты і пануе ў свеце мастацтваў побач з такім папулярным і дзейсным партнёрам, як тэлебачанне. Тэатр застаецца трохі ззаду — не тая, як кажуць, энергія, «менш электрычнасці». Да таго ж тэатру патрэбна вельмі сур'ёзная (нават калі і камедыйная!) драматургія ў якасці генератара ідэй і высокай духоўнасці... Шчыра кажучы, літаратурныя героі мне больш падабаюцца, чым кінематаграфічныя і тэатральныя, за рэдкім выключэннем.

— *Калі можа адбыцца сустрэча чытачоў з новымі літаратурнымі героямі Васіля Быкава?*

— Я не праграмую сваіх намераў. Больш спадзяюся на не дужа пахвальны, але вельмі блізкі рускі «авось». Авось калінебудзь што-небудзь і выйдзе з-пад майго пяра.

— *Але як хутка?*

— Авось хутка.

— *Што б вы хацелі пажадаць чытачам «Недели»?*

— Толькі чытаць пра вайну. У горшым выпадку — толькі пісаць пра вайну. Выключна пра мінулую. Ну, і здароўя, вядома, здароўя.

Інтэрв'ю вёў М. Матукоўскі.
[1980]

### Векапомнае

Трыццаць пяць год назад скончылася найвялікшая бітва народаў зямлі з самым каварным і моцным зверам, які калінебудзь паяўляўся на нашай планеце, — з нямецкім фашызмам. Вялікая Айчынная вайна савецкага народа прынесла нашай Радзіме выдатнейшую з перамог, якой па праву ганарыцца ўсё чалавецтва. Гэтая перамога патрабавала велізарнага напружання ўсіх сіл, найвялікшай стойкасці і вытрымкі і каштавала дваццаці мільёнаў чалавечых жыццяў.

Не ўпершыню было Беларусі трываць жах варожай навалы,

але такой яшчэ не здаралася за ўсю шматпакутную гісторыю нашага народа. Франтавы ўраган двойчы пракаціўся праз яе палі і лясы, вёскі і гарады, руйнуючы ўсё на сваім шляху. Час паміж гэтымі двума руйнаваннямі таксама не даў ні дня перадыху. Народ узняўся на барацьбу з захопнікамі, і ўсе дні і ночы пад змрокам акупацыі ішла зацятая вайна на дарогах, у лясах, у мястэчках і гарадах Беларусі. Неўміручаю славай на вякі пакрылі сябе народныя мсціўцы — беларускія партызаны, паўмільённая армія якіх была гразой для нямецкіх захопнікаў. У партызанскіх радах побач з беларусамі змагаліся прадстаўнікі ўсіх братніх рэспублік, якія агульнымі намаганнямі блізілі час Перамогі. А мільён беларусаў біўся на фронце, губляючы жыцці лепшых сваіх сыноў у часе вызвалення расійскіх абласцей, Украіны, Малдавіі, Прыбалтыкі. Так было змацавана баявое брацтва народаў нашай краіны, якое прайшло суровае выпрабаванне на палях найвялікшай з войнаў.

У суровых выпрабаваннях вайны кавалася выдатнае майстэрства савецкіх палкаводцаў, генералаў і афіцэраў арміі і флоту. Але найвялікшыя выпрабаванні, мусіць, выпалі на долю салдата, партызана, чыёй крывёй, упартасцю і ўмельствам у значнай ступені набліжалася перамога над дужым і вымуштраваным ворагам. Гэтая перамога была б немагчыма без паўсядзённай арганізуючай і накіроўваючай ролі Камуністычнай партыі, без самаадданай барацьбы мільёнаў яе членаў, якія былі ў авангардзе барацьбы як у нямецкім тыле, так і на палаючых франтах вайны. Многія з іх загінулі, але на іх месца заступалі другія, што ў самым пекле баёў станавіліся камуністамі і сваім натхняючым прыкладам цэментавалі рады змагароў.

Выдатныя традыцыі братняга адзінства развіваюцца на працягу ўсіх год мірнага будаўніцтва. Як ніколі раней, у нас стала многа сяброў у краінах сацыялізму, і цяпер мы мацуем сардэчныя адносіны дружбы з нашымі суседзямі на захадзе — палякамі, чэхамі, румынамі. Немцы з ГДР — нашы сябры, таксама як і венгры, не кажучы ўжо пра балгарскі народ, традыцыі дружбы з якім цягнуцца з даўніх часоў. Мусіць, у гэтым яднанні — залог нашае светлае будучыні.

Вялікая Айчынная вайна нашага народа дала чалавецтву шмат вялікіх і векапомных урокаў, якія вывучаюцца і берагуцца народамі свету. Але галоўны з іх, мусіць, заключаецца ў тым, што несправядлівасць рана ці позна будзе асуджана на паражэнне, а праўда заўжды пераможа.

Так заўсёды было ў гісторыі, і будзем спадзявацца, што так будзе і надалей.

[1980]

## Кузьма Чорны

Кузьма Чорны — класік беларускай літаратуры, да гэтага вызначэння мы прывыклі яшчэ ў школе. Сапраўды, усё створанае ім — прыклад глыбіні і складанасці, мастацкасці і праўдзівасці, да яго небывалых у беларускай літаратуры.

На шырокім матэрыяле шматпакутнага народнага жыцця Чорны стварыў хвалюючую галерэю нацыянальных характараў, у якіх з незвычайнай яркасцю адлюстраваўся мяцежны дух часу, поўны драматычнай барацьбы за хлеб і чалавечую годнасць. Найперш у гэтым несумненныя заслугі перад нацыянальнай культурай мастацкай прозы Кузьмы Чорнага.

Аднак значэнне К. Чорнага выходзіць далёка за межы адной толькі нацыянальнай культуры. Як і кожны сапраўдны мастак, ён не змяшчаецца ні ў рамках сваёй культуры, ні ў сферы свайго часу. Раманы К. Чорнага чытаюць многія народы свету, знаходзячы ў іх сугучныя сваім думкам мыслі, пазнаючы ў далёкім сваё, цераз асобнае і чужое спасцігаючы вялікае і агульнае. У яго лепшых рэчах выяўляецца духоўная роднасць з ідэямі такіх гігантаў думкі, як Л. Талстой і Ф. Дастаеўскі. Улюбёныя матывы журботнай іх музы дзе прыглушана, а дзе і яўна гучаць між радкоў беларускага мастака слова, уліваючыся ў агульны хор апосталаў дабра і справядлівасці.

Мастацкі геній К. Чорнага такі ж беларускі, як і агульнанацыянальны. Яго дараванне глыбока рэалістычнае, а яго гуманізм высокі і агульначалавечы па маштабах ахопу народнага жыцця і сіле суперажывання прыгнечаным і абяздоленым. К. Чорны — адзін з бессмяротных мастакоў свету і наша нацыянальная гордасць.

У гэтым двуадзінстве — несакрушальная веліч гэтага цудоўнага мастака Белай Русі.

[1980]

## [Выступление на Всесоюзной творческой конференции писателей и критиков «Дружба народов — дружба литератур»]

В последнее время все чаще проводятся крупные культурные мероприятия — центральные и региональные, — которые дают возможность их участникам и всей культурной общественности вести деловой разговор на равных, взаимообогащаясь, учась и уча, но не поучая. Я думаю, что эта замечательная тенденция будет развиваться и совершенствоваться.

Да, конечно, слово писателя — огромная сила, это стало известно не сегодня и не вчера даже. Классическая литература каждого из развитых народов, и, может быть, русская классика в первую очередь, явилась генератором высокой духовности, которая дала силу народам выстоять в годы труднейших исторических испытаний, сохранить язык, культуру, нравственное здоровье поколений. А ведь многие классики вряд ли сознательно ставили перед собой столь грандиозные и так далеко отстоящие цели. При всем даровании (которое, кстати, многие из них расценивали весьма сдержанно) они больше заботились о современности, задачах злободневных и близких.

Как же им удалось создать действительно бесценную сокровищницу духовности, способную влиять на народное сознание спустя многие годы, десятилетия и даже века? Я думаю, прежде всего потому, что их сердца исходили непрестанной болью за судьбы своего народа и человека как такового. Да, они понимали прекрасно, что человек несовершенен, «греховен», как говаривали в старину, что народ достоин лучшей исторической участи, что общественное устройство нуждается в реконструкции, может быть, в революционной переделке. Но они не поучали, ничего не навязывали, редко «призывали». Они показывали человечеству его собственный лик, оставляя ему, человечеству, решать, как быть дальше. Поскольку они были гуманистами, людьми, кроме таланта наделенными еще и кристальной человеческой совестью, их словам внимали современники, так же как, спустя годы и столетия, внимаем и мы, живущие в совершенно другое время, в другом социальном, политическом, нравственном климате, в эпоху НТР.

Да, действительно, в эпоху НТР, с результатами которой мы сталкиваемся ежедневно, плоды которой тоже пожинаем ежедневно, уже не составляет труда представить себе, какие из этих плодов предстоит пожать в обозримом будущем, потому что при всем всеохватном разнообразии НТР одна обособленная ветвь ее развивается довольно определенно. От всего человечества требуются гигантские усилия регламентировать ее в этом развитии, если уж нельзя удержать или остановить, иначе эта лавина угрожает сделаться неуправляемой. В таком случае нетрудно себе представить финальный аккорд этого низвержения в пропасть, где в виде некоей неопределенной туманности на месте Планеты Людей могут упокоиться их иллюзии, их метания и терзания, все низменное и высокое, чем обладали они в преизбытке.

Так что же можем мы, литераторы, мастера слова, гуманисты, избравшие методом своего творчества самый

передовой и испытанный метод социалистического реализма?

Разумеется, можно много говорить на данную тему в прекрасном Баку, Минске, Москве или благословенной Софии, можно даже сказать, что все это стало делом привычным, как привычны наши выступления и резолюции, составленные из очень знакомых, давно обкатанных слов. Следует заметить — очень хороших и правильных слов, но, по-видимому, недостаточных перед той угрозой, с которой столкнулось человечество. Очевидно, нужны новые действенные меры, может быть, новые слова, а главное — новые идеи.

Но писатели редко создают оригинальные идеи, даже и классики не очень охотно искушались по этой части. А если и искушались проповедовать, как великий Лев Николаевич, то их не очень-то слушали при жизни, да и нынче тоже, расценивая эту проповедь как ошибку, каприз, завихрение старческого разума.

Так что же мы можем?

Мы можем то, что мы умеем: писать. Все мы живем в свое время, и худое ли оно, хорошее ли — для нас другого не будет. И мы должны выполнить наше, как бы сказали в старину, «божье предначертание» — оставить после себя свидетельство об этом времени. Может быть, кое-что из сотворенного нами пригодится, если не сейчас, то когда-либо в будущем. А если не пригодится, что ж, мы не посетуем, вспомнив, сколько из созданного до нас не пригодилось, забыто, а ведь и в прошлом в литературе были не одни бездари. Главное, я думаю, мы должны делать свое дело честно и как можно лучше. Без спешки. Без лести и лукавства. Без желания потрафить во что бы то ни стало. Мы должны помнить, чем заканчивались самые изощренные попытки на этот счет.

Но, скажете вы, зачем все это перед лицом того, что витает над миром? Не будет ли это простой тратой времени и усилий, когда... Может быть, будет. А может, и нет. Где тот мудрец, который с достаточной уверенностью ответит на это? Мы знаем, сколь туманно прошлое каждого народа, можно ли угадать наше будущее?.. С совершеннейшей определенностью ясно лишь то, что страна переживает сейчас, может быть, самый благополучный период своей истории — без голода, эпидемий, войн, с неотвратимой регулярностью каждые четверть века сотрясавших страны Европы; уровень культурного развития народных масс не имеет себе равного в прошлом...

Тем более, или несмотря на все, мы должны трудиться каждодневно и еженощно, летом и зимой — каждый год из отпущенных нам в жизни. И даже если бы шанс избежать катастрофы был бы равен одному из тысячи, наши усилия окупились бы сторицей. Мы свидетели времени и генераторы

духовности, которая единственно еще вселяет надежды. Наше же молчание или небрежение в нашем деле обернулось бы ничем другим, как лжесвидетельством, кощунственным вообще и преступно кощунственным перед лицом угрожающей всем опасности.

И тут мне хотелось бы сказать еще об одном. Конечно, у нашей литературы еще немало различных, порой действительно трудноразрешимых проблем, как, например, проблема художественного перевода, о которой было высказано немало точных и верных суждений в блестящем докладе Г. А. Алиева, в содокладе Ю. Суровцева и выступлении С. Баруздина. Есть и другие проблемы. Но не надо создавать *псевдопроблем,* чтобы затем призывать литературную общественность бороться с ними. Горький и Маяковский находятся на такой высоте всенародного и мирового признания, что, по моему убеждению, не нуждаются ни в какой защите, тем более за счет других выдающихся имен нашей литературы.

Вся страна ныне отмечает 100-летний юбилей серебряной звезды русской поэзии А. Блока, — как можно говорить, что ему воздается больше заслуженного? Что же касается Ахматовой, Цветаевой и Булгакова, то ничего нет страшного, если мы после их смерти воздаем им то, что они заслужили, — печатаем их.

Ну, а конференции, подобные нашей?

Как я уже сказал вначале, они несомненно благо. Они благо хотя бы потому, что предполагают в первую очередь ни с чем не сравнимое счастье общения единомышленников — писателей и наших читателей. Все-таки мы живем в одной — худой ли, хорошей ли — нашей родной деревеньке, название которой Земля. И пока она еще вертится, это же замечательно — на исходе дня собраться на одной из завалинок и порассуждать о жизни. Даже если эти рассуждения сугубо деловые и не очень веселые.

Ну, а если они вселяют надежду, то тем более это замечательно.

[1980]

## Маладая няўрымслівасць таленту

Яго драматургія населена цэлым натоўпам самабытных народных характараў, кожны з якіх — увасабленне аўтарскай думкі, мары, ідэі. Ад п’есы да п’есы ідзе развіццё ягонага таленту камедыёграфа, які заваяваў тэатры краіны і за мяжой; мільённыя натоўпы гледачоў сталі ягонымі паклоннікамі. Пачынаючы са

славутай камедыі «Выбачайце, калі ласка!», што ўбачыла святло рампы ў 1953 годзе, аж да нашых дзён з-пад яго пяра выходзяць усё новыя і новыя п'есы, і яго імя даўно ўжо стала поруч з імёнамі самых прызнаных драматургаў краіны.

Андрэй Макаёнак выдатна валодае сцэнічным сакрэтам гумару, які ў яго, аднак, не самамэта, а дасканалы сродак выяўлення ідэі, мастацкая зброя ў барацьбе з наяўнымі загaнамі жыцця. Смех у Макаёнка — заўжды адмаўленне ў імя сцвярджэння нават там, дзе дзейнічаюць, здавалася б, адны толькі адмоўныя персанажы. Як правіла, абвостраная канфліктнасць ягоных п'ес ёсць вынік максімалізму макаёнкаўскай жыццёвай пазіцыі, аўтарскае непрыманне і сцвярджэнне адначасна.

А. Макаёнак напісаў багата, тэматыка ягоных камедый надзвычай разнастайная. Пачаўшы з драматургічнага даследавання замежнага жыцця («На досвітку»), ён выдатна развіў гэтую тэму ў «Зацюканым апостале», які прынёс яму заслужаную славу майстра сатыры. Сапраўды, сіла выкрывальнага сарказму гэтай п'есы, багацце падтэксту, філасофская насычанасць рэплік робяць яе ўніверсальнай зброяй сучаснасці супраць свету, дзе фальш з такім намаганнем імкнецца замаскавацца пад праўду.

Поспех «Зацюканага апостала» несумненны і агульнапрызнаны, але ён не стаў вызначальным для далейшай творчасці драматурга, улюбёнай стыхіяй якога ўсё ж засталася вёска і адвечныя яе праблемы. Тут ён падняў самыя глыбінныя пласты народнага жыцця і стварыў вобразы-тыпы, якім жыць доўга. Далёка на тэатральных падмостках разышліся ягоныя Каліберaў і Мошкін, Лявон Чмых са сваёю Лявоніхай, Цярэшка Калабок, дзед Каравай, персанажы яго апошняй камедыі. І гэта зразумела. Валодаючы багатым жыццёвым вопытам, пільна прыкмячаючы змены грамадскай атмасферы краіны, выдатна адчуваючы душу селяніна наогул і селяніна-калгасніка ў прыватнасці, з густам наследуючы лепшыя мастацкія традыцыі класічнага тэатра, Андрэй Макаёнак таленавіта і дакладна стварае яркія народныя характары ў тыповых абставінах іх жыцця.

Талент драматурга безумоўны, ён ушанаваны ў многіх краінах свету, але, мусіць, яго было б недастаткова для ўсяго ім створанага. Гэты талент памножыўся яшчэ гарачым сэрцам грамадзяніна, ягонай няўрымслівасцю, тым несумненным фактам, што ягоны характар апаліла вайна. Так, вайна, якая сама па сабе ўвасабленне драматызму; што датычыць Андрэя Макаёнка, дык яна для яго стала драматычнай яшчэ і ў асабістым сэнсе. Перажыўшы на фронце шэраг цяжкіх баёў, палітрук Макаёнак быў цяжка паранены ў Крыме і цудам застаўся жыць, каб стварыць тое, што ён стварыў у мастацтве да сваіх шасцідзесяці гадоў.

Нягледзячы на немаладыя гады Андрэя Макаёнка, яго драматычны талент знаходзіцца ў самым росквіце, і народны пісьменнік Беларусі, прызнаны майстар-камедыёграф здольны яшчэ на многае. Дык пажадаем яму новых выдатных камедый і шматлікіх вобразаў-тыпаў, выхапленых з нашага неспакойнага, складанага, вірлівага жыцця.

[1980]

## Паэзія дабрыні і мужнасці

Мабыць, самы прыгожы з усіх беларускіх шляхоў — лясны шлях з Мінска на Полацк. Люба ездзіць па ім улетку, калі лясы набіраюць сваю лісцёвую моц і стаяць па абодва бакі, нібы трапічныя джунглі; люба ўвосень, у пару залатога лістапада азіраць яго страката-маляўнічую прыгажосць ці нават зімой, маразамі, калі бары абапал гасцінца апранаюць свой срабрысты ўбор і ўсё навакол замірае ва ўрачыстым маўчанні.

Пасля Плешчаніц стужка шашы ныpae ў самыя лясныя нетры, і стромкія сосны жоўтай медзяной сцяной сціскаюць асфальтку, якая то віляе з пагорка на пагорак, то пераскоквае рэчкі, то доўга ўецца між баравых цяснін. Але перад Бярэзінай бары расступаюцца, даючы месца паселішчу, якое нечакана вынікае за чарговым пагоркам россыпам сваіх несамавітых дамкоў, аўтобуснай станцыяй, некалькімі шэрымі сілікатнымі збудаваннямі. Гэта Бягомль. Тут прамінулі далёкія ўжо дзіцячыя гады выдатнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі.

Нездарма я пачаў з дарогі і лесу — трэба да іх прыглядацца пільней і бачыць больш, чым мы прывыклі бачыць звычайна. Гэта асабліва дарэчы, калі гаворка ідзе пра паэта і яго маленства — выток яго душэўнай і паэтычнай сутнасці. Уражлівая дзіцячая душа, сама не ведаючы таго, найперш бярэ ад прыроды, ад звыклага для сябе асяроддзя ўсё тое, што пасля пераплавіцца ў дыямент паэтычнасці і на шмат год, калі не на ўсё жыццё, вызначыць характар светаўспрымання паэта. Пімену Панчанку ў гэтым сэнсе пашэнціла: мусіць, не шмат знойдзецца ў Беларусі такіх першаісных лесавых мясцін, дзе чалавек і прырода на працягу стагоддзяў суіснавалі ў добрай згодзе, у гарманічным адзінстве, без фальшу і хцівасці, дабром і ласкай уплываючы адзін на аднаго.

Канешне, за гады жыцця Пімен Панчанка нагледзеўся рознага; у свой час адбылося і знаёмства з хцівасцю свету, яго сподам і злом; нямала лепшых гадоў адабрала вайна, калі

вырашалася элементарнае: жыць ці не жыць. Але першаіснае, аснова характару Панчанкі-паэта і Панчанкі-чалавека, мабыць, бярэ свой пачатак менавіта ад зямлі, на якой пралеглі яго першыя дзіцячыя крокі — ад ягонай Бягомельшчыны.

Панчанка, як паэтычны характар, надзвычай гарманічны і цэласны, ён не дужа імкнецца да навізны тэм, здаецца, не надта займаюць яго фармальныя паэтычныя пошукі, — здаўна і надоўга яго цікавяць «ісціны простыя, як хлеб, і праўдзівыя, як плач дзіцяці».

Мусіць, гэта і правільна, бо час, на які прыпадае паэтычная дзейнасць паэта, не дужа спрыяў пошукам паэтычнай вытанчанасці, затое густа агалашаўся дзіцячым плачам; і хлеб для мільёнаў быў даражэйшы за золата. Ён даваў жыццё, адстаяць якое было не дужа проста ў свеце, дзе грымелі баі і ліліся рэкі крыві. У той агняны час Панчанка выдаў тры паэтычныя зборнікі, у якіх мноства выдатных вобразаў, нібы на камені выбітых думак. Але мяне асабіста да ўтрапёнай нематы ўражвае ягоны невялічкі вершык «Герой» з яго шырокавядомымі, такімі бязлітаснымі ў сваёй крывавай праўдзівасці радкамі:

Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне».
І лёг на змяіныя скруткі дроту,
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

Думаецца, калі б ён пра фронт не напісаў болей нічога, дык адных гэтых радкоў хапіла, каб з такой яркай канкрэтнасцю выказаць усю пакутніцка-гераічную сутнасць мінулай вайны.

Калі прырода Бягомельшчыны заклала ў будучым паэце асновы дабра і гармоніі, дык цану справядлівасці ён зазнаў трохі пазней, у гады сваёй агнявой маладосці, на франтах вялікай вайны. Менавіта на вайне ва ўсім бляску раскрыліся перад ім непарушная сутнасць сяброўства, салдацкае вернасці, значэнне таварыскасці і ўзаемавыручкі.

Вайна была доўгая і жорсткая, яна патрабавала мільёнаў ахвяр і безлічы чалавечых намаганняў. «Мы перакапалі паўЕўропы, перш чым перамогу адкапаць», — скажа паэт трохі пазней. Але наша перамога накладвае і на пераможцаў свой немалы абавязак, — у мірны час і пасля вайны чалавек найперш павінен заставацца чалавекам.

А хто не паспрыяў людскому
шчасцю,

Каго і сёння гне халуйскі страх,
Дык той не франтавік, не нашай часці,
А недзе акалачваўся ў тылах, —

з усёю бескампраміснай катэгарычнасцю сцвярджае Пімен Панчанка.

Так, мірны пасляваенны час не дае супакоіцца, тым болей расслабіцца, барацьба за ўсё лепшае ў чалавеку, супраць пошасці прыстасавальніцтва вымушае паэта на радкі, прасякнутыя пафасам непрымірымасці:

А як ачысціць муць?
Скажы, якімі фільтрамі?
Жывуць і ў вус не дзьмуць
Прыстасаванцы хітрыя!

З іх кожны быццам б’е
Старое грозна розгамі,
А сам дабро грабе,
Схаваўшыся за лозунгі.

Болевы парог паэтычнай натуры Пімена Панчанкі надзвычай нізкі, а ягоная здольнасць да сuперажывання ўсяму сапраўды чалавечнаму зайздросна абвостраная нават як для паэта. У той не такі ўжо даўні час, калі ён болей пісаў і часцей друкаваўся, кожны ягоны верш або падборка вершаў адразу ж пасля выхаду ў свет рабіліся паэтычнай з’явай, студэнты іх вывучалі на памяць, іх чыталі з эстрады, перадрукоўвалі ў розных выданнях. Мусіць, гэта таму, што вершы Пімена Панчанкі, як правіла, былі выразнікамі дум і спадзяванняў эпохі, неслі ўвесь напал яе творчага пафасу, і не адно пакаленне чытачоў захаплялася імі. У гэтых вершах не толькі не было месца фальшу, прыблізнасці або ашуканству, але кожнае слова гучала, як звон, бо выказвала ўсеагульны боль ці ўсеагульны клопат.

Толькі б захаваць
Усё найлепшае,
Толькі б пахаваць
Усё найгоршае,
Бо без чалавечнасці
Не будзе і вечнасці.

Пімен Панчанка, як ніхто іншы з паэтаў, ведае і адчувае, што

трэба людзям у дадзены момант іх гістарычнага існавання і чаго ўжо не трэба, што падлягае пафаснаму праклёну навек. («Хлусяць не багі, а людзі, крывадушнічаюць не багі».) Публіцыстычная завостранасць цэлых цыклаў панчанкаўскіх вершаў рабіла іх баявой зброяй народа ў барацьбе з бюракратызмам, пустазвонствам і раўнадушшам, якія з такой цяжкасцю выкарчоўваюцца з нашага жыцця.

Асцерагайцеся падробкі
Ва ўсім, усюды, ўсё жыццё.
. .
Сябры мае,
Прашу цішэй паліць. Зямлі яшчэ
баліць,
І мне баліць.

Самаадданая ў пачуццях сяброўства натура Пімена Панчанкі ўмее надзвычай прыгожа радавацца чужым удачам, таксама як і глыбока засмучацца чалавечымі бедамі, няўдачамі мастакоў на іх творчым шляху. Агульнавядома, з якой шчырай зацікаўленасцю ён сочыць за поспехамі маладзейшых і як радуецца, калі іх новыя творы спраўджваюць яго надзеі. Так, ён вельмі высока цэніць творчасць Рыгора Барадуліна, у асобе якога беларуская паэзія знайшла свайго самага галасістага салоўку; яго радуе «шчыры, прынцыповы, па-грамадзянску мужны» талент Генадзя Бураўкіна, ён захапляецца таленавітай паэзіяй Міколы Аўрамчыка, Янкі Сіпакова, Веры Вярбы.

«Я глыбока перакананы, што паэзія без страснасці, без грамадзянскага гучання — непаўнацэнная паэзія», — сцвярджае прызнаны майстра паэтычнага слова.

Будучы шмат гадоў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», Пімен Панчанка выхаваў цэлую пляяду маладых тады беларускіх паэтаў; іншыя ж выхоўваліся ў літаратуры не без уплыву ягонай надзвычай чалавечнай паэзіі. Але ён уплываў не толькі на паэзію. У якасці галоўнага рэдактара ён меў даволі рэдкую па тым часе (а па цяперашнім і тым болей) завядзёнку першым чытаць аўтарскія рукапісы і тым вызначаць іхні лёс у часопісе. З яго рэдактарскага блаславення ў «Маладосці» з найменшымі стратамі былі надрукаваны шмат якія з аповесцей аўтара гэтых радкоў. У шматлікіх выпадках ён цалкам давяраў аўтару, калі бачыў у ім несумненны талент, і на розныя прэтэнзіі сваіх супрацоўнікаў звычайна казаў: «Нічога не чапайце, хай так ідзе!» Панчанка, калі было трэба, не скупіўся на пахвалу, хоць, валодаючы дасканалым літаратурным густам, мог быць

прыдзірлівым і патрабавальным, калі таго вымагаў твор. Але гэтая патрабавальнасць ішла ад неспатольнага клопату за росквіт роднай літаратуры, развіццё роднай мовы.

Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

Пімен Панчанка нямала стварыў у беларускай літаратуры за амаль паўстагоддзе сваёй творчай дзейнасці. Значэнне яго паэзіі цяжка пераацаніць. Яго паэтычныя вобразы даўно жывуць у свядомасці яго чытачоў, вывучаюцца дзецьмі ў школах. На лепшых здабытках ягонай лірыкі выхоўваліся дзясяткі маладзейшых, цяпер шырока вядомых паэтаў Беларусі, яна склала яркую і непаўторную старонку ў гісторыі нацыянальнай паэзіі.

[1980]

## Яркае і самабытнае дараванне

У гэтым двухтомніку сабрана толькі частка таго, што стварыў у беларускай літаратуры вядомы празаік, паэт і драматург Уладзімір Караткевіч.

Упершыню яго імя з'явілася ў друку ў 1955 годзе пад вершам «Машэка», змешчаным у часопісе «Полымя». Затым вершы Уладзіміра Караткевіча працяглы час друкаваліся ў розных выданнях, выйшлі ў трох паэтычных зборніках, якія былі аднагалосна ўхвалены крытыкай і з цікавасцю сустрэты чытачом. Сапраўды, у асобе маладога аўтара беларуская паэзія набыла тады яркае і самабытнае дараванне, поўнае паэтычнай узнёсласці, смелай метафарычнасці і глыбіні. У апавяданнях, якія У. Караткевіч пачаў пісаць адначасна з вершамі, таксама былі шматлікія адзнакі самабытнасці яго паэтычнага таленту, і многія з іх чыталіся як вершы ў прозе. Можна нават сказаць, што ранняя апавядальная проза У. Караткевіча нейкім чынам дала яе аўтару новыя творчыя магчымасці, ніколькі не звужаючы яго паэтычнай сутнасці. Усхваляванае светаўспрыняцце, замілаванне жыццём, яго разнастайнымі праявамі загучала ў іх на поўны, нічым не прыглушаны голас. Для крытыкаў і для прыхільнікаў таленту У. Караткевіча меліся ўсе падставы меркаваць, што іхні кумір надоўга застанецца ў межах ім абранага і такога прывабнага для многіх жанру. Як ні парадаксальна, але менавіта ў гэты час у таленце У. Караткевіча з'явілася і надоўга зацвердзілася яшчэ адна яго адметная схільнасць — паглыбленая цікавасць да гістарычнай

мінуўшчыны нашага народа.

Можа быць, гэта таксама можна зразумець і вытлумачыць, бо пры даволі развітай разнастайнасці фальклорнага і паэтычнага жанраў беларускай літаратуры доўгі час не ставала гістарычнай прозы, якая ў развітых і старых літаратурах з'яўлялася даўнім і раўнапраўным літаратурным жанрам. Драматычны, а часам і трагічны змест гістарычных падзей, якімі так багата мінулае нашага народа, амаль не пакінулі літаратурных сведчанняў і, вядома ж, ляжалі па-за асабістым вопытам пазнейшых пакаленняў літаратараў. Для мастацкага ўвасаблення мінулага літаратура мела патрэбу ў таленце асобага роду, такім, які б, валодаючы багатым запасам канкрэтных гістарычных ведаў, меў яркае паэтычнае ўяўленне, каб з даўняй сівой мінуўшчыны чэрпаць натхненне для літаратурнай творчасці. Дзеля справядлівасці, аднак, трэба сказаць, што гэтая мінуўшчына не заставалася нікім не кранутая: за апошнія дзесяцігоддзі беларускімі аўтарамі рабіліся некаторыя спробы пранікнуць у гісторыю краіны, але гэтае пранікненне не ішло далей сярэдзіны ці другой паловы XIX стагоддзя. Асаблівую цікавасць выклікала легендарная постаць Кастуся Каліноўскага, аб якім у розныя часы было напісана багата твораў у розных літаратурных жанрах.

Сталася так, што менавіта Кастусь Каліноўскі і трагічнае паўстанне 1863 года прыцягнулі пісьменніцкую ўвагу Караткевіча-празаіка, і ў беларускім друку з'явіўся першы, а затым другі том яго гістарычнага рамана «Каласы пад сярпом тваім». Аб гэтым рамане ў свой час выказваліся розныя меркаванні: поўныя захаплення ацэнкі чаргаваліся з сур'ёзнымі папрокамі аўтару, якія таксама можна зразумець па-рознаму. Але ўжо тады было несумненна, што пры ўсёй спрэчнасці некаторых аўтарскіх трактовак і палажэнняў, такой шырыні ахопу пэўнай гістарычнай эпохі і такога паэтычнага пранікнення ў яе яшчэ не было ў беларускай прозе. Твор гэты пакуль што не скончаны, але, трэба думаць, аўтар яшчэ парадуе сваіх прыхільнікаў з'яўленнем апошняга, завяршальнага тома, і тады з'явіцца магчымасць па ўсёй справядлівасці меркаваць аб яго вартасцях, а таксама недахопах, звычайна непазбежных для літаратурных здзяйсненняў такога маштабу.

У 1964 годзе ў часопісе «Маладосць» быў надрукаваны гістарычна-прыгодніцкі дэтэктыў «Дзікае паляванне караля Стаха» — адзін з самых папулярных твораў Уладзіміра Караткевіча. У адрозненне ад некаторых іншых, часта перанаселеных твораў тут небагата дзейных асоб, амаль усе падзеі адбываюцца ў маёнтку «Балотныя яліны» і вакол яго, у цэнтры чытацкай увагі — абаяльны вобраз маладой гаспадыні маёнтка і не меней сімпатычнага

госцяапавядальніка. Створаная паводле выпрабаваных канонаў прыгодніцкай рамантыкі, гэтая аповесць мае і нешта адметнае ў сваёй структуры, нейкую ўласцівую ёй таямніцу-загадку, якую нават цяжка растлумачыць з пазіцый фармальнай логікі, а можна хіба адчуць. І справа тут, канешне ж, не толькі ў напружанасці прыгодніцкага сюжэта, які, дарэчы, па-майстэрску распрацаваны ў аповесці, і не ў загадкавастрахавітых малюнках кавалькады «дзікага палявання», што гойсае на сваіх «дрыкгантах» па лясах, наводзячы жах па наваколле. На мой погляд, тут моцна ўражвае нешта іншае, што ідзе, мабыць, з далёкіх нетраў жыцця, а таксама ад лепшых традыцый літаратурнага рамантызму ў духу Майна Рыда, Вальтэра Скота, Генрыха Сянкевіча. Ва ўсякім разе на прыкладзе гэтай аповесці лішні раз пераконваешся ў тым, які добры вынік дае гарманічнае спалучэнне пэўнага характару літаратурнага таленту і падлеглай яму творчай задачы. У «Дзікім паляванні караля Стаха» ўсё сышлося ў сваёй залатой меры.

Між тым талент Караткевіча — гістарычнага празаіка — развіваўся і набываў новую сілу. На працягу двух дзесяцігоддзяў у друку рэгулярна з'яўляліся яго новыя празаічныя творы, навеяныя драматычнымі перыпетыямі нашай гісторыі. Сярод іх значнае месца займае прыгодніцка-рамантычная гісторыя Хрыста, які «прызямліўся ў Гародні», і жанр якой трохі не без іроніі пазначаны аўтарам як «Евангелле ад Іуды». Кніга гэтая адметная ад іншых твораў данага жанру шматлікімі дадатнымі якасцямі: грунтоўнасцю гістарычнага мыслення, багаццем і маляўнічай выразнасцю апісанняў, часам блізкіх да жывапісу Іераніма Босха, уменнем аўтара з ненатужнай дакладнасцю ствараць шматлікія вобразы людзей розных саслоўяў: прасталюдзінаў, духавенства, рамеснікаў, гандляроў, а таксама магнатаў і духавенства таго далёкага часу, ад якога не шмат захавалася нават скупых гістарычных даведак. Але, можа, найбольшая вартасць кнігі ў яе выразных гуманістычных і выкрывальніцкіх тэндэнцыях, асабліва ў адносінах да ўсяго, што датычыцца «власть придержащих», якія ў сваёй сквапнасці да ўлады не спыняюцца ні перад крывёю і зладзейскім падманам, ні перад фальшам высокіх слоў. Бог, вера, хрысціянская мараль — толькі шырма ў іх эгаістычным імкненні да ўлады над чэрню. Чытача вабіць доўгая чарада часам смешных, а болей жудасных прыгод у межах старой Гародні і яе ваколіцах жменькі міжвольных авантурыстаў на чале з мужыцкім Хрыстом-Братчыкам, у якога ўсё болей і болей выспявае сацыяльная самасвядомасць разам з гатоўнасцю пастаяць за праўду простых людзей. Чытача не могуць не ўразіць шмат якія з густам і амаль з брэйгелеўскім размахам створаныя малюнкі гарадскога і сельскага побыту, жахлівыя крапасныя баталіі на

«касталомных вежах». Але, можа, найбольшае ўражанне робіць фінальны раздзел кнігі, калі пасля многіх старонак барацьбы і кровапраліцця настае спакой, і Братчык з сябрамі, паслаўшы Іуду па гарэлку, бяруць сявенькі і пачынаюць засяваць асеннія гоні. «Іуда ўжо знік. Неапалімыя купіны дрэў стаялі на ўзгорках. Сумавала вакол капліцы шыпшына. А сейбіты падымаліся на вяршыню круглага пагорка, як на вяршыню зямнога шара. І першым ішоў насустрач нізкаму сонцу Хрыстос, мерна размахваючы рукамі. І, гатовае да новага жыцця, падала зерне ў цёплую мяккую зямлю. Выйшаў сейбіт сеяць на нівы свая», — узнёсла-патэтычна заканчвае аўтар, і гэта гучыць сапраўды як з самых глыбінь быцця.

Гістарычны і прыгодніцка-рамантычны жанр, мабыць, на шэраг год стаў улюбёным літаратурным жанрам Уладзіміра Караткевіча. Няспыннае вывучэнне мінулага па архіўных і літаратурных крыніцах, шматгадовае ўдумлівае асэнсаванне атмасферы, духу, псіхалогіі людзей даўніх часін выпрацавала ў аўтара пэўнае мастацкае, інтуітыўнае адчуванне матэрыялу, звычайна не даступнага іншым пісьменнікам. З-пад яго пяра выходзяць усё новыя творы, прысвечаныя гісторыі і нязменна азначаныя лепшымі рысамі яго непаўторнага таленту («Сівая легенда», «Цыганскі кароль», «Човен роспачы» і інш.). У 1979 годзе ў друку з’явіўся пачатак новага прыгодніцкага рамана У. Караткевіча «Чорны замак Альшанскі», працу над якім аўтар яшчэ не скончыў. Але ўжо створанае ім красамоўна сведчыць, што ў ягонай асобе мы маем справу з рэдкім літаратурным талентам, які ў спалучэнні з зайздроснай працавітасцю даў нашай літаратуры творы менавіта такога характару, якога ёй не хапала. Мабыць, літаратура, таксама як жыццё і прырода, не церпяць пустаты, і таму нельга не парадавацца, што гэты літаратурны вакуум запаўняецца належным чынам.

Аднак было б памылкаю думаць, быццам Уладзімір Караткевіч аўтар толькі прыгодніцка-гістарычнага жанру. Шматлікае з напісанага ім дае падставу сцвярджаць, што ў дадзеным выпадку перад намі разнастайны літаратурны талент, якому па плячы і сучасная тэма ў яе своеасаблівым, некалькі рамантычна-пачуццёвым успрыманні. У. Караткевіч нямала зрабіў таксама ў драматургіі і кіно. Яшчэ ў 1972 годзе ім створана папулярная кніга-эсэ, кароткі нарыс гісторыі Беларусі «Зямля пад белымі крыламі», дзе мінулае нашай рэспублікі асэнсавана ўдумлівым і дасведчаным аўтарам. Кніга гэтая, спярша прызначаная для маладога ўкраінскага чытача, хутка знайшла вялікую папулярнасць і на беларускай зямлі. Што ж датычыць ягоных апавяданняў, дык многія з іх гучаць як песні каханню,

жыццю, роднай прыродзе. Яны поўныя паэзіі, хараства, светлага смутку, павагі да чалавека, сардэчнага разумення ягоных перажыванняў і клопатаў. Даверлівая аўтарская інтанацыя, багацце моўна-выяўленчых сродкаў, дакладнасць музычнага тону ў рознай ступені, але нязменна вабяць у песеннай «Каляднай рапсодыі», загадкавай «Краіне цыганіі», драматычным «Воку тайфуна» ці самавітым, але такім пранікнёным апавяданні з сумным канцом, як «Былі ў мяне мядзведзі». У 1964 годзе была надрукавана яго «Чазенія», навеяная ўражаннямі ад некалькіх месяцаў жыцця на Далёкім Усходзе. Прырода гэтага краю, тамтэйшыя людзі і іх праца, убачаныя і адчутыя чалавекам Захаду, ператварыліся ў своеасаблівы гімн жыццю, адухоўлены паэзіяй адкрыцця і светлым сумам кахання.

Напэўна, будзе дарэчы ўспомніць тут пра цэлы шэраг яго драматычных твораў, пастаўленых у тэатрах рэспублікі. Так у Віцебску шмат гадоў ідуць яго гістарычныя драмы «Кастусь Каліноўскі» і «Званы Віцебска», беларускае тэлебачанне перадавала ў эфір яго «Млын на сініх вірах», а ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР ішла опера па ягоным лібрэта «Сівая легенда». Беларускае кіно ў розны час звярталася да яго гістарычных аповесцей і экранізавала «Хрыста», а таксама «Дзікае паляванне»; былі зняты фільмы па яго арыгінальных і дакументальных сцэнарыях.

Уладзімір Караткевіч нямала стварыў за чвэрць стагоддзя літаратурнай працы, за 50 год жыцця. Ёсць усе падставы меркаваць, што лепшыя з яго твораў надоўга застануцца ў скарбонцы роднай літаратуры, бо на ягоныя тэмы можна, напэўна, напісаць горш, а магчыма, і лепш, але напісаць так, як гэта зрабіў ён, не зможа ніхто. Мастакі з такім выразна адметным талентам, з такім своеасаблівым бачаннем свету нараджаюцца не часта.

[1980]

## Ад паэзіі да прозы

Перад тым як пісаць прозу, Вольга Іпатава даволі працяглы час друкавала вершы, і таму былі важкія падставы меркаваць, што яе аповесці і апавяданні ў пэўнай ступені будуць прозай паэта. На жаль ці на шчасце, гэтага не адбылося, меркаванне тое не спраўдзілася. Проза В. Іпатавай — тварэнне прыроджанага празаіка, хоць шлях да яе і ляжаў праз юнацкае захапленне паэзіяй.

Каб пераканацца ў тым, дастаткова прачытаць некалькі

лепшых апавяданняў з гэтага зборніка, даволі разнастайных тэматычна, але аб'яднаных, як правіла, значнасцю канфлікту і сапраўдным драматызмам жыццёвых абставін. Гэты драматызм у В. Іпатавай заўжды афарбоўвае яе прозу незалежна ад таго, ці гаворка ідзе пра жаночы лёс і каханне, пра дзяўчынусірату, ці пра лёс невылечна хворага хлопчыка, які прыкуты да пастылага бальнічнага ложка. Натуральна, што найбольш пераканаўчы характар маюць абставіны і сітуацыі, вынесеныя аўтарам з уласнага жыццёвага вопыту. Праца ў камсамоле, на тэлебачанні і ў рэдакцыі газеты, вучоба ў Маскве далі матэрыял для многіх апавяданняў пісьменніцы, і таму так натуральна гучыць унутраная споведзь гераіні апавядання «Дваццаць хвілін з Немезідай», бадай, самага лепшага ў зборніку. Напісанае сапраўды на адным дыханні з драматычнай завязкай, яно дазваляе зазірнуць у душу сучаснай маладой жанчыны, далучыцца да яе клопату і трывогі. Яно ж, хоць і не першы раз у мастацтве, але, па-майстэрску напісанае, з прыемнай навізной даводзіць самацэнную вартасць сапраўднага пачуцця, асабліва калі гэта пачуццё — чыстае, не замутнёнае прытворствам або разлікам каханне. Толькі страціўшы яго, гераіня разумее ягоную вялікую вартасць, як і тое, што страчанае не паўтараецца.

Тэматычная разнастайнасць жыццёвага матэрыялу, які стаў асновай для празаічных твораў В. Іпатавай, сведчыць пра няспыннасць яе творчага пошуку, што ўвогуле натуральна і правамерна для маладога празаіка. Зноў жа дарэчы зазначыць, што Іпатава амаль у роўнай меры валодае тэмамі горада і вёскі, умее ствараць характары людзей сталых і моладзі, засяроджваючы пісьменніцкую ўвагу на галоўным аб'екце мастацтва — чалавеку і яго псіхалогіі.

Так, менавіта пільная ўвага аўтара да ўнутранага жыцця чалавека, яго духоўнага зместу робяць такім сімпатычным хворага хлопчыка з бальніцы, якога не дужа любіць наведваць маці і які шчыра прывязваецца да гаваркога дзеда ў палаце, што выразае яму кіёчак. Гэты знак чалавечай цеплыні і ўвагі не толькі грэе змарнелую адзінотай і спакутаваную хваробай душу хлопчыка, але і вымагае яго на штосьці большае — на вяртанне ў жыццё, чаго не маглі зрабіць ні дактары, ні лякарствы.

Імкненне да паглыбленага псіхалагізму ў шмат якіх вобразах зборніка — адна з самых прывабных рысаў таленту аўтара, таксама як і яго даволі сталае ўмельства «маляваць словам», ствараць лапідарныя, але выразныя і змястоўныя малюнкі прыроды. Проза В. Іпатавай насычана колерам, рухам, пахамі. На старонках зборніка багата рассыпана яркіх запамінальных дэталей, народных выразаў, трапных слоў; усё гэта слоўнае і

выяўленчае багацце арганізуецца спаважнай, без афектацыі і пераціскаў апавядальнай аўтарскай інтанацыяй, за якой адчуваецца чалавек, умудроны жыццём і надзелены ад прыроды чуйнай і добрай душой.

Чытач не можа не паверыць таму, пра што ён чытае ў гэтым зборніку, і наўрад ці застанецца абыякавы да трывог і клопату многіх з ягоных герояў.

А гэта ці не самае галоўнае для кожнага сумленнага аўтара.

[1980]

## [Предисловие к книге «Юные герои Витебщины»]

Великая Отечественная война советского народа против немецких захватчиков породила такой массовый героизм, которого не знала история. Ожесточенная борьба с фашизмом шла на огромном фронте от Баренцева до Черного моря, шла в немецком тылу, в каждом городе и в каждой деревне, где хозяйничали оккупанты. И в эту всенародную борьбу, полную огромного напряжения, больших жертв и лишений, внесли свой неоценимый вклад юные герои — мальчишки и девчонки, воспитанные в пионерских и комсомольских организациях настоящими патриотами нашей Родины.

Они были разные, эти герои: городские и деревенские, совсем еще ребятишки и чуть постарше. Свое место во всенародной борьбе каждый из них находил сообразно случаю и собственному темпераменту, но всех их объединяла огромная любовь к Родине и жгучая ненависть к ее угнетателям.

Некоторые из них совершили свои не меркнущие в веках подвиги с оружием в руках, будучи партизанами или юными разведчиками, другие — в качестве связных и подпольщиков. Одни, пройдя все испытания, дожили до светлого Дня Победы, но многие погибли, сраженные немецкой пулей в лесах и на дорогах великой войны, зверски растерзанные в застенках гестапо, умерщвленные в газовых камерах концлагерей.

Но подвиги не умирают. Народная память свято хранит каждое доброе дело, имя каждого человека, совершившего подвиг на благо человечества, для Победы. И хотя со времени Великой Отечественной войны минуло уже много лет, ежегодно находятся все новые свидетельства героизма юных, и все новые имена заносятся в книгу-летопись великой борьбы. И это понятно. Вот почему, как сказал кандидат в члены Политбюро ЦК КПСС, первый секретарь ЦК Компартии Белоруссии Петр Миронович Машеров,

«будет справедливым, если мы средствами монументального искусства, в бронзе и граните выразим всенародную дань уважения светлой памяти детям — героям и жертвам борьбы с фашизмом, создадим монумент в честь тех, чье детство опалено войной».

В этой книге собраны скупые рассказы о подвигах самых юных, жизнь или яркие дела которых связаны с Витебщиной. Тут документальная информация о том, что не может и не должно быть забыто, что всегда будет служить примером для новых поколений мальчишек и девчонок, что достойно подражания в веках.

[1980]

## Каментары

У першай кнізе дзясятага тома Поўнага збору твораў Васіля Быкава прадстаўлены аўтабіяграфічныя дыялогі з Алесем Адамовічам «Маладыя гады» (1985, 2001) і выбраная публіцыстычная і літаратурна-крытычная спадчына пісьменніка 1957–1980 гг.

Першыя публіцыстычныя працы Васіля Быкава датуюцца 1948 г. У гэты час будучы пісьменнік (пасля дэмабілізацыі ў 1947 г. з шэрагаў Савецкай Арміі і ўладкавання на працу ў абласную газету «Гродненская правда» ў якасці карэктара, а на наступны год стыльрэдактарам) піша выключна журналісцкія карэспандэнцыі. В. Быкаў прыгадваў: «Між тым самому захацелася пісаць у газэту. Схадзіў на Гарадзенскі шклозавод, напісаў невялікі нарыс „Шклавары“. Надрукавалі, акуратна выразаў і паклаў у свае паперы. Зь нецярпеньнем чакаў лятучку, калі раз на тыдзень рабілі разбор надрукаванага. Асабліва ніхто не пахваліў, але і не палаялі, і то добра».

Аднак усё-такі не «Шклавары» былі першым артыкулам — упершыню Быкаў як журналіст выступіў на старонках «Гродненской правды» 11 ліпеня 1948 г. — менавіта тады ў рубрыцы «На городские темы» была надрукавана наступная яго нататка:

### Когда построят водную станцию?

Общеизвестно, какое огромное значение имеет летом водный

спорт. Тысячи горожан проводят свободное от работы время на реке. Особенно велика тяга к водному спорту среди молодежи. Однако по вине руководителей физкультуры и спорта города трудящиеся Гродно фактически лишены возможности организованно заниматься водным спортом.

Когда-то в городе была водная станция, но от нее ничего не осталось после хозяйничания немецко-фашистских захватчиков. В этом году на строительство станции была отпущена солидная сумма в 35 тысяч рублей. Следовало ожидать, что сразу же развернутся работы, и жители города получат к лету водную станцию. Но не тут-то было. Перед председателем городского комитета физкультуры и спорта тов. Кукушкиным встал вопрос: где строить станцию — на Немане, в Озерах или же на территории кирпичного завода № 20? Такое раздумье длилось всю весну и половину лета. В конце концов тов. Кукушкин решил, что водная станция должна была быть на прежнем месте. Но к строительству станции не приступили и до сих пор.

Уже середина лета, купальный сезон давно в разгаре. Председатели добровольных спортивных обществ жалуются, что отсутствие вышки для прыжков в воду и оборудованного места для плавания задерживает сдачу норм на значки ГТО и БГТО.

— У меня в столе скопилось большое количество значков, которые я не могу вручить лишь потому, что невозможно принять нормы по плаванию и прыжкам, — заявляет председатель областного совета общества «Динамо» тов. Шахаров. На это же жалуются сотни юношей и девушек Гродно: сдав все нормы, они не имеют возможности ни сдать, ни готовиться к сдаче норм по плаванию и прыжкам с вышки. Задерживается развитие и гребного спорта.

— В этом году построим станцию: вот составят смету, утвердят на заседании горсовета — начнем строить, — спокойно заявляет тов. Кукушкин. А пока территория водной станции зарастает травой.

Пора бы знать тов. Кукушкину, что организация водной станции осенью никого не может порадовать.

У ліпені ў «Гродненской правде» з’явіліся ўжо інфармацыйная паведамленні за подпісам В. Быкава:

**Мастера народного творчества готовятся к 30-летию БССР**

К встрече славного юбилея — 30-летию Советской Белоруссии — деятельно готовится областной Дом народного творчества. В районах области проведена работа по выявлению мастеров

«марксізм».

Стар. 104. *У шасцідзесятым было лягчэй, яшчэ ліпела адліга, друкавалі Салжаніцына.* — Салжаніцын Аляксандр (1918–2008) — расійскі празаік, драматург, паэт; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1970). У 1974 г. быў дэпартаваны з СССР. У 1976–1994 гг. жыў у ЗША. У маі 1994 г. вярнуўся ў Расію. «Один день Ивана Денисовича» — пад такой назвай у 1962 г. была надрукавана А. Твардоўскім у часоп. «Новый мир» (№ 11) аповесць Салжаніцына «Щ-854 (Один день одного зэка)», санкцыю на публікацыю даў асабіста М. Хрушчоў. У 1963 г. у «Новом мире» (№ 1) былі надрукаваныя апавяданні Салжаніцына «Матрёнин двор» (аўтарская назва — «Не стоит село без праведника») і «Случай на станции Кочеткова» (аўтарская назва — «Случай на станции Кречетовка»), у № 7 — апавяданне «Для пользы дела». Аднак з прыходам да ўлады Л. Брэжнева (у 1964 г.) Салжаніцын згубіў усялякую магчымасць легальна друкавацца ў СССР.

Стар. 105. *Хоць і яго аўтарытэту было замала, каб абараніцца і абараніць нас ад сеўрукаў, што і згубіла яго.* — Сеўрук Уладзімір (1932–2005) — адказны супрацоўнік ЦК КПСС (намеснік загадчыка, затым загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС); у далейшым — намеснік галоўнага рэдактара газ. «Известия», галоўны рэдактар газ. «Неделя»; у 1998–2003 гг. супрацоўнік апарата Савета міністраў Рэспублікі Беларусь. Кар’ерны рост У. Сеўрука, у той час аспіранта Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС, пачаўся пасля публікацыі ў 1966 г. у газ. «Правда» яго артыкула «Правда о великой войне», у якой аповесць «Мёртвым не баліць» была названа «неудачей автора». «Об этом нужно сказать прямо и бескомпромиссно, — заключаў Сеўрук. — Эта неудача — следствие серьезных идейно-эстетических просчетов писателя». З таго часу творчасць і лёс В. Быкава знаходзіліся пад яго пастаянным наглядам.

Стар. 105. *(Карпюка дык адразу выключылі і знялі з работы ды яшчэ збіраліся аддаць пад суд.)* — У 1970 г. А. Карпюк быў пазбаўлены пасады старшыні Гродзенскага абласнога аддзялення СП БССР, праз два гады выключаны з КПСС. Апроч таго, на яго паспрабавалі завесці крымінальную справу, згодна з якой ён у гады вайны нібыта быў завербаваны ў канцлагеры. Прычыну праследу Карпюк назваў у сваіх успамінах: «Спачатку паклікаў мяне сакратар абкама партыі па прапагандзе Аляксандр Восіпавіч Ульяновіч ды паставіў пытанне рубам: я, камуніст, думаю крытыкаваць „распоясавшегося“ Быкава за ачарненне савецкай рэчаіснасці ці не думаю? Абавязак гэта сакратара аддзялення СП БССР — у першую чаргу, ці ён за так грошы дзяржаўныя

атрымлівае?

Пачаў я даводзіць, што Васіль ачарняць нікога і не думае. Ён сваіх герояў выводзіць аголенымі жыламі і не патрабуе аніякіх падказчыкаў. Што ў быкаўскіх аповесцях не антысаветызм, а суровая праўда жыцця ў спалучэнні з любоўю да чалавека ды болем за Радзіму. Што Быкаў сам, хоць і беспартыйны, піша з чысцейшых партыйных пазіцый. Што за ім будучыня, таму аўтара такога не крытыкаваць трэба, а вылучаць на Дзяржаўную прэмію ды яшчэ яму лепшую кватэру даць!

Сакратар абкама доўга да мяне прыглядаўся і аб нечым так глыбакадумна сам з сабой разважаў, бытта ўвесь да краёў быў нашпігаваны не абы-якімі весткамі. Нарэшце сказаў:

— Яшчэ і прэмію яму, ха! А за што, бо піша? Пішам мы ўсе — у тым ліку і я! А наконт партыйнасці мы разбіраемся, напэўна, лепш! І з кватэрай у яго — нічога страшнага! У камуналцы жыве? Ну і што — многія жывуць так!..

Яшчэ хвіліну падумаў:

— Значыць, удзельнічаць у перавыхаванні Быкава адмаўляецеся. Што ж, цяпер наракайце на сябе. І з вамі зробім тое самае, што з Клейнам. Аддзелім вас ад яго! Адлучым ад яго вас абоіх, пазбавім вашага ўплыву — адумаецца і ён!

І праўда, неўзабаве навіна — КДБ вядзе допыт знаёмых, капаецца ў маёй біяграфіі.

Зноў пачалі прыдзірацца да жонкі на рабоце, а дачку скланяць на нарадах за ўдзел у ідэйна шкодным клубе, хоць яна дарогу ведала толькі са школы — дамоў.

Папярэдзілі Максіма Танка, каб запатрабаваў ад мяне заяву аб звальненні з пасады сакратара аддзялення СП у Гродне.

Апрача „Нового мира“, усе рэдакцыі вярнулі мне рукапісы».

## 1957

### «Юнацтва ў дарозе» *(стар. 106)*

Друкуецца паводле газ. «Гродзенская праўда», 1957, 26 студз., дзе ўпершыню апублікавана ў рубрыцы «Крытыка і бібліяграфія». Адначасова друкавалася ў пер. на рус. мову — Гродненская правда, 1957, 26 студз. пад назвай «Юнацтва ў дарозе».

Датуецца часам першай публікацыі.

Рэцэнзія на аповесць «Юнацтва ў дарозе» (Полымя, 1956, № 11) Рамана Сабаленкі (1907–1975), беларускага пісьменніка.

Стар. 109. *…наблізійся да мовы К. Чорнага.* — Чорны Кузьма (сапр. Раманоўскі Мікалай; 1900–1944) — беларускі пісьменнік, драматург, публіцыст; класік беларускай літаратуры.

## 1958

### **Кніга аб бессмяротным подзвігу** *(стар. 110)*

Друкуецца паводле газ. «Гродзенская праўда», 1958, 29 крас., дзе ўпершыню апублікавана ў рубрыцы «Бібліяграфія».

Датуецца часам першай публікацыі.

Рэцэнзія на кнігу «В поисках героев Брестской крепости» (М., 1957) Сяргея Сяргеевіча Смірнова (1915–1976), расійскага пісьменніка.

### **Аўтабіяграфія** *(стар. 112)*

Друкуецца паводле арыгінала рукапісу (2 арк.) за подпісам В. Быкава, які захоўваецца ў асабістай справе В. Быкава ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў (далей — СБП). Упершыню — Шапран С. Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах. Мінск — Гародня, 2009.

Датуецца паводле пазнакі напрыканцы рукапісу — *7 ліпеня 1958 г.*

Аўтабіяграфія напісана для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў БССР (быў прыняты 22 студзеня 1959 г.).

Стар. 112. *в. Чарапоўшчына Ушацкага раёна Віцебскай вобласці* — Сапраўднае месца нараджэння Быкава — в. Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Пры запаўненні першых анкет для асабістай справы ў Саюзе пісьменнікаў і напісанні некаторых аўтабіяграфіяй Быкаў часам называў месцам свайго нараджэння суседнюю в. Чарапоўшчына, відаць, з той прычыны, што Бычкі ў той час уваходзілі ў Чарапавецкі сельсавет. Сам пісьменнік, адказваючы на пытанне З. Гімпелевіч: «Василь Владимирович, я немного запуталась с местом вашего рождения. Одни источники указывают на деревню Бычки, а другие, как, например, энциклопедия В. Казака, определяют его как Череповщина», — тлумачыў: «На самом деле никакой путаницы. Я родился в Бычках, это на Витебщине, а Череповщина — ближайшая деревня, где находился ЗАГС. Вот родители и привезли меня туда, чтобы зарегистрировать, — так было положено».

### **Новые высоты мастерства** *(стар. 113)*

Друкуецца паводле газ. «Гродненская правда», 1958, 14 кастр., дзе ўпершыню апублікавана ў рубрыцы «Критика и библиография».

Датуецца часам першай публікацыі.

Рэцэнзія на кнігу «Надпись на срубе» (Мінск, 1958) Янкі Брыля (Івана; 1917–2006), беларускага пісьменніка, літаратуразнаўцы; народнага пісьменніка БССР (1981).

Стар. 113. *...поэтический рассказ «Двадцать», напечатанный недавно в «Правде»...* — Брыль Я. Двадцать / пер. А. Островского // Правда, 1958, 22 июня.

### **Рэцэнзія ў газеце** *(стар. 115)*

Друкуецца паводле арыгінала машынапісу, які захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (далей — БДАМЛМ): ф. 12, воп. 1, адз. зах. 289, арк. 1–6. Машынапіс са значнымі рэдакцыйнымі праўкамі. Упершыню са скарачэннямі — газ. «Літ. і мастацтва», 1958, 7 мая пад назвай «Літаратурная рэцэнзія ў абласной газеце».

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 117. *...што ўласціва Івану Грамовічу.* — Грамовіч Іван (1918–1986) — беларускі пісьменнік, сцэнарыст, перакладчык.

Стар. 118. *...аб зборніку вершаў маладога паэта Б. Спрынчана «Над кручамі Сожа»...* — Спрынчан Браніслаў (1928–2008) — беларускі паэт, перакладчык.

### **1961**
### **Недачытаная кніга** *(стар. 120)*

Друкуецца паводле зб.: Максім Горкі і Беларусь: зб. артыкулаў і ўспамінаў. Мінск, 1968. Упершыню — часоп. «Полымя», 1961, № 6.

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул у часоп. «Полымя» пачынаецца наступным чынам: «Было гэта сямнаццаць гадоў назад».

Стар. 122. *Дед засек меня до потери сознання, и несколько дней я хворал, валяясь вверх спиною на широкой жаркой постели...* — Фрагмент першай часткі трылогіі «Детство» М. Горкага.

Стар. 124. *...на поўдзень ад Пашкань...* — Пашкані — горад у Румыніі.

Стар. 126. *Яска-Кішынёўская бітва* — У іншых выпадках найчасцей называецца як Яса-Кішынёўская, але ў гэтым выданні паўсюль выпраўлена (Ясы — горад у Румыніі). Яска-Кішынёўская

аперацыя, ці Яска-Кішынёўскія Каны (20–29 жніўня 1944 г.) — стратэгічная аперацыя Узброеных сіл СССР супраць нацысцкай Германіі і Румыніі падчас Другой сусветнай вайны.

### **На ўсю сілу таленту** *(стар. 127)*

Друкуецца паводле газ. «Гродзенская праўда», 1961, 10 кастр., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 128. *...амаль левітанаўскім смуткам...* — Левітан Ісак (1860–1900) — расійскі мастак.

Стар. 128. *В. Савіцкі* — Савіцкі Валянцін (1919–2006) — гарадзенскі мастак.

Стар. 130. *А. Кох* — Кох Аляксандр (1909–1972) — беларускі мастак.

Стар. 130. *Д. Парахня* — Парахня Данііл (1918–1980) — беларускі мастак.

Стар. 130. *М. Плужнік* — Плужнік Міхаіл (1914–1976) — беларускі мастак.

Стар. 130. *К. Пятроў* — Пятроў Канстанцін (нар. у 1926) — беларускі мастак.

## **1962**

### **[Ответы на анкету журнала «Вопросы литературы»]** *(стар. 132)*

Друкуецца паводле часоп. «Вопросы литературы», 1962, № 9, дзе ўпершыню апублікавана разам з адказамі іншых пісьменнікаў пад агульнай назвай «Молодые — о себе».

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 132. *И тут мне хочется назвать «Разгром» А. Фадеева, «Тихий Дон» М. Шолохова, «В окопах Сталинграда» В. Некрасова, а также произведения авторов моего поколения — Г. Бакланова, Ю. Бондарева, Э. Казакевича...* — Фадзееў Аляксандр (1901–1956) — расійскі пісьменнік; Генеральны сакратар і старшыня праўлення СП СССР (1946–1954), сакратар праўлення СП СССР (1954–1956). Шолахаў Міхаіл (1905–1984) — расійскі пісьменнік; лаўрэат Сталінскай прэміі (1941), Ленінскай прэміі (1960), Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1965). Някрасаў Віктар (1911–1987) — расійскі пісьменнік украінскага паходжання (нарадзіўся ў Кіеве); лаўрэат Сталінскай прэміі (1947). Бакланаў Грыгорый (сапр. Фрыдман; 1923–2009), Бондараў Юрый (нар. у 1924) — расійскія пісьменнікі. Казакевіч Эмануіл (1913–1962) —

расійскі і яўрэйскі пісьменнік, перакладчык; лаўрэат дзвюх Сталінскіх прэмій (1948, 1950).

**Жывыя — памяці мёртвых** *(стар. 133)*

Друкуецца паводле кн.: Быкаў В. Праўдай адзінай: літ. крытыка, публіцыстыка, інтэрв'ю. Мінск, 1984. Упершыню — часоп. «Дружба народов», 1962, № 12 пад назвай «Живые — памяти павших». Друкавалась таксама ў зб.: Живая память поколений. М., 1965.

Датуецца часам першай публікацыі.

У той частцы асабістага архіва В. Быкава, якая захоўваецца ў яго малодшага сына Васіля Васілевіча Быкава [далей — Архіў В. Быкава (Гродна)] зберагаецца арыгінал машынапісу (18 арк.) артыкула «Живые — памяти павших» (назва адсутнічае), які ў асноўным супадае з публікацыяй у часоп. «Дружба народов», але месцамі значна адрозніваецца ад публікацыі ў кн. «Праўдай адзінай». Ніжэй прыводзяцца найбольш істотныя разыходжанні паміж машынапісам і абедзвюма публікацыямі. Але варта адзначыць, што ў архіве пісьменніка, які захоўваецца ў яго жонкі Ірыны Міхайлаўны Быкавай [далей — Архіў В. Быкава (Мінск)], зберагаецца тая самая публікацыя артыкула «Живые — памяти павших» у часоп. «Дружба народов», у якой Васілём Уладзіміравічам зроблены значныя скарачэнні, мусіць, з мэтай падрыхтоўкі артыкула да новай публікацыі — не выключана, што для кн. «Праўдай адзінай», прычым шэраг купюр зроблены, відаць, з прычыны цэнзурных патрабаванняў (у прыватнасці, паўсюль выкраслены неаднойчы прыгаданы культ асобы Сталіна і імя В. Някрасава). Разам з тым параўначы аналіз машынапісу з часоп. публікацыяй дае падставы меркаваць, што некаторыя палажэнні артыкула маглі быць дапісаны не Быкавым, а рэдактурай «Дружбы народов».

Стар. 133. *...зразумела, і ад таленту таксама...* — У машынапісе: «разумеется, и от способности автора».

Стар. 133. *...да мужных разведчыкаў Э. Казакевіча.* — У машынапісе: «к многотерпеливым героям В. Некрасова и мужественным разведчикам Эм. Казакевича».

Стар. 134. *Мастацкі ўзровень шмат якіх твораў таксама прымушаў жадаць лепшага.* — У машынапісе далей ідзе:

«По этой и другим причинам многим из авторов не удалось правдиво изобразить все довольно сложные в своей взаимообусловленности перипетии народной борьбы с врагом. Часто

отсутствие достаточного личного опыта приводило даже серьезных и талантливых авторов к предвзятости идей и схематичности образов. Картины борьбы выходили бледными, лишенными убедительной достоверности. О героизме представителей разных родов войск писалось примерно так.

О героизме пограничников:

„Несмотря на значительные потери, гитлеровцы прямо под огнем пограничников принялись наводить переправу. Их было, казалось, несметное множество, в несколько раз больше, чем защитников границы, но численность эта не могла поколебать решительности и мужества советских воинов. Те, кто мог держать винтовку в руках, продолжал вести уничтожающий прицельный огонь. Скоро стало известно, что начальник заставы лейтенант Столетов пал от вражеской пули. Команду принял политрук Гайворонский, но некоторое время спустя погиб и он. Теперь командовал заставой старшина Ковальчук.

Ни шагу назад! Умрем, но не отступим! — твердым голосом крикнул он“.

О героизме артиллеристов:

„...прямо на пушку мчался вражеский танк, намереваясь раздавить ее своими гусеницами. И тогда к Коледе опять вернулись силы. Подтянувшись к пушке, он как можно спокойнее, точнее навел ее на танк. Грянул выстрел, танк сразу остановился, будто с ходу наткнулся на непреодолимое препятствие, и изо всех щелей его повалил густой дым“.

О героизме летчиков:

„...Вдруг зенитный снаряд противника угодил в его самолет. Машина загорелась. Гриневич попытался сбить огонь, но сделать это не удалось. Бомбардировщик шел на небольшой высоте, и командир понял, что ему не удастся дотянуть до своего аэродрома. Оставалось воспользоваться парашютом, но никто из экипажа и не подумал об этом. И капитан понял: вот он, последний миг... Сделав разворот, горящий бомбардировщик пошел прямо на колонну противника. Гриневич спокойно и хладнокровно, как это умеют делать только советские воины, направил машину в самую гущу вражеской техники“.

О героизме политработников:

„Комиссар прибыл на левый фланг в самый критический момент. Появление его вдохновило партизан, придало им сил и стойкости. Как раз в эту минуту гитлеровцы бросились в атаку. И

тотчас навстречу им во весь рост поднялись партизанские цепи. Над полем боя прокатилось могучее „ур-ра!““.

Наконец о героизме партизан:

„Даша [идя по лесу. — *В. Б.* ] уже готова была окликнуть, как вдруг увидела четырех грязных, оборванных фашистов, крадучись пробирающихся к небольшой поляне. Поняв, что гитлеровцы собираются напасть на женщин в надежде поживиться какою-нибудь едой, Даша вскинула автомат и громко крикнула:

— Хенде хох!

Этот неожиданный окрик как бы прижал фашистов к земле. Трое из них послушно вскинули руки, но четвертый, долговязый и тощий рыжеволосый верзила, шагнул было к Даше, недобро блеснув узенькими глазами и злобно скаля пожелтевшие редкие зубы. В ту же минуту грянула короткая очередь из автомата, и над головой гитлеровца просвистели пули, срубая ветки с деревьев. Поняв, что с ним не собираются шутить, долговязый поднял руки“.

Откуда это? Из информации фронтовой печати? Из донесений бездумных репортеров? Вовсе нет. Это из книги И. Гурского „В огне“ — толстого романа, изданного и переизданного, переведенного на русский и другие языки и аннотированного Белгосиздатом как „художественная летопись героической борьбы белорусского народа против немецко-фашистских захватчиков, сказание о партизанах“.

А ведь подобные строки — не редкость в нашей литературе. Разве мало написано о войне языком благополучно-героических штампов!»

Гурскі Ілья (1899–1972) — беларускі пісьменнік, драматург; рэдактар часоп. «Беларусь» (1944–1960).

Стар. 134. *Многія з такіх твораў былі створаны па метаду…* — У машынапісе гэтаму сказу папярэднічае наступны: «Как мало тут художественного и настоящего о той великой борьбе народа, которую он вел четыре года, — как мало правды!»

Стар. 134. *…і разумення гісторыі і прыроды вайны…* — У машынапісе: «и понимания психологии людей и природы войны».

Стар. 134. *«Выхаванне подзвігам» нярэдка ператваралася…* — У машынапісе гэтаму сказу папярэднічае наступны: «Разумеется, писалось так из наилучших побуждений воспитывать героические черты в нашем народе, в молодежи, не пережившей войны, раскрывать истоки мужества бойцов, показывать их волю к победе».

Стар. 134. *…у замалёўкі бесшабашнай ліхасці, лёгкай*

*перамогі над ворагам.* — У машынапісе: «в зарисовки бесшабашной, наигранной лихости, легко дающихся „одолений“ несметных орд врага».

Стар. 134. *Скажалася само ўяўленне аб подзвігу як моманце надзвычайнай душэўнай мэтанакіраванасці, мабілізаванасці лепшых чалавечых сіл.* — У машынапісе далей ідзе: «И подчас этакий картонный молодец заслонял подлинного героя войны».

Стар. 135. *Нямала кніг пра вайну ствараласяпісьменнікамі або журналістамі, якія не мелі, у сілу іх абмежаванага ўдзелу ў баявых дзеяннях, ведаў і ўражанняў, неабходных для напісання добрага твора.* — У машынапісе гэтаму сказу папярэднічаюць два наступныя:

«В первые послевоенные годы книг о войне, написанных непосредственными ее участниками, было у нас не так уж и много, хотя среди них были, как посмотришь, и замечательные книги. Вспоминаются „В окопах Сталинграда“ В. Некрасова, „Волоколамское шоссе“ А. Бека, повести Эм. Казакевича, Г. Березко, О. Гончара». У часоп. публікацыі: «...лучшие наши книги. Вспоминается очень правдивая книга „В окопах Сталинграда“ В. Некрасова, первая книга „Белой березы“ М. Бубеннова, повести Эм. Казакевича, О. Гончара». Бек Аляксандр (1902–1972), Бярозка Георгій (1905–1982), Бубеннаў Міхаіл (1909–1983) — расійскія пісьменнікі. Ганчар Алесь (Аляксандр; 1918–1995) — украінскі пісьменнік.

Стар. 135. *Версіфікатарства і літаратурныя рэмінісцэнцыі ўжо не маглі іх спакусіць.* — У машынапісе гэтаму сказу папярэднічаюць два наступныя: «Но вот прошло время, вернулись с войны и получили образование ее рядовые участники. Это были люди, многое повидавшие и многое пережившие».

Стар. 135. *(Гэтыя людзі не маглі напісаць: «над галавой світсталі кулі», бо франтавік ведае, што палёт кулі з сучаснай зброі зусім не падобны на світ.)* — У машынапісе адсутнічае. Замест яго: «Личный военный опыт их был в определенном смысле уникален, появилась настоятельная потребность высказаться, а главное — была окрепшая на фронтах неприязнь ко всякой фальши, равно как и долгие годы не удовлетворявшаяся потребность в правде. XX съезд открыл дорогу к утолению этой потребности».

Стар. 135. *Я маю на ўвазе аповесці Ю. Бондарава, Р. Бакланава, невялічкую кніжачку М. Пархомава і некаторыя іншыя.* — У машынапісе: «Я имею в виду повести Г. Бакланова, Ю. Бондарева, рассказы В. Некрасова, небольшую книжечку М. Пархомова, романы С. и А. Злобиных, В. Астафьева и некоторые другие». У часоп. публікацыі імёны С. і А. Злобіных, В. Астаф’ева

адсутнічаюць. Пархомаў Міхаіл (сапр. Клігерман; 1914–1993) — украінскі празаік, сцэнарыст. Злобін Сцяпан (1903–1965), Злобін Анатолій (1923–1996), Астаф'еў Віктар (1924–2001) — расійскія пісьменнікі.

Стар. 135. *Я не хачу тут сказаць, што цяпер трэба пісаць пра вайну толькі так, як піша Ю. Бондараў, або так, як піша Р. Бакланаў, і ніяк інакш! Але творчая манера, ды і сам матэрыял, напрыклад, Р. Бакланава, мне зразумелыя і блізкія...* — У машынапісе: «Несомненно, что правда о войне, о советском характере, о подвиге советского народа в годы Отечественной войны по сути дела неисчерпаема; но творческая манера, да и сам материал, например, Г. Бакланова, мне близки своей углубленной правдивостью».

Стар. 136. *...ён не замкнуўся ў сваю шкарлупіну...* — У машынапісе: «он не замкнулся в свою индивидуалистическую скорлупу».

Стар. 137. *Аўтар узяў больш, чым ён здолеў творча асвоіць.* — У часоп. публікацыі далей ідзе: «(В некоторой степени это же относится и к роману К. Симонова „Живые и мертвые".)

Самое важное — показать героический дух народа, ведомого бессмертной правдой ленинизма, исторический смысл его борьбы, его пребывания на фронте. Советский воин — фигура качественно новая в батальной живописи, новая своим гуманизмом, смыслом своего ратного подвига. Проявить эти качества он может и в гигантском сражении, и в малых боях. Этот качественно новый духовный мир нашего воина не должен пропадать, стушевываться в литературе о войне». Сіманаў Канстанцін (1915–1979) — расійскі пісьменнік; сакратар праўлення СП СССР (1954–1959, 1967–1979); лаўрэат шасці Сталінскіх прэмій (1942, 1943, 1946, 1947, 1949, 1950), Ленінскай прэміі (1974); Герой Сацыялістычнай Працы (1974).

Стар. 137. *Праўда вайны патрабавала пакончыць з сачыніцельскай прыгажосцю, эфектнасцю, бесканфліктнасцю.* — У машынапісе: «Правда войны требовала изжить сочинительскую красивость, внешнюю эффектность, расцветшие в условиях культа личности Сталина».

Стар. 137. *...як сказаў на XXII з'ездзе КПСС...* — У машынапісе: «как это очень верно сказал на одном из партийных съездов». У часоп. публікацыі: «как это очень верно сказал на XII съезде».

Стар. 137. *...аповесці В. Раслякова...* — У машынапісе: «повести В. Рослякова „Один из нас"». Раслякоў Васілій (1921–1991) — расійскі пісьменнік.

Стар. 137. *...уласцівага нейкай частцы літаратуры пра*

*вайну…* — У машынапісе: «свойственному в значительной мере литературе периода культа личности». У часоп. публікацыі: «буйно расцветшие в период культа личности Сталина».

Стар. 138. *Сотні тысяч людзей у мірны час пражылі б жыццё, так і не праявіўшы сябе з іншага боку, лічыліся б пасрэднымі работнікамі вытворчасці, калгаснікамі, членамі прафсаюза; мала хто адкрыў бы ў сабе смельчака ці баяку, тым больш праявіў бы сябе ворагам або нягоднікам.* — Адсутнічае ў машынапісе, але ёсць у часоп. публікацыі.

Стар. 138. *…якi выстаяў у самых жорсткіх абставінах перад тварам смерці.* — У машынапісе: «мужественно встречающего не только скорых на расправу начальников, с которыми столкнула его война, но и самую смерть». У часоп. публікацыі: «выстоявшего против смерти и начальственных угроз на войне».

Стра. 138. *…пазбаўленага «гуманізму наогул».* — Адсутнічае ў машынапісе. У часоп. публікацыі: «чуждого „гуманизму вообще“ и пацифизму».

Стар. 139. *…хто ў цяжкі час стаў для яго даражэй за яго самога.* — У машынапісе: «дороже брата». Далей у машынапісе ідзе з новага абзаца: «Мне хотелось бы сказать еще о праве „негероического с виду“ на подобающую оценку — наряду, разумеется, с „привычным“ героическим».

Стар. 139. *Пры гэтым зразумела, што дух братэрства, узаемадапамогі, выручкі, уласцівы савецкаму воінскаму калектыву, якасна іншы, чым дух славутага «акопнага братэрства», якое так любілі апяваць некаторыя пісьменнікі Захаду. Ім было выгадна згладжваць з дапамогай прыкладаў гэтага братэрства, салдацкага зямляцтва супярэчнасці паміж людзьмі розных сацыяльных пластоў. Братэрства ж нашых салдат мацнела на прынцыпова іншай аснове: сапраўдным адзінстве іх палітычных і маральных пазіцый, вернасці Радзіме, высокім ідэалам яе будучыні.* — Адсутнічае ў машынапісе, але ёсць у часоп. публікацыі, дзе гэты фрагмент заканчваецца наступным чынам: «И мы, советские писатели, пишущие о войне, призваны раскрывать это *новое многообразие жизненных связей* бойцов».

Стар. 139. *…не была «героямі» ў вузкаканкрэтным разуменні гэтага слова.* — У машынапісе: «этих звезд не получила».

Стар. 139. *…а можа, и большай…* — Адсутнічае ў машынапісе, у часоп. публікацыі «и большей».

Стар. 139. *Кінематограф, здаецца, ужо стаіць на шляху да стварэння такога абагульненага вобраза рускага салдата мінулай вайны (успомніце Ямшчыкова і Рукавіцына з «Міру ўваходзячаму»), літаратура ж нічога падобнага яшчэ не стварыла. Замусоліўшы*

*да хадульнасці ўсіх родаў «гераізм», літаратары нерашуча падступаюць да вобраза такога вось салдата-працаўніка. А трэба б смялей.* — Адсутнічае ў машынапісе, але ёсць у часоп. публікацыі.

«Мір уваходзячаму» — савецкі мастацкі кінафільм (1961; рэж. А. Алаў і У. Навумаў). Ямшчыкоў і Рукавіцын — героі фільма «Мір уваходзячаму».

Стар. 140. *Ці можна грэбаваць праўдай чалавечых паводзін перад тварам смерці?* — У машынапісе: «В этом нет ничего зазорного, потому что это — правда, а мы не должны пренебрегать правдой человеческого поведения перед лицом смерти».

Стар. 140. *У гэтых адносінах мае выключную цікавасць раман А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі».* — У машынапісе: «В этом отношении интересен роман А. Адамовича „Партизаны“».

Стар. 140. *У гэтым свежасць і навізна рамана «Вайна пад стрэхамі».* — Адсутнічае ў машынапісе, але ёсць у часоп. публікацыі.

Стар. 140. *Так, пасля выхаду ў свет «Трэцяй ракеты»...* — У машынапісе: «Так, после выхода в свет моей книжки».

Стар. 141. *Мы выдатна памятаем нашы перамогі, але мы часам можа забываць нашы няўдачы, «катлы», у якія траплялі не толькі нямецкія, але і нашы дывізіі.* — У машынапісе: «Вряд ли справедливо это, ибо наши неудачи — это не только потери человеческих жизней, но и моральная травма в душах живых, следы которой не исчезают совсем».

Стар. 141. *І абсалютна справядліва пісаў Георгій Гулія...* — Адсутнічае ў машынапісе. Гулія Георгій (1913–1989) — расійскі пісьменнік абхазскага паходжання.

Стар. 141. *...тыя, у каго «пашальваюць нервішкі» і хто не трывае ўпамінанняў аб смерці, могуць выбраць сабе што-небудзь іншае.* — Адсутнічае ў машынапісе, але ёсць у часоп. публікацыі.

Стар. 141. *...нямецкія полчышчы наступалі на вялізным фронце ад Балтыкі да Чорнага мора...* — У машынапісе: «немецкие полчища несколько месяцев безостановочно двигались на восток».

Стар. 141. *Адсюль узнікаў празмерны страх здрады, якая ў той год мроілася нам на кожным кроку.* — У машынапісе адсутнічае. У часоп. публікацыі: «Отсюда возникал преувеличенный страх перед предательством, изменой, которые в тот год мерещились нам на каждом углу и которых на самом деле не так много и было».

Стар. 142. *...калі б мы ведалі свае слабасці і слабасці сваёй арміі...* — У машынапісе: «если бы мы знали истинное положение дел и наряду с силой понимали и слабости своей армии». Пасля

гэтага сказа ў машынапісе і ў часоп. публікацыі ідзе з новага абзаца: «Культа личности нет, но его инерция, его пережиточные отголоски еще, к сожалению, находят место в литературе и вообще в нашей печати, — говорил А. Твардовский в своем выступлении на XXII съезде партии. — К таким пережиточным элементам культа личности нельзя не отнести, например, то и дело прорывающийся в нашей печати тон неумеренного хвастовства, стремление видеть в жизни только воскресные дни, красные числа и как бы упускать из виду все остальные рабочие дни, наполненные трудом, заботами и нуждами».

Стар. 142. *...або наступлення на Волзе.* — У машынапісе: «или наступления на Волге, под Курском и Киевом».

Стар. 142. *Пэўная прадузятасць доўгі час...* — У машынапісе і часоп. публікацыі: «Ведь не что иное, как закостенелые догмы известного периода вплоть до 1953 года».

Стар. 142. *І з гэтай прычыны памятнае выступленне С. С. Смірнова з нарысамі аб абаронцах Брэсцкай крэпасці прагучала адкрыццём у нашай літаратуры.* — У часоп. публікацыі далей ідзе: «(В этом отношении в примере С. С. Смирнова мне видится незаурядный гражданский и писательский подвиг.)».

Стар. 142. *І думаецца: якія з сучасных чалавечых эмоцый па сваёй глыбіні і сіле можна параўнаць з горам людзей, жорстка абпаленых вайной?* — У машынапісе і часоп. публікацыі далей ідзе: «Так может ли безучастно отнестись к этому наша литература?!»

Стар. 142. *Беларуская зямля...* — У машынапісе: «Русская, белорусская, украинская земля». У часоп. публікацыі: «Белорусская, да и украинская земля».

Стар. 143. *Як жа можна дазволіць завянуць гэтаму братэрству...* — У машынапісе далей ідзе з новага абзаца: «Тема минувшей войны современна и еще долго будет оставаться хотя бы потому, что каждая ее грань под пером настоящего таланта всякий раз сверкает по-своему, но неизменно ярко и значительно. Сколько уже написано о войне на множестве языков мира; но, несмотря на то, что писать о ней становится все трудней, появляются все новые и новые произведения, радующие, а порой и потрясающие читателя своею правдой и глубиной. И тут нет пределов, возможности этой темы безграничны».

Стар. 143. *...цяпер, у час новага ўздыму германскага рэваншызму, як можна лічыць пазбаўленымі сучаснага значэння народныя слёзы, калі злачынцы не пакараны і зноў абдумваюць сваю чорную справу. [...] Вельмі хацелася б, каб вечна жылі ў людзях вялікія пачуцці братэрства, любові і нянавісці, народжаныя мінулай вайной.* — Гэта фрагмент адсутнічае ў машынапісе, але

ёсць у часоп. публікацыі (пры перадруку ў кн. «Праўдай адзінай» у гэтым фрагменце зроблены невялікія скарачэнні).

Апроч таго, у БДАМЛМ (ф. 12, воп. 1, адз. зах. 885, арк. 14–28) захоўваецца арыгінал аўтарызаванага машынапісу гэтага артыкула з нязначнай стылёвай праўкай пад назвай «Сучаснасць — у праўдзе». На апошнім, 15-м арк. подпіс В. Быкава і памета: *«14 снежня 1962 г., Гродна»* . Гэта, мусіць, адзін з варыянтаў артыкула «Жывыя — памяці мёртвых», які істотна адрозніваецца ад публікацыі ў кн. «Праўдай адзінай». Машынапіс быў прапанаваны пісьменнікам рэдакцыі газ. «Літ. і мастацтва», але не быў надрукаваны і ў красавіку 1963 г. здадзены ў архіў.

## Сучаснасць — у праўдзе

Сапраўды, гэта вельмі важна — вызначыць нейкія спецыфічныя рысы літаратуры нашага часу, стыль яе ў век кібернетыкі, тэрмаядзерных энергій, прарыву ў космас. Думаецца, аднак, што сцвярджэнні пра абумоўленасць развіцця мастацтва дасягненнямі навукі і нейкай якаснай эвалюцыяй чалавечай псіхалогіі наўрад ці правамерныя. Безумоўна, навука і асабліва тэхніка, нейкім чынам уплываючы на чалавека, падняліся ў сваім паступальным развіцці вельмі высока, аднак не трэба забывацца пры гэтым, што практычнае ўздзеянне большасці іх сенсацыйных дасягненняў на жыццё народаў часта вельмі нязначнае. Людзі за гэты фенаменальны ў гісторыі тэхнікі перыяд, як сказаў нядаўна Рэмарк, на жаль, не сталі адзін да другога бліжэй, а наша літаратура і мастацтва толькі яшчэ дабіраюцца да чорнага хлеба праўды, па якім так згаладаліся за шмат гадоў культу вусатай пачвары. Відаць, у гэтым галоўны парадокс нашага часу, які прымушае задумацца аб многім.

У гэтым артыкуле хацелася б падзяліцца некаторымі думкамі, звязанымі з праблемай сучаснасці, яе стылю і зместу прымяняльна да ваеннай літаратуры.

Сямнаццаць гадоў, якія мінулі пасля сканчэння вайны, многім даюць падставу лічыць ваенную тэму амаль што гістарычнай. Не так многа знаходзіцца тых, хто называе яе ў раду іншых тэм сучаснасці, большасць справядліва мяркуе, што людзі жывуць цяпер іншымі клопатамі, прагнуць міру, ды і калі кожная наступная вайна не паўтарае характару папярэдняй, то чаму, маўляў, у такім разе могуць навучыць урокі мінулай вайны? І да таго ж — столькі ўжо напісана аб ёй!

Так, напісана нямала. Не так ужо многа добра і праўдзіва, больш — пасрэдна і, вядома, нямала дрэнна або, як цяпер

гаворацъ, — несучасна. Але чым далей адсоўвае час гэта найвялікшае з народных выпрабаванняў, тым больш настойліва адчуваецца ў літаратуры імкненне асэнсаваць многае з яго, многае зразумець і захаваць у чалавечай памяці. Урокі вайны, аказваецца, вучаць сёння вельмі і вельмі многаму, указуючы палец іх працягнуты праз галовы пакаленняў у будучыню. І з кожным годам, з кожнай новай кнігай яно, гэтае асэнсаванне, ідзе ўглыб і ўшыр, і тэма вайны гучыць усё больш сучасна. Удача ж або няўдача гэтай часткі літаратуры залежыць хутчэй ад праўдзівасці (зразумела, і ад таленту) пісьменніка, чым ад спецыфікі гэтай спрадвечнай тэмы.

Саракавыя гады далі нашай літаратуры рад выдатных вобразаў герояў. Маральную сутнасць гэтых вобразаў парадзілі тыя высокія і суровыя патрабаванні, якія вайна прад'явіла да грамадзян — абаронцаў Радзімы. Жыццёвымі прататыпамі іх з'явіліся героі з вялікай літары: А. Матросаў, М. Гастэла, В. Смірноў, А. Кашавы і тысячы другіх. Гераізм, высокая самаадданасць, любоў да Радзімы і нянавісць да ворага — вось якасці, у вельмі вялікай меры ўласцівыя гэтым людзям. І таму зразумела, што асноўным і галоўным матывам твораў тых гадоў аб вайне быў гераізм ва ўсіх яго яўных праяўленнях.

Аднак мастацкі ўзровень многіх з кніг аб вайне вымушаў жадаць лепшага. І гэта зразумела. У першы пасляваенны час пісьменнікі, ідучы па гарачых слядах падзей, не мелі парой ні часу, ні магчымасці для глыбокага асэнсавання ўсіх праяўленняў вайны і пераламленняў у ёй чалавечага лёсу. Па гэтай і іншых прычынах многім з іх не ўдалося сучасна і праўдзіва паказаць усе даволі складаныя ў сваёй узаемаабумоўленасці перыпетыі народнай барацьбы з ворагам. Часта адсутнасць дастатковага асабістага вопыту ў вайне прыводзіла нават вопытных і таленавітых аўтараў да прадузятасці ідэй і схематычнасці вобразаў. Карціны барацьбы выходзілі бледныя, пазбаўленыя пераканаўчай канкрэтнасці.

Няма патрэбы называць падобныя творы, яны не рэдкасць у нашай літаратуры. Хіба мала напісана аб вайне мовай «благополучногероических» штампаў, перанятых з узнагародных лістоў, як часта распісаны сітуацыі, калі героі прыходзяць у сябе іменна ў момант прыбліжэння танка (не пазней), метка наводзяць (а як жа інакш!) і ўраз прабіваюць браню; лётчыкі падбітага самалёта з незразумелай самаахвярнасцю адкідваюць парашуты і накіроўваюць ахопленыя полымем машыны на скапленне (абавязкова скапленне) тэхнікі ворага; камісары для падняцця духу байцоў паяўляюцца на флангах у самыя крытычныя моманты, але ні на мінуту пазней; а якая-небудзь партызанская цётка, арудуючы аўтаматам не горш, чым рагачом, бярэ ў палон чатырох эсэсаўцаў.

Як мала тут мастацтва і сапраўднага ад той вялікай барацьбы народа, якую ён вёў 4 гады, а галоўнае — як мала праўды. Ды і адкуль ёй быць, калі ўсё гэта стваралася па метаду кабінетнага сацыніцельства без дастатковага ведання і разумення гісторыі і прыроды вайны, на падставе літаратурных (чытай: газетных) крыніц, гутарак на хаду з удзельнікамі партызанскага руху, той або іншай аперацыі і г. д.

У выдадзенай, больш правільна — перавыдадзенай у 1961 г. кніжцы Ц. Жураўлёва «Была вайна» (апавяданні, напісаныя ў гады вайны) выступаюць гэткія байцы-ўдальцы, якім усё хоць бы што, якім «пархатага немца» абвесці вакол пальца ўсё роўна што выкурыць цыгарку.

«— Немца обмануть — это дело нехитрое, — разважае сяржант з апавядання „Самі з вусамі“. — А вот был у нас, товариш капитан, один ефрейтор в батальоне, Егор Иванович Калина, так он, можно сказать, обманул всю немецкую дивизию. На что командир дивизии был у нас такой глазастый... а то и тот признался, что Калина глаза ему раскрыл на всю операцию»...

У апавяданні расказваецца пра гэты «падман», да сутнасці якога няцяжка дадумацца любому чатырохкласніку. А аўтар глыбакадумна апавядае, як выскачылі байцы ў траншэю ў два канцы, нібы «тридцать три богатыря из-под земли, с Черномором, а тут уж тебе ни колючек, ни огня...». І ўсё тут ёсць: кемлівасць, хітрасць, храбрасць, доблесць — у гэтым кароценькім апавяданні, акрамя аднаго — праўды.

У першыя пасляваенныя гады кніг аб вайне, напісаных непасрэднымі яе ўдзельнікамі, было ў нас не так ужо і многа. Прыпамінаецца бязлітасна праўдзівая «У акопах Сталінграда» В. Някрасава, першая кніга «Белай бярозы» — В. Бубёнава, аповесці Эм. Казакевіча, А. Ганчара, раман І. Мележа. Большасць ваенных кніжак ствараліся або пісьменнікамі-прафесіяналамі, або ваеннымі журналістамі, якія не мелі з прычыны іх абмежаванага ўдзелу ў баявых дзеяннях ведаў і ўражанняў, дастатковых для напісання грунтоўнага твора аб вайне. Гэтым у значнай ступені тлумачацца многія з няўдач ваеннай літаратуры, бо ні вывучэнне матэрыялу, ні паказанні сведак не могуць замяніць таго, што не ўбачана і не перажыта. Відавочна для таго, каб апісаць пачуцце чалавека ў баі, у атацы, патрэба самому гэта пазнаць. Пры гэтым зразумела, што ўдзел у баі радавым не раўназначны ўдзелу ў ім у якасці камандзіра, на плячах якога велізарнай цяжкасцю, што часта падаўляе нават прыроднае пачуццё самазахавання, ляжыць асабістая адказнасць за такое цяжка сумяшчальнае, як жыццё падначаленых і выкананне баявой задачы. Маральны цяжар

падобнай справы можа ўявіць сабе толькі той, хто не раз перажыў яе.

Але вось мінуў час, вярнуліся з вайны і падвучыліся яе радавыя ўдзельнікі. Гэта былі людзі, якія многае пабачылі і многа перажылі. Версіфікатарства і літаратурныя рэмінісцэнцыі ўжо не змаглі спакусіць іх. Асабісты вопыт іх быў надзвычай каштоўны па прычыне яго гістарычнай унікальнасці. Гэтыя людзі не маглі напісаць: «над галавой свісталі кулі», бо кожны франтавік ведае, што палёт куль з сучаснай зброі нават прыблізна нельга вызначыць свістам. І вось паявіліся кнігі, адразу ж прызнаныя і ацэненыя і ўдзельнікамі вайны, і тымі, хто яе ніколі не бачыў. Я маю на ўвазе перш за ўсё аповесці Ю. Бондарава, Г. Бакланава, апавяданні В. Някрасава, невялічкую кніжачку М. Пархомава і некаторыя іншыя. Упершыню чытач убачыў у іх сапраўдны твар вайны, сілаю таленту аўтара быў як бы перанесены на поле бою і зноў адчуў сябе ўдзельнікам небывалай па сваім напружанні барацьбы. Мноства дакладна і правільна схопленых дэталей, падрабязнасцей бою і франтавога быту, эмацыянальная паўната і дакладнасць перажыванняў — усё гэта разам ствара́ла шчырую праўду вайны.

Прызнаючы заслужаны поспех такіх твораў, як «Паўднёвей ад галоўнага ўдару» Г. Бакланава, «Батальёны просяць агню» Ю. Бондарава і асабліва іх жа «Пядзі зямлі» і «Апошніх залпаў», крытыка спачатку нават збянтэжылася: дзе ж герой? Прапаў герой у прывычным яго разуменні — чалавек з бяздумнай самаадданасцю, падкрэсленай гатоўнасцю да самаахвяравання; у гэтых кнігах ніхто не закрываў амбразур дзотаў і не кідаўся са звязкамі гранат пад танкі. Капітан Новікаў пры ўсёй яго сабранасці і храбрасці гіне пад залпам сваіх жа «кацюш», лейтэнант Матавілаў схільны да рэфлексіі і адчувае вайну як салдат, пазбаўлены ў яе аналізе маштабаў, уласцівых, прынамсі, начальніку штаба фронту. Аказалася таксама, што на вайне можа спалохацца нават і савецкі воін, і што і яму бывае вельмі нялёгка, і здараецца, што гіне ён пры самых няздатных для гэтага сітуацыях і нават без патрыятычных воклічаў (успомніць смерць камбата Бабіна), і што поруч з доблесцю і мужнасцю на фронце ўжываюцца таксама і подласць, кар’ерызм (Яцэнка, Іверзеў), баязлівасць і нізасць (Мезенцаў, Ішчанка).

Усё гэта было новае, непрывычнае і таму выклікала разнатолкі і розныя агаворкі нават пасля прызнання аўтарскіх удач. Паявіліся разважанні аб вузкасці бакланаўскага плацдарма ў тым сэнсе, што цяжкасці баёў, якія Г. Бакланаў з геаграфічнай дакладнасцю «прывязаў» да днястроўскіх плацдармаў Трэцяга Украінскага фронту ў 1955 г., не былі характэрныя для ўсіх франтоў у цэлым. Аўтара «Пядзі зямлі» папракалі ў згушчэнні

фарбаў, у прыземленасці герояў і нават у «рэмаркізме» (кроў на хлебе).

Але мне здаецца, што некаторая прыземленасць, сапраўды ўласцівая аповесці Г. Бакланава, зусім не пашкодзіла ёй, як гэта іншым на першы погляд здалося. Яна канкрэтызавала карціны баёў і вобразы салдат і афіцэраў, напоўніла іх плоццю і пачуццямі, не выдуманымі, а рэальнымі, за кожным з імён аповесці стаіць сапраўды жывы чалавек, прытым ва ўсёй яго складанасці. Мы бачым яго і верым яму, бо ён пазбаўлен і намёку на позу, жэст, ён без фальшывага пафасу і ўвесь праўда, падмечаная мастаком-сведкам. І ад гэтага не пахіснуўся яго патрыятызм, яго вернасць воінскаму абавязку, ён не замкнуўся ў сваю шкарлупіну і хоць не вымаўляе лозунгаў, але ён мысліць, і мысліць зусім не вузка.

Ды і вузкасць плацдарма — паняцце, вядома, умоўнае. Не так важна, з якога НП (батарэі або камандарма) глядзіць на вайну герой, куды важней, як ён глядзіць, што бачыць і што адчувае прытым. Героі ж Г. Бакланава хоць і глядзяць з НП камандзіра ўзвода ўпраўлення батарэі, з варонкі, з назіральнай шчыліны танка і бачаць, можа быць, не надта шырока, але затое ўсё тое, што яны бачаць, ёсць праўда вайны; пачуцці ж іх поўны да краёў. Справа нарэшце не ў тым, паказана ў баі аддзяленне або полк, баец або камандарм, — справа ў асэнсаванні сябе і бліжніх, барацьбы, народа, ворага. Мы ведаем нямала прыкладаў, калі ў адным героі — салдаце (напрыклад, Васіліі Цёркіне) увасабляецца вельмі многа, і ведаем прыклады адваротнага парадку — калі самы шырокі размах у ахопе падзей вайны і тылу нічога не даў літаратуры з-за беглаcці, скорагаворкі, коўзання па паверхні падзей.

У малым можа выдатна адбіцца вялікае, роўна як у вялікім, шырокім — нікчэмна малое або, можа, і вялікае, але адбіцца да крыўднага мелка. Вось таму здаецца мне, што «Пядзя зямлі», хоць і сапраўды ў некаторай ступені «прыземлены» твор, але гэтае прызямленне, звужэнне плацдарма не прызямліла яго так, як гэта зрабіла з іншымі раманамі аб вайне іх знарачыстая прыпаднятасць, празмерна раздутая шырыня іх плацдармаў, дзе звыш усякай меры апаваўся наступальны дух войск.

Справа, вядома, не ў наступальным духу, які, дарэчы сказаць, не сыходзіў са старонак некаторай часткі нашай літаратуры з самага першага і аж да апошніх год. Праўда вайны патрабавала адмовіцца ад сачыніцельскай прыгажосці, эфектнасці, бесканфліктнасці, якія буйнай непатрэбшчынай расквітнелі ў перыяд культу асобы Сталіна. У літаратуры, таксама як і ў чытачы, прабудзілася настойлівая патрэба ў паказе шырокіх дыяпазаноў чалавечай душы, паказу без выдумак, без пустога

выхвалення, без лакіроўкі — такой, якая яна ёсць. Нам няма чаго саромецца, наша гісторыя і наша рэчаіснасць, як гэта вельмі правільна сказаў на XXII з’ездзе А. Твардоўскі, «дастаткова высокая і велічная са сваімі цяжкасцямі і недасканаласцямі», а салдат «ганарыцца не толькі сваімі подзвігамі ў баі, але і тымі цяжкасцямі, што перанёс на паходзе». І таму галоўная вартасць кніг Ю. Бондарава і Г. Бакланава — у іх сучаснасці, якая вынікае перш за ўсё з іх праўдзівасці і таленавітасці. Праўда, сказаная імі да канца, атмасфера баёў і настрой, перададзеныя праз сотні самых разнастайных, але поўных вялікай значнасці падрабязнасцей, робяць цяпер проста немагчымым вяртанне да дурнога, хоць і эфектнага сачыніцельства аб вайне, уласцівага літаратуры перыяду культу асобы.

Вайна была часам небывала абвостраных адчуванняў — рэзкіх кантрастаў ва ўзаемаадносінах людзей. Нідзе і ніколі не праяўлялася з такой відавочнасцю чалавечая сутнасць, як на вайне. Сотні тысяч людзей у мірны час пражылі б сваё жыццё, так і не праявіўшы сябе, лічачыся звычайнымі работнікамі вытворчасці, калгаснікамі, членамі прафсаюза: мала хто выявіў бы ў сабе смельчака або баязліўца, тым больш праявіў бы сябе ворагам або нягоднікам. Сувязіст Мезенцаў з «Пядзі зямлі» Г. Бакланава, напэўна, бязбедна пражыў бы, іграючы на саксафоне, іспаведуючы «пра сябе» сваю філасофію «культурнага» чалавека і карыстаючыся пры людзях агульнапрынятымі лозунгамі і агульнавядомымі ісцінамі. Вайна ж выкрыла яго як прыстасаванца, ускрыла ўсю фальш яго філасофіі. Герой выдатнага апавядання Эм. Казакевіча «Пры святле дня» Віталій Мікалаевіч Нячаеў ціха жыў у Маскве, баяўся скразнякоў, прастуджваўся і сарамлівадобра ўсміхаўся, быў рассеяны, нясмелы, пабойваўся існтытуцкага начальства. Ніхто з яго знаёмых, нават жонка, не маглі разгледзець у ім незвычайную чалавечнасць і мужнасць воіна, які выстаяў супраць смерці і начальніцкіх пагроз на вайне. З глыбокім пранікненнем у псіхалогію людзей пісьменнік нарысаваў у гэтым апавяданні няўвагу да бліжняга перш за ўсё з боку інтэлігентнай і вельмі сардэчнай на першы погляд жанчыны — Вольгі Пятроўны, тым самым тонка і па-чэхаўску разумна перасцярог людзей ад самага згубнага ў іх — раўнадушнасці да чалавека.

Сапраўдны гуманізм, высакароднае пачуццё таварыства, абвостраная чалавечнасць і самаадданасць ва ўсіх іх праяўленнях пакінулі вельмі прыметны след у нашай ваеннай літаратуры, след, які будуць вывучаць і на якім будуць выхоўвацца, можа быць, многія наступныя пакаленні, бо як гераічныя прыклады, так і прыклады чалавечай нізкасці, створаныя сілаю сапраўдных

талентаў у іх лепшых кнігах, не пакінуць чытача раўнадушным.

Гэта безумоўна, але тут хацелася б сказаць аб справе «негераічнага з выгляду» на належную ацэнку побач з «гераічным цалкам».

Агульнавядома, што ў мінулай вайне праявіўся масавы гераізм нашага народа на фронце, у акупіраваных абласцях, у тыле, тысячы воінаў атрымалі Залатыя Зоркі, сотні тысяч — ордэны. Асноўная ж маса воінаў — «негерої» ў канкрэтным, вузкім разуменні гэтага слова. Але ж Перамога над нямецкім фашызмам здабыта ў значнай (нават і большай) меры іхнімі рукамі, іх вялікай крывёй і потам.

Гэта ён, радавы вялікай бітвы, нічым не адметны былы калгаснік або рабочы, сібірак або разанец доўгія месяцы мёрз пад Дзямянскам, перакапаў сотні кіламетраў зямлі пад Курскам і не толькі разіў агнём немцаў, але і круціў баранку на разбітых франтавых дарогах, пракладваў і трымаў сувязь, будаваў дарогі, наводзіў пераправы. Ён многае перажыў, гэты баец: галадаў, знемагаў ад гарачыні, пабойваўся немцаў, але добрасумленна рабіў сваю непрыкметную салдацкую справу. І, прайшоўшы праз усе выпрабаванні, ён не страціў сваёй чалавечнасці, пазнаў і моцна засвоіў у вялікім калектыве спрадвечную праўду жыцця і многае іншае. Кінематограф, здаецца, ужо стаіць на шлях да стварэння такога зборнага вобраза рускага салдата мінулай вайны (успомніце Ямшчыкова і Рукавіцына з «Міру ўваходзячаму»), літаратура ж нічога падобнага пакуль не стварыла. Замусоліўшы да хадульнасці ўсіх родаў «гераізм», літаратары нерашуча бяруцца за вобраз такога салдата-працаўніка. А трэба б смялей. Не бяда, што ён прынёс з вайны толькі якіх-небудзь 2–3 медалі, што ён губляўся пры жорсткай бамбёжцы, што дзесьці ён аглядваўся назад, можа, ляскаў зубамі і заікаўся ў часе танкавай нямецкай атакі, што яго цела, падпарадкоўваючыся інстынкту, імкнулася назад, у тыл, да бяспекі, а ён з намаганнем, але ўсё ж стрымаў сябе ў цесным акопчыку, сціскаючы ў руках цяжкую РПГ. Страх — цяжкападуладнае чалавеку пачуццё, аб бясстрашшы ж напісана многа хлусні, і мы не павінны пагарджаць праўдай чалавечых паводзін перад тварам смерці. У такой жорсткай вайне, якую мы перажылі, цярплівасць, вернасць свайму салдацкаму (часам вельмі скромнаму) абавязку былі не менш важныя, чым адчайная адвага храбрацоў.

У гэтых адносінах цікавыя раманы А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» і І. Навуменкі «Сасна пры дарозе». Узняўшы папулярную тэму партызанскага руху ў Беларусі, аўтары А. Адамовіч, а за ім І. Навуменка абралі новы, зусім адметны ад ранейшых твораў, аспект гераічнага. Многія з іх папярэднікаў, захапляючыся

бяздумым гераізаваннем «лясных салдат», не заўважалі мноства «негерояў» — падлеткаў, дзяцей, мацярок, якія, застаючыся пад роднымі дахамі на акупаванай тэрыторыі, аралі зямлю, кармілі шматтысячную партызанскую армію, хавалі лясных гасцей, працавалі сувязнымі, здабывалі медыкаменты. Яны часам рызыкавалі не менш за тых, хто граміў гарнізоны або хадзіў на «жалезку», бо сапраўды за падрыў поезда і за ўкрыццё раненага, за напад на гарнізон або за спробу ўкрасці ў паліцая гранату немцы ведалі толькі адну кару — смерць. І на гэтую смерць ішлі і знайшлі яе тысячы невядомых герояў — падлеткаў, дзяўчат, мацярок. А. Адамовіч і І. Навуменка паднялі і па-майстэрску паказалі чытачам цэлы пласт некранутай цаліны там, дзе, здавалася б, усё ўжо апісана і распрацавана літаратурай. У гэтым свежасць і навізна рамана «Вайна пад стрэхамі» і вартасць «Сасны пры дарозе».

Крытыка нярэдка схільна падштурхоўваць пісьменнікаў да «благополучных» развязак у творах на ваенную тэму. Аб творы, дзе ўсё ўладжваецца выдатна, робіцца подзвіг, які натуральна знамянуе веліч духу савецкага чалавека, і герой застаецца жывы, аб такім творы гавораць, што яго канцоўка гучыць аптымістычна, што і адпавядае канонам сацыялістычнага рэалізму. Калі такая аптымістычная струна не звініць у канцы, то аўтара папракаюць у песімізме. Яшчэ лічаць забітых адносна да жывых, і не дай бог, калі акажацца, што мёртвых больш, чым тых, хто застаецца ў жывых. У гэтым бачаць дыспрапорцыю праўды, а галоўнае, аўтар зноў падазраваецца ў песімістычных тэндэнцыях. Пасля выхаду ў свет маёй першай кніжкі хтосьці з рэцэнзентаў наракаў на тое, што ў многіх маіх апавяданнях «смерць як бы стаіць у цэнтры ўвагі аўтара». Гэта не спадабалася крытыку, які, відаць, хацеў, каб апавяданні аб вайне заканчваліся толькі перамогай над ворагам — «малой кровью, могучим ударом».

На жаль, смерць на вайне была пастаянным спадарожнікам усіх — і тых, хто выжыў, перамог, і хто загінуў у баях. Смерць і абавязак у сваім няспынным змаганні былі тым вызначальнікам, які непадзельна панаваў над душамі байцоў, незалежна ад іх інтэлекту, адукацыі, узросту, таленту, бо ўсе былі аднолькава смертныя і, як грамадзяне, усе неслі на сабе аднолькавы абавязак па абароне Айчыны. Праўда, усё цяжкае хутка забываецца. Мы выдатна памятаем нашы перамогі, але мы часам схільны забываць нашы няўдачы, «катлы», у якія траплялі не толькі нямецкія, але і нашы дывізіі. А гэта ж не толькі страты, але і маральная траўма, сляды якой не знікаюць зусім. Праўда, ніхто ўжо не рве на сабе валасы, успамінаючы перажытае, але ў радасці мірнага жыцця зусім недаравальна і бяздумнае «бодрячество», забыўчывасць, напляваецельскія адносіны да памяці тых, хто мог бы быць, але каго

ўжо няма сярод нас. Нельга ніколі забыць тысячы магіл адзіночных і брацкіх (такіх, як у польскім гарадку Крэйцбургу, дзе на ваенным магільніку пахавана адразу 6300 савецкіх воінаў), магіл, якія густа ўсеялі ўсю Еўропу. Іх нельга забыць таму, што ў іх ляжаць тыя, хто сумленна заслужыў права на мірныя радасці, але аддаў людзям сваё найбольшае права — жыць.

Мы сказалі многае з вялікай праўды аб вялікай вайне, але сказалі яшчэ не ўсё. І перш за ўсё гэта адносіцца да так званай «горкай праўды», не пазнаўшы якой, немагчыма праўдзіва зафіксаваць для гісторыі гэтую найвялікшую з войнаў. Замоўчванне «горкай праўды» можа саслужыць дрэнную службу народу. Усе памятаюць, наколькі ашаламляльныя былі нашы першыя няўдачы на франтах у 1941 годзе, якую траўму ў свядомасці нашых людзей пакідала тагачасная магутнасць нямецкіх армій, — мы ж прывыклі верыць, што Чырвоная Армія самая моцная ў свеце. І той факт, што нямецкія полчышчы перамагалі яе на вялізным фронце ад Балтыкі да Чарнамор’я, выклікаў страх і непаразуменне ў мноства савецкіх людзей. Адсюль шырыўся перавялічаны страх перад здрадніцтвам, якое ў той год мроілася нам на кожны рагу, у кожнай «эмцы» і якога на самай справе было не так ужо і многа. Усяго гэтага можна было б пазбегнуць, калі б мы ведалі свае слабасці і слабасці сваёй арміі яшчэ да 22 чэрвеня, а не пачулі аб іх толькі 7 лістапада з вядомага даклада Сталіна.

Так, тэма мінулай вайны сучасная, і сучасная яшчэ і таму, што кожная яе грань пад пяром сапраўднага таленту кожны раз ззяе па-свойму, аля нязменна ярка і значна. Колькі ўжо напісана аб вайне на мноствах моваў свету і, нягледзячы на тое, што пісаць аб ёй становіцца ўсё цяжэй, паяўляюцца ўсё новыя і новыя творы, якія радуюць, а часам і патрасаюць чытача сваёй праўдзівасцю і глыбінёй. І тут няма канца, магчымасці гэтай тэмы бязмежны. Калі зусім яшчэ нядаўна творы С. Смірнова, М. Пархомава і другіх адкрылі свету новых герояў і новыя віды гераізму, то кнігі Ю. Бондарава, Г. Бакланава, В. Някрасава, А. Адамовіча аб вайне раскрылі нам новыя праяўленні чалавечых характараў, выявілі новыя законы барацьбы і новыя ўзаемасувязі барацьбітоў. І яшчэ і пасля іх у перыёдыцы не-не ды і бліснe сапраўдны самародак гэтай пароды, у якім нас нязменна падкупляе ўсё той жа чарадзейны сплаў праўды і мастацтва. Я маю на ўвазе аповесць В. Раслякова, раманы І. Навуменкі і А. Кулакоўскага, партызанскія запіскі А. Карпюка.

І вельмі хацелася б, каб вечна жылі ў людзях вялікія пачуцці брацтва, любві і нянавісці, народжаныя самай праклятай з чалавечых бед — мінулай вайной. Няхай ніколі не чарсцвеюць

нашы сэрцы да заваёў і ранаў вайны. Нельга ладзіць будучае, не памятаючы аб мінулым, нельга пагарджаць найвялікшым з чалавечых выпрабаванняў — усенародным подзвігам, які даў людзям сучаснага і будучага векапомны ўрок свабодалюбства і велічы духу.

І ў гэтай сувязі нельга не ўспомніць аб тых свяшчэнных словах, якія ад імя расстрэленых маракоў напісаў у сваёй аповесці Міхаіл Пархомаў: «Мы знаем, за что идем на смерть. За то, чтобы наша земля была свободна. Но мы умираем не только за это, но и за то… чтобы люди не забыли о старенькой одинокой матери Петра Харитонова, которая живет где-то под Курском. Чтобы братья Бориса Бляхера никогда не услышали позорного слова „жид“. Чтобы, если выживет майор Подлесный — такие люди живучи! — никто не подал ему руки. И Валя, которую я сегодня видел, — тоже. И чтобы ни одна девушка не причинила парню столько горя, сколько испытал Сухарев…

Люди вернутся с войны. Многие придут с орденами. Другие — без. Вернутся некоторые из тех, кто был с нами в плену. Так вот, пусть их никто не упрекнет за это. Как знать, быть может, иные из этих бывших пленных воевали не хуже тех, у кого грудь в крестах?

И еще нам хочется, чтобы нас не забыли. Мы стоим лицом к лицу со смертью. За нами — голый бульвар. Что ж, посадят новые тополя. Землю, на которой мы стоим, зальют асфальтом. И по нему будут ходить люди. Так пусть они помнят, что эта земля густо обагрена нашей живой кровью…

Возможно, что когда-нибудь там, где мы стоим, поставят памятник. Так чтобы у подножия этого памятника никогда не увядали цветы. И чтобы под ним играли дети…

Мы беремся за руки. Жить остается меньше секунды. Я набираю полные легкие воздуха. И последнее, о чем я еще успеваю подумать, это о том, что…

Людям надо вот так вот крепко держаться друг друга…»

Здаецца, словы гэтыя здольны ўзрушыць кожнага. Іх немагчыма забыць, бо ў іх — запавет мёртвых жывым, запавет вялікага, амаль сімвалічнага сэнсу. І таму думаецца, што мы, літаратары, а таксама тыя, хто перажыў незабыўнае, мае што сказаць людзям і пазнаў цану чалавецтву ў самы цяжкі час ягонай гісторыі, і якіх па непарушных законах прыроды меншае з кожным годам, — мы павінны сведчыць аб сваім вопыце больш і таленавіцей, следуючы пры гэтым адзіна вартаму літаратуры стылю, імя якому толькі адно — праўда.

* * *

Стар. 133. *...мы прывыклі за шмат год да мужнага і вясёлага радавога Васілія Цёркіна...* — Герой паэмы «Василий Теркин» Аляксандра Твардоўскага (1910–1971), расійскага паэта.

Стар. 133. *...да нязломнага ў сваёй свяшчэннай упартасці стаць у строй байцоў Марэсьева...* — Герой аповесці «Повесть о настоящем человеке» Барыса Палявога (сапр. Кампаў; 1908–1981), расійскага журналіста, пісьменніка; двойчы лаўрэта Сталінскай прэміі (1947, 1949).

Стар. 133. *Аляксандр Матросаў, Мікалай Гастэла, Юрый Смірноў, Алег Кашавы* — Матросаў Аляксандр (1924–1943) — чырвонаармеец; Герой Савецкага Саюза (1943, пасмяротна); вядомы дзякуючы гераічнаму подзвігу, калі закрыў сабой амбразуру нямецкага дзота. Гастэла Мікалай (1907–1941) — савецкі ваенны лётчык; Герой Савецкага Саюза (1941, пасмяротна); паводле афіцыйнай версіі, падбіты палаючы самалёт экіпаж пад камандаваннем М. Гастэла накіраваў на механізаваную калону немцаў. Смірноў Юрый (1925–1944) — гвардыі малодшы сяржант; Герой Савецкага Саюза (1944, пасмяротна); цяжка паранены, патрапіў у палон, пасля катаванняў быў раскрыжаваны на сцяне бліндажа і сколаты штыкамі. Кашавы Алег (1926–1943) — адзін з арганізатараў падпольнай антыфашысцкай арганізацыі «Молодая гвардия»; Герой Савецкага Саюза (1943, пасмяротна).

Стар. 134. *У выдадзенай, болей дакладна, перавыдадзенай у 1961 годзе кнізе Ц. Жураўлёва «Была вайна»...* — Размова пра кнігу «Была война: фронтовые новеллы» (М., 1961) Ціхана Жураўлёва (1913–1985), расійскага пісьменніка, які падчас Другой сусветнай вайны працаваў у рэдакцыях франтавых газет.

Стар. 137. *...апавядання У. Багамолава «Іван»...* — Багамолаў Уладзімір (1926–2003) — расійскі пісьменнік.

Стар. 141. *Так, пасля выхаду ў свет «Трэцяй ракеты» адзін з рэцэнзентаў скардзіўся на тое, што ў многіх маіх апавяданнях «смерць нібыта стаіць у цэнтры ўвагі аўтара».* — Быкаў памыліўся — размова ідзе не пра кнігу «Трэцяя ракета. Здрада: аповесці» (Мінск, 1962), а пра кнігу «Жураўліны крык: аповесць і апавяданні» (Мінск, 1960), у рэцэнзіі на якую І. Кудраўцаў пісаў: «У дзесяці з адзінаццаці змешчаных у зборніку апавяданняў на ваенную тэму героі гінуць. Смерць як бы стаіць у цэнтры ўвагі аўтара. Чытаеш сёмае, восьмае, дзясятае апавяданне і... чакаеш, што хто-небудзь з асноўных герояў загіне. Ведаючы, што гэта абавязкова здарыцца, што гэта зрабілася нейкай „манерай“ пісьменніка, міжволі перастаеш хвалявацца за лёс герояў...

Ці патрэбна гэта дакучнае нанізванне смерці на смерць? Ці толькі праз смерць можна паказваць гераізм людзей, іх самаахвярнасць, цяжкасці барацьбы, нашу нялёгкую перамогу? Ці

не прыводзіць такі паказ да аднастайнасці, пэўнага шаблону?» (Кудраўцаў І. Творчыя заваёвы і страты // Полымя, 1960, № 7, с. 180–181).

Стар. 142. *...зусім нядаўна надрукаваны ў «Новом мире» апавяданні С. Славіча «Ты і я — нас многа», аповесць М. Бірзе «І пад лёдам рака цячэ», апавяданні І. Навуменкі і М. Лупсякова.* — Славіч Станіслаў (1925–2013) — расійскі пісьменнік. Бірзе Міервалдыс (сапр. Бэрзінь; нар. у 1921) — латвійскі пісьменнік. Навуменка Іван (1925–2007) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец; народны пісьменнік Беларусі (1995). Лупсякоў Мікола (Мікалай; 1919–1972) — беларускі пісьменнік.

Стар. 142. *... гераічна біўся з ворагам храбры чэх Ян Налепка...* — Налепка Ян (1912–1943) — чэхаславацкі афіцэр, арганізатар і камандзір славацкага партызанскага атрада партызанскага злучэння генерал-маёра А. Сабурава, які дзейнічаў на акупаванай тэрыторыі Беларусі і Украіны; Герой Савецкага Саюза (1945, пасмяротна).

Стар. 143. *Хойзінгер* — Хойзінгер Адольф (1897–1982) — нямецкі военачальнік; генерал-лейтэнат (1943). Падчас Другой сусветнай вайны начальнік аператыўнага аддзела Генеральнага штаба сухапутных сіл Германіі, пасля вайны — генеральны інспектар бундэсвера, затым — старшыня ваеннага камітэта НАТО.

Стар. 144. *...кіруюцца ў сваёй дзейнасці «Апошнім пісьмом Германа Герынга».* — Герынг Герман (1893–1946) — палітычны, дзяржаўны і ваенны дзеяч нацысцкай Германіі; рэйхсміністр Імперскага міністэрства авіяцыі, рэйхсмаршал Вялікагерманскага рэйха (1940). Паводле прысуду Нюрнбергскага трыбунала прызнаны адным з галоўных ваенных злачынцаў. Быў прыгавораны да смяротнага пакарання цераз павешанне, але напярэдадні казні скончыў жыццё самагубствам.

## 1963

## **Права на праўду** *(стар. 146)*

Друкуецца паводле арыгінала машынапісу, які захоўваецца ў БДАМЛМ: ф. 12, воп. 1, адз. зах. 858, арк. 1–11. Упершыню са скарачэннямі — газ. «Літ. і мастацтва», 1963, 26 лют. пад назвай «Праблема старая і — новая!» у рубрыцы «Пісьменнік і час».

Датуецца часам першай публікацыі.

На 1-м аркушы машынапісу штэмпель: «Атрымана. 1963 г. № 377» і злева ўверсе рэдакцыйныя паметы: «3 экз. Змешчана ў № 17 за 1963 г. [*Подпіс неразб.* ]». На 11-м аркушы — подпіс В. Быкава.

Стар. 146. *…Міхась Стральцоў крыху перабольшвае, калі піша ў сваім артыкуле, што «наш час небывалы па размаху ўзаемапранікнення розных ведаў, навук і з’яў мастацтва».* — Стральцоў Міхась (Міхаіл; 1937–1987) — беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Размова ідзе пра артыкул: Стральцоў М. Зробім традыцыяй пошукі // Літ. і мастацтва, 1962, 23 кастр.

Стар. 146. *У найбольш развітых краінах свету навука і асабліва тэхніка, усё больш узаемаўплываючы ў сваім пастулальным развіцці, узняліся бязмерна высока, аднак пры ўсім гэтым практычнае ўздзеянне іх сенсацыйных дасягненняў на жыццё народаў часта мізэрнае. […] Ці не нараджаюцца новыя яго ўвасабленні, узброеныя найноўшымі навукова-тэхнічнымі сродкамі знішчэння, і таму ці меншай стала небяспека для жыцця на зямлі?* — Выкраслена падчас рэдагавання ў газ. «Літ. і мастацтва».

Стар. 146. *Вось чаму нельга не пагадзіцца з многімі слушнымі наконт гэтага думкамі Івана Навуменкі…* — Размова ідзе пра артыкул: Навуменка І. Галоўнае — чалавек // Літ. і мастацтва, 1962, 11 снеж.

Стар. 147. *«Жыццё — гэта праўда», — пісаў чэшскі літаратар Карэл Палачак незадоўга да сваёй гібелі ў крэматорыі Асвенціма.* — Палачак Карэл (1892–1944) — чэшскі пісьменнік; па адных звестках загінуў у 1944 г. у Асвенціме, па іншых — у 1945 г. у польскім г. Глівіцэ. Асвенцім — маецца на ўвазе комплекс нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў і лагераў смерці, які знаходзіўся ў 1940–1945 гг. паблізу з г. Асвенцімам, у 1939 г. указам Гітлера далучаны да тэрыторыі Трэцяга рэйха. У 1941–1945 гг. у Асвенціме былі забіты 1 млн 400 тыс. чалавек. У сусветнай практыцы прынята выкарыстоўваць нямецкую назву «Аўшвіц», а не польскае «Асвенцім».

Стар. 148. *У творах знікла шчырасць пісьменніка — гэтая нічым не кампенсаваная ўмова творчасці, а менавіта адсутнасць яе…* — Закрэслена, уверсе напісана: «Адступленні ад жыццёвай праўды, ад прынцыпаў рэалістычнага мастацтва».

Стар. 148. *…у гэтым я бачу самы першы наш абавязак.* — «Самы першы» выкраслена.

Стар. 148. *…першы вопыт нашых літаратараў, іхнія няўдачы ўжо сведчаць аб тым.* — Выкраслена.

Стар. 148. *…плён.* — Закрэслена, уверсе напісана: «след у свядомасці людзей».

Стар. 148. *…ва ўсёй мярзотнасці.* — У публікацыі: «ва ўсіх брыдкасцях».

Стар. 149. *…у аснову якога пакладзена рэалістычнае як ёсць, а не як павінна быць.* — Закрэслена, уверсе напісана: «не

прыгладжана, не аздоблена ружовымі фарбамі».

Стар. 149. *…прыхільнікам рэалістычнага напрамку…* — Закрэслена, уверсе напісана: «тым мастакам, якія не абыходзяць вострыя вуглы».

Стар. 149. *…сакратар ЦК КПСС Л. Ф. Ільічоў.* — Ільічоў Леанід (1906–1990) — савецкі партыйны дзеяч; у 1961–1965 гг. сакратар ЦК КПСС, старшыня Ідэалагічнай камісіі; ідэолаг хрушчоўскай антырэлігійнай кампаніі.

Стар. 149. *Варта ўспомніць, што партыя не пабаялася выкрыць факты куды больш красамоўныя і непажаданыя ў жыцці, чым тыя, што трапляюць у некаторыя кнігі, што крытыка…* — Выкраслена.

Стар. 150. *«Святло над зямлёй»* — Раман Сямёна Бабаеўскага (1909–2000), расійскага пісьменніка; лаўрэата трох Сталінскіх прэмій (1949, 1950, 1951).

Стар. 150. *«Шырокія гарызонты»* — Раман Алеся Стаховіча (Аляксандр; 1907–1956), беларускага пісьменніка.

Стар. 150. *…выракліся свае шчырасці…* — Выкраслена.
Стар. 150. *…існуючага…* — Папраўлена на «дадатнага».

Стар. 150. *…адмаўленне…* — Папраўлена на «даследаванне».

Стар. 150. *…асабліва калі мець на ўвазе аднолькавасць ідэйных поглядаў і метаду творчасці.* — Выкраслена.

Стар. 150. *…найбольшага аўтарскага самавыражэння…* — Закрэслена, уверсе напісана: «паглыбленай увагі да чалавечай асобы».

Стар. 150. *…В. Адамчыка…* — Адамчык Вячаслаў (1933–2001) — беларускі пісьменнік.

Стар. 150. *…светлай маладой…* — Выкраслена.

Стар. 150. *…па зялёнай вуліцы і ў дарагім афармленні выдаюцца, ахвотна рэцэнзіруюцца…* — Выкраслена.

Стар. 150. *А колькі там абсалютна «правільных» герояў і колькі там станоўчага!* — Выкраслена.

Стар. 151. *…па-за метадам сацрэалізму…* — Закрэслена, уверсе напісана: «у рэчышчы крытычнага рэалізму».

Стар. 151. *«Ганна Карэніна»* — Раман рускага пісьменніка, класіка рускай літаратуры Льва Талстога (1828–1910).

Стар. 151. *…карціна М. Данцыга…* — Данцыг Май (нар. у 1930) — беларускі мастак; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973).

Стар. 152. *…«Хлеб» М. Савіцкага, «Вясна» А. Малішэўскага…* — Савіцкі Міхаіл (1922–2010) — беларускі мастак; народны мастак БССР (1972) і СССР (1983). Малішэўскі Альгерд (нар. у 1922) — беларускі мастак; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977).

Стар. 152. *...ці пasпрабаваў хто напісаць пра гэты твор у друку (як гэта зрабіў у «ЛіМе» выкладчык А. Скір)...* — Скір А. Спыніўшыся каля адной карціны: нататкі гледача // Літ. і мастацтва, 1963, 8 студз.

Стар. 152. *...у пытаннях элементарнае справядлівасці...* — Выкраслена.

Стар. 152. *...абыякавасць...* — Папраўлена на «безуважнасць». Стар. 152. *...хто з іх прывёў каго маладзейшага ў літаратуру, дапамог у пачатку шляху?* — Закрэслена, уверсе напісана: «або рэцэнзію на кнігу маладога літаратара».

Стар. 152. *...рэцэнзія Піліпа Пестрака на першы зборнік Рыгора Барадуліна.* — Пестрак Пілiп (1903–1978) — беларускі паэт, празаік, перакладчык. Размова ідзе пра рэцэнзію на кнігу Р. Барадуліна «Маладзік над стэпам» (Мінск, 1959): Пестрак П. Дзверы ў шырокі свет // Літ. і мастацтва, 1960, 9 студз.

Стар. 152. *Некаторыя ў гэтых адносінах бачаць старую, як свет, праблему бацькоў і дзяцей, але, здаецца, у наш час і ў нашай краіне няма такой праблемы ў шырокім яе разуменні — ёсць другая, вузейшая — праблема некаторых беспрынцыпных, запалоханых за доўгія гады культу бацькоў, і хіба што здараецца — абыякавых да народнага лёсу дзяцей. [...] Нягледзячы на перыядычныя часовыя палёгкі, свет прадаўжае жыць пад задыякам вадароднае бомбы.* — Выкраслена.

Стар. 153. *...матыў пераадолення, закрануты ў сваім артыкуле Б. Бур’янам...* — Бур’ян Барыс (1924–2009) — беларускі крытык, празаік. Размова ідзе пра артыкул: Бур’ян Б. На арбіту эпохі! // Літ. і мастацтва, 1962, 30 кастр.

Стар. 153. *...і жабрака, і ўласніка, і раба.* — Закрэслена, уверсе напісана: «усё, што перашкаджае шчырасці і праўдзівасці».

Стар. 153. *...часам да невыразнасці...* — Выкраслена.

Стар. 153. *...анемічна мастацтва.* — Папраўлена: «робіцца анемічным мастацтвам».

Стар. 153. *За выключэннем некаторых прыватнасцей, варты падтрымкі багатыя слушнымі думкамі артыкулы М. Стральцова, Б. Бур’яна, І. Навуменкі, В. Тараса, А. Мальдзіса і іншых. Гэта радуе, калі пісьменнікі выразна разумеюць свой абавязак і поўны рашучасці яго выканаць. У гэтым добры грунт пад заўтрашні дзень нашай літаратуры.* — Выкраслена. Мальдзіс Адам (нар. у 1932) — беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік. Тарас Валянцін (1930–2009) — беларускі паэт, перакладчык. Размова ідзе пра артыкулы: Мальдзіс А. Каб з пер’я выраслі галубы // Літ. і мастацтва, 1963, 4 студз.; Тарас В. Вечны агонь праўды // Літ. і мастацтва, 1962, 7 снеж.

## 1964

**Таленавітая аповесць** *(стар. 154)*

Друкуецца паводле арыгінала аўтарызаванага машынапісу, які захоўваецца ў БДАМЛМ: ф. 42, воп. 1, адз. зах. 433, арк. 1–8. Упершыню — часоп. «Полымя», 1964, № 7.

Датуецца паводле пазнакі напрыканцы машынапісу — *8 мая 1964 г.* Рэцэнзія на аповесць «Абжыты кут» (Маладосць, 1963, № 11, 12) Алеся Асіпенкі (Аляксандр; 1919–1994), беларускага пісьменніка, сцэнарыста [у публікацыі ў «Полымі» падаецца як рэцэнзія на кнігу «Абжыты кут» А. Асіпенкі (Мінск, 1964)].

Машынапіс (8 арк.) з аўтарскай і рэдактарскай праўкай. На 1-м арк. уверсе рэдакцыйная памета: «Полымя № 7 [*неразб.* ] 12.V.64». На 8-м, апошнім арк. — подпіс В. Быкава і дата — *8/V–64 г.* Сярод істотных правак, зробленых Быкавым, вылучаюцца наступныя:

Стар. 156. *...агульнапрынятае пустаслоўе...* — Першапачаткова: «дэмагагічнае балабонства».

Стар. 157. *Так яна працягвае жыць і цяпер, не разумеючы ўсёй нізкасці сваіх звычаяў.* — Першапачаткова: «Так яна працягвае жыць і цяпер, не разумеючы грамадскіх перамен у краіне і ўсёй нізкасці сваіх звычаяў».

* * *

Стар. 155. *З часоў коласаўскага Сцёпкі Баруты...* — Герой аповесці Я. Коласа «На прасторах жыцця».

Стар. 155. *...што селянін на сваёй зямлі павінен гаспадарыць, знаходзіць на ёй творчы пачатак і паэзію працы...* — Словы «гаспадарыць», «творчы», «паэзію працы» ў машынапісе падрэслены.

Стар. 158. *В. Бялінскі* — Бялінскі Вісарыён (1811–1848) — рускі літаратурны крытык, публіцыст.

**[Інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва»]** *(стар. 158)*

Друкуецца са скарачэннямі паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1964, 9 кастр., дзе ўпершыню апублікавана пад назвай «Галоўнае — праўда...». Запісаў А. Вярцінскі.

Датуецца часам першай публікацыі.

## 1965

**Высокий накал** *(стар. 163)*

Друкуецца паводле «Лит. газеты», 1965, 5 чэрв., дзе ўпершыню апублікавана ў рубрыцы «По страницам „Полымя“».

Датуецца часам першай публікацыі.

### **Замест аўтабіяграфіі** *(стар. 164)*

Друкуецца паводле: Быкаў В. Зб. тв.: у 6 т. Мінск, 1994. Т. 6. Аповесць, апавяданні, драма, публіцыстыка. Упершыню ў кн.: Пра час і пра сябе. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў / склад. і падрыхт. тэкстаў Я. Казекі. Мінск, 1966, дзе апублікавана пад назвай «Тры абзацы аўтабіяграфіі». Друкавалася таксама ў кн. «Праўдай адзінай» пад назвай «Тры абзацы аўтабіяграфіі».

Датуецца паводле пазнакі ў кн. «Пра час і пра сябе» — *18 чэрвеня 1965 г.*

Стар. 164. *Майн Рыд* (1818–1883) — англійскі пісьменнік, аўтар прыгодніцкіх раманаў.

Стар. 164. *Джэк Лондан* (1876–1916) — амерыканскі пісьменнік, найперш вядомы як аўтар прыгодніцкіх апавяданняў і раманаў.

Стар. 164. *Гайдар* Аркадзій (сапр. Голікаў; 1904–1941) — расійскі дзіцячы пісьменнік, удзельнік Грамадзянскай і Другой сусветнай войнаў.

Стар. 165. *Быў два разы паранены, ляжаў у шпіталях...* — У сапраўднасці Быкаў быў паранены тройчы, але ў шпіталях ляжаў двойчы (у студзені — красавіку 1944 г., у снежні 1944-га — лютым 1945 г.), трэці раз, па словах Быкава, рана была лёгкая, адзін асколак выцягнулі, але яго абломак застаўся ў правай руцэ на ўсё жыццё.

Стар. 165. *Сталінград для краіны быў аднойчы ў вайну...* — Маецца на ўвазе Сталінградская бітва (17 ліпеня 1942 г. — 2 лютага 1943 г.) — баявыя дзеянні савецкіх войскаў па абароне г. Сталінграда і разгрому вялікай стратэгічнай нямецкай групоўкі. Сталінградская бітва, разам з бітвай на Курскай дузе, стала пераломным момантам у ходзе ваенных дзеянняў падчас Другой сусветнай вайны.

Стар. 166. *Генрых Бёль* (1917–1985) — нямецкі пісьменнік; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1972).

### **Улада праўды** *(стар. 166)*

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1965, 27 жн., дзе ўпершыню апублікавана ў рубрыцы «Надрукавана ў „Полымі“»

Датуецца часам першай публікацыі.

Рэцэнзія на раман «Мост» Івана Шамякіна (1921–2004), беларускага пісьменніка, драматурга, грамадскага дзеяча; народнага пісьменніка БССР (1972) (апублікавана ў часоп. «Полымя», 1965, № 6, 7).

У сувязі з гэтай рэцэнзіяй В. Быкаў пісаў у лісце да Я. Брыля:

> «Сапраўды, мы вельмі чэрствыя адзін да аднаго, нават аднадумцы, у большасці падвержаны сальераўскаму пароку і не кожны здольны пераступіць цераз сябе, каб парадавацца чужой удачы. У гэтым сэнсе „Мост“ для мяне — радасць, у тым ліку і мастацкая (як для чытача), але найбольш за аўтара, які, даволі пакружыўшы, вяртаецца на „кругі своя“, да сваёй, чалавечай, хоць і абскубанай, але праўды. Вось гэты аўтарскі кірунак і змусіў мяне падтрымаць аповесць, я сам напісаў рэцэнзію і „ЛіМ“, трохі яе папатрашыўшы, надрукаваў».

Стар. 170. *Прыгадваючы тут нядаўняе меркаванне крытыка Б. Бур'яна, выказанае ім у «ЛіМе»...* — Бур'ян Б. На арбіту эпохі! // Літ. і мастацтва, 1962, 30 кастр.

**У пошуках ісціны** *(стар. 171)*

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1965, 5 лістап., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул надрукаваны з наступным уступным словам: «Не так даўно ў Рыме адбыўся чарговы кангрэс Еўрапейскага таварыства пісьменнікаў. У складзе савецкай дэлегацыі ў рабоце кангрэсу прыняў удзел празаік Васіль Быкаў. Ніжэй друкуюцца яго нататкі».

Стар. 172. *...з яго лідэрам Ісідорам Ісу...* — Ісідор Ісу (1925–2007) — французскі паэт румынскага паходжання.

Стар. 172. *Бекет* Сэмюэл (1906–1989) — ірландскі празаік, паэт, драматург; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1969); прадстаўнік мадэрнізму ў літаратуры.

Стар. 172. *Жане* — Дакладней: Жэне Жан (1910–1986) — французскі празаік, паэт, драматург.

Стар. 172. *Оруэл* Джордж (сапр. Блэр Эрык Артур; 1903–1950) — англійскі пісьменнік.

Стар. 172. *Олбі* Эдвард (нар. у 1928) — амерыканскі

драматург.

Стар. 172. *Хакслі* Олдас (1894–1963) — англійскі пісьменнік.

Стар. 172. *...аж да Камю, Сартра і Іянеска...* — Камю Альбер (1913–1960) — французскі філосаф-экзістэнцыяліст, празаік, драматург; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1957). Сартр Жан Поль (1905–1980) — французскі пісьменнік, філосаф-экзістэнцыяліст. Іянэска Эжэн (1909–1994) — французскі драматург румынскага паходжання; адзін з заснавальніку эстэтычнай плыні абсурдызму (тэатра абсурду).

Стар. 173. *Джойс* Джэймс (1882–1941) — ірландскі пісьменнік, прадстаўнік мадэрнізму.

Стар. 173. *Кафка* Франц (1883–1924) — нямецкамоўны пісьменнік чэшскага паходжання (нарадзіўся ў г. Празе, у той час — частка Аўстра-Венгерскай імперыі).

Стар. 174. *Ботэз* Демастэнэ (1893–1973) — румынскі паэт.

Стар. 174. *Б. Сучкоў* — Сучкоў Барыс (1917–1974) — расійскі літаратуразнавец; у 1967–1974 гг. дырэктар Інстытута сусветнай літаратуры.

Стар. 174. *Вейдле* Уладзімір (1895–1979) — французскі літаратуразнавец, культуролаг, гісторык культуры рускай эміграцыі і паэт расійскага паходжання (нарадзіўся ў С.-Пецярбургу). Эмігрыраваў з Расіі ў Парыж у 1924 г.

Стар. 174. *В. Аксёнаў* — Аксёнаў Васілій (1932–2009) — расійскі пісьменнік, дысідэнт, адзін з арганізатараў і аўтараў альманаха «Метрополь». Пратэстуючы супраць выключэння з СП СССР за арганізацыю альманаха «Метрополь» пісьменнікаў Я. Папова і В. Ерафеева, заявіў аб выхадзе з СП. Часова выехаўшы ў ЗША ў 1980 г., на наступны год даведаўся аб пазбаўленні савецкага грамадзянства (было вернута ў 1990 г.). Да 2004 г. жыў у ЗША. У апошнія гады — у Францыі і Расіі.

Стар. 174. *Ф. Феліні* — Феліні Федэрыка (1920–1993) — італьянскі кінарэжысёр; лаўрэат пяці прэмій «Оскар» (1957, 1958, 1964, 1976, 1993).

Стар. 175. *...у заходнегерманскім горадзе Дзюсельдорфе фашысцкія і абскурантысцкія элементы распачалі раз'юшаную кампанію супраць аднаго з прагрэсіўных літаратараў ФРГ Гюнтара Граса. Быў падпалены дом пісьменніка і спалены на гарадской плошчы ягоныя кнігі, таксама як і кнігі Эрыка Касцера, Франсуазы Саган і іншых пісьменнікаў.* — Грас Гюнтар (нар. у 1927) — нямецкі пісьменнік, скульптар, мастак; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1999). Кестнер Эрых (1899–1974) — нямецкі пісьменнік, сцэнарыст. Саган Франсуаза (сапр. Куарэ; 1935–2004) — французская пісьменніца, драматург. Быкаў, мусіць, памыліўся, бо Г. Грас падчас Другой сусветнай

вайны у 15-гадовым узросце быў прызваны для абслугоўвання зенітнай батарэі, а ў 1944 г. быў залічаны ў 10-ю танкавую дывізію войск СС, у складзе якой удзельнічаў у красавіку 1945 г. у баях супраць савецкага войска.

Аднак кнігі Э. Кестнера былі сапраўды спалены ў 1934 г. Нямецкім студэнцкім саюзам у супрацоўніцтве з Гітлерюгендам, маладзёжнай арганізацыяй нацыянал-сацыялістычнай партыі Германіі, — у ліку 25 тыс. «негерманскіх» кніг (сярод аўтараў былі таксама К. Каўцкі, К. Маркс, Г. Ман, Э. Рэмарк, З. Фрэйд і інш.).

**Пяром аналітыка** *(стар. 175)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — часоп. «Маладосць», 1966, № 2. Друкавалася таксама ў кн. «Праўдай адзінай».

Датуецца паводле пазнакі напрыканцы машынапісу артыкула, які захоўваецца ў БДАМЛМ (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 393, арк. 56–60), — *24 снежня 1965 г.*

Аўтарызаваны машынапіс (5 арк.) з нязначнай праўкай пад назвай «Перад выбарам» (назва закрэслена, рэдактурай часоп. «Маладосць» уверсе напісана: «Сцілом аналітыка»), рэдакцыйнай паметай на 1-м арк. — «2 экз.», на апошнім подпіс В. Быкава і дата — *24/XII–65.*

Стар. 176. *...вакол «Птушак і гнёздаў»...* — Раман Я. Брыля.

Стар. 176. *...«Каласоў пад сярпом тваім»...* — Раман Уладзіміра Караткевіча (1930–1984), беларускага пісьменніка, драматурга, публіцыста, перакладчыка.

Стар. 176. *«Людзі на балоце»* — Раман Івана Мележа (1921–1976), беларускага пісьменніка, драматурга; народнага пісьменніка Беларусі (1972).

Стар. 176. *«Сэрца на далоні»* — Раман І. Шамякіна.

Стар. 176. *...выказаную Стэндалем ісціну...* — Стэндаль (сапр. Бейль Мары-Анры; 1783–1842) — французскі пісьменнік.

Стар. 176. *...Кулакоўскага...* — Кулакоўскі Аляксей (1913–1986) — беларускі пісьменнік.

Стар. 176. *...дасягнуты за апошнія гады...* — У машынапісе: «за паслякультаўскія гады», але падкрэслена і папраўлена.

Стар. 178. *Уільям Фолкнер* (1897–1962) — амерыканскі пісьменнік; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1949).

Стар. 178. *Толькі ці варта?!* — Далей з новага абзаца ішло, але закрэслена: «Ці варта таксама замілоўвацца і таяць ад штучнай радасці пры выглядзе, можа, яшчэ сціплых сваіх спраў? Апяваць тое, што наўрад ці заслугоўвае песні? Рамантызаваць там, дзе

найперш трэба выкрываць? Славасловіць тых, хто мае патрэбу ў дзейснай падтрымцы і дапамозе?»

Стар. 178. *...гэта труба, вечавы звон, барабан...* — У машынапісе: «гэта труба, вечавы звон, барабан ці там-там».

## 1966

### **Природа поэтического** *(стар. 179)*

Друкуецца паводле газ. «Гродненская правда», 1966, 23 сак., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 180. *...«Илиаду» Гомера...* — Гамер (VIII ст. да н. э) — старажытнагрэчаскі паэт; аўтар эпічных паэм «Іліяда» і «Адысея».

Стар. 180. *«Слово о полку Игореве»* — Поўная назва — «Слова пра паход Ігараў, Ігара, сына Святаславава, унука Алегава». Літаратурны помнік старажытнарускай літаратуры канца XII ст., сюжэт якога заснаваны на няўдалым паходзе 1185 г. паўднёварускіх князёў на чале з Ігарам Святаславічам супраць полаўцаў.

Стар. 180. *...В. Маяковского, С. Есенина...* — Маякоўскі Уладзімір (1893–1930), Ясенін Сяргей (1895–1925) — расійскія паэты; класікі рускай літаратуры.

Стар. 183. *...Н. А. Некрасова...* — Някрасаў Мікалай (1821–1877) — рускі паэт, празаік, публіцыст; класік рускай літаратуры.

### **[Интервью для АПН]** *(стар. 185)*

Друкуецца са скарачэннямі паводле машынапісу (5 арк.), які захоўваецца ў Архіве В. Быкава (Гродна). Упершыню — Татаринов М. Художник суровых горизонтов: в гостях у писателя Василя Быкова // Культура и искусство: вестник Агентства печати «Новости», 1966, № 12 (216). Друкавалася таксама: Татаринов М. Художник суровых горизонтов: в гостях у писателя Василя Быкова // Советская Каракалпакия, 1966, 16 крас.

Датуецца не пазней за *23.III.1966 г.* — паводле пазнакі на машынапісе.

Інтэрв'ю было падрыхтавана з наступным уступным словам: «В. В. Быков — талантливый белорусский прозаик. Широко известны его изданные в Минске и Москве повести — „Журавлиный крик“, „Фронтовая страница“, „Третья ракета“, „Альпийская баллада“, „Западня“. В первых номерах журнала „Новый мир“ за 1966 год опубликована его новая повесть —

„Мертвым не больно“.

Война застала парнишку далеко от отцовского дома, В самом начале лета сорок первого года Василь из родной белорусской деревни на Витебщине приехал в украинский городок Шостка, где жил его дядька. Было ему тогда семнадцать лет, за плечами десятилетка, мечтал поступить в индустриальный институт. Но гостевать долго не пришлось. Местный военком взял Василя и многих его сверстников в армию буквально под самым носом у наступавших фашистов. Не прошло и месяца, как вместе со своей частью он оказался в Воронеже. Но тут вышел приказ — ребят двадцать четвертого года рождения отпустить, пусть чуток подрастут. Так оказался Василь Быков на Волге, под Саратовом. Работал. Призвали в сорок втором. После недолгого пребывания в запасном полку направили в пехотное училище в Саратове».

Стар. 186. *...в самом конце сорок восьмого года написал рассказ «В первом бою» на основе личных фронтовых впечатлений. Его напечатала газета «Гродненская правда».* — Быков В. В первом бою // Гродненская правда, 1949, 19 июня.

### **Выступленне на V з’ездзе СП БССР** *(стар. 189)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню ў кароткім пераказе — Разам з партыяй, разам з народам // Літ. і мастацтва, 1966, 20 мая; Богданова З. Достойно служить народу // Лит. газета, 1966, 21 мая; цалкам — часоп. «Крыніца», 1990, № 4 пад назвай «Прамова на V з’ездзе пісьменнікаў Беларусі». Друкавалася таксама ў кн.: Быкаў В. На крыжах: выступленні, артыкулы, інтэрв’ю. Мінск, 1992.

Датуецца не пазней за 13 мая 1966 г. — дня выступлення на V з’ездзе СП БССР.

Гісторыя з’яўлення прамовы вядомая з успамінаў В. Быкава:

> «Зусім нечакана ў Горадні паявіўся мой перакладчык Міхась Гарбачоў. Ранкам проста зь цягніку ён прыбег да мяне на Алега Кашавога, сказаў, што прыехаў інкогніта, бо мае дужа пільную справу. Праз публікацыю маёй аповесьці, да якой і ён спрычыніўся, у ЦК КПСС падняўся вялікі скандал, рыхтуецца закрытая пастанова на гэты конт, якая чорт ведае што можа нарабіць. Таму трэба папярэдзіць — прызнаць крытыку і павініцца. Найлепш таемна, у выглядзе асабістага ліста ў ЦК. Я, натуральна, не пагадзіўся, Міхась

пачаў націскаць. Мы ўсчалі спрачацца, сварыцца і, вядома, піць. Спрачаліся і пілі ці ня суткі запар, але да згоды так і не прыйшлі. Сказана было шмат усялякай п’янай лухты, але нямала і прынцыповага, што неадольнай мяжой разьдзяліла мяне з маім перакладчыкам. У канцы ён сказаў: што ж, аповесьць, канешне, цяпер ня выдадуць, будзе ляжаць, бы запасны капітал у сэйфе. Можа, калі-небудзь… […]

Правёўшы Гарбачова на маскоўскі цягнік, я засеў за прамову. Нячаста я выступаў на пісьменьніцкіх зборышчах такога роду, але тут рашыўся. (Пасьля некаторыя з маіх дужа інфармаваных апанэнтаў абсалютна дарэмна звальвалі гэта на невінаватага ў тым Гарбачова.) Дый Алесь Адамовіч сказаў па тэлефоне: прамаўчаць ты ня маеш права, асабліва калі за цябе могуць пацярпець іншыя. За дзень я накідаў выступ з маімі поглядамі і маімі нязгодамі. Прыехаўшы ў Менск, даў прачытаць тое некаторым маскоўскім гасьцям — Аскоцкаму і Лазараву, яны не пярэчылі. Хіба толькі Лазараў, які крыху ведаў маю ня надта спрактыкаваную манеру выступаць, сказаў: не затараплівай. Тое было правільна: я стараўся прачытаць напісанае як мага хутчэй, і тое выглядала кепска. Чытаў у вялікім нэрвовым напружаньні, пры абсалютнай цішыні ў залі, а як скончыў, заля нечакана грымнула воплескамі. Некаторыя ў задніх шэрагах нават усталі. Начальства ў прэзыдыўме, вядома, сядзела з каменнымі тварамі. […] Ворагаў той прамовай я, вядома, набыў нямала (усё кіраўніцтва, якое пасьля доўга пазьбягала са мной вітацца), але паболела і сяброў». Быкаў пісаў жонцы А. Твардоўскага Марыі Іларыёнаўне: «…могу сообщить Вам относительно моего выступления на съезде в мае 1966 года: ни в Москве, ни в Минске оно не печаталось, давалось только изложение его, тенденциозное и ругательное. Потом его напечатали на Западе и у нас велось следствие, как оно попало туда».

У БДАМЛМ захоўваецца стэнаграма выступлення В. Быкава: ф. 78, воп. 1, адз. зах. 45, арк. 82–93. У Архіве В. Быкава (Гродна)

на адной з папак пісьменнікам пакінуты накіды да выступлення, якія былі зроблены простым алоўкам і якія могуць быць датаваны 13 мая 1966 г.:

> «Я не падзеляю аптым[істычнай] думкі, шчодра выказанай учарашн[імі] дакладчыкамі адносна высокіх дасягн[енняў] нашай літ[аратуры].
>
> У кожнай сітуацыі можна знайсці выпадкі для прыкладаў, для аптымістычных высноў. У гэтым сэнсе я думаю, што нашы дакладчыкі ўчора ў поўнай меры выкарысталі гэтую магчымасць, таму я хачу найбольш закрануць другі бок нашай літаратурнай справы. Мне думаецца, што калі мерацць па „большому счету“ — як гэта адзіна і магчыма ў адносінах да мастацтва, становішча ў літ[аратуры] трохі іншае.
>
> Нават у рус[кай] літ[аратуры] яно не [*неразб.* ].
>
> Можа быць, каму-небудзь весялей было б пачуць ад мяне пакаянне ў духу Го Мо-жо, але што ж, пара [*неразб.* ] вучыцца гаварыць тое, што думаеш».

* * *

Стар. 193. *Гогарт* Уільям (1697–1764) — англійскі мастак, тэарэтык мастацтва, заснавальнік нацыянальнай школы жывапісу. Ілюстратар і аўтар сатырычных гравюр, Гогарт многія творы стварыў з мэтай выхоўвання мастацкай творчасцю маральнага пачатку ў чалавеку і выкаранення заган.

Стар. 194. *Я мог бы прывесці красамоўныя прыклады з уласнай практыкі, з жыцця ўсім нам вядомага Аляксея Карпюка, які за наіўную спробу напісаць праўдзівую літаратурную аўтабіяграфію свайго, я б сказаў, гераічнага жыцця паплаціўся ўжо шмат чым і, мабыць, паплаціцца яшчэ.* — Размова, мусіць, ідзе пра публікацыю аўтабіяграфічнага твора А. Карпюка «Мая Джамалунгма» (Маладосць, 1965, № 1). Сам Карпюк гаварыў падчас выступлення на гэтым жа з’ездзе СП: «Чатыры гады я працаваў загадчыкам агенцтва „Інтурыст“. Калі ж у мюнхенскай „Бацькаўшчыне“ з’явілася хвалебная рэцэнзія на маю аўтабіяграфію з „Маладосці“, сакратар нашага абкама партыі т. Міцкевіч даў загад: мяне з „Інтурыста“ прагнаць па прынцые —

калі вораг хваліць, значыць, я кепскі». У лісце ж да 1-га сакратара ЦК КПБ П. Машэрава Карпюк пісаў адносна аўтабіяграфічных фрагментаў свайго незавершанага твора «Мая Джамалунгма»: «…мне кажется, что вокруг этих фрагментов слишком много создали шума. Вместо того, чтобы автору указать на недостатки в них, началась расправа.

Вскоре после напечатания моей биографии были наказаны тт. Панченко и Асипенко (я перед ними очень виноват). Затем меня из-за этого произведения уволили из „Интуриста“ (некоторые товарищи для этого подделали так, будто я дал… американцу документ!). Вычеркивают все время мои книги из списков издательств (днями т. Коновалов опять вычеркнул меня из очередного списка). Страдают из-за меня даже родные и посторонние люди. Недавно кандидат фил[ологических] наук т. Козлов принес в „Гродненскую правду“ рецензию на мою книгу, ему ее вернули, заявив:

— Карпюк в опале, разве вы не знаете?!

Директор 12-й СШ, где работает моя жена учительницей, завел в горкоме партии разговор о поощрении И. Карпюк, но получил за эту взбучку…

И т. д. и т. п. сей этой ерунды не хочется описывать.

Если меня выгонять с работы, не печатать тех книг, которые уже приняты читателем, преследовать даже членов семьи и посторонних лиц, так это уже будет называться не работа с автором, сделавшим промахи в произведении, а — местью».

Стар. 194. *Луначарскі* Анатоль (1875–1933) — савецкі дзяржаўны дзеяч, філосаф, пісьменнік, мастацтвазнавец; акадэмік АН СССР (1930); народны камісар асветы РСФСР (1917–1929); старшыня Вучонага камітэта пры ЦВК СССР (1929–1933); адзін з арганізатараў савецкай сістэмы адукацыі. Садзейнічаў арганізацыі БДУ ў Мінску (1921).

Стар. 195. *Беларуская літаратура — не толькі тое, што выдадзена ў ведамстве Захара Пятровіча.* — Матузаў Захар (1911–1977) — дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва БССР.

Стар. 195. *Дзённікі і нататкі Даўжэнкі…* — Даўжэнка Аляксандр (1894–1956) — расійскі кінарэжысёр украінскага паходжання (нарадзіўся ў Чарнігаўскай губерні), пісьменнік, сцэнарыст; народны артыст РСФСР (1956); лаўрэат Сталінскай (1941, 1949) і Ленінскай (1959, пасмяротна) прэмій.

Стар. 195. *…шматпакутныя творы Гарэцкага…* — Гарэцкі Максім (1893–1938) — беларускі пісьменнік, класік беларускай літаратуры. У 1930 г. быў арыштаваны па абвінавачванні ў прыналежнасці да Саюза вызвалення Беларусі; у 1931 г. асуджаны да высылкі на пяць гадоў у Вятку (Расія); у 1937 г. зноў

арыштаваны і затым расстраляны; у 1957 г. пасмяротна рэабілітаваны.

Стар. 195. *Варта памятаць, што Лукаш Бэндэ ўвайшоў у нашу культуру гэтак жа назаўжды, як і тыя пакутнікі, якіх ён загубіў.* — Бэндэ Лукаш (1903–1961) — беларускі крытык, літаратуразнавец. Прыкрываючыся ў 1930-я гг. ідэяй новай культуры, цалкам адмятаў культурны набытак мінулага, абвяшчаючы пры гэтым дакастрычніцкую беларускую літаратуру контррэвалюцыйнай, прасякнутай буржуазналіберальнай ідэалогіяй. З гэтых пазіцый займаўся палітычнай і літаратурнай дыскрэдытацыяй Я. Купалы, Я. Коласа. Абвінавачваў членаў літаратурных аб’яднанняў «Узвышша» і «Полымя» ў буржуазным нацыяналізме, дэкадэнцкіх ухілах, называў іх класавымі ворагамі савецкай дзяржавы. Дзякуючы вульгарызатарскай дзейнасці Бэндэ былі рэпрэсаваны многія выдатныя прадстаўнікі беларускай літаратуры.

Стар. 195. *А. Макаёнак* — Макаёнак Андрэй (1920–1982) — беларускі драматург; народны пісьменнік БССР (1977).

Стар. 195. *Магчыма, гэтыя словы не ўсім спадабаюцца. Можа, замест іх камусьці хацелася б пачуць ад мяне пакаянне ў духу Го Мажо.* — Го Ма-жо (1892–1978) — кітайскі пісьменнік, гісторык, археолаг, дзяржаўны дзеяч; першы старшыня Акадэміі навук КНР (1949–1978); лаўрэат Міжнароднай Сталінскай прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі» (1951). В. Аскоцкі сведчыў: «Адна з цэнтральных газэт, магчыма, тая ж „Літаратурная“, передрукавала ўнікальнае па ўгодлівасьці, самапрыніжэньні і ўкленчваньні пакаяньне кітайскага акадэміка-пісьменьніка перад „вялікім кормчым“. На гэты знакавы прыклад труслівага ўслужэньня ўладзе і спашлецца Васіль Быкаў на наступны дзень, узьняўшыся на трыбуну зьезда». У Архіве В. Быкава (Гродна) захоўваецца выразка з прыгаданым артыкулам:

> «…Друзья и товарищи обычно считают меня деятелем культуры, некоторые даже называют писателем, поэтом и в то же время историком. За несколько десятков лет я написал и перевел ряд произведений объемом, пожалуй, в несколько миллионов иероглифов.
>
> Однако если подходить к этому с критериями сегодняшнего дня, то все написанные мною до сих пор произведения, строго говоря, нужно полностью сжечь, они не стоят ничего.
>
> В чем же состоит главная причина? Она заключается в том, что я не овладел идеями

председателя Мао, не вооружился идеями председателя Мао и поэтому иногда у меня бывает очень туманная классовая точка зрения. […]

Конечно, я действительно работник литературы и искусства и притом председатель Всекитайской ассоциации работников литературы и искусства. Нельзя сказать, что я не несу ответственности за появление сквозняка и вредного ветра. Прошло более 20 лет со времени опубликования „Выступлений на совещании по вопросам литературы и искусства в Яньани“ председателя Мао. Я читал их много раз. Иногда на словах могу говорить о необходимости служить рабочим, крестьянам и солдатам, о необходимости учиться у них. Но все это остается лишь на словах. Только говорить о марксизме-ленинизме, только писать о марксизме-ленинизме — это не значит работать понастоящему, не значит претворять его на практике, не значит поступать в соответствии с указаниями председателя Мао, не значит овладеть идеями председателя Мао.

Мне очень стыдно. Председатель Мао еще 20 лет тому назад учил нас, чтобы мы служили рабочим, крестьянам и солдатам. Сегодня не мы служим рабочим, крестьянам и солдатам, а рабочие, крестьяне и солдаты служат нам. Рабочие, крестьяне и солдаты, изучив произведения председателя Мао, сейчас пишут лучше нас. Мы, работники пера, работники литературы и искусства, историки, философы, особенно должны заняться глубоким самоанализом. Мне лично очень тяжело сознавать, что я действительно не преобразовал себя как следует. […]

— Многие крестьяне, — заявил Го Мо-жо, — фактически изучают произведения Мао Цзедуна лучше любого из нас, изучают намного лучше нас — интеллигенции. Мы, интеллигенты, разглагольствующие философы, историки и прочие, по сравнению с ними просто не можем считаться таковыми…

Нам действительно стыдно. Особенно стыдно мне. Сам я, как член партии и вроде бы ученый, должен просто рыдать. […]

Хотя мне уже за семьдесят, но у меня есть еще мужество и воля; иными словами, если мне нужно поваляться в грязи, то я хочу это сделать; если мне нужно запачкаться мазутом, то я хочу это сделать, и даже если нужно будет обагрить тело кровью в случае нападения на нас американского империализма, то я также хочу бросить в американских империалистов несколько гранат».

### **Урокі жыцця** *(стар. 196)*

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1966, 2 снеж., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца часам першай публікацыі.

Рэцэнзія на аповесць «Вікторыя» А. Адамовіча (Маладосць. 1966, № 2; Неман. 1966, № 3) надрукавана разам з рэцэнзіяй Б. Бур'яна пад агульнай назвай «Алесь Адамовіч. „Вікторыя". Дзве думкі».

У Архіве В. Быкава (Гродна) захоўваецца машынапіс і чарнавая рэдакцыя пачатку артыкула (адпаведна 1 арк. з праўкамі чорным чарнілам і 1 арк. фіялетавым чарнілам), а таксама рукапісныя тэзісы да рэцэнзіі — 2 арк. простым алоўкам і з паметамі чорным чарнілам.

## **1967**

### **Черный хлеб правды** *(стар. 199)*

Друкуецца паводле арыгінала аўтарызаванага машынапісу з Архіва В. Быкава (Гродна). Машынапіс (10 арк.) са шматлікімі праўкамі рукой Быкава сінім чарнілам і чырвоным алоўкам. Упершыню — часоп. «Новый мир», 1967, № 11 са значнымі скарачэннямі і пад назвай «Быть достойными нашего читателя».

Датуецца часам першай публікацыі.

Надрукавана як адказ на анкету «Полвека советской литературы» часоп. «Новый мир», нагодай для чаго паслужыла 50-годдзе савецкай улады (на анкету таксама адказалі Р. Бакланаў, А. Бэк, М. Карым, Э. Межэлайціс, К. Паўстоўскі, М. Рыленкаў, В. Сёмін). Значна перапрацавана і, мусіць, скарочана ў «Новом мире» была яшчэ першапачатковая рэдакцыя артыкула В. Быкава, на карысць гэтага сведчыць ліст І. Вінаградава:

«Дорогой Василь!

Посылаю Вам окончательно выправленную (после всего нашего редакторского варварства) верстку анкеты. Она уже послана на подпись и для утверждения — это текст, который мы решаемся предложить и будем отстаивать. К сожалению, согласовать его с Вами предварительно не было ни малейшей технической возможности — согласовывать имело смысл только окончательный текст, а этот вид он приобрел только вчера — после всех внутренних согласований и увязок. Не сердитесь на нас за это, ради бога, — это все-таки, как Вы понимаете, совершенно исключительный случай. И именно потому, что он исключительный, убедительно просим Вас не вносить больше никакой правки (кроме разве лишь крайне необходимой и притом допустимой) и смиренно принять все наши — увы, тоже необходимые — изъяны, сокращения, смягчения и т. п. Если у Вас будут какие-нибудь принципиальные соображения — позвоните сразу же мне или Мише Хитрову (наш новый отв[етственный] секретарь) — через Софью Ханановну (по телефону Твардовского). Но, думаю, Вы все понимаете и без моих призывов. Тем более что еще совсем неизвестно, будет ли вся эта наша анкета вообще напечатана.

***Ваш И. Виноградов. 28.XI/67 г.»***

Трэба думаць, першая рэдакцыя анкеты В. Быкава адносіцца да 13 ліпеня 1967 г., бо ў гэты час ён пісаў У. Лакшыну: «Вчера послал 5 страничек в № 11-й. Только вряд ли они туда подойдут: путано и отнюдь не юбилейно».

Стар. 199. *Теперь уже стала совершенно очевидной та истина, что сокрытие правды, какого-нибудь нежелательного явления в обществе гораздо опаснее, чем даже самое нежелательное его обнародование. […] Важнейшие реформы в экономике вряд ли были бы возможны без всестороннего публичного исследования наметившихся в ней конфликтов и неувязок.* — У часоп. публікацыі гэты фрагмент выглядае наступным чынам: «Совершенно очевидно, например, что важнейшие реформы в экономике, предпринятые в последние годы нашим государством, вряд ли были бы возможны без всестороннего публичного исследования наметившихся в ней

тенденций, конфликтов и неувязок».

Стар. 199. *Немало книг о нашем недавнем прошлом ценны главным образом своей мерой постижения правды, даже безотносительно к их чисто художественным, литературным достоинствам.* — Адсутнічае ў часоп. публікацыі.

Стар. 199. *В самом деле, когда мы читаем «Брестскую крепость» С. С. Смирнова, «сельские» книги В. Овечкина, Е. Дороша, Б. Можаева, С. Крутилина, последнюю повесть Ч. Айтматова или совершенно беспощадные в своей жизненной оголенности «Матренин двор» или «Один день Ивана Денисовича» А. Солженицына, то приемы стиля, красоты языка и хитрости композиции как бы утрачивают для нас все свое немаловажное, в других случаях решающее, значение.* — У часоп. публікацыі: «В самом деле, когда мы читаем, например, „Брестскую крепость“ С. С. Смирнова, „сельские“ книги В. Овечкина, Е. Дороша, С. Крутилина, Л. Иванова, П. Ребрина, „Из жизни Федора Кузькина“ Б. Можаева, последнюю повесть Ч. Айтматова, „Один день Ивана Денисовича“ А. Солженицына, то поражаемся прежде всего заключенной в этих произведениях концентрированной силе правды жизни, психологической точности характеров, жизненной емкости ситуаций». Авечкін Валянцін Уладзіміравіч (1904–1968) — расійскі пісьменнік, драматург. Дораш Яфім (1908–1972) — расійскі пісьменнік; сябра рэдкалегіі і загадчык аддзела прозы часоп. «Новый мир» (1967–1970). Мажаеў Барыс (1923–1996), Круцілін Сяргей (1921–1985) — расійскія пісьменнікі. Айтматаў Чынгіз (1928–2008) — кіргізскі пісьменнік; народны пісьменнік Кіргізскай АССР (1974). Іваноў Леанід (1914–1999), Рэбрын Пётр (1915–1987) — расійскія пісьменнікі.

Стар. 199. *Правда жизни народа, воплощенная в образах искусства, стала важнейшей эстетической категорией нашего искусства. […] Несмотря на свою общепризнанность, правда далеко еще не стала надоевшей роскошью и все еще являет собой черный хлеб жизни, имеющие обыкновение нелегко доставаться тому, кто добывает его в поте лица.* — Адсутнічае ў часоп. публікацыі. Залатускі Ігар (нар. у 1930) — расійскі крытык, пісьменнік.

Стар. 200. *Что до той правды, которую связывают с прозой о войне, то для меня она открылась с «Окопов Сталинграда» В. Некрасова. […] Порой создавалось впечатление, что сторонники «облегченной» военной доктрины, пережив крушение ее на войне, перенесли эту доктрину на литературу о войне.* — У часоп. публікацыі: «Что до той темы, которая особенно близка мне как литератору, то для меня она открылась с „Окопов Сталинграда“ В. Некрасова. Позже, помнится, поразили „Двое в степи“ Э.

Казакевича. Впрочем, нельзя не сказать, что и до этих книг были хорошие вещи о войне — очерки, рассказы, „Волоколамское шоссе“ А. Бека, „Красная ракета“ Г. Березко и другие книги». Бярозка Георгій (1905–1982) — расійскі пісьменнік, сцэнарыст, кінарэжысёр беларускага паходжання (нарадзіўся ў Вільні) (у арыгінале ў Быкава памылкова — «А. Березко»).

Стар. 200. *Казалось, большинство написанного о войне в первое послевоенное десятилетие лежало за пределами военной реальности и уж наверняка вне моего личного военного опыта. […] Это, разумеется, не могло не озадачить и отбивало желание не только к литературному творчеству, но и к литературному чтению.* — У часоп. публікацыі: «Казалось, многое из написанного о войне в первое послевоенное десятилетие лежало вне моего личного военного опыта».

Стар. 201. *Но вот с появлением первых военных повестей Г. Бакланова и Ю. Бондарева и некоторых других вещей все стало на свое место. […] «Батальоны просят огня», «Пядь земли» наряду с «В окопах Сталинграда», «Волоколамским шоссе» явились вершиной нашей военной прозы и таковой остаются невзирая ни на какие критические наскоки, ставшие обычными для всякого сколько-нибудь стоящего произведения.* — У часоп. публікацыі: «Многое прояснило для меня появление первых военных повестей Г. Бакланова и Ю. Бондарева и некоторых других вещей. Оказалось, что не случайна та война, которую пережил любой фронтовик, эта памятная настоящая война во всей ее доподлинности явилась со страниц книг. Да и каких книг! „Батальоны просят огня“, „Пядь земли“ встали рядом с повестью В. Некрасова и „Волоколамским шоссе“ А. Бека и вместе с ними дали начало одной из наиболее плодотворных традиций нашей военной прозы. Это была высокая литература еще и потому, что правда войны в ней нашла подлинно художественное воплощение, что весьма нелегко и требует от художника, кроме мужества, еще и таланта».

Стар. 201. *Это они своей истинной драматичностью, беспощадной правдой в изображении многотрудного лиха войны и, самое главное, всесторонним рассмотрением человеческого поведения на войне обусловили появление несколько позже таких отличных книг на тему войны, как «Самый далекий берег» А. Злобина, «Неудача» Ю. Гончарова, «На войне как на войне» В. Курочкина, повестей и рассказов В. Богомолова, В. Рослякова, К. Воробьева, М. Пархомова, В. Балтера, В. Астафьева, О. Горчакова и др. Побудительный пример их пошел еще дальше, на периферию, и отозвался в произведениях А. Адамовича, А. Гончара, А. Карпюка, Л. Первомайского, М. Слуцкиса.* — У часоп. публікацыі: «Это они

своей истинной драматичностью, достоверностью изображения войны и, самое главное, всесторонним рассмотрением человеческого поведения на войне обусловили появление несколько позже других отличных книг о войне». Ганчароў Юрый (1923–2013), Курачкін Віктар (1923–1976), Раслякоў Васілій (1921–1991), Вараб'ёў Канстанцін (1919–1975), Балтар Барыс (1919–1974), Гарчакоў Авідзій (1924–2000) — расійскія пісьменнікі. Первамайскі Леанід (1908–1973) — украінскі паэт, драматург. Слуцкіс Міколас (1928–2013) — літоўскі пісьменнік; народны пісьменнік Літоўскай ССР (1984).

Стар. 201. *...правде жизни.* — Тут і ніжэй у часоп. публікацыі «истина».

Стар. 201. *В противном случае она, мягко выражаясь, без надобности.* — У часоп. публікацыі «бесполезна». У машынапісе далей з новага абзаца ішло, але выкраслена: «Пожалуй, банальным стало утверждение, что за годы Советской власти культурно вырос читатель. Это действительно так, и в этом удивительном росте одно из главнейших достижений нашего строя. Он, этот читатель (не тот, разумеется, который читает лишь с точки зрения воспитания молодежи, а массовый, рядовой, читающий для себя, для потребности своей души) — наш общественный барометр, наш судья и наша негласная совесть. Но он неизменно требует правды, только правды о народной жизни, какой бы она ни была, он всегда чрезвычайно чуток к малейшей фальши, недомолвкам и особенно к приукрашиванию его далеко еще не идеальной жизни». У часопіснай публікацыі гэты фрагмент пададзены наступным чынам: «Общепринятым стало утверждение, что за годы советской власти культурно вырос читатель. Это действительно так, и в этом удивительном росте — одно из главнейших достижений нашего строя. Он, этот читатель, наш общественный барометр, наш судья и наша негласная совесть. И он всегда чрезвычайно чуток к малейшей фальши, недомолвкам и особенно к приукрашиванию жизни».

Стар. 202. *...для собственно литературы в ее изменчивой прихотливой судьбе.* — У часоп. публікацыі «для самой литературы».

Стар. 202. *Опыт относительно этого у нас богатый.* — У часоп. публікацыі: «Опыт относительно этого у нас есть».

Стар. 202. *Все-таки это хорошо, что настоящей литературой руководит не коньюнктура, не мода, а единственно правда жизни, и тут уж ничего не поделать кому бы то ни было.* — У часоп. публікацыі: «Все-таки это хорошо, что настоящей литературой руководит не какая-то мода или коньюнктура, а лишь правда жизни».

## 1969
## [Вступительное слово к рассказам Теодора Вульфовича]
*(стар. 203)*

Друкуецца паводле копіі арыгінала аўтарызаванага машынапісу з Архіва В. Быкава (Мінск). Машынапіс (1 арк.) за подпісам В. Быкава.

Датуецца паводле пазнакі напрыканцы машынапісу — *14/V–69 г.*

Уступнае слова да апавяданняў расійскага кінарэжысёра і сцэнарыста Тэадора Вульфавіча (1923–2004) было напісана В. Быкавым, мусіць, на замову рэдакцыі часоп. «Дружба народов», дзе ў той час працаваў В. Аскоцкі, — на карысць гэтага сведчыць ліст да Аскоцкага: «Только вот теперь собрался сделать то, что обещал, прежде по ряду причин было не до того. Рассказы мне нравятся, правда, „Шоссе“ больше „Знамени“, я написал что-то. Но вот я думаю, что если пойдет у вас, то только один, второй же (а именно „Знамя“) не пройдет никаким образом. Поэтому в моей врезке надо будет соответственно исправить множественное число на единственное». Аднак такая публікацыя ў часоп. «Дружба народов» не знойдзена.

## 1971
## Четверо из одного города *(стар. 204)*

Друкуецца паводле часоп. «Дружба народов», 1972, № 1, дзе ўпершыню апублікавана.

Можа быць датавана студзенем 1971 г., што вынікае з ліста В. Быкава да В. Аскоцкага, які працаваў у той час у рэдакцыі часоп.

«Дружба народов»: «Валя, не сочти за услугу, зайди к вашему товарищу, ведающему вклейками репродукций, и скажи ему, что если он не намерен использовать мою статейку о гродненских художниках, то пусть вышлет мне ее. А то ведь еще зимой (в январе) срочно, торопливо писал и до сих пор никакого звука. И ребята уже изождались. Выходит, я подвел... А я хотел сделать добро им...»

Стар. 207. *...молодой гродненской художницы Л. Наливайко.* — Налівайка Людміла (нар. у 1940) — беларускі мастак, педагог, мастацтвазнавец.

## Жывапісец *(стар. 208)*

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1971, 5 лют., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул напісаны да 50-годдзя Івана Мележа.

**Людская памяць** *(стар. 209)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай», дзе апублікавана пад назвай «Людская памяць». Упершыню — «Лит. газета», 1971, 10 сак. у рубрыцы «Самое дорогое читательское письмо» і пад назвай «Нет без вести пропавших».

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 209. *аповесць «Здрада»* — У публікацыі ў «Лит. газете» — «Фронтовая страница», пад такой назвай аповесць вядомая ў пер. на рускую мову.

Стар. 209. *Хіба проста растлумачыць Уладзіміру Шчарбаку з Сібіры...* — У публікацыі ў «Лит. газете» далей ідзе з новага абзаца: «Сколько их, братьев, у такого Щербака из повести! Сколько их в Белоруссии и Сибири, на Украине и на Урале! Кто и что утешит их горе, принесет успокоение? Свои радости, заботы, время наконец? Нет, никогда...»

Стар. 210. *Я прачытаў ваша апавяданне. Там вы пішаце пра салдата Турка...* — Размова ідзе пра апавяданне Быкава «Чацвёртая няўдача» (1961).

Стар. 211. *...а ёсць людзі, салдаты з іх асабістым лёсам, якія заўчасна абарвала вайна.* — У публікацыі ў «Лит. газете» «а есть бойцы-освободители».

**[Интервью «Литературной газете»]** *(стар. 211)*

Друкуецца паводле «Лит. газеты», 1971, 18 жн., дзе ўпершыню апублікавана пад назвай «Василь Быков: Урок человеческого достоинства» ў рубрыцы «Накануне новой книги». Інтэрв'ю ўзяла Э. Тахтарава.

Датуецца часам першай публікацыі.

Інтэрв'ю надрукавана з наступным уступным словам: «Все повести Василя Быкова — о войне. Увиденное и пережитое на фронте стало основным материалом его книг: от первых рассказов, написанных в 1955 году, до „Сотникова“.

Сейчас на рабочем столе писателя — новая повесть. О чем она? Догадаться нетрудно: о войне.

Кореспондент „ЛГ“ Э. Тахтарова попросила писателя

пободробнее рассказать о своей новой работе».

**Званы Хатыні** *(стар. 212)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — газ. «Известия», 1971, 13 лістап. Друкавалася таксама ў кн.: Быков В. Третья ракета. Альпийская баллада. Сотников. М., 1972; Быков В. Колокола Хатыни / пред. И. Штокмана. М., 1987; «Праўдай адзінай»; у Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

Ніжэй падаюцца істотныя разыходжанні паміж публікацыяй ў Зб. тв., 1994 і першапублікацыяй.

Стар. 212. *...якая прадстаўляе некалькі сотняў беларускіх вёсак, знішчаных у гады вайны разам з іх жыхарамі.* — Адсутнічае ў першапублікацыі.

Стар. 214. *Тры гады няспынна гінулі людзі, і гэта была цяжкая плата народа за сваю незалежнасць, якая абышлася Беларусі ў два мільёны дзвесце трыццаць тысяч чалавечых жыццяў.* — У першапублікацыі далей ідзе: «Погиб каждый четвертый».

* * *

Стар. 212. *У французаў ёсць Арадур, у чэхаў — Лідзіцэ.* — Арадурсюр-Глан — мястэчка ў Францыі, якое было знішчана немцамі ў 1944 г., а мясцовыя жыхары, у тым ліку дзеці і жанчыны, былі расстраляны ці спалены жывымі. Лідзіцэ — шахцёрскі пасёлак у Чэхіі, які ў 1942 г. быў знішчаны нямецкай дывізіяй СС; мясцовыя жыхары былі ці расстраляныя (мужчынскае насельніцтва старэйшае за 16 гадоў), ці адпраўленыя ў канцэнтрацыйны лагер (жанчыны і дзеці).

Стар. 212. *Імперскі міністр па справах акупіраваных усходніх абласцей небезвядомы А. Розенберг...* — Розенберг Альфрэд (1893–1946) — нямецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч, ідэёлаг Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі НСДАП); начальнік Знешнепалітычнага ўпраўлення НСДАП (1933–1945); рэйхсміністр усходніх акупаваных тэрыторый (1941–1945). Прысудам Нюрнбергскага трыбунала названы адным з галоўных ваенных злачынцаў.

Стар. 214. *Ваявалі нават дзеці (Марат Казей) і глыбокія дзяды (браты Цубы).* — Казей Марат (1929–1944) — юны беларускі партызан-разведчык; за смеласць і адвагу ў баях быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ст., медалямі «За адвагу» і «За баявыя заслугі»; вяртаючыся з разведкі, быў акружаны немцамі і

таму падарваў сябе гранатай; пасмяротна ўганараваны зоркай Героя Савецкага Саюза (1965). Цубы Іван і Міхаіл — жыхары беларускага Палесся, адзін з якіх адмовіўся паказаць немцам месца знаходжання партызан, другі завёў іх у балота; абодва былі расстраляныя; у гонар подзвігу родная вёска братоў Навіны перайменавана ў Цубы.

Стар. 215. *Фрыц Шменкель* (1916–1944) — нямецкі і савецкі салдат, партызан Другой сусветнай вайны. Расстраляны немцамі ў 1944 г. у Мінску. Герой Савецкага Саюза (1964, пасмяротна).

**Аляксандр Твардоўскі** *(стар. 217)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1971, 24 снеж., дзе апублікавана пад назвай «Пухам табе зямля!». Друкавалася таксама ў кн. «Праўдай адзінай» пад назвай «Аляксандр Твардоўскі»; у пер. на рус. мову пад назвай «Слово об учителе» ў кн. «Колокола Хатыни», у Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул напісаны з выпадку смерці А. Твардоўскага і апублікаваны разам з артыкуламі П. Панчанкі і А. Вялюгіна пад агульнай назвай «Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі». У Архіве В. Быкава (Гродна) захоўваецца копія машынапісу артыкула (6 арк.) пад назвай «Пухам табе зямля!» і падзагалоўкам «Памяці Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага». Адзінае разыходжанне машынапісу з першай і далейшымі публікацыямі — пасля сказа: «Менавіта там зімою 1940 года...» ідзе наступны сказ: «Маючы на ўвазе вызначэнне В. Бялінскага адносна пушкінскага „Яўгенія Анегіна“ ў якасці энцыклапедыі рускага жыцця, можна без усякае рызыкі перабольшання сказаць, што „Васілій Цёркін“ — энцыклапедыя Вялікай Айчыннай вайны нашага народа». Гэты сказ пакінуты і на адзінай захаванай старонцы аўтарызаванага машынапісе чарнавой рэдакцыі артыкула з праўкамі простым алоўкам [Архіў В. Быкава (Гродна)], і ў аўтарызаваным машынапісу пераклада артыкула на рус. мову з нязначнымі праўкамі сінім чарнілам [8 арк.; Архіў В. Быкава (Гродна)], які пачынаецца наступным чынам:

> «Группа советских писателей возвращалась из заграничной поездки. Через 20–30 минут наш реактивный лайнер должен был приземлиться в Шереметьеве, но минуло и 30, и 40 минут, а мы все летели. Наконец, часа через полтора — долгожданная посадка, идет дождь, в мокром асфальте сияние огней. Оказывается, наше

приземление состоялось в Киеве — Москва не приняла по причине ненастья.

Пришлось выходить. Это был Борисполь с его новым помещением аэровокзала, таможней и всеми неизбежными в подобных случаях формальностями. Пограничная охрана как всегда придирчивосдержанно начала проверять наши документы, таможенники принялись за чемоданы и наши проездные декларации. Но вот когда очередь на проверку дошла до высокого, несколько грузноватого человека в сером пальто, молодой сержант-пограничник приветливо заулыбался.

— Вас мы и так знаем. Проходите, Александр Трифонович.

В зале ожидания народу было не много, он не спеша прошел между рядами стульев, выбирая, где сесть, и кто-то из пассажиров, узнав его, предложил место рядом с собой за столиком:

— Товариш Твардовский, садитесь с нами.

И он сел среди незнакомых людей, принявших его как своего знакомого. Сразу начался живой шутливый разговор в присутствии нескольких женщин, по всей видимости, украинских колхозниц, которые вежливо улыбались ему как знакомому. Спустя какое-то время тут уже пели, и он как равный участвовал в этом пении. Под высоким потолком бориспольского аэровокзала звучали украинские, русские и даже одна белорусская песня, которую запел он. Постепенно вокруг собрался широкий круг людей, и буфетчица из-за стойки с любопытством тянула шею, чтобы лучше рассмотреть человека, с детства знакомого ей по портретам в учебниках литературы».

У гэтым жа машынапісе ёсць некалькі сказаў, якія адсутнічаюць ва ўсіх публікацыях (ідуць пасля сказа: «Несколько лет назад напечатаны его дневники-воспоминания „С Карельского перешейка“...»):

«Интересно заметить, что записи эти несут на себе знак как бы двух разных авторов, разделенных между собой тремя десятками

прожитых лет, но при том с радостным удовлетворением постигаешь их творческую самонезависимость, наблюдаешь за постепенным „прозрением“ первого, совершающимся перед глазами читателя. Вот он, молодой военный кореспондент, приболевший в ленинградской гостинице и томящийся в нетерпеливом ожидании „близящегося дела“, для него война — еще только не лишенная риска романтика с ее простыми и несколько наивными приятностями вроде глотка воды из неизвестного колодца, вкуса гуляша из красноармейского котелка в артполку. Тогда уже было близко, но еще не настало время, когда со всею своей неотвратимостью пришло понимание „великой трудности войны“, горечь неудач, а также в муках добытая истина: „ни хрена, жить можно“. Очень скоро, однако, на этих страницах начинается дыхание настоящей войны, поданной рукой уже другого автора — многоопытного, пожившего, умудренного четырьмя годами следующей, Великой войны».

Таксама ва ўсіх публікацыях адсутнічае і наступны фрагмент (ідзе пасля сказа: «Имея ввиду определение В. Белинского относительно пушкинского „Евгения Онегина“...»):

«Помимо множества других самых завидных качеств, в этих записках приятно впечатляет необычайная авторская наблюдательность, его удивительно свежая, ничем не замутненная память, просто невероятная, без чего-то существенно-душевного, чем владеет далеко не каждый из наших даже и даровитых мастеров слова. Меня, например, просто ошеломила при чтении одна обычная, сделанная без всяких претензий, зарисовка убитых». Далей, мусіць, павінен быў ісці наступны фрагмент з «С Карельского перешейка (Из фронтовой тетради)» А. Твардоўскага (з прыкладзенай да перакалада артыкула прыгаданай вышэй старонкі чарнавой рэдакцыі), які, аднак, быў закрэслены: «Лежали они, видно, уже дня два. Налево, головой к лесу, лежал молоденький розовощекий офицер-мальчик. Сапоги с ног были сняты,

розовые байковые портяночки раскрутились. Направо лежал перееханный танком, сплющенный, размеченный на равные части труп. Потом — еще и еще. Свои и финны. У всех очень маленькими казались руки (окоченевшие). Каждый труп застыл, имея в своей позе какое-то напоминание, похожесь на что-то. Один лежал на спине, вытянув ровно ноги, как пловец, отдыхающий в воде. Другой замерз, в странной напряженности выгнувшись, как будто он хотел подняться с земли без помощи рук. Третий лежал рядом с убитым конем, и в том, как он лежал, чувствовалось, какой страшной и внезапной силой снесло его с коня — он не сделал ни одного, ни малейшего движения после того, как упал. Как упал, так и окаменел…»

Трэба таксама адзначыць, што артыкул у гэтай рэдакцыі заканчваецца наступным сказам: «— Искусство мстительно…» У сваю чаргу ў кн. «Колокола Хатыни» і ў Зб. тв., 1986 заканчэнне іншае: «В этом замечательном пророчестве его завет нам, тем, кто волею судьбы пережил его, кому продолжать его дело, отстаивать в литературе дорогие для него идеи добра и справедливости» (пасля абзаца: «„Искусство мстительное…“»). Да таго ж у якасці даты напісання артыкула ў абодвух выпадках памылкова ўказаны 1979 г.

Стар. 220. *…пачынаючы ад Аркадзя Куляшова…* — Куляшоў Аркадзь (1914–1978) — беларускі паэт, перакладчык; народны паэт БССР (1968).

Стар. 220. *…А. Вярцінскага…* — Вярцінскі Анатоль (нар. у 1931) — беларускі паэт, драматург, крытык, перакладчык.

Стар. 221. *«Евангелле ад Мацвея» Пазаліні* — Фільм П’ера Паала Пазаліні (1922–1975), італьянскага кінарэжысёра.

## 1972

### **Эта жестокая память…** *(стар. 222)*

Друкуецца паводле газ. «Известия», 1972, 7 сак., дзе ўпершыню апублікавана ў рубрыцы «Встречи по вашей просьбе». Інтэрв’ю вёў М. Матукоўскі.

Датуецца часам першай публікацыі.

Інтэрв’ю папярэднічае наступнае ўступнае слова: «Белорусский прозаик Василь Быков хорошо известен читателю.

Его произведения печатаются в журналах, выходят отдельными изданиями. В первом номере журнала „Новый мир“ за 1972 год опубликована его новая повесть „Обелиск“. Его повести „Третья ракета“ и „Альпийская баллада“ легли в основу одноименных фильмов. И каждое произведение — о суровых годах Отечественной войны, о трудных, героических, порой трагических судьбах людей».

Перадгісторыя з'яўлення інтэрв'ю вядомая з аповеда яго аўтара М. Матукоўскага: «П. М. Машеров и А. Т. Кузьмин пригласили в Минск главного редактора газеты „Известия“ Льва Николаевича Толкунова. Лев Николаевич приехал не один, а с каким-то замзавотделом ЦК КПСС. Фамилии его, к сожалению, не помню [...].

Их разместили в одной из маленьких правительственных гостиниц на улице Фрунзе, как раз напротив моего дома. „По долгу службы“ я сопровождал московских гостей по городу, в Беловежскую пущу, в Хатынь. Настроение после возвращения из Хатыни было соответствующим. Лев Николаевич предложил выпить за память безвинных жертв Хатыни. И вдруг он спросил:

— А как живет Василь Быков?

Я не успел даже рта раскрыть, как московский „замзав“ взвился чуть не до потолка и произнес такую гневную, злобную тираду, что я просто опешил от неожиданности. Смутился немного и Лев Николаевич от такой злобной агрессивности своего спутника. А тот разжигал себя все больше и больше.

— Этот подонок, этот предатель, враг партии и Советской власти только позорит высокое звание писателя! Ему давно пора уматывать за границу и гавкать из их подворотни!

— За что вы так о Быкове? — еле смог я вставить.

— За его подлую, предательскую литературу! Он же апологет предательства! У него в каждом произведении изменник, подлец, черная душа! Он же на каждого советского солдата выливает ведро грязи! Потому что сам ползает по этой грязи и выискивает самых грязных и вонючих! Потому что сам такой! Литература — это обобщение! Выходит, что на фронте были только одни трусы и предатели?! Ведь войну выиграли мы — из этого надо исходить!..

И вот тут не выдержал я. Я совершенно забыл, с какой фигурой разговариваю, что рядом сидит мой главный редактор. По некоторым деталям я почувствовал, что „замзав“ говорит с чужого, „генеральского“ голоса, озвучивает аргументы из антибыковских газетных рецензий. Мне захотелось морально раздавить этого зарвавшегося „цекиста“, может быть, одного из тех, кто организовывал травлю Василя Быкова. Логика моих аргументов была такой... Вы как работник ЦК говорите о личности, в которой

не разобрались и не хотите разобраться. Да вы в ножки должны поклониться ему за то, что он разрабатывает, может быть, самую неблагодарную для писателя тему — пытается разобраться в природе предательства. И вы считаете эту тему ненужной, неинтересной для писателей и для нас, читателей? А вы сами-то хоть разобрались в ней? Тогда дайте мне ответ, потому что я его не знаю: почему тысяча солдат стреляет по врагу, а тысяча первый поворачивает автомат и стреляет по своим? Что это? Гены? Наследственность? Воспитание? Или обстоятельства? И вам это не интересно?

И вдруг слышу спокойный, тихий голос Льва Николаевича, о присутствии которого в горячке забыл:

— Не горячитесь, Николай Егорович. Вы правы.

И тут во мне мгновенно сработал профессиональный газетчик.

— Лев Николаевич! Давайте напечатаем хороший материал о Василе Быкове!

— Согласен. Готовьте. Только долго не тяните.

…Через несколько дней я передал в редакцию по телетайпу беседу с Василем Быковым, хотя он был убежден, что ее не напечатают. Мы ее назвали „Эта жестокая память“. Она была напечатана 7 марта 1972 года».

У сваю чаргу В. Быкаў сведчыў: «Неяк завітаў да Міколы Матукоўскага, які адразу павёў мяне ў свой габінэт на новай кватэры на Бранявым завулку ў Менску. Там ужо быў Генадзь Бураўкін, зь якім яны вычытвалі гранкі набору, што атрымалі з „Известий“. Гэта быў артыкул Матука пра Быкава — ці ня першы ў цэнтральным друку, які меў на мэце даказаць грамадзтву, што Быкаў — наш, савецкі пісьменьнік, не які там паліцай ці ўласавец. І што ягоныя пэрсанажы — патрэбныя і карысныя, бо на вайне былі ня толькі героі, але і баязьліўцы і здраднікі. Што ж, я быў удзячны маім сябрам, якія памагалі мне і раней (і яшчэ будуць памагаць пасьля) у маім літаратурным лёсе. Мабыць, і праўда, артыкул у цэнтральнай газэце недзе штосьць зрушыў, наступныя падзеі паказалі ягоны несумненны плён».

Між тым у Архіве В. Быкава (Мінск) захоўваецца экзэмпляр газеты, у якім пісьменнікам зроблены пэўныя праўкі — выкраслены наступныя фрагменты з інтэрв'ю (мусіць, з мэтай яго далейшага передруку): «В Витебске я оставил художественное училище, решив поступить в индустриальный институт. […] А я был просто ранен…».

«Меня буквально потрясло то, что я открыл для себя. […] Я убедился, что партизанская тема открывает перед писателем огромные возможности»; «Вот почему на страницах моих повестей

и расстреливаются люди вроде Авсеева, Блищинского, Рыбака и Лешки»; «Режиссер и актер [Олег Ефремов]»; «Понятно, я хочу, чтобы получилось»; «Потом закончу повесть и для „Известий“ напишу небольшой лирический рассказ, тему которого я определил для себя, как своеобразное эхо войны. Ну а дальше… Поживем — увидим».

Стар. 224. *Зоя Космодемьянская* — Касмадзям’янская Зоя (1923–1941) — першая жанчына, якая падчас Другой сусветнай вайны была ўганаравана звання Героя Савецкага Саюза (1942, пасмяротна). Чырвонаармец дыверсійна-разведвальнай групы, якая была накіравана ў нямецкі тыл (паводле афіцыйнай версіі — партызанка). Была схоплена немцамі падчас спробы падпаліць хлеў. Пасля катаванняў павешана.

Стар. 224. *Режиссер и актер Олег Ефремов уговорил меня попробовать свои силы в жанре театральной драматургии.* — Яфрэмаў Алег (1927–2000) — расійскі акцёр, рэжысёр; народны артыст РСФСР (1969) і СССР (1976); з 1970 г. галоўны рэжысёр МХАТа.

Стар. 225. *Потом закончу повесть и для «Известий» напишу небольшой лирический рассказ, тему которого я определил для себя как своеобразное эхо войны.* — Мусіць, размова ідзе пра апавяданне «На речном берегу» (Известия, 1972, 14 окт.; пер. аўтара); упершыню — Круты бераг ракі // Літ. і мастацтва, 1972, 13 кастр.

### **Зайздросны лёс** *(стар. 225)*

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1972, 3 лістап., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул напісаны да 90-годдзя Якуба Коласа.

### **Всё минется, а правда останется…** *(стар. 226)*

Друкуецца паводле: Быков В. Собр. соч.: в 4 т. М., 1986. Т. 4. Повесть. Рассказы. Публицистика. Упершыню са скарачэннямі — зб.: Воспоминания об А. Твардовском / сост. М. И. Твардовская. М., 1980 [апублікавана без назвы ў рубрыцы «Из писем и откликов»; у 2-м выданні (М., 1982) — пад назвай «…А правда останется»]. Упершыню цалкам — кн. «Колокола Хатыни».

Датуецца паводле пазнакі падчас першай публікацыі — 1972 г. У кн. «Колокола Хатыни» і Зб. тв., 1986 у якасці даты напісання памылкова ўказаны 1982 г.

Стар. 226. *...критические залпы всевозможных калибров грозили незадачливому автору совершенно стереть его с литературного лица земли.* — Размова ідзе пра шальмаванне Быкава і яго аповесці «Мёртвым не баліць», якое было распачата па ініцыятыве і з санкцыі ЦК КПСС пасля публікацыі аповесці ў 1966 г. у часоп. «Новый мир» (№ 1, 2).

Стар. 226. *...как раз в канун майских праздников, пришел из Москвы небольшой конверт с редакционным грифом снаружи и поздравительной открыткой внутри...* — Паштоўка наступнага зместу:

> «Дорогой Василий Владимирович!
> Сердечно поздравляем с праздником 1-го Мая. Желаем здоровья, весенней бодрости, успехов в труде, светлых дум и настроений — Все минется, а правда останется — *А. Твардовский* ».

## 1973
### **Міхась Савіцкі** *(стар. 229)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — газ. «Правда», 1973, 4 ліп. пад назвай «Полотна, опаленные войной» у рубрыцы «На соискание Государственной премии». Пад гэтай жа назвай друкаваўся таксама ў кн. «Колокола Хатыни» і ў Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

У Архіве В. Быкава (Гродна) захоўваецца аўтарызаваны машынапіс (3 арк.) са значнымі праўкамі сінім чарнілам. Ніжэй прыводзяцца істотныя разыходжанні паміж машынапісам і пазнейшай рэдакцыяй артыкула, якая, трэба меркаваць, рабілася паводле першапублікацыі, бо скарачэнні ў абодвух выпадках ідэнтычныя.

Стар. 229. *...ідучы на шляху эпічнага даследавання ўсенароднага подзвігу.* — У машынапісе: «пластически исследуя ее в направлении эпического истолкования этого небывалого по напряжению и силе всенародного подвига».

Стар. 229. *...«Партызанская мадонна».* — У машынапісе далей ідзе: «эта живописная песнь песней войны и материнства».

Стар. 229. *Старажытны сюжэт...* — У машынапісе: «Древний, почти библейский сюжет».

Стар. 230. *...самотна сціснутыя вусны.* — У машынапісе далей ідзе: «Без разъяснений и подробностей ясно прочитываются их нелегкие судьбы, их недавние подвиги».

Стар. 230. *...вялізарныя ахвяры сярод насельніцтва Беларусі.* — У машынапісе далей ідзе: «до сего дня не достигшего своей довоенной численности».

Стар. 230. *...пажылы, працавіты, умудроны жыццём селянін...* — У машынапісе: «старый, наверно, немало повидаший и повоевавший на своем веку, но все еще не переставший трудиться на земле крестьянин».

Стар. 230. *...магчыма, успамінаючы ў гэтыя хвіліны тых, хто тут працаваў раней, а можа, і загінуў на гэтай зямлі, багата палітай чалавечым потам і крывёю.* — У машынапісе першапачаткова было, але закрэслена: «их лица спокойны, взгляды серьезны, даже на лицах молодых — углубленность и забота хозяев. И мы проникаемся сознанием того, что жизнь этих людей связана с полем, старшие отстояли его в войну, кого-то, наверно, погребя *[?]* на нем, молодые вспахали, теперь им сообща с умом и заботой хозяйствовать на нем».

Стар. 231. *А зусім нядаўна масквічы і госці сталіцы...* — У машынапісе першапачаткова было, але закрэслена: «Несмотря на столь замечательный итог, которым мог бы гордиться любой художник, в свои пятьдесят с небольшим лет народный художник Белоруссии Михаил Андреевич Савицкий полон сил и новых художнических дерзаний, талант его всегда в поиске, напряженной, не знающей устали работе».

Стар. 231. *...і выдатнага жывапісца нашага часу.* — У машынапісе: «и неиссякаемого мастерства». Далей з новага абзаца ішоў рукапісны тэкст, які, аднак, закрэслены: «Талант народного художника Белоруссии М. А. Савицкого всегда в поиске, напряженной, не знающей устали работе».

* * *

Стар. 229. *Цыкл ягоных карцін, прысвечаных партызанам і вылучаных на атрыманне Дзяржаўнай прэміі СССР...* — Дзяржпрэміяй М. Савіцкі ўганараваны ў тым жа 1973 г.

Стар. 230. *...гінуў у Бухенвальдзе і Дахаў...* — Бухенвальд — адзін з найбуйнейшых канцэнтрацыйных лагераў на тэрыторыі Германіі, які месціўся паблізу з г. Веймарам на федэральнай зямлі Цюрынгія; з ліпеня 1937 г. да красавіка 1945 г. у лагеры знаходзілася каля 250 тыс. чалавек, загінула каля 56 тыс. Дахаў — адзін з першых канцэнтрацыйных лагераў на тэрыторыі Германіі, створаны ў сакавіку 1933 г. паблізу з г. Мюнхенам.

**Як была напісана аповесць «Сотнікаў»** *(стар. 231)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — часоп. «Литературное обозрение», 1973, № 7. Друкаваўся таксама ў зб.: Литература и современность. Сб. 13. Статьи о литературе 1973–1974 г. / ред. колл. Г. И. Ломидзе и др. Сост.: В. М. Литвинов, В. Д. Оскоцкий. М., 1975; у кн.: «Колокола Хатыни»; Слова, пришедшие из боя. М., 1980; у Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

У Архіве В. Быкава (Гродна) захоўваецца арыгінал машынапісу артыкула на рус. мове пад назвай «От замысла к воплощению» — 9 арк. са значнымі праўкамі сінім чарнілам рукой В. Быкава, на адвароце апошняга арк. — два малюнкі: партрэт вайскоўца ў касцы і чалавека ў будзёнаўцы.

Стар. 233. *...красамоўна паблісквалі тры знаёмыя літары «РОА».* — Руская вызваленчая армія (Русская освободительная армия), якая была створана падчас Другой сусветнай вайны ў асноўным з савецкіх ваеннапалонных ці эмігрантаў. Кіраваў арміяй генерал-лейтэнант А. Уласаў.

Стар. 235. *Чытач-астраном з Масквы паведаміў, што маладзы месяц, які тою парой паяўляецца ў небе вечарам, не можа свяціць і ноччу: да поўначы ён павінен зайсці. Гэта правільна, і я пасля гэта выправіў.* — Быкаў атрымаў некалькі падобных лістоў ад чытачоў, аднак ні ў першым кніжным выданні «Сотнікава», ні ў публікацыях у зборах твораў усё ж не выправіў гэтую астранамічную недакладнасць — гл.: Быкаў В. Сотнікаў. Абеліск. Аповесці. Мінск, 1972, с. 42; Быкаў В. Зб. тв.: у 4 т. Т. 2. Мінск, 1981, с. 164; Быкаў В. Зб. тв.: у 6 т. Т. 2. Мінск, 1992, с. 35.

Стар. 236. *Напісаная па-беларуску, аповесць гэтая спачатку з'явілася ў перакладзе на рускую мову і толькі праз паўгода была надрукавана ў беларускім часопісе «Полымя». Для таго было некалькі прычын, і адной з іх з'явілася праблема мастацкага перакладу, якая заўсёды востра стаіць перад нашымі брацкімі літаратурамі.* — Пазней Быкаў больш дэталёва распавядаў пра гэта — гл.: Быкаў В. Поўны зб. тв.: у 14 т. Т. 8. С. 262–264. Трэба дадаць, што «Сотнікаў» ужо быў надрукаваны ў часоп. «Новый мир» (1970, № 5), а ў рэдакцыі «Полымя» яшчэ разважалі, ці варта публікаваць аповесць? Захаваліся лісты самых уплывовых асоб тагачаснага Саюза пісьменнікаў — М. Танка і П. Броўкі — яны красамоўна сведчаць пра крытычныя заўвагі, зробленыя Быкаву, і пра тое, каму ён у тым ліку абавязаны тымі зменамі ў творы, на якія ў выніку яго прымусілі пайсці. Так, М. Танк пісаў рэдактару «Полымя» П. Кавалёву:

«Зараз аповесць чытаецца з большай цікавасцю, хоць і цяпер яна, напэўна, выкліча шмат заўваг чытачоў. Я — за тое, каб яе

надрукаваць у часопісе „Полымя“, параіўшы аўтару крыху праясніць агульны фон, каб не такая фатальная „обреченность“ ляжала на героях гэтай аповесці, і, можа, хоць у фінальнай сцэне паказаць галоўных віноўнікаў усёй трагедыі — фашысцкіх захопнікаў. Я не буду раіць, якія сюжэтныя хады можна было б зрабіць. Аўтар — пісьменнік вопытны. Яны яму відней».

У сваю чаргу П. Броўка прад'яўляў больш прэтэнзій:

«Калі я адлажыў аповесць і падумаў, якое пачуццё яна ў мяне выклікала? Бясспрэчна нянавісць да здраднікаў-паліцаяў, ну і канечне да немцаў, хоць іхнюю лютасць можна было б паказаць больш. А то доўгі час яны наогул застаюцца па-за сцэнай.

Што б мне хацелася? Бачыць аповесць надрукаванай з некаторымі папраўкамі і дадаткамі, якія аўтару зрабіць было б не вельмі цяжка.

Па-першае, хоць у парадку адступлення паказаць хоць бы адну падзею гераізму партызанаў. Хай бы яна звялася, скажам, да разгрома невялічкага гарнізона дзесьці ў воласці, у невялікім мястэчку. А то ўвесь час яны ўцякаюць (гэтыя Рыбак і Сотнікаў).

Па-другое. Вельмі прыкра, калі Рыбак вядзе Сотнікава на смерць. Можа, адзінкавы такі выпадак і быў, але гэта неўласціва нашаму партызанскаму руху. Можа, варта было б пазбегнуць гэтага, а калі не, дык было б добра, каб Рыбака (нягледзячы на яго пераход у паліцаі) усё роўна павесілі. А то выходзіць, што здрадніцтва, шкурніцтва перамагае».

Пасля ж абмеркавання «Сотнікава» на пасяджэнні рэдкалегіі «Полымя» Быкаву быў накіраваны наступны ліст:

«*19 жніўня 1970 г.*

Паважаны Васіль Уладзіміравіч!

Як Вы папрасілі на паседжанні рэдкалегіі нашага часопіса — пасылаем Вам асноўныя нашы заўвагі па Вашай аповесці „Сотнікаў“.

1. Хацелася б, каб Вы, калі можна так сказаць, праяснілі агульны фон аповесці: можа б, хоць у парадку адступленняў ці праз успаміны галоўных герояў паказалі адну-дзве падзеі гераізму партызан, каб мясцовыя паліцаі не адчувалі сябе „гаспадарамі“ і г. д.

2. Ці не можна некалькі зняць з герояў фатальную „обреченность“, каб яна не ляжала ў іх увесь час на плячах. Добра было б, каб Сотнікаў у Вас хоць бы ў апошні час — пасля допыту і на плошчы — быў больш мужны і цвёрды, — ён жа „касцяк“ усёй аповесці. Пажадана, каб Вы

некалькі праяснілі яго разважанні ў тым плане, у якім гаварылася на паседжанні рэдкалегіі. (Сотнікаў думае: варты людзі ці не, каб за іх аддавалі жыццё; яго развагі пра адукацыю Рыбака і вышэйшы кодэкс чалавечнасці, пра біблію на матчыным камодзе і г. д.)

3. Можа, дзе больш падкрэсліць, што Рыбак — катэгорыя сацыяльная. Адсюль — ясней стануць вытокі яго здрады.

4. Хацелася, каб Вы абавязкова паказалі больш галоўных віноўнікаў усёй трагедыі — фашысцкіх захопнікаў, а не мясцовую паліцыю: вядома, што паліцаі былі толькі фашысцкімі паслугачамі і г. д.

5. Ці трэба, каб стараста „круціўся між двух агнёў“, калі ён ідзе служыць да немцаў па заданні партызан.

6. Не хацелася б, каб людзі „праходзілі міма“ Басі — Вашай гераіні, — калі яна хаваецца ад немцаў і паліцыі…

Просім Вас уважліва паставіцца да заўваг і тыя з іх, якія, на Вашу думку, слушныя, улічыць пры дапрацоўцы аповесці.

Друкаваць яе будзем, як толькі атрымаем ад Вас папраўлены рукапіс.

Па даручэнні рэдкалегіі: *П. Кавалёў. І. Пташнікаў* ».

**Сяргей Залыгін** *(стар. 237)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — «Лит. газета», 1973, 1 жн. пад назвай «Зоркость исследователя, страсть художника» ў рубрыцы «Штрихи к портрету». Друкаваўся таксама пад назвай «Зоркость исследователя, страсть художника» ў кн. «Колокола Хатыни» і ў Зб. тв.: у 4 т., т. 4; у пер. на бел. мову ў кн. «Праўдай адзінай» пад назвай «Сяргей Залыгін».

Датуецца часам першай публікацыі.

Напісаны да 60-годдзя расійскага пісьменніка Сяргея Залыгіна (1913–2000). Пра гэты артыкул В. Быкаў пісаў у лісце да В. Аскоцкага: «Писать статей я не умею, не туда направлены мозги, как говорил один наш покойный профессор, но тут „Литературка“ уломала, и мне неудобно было отказаться от такой кандидатуры, какой является С. П. Залыгин. Человек и писатель он оч[ень]

хороший, и я его люблю, хотя, конечно, эта любовь в творческом смысле больше внушена повестью „На Иртыше“, чем романом „Южно-американский вариант“ или даже „Соленая пядь“. Ты прав, об этой повести у меня было написано больше, нежели о романах, но в редакции подрезали. Не знаю, м[ожет] б[ыть], автор иначе расценивает свой последний роман, или, б[ыть] м[ожет], я написал „не очень“, но он мне что-то не написал…» У Архіве В. Быкава (Гродна) захоўваецца машынапіс (2 арк.) пачатку артыкула са значнымі праўкамі сінім чарнілам пад назвай «Неутомимый исследователь жизни» (першапачатковы варыянт: «Исследователь жизни») і падзагалоўкам «К литературному портрету Сергея Залыгина» (першапачатковы варыянт: «Штрихи к портрету С. П. Залыгина»). Уверсе пазнака рукой Быкава — «июнь 73 г.». Ніжэй прыводзяцца істотныя разыходжанні паміж гэтым машынапісам і публікацыяй у Зб. тв., 1994.

Стар. 237. *…узброенага эстэтычнымі і тэхнічнымі ведамі нашага веку.* — У машынапісе далей ідзе: «Эта книга содержит множество самых проникновенных, зачастую неожиданных суждений и выводов, возможных лишь для широко и самостоятельно мыслящего человека науки».

Стар. 238. *…але таксама і паэтам.* — У машынапісе далей ідзе: «чье отношение к великим художникам прошлого эмоционально и поэтично».

Апроч таго, у Архіве В. Быкава (Гродна) захоўваюцца яшчэ два машынапісы гэтага артыкула са шматлікімі праўкамі рукой В. Быкава сінім і чорным чарнілам і простым алоўкам. Першы машынапіс (9 арк.) — ранняя рэдакцыя артыкула пад назвай «На крутых поворотах истории» і падзагалоўкам «Несколько мыслей о последних произведениях Сергея Залыгина» (першапачатковы варыянт: «Субъективные заметки о творчестве Сергея Залыгина»). На 1-м арк. уверсе паметы: «2 экз.», «май 73 г.». Другі машынапіс (10 арк.) — пазнейшая рэдакцыя артыкула (назва і падзагаловак закрэслены). На апошнім, 10-м арк., — подпіс В. Быкава. Ніжэй падаюцца істотныя разыходжанні паміж другім машынапісам і публікацыяй у Зб. тв., 1994.

Стар. 238. *Стаўшы распараджальнікам лёсаў тысяч людзей, сібірскі селянін Мешчаракоў, сам штодзённа рызыкуючы жыццём, не страціў і каліва свайго прастадушша, цярпімасці да чужой слабасці, здольнасці да суперажывання чужому гору.* — У машынапісе гэтаму сказу папярэднічае наступны: «Сибирский крестьянин Мещеряков, вставший на защиту завоеваний революции, казалось бы, подобно своему земляку Брусенкову должен ожесточиться в кровавой борьбе с контрреволюцией и

вытравить из своей души малейшие намеки на все сердобольное, человеческое. Но — нет».

Стар. 239. *Вераломства белых, якія ў рашаючы момант прымянілі «слёзную сценку», вымусіла Мешчаракова на крайні сродак, супраць якога ён у прастадушным пратэсце і кінуў аб зямлю сваю мярлушкавую папаху…* — У машынапісе далей ідзе: «Именно белые и неблагоприятно сложившиеся обстоятельства заставили этого крестьянского вожака, признанного мастера партизанской войны, обратиться к араре, когда исход важнейшего сражения решался не армией, не умельством и доблестью ее главкома, а бабами, стариками и ребятишками. Но другого выхода не было, враг грозился разорить все, что с таким трудом в течение нескольких месяцев создавалось в партизанской столице — Соленой Пади.

Собственно роман — это именно несколько немногих месяцев, отмеченных тревогой, ожиданием колчаковского наступления, подготовкой к его отражению. В нем почти сплошь действует крестьянская масса и ее революционные руководители, которые средства к достижению бесспорной и всем очевидной цели, к сожалению, понимают различно».

Стар. 239. *У той час, як для Мешчаракова рэвалюцыйная барацьба вызначаецца галоўным чынам формулай за (за ўладу Саветаў), дык Брусянкова яна куды болей вабіць сваёй другой часткай — супраць (супраць контррэвалюцыі), тут ён адчувае сябе болей упэўнена і праяўляецца больш поўна.* — У машынапісе далей ідзе: «В понимании Мещерякова революция — средство установления новой, более справедливой жизни, для Брусенкова же она в значительной степени самоцель, подходящий момент для достижения крепкой самоличной власти. „Революцию совершали все, на восстание шли все, но власти сделать никто из вас не смог. Ни один! Революционную власть — ее надо делать уметь и успеть“. Брусенков с завидной увренностью полагает, что он-то власть делать умеет, и он ее делает. Беда лишь в том, что делает он ее сообразно собственному, весьма кустарному представлению о власти, определяющей доминантой которой для Брусенкова является не столько созидание, сколько разрушение и подавление.

Понятно, что в таких условиях бок о бок работать этим двум столь различным по своим характерам людям непросто, и если Мещеряков при его огромной популярности в армии воздерживается от решительных мер, на которые его многократно провоцирует Брусенков, то опять же в силу его демократичности и человеческой терпимости».

Стар. 239. *Залыгін умее пачуць і перадаць на сваіх старонках і гнеўны гул рэвалюцыйнага натоўпу, і ціхі*

*спакутаваны голас жанчыны, якая асуджана марнець ад страху за жыццё малых дзяцей.* — У машынапісе далей ідзе: «С одинаковой убедительностью автор выписывает в романе характер партизанского комиссара Петровича и покрестьянски расчетливого маряшихинского вожака Петра Петровича Глухова, этот сложнейший и в социальном смысле чрезвычайно наполенный образ. Полифония „Соленой Пади“ поистине поразительна. Удивительно, что площадный гул революционных мас, заполняющий почтив все главы романа, нисколько не заглушает одиночных голосов многочисленных его персонажей от эпизодического Власихина Якова до главного — Мещерякова. При столь густой заселенности романной площади всем его поселенцам находится свое место и возможность для наибольшего их самопроявления. Романист в данном случае уподобляется дирижеру большого оркестра, который уверенно руководит всеми инструментами, не оставляя без внимания ни малейшей фальшивой ноты даже в самой хорошей игре.

А игра была всякая, играли зачастую без нот, при всем старании дирижеров и исполнителей не все получалось, как надо».

Стар. 240. *Найвялікшая ломка ў сельскай гаспадарцы, калі спрадвечная сялянская краіна Расія абагульняла свае дробныя малазямельныя гаспадаркі і прыступала да будаўніцтва загадкавага ў сваёй невядомасці калектыўнага жыцця, — гэта стала тэмай аповесці «На Іртышы».* — У машынапісе: «Происходила величайшая ломка в сельском хозяйстве, вековая крестьянская страна Россия обобщала свои измельченные малоземельем хозяйства и приступала к устройству неведомой, загадочной и пугающей коллективной жизни».

Стар. 240. *Гэты апошні — родны брат Брусянкова, над якім у рашучы момант не аказалася Мешчаракова, які некалі пры першым сваім паяўленні ў Салёнай Падзі вызваліў з-пад расстрэлу Власіхіна...* — У машынапісе далей ідзе: «В Крутых Луках, к сожалению, партизанского Главкома уже не было, со времени событий в Соленой Пади прошли годы, обстановка в стране изменилась, настало время других героев.

Но некоторые из прежних остались.

Именно в силу того, что общественный климат благоприятствовал одним и не очень способствовал другим человеческим типам, победа в Крутых Луках осталась за председателем тройки Корякиным».

Стар. 240. *Менавіта яна праз шмат гадоў і прымусіла пісьменнікагуманіста расказаць нам аб гэтай забытай драме, якой бы сумнай або выключнай яна ні была.* — У машынапісе далей ідзе: «Высокая человечность литературных героев

неотделима от человеческих же качеств их автора. Уж так заведено в искусстве, что литературные персонажи — родные создания автора, который при самых благих намерениях не в состоянии создать нечто такое, чем не обладает сам. Конечно, в известной степени художник — лицедей, актер, владеющий способностью перевоплощаться в различные образы, но тем не менее остается бесспорным, что человек ничтожный, пустой, обладай он самыми изощренными способностями этого перевоплощения, не в состоянии вызвать к жизни характеры правдивые и сколько-нибудь значительные.

Уроки исторического опыта, извлекаемые из лучших произведений Залыгина, с должной настойчивостью убеждают, что великие дела в жизни народа должны делаться чистыми руками людей с незапятнанной совестью, какими являлись истинные революционеры. Трудность же тех давних лет состояла в том, что революция, являясь делом миллионов, привлекала множество различных голов и различных рук, и в тех случаях, когда в ней действовала плохо организованная стихия, становились неизбежными всяческие искривления и перегибы».

Стар. 241. *І вось пісьменнік іх рэалізуе ў новай раманнай ёмкасці, амаль цалкам запоўніўшы яе вобразам Ірыны Віктараўны Мансуравай.* — У машынапісе далей ідзе з новага абзаца: «Случилось так, что то ли в силу читательской „привычности“ к прежним проблемам С. Залыгина, то ли от простого непонимания, этот последний его роман воспринят некоторой частью критиков чуть ли не как ординарная любовная история, каприз стареющей женщины, женский адюльтер».

Стар. 241. *...у лёсе жанчыны змянілася многае...* — У машынапісе далей ідзе: «отпала причина скитаться в душных стогах, спасая жизнь ребятишек, как скиталась мещеряковская Дора, исчезла надобность отдавать свою жизнь на благо мировой революции, как ее жаждала отдать Тася Черненко».

Стар. 242. *Ва ўсякім выпадку відавочна, што праблематыка яго ўжо сама па сабе здольна навесці на спрэчкі, і такія спрэчкі, як вядома, ужо ўзнікалі. Я дапускаю, што да рамана можна паставіцца па-іншаму, прачытаць яго інакш, але ж наватарскі твор заўжды спрэчны.* — У машынапісе: «Во всяком случае очевидно, что проблематика его оказалась несколько неожиданной для широкого круга читателей, что уже само по себе способно возбудить споры. Но ведь произведение новаторское всегда спорно».

Стар. 243. *Наўрад ці хто адважыцца аспрэчваць зараз той факт, што наша літаратура прыкметна ўзбагацілася выдатнымі старонкамі, якія выйшлі з-пад пяра таленавітага*

*майстра Сяргея Залыгіна.* — У машынапісе гэтаму сказу папярэднічае наступны: «Безусловно, можно по-разному относиться к этому и другим произведениям Залыгина, можно любить одни и оставаться равнодушным к другим».

Стар. 243. *Талент таму і талент, што, прыглядваючыся да жыцця, бачыць у ім далей і чуе больш, чым многія іншыя, і таму павучальныя нават яго яўныя, а тым больш уяўныя недахопы.* — У машынапісе адсутнічае, замест гэтага сказа ідзе: «Теперь уже ясно видать, что некоторые из важнейших этапов нашей истории были бы недоосознаны, недовыяснены и, может быть, недопоняты, если бы на них не пал свет с его суровых и прекрасных страниц». Далей у машынапісе ідзе: «Так не следует ли больше доверять таланту, который потому и талант, что, приглядываясь к жизни, видит в ней дальше и слышит больше, нежели многие другие, и что он значителен даже в своих явных или кажущихся недостатках, могущих, как это нередко случается, по прошествии времени оказаться достоинствами.

Но это, последнее, уже не имеет прямого отношения к предмету нашего разговора. В данном случае несомненно, что мы имеем дело с книгами яркого и признанного мастера, великолепного знатока жизни, ее честного и неутомимого исследователя». Але гэты фрагмент быў выкраслены, побач злева Быкавым пазначана: «Со слов: — и до конца опустить».

Стар. 243. *Для Сяргея Залыгіна гэты год юбілейны. Яму спаўняецца шэсцьдзесят, што можна лічыць узростам творчай сталасці.* — У машынапісе адсутнічае.

* * *

Стар. 241. *Ганна Аркадзьеўна Карэніна* — Гераіня рамана «Ганна Каренина» Л. Талстога.

Стар. 241. *Ганна Сяргееўна фон Дзідэрыц* — Гераіня апавядання «Дама с собачкой» А. Чэхава.

### **Рыгор Бакланаў** *(стар. 243)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — газ. «Лит. Россия», 1973, 14 верас. пад назвай «Верность памяти» і падзагалоўкам «К 50-летию со дня рождения Григория Бакланова». Друкаваўся таксама пад назвай «Верность памяти» ў кн. «Колокола Хатыни» і ў Зб. тв.: у 4 т., т. 4; у пер. на бел. мову у кн. «Праўдай адзінай» пад назвай «Рыгор Бакланаў».

Датуецца часам першай публікацыі.

Пры наступных, пасля першай, публікацыях (кн.: «Колокола

Хатыни», «Праўдай адзінай») у артыкул былі ўнесены невялікія стылёвыя праўкі.

### **Что всего важнее** *(стар. 246)*

Друкуецца паводле кн.: Кобец-Филимонова Е. Жаворонки над Хатынью: повести [Для ст. школ. возраста. Пер. с бел. авт.]. Минск, 1982. Упершыню — у кн.: Кобец-Филимонова Е. Жаворонки над Хатынью. Повесть [пер. с бел. автора.] М., 1973, дзе ўпершыню апублікавана ў якасці прадмовы пад назвай «Мы не можем этого забыть».

Датуецца часам першай публікацыі.

Прадмова да кнігі беларускай пісьменніцы Алены Кобец-Філімонавай (1932–2013), у якую ўключаны аповесці «Жаворонки над Хатынью» і «Голубой экспресс». Падчас другой публікацыі прадмова была пашырана: былі дапісаны першы і апошні абзацы, да таго ж была зменена назва.

## **1974**

### **[Выступленне на вечары з нагоды 50-годдзя]** *(стар. 249)*

Друкуецца паводле арыгінала рукапісу (1 арк.), які захоўваецца ў асабістым архіве Н. Гілевіча. Упершыню — Слова В. У. Быкава на вечары ў гонар яго 50-годдзя. 19.VI.1974 г. // Дзеяслоў, 2008, № 3 (34).

Магчыма датаваць 19 чэрвеня 1974 г., днём выступлення.

Н. Гілевіч прыгадваў ва ўступным слове да першапублікацыі слова В. Быкава: «Гады два назад, перабіраючы паперы свайго хатняга архіву, я наткнуўся на невялікі жоўты, з грубай паперы, канверт. На канверце надпіс: „Выступленьне Быкава на сваім 50-годдзі (арыгінал)“. Так, укладзены ў канверт лісток аказаўся рукапісам Слова Васіля Уладзіміравіча, якое было прамоўленае ім на юбілейным вечары 19 чэрвеня 1974 года. Вечар адбыўся ў Доме мастацтваў, у невялікай, чалавек на восемдзясят, залцы. На большае кіраўніцтва Беларусі не размахнулася. Але аўдыторыя была бясспрэчна элітная — пісьменьнікі, навукоўцы, дзеячы мастацтва і культуры. Сядзеў у цэнтры прэзідыума і сакратар ЦК КПБ А. Кузьмін. Па заканчэньні вечара Быкаў запрасіў чалавек шэсць-сем блізкіх сяброў на чарчыну — у рэстаран „Потсдам“, дзе ён загадзя заказаў стол у г. зв. Сялянскай зале. Калі рассаджваліся, ён працягнуў мне закладзены ў газету рукапіс і папрасіў: „Пакладзі, калі ласка, у свой „саф’ян“ маё выступленьне, а то магу забыць тут. На разыходзе аддасі“. Я паклаў газету ў тэчку, але на разыходзе, пасьля добрага „пасяджэньня“, ні ён, ні я ня ўспомнілі

пра гэта. Толькі праз некалькі дзён я апытаў у сваім „саф’яне“ ўзятую на часовае захаваньне паклажу. Патэлефанаваў Васілю. „Ну, хай ляжыць, сказаў, калінебудзь забяру. У цябе не прападзе“».

Стар. 249. *…М. Васілька…* — Васілёк Міхась (Касцевіч Міхаіл; 1905–1960) — беларускі паэт; працаваў у газ. «Гродзенская праўда».

Стар. 249. *Я ўдзячны роднаму майму часопісу «М[аладосць]», з якім звязана амаль што ўсё мной напісанае.* — У часоп. «Маладосць» былі надрукаваны наступныя аповесці Быкава 1959–1974 гг.: «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Мёртвым не баліць», «Праклятая вышыня», «Абеліск», «Дажыць да світання», «Воўчая зграя».

**Жыццём абавязаны** *(стар. 250)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — «Лит. газета», 1974, 6 лістап. пад назвай «Жизнью обязан» у рубрыцы «Слово о боевом друге».

Датуецца часам першай публікацыі.

У публікацыі ў «Лит. газете» Пётр Міргарад (1919–1944) памылкова названы Паўлам.

Стар. 250. *Тры беларускія пісьменнікі і сябры — А. Адамовіч, Я. Брыль і У. Калеснік — стварылі цудоўную кнігу, сабраную са сведчанняў сотняў людзей, цудам уцалелых пры масавых фашысцкіх акцыях.* — Калеснік Уладзімір (1922–1994) — беларускі крытык, літаратуразнавец, пісьменнік; загадчык кафедры літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута (1956–1988); сакратар Брэсцкага абласнога аддзялення СП БССР (1956–1970). Размова ідзе пра кнігу «Я з вогненнай вёскі…» (Мінск, 1975).

Стар. 252. *вёска Севярынаўка* — Насамрэч — сяло Вялікая Севярынка.

**[Інтэрв’ю газеце «Літаратура і мастацтва»]** *(стар. 254)*

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1974, 8 лістап., дзе ўпершыню апублікавана пад назвай «Абавязак быць чалавекам». Інтэрв’ю ўзяў А. Мажэйка.

Датуецца часам першай публікацыі.

Інтэрв’ю апублікавана з наступным уступным словам: «…Доўгачаканы званок з гасцініцы: „Я — тут. Быкаў“. Сустрэча і — размова».

Стар. 254. *...разам з такімі сусветна вядомымі майстрамі літаратуры, як Кайсын Куліеў і Леанід Мартынаў.* — Куліеў Кайсын (1917–1985) — балкарскі паэт; народны паэт Кабардзіна-Балкарскай АССР (1967). Мартынаў Леанід (1905–1980) — расійскі паэт.

Стар. 256. *Б. Сцяпанаў* — Сцяпанаў Барыс (1927–1992) — беларускі кінарэжысёр; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1976).

Стар. 256. *Віктар Сакалоў* (нар. у 1928) — расійскі кінарэжысёр; заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1987).

**[Интервью газете «Труд»]** *(стар. 256)*

Друкуецца паводле газ. «Труд», 1974, 17 лістап., дзе ўпершыню апублікавана пад назвай «Василь Быков» ў рубрыцы «Знакомые лица». Інтэрв'ю вёў С. Пархомаўскі.

Датуецца часам першай публікацыі.

Інтэрв'ю надрукавана з наступным уступным словам: «Белорусского писателя Василя Быкова не надо представлять читателям газеты. Его произведения общеизвестны — „Третья ракета", „Альпийская баллада", „Атака с ходу", „Обелиск", „Сотников", „Волчья стая". Василь Быков пишет о войне, о людях войны. И хотя на эту тему у нас в стране выходит очень много книг, повести Василя Быкова отличаются от всех каким-то своим, особым взглядом на минувшее, на великий ратный подвиг советского человека. За повести „Обелиск" и „Дожить до рассвета" Василю Быкову только что присуждена Государственная премия СССР».

Стар. 260. *...и еще есть одна пьеса — «Решение». Она была напечатана в журнале «Неман» года два назад, но еще не ставилась.* — Быков В. Решение // Неман, 1972, № 8.

**[Інтэрв'ю БЕЛТА]** *(стар. 260)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1974, 14 снеж., дзе ўпершыню апублікавана ў якасці інтэрв'ю карэспандэнту Беларускага тэлеграфнага агенцтва (БЕЛТА) пад назвай «Прэм'ера ў тэатры».

Датуецца часам першай публікацыі.

Інтэрв'ю надрукавана з наступным уступным словам: «Для шматлікіх паклоннікаў таленту вядомага беларускага празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Васіля Быкава гэты год стаў адкрыццём яшчэ і Быкава-драматурга. Першымі пазнаёміліся з ім землякі пісьменніка: у Гродне, у абласным драматычным тэатры,

упершыню была пастаўлена яго псіхалагічная драма „Апошні шанц“. Гэтымі днямі адбылася сустрэча з Быкавым-драматургам у Мінску: у акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся грамадскі прагляд „Апошняга шанца“.

П’еса працягвае галоўную для пісьменніка тэму — тэму народнага подзвігу.

Пасля спектакля В. У. Быкаў сказаў карэспандэнту БЕЛТА…»

Стар. 260. *…Сцэнічныя вобразы нараджаліся на маіх вачах, і я шчыра ўдзячны рэжысёру спектакля Валерыю Мікалаевічу Раеўскаму, акцёрам Леаніду Рыгоравічу Рахленку, Галіне Кліменцьеўне Макаравай, Паўлу Васільевічу Кармуніну і іншым за выдатнае ўвасабленне галоўнай ідэі п’есы. Яе раскрыццю, эмацыянальнай напоўненасці спектакля дапамагае арганная музыка Сяргея Картэса і мастацкае афармленне, зробленае Барысам Герлаванам.* — Раеўскі Валерый (1939–2011) — беларускі тэатральны рэжысёр; мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы (1991–2009); народны артыст Беларусі (1998). Рахленка Леанід (Леон, 1907–1986) — беларускі акцёр, рэжысёр, педагог; народны артыст БССР (1946) і СССР (1966). Макарава Галіна Кліменцьеўна (у дзявоц. Чаховіч Агата; 1919–1993) — беларуская актрыса; народная артыстка БССР (1967) і СССР (1980). Кармунін Павел (1919–2002) — беларускі акцёр; народны артыст БССР (1980). Картэс Сяргей (нар. у 1935) — беларускі кампазітар чылійскага паходжання; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1980); народны артыст Беларусі (1999). Герлаван Барыс (нар. у 1937) — беларускі мастак украінскага паходжання; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977); народны мастак БССР (1990).

## 1975
## Вялікая акадэмія — жыццё *(стар. 261)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — часоп. «Вопросы литературы», 1975, № 1, дзе апублікавана ў рубрыцы «В творческой мастерской. (К 30-летию Победы над фашистской Германией)». Гутарка, якую вёў Л. Лазараў, друкавалася таксама ў кн. «Колокола Хатыни», зб. «Оружием слова» (Минск, 1978), Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

Перадгісторыя з’яўлення гутаркі вядомая з успамінаў Л. Лазарава: «Здаецца, і я ў яго [В. Быкава. — *С. Ш.* ] выклікаў сімпатыю. Пачаў клікаць у госці да сябе ў Гродна. Мне таксама вельмі хацелася з’ездзіць да яго, але вырвацца з часопіса было

няпроста. Я паабяцаў начальству інтэрв'ю Быкава і атрымаў згоду. Паслаў Васілю пытанні і адправіўся ў Гродна. […]

Да майго прыезду інтэрв'ю было гатова, Васіль адказаў на ўсе пытанні, мы, здаецца, паправілі два ці тры словы (потым гэтае інтэрв'ю неаднойчы перадрукоўвалася, у ім былі і матэрыялы, што характарызавалі творчасць самога Быкава, і нетрывіяльныя яго меркаванні пра асвятленне вайны ў нашай літаратуры). Я паклаў інтэрв'ю ў партфель, а пасля правёў у Гродне некалькі цудоўных дзён, якія запомніліся на ўсё жыццё».

Стар. 261. *Барыс Слуцкі* (1919–1986) — расійскі паэт.

Стар. 267. *Тут патрэбны зусім іншыя фарбы і страсці маштабу шэкспіраўскіх.* — Шэкспір Уільям (1564–1616) — англійскі паэт, драматург; класік англійскай літаратуры.

Стар. 268. *Я пісаў ужо пра радаслоўную Рыбака з «Сотнікава», правобразам яго паслужыў чалавек, які, апроч аднолькавага лёсу, не меў больш нічога агульнага з яго літаратурным персанажам.* — Гл. артыкул «Як была напісана аповесць „Сотнікаў“».

**О книге «Высокий день» и ее авторе** *(стар. 278)*

Друкуецца паводле кн.: Пациенко Г. Высокий день. Повесть и рассказы. М., 1976, дзе ўпершыню апублікавана.

Можа быць датавана не пазней 3 студзеня 1975 г. — зыходзячы з ліста В. Быкава да Г. Пацыенкі.

Прадмова да кнігі Генадзя Пацыенкі (нар. у 1937), беларускага пісьменніка, які піша на рускай мове. Прадмова была напісана ў адказ на просьбу Г. Пацыенкі. Быкаў паведамляў у суправаджальным лісце: «Высылаю просимое, которое написал тотчас по получении письма, хотя, м[ожет] б[ыть], и не так, как следовало, но я не очень умею делать подобные вещи. Но я старался пообъективнее и подоброжелательнее, как и следует в таких случаях».

Стар. 278. *…Геннадию Пациенко повезло с самого детства, прошедшего среди живописной природы северной Белоруссии и Смоленщины, — в местах, некогда страстно любимых И. Репиным…* — Рэпін Ілья (1844–1930) — рускі мастак.

**[Беседа с Юрием Бондаревым и Михаилом Кузнецовым]**
*(стар. 280)*

Друкуецца ў скарачэнні паводле — Юрий Бондарев, Василь

Быков, Михаил Кузнецов. Почему и сегодня мы пишем о войне? // Лит. газета, 1975, 19 февр., дзе ўпершыню апублікавана ў рубрыцы «30 лет Великой Победы». Гутарку правяла і запісала Т. Залатухіна.

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 281. *Но даже в быту Достоевский поставил Родиона Раскольникова в невероятно сложные коллизии...* — Раскольнікаў — герой рамана Ф. Дастаеўскага «Преступление и наказание».

Стар. 283. *...в эпоху ли Петра I...* — Пётр І Вялікі (Пётр Аляксеевіч; 1672–1725) — апошні цар Усея Русі з дынастыі Раманавых (з 1682) і першы Імператар Усерасійскі (з 1721).

Стар. 285. *Еще мне хотелось бы вспомнить повесть «Сорок дней, сорок ночей» крымского писателя Анатолия Никаноркина...* — Ніканоркін Анатоль (1921–1994) — расійскі паэт, празаік.

Стар. 285. *Я знаю в Гродно бывшего командира батареи, много пережившего на фронте и отдавшего пятнадцать лет жизни написанию содержательных и правдивых воспоминаний, относящихся к весне и лету 1942 года. Желая увидеть этот материал изданным, я за несколько месяцев тщательно выправил его язык, но куда бы автор затем ни обращался, он получал отказ.* — Размова ідзе пра Івана Ушчапоўскага (1913–1995), які падчас Другой сусветнай вайны служыў у гаўбічным артылерыйскім палку 697-га асобнага вынішчальнага дывізіёна. У 1955 г. выйшаў у адстаўку. Працаваў настаўнікам працы ў школах Гродна, на Гарпрамкамбінаце. Быў членам літаб'яднання пры газеце «Гродненская правда», якім кіраваў Быкаў. Аўтар шэрагу публікацый, у тым ліку ў газеце «Гродненская правда»: «Однополчане» (1984, 3 жн.), «Не забыть» (1985, 12 янв.), «Младший Гастелло» (1985, 23 марта).

Стар. 287. *М. Пришвин* — Прышвін Міхаіл (1873–1954) — расійскі пісьменнік.

### **Праўда вайны** *(стар. 292)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1975, 7 сак. пад назвай «Агульнымі намаганнямі». Друкаваўся таксама са скарачэннямі ў часоп. «Новый мир», 1975, № 4 пад назвай «Правда войны».

Датуецца не пазней 3 сакавіка 1975 г.

Скарочаны варыянт даклада на Усесаюзнай творчай нарадзе пісьменнікаў і крытыкаў «Неўміручы подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне і савецкая літаратура». Нарада, прысвечаная

30-годдзю Перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй, адбылася ў Мінску, у памяшканні Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, 27 лют. — 3 сак. 1975 г.

Стар. 294. *...«Спадарожнікі» В. Пановай...* — Панова Вера (1905–1973) — расійская пісьменніца.

Стар. 296. *...эстонца Куусберга, латыша Бірзе, літоўца Авіжуса, украінца Казачэнкі, казаха Нурпеісава...* — Куусберг Пауль (1916–2003) — эстонскі пісьменнік. Авіжус Ёнас (1922–1999) — літоўскі пісьменнік; народны пісьменнік Літоўскай ССР (1986). Казачэнка Васілій (1913–1995) — украінскі пісьменнік. Нурпеісаў Абдзіжаміл (нар. у 1924) — казахскі пісьменнік; народны пісьменнік Казахскай ССР (1985).

Стар. 296. *...дакументальнай прозы Івана Новікава.* — Новікаў Іван (1918–?) — беларускі пісьменнік, публіцыст; у 1965–1986 гг. загадчык карэспандэнцкага пункта газ. «Правда» па Беларускай ССР.

Стар. 296. *...Івана Чыгрынава...* — Чыгрынаў Іван (1934–1996) — беларускі пісьменнік, сцэнарыст; народны пісьменнік Беларусі (1994).

Стар. 296. *...Мікалая Аляксеева, Мікалая Кругавых...* — Аляксееў Мікалай (1909–1976) — расійскі пісьменнік украінскага паходжання. Кругавых Мікалай (1926–1994) — беларускі пісьменнік расійскага паходжання (нарадзіўся ў Растоўскай вобл.).

### **Сорак трэці** *(стар. 298)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — газ. «Правда», 1975, 11 крас.

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 298. *...узяліся дабіваць рэшткі акружанай арміі Паўлюса...* — Паўлюс Фрыдрых (1890–1957) — нямецкі военачальнік; генералфельдмаршал (1943); камандуючы 6-й арміяй, якая была акружана і капітулявала пад Сталінградам (1943); аўтар аперацыі «Барбароса» — плана нападу Германіі на СССР.

### **Наша трывожная памяць** *(стар. 302)*

Друкуецца паводле кн.: Быкаў В. Крыжовы шлях: артыкулы, эсэ, інтэрв’ю, выступленні. Мінск, 1998. Упершыню — газ. «Известия», 1975, 25 мая. Друкаваўся таксама ў Зб. тв.: у 4 т., т. 4 — пад назвай «Тревожное воспоминание»; у Зб. тв.: у 6 т., т. 6.

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 304. *Аднойчы ранкам, калі вышыня...* — Гэты сказ адсутнічае ў першай публікацыі артыкула.

Стар. 305. *...аб трагічным фінале нядаўняга паядынку жменькі байцоў з нямецкімі танкамі.* — У першай публікацыі: «о трагическом исходе развернувшегося здесь единоборства горстки бойцов с не менее чем батальоном танковой дивизии СС „Адольф Гитлер“».

Стар. 305. *...усяго за два месяцы да нашай перамогі.* — У першай публікацыі далей ідзе: «И мне не дает покоя мысль, что, уйдя из этой жизни, он так никогда и не узнал о том заветном и радостном днем, когда в Европе смолк грохот разрывов и воцарился мир».

**Юрый Бондараў** *(стар. 305)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — у якасці прадмовы да выдання рамана «Берег» Ю. Бондарава ў «Роман-газете» [1975, № 23 (789)] пад назвай «На рубежах добра и любви». Пад гэтай жа назвай друкавалася ў кн. «Колокола Хатыни», у Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

## 1976

**Ясно сознавая свой долг...** *(стар. 308)*

Друкуецца паводле газ. «Гродненская правда», 1976, 14 лют, дзе ўпершыню апублікавана ў рубрыцы «К Дням белорусской литературы в Гродненской области». В. Быкаў прадстаўлены тут як адказны сакратар абласнога аддзялення СП БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 308. *...вождя героического восстания 1863 года публициста Кастуся Калиновского, его боевого соратника и зачинателя белорусского литературного возрождения Франтишка Богушевича, замечательного белорусского поэта Максима Богдановича, поэтессыреволюционерки Тетки...* — Каліноўскі Вінцэнт Канстанцін (1838–1864) — беларускі палітычны дзеяч, публіцыст, паэт; адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.; быў пакараны смерцю на шыбеніцы паводле пастановы царскага ваенна-палявога суда. Багушэвіч Францішак (1840–1900) — беларускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч;

адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры. Багдановіч Максім (1891–1917) — беларускі паэт; класік беларускай літаратуры. Цётка (сапр. Пашкевіч Алаіза; 1876–1916) — беларуская паэтка, публіцыст, грамадскі дзеяч.

Стар. 308. *…Адама Мицкевича, Элизы Ожешко, Владислава Сырокомли, Винцента Каратынского…* — Міцкевіч Адам (1798–1855) — польскі паэт беларускага паходжання (нарадзіўся ў Навагрудку), публіцыст, асветнік, дзеяч нацыянальна-вызваленчага польскага руху. Ажэшка Эліза (1841–1910) — польская пісьменніца беларускага паходжання (нарадзілася ў м. Мількаўшчына паблізу Гродна). Сыракомля Уладыслаў (сапр. Кандратовіч Людзвік Уладыслаў Францішак; 1823–1862) — беларускі паэт, краязнавец, гісторык літаратуры, перакладчык. Каратынскі Вінцэсь (1831–1891) — беларускі пісьменнік, перакладчык.

Стар. 309. *…Ежи Путрамента, Виктора Ворошильского…* — Путрамент Ежы (1910–1986) — польскі пісьменнік, публіцыст, палітычны дзеяч беларускага паходжання (нарадзіўся ў Мінску). Варашыльскі Віктар (1927–1996) — польскі пісьменнік, перакладчык, беларускага паходжання (нарадзіўся ў Гродне).

Стар. 309. *…нашего старейшего литератора, бывшего преподавателя Гродненского педагогического института Михаила Юрьевича Дубровского…* — Дуброўскі Міхась (Міхаіл; 1897–1983) — беларускі паэт, драматург; у 1950–1957 гг. старшы выкладчык Гродзенскага педінстыута імя Я. Купалы.

Стар. 309. *Данута Бичель-Загнетова* — Бічэль Данута (нар. у 1938) — беларуская паэтка; з 1962 г. выкладала беларускую мову і літаратуру ў школах Гродна; з 1982 г. загадчыца Дома-музея Максіма Багдановіча (Гродна).

Стар. 309. *…поэзия сморгонского учителя и поэта Марьяна Дуксы…* — Дукса Мар’ян (нар. у 1943) — беларускі паэт; у 1969–1987 гг. настаўнік у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне.

Стар. 310. *…русский поэт, инвалид Великой Отечественной войны Гавриил Шутенко.* — Шутэнка Гаўрыіл (нар. у 1924) — беларускі паэт; працаваў старшынёй касы ўзаемадапамогі калгаса «Парыжская камуна» на Стаўрапольшчыне, ва ўстановах Таварыства сляпых — культработнікам, дырэктарам вучэбна-вытворчага прадпрыемства, інспектарам.

Стар. 310. *…слонимский поэт Анатоль Иверс (Иван Дорофеевич Миско)…* — Іверс Анатоль (сапр. Міско Іван; 1912–1999) — беларускі паэт; у 1976–1984 гг. сакратар Слонімскага раённага аддзялення Таварыства аховы помнікаў

гісторыі і культуры.

Стар. 310. *...активный участник борьбы белорусского народа против пилсудчины...* — Пілсудскі Юзаф (1867–1935) — польскі дзяржаўны і палітычны дзеяч; першы кіраўнік незалежнай Польшчы (1918–1922), Галоўнакамандуючы Войска польскага (з 1918); прэм'ерміністр Польшчы (1926–1928, 1930); першы маршал Польшчы (1922).

Стар. 310. *...поэтический талант нашего молодого поэта и тележурналиста Юрки Голуба...* — Голуб Юрка (Юрый; нар. у 1947) — беларускі паэт; з 1970 г. рэдактар на Гродзенскай студыі тэлебачання; з 1979 г. загадчык аддзела мастацкага вяшчання Гродзенскага абласнога тэлерадыё.

Стар. 310. *Алексей Петкевич* — Пяткевіч Аляксей (нар. у 1931) — беларускі літаратуразнавец; у 1968–1974 гг. загадчык кафедры, затым дацэнт Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы; з 1990 г. дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага ўніверсітэта імя Я. Купалы.

Стар. 310. *...щучинская журналистка Мария Шевчонок...* — Шаўчонак Марыя (нар. у 1944) — беларуская паэтка; у 1966–1978 гг. працавала ў шчучынскай раённай газеце «Савецкая вёска»; з 1978 г. старшы рэктар аддзела прапаганды Гродзенскай студыі тэлебачання.

Стар. 310. *...бывший юрист Петр Лисицын...* — Лісіцын Пётр (нар. у 1927) — беларускі пісьменнік; працаваў у органах МУС Латвійскай ССР, затым БССР, юрыскансультантам Гродзенскага абласнога вытворчага аб'яднання бытавога абслугоўвання; у 1978–1985 гг. упаўнаважаны Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах па Гродзенскай вобласці.

Стар. 310. *Валентин Блакит* — Блакіт Валянцін (сапр. Болтач Валянцін; 1938–2008) — беларускі пісьменнік; у 1967–1968 гг. уласны карэспандэнт газеты «Гродненская правда»; з 1968 г. загадчык сектара друку, радыё і тэлебачання, у 1971–1972, 1974–1978 гг. намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі Гродзенскага абкама КПБ; у 1978–1987 гг. загадчык сектара тэлебачання і радыё ЦК КПБ.

Стар. 310. *Лидия Яловник* — Ялоўчык Лідзія (1911–1999) — беларуская пісьменніца, педагог.

Стар. 310. *Вал. Чекин* — Чэкін Валянцін — беларускі паэт, перакладчык.

Стар. 310. *Л. Цыхун* — Цыхун Апанас (1910–2005) — беларускі педагог, краязнавец; стваральнік Мемарыяльнага музея Я. Карскага ў в. Лаша Гродзенскага раёна (1964–1997).

Стар. 310. Вл. Васько — Васько Уладзімір (нар. у 1937) — беларускі паэт, журналіст.

Стар. 310. *С. Перлович* — Пярловіч Самсон (1923–2001) — беларускі паэт.

**[Интервью газете «Гудок»]** *(стар. 311)*

Друкуецца паводле газ. «Гудок», 1976, 7 мая, дзе ўпершыню апублікавана пад назвай «Сражающиеся посмертно» і падзагалоўкам «Беседа с писателем Василем Быковым». Гутарку вёў А. Вараб'ёў.

Датуецца часам першай публікацыі.

Гутарка апублікавана з наступным уступным словам: «Герои военных повестей Василя Быкова словно рождены для бессмертия. Своим высоким нравственным взлетом на той, последней, черте жизни, где обозначен для каждого предел человеческих возможностей, они обретают право оставаться всегда сражающимися героями. Как ни тяжело принимать правду войны такой, которая не оставляет никаких шансов выжить в схватке с врагом ни лейтенанту Ивановскому и солдату Пивоварову („Дожить до рассвета“), ни Сотникову из одноименной повести, ни учителю Морозу („Обелиск“), но правда есть правда, и, принимая ее такой, какая она есть, мы вместе с ощущением болезненной утраты обретаем высокий заряд нравственности, сообщенный героями быковских повестей, обретаем надолго, навсегда.

В канун праздника Победы наш кореспондент встретился с лауреатом Государственной премии СССР Василем Быковым и сегодня предлагает читателям „Гудка“ запись беседы с писателем».

Стар. 313. *Сейчас на «Мосфильме» режиссер Лариса Шапитько снимает фильм по «Сотникову».* — Шапіцька Ларыса (1938–1979) — расійскі кінарэжысёр; заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі (1974). Размова ідзе пра фільм «Восхождение» (1977, к/с «Мосфильм»; сц. Ю. Клепікава, Л. Шапіцькі).

**Гады, аддадзеныя мастацтву** *(стар. 314)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1976, 20 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны з падзагалоўкам «Майстры сцэны».

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул напісаны з нагоды 50-годдзя Мікалая Яроменкі.

Стар. 315. *Б. В. Платонаў* — Платонаў Барыс (1903–1967) — беларускі артыст, педагог; народны артыст БССР (1946) і СССР (1948); з 1922 г. артыст Першага беларускага драматычнага тэатра (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы); у

1961–1963 гг. мастацкі кіраўнік тэатра.

### **Два апавяданні** *(стар. 316.)*

Друкуецца паводле — Даляглялы. Літаратурны зборнік. Мінск, 1976.

Датуецца часам першай публікацыі.

Напісана ў якасці ўступнага слова да апавяданняў Віктара Астаф'ева «Трубіць дзікі» і «Той самы Камароў» (пер. А. Жука).

### **[Адказы на пытанні ўдзельнікаў літаратурнага семінара ў Доме творчасці пісьменнікаў у Каралішчавічах]** *(стар. 316)*

Друкуецца паводле кн.: Гардзіцкі А. Гутаркі: інтэрв'ю, дыялогі пра літаратуру. Мінск, 1988, дзе апублікавана пад агульнай назвай «Гутаркі з Васілём Быкавым». Упершыню — Гардзіцкі А. «Пра самае галоўнае»: дзве гутаркі з Васілём Быкавым // Маладосць, 1978, № 9.

Датуецца 1976 г. — паводле ўступнага слова да публікацыі.

Адказы на пытанні ўдзельнікаў літаратуранага семінара, які праходзіў у Доме творчасці пісьменнікаў у Каралішчавічах у 1976 г.

Стар. 318. *У Паўла Місько...* — Місько Павел (нар. у 1931) — беларускі пісьменнік, перакладчык.

Стар. 318. — *Як вы ставіцеся да Юрыя Трыфанава?* — Трыфанаў Юрый (1925–1981) — расійскі пісьменнік.

Стар. 319. *Самерсэт Маэм* (1874–1965) — англійскі пісьменнік.

### **Верность дружбе солдатской** *(стар. 320)*

Друкуецца паводле «Лит. газеты», 1976, 29 снеж., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца часам першай публікацыі.

## **1977**

### **Игорь Божко** *(стар. 322)*

Друкуецца паводле копіі машынапісу, які захоўваецца ў Архіве В. Быкава (Мінск). Упершыню — Смена, 1977, № 16, с. 18–19.

Датуецца паводле рукапіснай пазнакі напрыканцы машынапісу — *24.I.77.*

Машынапіс (1 арк.) за подпісам В. Быкава. Уступнае слова да апавядання «Музыка» Ігара Бажко (нар. у 1937), украінскага мастака, скульптара і пісьменніка, напісана Быкавым у адказ на просьбу часоп. «Смена», пра што Васіль Уладзіміравіч паведамляў у лісце да І. Бажко:

«Недавно журнал „Смена“ обратился ко мне написать вступление к Вашему рассказу „Музыка“, что я, разумеется, сделал с удовольствием. Кроме того, всюду, где имеет смысл, говорю о Вас и Вашей прозе. Может быть, Вы наконец станете печататься в Москве.

Высылаю Вам копию моего „вступления“ в „Смене“».

### **За счастье надо бороться** *(стар. 323)*

Друкуецца паводле кн. «Колокола Хатыни». Упершыню — «Лит. газета», 1977, 27 крас. Друкаваўся таксама ў Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

### **Подвиги бессмертны** *(стар. 324)*

Друкуецца паводле газ. «Правда», 1977, 27 жн., дзе ўпершыню апублікаваны з падзагалоўкам «Заметки публициста».

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 326. *…французских летчиков эскадрильи «Нормандия — Неман».* — Французскі вынішчальны авіцыйны полк, які ваяваў на савецка-германскім фронце ў 1943–1945 гг. Французская эскадрылья, пазней рэарганізаваная ў полк, была сфарміравана ў снежні 1942 г. у расійскім г. Іванаве. Назва «Нармандыя» была абраная ў гонар французскай правінцыі, якая найбольш пацярпела ад нямецкай акупацыі. Полк браў удзел у Курскай бітве (1943), Беларускай аперацыі (1944), у баях па разгроме нямецкіх войск ва Усходняй Прусіі (1945). У лістападзе 1944 г. за баявыя заслугі і мужнасць, якая была праяўлена падчас паветраных баёў у час вызвалення Літвы і пры фарсіраванні р. Нёман, загадам І. Сталіна палку было нададзена ганаровае найменне «Неманскі», з таго часу полк стаў называцца «Нармандыя — Неман».

Стар. 326. *…Лизы Чайкиной…* — Чайкіна Елізавета (1918–1941) — сакратар Пенаўскага падпольнага райкама камсамола Калінінскай вобласці (цяпер — Цвярской), адна з арганізатараў партызанскага атрада ў гады Другой сусветнай вайны; Герой Савецкага Саюза (1942, пасмяротна).

## **[Интервью журналу «Библиотекарь»]** *(стар. 327)*

Друкуецца паводле часоп. «Библиотекарь», 1977, № 9, дзе ўпершыню апублікавана пад агульнай назвай «Книги и библиотеки в нашей жизни». Інтэрв'ю ўзяла В. Дышыневіч.

Датуецца часам першай публікацыі.

Інтэрв'ю надрукавана разам з адказамі іншых дзеячаў навукі і культуры Беларусі (скульптара З. Азгура, дырэктара Інстытута атамнай энергетыкі АН БССР А. Красіна, паэта М. Танка, мастака А. Кашкурэвіча) з наступным уступным словам: «По просьбе редакции В. Н. Дышиневич, главный библиограф Государственной библиотеки БССР имени В. И. Ленина, обратилась к ряду ученых, писателей, деятелей искусства Белоруссии с предложением поделиться мыслями о том, какую роль играют в их жизни и работе книги и библиотеки».

Стар. 327. *...под Яссами...* — Ясы — горад у Румыніі.

## **[Гутарка з Аляксеем Гардзіцкім]** *(стар. 328)*

Друкуецца са скарачэннямі паводле кн. «Гутаркі: інтэрв'ю, дыялогі пра літаратуру» А. Гардзіцкага, дзе апублікавана пад агульнай назвай «Гутаркі з Васілём Быкавым». Упершыню — Гардзіцкі А. «Пра самае галоўнае» // Маладосць, 1978, № 9.

Датуецца 1977 г. — паводле ўступнага слова да публікацыі. Публікацыі гутаркі з В. Быкавым папярэднічае ўступнае слова А. Гардзіцкага: «Прайшоў месяц [размова ідзе пра літаратурны семінар у Доме творчасці пісьменнікаў у Каралішчавічах 1976 г. — *С. Ш.* ], і я зноў сустрэўся з Васілём Быкавым, цяпер ужо ў Гродне, горадзе, з якім звязаны яго першыя літаратурныя крокі і ў той жа час зусім не лёгкі поспех.

„Як выйдзеш з вакзала, павярні налева і ідзі ўздоўж чыгункі. Ад вадакачкі павернеш — глядзі пяты дом злева“. У пачутых па тэлефоне словах мне адчулася, што Гродна — яго горад і ён свой для гэтага горада. Адразу прыгадалася, як Васіль Уладзіміравіч, убачыўшы заснежаны каралішчавіцкі дом, усклікнуў: „Тут усё як было. Я люблю наведваць такія мясціны“. — „Тады яны быццам родныя“, — дабавіў я. „Вось Полацк неяк не цягне мяне да сябе, усё там змянілася, — нібы пажурыўся пісьменнік. — Нават Мінск мне бліжэй, ён ужо амаль усталяваўся“.

Пісьменнік так доўга жыў у Гродне (пазней ён пераехаў у Мінск), што ва ўяўленні чытачоў неяк міжволі Гродзеншчына атаясамліваецца з яго радзімай. Гродзенцы часам называюць яго земляком, хоць радзіма пісьменніка — Полаччына, Ушацкі раён.

І, нібы працягваючы тую гаворку, што адбылася ў Каралішчавічах, я пытаюся ў Васіля Уладзіміравіча, як сталася, што ён апынуўся ў Гродне».

Стар. 328. *Дырэктарам вучылішча быў тады Іван Восіпавіч Ахрэмчык.* — Ахрэмчык Іван (1903–1971) — беларускі мастак; народны мастак БССР (1949).

Стар. 329. *...паэзія Купалы...* — Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван; 1882–1942) — народны паэт Беларусі (1925); класік беларускай літаратуры.

Стар. 330. *...Паўстоўскага...* — Паўстоўскі Канстанцін (1892–1968) — расійскі пісьменнік.

Стар. 330. *В случае главной утопии...* — Радкі з верша А. Твардоўскага «В случае главной утопии..» (1939).

Стар. 330. *...жонка паэта, Марыя Іларыёнаўна...* — Твардоўская Марыя (1908–1991).

Стар. 330. *А гэта — фатаграфіі сыноў, адзін з іх афіцэр, другі медык.* — Быкавы Сяргей (1952) і Васіль (1957).

Стар. 330. *Паведамляю, што ў імянным спісе беззваротных страт 399 стралковага палка за 1943–44 гг. значыцца: камандзір стралковага ўзвода лейтэнант Быкаў Васіль Уладзіміравіч забіты 10.1.44 г., пахаваны на цэнтральных могілках в. Вялікая Севярынка Кіравааградскай вобласці. Падстава: вопіс 84108, с. 8, л. 58.* — «Именной список безвозвратных потерь 399 стрелкового полка 111 стрелковой дивизии» з 12 снежня 1943 г. да 10 студзеня 1944 г. за подпісамі камандзіра палка капітана Перапёлкіна і начальніка штаба маёра Марозава захоўваецца: Цэнтральны архіў Міністэрства абароны РФ. Ф. 33, воп. 11458, адз. зах. 290.

Стар. 333. *...калі мастак апераджаў магчымасці ўспрымання мастацтва сваімі сучаснікамі і прызнанне і папулярнасць прыйшлі толькі пасля смерці, як, напрыклад, да Ван Гога.* — Ван Гог Вінсэнт (1853–1890) — нідэрладскі мастак-постімпрэсіяніст, сусветная вядомасць да якога прыйшла пасля яго смерці; разам з працамі Пабла Пікаса карціны Ван Гога адны з першых у спісе самых дарагіх карцін, якія калі-небудзь былі прададзены ў свеце.

Стар. 333. *...вялікі польскі паэт Норвід...* — Норвід Цыпрыян (1821–1883) — польскі паэт, празаік, драматург, мастак; класік польскай літаратуры.

Стар. 333. *...Славацкага.* — Славацкі Юльюш (1809–1849) — польскі паэт, драматург; класік польскай літаратуры.

**Сяргей Смірноў** *(стар. 334)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — у якасці прадмовы да кн.: Смирнов С. С. Герои Великой войны. М., 1977 пад назвай «Завидная писательская судьба». Пад гэтай жа назвай друкавалася таксама ў кн. «Колокола Хатыни».

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 336. *Што ж, цудоўны яго пісьменніцкі лёс!* — У першапублікацыі: «Что ж, завидная человеческая участь, прекрасная писательская судьба!»

## 1978

### **Усенародная памяць** *(стар. 337)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — газ. «Известия», 1978, 10 лют. пад назвай «Всенародная память». Друкавалася таксама ў кн. «Колокола Хатыни», у Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

Ніжэй прыводзяцца істотныя разыходжанні паміж публікацыяй у кн. «Праўдай адзінай» і першапублікацыяй:

Стар. 337. *На самой справе, як можна забыць наш бяспрыкладны подзвіг, нашы велізарныя страты, прынесеныя ў імя перамогі над самым каварным і жорсткім ворагам — нямецкім фашызмам!* — У першапублікацыі далей ідзе: «Четыре военных года по концентрации пережитого несравнимы ни с какими другими годами нашей истории. Кроме того, война преподала истории и человечеству ряд уроков на будущее, игнорировать которые было бы непростительным равнодушием».

Стар. 338. *Але ўся неаглядная разнастайнасць народнага подзвігу ў агняныя гады вайны, гераізм мільёнаў, поўная не меншага гераізму і самаадданасці работа савецкага тылу тояць у сабе нямала неасветленых, а то і забытых старонак.* — У першапублікацыі далей ідзе: «Нужно как можно больше ярких индивидуальных и коллективных свидетельств об этой небывалой в истории войне, рассказанных по радио и телевидению, написанных воспоминаний, очерков, статей».

Стар. 338. *Сярод іх нямала цікавых успамінаў, асветленых незвычайнасцю барацьбы, значнасцю асобы іх аўтараў.* — У першапублікацыі: «Среди них немало интересных воспоминаний, освещенных незаурядностью личности авторов». Далей ідзе з новага абзаца: «Только что февральский номер журнала „Новый мир“ познакомил читателей с воспоминаниями Леонида Ильича Брежнева „Малая земля“ — взволнованным и ярким рассказом об одной из героических страниц Великой Отечественной войны, о

бессмертном подвиге солдат и матросов, защитников легендарного плацдарма у Новороссийска. „Мысленно возвращаясь к тем штормовым дням, вспоминая суровую клятву, я всегда испытываю душевное волнение и гордость, — пишет Леонид Ильич. — История знает немало героических подвигов одиночек, но только в нашей великой стране, только ведомые нашей великой партией, советские люди доказали, что они способны на массовый героизм“». Між тым, нельга выключаць, што гэты абзац быў напісаны не В. Быкавым, а яго сябрам, уласным карэспандэнтам газ. «Известия» М. Матукоўскім, бо, па-першае, ён адсутнічае ў публікацыі артыкула ў абодвух кніжных выданнях («Колокола Хатыни» і «Праўдай адзінай»); па-другое, па сведчанні жонкі пісьменніка І. М. Быкавай, неаднойчы здаралася, што Матукоўскі, рыхтуючы артыкулы ці інтэрв'ю Быкава да друку ў «Известиях», рабіў нейкія допісы, не ставячы ў вядомасць пра тое пісьменніка.

Стар. 340. *На днях у Мінску...* — У першапублікацыі: «9 февраля в Минске».

### **Невычэрпная шчодрасць розуму** *(стар. 341)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай», дзе апублікаваны пад назвай «Леў Талстой». Упершыню — «Лит. газета», 1978, 6 верас. Друкаваўся таксама ў кн. «Колокола Хатыни» пад назвай «Неиссякаемая щедрость ума». На бел. мове і пад назвай «Невычэрпная шчодрасць розуму» ў газ. «Голас Радзімы», 1978, 21 верас. і ў зб.: Леў Талстой і Беларусь: артыкулы, эсэ, выказванні / уклад. Ф. І. Куляшоў. Мінск, 1981.

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул напісаны да юбілею Льва Талстога і ўпершыню надрукаваны ў «Лит. газете» пад агульнай назвай «К 150-летию со дня рождения Л. Н. Толстого. Наследие, устремленное в будущее. Слово советских и зарубежных писателей. Анкета „ЛГ“» [разам з В. Быкавым прадстаўлены пісьменнікі Ю. Бондараў, П. Нілін, П. Праскурын, Ю. Трыфанаў (Расія), А. Ганчар (Украіна), В. Бубніс (Літва), А. Нурпеісаў (Казахстан), М. Ананд (Індыя), Й. Балаж (Венгрыя), М. Друон (Францыя), Е. Каранфілаў (Балгарыя), Дж. Чывер (ЗША)].

Падчас кожнай публікацыі на бел. мове ў артыкуле, мусіць, самім Быкавым рабіліся шматлікія стылёвыя праўкі; да таго ж быў скарочаны апошні абзац: «Усё яго жыццё — няспынныя пошукі: спачатку самога сябе ў гэтым свеце, затым сэнсу і мэты ўсяго жыцця. Нягледзячы на шэраг паражэнняў і страт, ён да канца сваіх дзён заставаўся ворагам душэўнай самаўспакоенасці. Ці не ў гэтым, апрача многіх іншых, яго вялікі ўрок для ўсіх яго сучаснікаў

і тых, хто жыве ў другую эпоху, але ўсё на той жа цудоўнай і грэшнай зямлі?»

**Глазами участника и очевидца** *(стар. 342)*

Друкуецца паводле кн.: Соболев А. Какая-то станция. Повести. М., 1978, дзе ўпершыню апублікавана ў якасці прадмовы.

Датуецца часам першай публікацыі.

У Архіве В. Быкава (Мінск) захоўваецца экзэмпляр кнігі «Какаято станция» з наступным дарчым аўтографам:

> «Василю Быкаву — солдату верному, писателю суровому, человеку прекрасному — с преклонением перед его талантом и судьбой.
> Поклон и благодарность за предисловие.
> *4.10.78. А. Соболев г. Минск».*

## 1979

**Некалькі слоў пра «Альпійскую баладу»** *(стар. 345)*

Друкуецца паводле кн. «Крыжовы шлях». Упершыню — «Лит. газета», 1979, 1 студз., дзе апублікавана пад назвай «Однажды в самом конце войны». Друкаваўся таксама ў кн. «Колокола Хатыни», у Зб. тв.: у 4 т., т. 4; у пер. на бел. мову пад назвай «Некалькі слоў аб „Альпійскай баладзе“» ў кн. «Праўдай адзінай» і ў Зб. тв.: у 6 т., т. 6.

Датуецца часам першай публікацыі.

Надрукавана як адказ на ліст, з якім студэнты Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. В. Ламаносава звярнуліся ў рэдакцыю «Лит. газеты»:

«Мы даже не предполагали, какое это трудное дело — назвать среди ряда имен писателей, книги которых мы любим, одно-единственное. Но вот в результате обсуждений, споров оно было произнесено. Это Василь Быков. Его произведения нас волнуют, заставляют думать о человеческой жизни, о ее ценности, о ее смысле, заставляют сопоставлять, сравнивать, открывают, какими силами наделен человек. Мы вновь перечитали его книги, и они вновь заставили нас страдать и наслаждаться, радоваться и горевать. Мы очень просим Василя Владимировича рассказать какую-нибудь историю из его жизни, какой-нибудь эпизод, свидетелем, участником которого он был, который лег в книгу или послужил толчком для написания повести. А мы их, повторяем, хорошо знаем.

*Студенты биофака МГУ Н. Казеннова, А. Белкин, В. Мельников, В. Кондратов, секретарь комитета комсомола биофака МГУ».*

Стар. 345. *Здаецца, гэта быў Фэльбах або, можа, Глейсдорф...* — Фельбах — горад у Германіі, знаходзіцца на зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Глайсдорф — горад у Аўстрыі, знаходзіцца на федэральнай зямлі Штырыя.

Стар. 345. *Яны неслі нацыянальны французскі сцяг, спявалі «Марсельезу»...* — «Марсельеза» — самая знакамітая песня Вялікай французскай рэвалюцыі, якая была спачатку гімнам рэвалюцыянераў, а ў 1793 г. была абраная дзяржаўным гімнам Францыі. Першапачатковая назва — «Ваенны марш Рэйнскай арміі»; аўтар — ваенны інжынер Клод Жазэф Ружэ дэ Ліль.

**[Інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва»]** *(стар. 347)*

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1979, 3 студз., дзе ўпершыню апублікавана пад назвай: «Васіль Быкаў: „Абавязак перад народам“».

Датуецца часам першай публікацыі.

Нагодай для публікацыі стала прысуджэнне В. Быкаву Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978, за аповесці «Воўчая зграя» і «Яго батальён»).

**[Інтэрв'ю газеце «Советская Белоруссия»]** *(стар. 348)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — газ. «Советская Белоруссия», 1979, 21 студз. пад назвай «На пульсе жизни» ў рубрыцы «Рядом с интересным собеседником». Інтэрв'ю ўзяў А. Літвін.

Датуецца часам першай публікацыі.

Інтэрв'ю надрукавана з наступным уступным словам: «Государственная премия БССР имени Якуба Коласа присуждена писателю Василию Владимировичу Быкову за повести „Волчья стая“ и „Его батальон“. Это высокая оценка творчества известного белорусского писателя, его произведений о Великой Отечественной войне, которые воспитывают у читателя глубокое чувство патриотизма, любви и преданности Отчизне, взывают к бдительности и неустанной борьбе за мир и дружбу на земле».

Падчас публікацыі ў кн. «Праўдай адзінай» у інтэрв'ю быў дададзены апошні сказ («Над усімі гэтымі і некаторымі іншымі тэмамі і працуюць сёння многія паэты, празаікі, драматургі нашай рэспублікі»), да таго ж быў скарочаны апошні абзац: «Что же

касается меня лично, то на моем рабочем столе появилась новая рукопись именно на упомянутую выше тему. Впервые это будет произведение не о войне, а о сегодняшнем дне республики и, возможно, в этом году оно будет закончено».

**Подзвіг мастака** *(стар. 351)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню са скарачэннямі — газ. «Известия», 1979, 21 студз. пад назвай «Подвиг художника» і падзагалоўкам «Раздумья о новых живописных полотнах Михаила Савицкого»; на бел. мове і пад назвай «Права на подзвіг» — газ. «Літ. і мастацтва», 1979, 26 студз.

Датуецца часам першай публікацыі.

**З пяшчотаю ў душы** *(стар. 354)*

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1979, 9 сак., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул напісаны да 60-годдзя Аляксея Слесарэнкі (нар. у 1919), беларускага акцёра эстрады, чытальніка беларускай літаратуры, пісьменніка; заслужнага дзеяча культуры БССР (1960).

**Ведаць тое, аб чым пішаш** *(стар. 356)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — «Лит. газета», 1979, 25 крас. пад назвай «Знать то, о чем пишешь...». Друкавалася таксама ў кн. «Колокола Хатыни», Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

Адказы на анкету «Лит. газеты» ў рубрыцы «Социалистический реализм: художественный опыт и теория». Анкетаванне [у ім таксама прынялі ўдзел пісьменнікі Й. Авіжус (Літва), М. Аляксееў, Р. Бакланаў, Ю. Бондараў, Я. Ісаеў (Расія), Т. Курбанаў (Туркменістан)] праводзілася па наступных пытаннях: «1. Какие НОВЫЕ черты присущи, с вашей точки зрения, современному этапу развития литературы социалистического реализма? 2. Как вы понимаете новаторство в литературе? 3. Какие произведения мировой прогрессивной литературы являются, на ваш взгляд, наиболее значительными и почему? Ощущаете ли вы как писатель их воздействие?» Аднак, як вынікае са зместа, артыкул В. Быкава носіць самастойны характар і мае чыста фармальнае дачыненне да анкеты «Лит. газеты».

Стар. 357. *Гусараў* Дзмітрый (1924–1995) — расійскі

пісьменнік; народны пісьменнік Рэспублікі Карэлія (1994).

### **Газета — школа слова** *(стар. 357)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — часоп. «Журналист», 1979, № 6 пад назвай: «Василь Быков: Газета — школа слова». Інтэрв'ю браў А. Сакалоў.

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 359. *...выпадак з творчага жыцця, напрыклад, У. Цендракова, які адзін сюжэт сваёй даволі вядомай аповесці ўзяў з газеты.* — Цендракоў Уладзімір (1923–1984) — расійскі празаік, сцэнарыст, драматург.

### **Памяці мастака** *(стар. 361)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай», дзе апублікавана пад назвай «Ларыса Шапіцька». Упершыню — «Лит. газета», 1979, 11 ліп. пад назвай «Памяти художника». Пад гэтай жа назвай друкаваўся ў кн. «Колокола Хатыни».

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул напісаны з выпадку гібелі ў аўтамабільнай катастрофе Ларысы Шапіцька.

### **Па праву памяці** *(стар. 363)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — газ. «Правда», 1979, 16 ліп. Друкавалася таксама ў кн. «Праўдай адзінай»; у Зб. тв.: у 4 т., т. 4, дзе апублікавана ў якасці раздзела эсэ «Верность памяти» пад агульнай назвай «По праву фронтовика».

Датуецца часам першай публікацыі.

Ніжэй прыводзяцца істотныя разыходжанні паміж публікацыяй у Зб. тв., 1994 і першапублікацыяй.

Стар. 363. *...чый талент дасягнуў значнага ўзлёту менавіта ў адлюстраванні мінулай вайны, хоць у яго творчым актыве значацца і такія безумоўныя ўдачы мірнай тэмы, як многія апавяданні або шырокавядомая аповесць «Карпухін». У апошнім, майскім, нумары часопіса «Октябрь» ён выступіў з новым творам на сваю ранейшую тэму — аповесцю пра вайну «Навекі дзевятнаццацігадовыя».* — Адсутнічае ў першапублікацыі.

Стар. 363. *...як псіхалогію людзей вайны, іх пачуцці, настрой — свет іх душы.* — У першапублікацыі: «душевное состояние

героев войны, мир их души».

Стар. 363. *Сюжэтная будова аповесці грунтуецца пераважна на раманнай аснове і ўключае ў сябе...* — У першапублікацыі: «Сюжет повести включает в себя».

Стар. 363. *...з уласцівым Бакланаву густам...* — Адсутнічае ў першапублікацыі.

Стар. 363. *Менавіта аўтарскі густ дазваляе яму пазбегнуць распаўсюджаных трывіяльнасцей у адлюстраванні салдацкага гераізму, хоць паводзіны Траццякова ў часе атакі можна расцаніць як подзвіг. Гэта, калі так можна сказаць, двойчы на працягу года ажыццёўлены ўдзел лейтэнанта ў вайне, пасля першага з якіх паследаваў доўгі перыяд лячэння ў тылавым шпіталі, а пасля другога яму суджана было навек застацца дзевятнаццацігадовым.* — Адсутнічае ў першапублікацыі.

Стар. 364. *Таленавіта засведчаная ў мастацтве салдацкая памяць становіцца своеасаблівым духоўным абеліскам, пастаўленым жывымі ў гонар сваіх мёртвых братоў.* — Адсутнічае ў першапублікацыі.

Стар. 364. *Цудоўна, што ў аповесці зусім не адчуваецца выдуманага, усё быццам пачэрпнута, перажыта, вынесена з уласнага вопыту аўтара. [...] Тым больш здзіўляючая гэта здольнасць таленту — з такой верагоднасцю выклікаць з небыцця мінулае, насяляць яго жывымі паўнакроўнымі вобразамі.* — Адсутнічае ў першапублікацыі.

Стар. 365. *...сэнс іх ратнага подзвігу становіцца здабыткам усіх. Асабліва цяпер, калі беларускі народ урачыста адзначае 35-годдзе вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.* — Адсутнічае ў першапублікацыі.

Стар. 365. *...пра якіх таленавіта расказаў адзін з іх жывых аднагодкаў.* — Адсутнічае ў першапублікацыі, якая заканчваецца наступным чынам: «В то же время — это урок нынешним девятнадцатилетним, которых должно воспитывать на опыте их ровесников, не доживших до Дня Победы».

### **Пазначана высокаю гармоніяй** *(стар. 365)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай», дзе апублікавана пад назвай «Арлен Кашкурэвіч». Упершыню — часоп. «Маладосць», 1979, № 9 пад назвай «Пазначана высокаю гармоніяй».

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул напісаны да 50-годдзя з дня нараджэння Арлена Кашкурэвіча (1929–2013), беларускага мастака; народнага мастака БССР (1973).

Стар. 367. *...Лакснеса...* — Лакснес Халдар Кільян (1902–1998) — ісландскі пісьменнік; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1955).

Стар. 367. *...«Фаўста» Гётэ.* — Гётэ Ёган Вольфганг (1749–1832) — нямецкі паэт; класік нямецкай літаратуры.

Стар. 367. *...разам з цудоўным перакладам В. Сёмухі...* — Сёмуха Васіль (нар. у 1936) — беларускі перакладчык; лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992, за пераклад «Доктара Фаўстуса» Т. Мана), кавалер «Залатога Знака Гонару» ГДР (1981), ордэна «За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй» (2001), а таксама латвійскага «Ордэна Трох Зорак».

### **Нашы надзённыя клопаты** *(стар. 367)*

Друкуецца паводле Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню са скарачэннямі — газ. «Літ. і мастацтва», 1979, 23 лістап. пад назвай «Адказнасць пісьменніка». Друкавалася таксама ў кн. «Праўдай адзінай» пад назвай «Нашы надзённыя клопаты».

Датуецца не пазней 16 лістапада 1979 г.

Прамова на пленуме праўлення СП БССР, які праходзіў у Мінску 15–16 лістапада 1979 г. і быў прысвечаны праблемам сучаснага беларускага рамана.

Стар. 368. *З горкім сумам успамінаеш той даўні час, калі наш вялікі паэт, паміраючы ля сіняй бухты, быў шчаслівы тым, што меў кніжку з друкарні Марціна Кухты.* — Пераказ верша М. Багдановіча «Ў краіне светлай, дзе я ўміраю...»:

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Маецца на ўвазе адзіная прыжыццёвая кніга М. Багдановіча «Вянок», якая была выдадзена ў віленскай друкарні Марціна Кухты (1875–1941/1942) у 1914 г. (на самой кнізе пазначаны 1913 г.).

Стар. 368. *...варта працытаваць сёння хоць бы «Неистового Виссариона»...* — Так сябры называлі рускага літаратурнага крытыка В. Бялінскага за яго незвычайную гарачнасць і энергію падчас спрэчак па папаважных для яго пытаннях.

Стар. 368. *Бахцін* — Бахцін Міхаіл (1895–1975) — расійскі філосаф, мысляр, лінгвіст, тэарэтык еўрапейскай культуры і мастацтва.

Стар. 369. *...за выключэннем, здаецца, добрага рамана У. Фаменкі...* — Фаменка Уладзімір (1911–1990) — расійскі пісьменнік. Размова ідзе пра раман «Память земли».

**[Интервью газете «Социалистическая индустрия»]** *(стар. 372)*

Друкуецца паводле газ. «Социалистическая индустрия», 1979, 8 снеж., дзе ўпершыню апублікавана пад назвай «Василь Быков: „Чтобы читателю было над чем задуматься...“» у рубрыцы «Субботние встречи». Інтэрв'ю вёў У. Мехаў.

Датуецца часам першай публікацыі.

Інтэрв'ю надрукавана з наступным уступным словам: «...Шли вражеские танки. Кому довелось бывать в такой ситуации, тот знает, что это значит, — зажавшись в окопчике неполного профиля, ожидать, когда движущееся на тебя бронированное страшилище очутится на расстоянии прицельного выстрела противотанкового ружья или еще ближе, на расстоянии, с которого можно швырнуть в него связку гранат.

Девятнадцатилетний лейтенант, командир стрелкового взвода, следил за приближением танков взглядом бывалого солдата — он уже успел повоевать. В том бою пулеметной очередью ему прошило ногу. Он и теперь удивляется, как товарищам удалось его выхватить почти из-под самых гусениц фашистского танка.

После ночи в хате, где размещены были раненые, он решил добираться до медсанбата сам. Собрав остаток сил, выполз на дорогу, остановил попутную подводу. А хату через некоторое время разворотило снарядом. Товарищи лейтенанта видели это, и, когда деревня снова была освобождена, в список захороненных в братской могиле воинов вписали и девятнадцатилетнего лейтенанта...

Та деревня в Кировоградской области на Украине называется Большая Северинка.

Того лейтенанта — в архивных документах он и сейчас числится погибшим и захороненным — звали Василий Владимирович Быков.

Ныне это известный белорусский писатель, лауреат Государственной премии СССР, депутат Верховного Совета Белорусской ССР Василь Быков».

Стар. 375. *Илья Эренбург* — Эрэнбург Ілья (1891–1967) — расійскі пісьменнік, публіцыст; двойчы лаўрэат Сталінскай прэміі (1948, 1953). Аповесць Эрэнбурга «Оттепель» (1954) дала назву цэламу гістарычнаму перыяду ў грамадска-палітычным развіцці СССР.

## [Предисловие к книге «Войны разрозненные строки» Ефима Гольбрайха] *(стар. 375)*

Друкуецца паводле арыгінала машынапісу (2 арк.) з Архіва В. Быкава (Мінск). Упершыню: Памир, 1980, № 5. Друкавалася таксама пад назвай «Предисловие» ў кн.: Гольбрайх Е. Войны разрозненные строки. Душанбе, 1984; пад назвай «Слово об авторе и его книге» — у кн.: Гольбрайх Е. Войны разрозненные строки: (издание второе, исправленное и дополненное). Душанбе, 1991.

Датуецца паводле пазнакі напрыканцы машынапісу — *22 декабря 1979 г., Минск.*

Напісаны ў якасці прадмовы да кнігі ўраджэнца Беларусі (нарадзіўся ў Віцебску) пісьменніка Яфіма Гольбрайха (нар. у 1921) у адказ на просьбу рэдактара Дзяржаўнага выдавецтва «Ирфон» (Душанбэ, Таджыкістан) А. Яблакава, які пісаў у лісце да Быкава: «Издательство „Ирфон“ в настоящее время готовит к печати книгу Е. А. Гольбрайха „Войны разрозненные строки“.

Автор познакомил редакцию с Вашим письмом, в котором Вы справедливо отмечаете оригинальность удачно найденной формы произведения („именно в такой форме, кажется, еще не писали“).

Посылаем Вам копию предисловия, написанного Вами для опубликования в журнале „Памир“ (май, 1980); быть может, Вы пожелаете внести какие-либо коррективы для отдельного издания, и просим Вас дать согласие на его опубликование в книге».

## [Інтэрв’ю газеце «Літаратура і мастацтва»] *(стар. 377)*

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1979, 28 снеж. пад назвай «Васіль Быкаў, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР: „Першым заўжды трудней“». Інтэрв’ю вёў У. Аніскович.

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 378. *...В. Земляка, Л. Якіменкі, В. Курачкіна...* — Зямляк Васілій (сапр. Вацык Вацлаў; 1923–1977) — украінскі пісьменнік, сцэнарыст. Якіменка Леў (1921–1978) — расійскі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік. Курачкін Віктар (1923–1976) — расійскі пісьменнік.

Стар. 378. *Бюфон* Жорж-Луі Леклерк дэ (1707–1788) — французскі натураліст, біёлаг, матэматык, пісьменнік.

Стар. 378. *...фламандскага мастака Брэйгеля.* — Брэйгель Пітэр (каля 1525–1569) — фламандскі мастак; самы найзнакаміты з тых мастакоў, хто насіў гэтае прозвішча. Вядомы таксама пад

мянушкай «Мужыцкі».

Стар. 378. *...гісторыю пра мужыцкага Хрыста, які «прызямліўся ў Гародні».* — Маецца на ўвазе раман У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Стар. 378. *...ваенны раман В. Хомчанкі...* — Хомчанка Васіль (1919–1992) — беларускі пісьменнік, сцэнарыст.

Стар. 378. *... новая кніга А. Адамовіча, якая неўзабаве будзе друкавацца ў часопісе «Дружба народов».* — Адамович А. Каратели // Дружба народов, 1980, № 1.

Стар. 379. *...змястоўную кнігу Э. Скобелева «Міраслаў князь дрыговіцкі»...* — Скобелеў Эдуард (нар. у 1935) — беларускі пісьменнік; піша на рускай мове.

### **Адна рыска з многіх** *(стар. 380)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай», дзе апублікавана пад назвай «Міхась Лынькоў». Упершыню — зб.: Святло яго душы: успаміны пра Міхася Лынькова / [склад. С. Лынькова-Куспіц і Ю. Пшыркоў; аўтар камент. і рэд. Ю. Пшыркоў.] Мінск, 1979, дзе апублікавана пад назвай «Адна рыска з многіх».

Датуецца часам першай публікацыі.

### **[Прадмова да кнігі «Финал Краба» Мікалая Чаргінца]** *(стар. 381)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — у якасці прадмовы без назвы да кн.: Чергинец Н. Финал Краба. Минск, 1979.

Датуецца часам першай публікацыі.

Падчас публікацыі прадмовы да кнігі М. Чаргінца ў кн. «Праўдай адзінай» быў скарочаны апошні абзац з прадмовы: «В заключение хочется пожелать читателю истинного удовольствия от чтения этого полного напряжения, местами захватывающего и поучительного сюжета».

Варта адзначыць, што падчас падрыхтоўкі кн. «Праўдай адзінай» да друку аўтар так званай закрытай выдавецкай рэцэнзіі Д. Бугаёў, адзначаючы, што «прапанаваны выдавецтву „Мастацкая літаратура“ зборнік артыкулаў Васіля Быкава „Праўдай адзінай“ з'яўляецца яркім узорам так званай пісьменніцкай крытыкі», разам з тым заўважаў:

«...усе гэтыя матэрыялы, можа, за адзінкавымі выключэннямі тыпу нататкі пра Чаргінца, маюць вялікую каштоўнасць». Значна пазней і А. Лукашук прыводзіў словы самога Быкава адносна гэтай прадмовы:

«Мы загаварылі пра літаратуру, і я спытаўся пра жанр прадмовы і яго адметнасьці.

— Пісаў, а як жа, — усьміхнуўся Быкаў. — Вось некалі напісаў аднаму журналісту для кніжкі „Зьдзек“…

— Ну, а аднаму генэралу? Здаецца, міліцэйскі дэтэктыў — зусім ня ваш жанр…

— Шмат пісаў, прасілі, — лаканічна адказаў Васіль Уладзіміравіч.

Быкаў выказаўся аб прадмове як аб характарыстыцы: часьцей за ўсё фармальна, але часам патрэбная, каб дапамагчы аўтару».

## 1980

### [Интервью «Литературной газете»] *(стар. 383)*

Друкуецца са скарачэннямі паводле — Ришина И. Василь Быков: О самом главном // Лит. газета, 1980, 23 янв., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца часам першай публікацыі.

Інтэрв’ю, якое было надрукавана ў рубрыцы «Литературная мастерская», папярэднічае аповед пра жыццёвы і творчы шлях В. Быкава, а таксама пераказ і цытаванне адказаў пісьменніка на пытанні чытачоў падчас творчай сустрэчы ў Політэхнічным інстытуце ў Маскве ў 1979 г.

### Сілай любові і нянавісці *(стар. 386)*

Друкуецца паводле Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — «Лит. газета», 1980, 19 сак. Друкавалася таксама ў кн.: «Колокола Хатыни» і «Праўдай адзінай»; у Зб. тв.: у 4 т., т. 4.

Датуецца часам першай публікацыі.

Рэцэнзія на аповесць «Каратели» А. Адамовіча (Дружба народов, 1980, № 1).

Стар. 386. *Гэта і зразумела, бо фашызм — з’ява жывучая, шматаблічная, здольная, як паказала жыццё, з аднолькавай жорсткасцю паражаць народы ўсіх кантынентаў. Пераканаўчы таму прыклад — памятныя падзеі ў Чылі або нядаўняя трагедыя Кампучыі, якія, несумненна, яшчэ паслужаць зыходным матэрыялам для многіх твораў сусветнага мастацтва.* — Чылі — дзяржава на паўднёвым захадзе Паўднёвай Амерыкі; відаць, маецца на ўвазе ваенны пераварот у Чылі ў 1973 г., у выніку якога быў адхілены ад ўлады сацыялістычны ўрад на чале з прэзідэнтам Сальвадорам Альендэ (1908–1973) і ў краіне ўсталявалася

дыктатура Урадавай хунты на чале з генералам Аўгуста Пiначэтам (1915–2006). Кампучыя (Каралеўства Камбоджа) — дзяржава на паўднёвым усходзе Азii, на поўднi паўвострава Iндакiтай; мабыць, маецца на ўвазе звяржэнне ў 1979 г. вьетнамскiмi войскамi ўлады «чырвоных кхмераў» на чале з Пол Потам (сапр. Салот Сар; 1925–1998), падчас кiравання якога ажыццяўляўся генацыд народа Камбоджы (было знiшчана па розных ацэнках ад 1 да 3 млн жыхароў Дэмакратычнай Кампучыi — так у той час называлась дзяржава).

Стар. 389. *...вобраз Шыкльгрубера-Гiтлера...* — Шыкльгрубер — першапачатковае прозвiшча бацькi Адольфа Гiтлера Алоiса, якi да 1876 г. меў прозвiшча сваёй мацi Марыi Анны Шыкльгрубер; сам Адольф Гiтлер гэтае прозвiшча нiколi не насiў.

**Ад iмя пакалення** *(стар. 390)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзiнай». Упершыню — газ. «Советская культура», 1980, 21 сак. пад назвай «От имени моего поколения»; на бел. мове — газ. «Голас Радзiмы», 1980, 17 крас. Гутарку вяла Н. Кузняцова.

Датуецца часам першай публiкацыi.

Iнтэрв’ю папярэднiчае наступнае ўступнае слова: «Каб стаць пiсьменнiкам, чалавеку неабходны жыццёвы вопыт, пэўная культура i ўяўленне. Без кожнага з гэтых элементаў пiсьменнiцкая праца немагчыма. (З адказаў В. Быкава на пытаннi чытачоў аб працы пiсьменнiка.)

Але ж як пачынаецца пiсьменнiк? Канешне, кожны па-свойму, аднак мне заўсёды здавалася, што ён пачынаецца з дзяцiнства, таму што менавiта там, у дзяцiнстве, вытокi яго асобы. Вось чаму, рыхтуючыся да сустрэчы з Васiлём Уладзiмiравiчам Быкавым, збiраюся перш за ўсё запытаць яго аб той пары, калi наперадзе былi толькi ружовыя надзеi i мары, калi ў спевах птушак чуўся голас будучынi...

Мы сустракаемся ў яго доме на Танкавай вулiцы ў Мiнску. Але ўжо пасля першай часткi майго пытання характэрная складка на лбе майго субяседнiка прыкметна паглыбiлася. Выраз застылага напружання на твары прымусiў мяне спынiцца».

Стар. 390. *Пiсемскi* Аляксей (1821–1881) — рускi пiсьменнiк.

Стар. 391. *...Крамскiм...* — Крамской Iван (1837–1887) — рускi мастак.

Стар. 391. *...Каровiне...* — Мабыць, маецца на ўвазе Каровiн Канстанцiн (1861–1939) — рускi мастак.

Стар. 391. *...Клеверы...* — Клевер Юлій (1850–1924) — рускі мастак. Стар. 392. *Наш стралковы батальён вёў бой пад Вялікай Севярынаўкай.* — Насамрэч — сяло Вялікая Севярынка.

Стар. 393. *...Яўгена Носава, Юрыя Ганчарова...* — Носаў Яўгеній (1925–2002), Ганчароў Юрый (1923–2013) — расійскія пісьменнікі.

Стар. 395. *«Воўчая зграя»* — Аповесць Быкава (1974). Стар. 395. *...«Абеліску»...* — Аповесць Быкава (1971).

Стар. 395. *Памятаеце фільм «Беларускі вакзал»?* — Фільм расійскага рэжысёра Андрэя Смірнова (1970).

Стар. 395. *«Пайсці і не вярнуцца»* — Аповесць Быкава (1978). Стар. 397. *...Васіля Бялова...* — Бялоў Васілій (1932–2012) — расійскі пісьменнік.

### **[Інтэрв'ю газеце «Неделя»]** *(стар. 398)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай», дзе апублікавана пад назвай «Каб толькі чытаць». Упершыню — газ. «Неделя», 1980, № 20, дзе апублікавана пад назвай «Василь Быков» у рубрыцы «Гость 13-й страницы». Інтэрв'ю вёў М. Матукоўскі.

Датуецца часам першай публікацыі.

Стар. 399. *Аповесць «Жураўліны крык» пабачыла свет у 1959 годзе ў часопісе «Маладосць».* — «Жураўліны крык», які быў напісаны ў 1959 г., упершыню апублікаваны: Маладосць, 1960, № 2.

Стар. 399. *...аповесць Адамовіча «Карнікі», надрукаваная ў «Дружбе народов».* — У публікацыі артыкула ў газ. «Неделя» назва аповесці адсутнічае.

Стар. 399. *...ля вёскі Вялікая Севярынаўка.* — Насамрэч — сяло Вялікая Севярынка.

### **Векапомнае** *(стар. 402)*

Друкуецца паводле часоп. «Маладосць», 1980, № 5, дзе ўпершыню апублікаваны ў рубрыцы «35 год Перамогі».

Датуецца часам першай публікацыі.

### **Кузьма Чорны** *(стар. 403)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай». Упершыню — часоп. «Неман», 1980, № 6.

Датуецца часам першай публікацыі.

Эсэ напісана ў адказ на просьбу часоп. «Неман» у сувязі з

80-годдзем з дня нараджэння Кузьмы Чорнага і надрукавана разам з эсэ іншых беларускіх пісьменнікаў (А. Адамовіча, А. Асіпенкі, А. Васілевіч, А. Жука, І. Навуменкі, Я. Скрыгана, М. Стральцова, І. Шамякіна) пад агульнай назвай «Судьба народа, движение истории» і з наступным уступным словам: «В чем же — в главном — творческие уроки К. Чорного? Какое место занимает его наследие в современном литературном процессе? Об этом в канун юбилея писателя редакция „Немана“ попросила поделиться своими мыслями прозаиков разных поколений, разных художнических манер и устремлений».

Ніжэй падаюцца істотныя разыходжанні паміж абедзвюма публікацыямі:

Стар. 403. *Як і кожны сапраўдны мастак, ён не змяшчаецца...* — У першапублікацыі: «Как и всякий подлинно великий художник, он и в малой степени не вмещается».

Стар. 403. *Раманы К. Чорнага...* — У першапублікацыі: «Романы и повести Чорного».

Стар. 403. *У яго лепшых рэчах выяўляецца духоўная роднасць з ідэямі такіх гігантаў думкі...* — У першапублікацыі: «В его лучших вещах явственно обнаруживается духовное родство с идеями таких великанов духа».

Стар. 403. *Улюбёныя матывы журботнай іх музы...* — У першапублікацыі: «Излюбленные мотивы их скорбной и величественной музы».

Стар. 403. *Мастацкі геній К. Чорнага такі ж беларускі, як і агульнанацыянальны.* — У першапублікацыі: «Кузьма Чорный — гений в такой же мере белорусский, в какой и всенациональный».

Стар. 404. *У гэтым двуадзінстве — несакрушальная веліч гэтага цудоўнага мастака Белай Русі.* — Адсутнічае ў першапублікацыі.

## [Выступление на Всесоюзной творческой конференции писателей и критиков «Дружба народов — дружба литератур»]

*(стар. 404)*

Друкуецца паводле кн.: Содружество литературы и труда. Материалы всесоюзных творческих конференций писателей и критиков 1978–1980 гг. М., 1981, дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца не пазней за 27–31 кастрычніка 1980 г. — часа правядзення канферэнцыі ў г. Баку.

Тэкст выступлення В. Быкава на Усесаюзнай творчай канферэнцыі пісьменнікаў і крытыкаў «Дружба народов — дружба литератур. Слово писателя — активная сила в интернациональном

и патриотическом воспитании советского человека», якая праходзіла 27–31 кастрычніка 1980 г. у г. Баку.

Стар. 405. *...как великий Лев Николаевич...* — Л. Талстой, рускі пісьменнік.

Стар. 406. *...о которой было высказано немало точных и верных суждений в блестящем докладе Г. А. Алиева, в содокладе Ю. Суровцева и выступлении С. Баруздина.* — Аліеў Гейдар (1923–2003) — савецкі і азербайджанскі партыйны і дзяржаўны дзеяч; у 1969–1982 гг. 1-шы сакратар ЦК КП Азербайджанскай ССР; у 1993–2003 гг. прэзідэнт Азербайджана. Сураўцаў Юрый (1931–2001) — расійскі крытык, літаратуразнавец; сакратар праўлення СП СССР (1976–1992). Баруздзін Сяргей (1926–1991) — расійскі пісьменнік; галоўны рэдактар часоп. «Дружба народов» (з 1965); сакратар праўлення СП СССР (з 1967).

Стар. 406. *Маяковский* — Маякоўскі Уладзімір (1893–1930) — расійскі паэт; класік рускай літаратуры.

Стар. 407. *...100-летний юбилей серебряной звезды русской поэзии А. Блока...* — Блок Аляксандр (1880–1921) — рускі паэт; класік рускай літаратуры.

Стар. 407. *Что же касается Ахматовой, Цветаевой...* — Ахматава Анна (1889–1966), Цвятаева Марына (1892–1941) — расійскія паэткі; класікі рускай літаратуры.

### **Маладая няўрымслівасць таленту** *(стар. 407)*

Друкуецца паводле часоп. «Беларусь», 1980, № 11, дзе ўпершыню апублікаваны з падзагалоўкам «Андрэю Макаёнку — 60 гадоў».

Датуецца часам першай публікацыі.

Артыкул напісаны з нагоды 60-годдзя Андрэея Макаёнка.

### **Паэзія дабрыні і мужнасці** *(стар. 409)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — Дзень паэзіі-80. Мінск, 1980. Друкаваўся таксама: Быкаў В. Паэзія дабрыні і мужнасці // Панчанка П. Зб. тв.: у 4 т. Т. 1. Вершы, паэмы (1934–1945 гг.). Выбраныя пераклады Мінск, 1981; у кн. «Праўдай адзінай».

Датуецца часам першай публікацыі (у Зб. тв., 1994 памылкова ўказаны 1981 г.).

Падчас пазнейшых публікацый у тэкст былі ўнесены наступныя змяненні сэнсавага характару:

Стар. 409. *...нямала лепшых гадоў адабрала вайна...* — У першапублікацыі, а таксама ў прадмове да Зб. тв. П. Панчанкі далей ідзе: «прамая сутычка ўзаемавыключных сіл».

Стар. 411. *Толькі б захаваць...* — У прадмове да Зб. тв. П. Панчанкі цытуецца іншы верш:

«Бо без чалавечнасці
Не будзе и вечнасці».

Стар. 412. *Асцерагайцеся падробкі...* — Адсутнічае ў прадмове да Зб. тв. П. Панчанкі.

* * *

Стар. 412. *...ён захапляецца таленавітай паэзіяй Міколы Аўрамчыка, Янкі Сіпакова, Веры Вярбы.* — Аўрамчык Мікола (Мікалай; нар. у 1920), Сіпакоў Янка (Іван; 1936–2011), Вярба Вера (сапр. Сакалова Гертруда; 1942–2012) — беларускія паэты.

Стар. 412. *Будучы шмат гадоў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць»...* — Галоўным рэдактарам часоп. «Маладосць» П. Панчанка быў у 1958–1966 гг.

### **Яркае і самабытнае дараванне** *(стар. 413)*

Друкуецца паводле: Зб. тв.: у 6 т., т. 6. Упершыню — Быкаў В. Яркае і самабытнае дараванне // Караткевіч У. Выбр. тв.: у 2 т. Т. 1. Апавяданні, аповесці. Мінск, 1980. Друкавалася таксама ў кн. «Праўдай адзінай».

Датуецца часам першай публікацыі.

Падчас другой публікацыі, у кн. «Праўдай адзінай», у прадмову былі ўнесены нязначныя стылёвыя праўкі, а таксама праўкі сэнсавага характару, якія затым былі паўтораны ў Зб. тв., 1994 і якія падаюцца ніжэй:

Стар. 417. *Прырода гэтага краю, тамтэйшыя людзі і іх праца, убачаныя і адчутыя чалавекам Захаду, ператварыліся ў своеасаблівы гімн жыццю, адухоўлены паэзіяй адкрыцця і светлым сумам кахання.* — У першапублікацыі далей ідзе з новага абзаца: «Некалькі асобна ў творчасці Ул. Караткевіча стаіць ягоная аповесць „Лісце каштанаў“. Гэта адзін з самых аўтабіяграфічных твораў пісьменніка, напісаны на матэрыяле першых пасляваенных гадоў, праведзеных ім у Кіеве. Дакладна і лёгка выпісаныя вобразы юнакоў і дзяўчат вялікага горада з яго нялёгкім пасляваенным бытам грунтуюцца на пэўных прататыпах, і нават трагічны фінал

аповесці ўзяты з жыцця, пабудаваны на аснове канкрэтнага факта. У гэтай аповесці Караткевіча шмат горкіх і трудных рэалій, узаемаадносін і акалічнасцей, і хіба толькі ў першых праявах юнацкага кахання знаёма гучыць, хаця і не пазбаўлены драматызму, улюбёны рамантычны матыў».

Стар. 417. *Уладзімір Караткевіч нямала стварыў за чвэрць стагоддзя літаратурнай працы, за 50 год жыцця. Ёсць усе падставы меркаваць, што лепшыя з яго твораў…* — У першапублікацыі: «Нямала стварыў Уладзімір Караткевіч за чвэрць стагоддзя літаратурнай працы, і зараз ён знаходзіцца ў поўным росквіце творчых магчымасцей. Лепшыя з яго твораў…».

* * *

Стар. 415. *…Вальтэра Скота, Генрыха Сянкевіча.* — Скот Вальтэр (1771–1832) — англійскі пісьменнік, гісторык шатландскага паходжання, пачынальнік жанра гістарычнага рамана; класік англійскай літаратуры. Сянкевіч Генрых (1846–1916) — польскі пісьменнік; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1905); класік польскай літаратуры.

## **Ад паэзіі да прозы** *(стар. 418)*

Друкуецца паводле кн. «Праўдай адзінай», дзе апублікавана пад назвай «Вольга Іпатава». Упершыню — Быков В. От поэзии к прозе // Ипатова О. Ветер над кручей: рассказы и повесть / [пер. с бел.]. М., 1980.

Датуецца часам першай публікацыі.

Падчас другой публікацыі ў прадмову да кнігі Вольгі Іпатавай (нар. у 1945), беларускай пісьменніцы, былі ўнесены праўкі як стылёвыя, так і сэнсавага характару (у тым ліку ўзноўлена назва апавядання «Дваццаць хвілін з Немезідай», якое ў першапублікацыі адсутнічае). Ніжэй падаюцца істотныя разыходжанні паміж дзвюма публікацыямі:

Стар. 418. *Праца ў камсамоле, на тэлебачанні і ў рэдакцыі газеты, вучоба ў Маскве…* — У першапублікацыі: «Трудное послевоенное детство, жизнь в детском доме, где она воспитывалась, рано лишившись матери, работа в школе, городском комитете комсомола (г. Гродно), на телевидении и в редакции газеты, учеба в аспирантуре Литературного института в Москве».

Стар. 418. *…гераіні апавядання «Дваццаць хвілін з Немезідай», бадай, самага лепшага ў зборніку. […] Толькі страціўшы яго,*

*гераіня разумее ягоную вялікую вартасць, як і тое, што страчанае не паўтараецца.* — Адсутнічае ў першапублікацыі.

Стар. 419. *...хворага хлопчыка з бальніцы...* — У першапублікацыі: «больного мальчика (рассказ „Перекат“)».

Стар. 419. *...але і вымагае яго на штосьць большае — на вяртанне ў жыццё, чаго не маглі зрабіць ні дактары, ні лякарсты.* — У першапублікацыі: «но и заставляет поверить его в свои силы».

**[Предисловие к книге «Юные герои Витебщины»]** *(стар. 419)*

Друкуецца паводле кн.: Юные герои Витебщины. Мінск, 1980, дзе ўпершыню апублікавана ў якасці прадмовы без назвы.

Датуецца часам першай публікацыі.

***Сяргей Шапран***